АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа

# БЕЛАРУСКАЯ ГРАМАТЫКА

У ДЗВЮХ ЧАСТКАХ

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1986

АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа

# БЕЛАРУСКАЯ ГРАМАТЫКА

Частка 2

**СІНТАКСІС**

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1986

ББК 81.2Бел-2
Б43

Рэдактары:

Бірыла М. В., акадэмік АН БССР,
Шуба П. П., доктар філалагічных навук

Рэцэнзенты:

Наркевіч А. І., доктар філалагічных навук,
Яўневіч М. С., доктар філалагічных навук,
Лепешаў І. Я., доктар філалагічных навук

**Беларуская** граматыка: У 2-х ч. Ч. 2. Сінтаксіс/АН
Б43 БССР. Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; Рэд. М. В. Бірыла, П. П. Шуба.— Мн.: Навука і тэхніка, 1986.— 327 с.

Граматыка падрыхтавана з улікам моўнай практыкі двух апошніх дзесяцігоддзяў і вопыту раней выдадзеных граматык. У 2-й частцы яе пададзены ўсе асноўныя раздзелы сінтаксісу сучаснай беларускай мовы. Граматыка мае нарматыўную накіраванасць і можа быць выкарыстана як для сістэматычнага вывучэння асветленых у ёй пытанняў, так і ў якасці даведачнага дапаможніка па асобных канкрэтных пытаннях.

Разлічана на спецыялістаў-мовазнаўцаў, выкладчыкаў і студэнтаў ВНУ, настаўнікаў, работнікаў друку, радыё і тэлебачання.

Б 4602010000—114 / М316—86 108—85

ББК 81.2Бел-2

# ПРАДМОВА

Другая частка Беларускай граматыкі — Сінтаксіс, як і першая, падрыхтавана з улікам моўнай практыкі апошніх двух дзесяцігоддзяў і вынікаў папярэдніх работ па сінтаксісу. Яна змяшчае раздзелы «Словазлучэнне», «Сказ».

Улічваючы патрабаванні сучаснай моўнай практыкі, у раздзел «Словазлучэнне» ўключаны новы падраздзел «Сінанімія словазлучэнняў», а ў раздзел «Сказ» — падраздзел «Сінанімічныя сінтаксічныя канструкцыі». Асноўныя тыпы словазлучэнняў і сказаў падрабязна прааналізаваны на аснове новай методыкі апісання сінтаксічных з'яў.

Пры распрацоўцы сінтаксічнай праблематыкі асноўная ўвага ўдзялялася пытанням, якія мала ці зусім не асветлены ў папярэдніх работах па сінтаксісу, а таксама тым з'явам, якім уласціва варыянтнасць. У апісанні сістэмы словазлучэнняў аўтары звярталі асаблівую ўвагу на пытанні сінаніміі, парадак галоўнага і залежнага кампанентаў словазлучэнняў, тып сінтаксічнай сувязі і семантыка-сінтаксічныя значэнні словазлучэнняў у адносінах да літаратурнай нормы.

Аўтары раздзелаў: кандыдат філалагічных навук Л. А. Антанюк — Словазлучэнні з дзеясловам у ролі галоўнага кампанента, Словазлучэнні з прыметнікам у ролі галоўнага кампанента, Словазлучэнні з лічэбнікам у ролі галоўнага кампанента, Словазлучэнні з займеннікам у ролі галоўнага кампанента, Словазлучэнні з прыслоўем у ролі галоўнага кампанента, Сінанімія словазлучэнняў, Аднародныя члены сказа, Адасобленыя даданыя члены сказа, Экспрэсіўнае вылучэнне членаў сказа, Сінанімічныя сінтаксічныя канструкцыі; кандыдат філалагічных навук Т. П. Бандарэнка — Тыпы сказаў, Галоўныя члены сказа, Даданыя члены сказа, Паралельныя канструкцыі, Зваротак, Пабочныя канструкцыі (словы, спалучэнні слоў і сказы), Устаўныя канструкцыі, Аднасастаўныя сказы, Нерасчлянёныя сказы (словы-сказы), Няпоўныя сказы, Эліптычныя сказы, Парадак слоў у сказе, Складаназлучаныя сказы, Бяззлучнікавыя складаныя сказы; доктар філалагічных навук А. Я. Міхневіч — Агульная характарыстыка словазлучэнняў, Словазлучэнні з назоўнікам у ролі галоўнага кампанента; кандыдат філалагічных навук К. У. Скурат — Складаназалежныя сказы, Спосабы перадачы чужаслоўя.

# СЛОВАЗЛУЧЭННЕ

## АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА

§ 1. Словазлучэнне — гэта свабоднае сэнсавае і фармальнае аб'яднанне двух (або болей) паўназначных слоў, звязаных падпарадкавальнымі адносінамі. Адно са слоў з'яўляецца граматычна вядучым, гэта галоўны кампанент словазлучэння, другое — кампанент залежны.

У адпаведнасці з колькасцю знамянальных часцін мовы, здольных выконваць ролю галоўнага кампанента, у беларускай мове вылучаецца шэсць тыпаў словазлучэнняў: дзеяслоўныя, назоўнікавыя, прыметнікавыя, займеннікавыя, лічэбнікавыя і прыслоўныя. Кожны тып у сваю чаргу падзяляецца на некалькі разрадаў на падставе прыналежнасці залежнага кампанента да пэўнай часціны мовы.

Фармальна-граматычныя асаблівасці залежнага кампанента, а таксама асаблівасці сродкаў выражэння падпарадкавання дазваляюць у межах разрада вылучыць шэраг груп, кожная з якіх можа быць ахарактарызавана паводле:

а) фармальна-граматычнай будовы словазлучэння (склон, лік, род залежнага слова, наяўнасць таго ці іншага прыназоўніка і г. д.);

б) агульнага граматычнага значэння (словазлучэнні суб'ектныя, аб'ектныя, акалічнасныя, азначальныя, колькасныя, а таксама камбінаванага значэння);

в) тыпу сувязі паміж кампанентамі (дапасаванне, кіраванне, прымыканне);

г) парадку слоў (прэпазіцыя ці постпазіцыя залежнага кампанента) [1];

д) наяўнасці тыповай сінанімікі.

У залежнасці ад колькасці кампанентаў (паўназначных слоў) словазлучэнні падзяляюцца на простыя (двухслоўныя) і складаныя (больш двух паўназначных слоў).

Асобнае месца займаюць метамоўныя словазлучэнні, г. зн. канструкцыі, кампаненты якіх суадносяцца як моўныя і метамоўныя знакі (*словаформа «ідзеш», надпіс «Не курыць»*).

## І ТЫП. СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ДЗЕЯСЛОВАМ У РОЛІ ГАЛОЎНАГА КАМПАНЕНТА

§ 2. Словазлучэнні з дзеясловам у ролі галоўнага кампанента з'яўляюцца самым шматлікім, разнастайным і складаным тыпам словазлучэнняў у сучаснай беларускай мове. Гэта абумоўлена шырокай спалучальнасцю і разнастайнасцю семантыка-сінтаксічных значэнняў самога дзея-

[1] Пры характарыстыцы словазлучэнняў адзначаецца тыповы, стылістычна нейтральны («прамы») парадак слоў, які ў канкрэтных прыкладах можа відазмяняцца.

слова, які з'яўляецца граматычным і семантычным ядром сказа і ўступае ў падпарадкавальныя сувязі амаль з усімі дадзенымі членамі сказа. Выключэнне практычна складае толькі азначэнне.

## ПРОСТЫЯ СЛОВАЗЛУЧЭННІ

§ 3. Простыя дзеяслоўныя словазлучэнні падзяляюцца на 7 разрадаў.

### *Разрад 1. Словазлучэнні дзеясловаў з назоўнікамі*

§ 4. Першы разрад простых дзеяслоўных словазлучэнняў падзяляецца на 9 груп.

#### Група 1. Дзеяслоў+назоўнік у родным склоне

§ 5. Словазлучэнні гэтай групы перадаюць пераважна а б'е к т н ы я значэнні з рознымі адценнямі.

Словазлучэнні са значэннем жадання, дасягнення аб'екта: *Юрка падняў на Варыводу вочы і ч а к а ў а д к а з у* (Я. Колас); *Людзі сена сушаць, косяць ды п а г о д ы ў неба п р о с я ц ь* (К. Крапіва); *Неадкладна д а б і ц ц а ў к л ю ч э н н я Байсака ў партызанскае злучэнне і там дзейнічаць у залежнасці ад сітуацыі* (М. Лынькоў); *Ну, ж а д а ю ў д а ч ы* (В. Быкаў); *В о л і з а х а ц е л і? Якой волі?* (Я. Колас).

Словазлучэнні гэтай падгрупы абмежаваны як з боку галоўнага, так і з боку залежнага кампанента. Галоўным кампанентам тут выступаюць дзеясловы са значэннем жадання, імкнення, дасягнення, дачынення, якія абумоўліваюць семантыку залежнага кампанента — назоўніка з адцягненым значэннем.

У словазлучэннях з дзеясловамі *шукаць, чакаць, патрабаваць, вымагаць* залежныя назоўнікі могуць ужывацца ў формах роднага і вінавальнага склонаў. Назоўнікі з адцягненым значэннем звычайна выступаюць у форме роднага склону, а назоўнікі з канкрэтным значэннем — у форме вінавальнага, параўн.: *патрабаваць увагі — патрабаваць кнігу; чакаць надыходу — чакаць даведку* і г. д.

Часам дапускаецца ўжыванне пры дзеясловах *шукаць, чакаць* назоўнікаў з канкрэтным значэннем у форме роднага склону: *шукаць нажа, чакаць аўтобуса.* Ва ўжыванні форм роднага і вінавальнага склонаў пры гэтых дзеясловах набывае граматычную рэлевантнасць лексіка-граматычная катэгорыя пэўнасці — няпэўнасці. Назоўнікі са значэннем пэўнасці (пэўны нож, канкрэтны аўтобус) ужываюцца пры дзеясловах *шукаць, чакаць* і падобных пераважна ў форме вінавальнага склону: *шукаць (свой) нож, чакаць (35-ы) аўтобус,* назоўнікі са значэннем няпэўнасці — у форме роднага склону: *шукаць нажа* (якога-небудзь, любога), *чакаць аўтобуса* (без удакладнення).

Уласныя назвы асоб пры гэтых дзеясловах ужываюцца толькі ў форме вінавальнага склону *(чакаў Веру, шукаў Сашу).*

Наступную падгрупу складаюць словазлучэнні са значэннем унікнення, пазбаўлення аб'екта: *Сталася неяк так, што яна* [Аўгіня] *у х і л я л а с я г у т а р а к аб Мартыну Рылю; Дужа б а я л а с я яна* [Аўгіня] *В а с і л я, асабліва калі ўваходзіў ён у злосць* (Я. Колас); *Іван наогул с т а р а н і ў с я вясковых х л о п ц а ў, у вёску хадзіў калі ў святы на вечарынкі, а так жыў дзікавата...* (В. Быкаў); *Павел нясмела наблізіўся да хлопцаў, усё яшчэ б а ю ч ы с я к п і н а ў і насмешак* (І. Шамякін).

Колькасць дзеясловаў, якія ўваходзяць у такія словазлучэнні, абмежаваная: *баяцца, унікаць, цурацца, пазбаўляцца, пужацца, палохацца, асцерагацца, сцерагчыся, саромецца* і пад.

Словазлучэнні са значэннем частковага ўздзеяння на аб'ект: *Ён* [чмель] *сабраў для дзетак мёду залатога, хлеба маладога* (А. Куляшоў). Галоўным словам у гэтых словазлучэннях звычайна выступаюць дзеясловы закончанага трывання (асабліва часта з прыстаўкамі *на-, у-, вы-, з-, за-, пры-, па-, ад-, пад-, пера-* і інш.), а залежным — рэчыўныя, зборныя і некаторыя абстрактныя назоўнікі, якія паддаюцца частковаму ўздзеянню: *насыпаць мукі, прынесці вады, выпіць малака, нагрэбсці лісця, набыць ведаў* і інш.

У якасці галоўнага кампанента часам выступаюць і дзеясловы незакончанага трывання, якія выражаюць значэнне непаўнаты дзеяння: *наліваць малака, раздабываць насення, набіраць сілы* і пад.

Словазлучэнні са значэннем максімальнага ўздзеяння на аб'ект: *«Хоць сам для сябе начытайся разумных брашурак, і гэта, брат, добра»,— гаварыў ён* (Я. Брыль); *Каб жа ты не лёг задарам, прывялі ветэрынара і дазналі мы прычыну — пераеў ты канюшыны* (П. Броўка). Ролю галоўнага слова ў гэтых словазлучэннях выконваюць ускосна-пераходныя дзеясловы закончанага трывання з афіксам *-цца (-ся)* і прыстаўкамі *на-, аб-,* часам *пера-* (без афікса *-цца (-ся)*): *нанюхацца дыму, аб'есціся ягад, пераесці грыбоў.*

Словазлучэнні са значэннем часовага карыстання аб'ектам: *Зайшоў папрасіць вілак сена скідаць* (Сельская газета, 1982). Гэтыя словазлучэнні лексічна абмежаваны з боку галоўнага слова, у якасці якога выступаюць адзінкавыя дзеясловы: *узяць, папрасіць, пазычыць* і пад.

Асобную групу сярод словазлучэнняў «дзеяслоў + назоўнік у родным склоне», якія выражаюць аб'ектныя адносіны, складаюць шматлікія словазлучэнні з адмоўем *не.* Такія словазлучэнні маюць значэнне адмаўлення ўздзеяння на аб'ект або пэўнага працэсу ці стану: *Месцамі на сцежцы зямля патрэскалася — даўно не было дажджу* (І. Навуменка); *Ні старому, ні малому не спускае жартаў* (Я. Купала); *Лапко нічым не выказваў свайго хвалявання, можа толькі бровы яго трохі ніжэй спусціліся над вачыма* (Я. Колас); *Гэтай акалічнасці Васіль не ўлічыў, і праграма гутаркі, зложаная ў дарозе, такім чынам парушалася* (Я. Колас); *Вельмі ж не любяць гэтых сабачак нашы паляўнічыя* (В. Вольскі). Гэтыя канструкцыі суадносныя са словазлучэннямі без адмоўя *не,* у якіх залежнае слова выражаецца назоўнікам у вінавальным склоне, напрыклад: *прасіць аловак — не прасіць алоўка, сустрэць сястру — не сустрэць сястры, патрабаваць кнігу—не патрабаваць кнігі* і г. д. Параўн.: *Людзі елі траву, таўклі кару з дрэў, церлі мякіну; У іх на хутары таксама было не густа, але травы не елі...* (В. Быкаў).

Часам у словазлучэннях з адмоўем *не* ўжываецца назоўнік у вінавальным склоне. Гэта пераважна словазлучэнні, у якіх залежны назоўнік называе асобу або прадмет, для якога немагчыма пашырэнне дзеяння толькі на нейкую частку: *Але Фішар не вельмі спяшаўся, ён так паглыбіўся ў свой занятак, што не бачыў і старшыну, забыўся, відаць, куды і навошта ішоў, толькі нешта варушыў сабе вуснамі* (В. Быкаў); *Траншэю ён вырашыў не капаць* (В. Быкаў).

Галоўнае і залежнае словы словазлучэнняў «дзеяслоў + назоўнік у родным склоне» з аб'ектнымі адносінамі звязаны адносінамі моцнага кіравання. Парадак членаў у большасці выпадкаў — постпазіцыя залежнага члена. Аднак даволі часта сустракаюцца выпадкі яго прэпазіцыі, сустракаецца чаргаванне постпазіцыі і прэпазіцыі залежнага члена

ў сказах з аднароднымі членамі з мэтай большай выразнасці апісання: *Трэба было прыгатаваць корму свінням нанач, хлеб расчыніць на заўтра, прынесці вады, дроў накласці ў печ і згатаваць вячэру* (Я. Колас).

Словазлучэнні «дзеяслоў + назоўнік у родным склоне» з аб'ектнымі адносінамі могуць мець сінонімамі канструкцыі:

з назоўнікамі ў вінавальным склоне без прыназоўніка: *шукаць нажа — шукаць нож, чакаць аўтобуса — чакаць аўтобус*;

з назоўнікамі ў родным склоне з прыназоўнікам *да*: *дачакацца раніцы — дачакацца да раніцы*;

з назоўнікамі ў родным склоне з прыназоўнікам *ад*: *берагчыся прастуды — берагчыся ад прастуды*;

з назоўнікамі ў месным склоне з прыназоўнікам *аб*: *прасіць дапамогі— прасіць аб дапамозе*;

з назоўнікамі ў вінавальным склоне без прыназоўніка (з адмоўем *не*): *не заўважыць старшыні — не заўважыць старшыню, не капаць катлавана — не капаць катлаван.*

### Група 2. Дзеяслоў+назоўнік у давальным склоне

§ 6. Гэтыя словазлучэнні выражаюць аб'ектныя адносіны з некалькімі адценнямі, абумоўленымі семантыкай галоўнага і залежнага слоў: *З назвы, якую нашы продкі далі гэтаму краю, відаць, што асноўнае, найбольш характэрнае для яго — лес* (В. Вольскі); *Пан з Канева не даруе хараству тваёму, як не ўмее дараваці ён нідзе нікому* (Я. Купала); *Ставіў жа ён* [Васіль] *Аўгіню перад тым ці іншым канкрэтным выпадкам як перад фактам, які не падлягае ніякаму абмеркаванню* (Я. Колас).

У залежнасці ад непасрэднай або ўскоснай накіраванасці дзеяслоўнага дзеяння гэтыя словазлучэнні выражаюць:

уласна аб'ектнае значэнне: *Былі гэта ўсё лесавыя падарункі, якія заўсёды прыносіў Астап сваёй малой Надзейцы* (М. Лынькоў); *Пасля старанна прытрусіў хрусткім быльнягом бруствер, аддаў лапату Глечыку...* (В. Быкаў);

ускосна аб'ектнае значэнне: *І яму здавалася, што ён лашчыць усё тую ж малую сваю Надзейку, якая так радавалася калісьці кожнай шапцы суніц, берасцянаму кошыку, качаняці, жывой ваверцы...* (М. Лынькоў).

Параўнальна невялікая частка словазлучэнняў гэтай групы выражае дапаўняльныя адносіны: *Але аб замоўчванні тут гаварыць не прыходзіцца: па-першае, замазванне розных недахопаў супярэчыла прынцыпам самакрытыкі* (Я. Колас).

Ужыванне дзеяслова *прыпадабняцца* з назоўнікамі ў давальным склоне не з'яўляецца літаратурнай нормай. З двух варыянтаў *прыпадабняцца каму-, чаму-н.— прыпадабняцца да каго-, чаго-н.* літаратурнай норме адпавядае апошні.

Словазлучэнні тыпу *гнуцца долу, схіляцца долу, апускацца долу* з'яўляюцца ўстарэлымі. Ім адпавядаюць па значэнню канструкцыі з прыназоўнікамі *да, к,* якія адпавядаюць норме сучаснай беларускай мовы: *гнуцца да (к) долу, схіляцца да (к) долу, апускацца да (к) долу.*

Не ўласцівымі сучаснай беларускай мове з'яўляюцца і словазлучэнні тыпу *(час) ідзе каму-н. (хутка), (сэрца) б'ецца каму-н.*, якія часам ужываюцца замест нарматыўных *(час) ідзе ў (для) каго-н. (хутка), (сэрца) б'ецца ў каго-н.*

У адрозненне ад устойлівага словазлучэння *галава баліць каму-н.* са

значэннем 'хто-н. клапоціцца, непакоіцца аб чым-н.' свабоднае словазлучэнне *(галава) баліць каму-н.* не адпавядае норме сучаснай беларускай мовы. Замест яго ўжываецца словазлучэнне з прыназоўнікам *у*: *(галава) баліць у каго-н.*

Сувязь паміж кампанентамі словазлучэнняў «дзеяслоў + назоўнік у давальным склоне» ва ўсіх выпадках — кіраванне. Парадак слоў — постпазіцыя залежнага кампанента.

Словазлучэнні з уласна аб'ектнымі адносінамі могуць мець сінонімамі канструкцыі з прыназоўнікам *для*: *прынесці сыну — прынесці для сына; купіць дачцэ — купіць для дачкі.*

Словазлучэнні з ускосна аб'ектнымі адносінамі таксама могуць мець сінонімамі прыназоўнікавыя канструкцыі: *падыходзіць пакупніку — падыходзіць для пакупніка; паддавацца ўпрошванням — паддавацца на ўпрошванні; верыць абяцанням — верыць у абяцанні.*

### Група 3. Дзеяслоў+назоўнік у вінавальным склоне

§ 7. Большая частка гэтых словазлучэнняў выражае а б' е к т н ы я адносіны з адценнямі канкрэтна-фізічнага і адцягненага (не канкрэтна-фізічнага) уздзеяння на аб'ект: *Астап г л а д з і ў шурпатымі далонямі яе* [Надзейкі] *р у к і, плечы, прытуліў да грудзей яе галаву* (М. Лынькоў); *Да змяркання ён в ы к а п а ў глыбокі, у свой рост, а к о п ч ы к, п р ы л а д з і ў на дне п р ы с т у п а к* (В. Быкаў); *Букрэй катэгарычна а с у д ж а ў г р а б е ж н і ц т в а, дзе б яно ні было, і асабліва на вайне* (Я. Колас).

Словазлучэнні з уласна аб'ектнымі адносінамі заснаваны на сувязі моцнага кіравання паміж галоўным і залежным словамі. Фармальнай прыметай гэтых канструкцый з'яўляецца магчымасць іх трансфармацыі ў сінанімічныя пасіўныя, напрыклад: *шыюць сукенку — сукенка шыецца (кім-н.); пілуюць дрэва — дрэва пілуецца (кім-н.); ловяць рыбу — рыба ловіцца (кім-н.); абагульняюць факты — факты абагульняюцца (кім-н.); умацоўваюць сувязі — сувязі ўмацоўваюцца (кім-н.).*

У словазлучэннях з аб'ектна-прасторавым адценнем пасіўная трансфармацыя з'яўляецца патэнцыяльна магчымай, аднак пасіўныя канструкцыі гэтага тыпу ў сучаснай беларускай мове непрадуктыўныя: *пераскокваюць ручэй — ручэй пераскокваецца (кім-н.); пераступаюць парог — парог пераступаецца (кім-н.); пераплываюць рэчку — рэчка пераплываецца (кім-н.).*

Прамы парадак слоў у словазлучэннях з аб'ектнымі адносінамі — постпазіцыя залежнага кампанента.

Гэтыя словазлучэнні могуць мець сінонімамі словазлучэнні:

з назоўнікамі ў творным склоне з прыназоўнікам *за*: *назіраць хворага — назіраць за хворым;*

з назоўнікамі ў вінавальным склоне з прыназоўнікам *праз (цераз)*: *пераскочыць ручэй — пераскочыць праз (цераз) ручэй, перабегчы дарогу — перабегчы праз (цераз) дарогу;*

з назоўнікамі ў месным склоне з прыназоўнікам *у*: *збавіць вагу — збавіць у вазе;*

з назоўнікамі ў месным склоне з прыназоўнікам *аб*: *расказаць здарэнне — расказаць аб здарэнні, успомніць сястру — успомніць аб сястры;*

з назоўнікамі ў вінавальным склоне з прыназоўнікам *пра*: *расказаць здарэнне — расказаць пра здарэнне, успомніць сястру — успомніць пра сястру.*

У выніку частковага несупадзення катэгорыі адушаўлёнасці — не-

адушаўлёнасці з паняццямі жывога і нежывога наглядаецца варыятыўнасць ва ўжыванні некаторых словазлучэнняў з назоўнікамі ў вінавальным і родным склонах: *вывучаць мікробы — вывучаць мікробаў; іграць казачок — іграць казачка.*

У размоўным стылі, а пад яго ўплывам і ў творах мастацкай літаратуры сустракаюцца выпадкі ўжывання пры прама-пераходных дзеясловах адушаўлёных назоўнікаў множнага ліку ў форме вінавальнага склону, якая ўласціва неадушаўлёным назоўнікам: *пасці каровы, сцерагчы авечкі, даглядаць цяляты, пільнаваць коні* і пад.

Некаторая частка словазлучэнняў з назоўнікамі ў вінавальным склоне выражае колькасныя адносіны з двума асноўнымі адценнямі:

колькасна-часавым: *Ой, няшчасна Бандароўна, адпачні часіну* (Я. Купала); *За зламаную касу Яшка працаваў у іх лішні тыдзень...* (В. Быкаў);

колькасна-прасторавым: *Палавіну разоры ён прасунуўся* (Я. Колас); *Ганна прайшла ўсю вуліцу* (К. Чорны).

Для ўдакладнення і канкрэтызацыі часу, прасторы або колькасці пры назоўніках ужываюцца азначальныя або ўказальныя займеннікі, адносныя прыметнікі, парадкавыя лічэбнікі, якія даволі часта складаюць з назоўнікам структурна непадзельнае спалучэнне: *Стаялі яны тут ужо доўгі час* (Я. Колас); *Алеся і гэту зіму засталася дома* (Я. Колас); *Год назад у гэты ж час прыйшлі немцы* (І. Навуменка); *Нарэшце пісьмо прыйшло: як выявілася, нейкія сто кіламетраў яно ішло пяць дзён* (І. Шамякін).

Словазлучэнні з колькаснымі адносінамі заснаваны на сувязі прымыкання.

### Група 4. Дзеяслоў+назоўнік у творным склоне

§ 8. Словазлучэнні гэтай групы шырока прадстаўлены ў сучаснай мове і перадаюць разнастайныя семантыка-сінтаксічныя значэнні.

Значная частка гэтых словазлучэнняў выражае аб'ектнае значэнне са шматлікімі адценнямі, звязанымі з семантыкай галоўнага і залежнага слоў: *Станцыя напоўнілася людзьмі* (К. Чорны); *Сумны восеньскі адвячорак поўніўся шэрасцю фарбаў, надакучлівай сцюдзёнай золлю і ўсеабдымнай трывогай навіслай над краем бяды* (В. Быкаў); *Стракочуць арыфмометрамі, ляскаюць костачкамі лічыльнікаў, падрахоўваючы не толькі рублі, а і капейкі* (І. Навуменка); *І ад кожнага слова шчымела сэрца, вярэдзіла душу чорным сумам* (М. Лынькоў); *А кабан ад яго* [дзеда Талаша] *— крокаў сорак-пяцьдзесят і так захапіўся работаю, што нічога не бачыць і не чуе...* (Я. Колас).

Словазлучэнні з аб'ектнымі адносінамі заснаваны на сувязі кіравання. Прамы парадак слоў — постпазіцыя залежнага кампанента.

Частка словазлучэнняў гэтай групы сінанімічна канструкцыям:

з назоўнікамі ў вінавальным склоне з прыназоўнікам *на*: *дзівіцца красой — дзівіцца на красу, хварэць грыпам — хварэць на грып;*

з назоўнікамі ў вінавальным склоне з прыназоўнікам *за*: *радавацца працай — радавацца за працу; лічыць паказчыкам — лічыць за паказчык; выбраць кіраўніком — выбраць за кіраўніка;*

з назоўнікамі ў месным склоне з прыназоўнікам *па*: *вылучацца знешнасцю — вылучацца па знешнасці.*

Словазлучэнні, у якіх залежны назоўнік абазначае вытворцу дзеяння, дапускаюць трансфармацыю ў актыўныя канструкцыі: *(кніга) чытаецца моладдзю — (кнігу) чытае моладзь, (сонца) закрылася хмарамі —*

*(сонца) закрылі хмары.* Гэта ўласціва таксама і словазлучэнням, якія ўжываюцца ў складзе безасабовых сказаў: *(З ракі) павеяла ветрам — (З ракі) павеяў вецер.*

Акрамя аб'ектных адносін словазлучэнні «дзеяслоў + назоўнік у творным склоне» выражаюць:

азначальна-акалічнасныя адносіны: *І раптам, падкраўшыся зусім блізка, маланкаю кідаецца на вепра і хватае яго за чэрава знізу і з такою ж быстрынёю адскаквае ад яго* (Я. Колас); *Хвалі кругамі пайшлі па рацэ* (П. Глебка); *Дым ад папярос слупом стаяў над іх галовамі* (П. Броўка);

часавыя адносіны: *Так разважаў вечарамі Андрэй, пыхкаючы люлькай* (Я. Колас); *Не надта зімой карова ўзрадуецца* (І. Навуменка); *На пушчанскім аэрадроме начамі садзіліся чырвоназорныя самалёты* (Я. Брыль);

прасторавыя адносіны: *Ідзе ён ляснымі нетрамі, цёмнымі пушчамі, ідзе з акрэсленаю мэтаю* (Я. Колас); *Месцамі на сцежцы зямля патрэскалася — даўно не было дажджу* (І. Навуменка); *Яны ішлі куставою дарогаю* (К. Чорны).

Словазлучэнні з азначальна-акалічнаснымі, часавымі і прасторавымі адносінамі заснаваны на сувязі прымыкання. Парадак слоў у гэтых словазлучэннях не замацаваны, аднак пераважае постпазіцыя залежнага члена.

У якасці сінонімаў да названых словазлучэнняў могуць ужывацца канструкцыі:

з назоўнікамі ў творным склоне з прыназоўнікам з: *сустракаць песняй — сустракаць з песняй;*

з параўнальнымі зваротамі са злучнікам *як*: *журчаць ручайком — журчаць, як ручаёк;*

з часавымі прыслоўямі: *прыехаць летам — прыехаць улетку;*

з назоўнікамі ў месным склоне з прыназоўнікам *на*: *прачнуцца досвіткам — прачнуцца на досвітку;*

з назоўнікамі ў месным склоне з прыназоўнікам *па*: *чытаць вечарамі — чытаць па вечарах, ісці лесам — ісці па лесе;*

з назоўнікамі ў вінавальным склоне з прыназоўнікамі *праз, цераз*: *ісці лесам — ісці праз (цераз) лес.*

Словазлучэнні з дзеясловамі *зваць, звацца* і ўласнымі імёнамі могуць мець сінонімы з імёнамі ў форме назоўнага (замест творнага) склону: *зваць Марынай — зваць Марына.*

Такія сінонімы могуць утварацца і ў тых выпадках, калі залежны назоўнік з'яўляецца навуковым тэрмінам. Пры гэтым ён заключаецца ў двукоссе: *называецца прыстаўкай — называецца «прыстаўка».*

### Група 5. Дзеяслоў+прыназоўнік+назоўнік у родным склоне

§ 9. Прыназоўнікавыя словазлучэнні дзеясловаў з назоўнікамі, у тым ліку і з назоўнікамі ў родным склоне, значна больш шматлікія і больш разнастайныя па семантыка-сінтаксічных значэннях у параўнанні з беспрыназоўнікавымі канструкцыямі. Гэта ў значнай ступені абумоўлена тым, што яны ўключаюць у сябе шырокі круг разнастайных па значэнню прыназоўнікаў.

Словазлучэнні гэтай групы выражаюць розныя семантыка-сінтаксічныя значэнні.

Прасторавыя: *І бачыць дзед Талаш — вялізны дзікі кабан выходзіць з ляснога гушчару і брыдзе па чэрава ў снезе, не зва-*

*жаючы на дзеда* (Я. Колас); *Ён то* ***адставаў*** *на некаторы момант* ***ад калоны,*** *то заходзіў наперад ці збочваў, каб* ***адысціся ад шуму,*** *тупату ног, прыпыняўся і чуткім вухам лавіў галасы зімняй ночы і падазроны шолах лесу* (Я. Колас); *Міця* ***дайшоў да месца,*** *дзе з палявога* ***ўзмежка*** *трэба было* ***збочваць у кусты*** (І. Навуменка); *За гэтым заняткам і ўбачыў яго Карпенка, які, прыпыніўшы працу,* ***выйшаў з-за старожкі*** (В. Быкаў).

Словазлучэнні з гэтым значэннем вельмі шматлікія і шырокаўжывальныя ў сучаснай беларускай мове. У іх склад уваходзяць прыназоўнікі *з, ад, да, з-за, з-пад, вакол, паміж (між), каля (ля), сярод (пасярод), пасярэдзіне, збоку, узбоч, уздоўж (удоўж), усцяж, паверх, паблізу (поблізу), воддаль, абапал (паабапал, наабапал), вакол (навокал, навакола, наўкола), супраць, насустрач (насустрэчу), у напрамку, у кірунку, у бок.*

Значную частку гэтых словазлучэнняў складаюць такія, у якіх залежны назоўнік з прыназоўнікам абумоўлены марфалагічнай структурай дзеяслова — наяўнасцю ў яго складзе пэўных прыставак. Прыназоўнік у гэтых словазлучэннях дубліруе дзеяслоўную прыстаўку па гучанню і па значэнню або толькі па значэнню, напрыклад: *з'ехаць з узгорка, адысці ад рэчкі, даехаць да вёскі, выйсці з хаты* і пад. У гэтых словазлучэннях дзеясловы з пэўнымі прыстаўкамі заўсёды патрабуюць залежнай формы роднага склону з адпаведным прыназоўнікам:

*з- — з (з'ехаць з горкі, злезці з вышкі);*
*ад- — ад (адысці ад возера, ад'ехаць ад поля);*
*да- — да (даехаць да прыпынку, дайсці да лесу);*
*вы- — з (выйсці з хаты, выехаць з двара);*
*пад- — да (падысці да дома, падбегчы да прыпынку);*
*на- — да (наблізіцца да рэчкі);*
*вы- — з-за (выехаць з-за павароту);*
*а-, аб- — вакол (абысці вакол дома, аб'ехаць вакол поля).*

Аб'ектныя: *Пракоп зноў прачышчае нос, праводзіць рукою па вусах —* ***рыхтуецца да гутаркі*** *з Чыкілевічам* (Я. Колас); *Хто галубку убароніць,* ***ўсцеражэ ад згубы,*** *як няўбачна пападзецца ў каршуновы дзюбы* (Я. Купала); *Думай думкі, што чыніці ў бядзе паганай, калі панскія слугі* ***прывядуць да пана*** (Я. Купала).

Словазлучэнні з аб'ектнымі значэннямі значна менш ужывальныя ў параўнанні з прасторавымі. Да іх адносяцца ў асноўным такія, у якіх залежная форма роднага склону з прыназоўнікам абумоўлена не марфалагічнай структурай дзеяслова, звычайна беспрыставачнага, а яго семантыка-сінтаксічнымі ўласцівасцямі, хоць сустракаюцца і словазлучэнні з марфалагічна абумоўленай залежнай часткай: *рыхтавацца да свята, пазбаўляць ад небяспекі, прытуліць да грудзей, адмовіцца ад запрашэння, адрозніваецца ад сяброў* і пад.

Даволі значную частку гэтых словазлучэнняў складаюць канструкцыі, у якіх аб'ектнае значэнне ўскладнена дадатковымі адценнямі. Пры пераходных дзеясловах назоўнікі ў родным склоне заўсёды з'яўляюцца тут другой залежнай формай: *паліваць (градкі) з лейкі, паіць (каня) з вядра, абрываць (яблыкі) з дрэў, пачынаць (працу) з азнаямлення.*

Часавыя: ***Да змяркання*** *ён ужо* ***выкапаў*** *глыбокі, у свой рост, акопчык...* (В. Быкаў); ***З раніцы,*** *ускінуўшы на плечы граблі, Міця* ***пайшоў*** *да сена* (І. Навуменка); ***Ад самага ранку*** *з коміна* ***віўся*** *сіняваты дымок* (К. Крапіва); ***Сярод лета*** *лугі* ***парыжэлі,*** *пажоўклі кусты* (А. Куляшоў); *І вось ужо* ***каля месяца*** *яны* ***не гавораць,*** *не глядзяць адно аднаму ў вочы* (І. Шамякін).

Прычынныя: *А сэрца* ***з радасці заскача,*** *кроў адвагай забурліцца* (Я. Купала); *Ён моцна сціснуў яе рукі,* ***не могучы з-за***

*с л ё з  в ы м а в і ц ь слова, хутка павярнуўся і пайшоў* (І. Шамякін); *А д  с о р а м у  і злосці кроў  з а ш у м е л а  ў Сомікавай галаве* (К. Крапіва); *У далейшым Кіеўская Русь у  с і л у  пэўных  п р ы ч ы н  р а с п а л а с я  на паасобныя часткі* (К. Крапіва).

А з н а ч а л ь н а-а к а л і ч н а с н ы я: *Д а  б о л ю  н а п я ў ш ы  і позірк і слых, ён чуе хаду тваю, вецер* (П. Глебка); *К р ы ч а л і  абое  д а  х р ы п а т ы,  да знямогі* (К. Крапіва); *Хто позна ўвечары ля млына табе  п а к л я ў с я  а д  д у ш ы  і ўчора ў чорныя хвіліны табою цешыўся і жыў* (П. Трус); *Б е з  ч а с у  ліст на дрэвах  ж о ў к* (Я. Колас).

А з н а ч а л ь н а-к о л ь к а с н ы я: *У снежні яшчэ лік заяў у калгасе д а й ш о ў  д а  п я т н а ц ц а ц і* (Я. Брыль); *Так з марай юнака, без музыкі, без жонкі  д а ж ы ў  д а  с а р а к а  і сеў на трактар гонкі* (А. Куляшоў); *Усяго  вучняў  н а л і ч в а л а с я  к а л я  п я ц і д з е с я ц і* (Я. Колас).

М э т а в ы я: *Н е  д л я  мірнай прыемнай  р а з м о в ы  адны  тут  с а б р а л і с я  блізкія людзі* (А. Куляшоў); *Я  п р а д а ў  сваю кніжачку сам  д з е л я  р а т у н к у  Эльзы* (Э. Самуйлёнак).

А б м е ж а в а л ь н ы я: *Ён не толькі  ў з м у ж н е ў  з  в ы г л я д у, стаў больш разважлівы і спакойны, ён пасмялеў* (І. Шахавец).

Словазлучэнні з прасторавымі і аб'ектнымі адносінамі заснаваны на сувязі кіравання, словазлучэнні з часавымі, прычыннымі, мэтавымі, азначальна-акалічнаснымі, азначальна-колькаснымі і абмежавальнымі значэннямі заснаваны на сінтаксічнай сувязі іменнага прымыкання. Прамы парадак слоў — постпазіцыя залежнага члена, хоць выпадкі прэпазіцыі залежнага кампанента даволі частыя: *Фішар — падслепаваты кніжнік, з  в і н т о ў к і  с т р э л ь н у ц ь  не ўмее, заплюшчвае вочы, калі націскае на спуск — вось і ваюй з такімі* (В. Быкаў).

Канструкцыі «дзеяслоў + прыназоўнік + назоўнік у родным склоне» маюць рад сінонімаў. Так, словазлучэнні з прасторавымі і аб'ектнымі значэннямі з прыназоўнікам *да* сінанімічны канструкцыям з прыназоўнікам *к*: *накіравацца да рэчкі—накіравацца к рэчцы; прыехаць да брата—прыехаць к брату; прыгнуць да зямлі—прыгнуць к зямлі; рыхтавацца да свята—рыхтавацца к святу.*

Словазлучэнні з часавымі, прычыннымі і аб'ектнымі значэннямі з прыназоўнікам *з* могуць мець сінонімы з прыназоўнікам *ад*: *працаваць з поўдня — працаваць ад поўдня; рыхтавацца з вясны — рыхтавацца ад вясны; пасінець з холаду — пасінець ад холаду; пасівець з гора — пасівець ад гора; пачаць з навічкоў — пачаць ад навічкоў.*

Словазлучэнні тыпу *здзекавацца з каго-н., смяяцца з каго-н.* маюць сінонімамі канструкцыі з назоўнікамі ў творным склоне з прыназоўнікам *над*: *смяяцца з сябра—смяяцца над сябрам.*

Словазлучэнні тыпу *глядзець з акна, даведацца з кніг* сінанімічны словазлучэнням з назоўнікамі ў вінавальным склоне з прыназоўнікам *праз*: *глядзець з акна — глядзець праз акно; даведацца з кніг — даведацца праз кнігі.*

Словазлучэнні з часавымі значэннямі з прыназоўнікам *з (са)* могуць мець сінонімамі канструкцыі з назоўнікамі ў родным склоне з прыназоўнікам *пасля*: *вярнуцца са службы — вярнуцца пасля службы.*

Словазлучэнні з прычыннымі значэннямі з прыназоўнікам *з-за* сінанімічны словазлучэнням з назоўнікамі ў вінавальным склоне з прыназоўнікамі *праз, цераз*: *спазніцца з-за дажджу — спазніцца праз (цераз) дождж.*

Канструкцыі з аб'ектнымі значэннямі з прыназоўнікам *для* могуць мець сінонімамі: 1) словазлучэнні з давальным беспрыназоўнікавым: *закупіць для калгаса — закупіць калгасу, (час) праляцеў для Пятра —*

(*час*) *праляцей Пятру;* 2) словазлучэнні з назоўнікамі ў вінавальным склоне з прыназоўнікам *на*: *выкапай для бульбы — выкапай на бульбу, змайстравай для яблык — змайстравай на яблыкі.*

У словазлучэннях з акалічнаснымі значэннямі залежная частка (назоўнік у родным склоне з прыназоўнікам *без*) сінанімічна адпаведным прыслоўям: *жыць без клапот — жыць бесклапотна; слухаць без увагі — слухаць безуважна; любіць без меры — любіць бязмерна; пасівець без часу — пасівець бясчасна.*

У якасці сінонімаў да словазлучэнняў са значэннямі мэты з прыназоўнікамі *для, дзеля* могуць выступаць складаназалежныя сказы з данымі мэты: *стай для нагляду — стай, каб наглядаць; застайся дзеля справы — застайся, каб дапамагчы справе; разгарнуліся для бою — разгарнуліся, каб ісці ў бой.*

Словазлучэнні з вытворнымі прыназоўнікамі таксама маюць шырокую сінаніміку, напрыклад: *цікавіцца наконт поля — цікавіцца полем; даведацца наконт кніжкі — даведацца аб кніжцы, даведацца пра кніжку; турбавацца ў адносінах працы — турбавацца аб працы; бегчы ў кірунку рэчкі — бегчы да рэчкі; адкрыць пры дапамозе нажа — адкрыць нажом; апрацаваць шляхам ціску — апрацаваць ціскам; затрымацца па прычыне хваробы — затрымацца з-за хваробы; наведаць з мэтай азнаямлення — наведаць для азнаямлення.*

### Група 6. Дзеяслоў+прыназоўнік+назоўнік у давальным склоне

§ 10. У параўнанні са словазлучэннямі з родным прыназоўнікавым словазлучэнні з давальным прыназоўнікавым значна менш пашыраны ў беларускай мове. Яны абмежаваны па складу прыназоўнікаў, па семантыка-сінтаксічных значэннях і па прадуктыўнасці ў сучаснай мове.

Асноўная частка словазлучэнняў гэтай групы выражае прасторавыя і аб'ектныя значэнні, другая невялікая частка — часавыя, азначальна-акалічнасныя, размеркавальна-колькасныя, абмежавальныя і прычынна-выніковыя.

Прасторавыя: *Ізімя імчуся ў сіні прастор, к сваёй Беларусі, да сініх азёр* (К. Буйло); *І досвіткам раннім на бераг ідзе, і ціха спускаецца к цёмнай вадзе* (П. Глебка); *Жыве ён дзесь па суседству з прачкай Грындай* (Я. Колас); *Я не магу звягаць на кожнага па падваконню* (К. Чорны).

Аб'ектныя: *Прыцягнулі Бандаройну к пану ў святліцу, як праступніцу якую, ці як чараўніцу* (Я. Купала); *Ён яшчэ пайглядайся ўдалечынь, зачараваны бляскам захаду, а пасля, устрапянуўшыся ад задумы, павярнуўся к Карпенку* (В. Быкаў); *Кукавала зязюля ў садочку, прылажыўшы галоўку к лісточку* (П. Трус); *Па гуку, па тону можна было зразумець, што прычына — не гром, не бліскавіца з яе нечаканым агнём* (А. Куляшоў); *І ён і цётка Магдалена пайшлі панам наперакор* (Я. Колас).

Часавыя: *Шчыра апрацаваныя палі рыхтавалі к лету ўраджай і радавалі людское вока* (К. Чорны).

Азначальна-акалічнасныя: *Звяраем нумар па квіту і вось яна — наша сасна* (Я. Брыль); *Гэты надзел дастаўся яму па жэрабʼю* (Я. Колас).

Размеркавальна-колькасныя: *Кожны начлежнік вёз з дому па палену дроў* (Я. Колас); *Кожны вечар на ўзгорку за вёскай прыбывае па добраму дзесятку бярвенняў* (Я. Брыль).

Абмежавальныя: *Аказалася, што да гэтага яна працавала ка-*

*сіркаю, па бухгалтэрыі ведала мала* (Я. Скрыган).

Прычынна-вынiковыя: *У калгас ён прыехаў па рашэнню райкома камсамола* (З газет).

Словазлучэнні з аб'ектнымі і прасторавымі значэннямі з прыназоўнікам *к* заснаваны на сувязі кіравання, астатнія — на сувязі прымыкання. Прамы парадак слоў — постпазіцыя залежнага члена.

Словазлучэнні з прыназоўнікам *к* з аб'ектнымі і прасторавымі значэннямі сінанімічны словазлучэнням з назоўнікамі ў родным склоне з прыназоўнікам *да*. Пры гэтым сінанімічныя канструкцыі з аб'ектнымі адносінамі цалкам супадаюць па значэнню: *рыхтавацца к святу — рыхтавацца да свята; звярнуцца к брату — звярнуцца да брата*, а канструкцыі з прасторавымі значэннямі маюць спецыфічныя адценні і не заўсёды могуць быць узаемазамяняльнымі. Так, словазлучэнні *ісці к дому, паўзці к акопу, плысці к берагу, павярнуць к лесу* выражаюць прасторавае значэнне з адценнем кірунку руху: *Сцелецца к сонцу дарога* (Я. Купала); *Дымок цягнуўся к соснам любым і плыў да хмарак* (А. Куляшоў). Яны адрозніваюцца па семантыка-сінтаксічнаму значэнню ад суадносных словазлучэнняў з прыназоўнікам *да*, якія выражаюць прасторавыя адносіны з адценнем аб'екта руху і не могуць быць заменены апошнімі (*сцелецца да сонца* (*дарога*), (*дымок*) *цягнуўся да сосен любых* і пад.). Аднак у прасторавых словазлучэннях з прыназоўнікам *к*, дзе адценне кірунку руху адсутнічае або аслаблена, такая замена можа быць: *паехаць к брату — паехаць да брата; падысці к ганку — падысці да ганку; пад'ехаць к дому — пад'ехаць да дому*.

Часавыя словазлучэнні з прыназоўнікам *к* не сінанімічны словазлучэнням з прыназоўнікам *да*: *атрымаць к ад'езду* і *атрымаць да ад'езду; скончыць к тэрміну* і *скончыць да тэрміну; прыйсці к абеду* і *прыйсці да абеду*.

Словазлучэнні з прыназоўнікам *к* з мэтавым значэннем тыпу *падараваць к шчасцю* і са значэннем адпаведнасці — неадпаведнасці тыпу *к шчасцю* (*к няшчасцю*) *прыехаў* (*хто-н.*) не характэрны для сучаснай беларускай мовы. Замест іх шырока ўжываюцца словазлучэнні *падараваць на шчасце, на шчасце* (*на няшчасце*) *прыехаў* (*хто-н.*). Пад уплывам рускай мовы і некаторых мясцовых гаворак атрымалі шырокую ўжывальнасць словазлучэнні са значэннем адпаведнасці — неадпаведнасці з нязменным залежным кампанентам тыпу *смяяцца* (*весяліцца, радавацца* і пад.) *не к дабру*, сінанімічныя словазлучэнням *смяяцца* (*весяліцца, радавацца* і пад.) *не на дабро*.

Цалкам адпавядаюць норме сучаснай беларускай мовы аб'ектныя словазлучэнні з прыназоўнікам *па: праверыць па журналу, прагледзець па рукапісу* і пад. Ужыванне ў гэтых словазлучэннях залежных назоўнікаў у форме меснага склону (*праверыць па журнале, прагледзець па рукапісе*) не апраўдана. Назоўнікі ў форме меснага склону ўжываюцца ў словазлучэннях з прасторавым значэннем: *плысці па небе, ехаць па полі, разбрысціся па лесе, бегчы па вёсцы, глядзець па баках* і пад. У гэтых словазлучэннях ненарматыўным з'яўляецца ўжыванне залежных назоўнікаў у форме давальнага склону (*плысці па небу, ехаць па полю, разбрысціся па лесу* і пад.).

Пад уплывам рускай мовы і некаторых мясцовых гаворак стала шырока ўжывальным прасторавае словазлучэнне з залежным назоўнікам у давальным склоне *жыць па суседству*, якое мае шэраг сінонімаў: *жыць у суседстве, жыць па суседстве, жыць суседзямі, жыць па-суседску*.

Словазлучэнні назоўнікаў у давальным склоне з прыназоўнікамі *адпаведна, згодна* не ўласцівы беларускай літаратурнай мове. Замест іх звычайна ўжываюцца канструкцыі з давальным, месным або родным

склонамі назоўніка і прыназоўнікамі *па, паводле (дзейнічаць па закону, з'явіцца па загаду, атрымліваць па заслугах, паступаць паводле правіла)* або з творным склонам назоўніка і складанымі прыназоўнікамі *ў адпаведнасці з, адпаведна з, згодна з (дзейнічаць у адпаведнасці з законам, паступаць адпаведна з інструкцыяй, з'явіцца згодна з паведамленнем).*

Словазлучэнні з прыназоўнікам *падобна* сінанімічны параўнальным зваротам са злучнікам *як: возера блішчыць падобна люстэрку — возера блішчыць, як люстэрка.*

## Група 7. Дзеяслоў+прыназоўнік+назоўнік у вінавальным склоне

§ 11. Словазлучэнні гэтай групы вельмі прадуктыўныя і шырока ўжывальныя ў сучаснай беларускай мове. Яны выражаюць шырокі круг семантыка-сінтаксічных значэнняў.

Прасторавыя: *Дзверы зараз жа адчыніліся, і Лабко ўвайшоў у кухню* (Я. Колас); *Мы б маглі заўтра паехаць у Ждановічы* (Я. Скрыган); *Адзін выходжу на дарогу* (П. Глебка); *Выплыўшы за паселішча, Палазок накіраваў човен на той бераг* (Я. Колас); *І насупор дажджу і ветру вялі прасторныя шляхі цераз балоты, цераз нетры, цераз пяскі пустынь сухіх* (П. Глебка); *Машына праскоквае праз невялікі гаёк і спыняецца* (Я. Скрыган); *Яны пайшлі паўз мяжу* (К. Чорны); *Мы ездзілі пад Мінск у іх калгас* (Я. Брыль); *Вось з якімі думкамі ішоў дзед Талаш праз лясныя нетры і пушчы* (Я. Колас).

Аб'ектныя: *Постаці калгаснікаў, іх справа...— усё гэта злівалася ў адзіны суцэльны вузел уражанняў...* (Я. Колас); *У адзін з тых дзён Міця наткнуўся на падворную кнігу спаленых Вербічаў* (І. Навуменка); *Пра гэта думаў я, калі збіраўся ў сваё першае працяглае падарожжа па Палессі* (В. Вольскі); *Юзік ускіпеў на бацькавы словы* (К. Крапіва); *Разоў некалькі зачапіў ён восcю аб хвою і скінуў атосу* (Я. Колас); *Скрозь дрымоту мы пачулі спачатку нечыя спуджаныя галасы* (М. Лынькоў); *Кірылаў хутар стаяў на невялікім грудку, расцярэбленым пад сядзібу ды поле* (Я. Скрыган).

Часавыя: *У пойдзень рабілі перапынак* (Я. Маўр); *Мікалай хату будзе некалі на вясну ставіць* (К. Чорны); *Горыч сціснула грудзі, у горле засела камком, наваколле на момант заслала ў вачах туманом* (А. Куляшоў); *Над нівай вясёлыя птушкі па-іншаму песні запелі. Чырыкаюць дружна, з заўзяццем па самы кастрычнік ад мая* (Я. Купала); *Зжалі дванаццаць гектараў за тыдзень* (К. Крапіва); *Ажно цераз год, як квітнелі сады, Алеся прыйшла на магілу* (П. Глебка); *Пад самую восень забалела ў Цімошкі нага* (Я. Колас).

Азначальна-акалічнасныя: *Аброс па пояс барадою* (П. Трус); *Малы цераз брыво глянуў угору на старшага і ўсміхнуўся* (К. Крапіва); *Пад смех усяго класа Данік садзіцца і пачынае маляваць* (Я. Брыль).

Азначальна-колькасныя: *Выжыналі па дзве і па тры нормы* (К. Крапіва); *Так дружба іх цягнулася можа з год* (Я. Скрыган).

Колькасныя: *Гэта ў дзесяць разоў павялічвала яго*

*трывогу і нецярплівасць* (К. Крапіва); *Нарэшце сонца ўжо з а й ш л о н а ч в э р ц ь* (П. Глебка).

М э т а в ы я: *Хацелася нешта с к а з а ц ь у а п р а ў д а н н е, але не было калі думаць* (А. Васілевіч); *П р ы е х а ў Казімір на завод ад глаўка н а р э в і з і ю* (Я. Скрыган); *Я з горада е д у дамоў н а с п а ч ы н* (П. Глебка); *Косцік і ўчора і пазаўчора х а д з і ў у лес п а чужыя д р о в ы* (Я. Брыль).

П р ы ч ы н н ы я: *А вось на другую зіму ён п р а з с м е л а с ц ь сваю і з а г і н у ў* (Я. Брыль); *Красуцкі яшчэ зусім малады, гадоў недзе за трыццаць, але в ы г л я д а е куды старэй п р а з свае в у с ы* (Я. Скрыган).

Словазлучэнні гэтай групы з аб'ектнымі і прасторавымі значэннямі заснаваны на сувязі кіравання. Значную частку гэтых словазлучэнняў складаюць такія, у якіх залежныя назоўнікі ў вінавальным склоне з прыназоўнікамі *у, на, за, праз, цераз* абумоўлены марфалагічнай структурай і семантыка-сінтаксічнымі ўласцівасцямі дзеясловаў: *урывацца ў пакой, уваходзіць у запаведнік, утыкаць у снег, умешвацца ў спрэчку, уразацца ў зямлю, укладваць у слова, услухоўвацца ў гукі, уваходзіць у справы, углядацца ў краявід; націскаць на спуск, навязваць на чалавека, наважыцца на ўчынак, наводзіць на думку, накінуць на плечы, накіроўваць на пункт; засунуць за пазуху, заступіцца за сябра; узабрацца на гару, узлезці на дрэва, ускочыць на каня, узляцець на вышыню; зарыцца ў зямлю, закутацца ў футра, загарнуць у паперу; перайсці цераз рачулку, пераехаць праз балота, пераскочыць цераз канаву; расказаць пра ўчынак, гаварыць пра падзеі, думаць пра здарэнне.* Гэтыя словазлучэнні заснаваны на сувязі моцнага кіравання.

У аб'ектных словазлучэннях, заснаваных на сувязі слабага кіравання, залежны назоўнік у вінавальным склоне з'яўляецца звычайна другой залежнай формай (за выключэннем словазлучэнняў са зваротнымі дзеясловамі), а аб'ектнае значэнне ўскладняецца лакальнымі або прычыннымі адценнямі, напрыклад: *штурхаць (сябра) у плячо, раніць (салдата) у нагу, глядзець (бацьку) у вочы, дабаўляць (ваду) у паілку, спатыкнуцца аб парог, выціраць (яблык) аб фартух, стукнуцца (рукой) аб вушак, абняць (маці) за шыю, трымацца за поручні, кінуцца на крык, азірнуцца на вокліч, расплаціцца (з ворагам) за бясчынства, крытыкаваць (таварыша) за недахопы, паважаць (сябра) за справядлівасць.*

Назоўнікі вінавальнага склону з прыназоўнікамі не з'яўляюцца тут рэгулярнымі залежнымі формамі.

Такія словазлучэнні з вінавальным прыназоўнікавым шырока ўжываюцца ў сучаснай беларускай мове: *Сабірае у галоўцы думанькі дзявочы, г л я д з і ц ь смела, ані моргне, ворагу у в о ч ы* (Я. Купала); *З дзікім смехам у ч а п і л і с ь з а к о с ы і рукі, пацягнулі нешчаслівy на вялікі мукі* (Я. Купала); *Тады рыжавусы падышоў да Панасавага берлажка і ш т у р х а н у ў яго кулаком у п л я ч у к* (Я. Колас); *Пшанічны захінуў ім* [быльнягом] *свае ногі ў стаптаных брудных чаравіках, в ы ц е р а б п а л у запэцканыя рукі і развязаў рэчавы мяшок* (В. Быкаў).

Прамы парадак слоў у гэтых словазлучэннях — постпазіцыя залежнага члена.

Словазлучэнні з часавымі, прычыннымі, мэтавымі, азначальна-акалічнаснымі, азначальна-колькаснымі, колькаснымі і іншымі значэннямі заснаваны на сувязі прымыкання, напрыклад: *вяртацца пад вечар, затрымаць на суткі, крычаць праз шум.* У такіх канструкцыях назоўнікі набліжаюцца па сваёй семантыка-сінтаксічнай функцыі да прыслоўяў: *Толькі п а д в е ч а р в я р н у л і с я мы ў горад* (В. Вольскі); *П р а з*

*гадзіну цягнік* *с п ы н і ў с я* *на станцыі Гарынь* (В. Вольскі); — *Дарогу трэба* *п е р а к р ы ц ь* *н а* *с у т к і,— сіпатым, прастуджаным голасам казаў капітан, высокі кастлявы чалавек з зашчаціненым змораным тварам* (В. Быкаў); ...*Выскачыў з акопа Аўсеей і, прыслухаўшыся,* *ц е р а з* *б у л ь б я н і ш ч а* *н а к і р а в а ў с я* *да Пшанічнага* (В. Быкаў); *Вось з якімі думкамі* *і ш о ў* *дзед Талаш* *п р а з* *лясныя* *н е т р ы* *і пушчы* (Я. Колас).

Залежныя назоўнікі ў гэтых словазлучэннях аднолькава часта стаяць як пасля дзеясловаў, так і перад імі, хоць прамым парадкам слоў з'яўляецца постпазіцыя залежнага члена.

Словазлучэнні з вінавальным прыназоўнікавым могуць мець сінонімамі шматлікія словазлучэнні:

з назоўнікамі ў месным склоне: *пачаць у палову — пачаць а палове;*

з прыслоўямі: *прыехаць у поўнач — прыехаць апоўначы, настроіць на крытычны лад — настроіць крытычна;*

з прыметнікамі: *працаваць у маладосці — працаваць маладым;*

з назоўнікамі ў вінавальным склоне, але з іншымі прыназоўнікамі: *пайсці ў грыбы — пайсці па грыбы, вучыцца на будаўніка — вучыцца за будаўніка, заняць пад павець — заняць на павець, забыць пра сябра — забыць на сябра;*

з назоўнікамі ў творным склоне: *любавацца на сына — любавацца сынам, хварэць на грып — хварэць грыпам, выбраць за сакратара — выбраць сакратаром, лічыць за гаспадара — лічыць гаспадаром, узяць за жонку — узяць жонкай, перадаць праз (цераз) пасыльнага — перадаць пасыльным, пускаць (дым) праз (цераз) нос — пускаць (дым) носам, паіць праз (цераз) соску — паіць соскай, збірацца ў кучы — збірацца кучамі;*

з назоўнікамі ў родным склоне з прыназоўнікам *для: прыстасаваць на бульбу — прыстасаваць для бульбы, ехаць на адпачынак — ехаць для адпачынку, падараваць на знаёмства — падараваць для знаёмства, змалоць на хлеб — змалоць для хлеба;*

з назоўнікамі ў родным склоне з прыназоўнікам *да: хадзіць па самы вечар — хадзіць да самага вечара, залезці (у ваду) па пояс — залезці (у ваду) да пояса;*

з назоўнікамі ў вінавальным склоне без прыназоўнікаў: *забываць пра (на) сябра — забываць сябра, расказаць пра бяду — расказаць бяду;*

з назоўнікамі ў месным склоне з прыназоўнікам *аб: расказаць пра бяду — расказаць аб бядзе, непакоіцца за ўрок — непакоіцца аб уроку;*

з назоўнікамі ў родным склоне з прыназоўнікам *з-за: не чуць праз (цераз) шум — не чуць з-за шуму, хвалявацца за ўрок — хвалявацца з-за ўрока;*

з назоўнікамі ў творным склоне з прыназоўнікам *за: не разгледзець праз (цераз) дрэвы — не разгледзець за дрэвамі;*

з назоўнікамі ў родным склоне з прыназоўнікам *замест: быць (працаваць) за бацьку — быць (працаваць) замест бацькі;*

з назоўнікамі ў давальным склоне без прыназоўніка: *верыць у абяцанні — верыць абяцанням;*

з інфінітывам: *пайшоў на службу — пайшоў служыць.*

Словазлучэнні тыпу *паехаць да Мінску*, сінанімічныя словазлучэнням з прыназоўнікам *у (паехаць у Мінск)*, не адпавядаюць літаратурнай норме. Гэта адносіцца і да словазлучэнняў з прыназоўнікам *у* і назоўнікам у родным склоне тыпу *гуляць у мяча*, якія часам ужываюцца замест словазлучэння *гуляць у мяч*. Не адпавядаюць норме сучаснай

беларускай мовы і словазлучэнні тыпу *прыехаць к радасці* (каго-н.), *пайсці за ягадамі, ісці пад калодзеж*, якія ўжываюцца часам замест словазлучэнняў з назоўнікамі ў вінавальным склоне *прыехаць на радасць* (каму-н.), *пайсці ў (па) ягады, ісці да калодзежа*.

### Група 8. Дзеяслоў+прыназоўнік+назоўнік у творным склоне

§ 12. Словазлучэнні гэтай групы прадуктыўныя і выражаюць разнастайныя семантыка-сінтаксічныя значэнні.

Аб'ектныя: *Санітары з ліхтарыкам ішлі ў гэты бок паўз акопы* (К. Чорны); *Вольныя жнеі прыдуць з сярпамі* (Я. Купала): *Ён даўно ўжо звязаў свой лёс з лёсам людскім* (А. Куляшоў); *Юрка важна пайшоў за цёткаю* (Я. Колас); *Ён і вучыўся добра, хоць вельмі мала сядзеў за сшыткамі і кніжкамі* (А. Кулакоўскі); *Сёння Ніна сядзіць над сшыткамі свайго чацвёртага класа* (Я. Брыль); *Пад царамі, пад панамі мучыліся людзі,— у нядолі, у няволі чахлі, сохлі грудзі* (Я. Купала); *Перад бацькам Мінаем станьце ўсе бацькі на калені!* (А. Куляшоў); *Між іншымі кабетамі Марта ясна адрозніла Сымоніху* (Ц. Гартны).

Узаемнасці дзеяння: *Напярэдадні таго дня, калі Панас меўся спаткацца з бацькам пад тоўстым дубам каля Сухога поля, сярод ночы раптам пачуўся стук у дзверы Талашовай хаты* (Я. Колас); *Згоды не пыталі, добра, што дазволілі развітацца з сям'ёй* (І. Навуменка); *Толькі маці з любым сынам будзе доўга размаўляць* (П. Глебка); *Ліпнёвая раніца, ціхі ветрык цалуецца з жытам* (П. Трус.); *Паміж групамі пачалося спаборніцтва* (Т. Хадкевіч).

Сумеснасці дзеяння: *Зося сядзела з практыкантам на прызбе* (К. Чорны); *Дзік ходзіць з дзічыхай, за ім — табун воўчы* (Я. Купала); *Зімою Міхась працаваў з бацькам у кузні* (К. Крапіва).

Азначальна-акалічнасныя: *Злосна прайшоўся па хаце і з сілаю шпурнуў на лаву рукавіцы* (Я. Колас); *Уязджалі са стогнам падводы на двор* (А. Куляшоў); *Алесь і заснуў за гаворкаю з маці* (П. Броўка).

Прасторавыя: *Паўлюк чакаў за вёскай, ва ўмоўленым месцы* (Я. Брыль); *За акном цвіў сад* (Я. Скрыган); *Па-над джунглямі стаяла ноч* (Я. Маўр); *Алеся дажынала палоску пад гаем* (П. Трус); *Далей перад Андрэем пачынаўся лес* (Я. Колас); *Паміж бярвеннямі журчэла, пералівалася вада* (М. Лынькоў); *Побач з цялушкай, на вяроўцы, ідзе каза* (Я. Брыль).

Часавыя: *І з першымі праменнямі асенняга сонца пайшла банда ў лес* (Х. Шынклер); *Глуха і рэдка стукаў тугі бубен, бразгаў паміж ударамі бляшачкамі і бомамі* (П. Галавач); *Перад самым днём прыехаў Дзяніс Пляцінскі* (К. Чорны). *Ластаўкі перад сном кармілі птушанят* (П. Броўка); *Нават свежай вады не паспела прынесці перад адыходам у школу* (А. Кулакоўскі); *Перад вайной стары Селівей памёр* (Я. Брыль).

Большая частка словазлучэнняў з аб'ектнымі значэннямі, а таксама словазлучэнні са значэннямі ўзаемнасці і сумеснасці дзеяння заснаваны па сінтаксічнай сувязі кіравання. У словазлучэннях са значэннем

узаемнасці дзеяння залежная частка з прыназоўнікам з (*між*) абумоўлена марфалагічнымі (прыстаўкі *з-*, *с-*, *пера-* і інш.) і семантыка-сінтаксічнымі ўласцівасцямі дзеяслова: *здружыцца з суседкай, развітацца з вучнямі, пераглядвацца з сябрамі, дзяліцца з сябрамі*. Словазлучэнні з прасторавымі, азначальна-акалічнаснымі і часавымі значэннямі заснаваны на сінтаксічнай сувязі прымыкання. Прамы парадак слоў — постпазіцыя залежнага члена.

Словазлучэнні гэтай групы сінанімічны канструкцыям:

з якаснымі прыслоўямі: *размаўляць з ахвотаю — размаўляць ахвотна, сустрэць з радасцю — сустрэць радасна;*

з дзеепрыслоўямі: *уставаць са стогнам — уставаць стогнучы, заснуць за гаворкаю — заснуць гаворачы;*

з назоўнікамі ў родным склоне з прыназоўнікам *з-за*: *не заўважыць за спрэчкаю — не заўважыць з-за спрэчкі;*

з назоўнікамі ў месным склоне з прыназоўнікам *аб*: *думаць над тэмай — думаць аб тэме;*

з назоўнікамі ў родным склоне з прыназоўнікам *паміж* (*між*): *стаяць паміж* (*між*) *дрэвамі — стаяць паміж* (*між*) *дрэў.*

## Група 9. Дзеяслоў+прыназоўнік+назоўнік у месным склоне

§ 13. Словазлучэнні гэтай групы выражаюць наступныя семантыка-сінтаксічныя значэнні.

Прасторавыя: *Пасля іх часта пачалі бачыць разам у парку, у кіно* (Я. Скрыган); *Кружыў вецер сухое лісце ў садзе і на агародзе* (К. Чорны); *Доўга хадзіў ляснік па беразе* (Я. Колас); *Чужы і маўклівы, даўно ён ляжыць пры гасцінцы* (А. Куляшоў).

Аб'ектныя: *Нешта такое бачыў Алёша ў гэтых людзях* (К. Чорны); *Я ў бяскрайнасць імчуся на лёгкім кані* (П. Глебка); *Рудая плямка сунецца па снежнай нерушы, нібы строчыць па кужалі ўзор сваіх дробных слядоў* (Я. Брыль); *Каб не астацца пры немцах, маці пусцілася ў эвакуацыю* (Я. Скрыган); *Ён усё думаў аб сваім жыцці, аб лесніковай службе* (Я. Колас).

Часавыя: *Пакахаў Тарас дзяўчыну ў дзяцінстве, рана* (Я. Купала); *На досвітку яны вярталіся з задання* (Я. Брыль); *Госці павінны былі сабрацца па поўдні* (К. Чорны); *І тое, што кожны раз пры сустрэчах яна віталася з ім неяк асабліва..., таксама нешта значыць* (Я. Скрыган); *У верасні трыццаць дзевятага года, калі прыйшлі нашы, надзялілі Івана зямлёй* (Я. Брыль).

Якасна-акалічнасныя: *Жыві ў радасці, у шчасці, у яснай долі, слаўнай волі* (Я. Купала); *Цёмны лес апусціў у зняможе галлё* (П. Глебка); *Пісьмо па парадку уголас чыталі* (А. Куляшоў); *Іх дождж пры маланцы чытае ды з літар сцякае слязьмі* (А. Куляшоў).

Словазлучэнні гэтай групы заснаваны на сінтаксічнай сувязі прымыкання. Прамы парадак слоў — постпазіцыя залежнага члена. Сінонімамі да словазлучэнняў «дзеяслоў+прыназоўнік+назоўнік у месным склоне» могуць выступаць словазлучэнні:

з назоўнікамі ў творным склоне з прыназоўнікам *за*: *знікнуць у тумане — знікнуць за туманам;*

з прыслоўямі: *жыць у згодзе — жыць згодна, стаяць у задуменні — стаяць задуменна;*

з назоўнікамі ў творным склоне без прыназоўніка: *вярнуцца на досвітку — вярнуцца досвіткам, вярнуцца па вясне — вярнуцца вясной, стаяць па* (цэлых) *гадзінах — стаяць* (цэлымі) *гадзінамі;*

з назоўнікамі ў родным склоне з прыназоўнікам *пасля: прыехаць па пойдні — прыехаць пасля пойдня;*

з назоўнікамі ў вінавальным склоне з прыназоўнікам *у: па нядзелі застацца (дома) — у нядзелю застацца (дома), пачацца а трэцяй гадзіне — пачацца ў тры гадзіны;*

з назоўнікамі ў родным склоне з прыназоўнікам *каля: стаяць пры дарозе — стаяць каля дарогі;*

з назоўнікамі ў вінавальным склоне з прыназоўнікам *пра: разважаць аб жыцці — разважаць пра жыццё, расказаць аб падзеях — расказаць пра падзеі.*

### *Разрад 2. Словазлучэнні дзеясловаў з прыметнікамі*

§ 14. Словазлучэнні дзеясловаў з прыметнікамі ў якасці залежнага кампанента маюць якасныя прыметнікі і выражаюць якасна-азначальныя значэнні: *Война памеркаваў і знайшоў гэты спосаб нязручным...* (Я. Колас); *Алесь варочаўся дахаты таксама занепакоены* (П. Броўка). Амаль усе гэтыя словазлучэнні з'яўляюцца сінтаксічна непадзельнымі і выконваюць у сказе функцыю састаўнога або складанага выказніка: *Максім, пакінуўшы кажух, босы выбег у сені* (Я. Колас); *Рос ён дужым, здаровым і ўпэўненым у сабе* (І. Мележ).

Залежныя словы ў гэтых словазлучэннях звычайна маюць форму назоўнага або творнага склону: *ехаў усхваляваны, выглядаў бадзёрым.* Прамы парадак слоў — постпазіцыя залежнага члена. Дзеяслоў звязаны з залежным прыметнікам сінтаксічнай сувяззю цегацення.

### *Разрад 3. Словазлучэнні дзеясловаў з дзеепрыметнікамі*

§ 15. Словазлучэнні дзеясловаў з дзеепрыметнікамі характарызуюцца тымі ж асаблівасцямі, што і словазлучэнні дзеясловаў з прыметнікамі. Яны адрозніваюцца ад папярэдніх толькі наяўнасцю ў іх складзе кампанентаў, якія выражаюць суб'екты або акалічнасці дзеяння, параўн.: *выглядаць узрушаным — выглядаць узрушаным падзеямі.* Часам суб'екты або акалічнасці дзеяння ў словазлучэннях з дзеепрыслоўямі ў ролі залежнага кампанента хоць і змяшчаюцца ў іх семантыцы, але не выражаны адпаведнымі кампанентамі ў складзе словазлучэнняў, якія пры гэтым маюць форму простых словазлучэнняў: *ехаць занепакоеным, з'явіцца ўсхваляваным.* Аднак простыя словазлучэнні дзеясловаў з дзеепрыметнікамі ў беларускай мове ўжываюцца рэдка: *Алесь варочаўся дахаты таксама занепакоены* (П. Броўка).

### *Разрад 4. Словазлучэнні дзеясловаў з парадкавымі лічэбнікамі*

§ 16. Словазлучэнні дзеясловаў з парадкавымі лічэбнікамі выражаюць азначальныя значэнні з адценнем парадку, паслядоўнасці дзеяння: *Першая прахапілася бабка Наста* (Я. Колас); *Другім ішоў чалавек сярэдніх год* (М. Лынькоў). Залежныя парадкавыя лічэбнікі могуць мець форму назоўнага або творнага склону (*першая прахапілася, другім ішоў*).

Галоўны і залежны члены гэтых словазлучэнняў звязаны сінтаксічнай сувяззю цегацення. Парадак членаў у гэтых словазлучэннях строга не зафіксаваны, ён залежыць ад месца дзейніка і выказніка ў сказе. Пры размяшчэнні на першым месцы дзейніка, а на другім выказніка (прамы парадак слоў у сказе) залежны кампанент словазлучэнняў дзеясловаў з парадкавымі лічэбнікамі звычайна знаходзіцца ў постпазіцыі і наадварот. Параўн.: *Савецкі спартсмен першы перасек фінішную рысу* і *Першы перасек фінішную рысу савецкі спартсмен.* Аднак пры неабходнасці асабліва падкрэсліць азначальнае значэнне парадку, паслядоўнасці дзейнасці ён ставіцца на першае месца: *Ты п е р ш а я п р ы в я л а мяне на гэты завод* (М. Паслядовіч).

### *Разрад 5. Словазлучэнні дзеясловаў з займеннікамі*

§ 17. У залежнасці ад разраду займеннікаў, якія выступаюць у ролі залежнага кампанента, гэтыя словазлучэнні падзяляюцца на дзве няроўныя часткі. Першую і асноўную частку канструкцый складаюць словазлучэнні з залежнымі займеннікамі з абагульнена-прадметным значэннем ва ўскосных склонах. Гэтыя словазлучэнні ўключаюць тыя ж групы прыназоўнікавых і беспрыназоўнікавых канструкцый, што і разгледжаныя вышэй дзеяслоўныя словазлучэнні з назоўнікам у ролі залежнага кампанента. Адрозненні паміж словазлучэннямі з назоўнікам і абагульнена-прадметным займеннікам у ролі залежнага кампанента звязаны з некаторай абмежаванасцю семантычных адносін і тыпаў сінтаксічнай сувязі канструкцый з залежным займеннікам, ■ таксама з іх некаторай спецыфікай у парадку кампанентаў.

Так, словазлучэнні з залежнымі абагульнена-прадметнымі займеннікамі ў родным склоне без прыназоўніка выражаюць толькі а б' е к т н ы я адносіны і заснаваны на сувязі кіравання (у параўнанні з адпаведнымі канструкцыямі з залежнымі назоўнікамі, частка якіх выражае часавыя адносіны і заснавана на сувязі прымыкання). Практычна не ўжываюцца словазлучэнні з часавымі і іншымі акалічнаснымі адносінамі і з залежнымі абагульнена-прадметнымі займеннікамі ў іншых склонах (без прыназоўнікаў і з прыназоўнікамі).

Дзеяслоўныя словазлучэнні з абагульнена-прадметным займеннікам розных склонаў у ролі залежнага кампанента выражаюць звычайна аб'ектныя адносіны з рознымі адценнямі: *Сягоння мы п а м а г а л і я м у пасынкаваць памідоры* (П. Броўка); *І нейкая жуда ахапіла Андрэя, пачуванне маркоты і адзіноты а х а п і л а я г о* (Я. Колас); *Ад вясны ўжо н е б ы л о ніякай весці а д я г о* (Цётка); *Мы вершы з і м н а п і ш а м, зямлю д а г л е д з і м з і м* (А. Куляшоў).

Другую, значна меншую частку словазлучэнняў з займеннікам у ролі залежнага кампанента складаюць словазлучэнні з абагульнена-якаснымі і абагульнена-колькаснымі займеннікамі. Гэтыя словазлучэнні выражаюць я к а с н а-а з н а ч а л ь н ы я значэнні з адценнямі меры, ступені, шырыні ахопу праяўлення дзеяння: *Тут бой п а ў с т а в а ў т а к і м, які́м быў у сапраўднасці* (І. Мележ); *Т а к і м з д а в а ў с я ёй бацька* (Чырвоная змена, 1983); *Клянецца ён пад сонцам мірным б ы ц ь г э т к і м, як яны ў атацы* (П. Панчанка).

Яны заснаваны на сувязі цегацення. Найбольш пашыраны парадак слоў у гэтых словазлучэннях — постпазіцыя залежнага члена.

### *Разрад 6. Словазлучэнні дзеясловаў з дзеясловамі*

#### Група 1. Дзеяслоў+залежны інфінітыў

§ 18. Канструкцыі з прыдзеяслоўным інфінітывам хоць і шырока ўжывальныя ў сучаснай беларускай мове, аднак у іх складзе ў якасці галоўнага кампанента могуць выступаць толькі дзеясловы пэўных семантычных груп. Да іх адносяцца мадальныя дзеясловы жадання, магчымасці, неабходнасці, імкнення, здольнасці, адчування, волевыяўлення і інш.; дзеясловы руху, а таксама дзеясловы, якія абазначаюць пачатак, працяг і завяршэнне дзеяння: *З раёна мелася прыехаць сёння нейкая брыгада* (Я. Колас); *Але глухі шолах у лесе прымусіў дзеда Талаша прыслухацца і прыглядзецца* (Я. Колас); *Яны перанеслі ўдвух чалавека на часовы ложак, паспрабавалі распрануць яго, перавязаць* (М. Лынькоў); *Бывала астануцца яны з маткаю ў хаце, адчыняць куфар і пачнуць пераглядаць цікавыя рэчы...* (Я. Колас); *Івану было вельмі крыўдна, але даўняя, закаранелая прывычка ва ўсім падпарадкоўвацца бацьку ўзяла сваё, і ён перастаў наведваць Яшку* (В. Быкаў); *Яны пасябравалі, хадзілі разам купацца, ставілі на кратоў пасткі і ніколі не гаварылі пра бацьку* (В. Быкаў).

Залежны інфінітыў звязаны з кіруючым дзеясловам адносінамі прымыкання. Прамы парадак слоў — постпазіцыя залежнага кампанента.

Па сваёй функцыі залежны прыдзеяслоўны інфінітыў можа быць суб'ектным і аб'ектным. Суб'ектны інфінітыў называе дзеянне, якое выконваецца дзейнікам-суб'ектам, таксама як і дзеянне, названае кіруючым асабовым дзеясловам (*Я згаджаюся прыехаць — Я згаджаюся+Я прыеду*): *Хлопцы надумаліся пайсці ў грыбы* (Я. Колас); *І вось аб гэтым неяк даведаўся бацька і аднойчы ўранку... пагразіў выгнаць з хаты бязбожніка-сына, які ганьбіў на старасці бацькаву годнасць* (В. Быкаў).

Словазлучэнні з суб'ектным інфінітывам пры дзеясловах з агульным мадальным значэннем з'яўляюцца сінанімічнымі канструкцыям з даданым дапаўняльным са злучнікам *што* і нярэдка могуць замяняцца апошнімі: *пагразіў выгнаць — пагразіў, што выганіць; спадзявайся пачуць — спадзявайся, што пачуе; пастанавілі склікаць — пастанавілі, што склічуць; вырашылі пайсці — вырашылі, што пойдуць; паабяцаў маўчаць — паабяцаў, што будзе маўчаць; згадзіўся прачытаць — згадзіўся, што прачытае.* Такая суадноснасць з'яўляецца рэгулярнай толькі для словазлучэнняў з мадальна-маўленчымі дзеясловамі, пры якіх інфінітыў выконвае функцыю дапаўнення.

Канструкцыі з суб'ектным інфінітывам пры дзеясловах руху, стану сінанімічны канструкцыям з даданым акалічнасным сказам мэты са злучнікам *каб: пайшоў паглядзець — пайшоў, каб паглядзець; прылёг падрамаць — прылёг, каб падрамаць; сеў адпачыць — сеў, каб адпачыць; паехаў вучыцца — паехаў, каб вучыцца; пайшоў правесці — пайшоў, каб правесці* і пад.

Аб'ектны інфінітыў называе дзеянне, якое выконваецца суб'ектам, што выражаны іменным дапаўненнем у вінавальным або давальным склоне (*Я прашу яго прынесці кнігу — Я прашу+Ён прыносіць*): *Але глухі шолах у лесе прымусіў дзеда прыслухацца і разглядзецца* (Я. Колас); *...Букрэй загадаў завваліць дарогу з грэбляю, каб конніца не магла праскочыць* (Я. Колас); *Згоды не пыталі, добра, што дазволілі развітацца з сям'ёй* (І. Навуменка); *...І вось аднойчы ў познюю восень, сустрэўшыся на вясковым выгане,*

*Якаў з а п р а с і ў п р ы х о д з і ц ь увечары, паглядзець на рэпетыцыі бязбожнай п'есы* (В. Быкаў).

Словазлучэнні з аб'ектным інфінітывам пры дзеясловах з агульным мадальным значэннем у адрозненне ад словазлучэнняў з суб'ектным інфінітывам пры гэтых жа дзеясловах утвараюць суадносныя сінанімічныя пары з дадзенымі акалічнаснымі сказамі мэты са злучнікам *каб*. Прычым, калі канструкцыі з суб'ектным інфінітывам уключаюць у сябе пераважна дзеясловы мадальна-маўленчыя, то канструкцыі з аб'ектным інфінітывам — пабуджальна-маўленчыя: *прасіў прынесці — прасіў, каб прынёс; загадваў прыехаць — загадваў, каб прыехаў; параіў перапатварыць — параіў, каб перапатварыў; запрасіў прыходзіць — запрасіў, каб прыходзіў.*

Дзеяслоўныя словазлучэнні з суб'ектным і аб'ектным інфінітывам сінанімічны канструкцыям з аддзеяслоўнымі назоўнікамі розных склонаў у ролі залежнага слова: *пачаў працаваць — пачаў працу; патрабаваў выканаць — патрабаваў выканання; жадаў працаваць — жадаў працы; паехаў вучыцца — паехаў на вучобу; вучыў чытаць — вучыў чытанню.* Аднак гэта суадноснасць нерэгулярная, абумоўленая, з аднаго боку, тым, што магчымасці інфінітыва функцыяніраваць у якасці залежнага слова пры дзеяслове абмежаваныя. З другога боку, тым, што залежны інфінітыў часта ўжываецца ў тых выпадках, калі ад дадзенай асновы нельга ўтварыць адпаведны назоўнік, напрыклад: *баяўся ступіць, вырашыў памаўчаць, пастанавіў даказаць, стараўся гаварыць, перастала шаптаць, нагнуўся пазабаўляць. Па голасу заметна было, што Таклюся х а ц е л а п а ч у ц ь ад Лапка адно толькі — не* (Я. Колас); *Звычайна ж пры іншых выпадках яна с т а р а л а с я гэта р а б і ц ь употайку ад Васіля* (Я. Колас); *Траншэю ён в ы р а ш ы ў н е к а п а ц ь, хай гэта робіць Глечык, а ён ужо адкапаў сваё* (В. Быкаў).

Сінанімія дзеяслоўных канструкцый з залежным інфінітывам і адпаведных канструкцый з залежным назоўнікам наглядаецца пераважна ў словазлучэннях з суб'ектным інфінітывам пры дзеясловах, якія называюць пачатак, працяг і завяршэнне дзеяння і з аб'ектным інфінітывам пры дзеясловах пабуджэння, напрыклад: *пачаў вучыцца — пачаў вучобу; кончыў касіць — кончыў касьбу; працягваў размаўляць — працягваў размову; працягваў смяяцца — працягваў смех; прапанаваў прагуляцца — прапанаваў прагулку; прасіў дапамагчы — прасіў дапамогі; прымусіў чакаць — прымусіў да чакання; забараніў уваходзіць — забараніў уваход; дазволіў наведваць — дазволіў наведванне.*

У сучаснай беларускай мове наглядаецца тэндэнцыя замены залежнага назоўніка інфінітывам. Гэта тэндэнцыя ўзмацняецца ў пэўнай ступені і заўвагамі ў сучасных дапаможніках па стылістыцы аб неабходнасці пазбягаць аддзеяслоўных назоўнікаў. Аднак у дзелавым, навуковым, часам публіцыстычным стылях у словазлучэннях, дзе кіруючы дзеяслоў можа мець пры сабе як інфінітыў, так і назоўнік, часта ўжываецца назоўнік: *прасіць выдзялення* замест *прасіць выдзеліць.*

Словазлучэнні з суб'ектным і аб'ектным інфінітывам могуць структурна ўскладняцца, калі да яго далучаецца другая інфінітыўная форма: *мусіў паслаць разведаць, меўся прыехаць пабачыцца, збіраўся паехаць сустрэць* і пад.: *Мы п а в і н н ы п а м а г ч ы нашаму Чырвонаму войску прэч в ы г н а ц ь панскую псярню...* (Я. Колас).

Другі від ускладнення дзеяслоўных словазлучэнняў з інфінітывам, калі залежны інфінітыў утварае сінтаксічна непадзельнае спалучэнне з назоўнікам: *адважыўся выказаць прапанову, прапанаваў зацвердзіць рэгламент работы* і пад.: *Ох, п а т р а п і ц ь народ часам з а с я б е ў с т у п і ц ц а...* (Я. Купала); *Ён а д д а ў з а г а д начальнікам ад-*

*дзяленняў п р ы н я ц ь м е р ы а х о в ы паходнай калоны* (Я. Колас). У апошнім прыкладзе наглядаецца ўскладненне як галоўнага (параўн.: *аддаў загад — загадаў*), так і залежнага кампанентаў словазлучэння (*прыняць меры аховы*).

### Група 2. Дзеяслоў прошлага часу+дапасаваны дапаможны дзеяслоў *быць*

§ 19. Гэтыя сінтаксічна непадзельныя словазлучэнні выконваюць у сказе ролю выказніка: *спынілася была, пачалі былі, прыехаў быў: Раіса адразу з нервовай трывогай у вачах с х а п і л а б ы л а яго за руку, а потым сама схамянулася, засмяялася* (М. Зарэцкі); *Мы пад вечар аж пад самыя акопы нямецкія п а д п а ў з л і б ы л і, а яны гранатамі калі шарахнулі* (К. Крапіва); *Пятрусь п а м к н у ў с я б ы ў нешта сказаць* (П. Кавалёў).

Большая частка такіх словазлучэнняў абазначае дзеянне, якое не было даведзена да канца або не дало жаданага выніку, паколькі перарвалася другім дзеяннем: *Андрэй б ы ў п а в я р н у ў с я, каб ісці назад, але яго цягнула нейкая сіла да гэтай кучкі* (Я. Колас); *Нехта б ы ў тоненька х і х і к н у ў, але яго зараз жа супакоілі злым шыканнем* (М. Паслядовіч).

У некаторых выпадках такія словазлучэнні абазначаюць даўномінулае дзеянне, якое па значэнню адпавядае старажытнаму плюсквамперфекту: *Карызна памятае, як усяго месяцы з тры таму п р ы е х а ў б ы ў у іхні раён таварыш Гайдук* (М. Зарэцкі).

§ 20. Асобныя групы словазлучэнняў з дзеясловамі ў якасці галоўнага і залежнага кампанентаў складаюць канструкцыі «дзеяслоў+дапасаваны дзеяслоў» (*ехаць-плысці, шуміць-гудзе*), «дзеяслоў+зваротны дзеяслоў з адмоўем *не*» (*чакае не дачакаецца*), «дзеяслоў (інфінітыў)+ +залежны інфінітыў з адмоўем *не*» (*ісці не ісці, чакаць не чакаць*).

Пералічаныя словазлучэнні колькасна абмежаваныя і мала ўжывальныя, аднак яны складаюць спецыфічныя і самастойныя групы дзеяслоўных канструкцый: *П л ы л а-ц а л а в а л а с я хмарка з зямлёю* (Я. Колас); *Ш у м і ц ь-г у д з е зялёны гай* (Я. Колас).

### *Разрад 7. Словазлучэнні дзеясловаў з прыслоўямі*

§ 21. Словазлучэнні гэтай групы ў залежнасці ад разраду залежных прыслоўяў выражаюць розныя семантыка-сінтаксічныя значэнні.

Я к а с н а-к о л ь к а с н ы я: *Яны з а с т а л і с я ў ш а с ц ё х, агорнутыя самотай ростані, і нейкі час моўчкі пазіралі ўслед капітану, батальёну, кароценькая, зусім не батальённая калона якога, мерна пагойдваючыся ў вячэрняй імгле, х у т к а а д д а л я л а с я к лесу* (В. Быкаў); *Мы д о ў г а г у т а р ы л і..., і Яўстафій Юліянавіч п а д р а б я з н а р а с к а з а ў мне пра мінулае Столінскага раёна* (В. Вольскі).

Я к а с н а-а к а л і ч н а с н ы я: *Начлежнікі е х а л і ш у м н а* (Я. Колас).

П р а с т о р а в ы я: *Ён увесь п а д а ў с я н а п е р а д...* (М. Лынькоў); *Усё с п я в а л а н а в о к а л* (П. Броўка).

Ч а с а в ы я: *Я іх у ч о р а ў Мачулішчы а д в ё з, да маткі — спакайней усё ж* (М. Лынькоў); *Доктара ч а к а л і н а з а ў т р а* (К. Чорны).

П р ы ч ы н н ы я: *С п р а с о н к у в ы ц я ў с я аб рог вушака* (І. Мележ).

Мэтавыя: *А цяпер ён наўмысна стараўся не думаць пра гэта* (К. Крапіва); *Аднойчы ён знарок пачакаў, пакуль яна выйдзе пасля работы* (Я. Скрыган).

Словазлучэнні з прыслоўем у ролі залежнага члена заснаваны на сувязі прымыкання. Прамы парадак слоў — постпазіцыя залежнага кампанента.

## СКЛАДАНЫЯ СЛОВАЗЛУЧЭННІ

### *Разрад 1. Словазлучэнні дзеясловаў са свабоднымі спалучэннямі слоў*

#### Група 1. Дзеяслоў+некалькі сузалежных ці падзалежных кампанентаў

§ 22. Складаныя дзеяслоўныя словазлучэнні ўтвараюцца на аснове пераважнай большасці простых словазлучэнняў трыма асноўнымі спосабамі: 1) шляхам далучэння да залежнага кампанента аднаго ці некалькіх паясняльных слоў: *змагацца за мір — змагацца за трывалы мір, чакаць лета — чакаць вясёлага лета, успамінаць канцэрт — успамінаць вялікі святочны канцэрт, захапляцца каштанамі — захапляцца пышнымі кіеўскімі каштанамі;* 2) шляхам далучэння аднаго ці некалькіх паясняльных слоў да галоўнага кампанента: *змагацца за мір — няўхільна змагацца за мір, чакаць лета — з вялікай нецярплівасцю чакаць лета, успамінаць канцэрт — з задавальненнем успамінаць канцэрт, захапляцца каштанамі — заўсёды захапляцца каштанамі;* 3) шляхам далучэння аднаго ці некалькіх паясняльных слоў да залежнага і галоўнага кампанентаў: *змагацца за мір — няўхільна змагацца за трывалы мір, чакаць лета — з вялікай нецярплівасцю чакаць вясёлага лета, успамінаць канцэрт — з задавальненнем успамінаць вялікі святочны канцэрт, захапляцца каштанамі — заўсёды захапляцца пышнымі кіеўскімі каштанамі.*

Свабодныя складаныя дзеяслоўныя словазлучэнні характарызуюцца тымі ж фармальнымі і семантыка-сінтаксічнымі ўласцівасцямі, што і адпаведныя простыя дзеяслоўныя словазлучэнні: *Між лоз купчастых дрэмле срэбны Нёман* (А. Астрэйка); *Лёгкі ветрык кратаў пругкія лісты дрэў* (У. Шахавец); *Белы конь стукнуў звонкай падковай* (В. Таўлай); *Раніца ціха ўстала з-за лесу* (М. Танк); *Радасна віталі новы дзень птушкі* (І. Шамякін); *Сябры яшчэ доўга гаварылі пра ўсякія справы* (П. Пестрак).

#### Група 2. Дзеяслоў+група слоў, якія перадаюць аднародныя звязаныя паняцці

§ 23. Гэтыя канструкцыі маюць аб'ектныя і акалічнасныя значэнні: *Ён вучыўся добра, хоць вельма мала сядзеў за сшыткамі і кніжкамі* (А. Кулакоўскі); *Між дзвярыма і другою сцяной прытулілася шафа* (Я. Колас); *Каваль Антон Рубановіч стаяў між натоўпам і сталом, за якім быў прэзідыум сходу* (К. Чорны); *Яны сказалі Дробу, што Крамарчык прыедзе ў гэты парк паміж адзінаццатай і дванаццатай гадзінай ночы* (Э. Самуйлёнак).

Яны не могуць быць зведзены да простых словазлучэнняў, паколькі

пры скарачэнні залежнага кампанента змяняецца або страчваецца сэнс канструкцыі: *гутарыць з бацькам і сынам, спрачацца з Міколам і Рыгорам, ехаць праз Мазыр і Парычы, сядзець між братам і сястрой, працякаць між вёскай і лесам, злучаць Днепр і Буг, размяшчацца між Мінскам і Барысавам.*

Залежны кампанент у гэтых словазлучэннях можа размяшчацца як перад галоўным, так і пасля яго.

Сустракаюцца выпадкі, калі дзеяслоў і залежнае словазлучэнне раздзелены іншымі членамі сказа: *Кляновіч п р о с і ц ь Грушку д а ц ь п р а ч ы т а ц ь пісьмо сябрам* (П. Пестрак).

Канструкцыі «дзеяслоў+сінтаксічна непадзельнае словазлучэнне» выражаюць пераважна а к а л і ч н а с н ы я і а б' е к т н ы я значэнні: *гаварыць бацькоўскім тонам, ісці босымі нагамі, жыць цікавым жыццём, спяваць у паўночны час, хадзіць у летнюю пару; абяцаць зрабіць паведамленне, спяшацца даць адказ, адмовіцца даць характарыстыку, выпіць шклянку чаю, назбіраць кошык грыбоў, сустракаць незнаёмага чалавека.*

Сярод акалічнасных складаных сінтаксічна непадзельных канструкцый найбольш значную частку складаюць словазлучэнні з ч а с а в ы м значэннем. У гэтых словазлучэннях залежная частка выражаецца спалучэннем парадкавага лічэбніка або ўказальнага ці азначальнага займенніка ў родным склоне з назоўнікам у родным склоне: *прыехаў дзявятага мая, убачыў першага сакавіка, нарадзіўся восьмага лютага, сустрэў таго дня, прыходзіў кожнай раніцы* і пад. Залежны кампанент, які называе пэўны адрэзак часу, ужываецца тут толькі ў форме адзіночнага ліку: *Ажно т р э ц я г а д н я князь п р ы д у м а ў адну для дружыны пацеху, забаву* (Я. Купала).

Словазлучэнні ў родным склоне з указальнымі ці азначальнымі займеннікамі ў складзе залежнага кампанента з'яўляюцца сінанімічнымі дзеяслоўным словазлучэнням з адпаведнымі словамі ў вінавальным склоне з прыназоўнікам *у* або без яго: *заходзіў кожнай раніцы — заходзіў кожную раніцу; пазваніў таго ж дня — пазваніў у той жа дзень.*

Адметная прымета такіх словазлучэнняў — наяўнасць пры назоўніку ў форме роднага склону дапасаванага азначэння, выражанага ўказальным ці азначальным займеннікам, парадкавым лічэбнікам або прыметнікам. Гэтыя азначэнні ўтвараюць з азначаемым словам непадзельныя словазлучэнні: *К о ж н а й н о ч ы хто-небудзь п р ы я з д ж а е ў лагер партызанскіх сем'яў* (Я. Брыль); *Т о й з і м ы Леапольд Гушка б ы ў на раённым з'ездзе Саветаў* (К. Чорны).

Спалучэнні тыпу *аднаго дня, аднаго разу* з'яўляюцца ўстойлівымі зваротамі, уласцівымі літаратурнай і народнай мове. Яны абазначаюць момант дзеяння.

### Група 3. Дзеяслоў+складаная назва

§ 24. Залежны член у такіх канструкцыях непадзельны, ён можа размяшчацца як перад галоўным, так і пасля яго: *Новае Сяло адбудаваць, прыехаць у Вялікія Лукі.*

### Група 4. Дзеяслоў+сінтаксічна непадзельнае словазлучэнне

§ 25. Да гэтай групы адносяцца словазлучэнні: *ісці шпаркім крокам, апрацаваць прынятым спосабам, сказаць спакойным тонам, спаць трывожным сном, раіць мяккім голасам, выбраць матчыну дарогу, спяшац-*

*ца даць адказ, старацца весці гутарку, абяцаць весці ўлік* і пад.

У сказах залежныя ад дзеясловаў такія сінтаксічна непадзельныя словазлучэнні ўтвараюць адзін член сказа, хоць семантычна яны і могуць чляніцца, як свабодныя словазлучэнні. Так, у сказах *Але вось дзве постаці* *ш п а р к і м к р о к а м і д у ц ь цераз палянку* (П. Пестрак) і *Ноч фіранку з н я л а б а л а с н е ж н а й р у к о й, дзесьці скрыпкі нямеюць у далях* (П. Трус) сінтаксічна непадзельныя словазлучэнні *шпаркім крокам, беласнежнай рукой* выконваюць адпаведна сінтаксічныя функцыі акалічнасці і дапаўнення. У спалучэнні з кіруючымі дзеясловамі *ідуць, зняла* яны ўтвараюць складаную дзеяслоўную канструкцыю «дзеяслоў+сінтаксічна непадзельнае словазлучэнне».

Сінтаксічна непадзельнае словазлучэнне можа размяшчацца як перад кіруючым дзеясловам, так і пасля яго, аднак найбольш прадуктыўныя канструкцыі з прэпазіцыяй дзеяслова: *Сашы і д з е ўжо д в а ц ц а ц ь п я т ы г о д* (П. Пестрак); *Дзе нядаўна пад прыгонам пот крынічыў на паной, з а г у л а с т а л ё в ы м з в о н а м малатарня мужыкоў* (П. Трус). Канструкцыі з постпазіцыяй кіруючага дзеяслова ў сучаснай беларускай мове менш прадуктыўныя: *Я шчыра, ад душы падзякаваў ім, памог кожнаму п р ы н я т ы м у н а с с п о с а б а м а д м ы ц ь фарбу з працавітых ручак...* (У. Дубоўка).

Найбольш пашыраны парадак слоў у словазлучэннях з акалічнаснымі адносінамі — постпазіцыя залежнага члена. Пры выражэнні недакладнасці абазначэння часу, прасторы або колькасці назоўнік у складзе колькасна-іменнага спалучэння займае месца перад лічэбнікам. Пры назоўніку ў такіх выпадках можа быць прыназоўнік *з*: *Ужо м е с я ц ы с а д в а, а можа і болей, дзядзька Пракоп н о с і ц ь у сабе гэты клопат і гэтыя неадступныя думкі аб калгасе* (Я. Колас); *Да лесу б ы л о в я р с т ы ч а т ы р ы* (Я. Колас). У гэтай жа функцыі могуць ужывацца і словазлучэнні, у якіх залежная частка выражана назоўнікам з займеннікамі *які, якая, якое*: *Пшанічны думаў, што трэба было б яшчэ назбіраць быльнягу, каб закапацца ў яго і «п р ы к і м а р ы ц ь»,— як кажа Свіст,— я к у ю г а д з і н у ўначы* (В. Быкаў).

Словазлучэнні з залежным назоўнікам у вінавальным склоне і займеннікам *цэлы* могуць мець сінонімамі словазлучэнні:

з назоўнікамі ў творным склоне і займеннікам *цэлы: працаваць цэлыя дні — працаваць цэлымі днямі;*

з назоўнікамі ў месным склоне з прыназоўнікам *па* і займеннікам *цэлы: працаваць цэлыя дні — працаваць па цэлых днях.*

Словазлучэнні з залежным назоўнікам у вінавальным склоне і займеннікам *кожны* сінанімічны словазлучэнням:

з назоўнікамі ў вінавальным і месным склонах з прыназоўнікам *пры: працаваць кожны дзень — працаваць дзень пры дні;*

з назоўнікамі ў родным склоне з займеннікам *кожны: працаваць кожны дзень — працаваць кожнага дня.* Такія словазлучэнні з родным склонам не з'яўляюцца літаратурнай нормай у сучаснай беларускай мове;

з назоўнікамі ў вінавальным і творным склонах з прыназоўнікамі *у, за: працаваць кожны дзень — працаваць дзень у дзень — працаваць дзень за днём.*

Словазлучэнні з залежным назоўнікам у вінавальным склоне і займеннікам *гэты* могуць мець сінонімы:

з назоўнікамі ў творным склоне і займеннікам *гэты: застацца гэту зіму — застацца гэтай зімой;*

з назоўнікамі ў родным склоне і займеннікам *гэты: застацца гэту зіму — застацца гэтай (гэтае) зімы.*

Словазлучэнні з залежным назоўнікам у вінавальным склоне і лічэбнікам *два, тры* сінанімічны словазлучэнням з залежнымі прыслоўямі *двойчы, тройчы: сустрэцца два разы — сустрэцца двойчы; звяртацца тры разы — звяртацца тройчы.*

Словазлучэнні з залежным назоўнікам у вінавальным склоне і колькасным лічэбнікам могуць мець сінонімамі словазлучэнні з гэтай жа залежнай часткай і прыназоўнікам *па: даць чатыры цэнтнеры (з гектара) — даць па чатыры цэнтнеры (з гектара).*

Словазлучэнні з залежным назоўнікам у вінавальным склоне і спалучэннем *таму назад* сінанімічны словазлучэнням з гэтым жа назоўнікам і прыслоўем *назад,* а таксама са словам *таму: сустрэць месяц таму назад — сустрэць месяц назад — сустрэць месяц таму.*

Словазлучэнні тыпу (*гадзіннік*) *прабіў чатыры гадзіны, стукнула шаснаццаць год* маюць сінанімічныя канструкцыі без назоўнікаў *гадзіна, год,* у якіх колькасныя лічэбнікі субстантывіруюцца і набываюць значэнне адсутных назоўнікаў.

Колькасныя словазлучэнні лексічна абмежаваны з боку залежнага кампанента, які выражаецца звычайна толькі назоўнікамі (або сінтаксічна непадзельнымі спалучэннямі) з колькасна-часавым, колькасна-прасторавым або ўласна колькасным значэннем.

Найбольш тыповымі мадэлямі складаных дзеяслоўных словазлучэнняў гэтай групы з'яўляюцца «дзеяслоў+(назоўнік творнага склону+прыметнік)»: *смяяцца бесклапотным смехам, сказаць спакойным тонам;* «дзеяслоў+(назоўнік у родным склоне+дапасаванае азначэнне, выражанае ўказальным ці азначальным займеннікам або парадкавым лічэбнікам)»: *прыехаць той зімы, заходзіць кожнай раніцы, нарадзіцца 10-га верасня;* «дзеяслоў+(дзеяслоў+назоўнік)»: *абяцаць зрабіць даклад, імкнуцца прыняць абавязацельствы;* «дзеяслоў+(назоўнік у вінавальным склоне+назоўнік у родным склоне)»: *убачыць кавалак неба, прынесці вядро вады;* «дзеяслоў+(назоўнік у вінавальным склоне+прыметнік)»: *сустракаць незнаёмага чалавека, цікавіцца героіка-патрыятычнай тэматыкай;* «дзеяслоў+(назоўнік у вінавальным склоне+прыназоўнік+прыметнік)»: *працаваць у пайночны час, купацца ў зімнюю пару;* «дзеяслоў+(назоўнік у месным склоне+прыназоўнік+прыметнік)»: *з'явіцца ў поўным складзе, сустракацца на вышэйшым узроўні;* «дзеяслоў+колькасна-іменнае словазлучэнне»: *чакаць трох чалавек, сабралася многа людзей.*

## *Разрад 2. Словазлучэнні дзеясловаў з фразеалагічнымі зваротамі*

§ 26. Гэтыя словазлучэнні пераважна маюць а б' е к т н а е або а к а л і ч н а с н а е значэнне: *перастаць кідаць позіркі, абяцаць даць зарок, скончыць біць бібікі, наважыцца даць драла, вырашыць пусціць пеўня, плакаць горкімі слязьмі, жыць сваёй воляй, сустрэць і старых і малых, весяліцца на людзях, пачаць халодную вайну.*

Залежны кампанент (фразеалагізм) у гэтых словазлучэннях стаіць пераважна пасля галоўнага дзеяслова, часам ён можа аддзяляцца ад дзеяслова іншымі членамі сказа: *Дома яна* п р а ч ы т а л а *ўсё* а д н ы м д у х а м, *і здалося, што ўсё гэта яшчэ няпраўда* (Я. Скрыган); А д г у л я ў ш ы *тут радзіны ды вяселле* а д н ы м м а х а м, *маладыя з божым страхам сталі жыць ды пажываць* (К. Крапіва); *І камуна гэта, і гэты сайгас* б у д у ц ь *з* л е т а *ў* л е т а р а с ц і *ў* д о б р ы ч а с (Я. Купала).

**Словазлучэнні з дзеясловам у ролі галоўнага слова**

| Аб'ём | Залежны кампанент | Група па фармальна-граматычных асаблівасцях залежнага кампанента | Асноўнае семантыка-сінтакс. значэнне | Тып сувязі | Парадак кампанентаў | Прыклад |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| Простыя | Назоўнік | дзеяслоў+наз. у родн. скл. | аб'ектн. | кірав. | постпаз. | прасіць дапамогі, берагчыся прастуды, дачакацца раніцы, чакаць аўтобуса, набірацца смеласці |
| | | дзеяслоў + наз. у дав. скл. | аб'ектн. | кірав. | постпаз. | радавацца сустрэчы, верыць сябру, пагражаць міру, пярэчыць дакладчыку |
| | | дзеяслоў+наз. у він. скл. | аб'ектн. | кірав. | постпаз. | купіць кнігу, пераплысці рэчку, тузаць рукаў, збавіць вагу, расказаць здарэнне |
| | | | акалічн. | прымык. | постпаз. | працаваць год, бегчы кіламетр |
| | | дзеяслоў+наз. у тв. скл. | аб'ектн. | кірав. | постпаз. | цікавіцца мастацтвам, веяць сумам, ганарыцца сынам, верхаводзіць дзетварой |
| | | | азнач.-акалічн. | | | лячыцца травамі, выхоўваць прыкладам, дапамагчы парадай, праслаўіцца працай |
| | | | акалічн. | прымык. | постпаз. | выдаць брашурай, выступіць калектывам, стрыгчыся вожыкам, ехаць раніцай, ісці вуліцай |
| | | дзеяслоў+прыназоўнік+наз. у родн. скл. | аб'ектн. | кірав. | постпаз. | злезці з дрэва, адысціся ад калоны, даехаць да вёскі, прытуліць да грудзей, выбегчы з-за дома, вылезці з-пад коўдры |
| | | | акалічн. | прымык. | постпаз. | пісаць з раніцы, сядзець без справы, спаткацца сярод поля |
| | | дзеяслоў+прыназоўнік+наз. у дав. скл. | аб'ектн. | кірав. | постпаз. | падысці к школе, прыляцець к бацьку |
| | | | акалічн. | прымык. | постпаз. | напісаць к тэрміну, паехаць наперакор бацькам, адшукаць дзякуючы следапытам |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Простыя | Назоўнік | дзеяслоў+прыназоўнік+наз. у він. скл. | аб'ектн. | кірав. | постпаз. | уразацца ў зямлю, націскаць на крышку, узбірацца на дрэва, зарывацца ў зямлю |
| | | | акалічн. | прымык. | постпаз. | вяртацца пад вечар, крычаць праз шум |
| | | дзеяслоў+прыназоўнік+наз. у тв. скл. | аб'ектн. | кірав. | постпаз. | сустракацца з сябрам, развітвацца з сынам |
| | | | акалічн. | прымык. | постпаз. | ляжаць з тэмпературай, гуляць перад сном |
| | | дзеяслоў+прыназоўнік+наз. у месн. скл. | аб'ектн. | кірав. | постпаз. | пераконвацца ў праўдзівасці, настойваць на паездцы, сведчыць аб эрудыцыі |
| | | | акалічн. | прымык. | постпаз. | жыць у адзіноце, працаваць у вёсцы, адбыцца ў верасні |
| | | дзеяслоў+нескл. абрэвіятура | аб'ектн. | кірав. | постпаз. | узначальваць МК, ехаць у БДУ |
| | Прыметнік | дзеяслоў + якасны прыметнік | акалічн. | | | расці дужым, вяртацца занепакоеным, выбегчы босым |
| | Займеннік | дзеяслоў+абагульнена-прадм. займеннік | аб'ектн. | кірав. | постпаз. | прасіць усіх, звяртацца да вас |
| | | дзеяслоў+абагульнена-якасны займеннік | аб'ектн. | кірав. | постпаз. | адносіцца да такіх, жадаць іншых |
| | | дзеяслоў+абагульнена-кольк. займеннік | аб'ектн. | кірав. | постпаз. | вылучыць некалькіх |
| | Дзеяслоў | дзеяслоў+інфінітыў | аб'ектн. | кірав. | постпаз. | жадаць выказацца, прынесці сшыць |
| | | дзеяслоў + дапасаваны дзеяслоў | азнач. | дапас. | постпаз. | ехаць-плысці, шумець-гудзець |
| | | дзеяслоў + інфінітыў з адмоўем не | акалічн. | дапас. | постпаз. | чакае не дачакаецца |
| | | дзеяслоў (інфінітыў) + інфінітыў з адмоўем не | — | — | — | ісці не ісці, думаць не думаць |
| | Прыслоўе | дзеяслоў + якасна-колькаснае прыслоўе | азнач.-акалічн. | прымык. | прэпаз. | тройчы сустракацца, амаль забыць |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Складаныя | Прыслоўе | дзеяслоў + якасна-акалічнаснае прыслоўе | акалічн. | прымык. | постпаз. | ісці здалёку, глядзець навокал |
| | Свабоднае спалучэнне слоў | дзеяслоў + некалькі падзалежных слоў | аб'ектн. | кірав. | постпаз. | святкаваць гадавіну стварэння |
| | | дзеяслоў + група сузалежных слоў, якія перадаюць аднародныя звязаныя паняцці | аб'ектн., акалічн. | кірав. | постпаз., прэпаз. | разлучацца з бацькам і маці, працякаць між вёскай і лесам |
| | | дзеяслоў + складаная назва | акалічн. | кірав. | прэпаз., постпаз. | ехаць у Вялікія Лукі, наведваць «Зялёны луг» |
| | | дзеяслоў + сінтаксічна непадзельнае словазлучэнне | аб'ектн., акалічн. | кірав. | постпаз., прэпаз. | выбраць матчыну дарогу, ехаць з хуткасцю 100 кіламетраў |
| | Фразеалагізмы | дзеяслоў + фразеалагічнае словазлучэнне | аб'ектн., акалічн. | кірав. | постпаз. | не пакінуць ні слуху ні духу, зрабіць шыта-крыта |
| | Метамоўныя | дзеяслоў + метамоўны знак | аб'ектн. | кірав. | постпаз. | прамовіць «да пабачэння», крыкнуць «Прыязджай!», праскланяць займеннік Вы |

Часам залежны фразеалагізм з мэтай узмацнення можа паўтарацца: *Млечны пуць, ён п р а л ё г з в е к у ў в е к, з в е к у ў в е к* (А. Куляшоў).

Сустракаюцца і выпадкі прэпазіцыі залежнага фразеалагізма: *Тут ён з у с ё й с і л ы ш т у р х н у ў камлюк на ваду* (Я. Колас); *Твой шлях гераічны, былы і наступны, твой дружны народ, працавіты і рупны, а д в е к у н а в е к, маладая дзяржава, а б в е я н працоўнай і ратнаю с л а в а й* (П. Глебка).

## МЕТАМОЎНЫЯ СЛОВАЗЛУЧЭННІ

§ 27. Метамоўныя дзеяслоўныя словазлучэнні складаюцца з кіруючага дзеяслова і пэўных словаформ (знакаў мовы), якія ў складзе словазлучэння маюць звычайна а б' е к т н а е семантыка-сінтаксічнае значэнне, напрыклад: *напісаў «Небяспечная зона», крыкнуў «Стой!», прачытаў «Камендант», выпісваў ЛіМ, заказаў «Весці АН БССР», атрымаў «выдатна», наведаў «Новы быт»*.

У сказе залежныя кампаненты (знакі мовы) такіх словазлучэнняў стаяць звычайна пасля дзеяслова, аднак сустракаюцца і выпадкі прэпазіцыі: *Цябе ж, нябось, вучыў Лапата,— уступіўся Костусь тут за брата:— Ты ў школе быў, Алесь, паўгода, пісаў на дошцы «кучка», «мода», пісаў і «конь» і «вецер вее»... Не, — наш Алесь пісаць умее* (Я. Колас).

Залежны кампанент у дзеяслоўных метамоўных словазлучэннях звычайна вылучаецца двукоссем.

## II ТЫП. СЛОВАЗЛУЧЭННІ З НАЗОЎНІКАМ У РОЛІ ГАЛОЎНАГА КАМПАНЕНТА

§ 28. Словазлучэнні з назоўнікам у ролі галоўнага слова падзяляюцца на 9 разрадаў: 6 разрадаў аб'ядноўваюць простыя, 2 — складаныя і 1— метамоўныя словазлучэнні.

### ПРОСТЫЯ СЛОВАЗЛУЧЭННІ

### *Разрад 1. Словазлучэнні назоўнікаў з назоўнікамі*

§ 29. Першы разрад назоўнікава-назоўнікавых словазлучэнняў падзяляецца на 12 груп.

#### Група 1. Назоўнік+назоўнік, дапасаваны ў склоне

§ 30. Словазлучэнні гэтай групы перадаюць азначальныя адносіны. Яны шырока прадстаўлены ў сучаснай мове: *На доўгія вёрсты і мілі раскінуў лес-волат шатры* (Я. Колас); *Пакаленне наша маладое дастойна славы горада-героя* (В. Матэвушаў); *Пасля вайны аднавіцца нам, беларусам, дапамаглі ўсе рэспублікі і ў першую чаргу вялікая сястра-Расія* (Звязда, 1981); *Лезуць пішчом вятрыь-валацугі праз сцены* (Р. Барадулін); *Паміж стагамі ўзвышаліся старыя дубы-асілкі* (І. Шамякін); *Атрад Сёмы-матроса рушыў з двара* (М. Лынькоў); *Над Бярозай-ракой, над далінаю зайгралі гарністы паход* (П. Глебка).

Ва ўсіх такіх словазлучэннях залежны кампанент дапасуецца да галоўнага ў склоне. Дапасаванне ў ліку неабавязковае: *І ў срэбраросы пажоўклых кветак і травы з вачэй цяклі брусніцы-слёзы...* (П. Трус).

Парадак кампанентаў у словазлучэннях адносна адвольны з некаторай перавагай постпазіцыі залежнага кампанента, параўн.: *лес-волат* і *волат лес, дождж-вадалей* і *вадалей дождж, дзяўчаты-прыгажуні* і *прыгажуні дзяўчаты*. Словазлучэнні, якім уласціва пэўная тэрміналагізацыя, характарызуюцца больш устойлівым, нярэдка нязменным парадкам слоў: *горад-герой, молат-рыба, празаік Бядуля, рака Бярэзіна*.

Найбольш пашыранымі сінонімамі для часткі словазлучэнняў першай групы служаць спалучэнні назоўніка з прыметнікам: *Пад дубамі-сталеткамі стаяў грузавік* (І. Чыгрынаў) — *сталетнія дубы*; *Многа на будоўлі прыгажунь-дзяўчат* (А. Русак) — *прыгожыя дзяўчаты*.

#### Група 2. Назоўнік+назоўнік у назоўным склоне

§ 31. Паміж кампанентамі словазлучэнняў гэтай групы існуюць азначальныя адносіны: *Па полі рухаўся блакітны трактар «Беларусь» з бульбасаджалкай* (Звязда, 1982); *Мы выйшлі на вуліцу ціхай малой вёскі Казыры* (А. Бялевіч); *Жораў няпарны кружыцца доўга над возерам Плаўна* (М. Калачынскі); *Рыхтуе штурм адважная брыгада «Жалязняк»* (М. Калачынскі); *На спецыяльнасць спевы прыём — з 18-гадовага ўзросту* (Вячэрні Мінск, 1984); *Раскажыце пра від падпарадкавальнай сувязі дапасаванне* (З падручніка).

Словазлучэнні афармляюцца іменным прымыканнем залежнага кампанента і яго постпазіцыяй: *горад Баранавічы, газета «Зорка», аперацыя «Баграціён», дзень ікс, сувязь апазіцыя, сігнал атака.*

Для словазлучэнняў, якія ўказваюць на назвы гарадоў, вёсак, азёр, рэк і некаторых іншых, маюцца два тыпы сінонімаў:

а) словазлучэнні «назоўнік+дапасаваны назоўнік»: *горад Баранавічы, горада Баранавічы, горадам Баранавічы — горад Баранавічы, горада Баранавіч, горадам Баранавічамі;*

б) уласная назва без агульнага назоўніка: *(чытаю) газету «Зорка»—(чытаю) «Зорку»; (плыў) на параходзе «Украіна» — (плыў) на «Украіне»; (жыву) каля ракі Сож — (жыву) каля Сажа. Мы ведалі, што рака гэта злучаецца з ракой Лотай, а Лота праз азёры злучаецца з Туломай — ракой, якая ўпадае ў Кольскі заліў* (І. Шамякін).

## Група 3. Назоўнік+назоўнік у родным склоне

§ 32. Група вельмі прадуктыўная і разнастайная па характару семантыка-сінтаксічных значэнняў:

суб'ектныя: *Адбыўся вялікі агульны сход рабочых* (К. Чорны); *Чую гоман блакітнага Нёмана, чую плёскат магутнай Дзвіны* (У. Нядзведскі); *Прыезд Іллюка быў невыказным шчасцем для Тэклі* (М. Хадкевіч);

аб'ектныя: *На ўрачыстым сходзе адбылося ўручэнне ўзнагарод* (Звязда, 1980); *Я знаю радасці цану, вучуся шчодрасці у неба* (Р. Барадулін); *Усе прасілі, каб паскорыць праект будоўлі* (П. Броўка);

азначальныя (з адценнямі прызначэння, назвы, удалення, параўнання, прасторавай, часавай, якаснай характарыстыкі і г. д.): *О віхры, о вы, бураломы, свабодных нябёс жыхары!* (Я. Купала); *Звіняць галін сасновых гуслі* (Р. Барадулін); *Мне з дзён маленства дзьмуў вандровак вецер...* (М. Калачынскі); *Яны суровай мовай каменя і бронзы змаглі напісаць хатынскую трагедыю...* (А. Бялевіч); *У вачах юнакоў і дзяўчат іскры шчасця і радасці свецяць...* (В. Матэвушаў);

азначальна-прыналежныя: *Мэты і планы ленінскай партыі — гэта мэты і планы народа* (ЛіМ, 1979); *Палессе!.. Ты, як хірург, ігліцамі сосен зашывала акопаў раны* (У. Нядзведскі); *Я — сын зямлі, нашчадак хлебаробаў* (Р. Барадулін);

колькасныя (з адценнямі меры, сукупнасці, часткі і г. д.): *На самым краі ўзмежка над балотам стаяла купка дубоў* (Я. Колас); *Іду я ніцы ля трысця, праходжу гурт палян...* (У. Хадыка).

Галоўны кампанент словазлучэння кіруе родным склонам (моцнае кіраванне ў словазлучэннях з родным суб'екта, аб'екта, колькасці, слабое — у выпадку роднага параўнання), звычайны парадак кампанентаў — постпазіцыя залежнага назоўніка.

Найбольш пашыраным тыпам сінонімаў з'яўляюцца спалучэнні назоўніка з прыналежнымі і адноснымі прыметнікамі: *Выйшлі людзі да хаты лесніка (І. Шамякін) — леснікова хата; Зрэдку па вуліцы брыла адзінокая фігура селяніна, што дзесьці запазніўся* (Я. Колас) — *сялянская фігура.* Параўн.: *Звон пчаліны стаіць. Сёння дзень ладзьбавання* (М. Танк) — *звон пчол; Мясілі балотную твань дзіковы капыты* (М. Лынькоў) — *капыты дзіка.*

### Група 4. Назоўнік+назоўнік у давальным склоне

§ 33. Словазлучэнні гэтай групы абмежаваны і колькасна, і ў адносінах семантыка-сінтаксічных значэнняў. Агульнае азначальнае значэнне можа суправаджацца адценнямі значэння суб'ектнага, аб'ектнага і мэтавага: *Канец трэцяму рэйху, канец варожаму супрацiўленню* (А. Бялевіч); *Выдатнае жыццё гэтага выдатнага палкаводца — прыклад служэння Радзіме* (ЛіМ, 1979); *Чалавек чалавеку — друг, таварыш і брат* (Звязда, 1985); *Джон... гімн складаў Рэвалюцыі і вялікаму Леніну* (У. Нядзведскі); *Хельмут, відаць, атрымаў наганяй за першую патачку палонным* (Я. Брыль).

Асноўны тып сувязі — кіраванне, прычым кіраванне ўласціва перш за ўсё аддзеяслоўным назоўнікам: *падарунак брату, патачка палонным, служэнне Радзіме.* У іншых выпадках кіраванне ў простым словазлучэнні адлюстроўвае трохбаковыя сувязі ў складаных словазлучэннях: (*напісаць) пісьмо маці, (пабудаваць) помнік ахвярам, (захоўваць) вернасць ідэалам.*

Парадак слоў пастаянны — постпазіцыя залежнага кампанента.

Сінонімаў словазлучэнні не маюць.

### Група 5. Назоўнік+назоўнік у вінавальным склоне

§ 34. Адзінкавыя словазлучэнні гэтай групы маюць колькаснае значэнне часу, меры і, відаць, знаходзяцца на ўзбочцы моўнай нормы: *Трохі збоч Белай Гліны, на вышыні, можа, тысячу метраў, узніклі абрысы самалёта* (І. Чыгрынаў).

Залежны кампанент далучаецца шляхам іменнага кіравання і знаходзіцца ў постпазіцыі: *стаянка хвіліну, жыццё (разам) год.*

Часцей за ўсё такія словазлучэнні з часавым значэннем замяняюцца спалучэннямі з прыназоўнікам або іншымі канструкцыямі: *жыццё на працягу года, хвілінная стаянка.*

### Група 6. Назоўнік+назоўнік у творным склоне

§ 35. Словазлучэнні гэтай групы прадстаўлены дзвюма якасна і колькасна рознымі падгрупамі. Першая ўключае словазлучэнні з галоўным кампанентам — вытворным аддзеяслоўным або, радзей, адпрыметнікавым назоўнікам (вытворныя словазлучэнні). Такія словазлучэнні перадаюць шэраг семантыка-сінтаксічных адносін — суб'ектных, аб'ектных, акалічнасных і інш., часам з рознымі адценнямі (часу, спосабу дзеяння, прылады і г. д.): *Прыхільнасць да новай улады выплывала ў яго ад шчырага сэрца, яна паланіла, захапляла яго веліччу і хараством ідэі, калі людзі будуць мець роўнае права на дабрабыт, калі не будзе гэтага абірання чалавекам чалавека і знікне гэтае векавечнае прыгнечанне багатым беднага* (Я. Колас); *Кіраванне людзьмі патрабуе ад кожнага, каму дадзена гэта самае адказнае з усіх права, вялікіх ведаў, вялікай дысцыплінаванасці* (ЛіМ, 1982); *Стаяў Хвошч, гандляр хлебам і жывёлай* (Э. Самуйлёнак).

Словазлучэнні другой падгрупы нешматлікія, галоўны кампанент у іх — невытворны назоўнік (невытворныя словазлучэнні). Для іх характэрны азначальныя адносіны з адценнямі параўнання, абмежавання, узмацнення і інш.: *Азярцо, нізінка, змейкаю сцяжынка, ну, пастой, хлапчына, тут адну хвілінку* (В. Матэвушаў); *Мы будзем*

*сэрцам юнакамі* (У. Хадыка); *Нос гарбінкай і касмылістыя бровы надавалі суровы выгляд яго твару* (М. Лынькоў).

Сувязь паміж кампанентамі словазлучэнняў афармляецца ў першай падгрупе кіраваннем, у другой — іменным прымыканнем. У абодвух выпадках парадак слоў — постпазіцыя залежнага кампанента.

Вытворныя словазлучэнні з азначальна-акалічнаснымі значэннямі могуць мець сінонімамі прыназоўнікавыя канструкцыі: *палёт самалётам — палёт на самалёце; праца вечарамі — праца па вечарах; апрацоўка напільнікам — апрацоўка пры дапамозе напільніка.* Невытворныя словазлучэнні таксама маюць абмежаваныя магчымасці сінанімізацыі: *нос бульбінай — нос, як бульбіна; барада трыкутнікам — барада-трыкутнік; дарога лесам — лясная дарога.*

### Група 7. Назоўнік+прыназоўнік+назоўнік у родным склоне

§ 36. Шматлікія словазлучэнні гэтай групы перадаюць шырокае кола семантыка-сінтаксічных значэнняў і іх адценняў, галоўным жа чынам — азначальна-акалічнасныя.

Асноўны тып сувязі паміж назоўнікамі—прыназоўнікавае кіраванне; парадак слоў характарызуецца постпазіцыяй залежнага кампанента: *Быццам купінка з сухой іглiцы, недаверлівы спяшае вожык* (Р. Барадулін); *Але Чубар ажно злаваў, кажучы, што ёсць указанне з раёна* (І. Чыгрынаў); *Кветку шчасця ў лесе не шукалі — да легенды страчаны давер* (М. Калачынскі); *Яшчэ за тыдзень да Кастрычніцкага свята Сцёпу прынялі ў піянеры* (А. Якімовіч); *Месяц стаяў ужо над ельнікам, пень ад дзічкі здаваўся белым* (К. Чорны); *...Ёй усё тут падабалася, і яна без канца смяялася і распытвала, поўная захаплення ад лесу, бярэзніку, дзятла на хвоі* (В. Быкаў); *Барацьба супроць нямецка-фашысцкіх акупантаў насіла сапраўды ўсенародны характар* (Весці АН БССР, 1985); *Гісторыя старая: убогая дзеўка пайшла ў двор на службу для хлеба куска...* (Я. Купала); *Трэба рабіць фарсіраваныя пераходы без сну, адпачынку, ежы...* (ЛіМ, 1980); *У капаніцы ля крыніцы стары Астап мачыў маніцы...* (П. Трус); *Зрэдку толькі ён кідаў наперад кароткія позіркі з-пад казырка свае шапкі...* (В. Быкаў); *Адно я дрэўца бачу, як сірацінку без радні* (П. Броўка); *Але ў гэтых драпежнікаў, відаць, былі ўсё ж нейкія свае намеры наконт гэтых двух ушчэнт знямоглых, ледзьве жывых людзей, і яны не адставалі* (В. Быкаў); *Ім сняцца сярод акіянаў дарогі і справы былыя* (П. Броўка); *Тут у ліпені 1944 года савецкія воіны замкнулі кальцо вакол шматтысячнай варожай зграі і разграмілі яе дашчэнту* (А. Бялевіч); *У апошні час увага да яе з боку літаратуразнаўцаў прыкметна ўзмацнілася* (ЛіМ, 1981); *На нашым прадпрыемстве завяршаецца вахта ў гонар гарадоў-герояў* (Звязда, 1985).

Прыназоўнікавыя словазлучэнні з родным склонам у залежнасці ад характару прыназоўніка (яго здольнасці ўжывацца з некалькімі склонамі, яго суаднесенасці з прыстаўкамі, наяўнасці прыназоўнікаў-сінонімаў і г. д.) маюць шэраг сінанімічных канструкцый: *дарога між бяроз — дарога між бярозамі; жыццё без радасці — бязрадаснае жыццё; жыта каля лесу — жыта побач з лесам; падзеі напярэдадні вайны — падзеі перад вайной; шлях да зорак — шлях к зоркам; трава да каленяў — трава па калені; заданне для ўсіх — заданне ўсім; пакой для пасажыраў — пасажырскі пакой; лес усцяж чыгункі — лес уздоўж чыгункі — лес каля чыгункі — лес абапал чыгункі.*

### Група 8. Назоўнік+прыназоўнік+назоўнік у давальным склоне

§ 37. Такія словазлучэнні адносна нешматлікія, як і прыназоўнікі, што ўжываюцца з давальным склонам (*к, па, насуперак, адпаведна, дзякуючы, услед, на карысць*). Словазлучэнням уласцівы азначальна-акалічнасныя адносіны і постпазіцыя залежнага кампанента, які далучаецца да галоўнага шляхам прыназоўнікавага кіравання: *Па дарозе к базару фургон з сенам натрапіўся* (М. Лобан); *Нядаўна выканана заданне па агульнаму аб'ёму вытворчасці* (Звязда, 1984); *Беларускія пісьменнікі, убіраючы ў сябе традыцыі ўсёй савецкай літаратуры, не паўтараюць сваіх сабратаў па пяру* (ЛіМ, 1983); *Праца на карысць грамадству — права і абавязак чалавека* (Чырвоная змена, 1985).

Частка словазлучэнняў з давальным прыназоўнікавым мае сінонімамі розныя канструкцыі: *выкананне адпаведна плану — выкананне згодна з планам; праца на карысць грамадству — праца для грамадства; палёт к зоркам — палёт да зорак — зоркавы палёт.*

### Група 9. Назоўнік+прыназоўнік+назоўнік у вінавальным склоне

§ 38. Такія словазлучэнні маюць аб'ектныя і азначальна-акалічнасныя значэнні і характарызуюцца постпазіцыяй залежнага кампанента, які далучаецца да галоўнага шляхам прыназоўнікавага кіравання: *Не ведае зацішша і перамір'я вялікая бітва за мір* (Звязда, 1983); *Да агульнага шоламу шківаў, да стуку молатаў, скрыпу напільнікаў далучыўся стук сякер абчэсваўшых бярвенні для новага будынка пад склад* (Ц. Гартны); *Шмат зламылі казак і легенд, і песень людзі пра балота, пра сваё Палессе* (Я. Купала); *У камеры, схіліўшыся на нарах, ты пішаш зноў пра камунара верш* (В. Тарас); *Дзверы ў сенцы былі адчынены* (У. Краўчанка); *Я касіў твае разлогі пад спеў дзявочы ў сенакос* (А. Русак); *...Якаў Гузік атрымаў ліцэнзіі на новае абсталяванне завода* (Ц. Гартны); *Чым дакажу, што я любіць умею? Бо на пачуцці пашпарта няма* (В. Тарас); *О, ён мастак у нас на спевы, захоча — сыпне салаўём* (П. Броўка); *Дарожка праз лясок на горад харошая і ціхая* (А. Кулакоўскі); *На двары быў снег па калені* (І. Пташнікаў); *За хлеб змаганне горача ідзе* (М. Калачынскі).

Існуе шэраг сінанімічных канструкцый для словазлучэнняў гэтай групы: *гаворка пра падзеі — гаворка аб падзеях; майстар на спевы — майстар спеваў — майстар спяваць; чарцяжы на будаўніцтва — чарцяжы для будаўніцтва; артыкул у часопіс — артыкул для часопіса; падарунак пад свята — падарунак да свята — святочны падарунак; дарога праз лес — дарога лесам — лясная дарога.*

### Група 10. Назоўнік+прыназоўнік+назоўнік у творным склоне

§ 39. Словазлучэнні данай групы перадаюць азначальныя, акалічнасныя і аб'ектныя адносіны. Яны характарызуюцца постпазіцыяй залежнага кампанента, які далучаецца да галоўнага пры дапамозе прыназоўнікавага кіравання: *Ледзь возьмецца на дзень — цягну са свежым словам цяжкі невад* (Р. Барадулін); *Абапал*

*дарогі мільгаюць* *слупы* *з дарожнымі* *знакамі* (В. Вольскі); *Няхай жыве, хто край узняў на* *бітву* *з* *эпохай* *горкіх дзён і чорных руж* (У. Хадыка); *Марфа ўжо несла на стол* *чыгунок* *з* *варывам* (І. Чыгрынаў); *І вось надарыцца часамі* *мароз* *над* *ўсімі* *маразамі* (Я. Колас); *Вось мсціўцы* *падымаюцца* *і — ў* *змрок* *над* *бальшаком...* (М. Калачынскі); *Конь* *пад* *князем* *буланы, Капытамі бразь, бразь!* (Я. Купала); *КПСС настойліва змагаецца за трывалы* *мір* *і* *дружбу* *паміж* *народамі* (Звязда, 1977); *І ажывуць канспірацыі, яўкі падполля, і* *сонца* *за* *кратамі* *ў змрочным сырым астрозе...* (М. Калачынскі); *Дзеду Талашу пачынала дакучаць гэтае* *тулянне* *і* *бадзянне* *па-за* *межамі* *свайго дому* (Я. Колас); *Папярэднім* *днём* *перад* *аперацыяй* *у бальніцу прыйшоў чалавек* (К. Чорны).

Сінанімічныя канструкцыі разнастайныя, як і ў папярэдніх групах: *маці з сынам — маці і сын; гаворка пад акном — гаворка каля акна; сварка між суседзямі — сварка між суседзяў; змаганне з ворагам — змаганне супраць ворага; расправа з жыхарамі — расправа над жыхарамі; бары над ракой — надрэчныя бары; месца побач з шафёрам — месца побач шафёра.*

## Група 11. Назоўнік+прыназоўнік+назоўнік у месным склоне

§ 40. Гэтым словазлучэнням уласцівы азначальна-акалічнасныя і аб'ектныя значэнні, постпазіцыя залежнага кампанента, прыназоўнікавае кіраванне: *Мне сняцца* *сны* *аб* *Беларусі* (Я. Купала); *Камітэт разгледзеў* *прапановы* *аб* *прысуджэнні* *міжнародных Ленінскіх прэмій* (Звязда, 1984); *І знікне след дум пакутных, і знікне мой* *цень* *на* *сцяне...* (У. Нядзведскі); *Залечацца раны Радзімы маёй, а* *раны* *на* *сэрцы* *— ніколі* (А. Русак); *А ты, як той* *асвер* *на* *студні,* *хто ні прыходзіць, дык сагне* (П. Броўка); *Ляўчук зводдаль абышоў* *крушню* *на* *рагу* *тока,* *зараснік* *густога маліннiку* *пры* *сцяне* *і апынійся з таго боку, дзе былі дзверы* (В. Быкаў); *З прыемнасцю і задавальненнем вярталіся мы з сваёй* *вандроўкі* *па* *родных Якубу Коласу* *мясцінах* (С. Александровіч); *У летнія дні* *паветра* *ў* *хвойніку* *было духмянае і густое* (І. Шамякін); *Яна забылася пра даўнюю* *хваробу* *ў* *нагах* (Звязда, 1978); *Затворы* *ў* *вінтоўках* *прамыць газай і выцерці насуха, каб не прыстывалі* (К. Крапіва); *І толькі ўвечары адна журыцца будзе на кургане* *ў* *жаўтацвецені* *сасна* (П. Трус); *Сасновыя* *бярвенні* *ў* *кабінеце* *пахнуць жывіцаю* (П. Пестрак).

Пэўныя словазлучэнні гэтай групы маюць сінанімічныя канструкцыі: *хлопчык у гальштуку — хлопчык з гальштукам; спаборніцтвы па бегу — спаборніцтвы ў бегу; праца на полі — праца ў полі; камбінат у Полацку — полацкі камбінат.*

## Група 12. Назоўнік+нескланяльная абрэвіятура

§ 41. Да гэтай групы належаць азначальныя словазлучэнні, якія шырока ўжываюцца ў сучаснай кніжна-пісьмовай і публіцыстычнай (вуснай і пісьмовай) мове: *член КПСС, старшыня ВАК, камісія ААН, вучань ПТУ, начальнік БУ-3, спаборніцтвы ДТСААФ, рашэнне ПК, рэктар БДУ, грамадзянін СССР, расісты ПАР: Па ўсіх абмеркаваных пытаннях* *Дзяржкамітэт* *СМ* *БССР* *па ахове прыроды прыняў адпаведныя рашэнні* (Звязда, 1982); *Геалагічна тоўшча адкладанняў, да якой*

*аднесены культурныя рэшткі, датуецца* ч а с а м *W 2* (Весці АН БССР, 1977).

Словазлучэнні гэтай групы будуюцца на падставе постпазіцыйнага прымыкання залежнага кампанента і адрозніваюцца ад словазлучэнняў з нескланяльнымі назоўнікамі (у лік якіх уваходзяць і запазычаныя нескланяльныя абрэвіятуры тыпу *НАТО, ФРЭЛІМО) кіно, кафэ* тым, што маюць і скланяльную поўную форму і амаль не далучаюць да сябе прыметнікаў, параўн.: *планы НАТО, дырэктар кафэ* і *рашэнне ПК — рашэнне прафкома — рашэнне прафсаюзнага камітэта.* Часткова ці поўнасцю дэабрэвіяваныя назвы можна лічыць сінтаксічнымі сінонімамі словазлучэнняў гэтай групы: *рэктар БДУ — рэктар Белдзяржуніверсітэта — рэктар Беларускага дзяржаўнага універсітэта; член КПСС — член Кампартыі Савецкага Саюза — член Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.*

### *Разрад 2. Словазлучэнні назоўнікаў з прыметнікамі*

§ 42. Другі разрад назоўнікавых словазлучэнняў уключае 6 груп у адпаведнасці з лексіка-граматычнымі асаблівасцямі прыметнікаў.

#### Група 1. Назоўнік+якасны прыметнік са скланяльнымі формамі ступеней параўнання

§ 43. Да скланяльных форм ступеней параўнання прыметніка адносяцца: зыходная ступень *(моцны),* вышэйшая ступень простая *(мацнейшы)* і складаная *(больш моцны),* найвышэйшая ступень простая *(наймацнейшы)* і складаная *(самы моцны).* Усе гэтыя формы дапасуюцца да назоўніка ў родзе, ліку і склоне і звычайна знаходзяцца ў прэпазіцыі да яго, перадаючы а з н а ч а л ь н ы я адносіны: *Яны ішлі не спяшаючыся, выбіраючы* н а й б о л ь ш г л у х і я д а р о ж к і *і сцежкі, абыходзячы* н е б я с п е ч н ы я м я с ц і н ы (Я. Колас); *Сюды спяшаюцца людзі з* с а м ы х д а л ё к і х к у т к о ў *Савецкага Саюза* (В. Вольскі); *Заснулі* ц і х і я б я р о з ы *ўночы пад акном* (А. Астрэйка); *Апознены месячык загарэўся* з а л а т ы м п а ж а р а м *за* д а л ё к і м л е с а м (Я. Колас); *За прыгоркам* б а ц ь к о ў с к а я х а т а (Р. Барадулін); І ў с а м ы у д а л ё к і в ы р а й *з савецкай велічнай зямлі вязіце нашых пасажыраў на Марс, ракеты-караблі* (В. Матэвушаў); *Развяла кветкі Лёнева* с т а р э й ш а я с я с т р а *Вера* (Х. Жычка); *Пройдзе сонца па* г у с ц е й ш а й р у н і (П. Броўка).

Словазлучэнні гэтай групы могуць мець сінонімамі канструкцыі з недапасаванымі азначэннямі рознага тыпу: *малады чалавек — чалавек маладога ўзросту; сінія сцягі — сцягі сіняга колеру* і інш.

#### Група 2. Назоўнік+якасны прыметнік з нескланяльнай формай вышэйшай ступені параўнання

§ 44. Нескланяльная форма вышэйшай ступені параўнання, утвораная суфіксам *-ей- (-эй, -ай),* выступае ў якасці залежнага кампанента словазлучэння даволі рэдка, постпазіцыйна прымыкаючы да назоўніка: *(убачыць) будынак прыгажэй (за першы), (прынясі мне) кніжку цікавей (за гэту). Век не ведалі* п а ч э с н е й *мы* л е г е н д *народнай песні* (У. Хадыка). Такія словазлучэнні трэба лічыць адхіленнем ад літаратурнай нормы.

## Група 3. Назоўнік+адносны прыметнік

§ 45. Словазлучэнні з адноснымі прыметнікамі будуюцца на падставе дапасавання і прэпазіцыі залежнага кампанента. Яны выражаюць а з н а ч а л ь н ы я адносіны з суб'ектнымі, аб'ектнымі і іншымі адценнямі.

Азначальна-суб'ектныя: *Над ціхай крыніцаю с п е ў  с а л а ў і н ы ўвечары сэрца маё закранае* (А. Русак); *Толькі шоргат цішэ, цішэ, растае ў р а з н а б о і  п т у ш ы н ы м* (Р. Барадулін).

Азначальна-акалічнасныя: *С ц е ж к а й  п р ы л у ж н а й — летнікам юных шыбуе дружына* (М. Калачынскі); *Нарэшце пачэснае месца зямным і надзённым богам займае ж ы т н ё в ы  б о х а н* (Р. Барадулін); *Х а т ы н с к і я  х л е б а р о б ы  плугамі ў полі пісалі песню новай долі...* (А. Бялевіч); *Н а ч н ы  в а р т а в ы  з ліхтаром і калатушкай хадзіў па парку* (Э. Самуйлёнак); *Сталі в я т р ы  в е р а с н ё ў с к і я  п а с л я в а е н н ы я  я б л ы к і  трэсці...* (Р. Барадулін).

Азначальна-прыналежныя: *Да  д о к т а р с к і х  белых  х а л а т а ў у бальніцы паэт прывыкаў* (У. Нядзведскі); *Пахнуць сляды п е р'е м с а р о ч ы м* (Р. Барадулін); *Паспелі ягады каліны, ляцяць к л я н о в ы я  л і с т ы* (В. Матэвушаў); *Праляцелі ветры па-над возерам, скалыхнулі х в а л і  н а р а ч а н с к і я* (А. Русак).

У некаторых выпадках прыметнікам уласціва спалучэнне і якаснага і адноснага значэнняў: *У акенца твае я пастукаў з я з ю л ь ч ы н ы м  р а н к а м  пасля  с а л а ў і н а г а  в е ч а р а  і  п е р а п ё л ч ы н а й  н о ч ы* (П. Панчанка); *Песня матчына ласціцца лапкай в я р б о в а г а  к о ц і к а* (Р. Барадулін); *Ля акенца ў глухім сутарэнні спалі дзеці пад к у р т к а й  с к у р а н а й* (У. Нядзведскі).

Дадатковыя да азначальных адценні значэння выразна выяўляюцца пры замене прыметніка суадносным назоўнікам у сінанімічным словазлучэнні: *скураная куртка — куртка са скуры; салаўіныя песні — песні салаўя; вячэрняя прагулка — прагулка вечарам; магілёўскія дзяўчаты — дзяўчаты з Магілёва; прылужная сцежка — сцежка пры лузе.*

## Група 4. Назоўнік+прыналежны прыметнік

§ 46. Далучэнне прыналежнага прыметніка да назоўніка шырока распаўсюджана ў сучаснай мове. Такія словазлучэнні будуюцца на падставе прэпазіцыйнага залежнага кампанента і перадаюць а з н а ч а л ь н а-п р ы н а л е ж н ы я значэнні: *Дзівіцца Сцёпка. З кніжкі дзівіцца і з А л е н ч ы н а й  в у ч о н а с ц і...* (Я. Колас); *І на  х л о п ц а в у  р а б о т у люба людзям паглядзець* (А. Русак); *З а з ы б а в а  х а т а  стаяла ў невялікім завулку, які не меў сабе назвы, і была там крайняя* (І. Чыгрынаў); *Расла  к р а с а  д з я ў ч ы н і н а  з хлапечай папалам* (У. Хадыка); *...Чалавек проста не хацеў, каб гісторыя са  с т а р ш ы н ё в ы м  с ы н а м нейкім чынам закранула і яго* (І. Чыгрынаў); *М і х а с ё ў  б а ц ь к а працаваў у млыне* (З. Бядуля); *Я  м у з ы к а н т а в у  як след пазнаў тады  б я д у* (П. Броўка); *Шматлікія  з а й ц а в ы  с л я д ы  віднеліся на ўзлеску* (У. Краўчанка); *Глядзяць на поўню, як на агледзінах на маладую  р а д н я  ж а н і х о в а* (Р. Барадулін).

Словазлучэнні з прыналежнымі прыметнікамі маюць адзін тып сінонімаў — канструкцыі з родным склонам прыналежнасці: *матчына хата — хата маці; Міхасёвы кніжкі — кніжкі Міхася; музыкантава бяда — бяда музыканта; Аленчына вучонасць — вучонасць Аленкі.*

### Група 5. Назоўнік+нескланяльны прыметнік

§ 47. Нескланяльныя прыметнікі стаяць у постпазіцыі да галоўнага кампанента — назоўніка і прымыкаюць да яго: *Дзяўчына з р о д у М я о хустку вышывала...* (М. Танк); *Ляжа ён* [параход] *к у р с а м вядомым н о р д-о с т, мяне павязе на радзіму* (П. Броўка). Параўн.: *касцюм бардо, колер хакі, мова ваі, плашч рэглан.* Сінонімаў такія словазлучэнні найчасцей не маюць.

### Група 6. Назоўнік+кароткі прыметнік

§ 48. Словазлучэнні гэтай групы сустракаюцца зрэдку, звычайна ў паэтычнай мове: *Лодкі выплылі на Нарач, бы на с і н е м о р а* (М. Танк). Параўн.: фальклорныя словазлучэнні *чыста поле, нова святліца, цясова калыбель, бела бярозка,* якія могуць ужывацца ў літаратурнай мове ў мэтах стылізацыі, але не ў якасці нормы: *Цякла тут з лесу н е в я л і ч к а, травой заросшая к р ы н і ч к а* (Я. Колас). Формы сувязі — дапасаванне, парадак слоў — прэпазіцыя залежнага кампанента.

## *Разрад 3. Словазлучэнні назоўнікаў з займеннікамі*

§ 49. У адпаведнасці са сваёй асноўнай (замяшчальнай) функцыяй займеннікі паказваюць на прадметы, іх прыметы і колькасць, не называючы іх. Згодна з гэтым вылучаюцца тры групы словазлучэнняў назоўнікаў з займеннікамі.

### Група 1. Назоўнік+абагульнена-прадметны займеннік

§ 50. Словазлучэнні гэтай групы паўтараюць структуру, значэнні і асаблівасці сінтаксічнай сувязі словазлучэнняў «назоўнік + кіруемы назоўнік»: *Нізкі п а к л о н в а м ад усіх партызан* (А. Бялевіч); *І гэтак вінавата ўдалеч пазірае, нібы п а д к а з к і а д к а г о с ь чакае* (В. Матэвушаў); *І носіць г о р д а с ц ь кожны з нас з а ў с і х, хто лёг пад куляй ката* (У. Хадыка); *Шмат ішло п р а і х г а в о р а к...* (М. Калачынскі); *Толькі р а д а с ц і а д т а г о ён не адчуў ніякай...* (В. Быкаў); *Ступіў ад дарогі на крок, і — л е с н а д а м н о й* да аблок (М. Калачынскі); *Яны выказалі шэраг цікавых д у м а к і п р а п а н о ў н а к о н т т а г о, як зрабіць творчую «прапіску» пісьменнікаў на прадпрыемстве найбольш карыснай і плённай* (ЛіМ, 1981); *Т в о р п р а я г о з карысцю прачыталі б і сённяшнія воіны, што стаяць на варце міру* (ЛіМ, 1983).

Сінонімаў словазлучэнні гэтай групы не маюць, за выключэннем тых выпадкаў, калі магчыма сінанімізацыя прыназоўнікаў: *твор пра яго — твор аб ім; жыць каля іх — жыць побач з імі,* а таксама: *ісці па ім (шляху) — ісці ім (шляхам).*

### Група 2. Назоўнік+абагульнена-якасны займеннік

§ 51. Словазлучэнні гэтай групы паўтараюць будову спалучэнняў назоўніка з дапасуемым прыметнікам: *Сын н а ш а г а калгаснага м а н ц ё р а ў Сталінград адправіўся шафёрам* (В. Матэвушаў); *... С в о й к о ж н ы д з е н ь займаўся разьбой па дрэву* (У. Нядзведскі); *Ім к о ж н ы м а ё р авіяцыі здаецца Цітовым...* (Р. Барадулін); *Хай пранясецца*

*кліч да славы, пакліча к і н ш а м у ж ы ц ц ю* (Я. Купала); *Як добра там шпаку з сяброўкай глядзець вакол на ц э л ы с в е т!* (П. Броўка); *Як многа гавораць мне н а з в ы т а к і я—Мінск, Пінск, Брэст* (П. Броўка); *У с я в ё с к а была напоўнена нейкімі новымі гукамі* (І. Шамякін); *К а т о р ы д з е н ь ішоў над Бугам смяротны бой за цытадэль* (П. Прыходзька); *На прывялай траве ў буданчыку ляжалі два чырвонаармейскія шынялі, вінтоўка — мусіць, Шпакевічава, бо Халадзілаў сваю у в е с ь г э т ы ч а с трымаў пры сабе* (І. Чыгрынаў); *Атрымалі пастаянную прапіску на беларускай сцэне творы м н о г і х а ў т а р а ў з і н ш ы х р э с п у б л і к* (ЛіМ, 1982).

Сінтаксічных сінонімаў для такіх словазлучэнняў у мове няма.

Азначальна-прыналежнае значэнне з указаннем на 3-ю асобу адзіночнага і множнага ліку перадаецца займеннікамі *яго* (мужчынскі і ніякі род), *яе* (жаночы род), *іх* (множны лік для ўсіх родаў), а таксама суфіксальнымі варыянтамі займеннікаў *ягоны, ейны, іхні.*

Займеннікі *яго, яе, іх* дапасуюцца ў ліку да назоўнікаў, якія яны замяняюць (*кніга брата — яго кніга, кніга сястры — яе кніга, кніга братоў — іх кніга*), і на падставе кіравання далучаюцца да галоўнага кампанента словазлучэння (*яго кніга, яго кнігі, яго кнізе, яго кнігу, яго кнігай; яго кнігі, яго кніг, яго кнігамі...). З вяршыні кургана Славы добра бачу ўсю Беларусь, усю Радзіму, усе я е р э с п у б л і к і* (А. Бялевіч); *Нялёгка развітацца з лесам, сказаць к р а с е я г о бывай!* (В. Матэвушаў).

Займеннікі *ягоны, ейны, іхні* дапасуюцца ў ліку да назоўніка, які яны замяняюць (*кніга брата — ягоная кніга, кніга братоў — іхняя кніга*), а таксама ў ліку і склоне — да назоўнікаў, якім яны падпарадкаваны (*ягоная кніга, ягонай кнізе, ягоную кнігу..., ягоныя кнігі, ягоных кніг, ягоным кнігам..., іхняя кніга, іхняй кнігі, іхнімі кнігамі...). Ён адчуваў нейкую яго праўду і нават я г о н а е п р а в а наракаць на іх* (В. Быкаў); *Было добра відаць, што робіцца ў я г о н а й д у ш ы* (А. Бялевіч); *Казённыя вочы, звярыны гогат, пякельны лямант і х н я й м у з ы к і* (Я. Брыль).

Словазлучэнні з займеннікамі *яго, яе, ягоны, іхні* адпавядаюць літаратурнай норме, пры гэтым формы *ягоны* і *іхні* больш характэрны для гутарковай мовы і мовы мастацкай літаратуры. Займеннік *ейны* знаходзіцца па-за межамі літаратурнага ўжывання.

### Група 3. Назоўнік+абагульнена-колькасны займеннік

§ 52. Займеннікі *столькі, колькі, некалькі, гэтулькі* ўтвараюць спалучэнні з назоўнікамі па ўзору лічэбнікаў ад 5 да 20: назоўнік з'яўляецца галоўным кампанентам толькі ў родным, давальным, творным і месным склонах, параўн.: *некалькі запалак* — займеннік кіруе назоўнікам; *некалькі запалак, некалькім запалкам, некалькімі запалкамі, аб некалькіх запалках* — займеннік дапасуецца да назоўніка. *У н е к а л ь к і х в ы п а д к а х прычынамі аварый былі дзеці* (Вяч. Мінск, 1981).

## *Разрад 4. Словазлучэнні назоўнікаў з дзеясловамі*

§ 53. Назоўнік у якасці галоўнага кампанента словазлучэння здольны падпарадкоўваць толькі неасабовыя формы дзеяслова: інфінітыў, дзеепрыметнікі залежнага і незалежнага стану і дзеепрыслоўе. Адпаведна вылучаюцца і чатыры групы назоўнікава-дзеяслоўных словазлучэнняў.

### Група 1. Назоўнік+інфінітыў

§ 54. Інфінітыў прымыкае да галоўнага кампанента словазлучэння і знаходзіцца ў постпазіцыі да яго, перадаючы пераважна азначальныя значэнні: *Спела прага гадамі — з хлебам знацца — ў аратых* (М. Калачынскі); *Цікавасць да гэтай праблемы абумоўлена як імкненнем асэнсаваць падзеі Вялікай Айчыннай вайны, так і жаданнем зразумець саму сутнасць гераізму ва ўсёй яго паўнаце* (ЛіМ, 1982); *Гэта думка — схадзіць да Лёні, папрасіць кветак — не выходзіла з галавы* (Х. Жычка); *Але невялікая бяда, думаў ён, не хапала яшчэ клопату многа дбаць пра сваё адзенне...* (В. Быкаў); *Сярод сваіх аднагодкаў Сцяпан вылучаўся ўменнем танцаваць* (У. Краўчанка); *Эх, мароз, эх, дзед жартлівы! Ты аматар і штукар распісаць на шыбах дзівы* (Я. Колас); *Прыйшла пара пачынаць сяўбу* (К. Чорны); *Жаданне ладзіць новы лад сюды ўсіх прывяло* (Я. Купала); ... *Балота ўсё глыбела, і ён прабіраўся па ім з усё большаю рызыкай шуснуць галавой у прорву* (В. Быкаў).

Сінонімы назоўнікава-інфінітыўных словазлучэнняў адзначаюцца ў тых выпадках, калі ёсць магчымасць замяніць інфінітыў іншай формай: *патрэба адпачыць — патрэба ў адпачынку; аматар гуляць — аматар гульні; імкненне працаваць — імкненне да працы.*

### Група 2. Назоўнік+дзеепрыметнік незалежнага стану

§ 55. Дзеепрыметнікі незалежнага стану дапасуюцца да назоўнікаў у склоне, родзе і ліку і знаходзяцца ў прэпазіцыі да іх: *Хіба мог лес паднясць адшумеўшае лісце з дарог?* (А. Куляшоў); *А каля масткоў на чыгунцы стаяў вясёлы гоман звонкіх кропель, сцякаючых у ажыўшыя рачулкі і ручайкі* (Я. Колас); *Ён прачынаўся з думкамі пра надыходзячы дзень* (І. Мележ); *Лясніцкі адчуў пах адцвітаючага бэзу і водар лугавых кветак* (І. Шамякін).

Азначальныя адносіны, якія ўласцівы словазлучэнням гэтай групы, могуць быць перададзены і іншымі спосабамі, у прыватнасці даданымі сказамі: *надыходзячы дзень — дзень, які надыходзіць; адцвітаючы бэз — бэз, што адцвітае.* Замена дзеепрыметніка ў тэксце сінанімічнымі сродкамі асабліва пажадана тады, калі ўзнікае аманімія дзеепрыметніка ў назоўным склоне і дзеепрыслоўя: *Чытаючы кнігу хлопчык нічога не заўважаў — Хлопчык, які чытаў кнігу, нічога не заўважаў; Стаяў раскінуўшы голле стары дуб — Раскінуўшы голле, стаяў стары дуб.*

### Група 3. Назоўнік+дзеепрыметнік залежнага стану

§ 56. Такія словазлучэнні будуюцца на падставе поўнага дапасавання і прэпазіцыі дзеепрыметніка: *З-пад гаці спакойна цякла перагароджаная грэбляю рэчка* (Я. Колас); *Са мною гаворыць сагрэтая сонцам зямля маладая* (П. Глебка); *На асушаным балоце вырасла густая канюшына* (Х. Жычка).

Словазлучэнні з дзеепрыметнікамі залежнага стану цяперашняга часу з суфіксамі *-ем-*, *-ім-* сустракаюцца пераважна ў навуковым стылі: *рэдагуемы рукапіс, ачышчаемае паветра, акісляемы метал. Атрымліваемыя паказчыкі патрабуюць асэнсавання...* (Весці АН БССР, 1975); *Але эксперыменты апошніх год не пацвердзілі чакаемых вынікаў* (Весці АН БССР, 1981); *Дапасаваныя азначэнні дапасуюцца да азначаемага слова ў родзе, ліку і склоне* (З падручніка). Часам

гэтыя формы ўжываюцца і ў творах мастацкай літаратуры: *Знадворку пачуўся тупат* *з а п р а г а е м ы х к о н е й* (Т. Хадкевіч).

Як і ў папярэдняй групе, сінонімамі да дзеепрыметніка (і адпаведна словазлучэння) выступаюць дададзеныя сказы: *запрагаемыя коні — коні, якіх запрагаюць.*

### Група 4. Назоўнік+дзеепрыслоўе

§ 57. Дзеепрыслоўе прымыкае ў постпазіцыі толькі да аддзеяслоўных назоўнікаў, перадаючы а з н а ч а л ь н а-а к а л і ч н а с н ы я значэнні: *Р а з м о в а с т о я ч ы не вельмі падабалася дзеду* (Я. Колас); *Пры с т р а л ь б е л е ж а ч ы Міша выбіў 98 ачкоў са 100 магчымых* (Чырвоная змена, 1980).

## *Разрад 5. Словазлучэнні назоўнікаў з прыслоўямі*

§ 58. Словазлучэнні назоўнікаў з прыслоўямі даволі пашыраны ў беларускай мове. У адпаведнасці з фармальнымі асаблівасцямі і значэннем сярод такіх канструкцый вылучаюцца дзве групы.

### Група 1. Назоўнік+якасна-акалічнаснае прыслоўе

§ 59. Гэтым словазлучэнням уласціва постпазіцыя залежнага кампанента, які прымыкае да назоўніка: *У сваім магутным п о с т у п е н а п е р а д савецкі народ змёў з дарогі ўсіх ворагаў і пабудаваў сацыялізм* (Я. Колас); *Увесь час ён прыслухоўваўся да г у к а ў а д т у л ь, з тока...* (В. Быкаў); *Але гэта быў к л о п а т н а о г у л, можна нават сказаць, на пасля* (В. Быкаў); *Непадалёку пачулася г а в о р к а п а-н я м е ц к у* (М. Лынькоў); *Зрабіўшы круты п а в а р о т у л е в а, дарога перасякала рэчку і гублялася ў далёкім лесе* (Х. Шынклер); *Ён прыслухаўся да р а з м о ў п о р у ч, але размовы былі адрывістыя і таропкія...* (В. Быкаў).

У пэўных выпадках а з н а ч а л ь н ы я адносіны могуць быць перададзены сінанімічнымі сродкамі — спалучэннем назоўніка з прыметнікам: *клопат наогул — агульны клопат; гаворка па-нямецку — нямецкая гаворка; паварот улева — левы паварот; нумарок наверсе — верхні нумарок.*

### Група 2. Назоўнік+якасна-колькаснае прыслоўе

§ 60. Для такіх словазлучэнняў характэрна значэнне м е р ы, прэпазіцыя прыслоўя, якое прымыкае да назоўніка: *зусім дурань, амаль настаўнік, ледзь не генерал, далёка не геній, крыху філосаф. Першы д в о й ч ы Г е р о й Савецкага Саюза С. І. Гаравец нарадзіўся ў вёсцы Бараўцы Мінскай губерні* (Чырвоная змена, 1979).

Сінонімаў такія словазлучэнні не маюць.

## *Разрад 6. Словазлучэнні назоўнікаў з лічэбнікамі*

§ 61. Словазлучэнні назоўнікаў з лічэбнікамі ў якасці залежнага слова ўтвараюць тры групы.

### Група 1. Назоўнік+парадкавы лічэбнік

§ 62. У такіх словазлучэннях лічэбнік займае прэпазіцыйнае становішча і дапасуецца да назоўніка ў родзе, склоне і ліку: *сёмы дзень, сёмая субота, сёмае выданне, сёмыя класы, сёмага дня, сёмай суботы, сёмага выдання, сёмых класаў... П е р ш ы тэлефонны в у з е л на шляху да райцэнтра быў у Бабінавічах...* (І. Ч ы г р ы н а ў); *Д р у г і ч ы р в о н а а р м е е ц... пайшоў пакручастай сцежкай да валатоўкі, што засціла сабой на правы бок цэлага паўнеба* (І. Чыгрынаў); *Добра мы адзначылі д в а ц ц а ц ь ш о с т у ю г а д а в і н у Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту* (Х. Жычка); *І раптам агнём і дымам дыхнуў, жалезам і свінцом секануў, фугасам і порахам выбухнуў чэрвень с о р а к п е р ш а г а г о д а* (А. Бялевіч).

У некаторых тэрміналагічных словазлучэннях назіраецца постпазіцыя лічэбніка: *том пяты, выпуск шосты, кніга першая* і пад.

У асобных выпадках словазлучэнне можа замяняцца сінанімічнай канструкцыяй з прымыкаючым лічэбнікам: *першы нумар — нумар адзін; шостая стаянка — стаянка шэсць.*

### Група 2. Назоўнік+дапасуемыя формы колькасных лічэбнікаў

§ 63. Лічэбнікі *два, дзве, абодва, абедзве, тры, чатыры* дапасуюцца да назоўнікаў ва ўсіх склонах: *два сталы, двух сталоў, двум сталам... Насупраць, крокаў за трыста, на адхонным беразе, стаяў лес, наперадзе яго, на самым узлеску, кідаліся воку д в а магутныя д у б ы* (І. Чыгрынаў); *Д з в е вясковыя д з я ў ч ы н к і збіралі ягады ў лесе* (Я. Маўр).

Гэтак жа дапасуюцца і састаўныя колькасныя лічэбнікі, якія заканчваюцца на *два, тры, чатыры: Асвоены выпуск д в у х с о т с а р а к а д в у х новых в і д а ў машын, абсталявання, прыбораў і матэрыялаў* (Звязда, 1979).

Лічэбнікі ад 5 да 20, 30 і падобныя, *двое, трое* і іншыя зборныя дапасуюцца да назоўніка ва ўсіх склонах, за выключэннем назоўнага і вінавальнага (дзе яны аказваюцца ў ролі граматычна вядучага слова і з'яўляюцца галоўным кампанентам словазлучэння): *пяці кабет, шасцю кнігамі, на трыццаці сшытках.*

Лічэбнікі *тысяча, мільён* і падобныя сінтаксічна паводзяць сябе, як і назоўнікі, кіруючы залежным кампанентам: *Дол затрос ног малайцоўскіх тупат, быццам з т ы с я ч ы г а р м а т салют* (М. Калачынскі).

### Група 3. Назоўнік+лічэбнік у назоўным склоне

§ 64. Назоўнік можа далучаць да сябе нязменную форму — назоўны склон лічэбніка — на падставе постпазіцыйнага прымыкання: *мэбля-84, дом сем, мадэль сто адзін, кватэра пяцьдзесят тры, раздзел адзінаццаць. Летам будучага года ў Ленінградзе будзе праводзіцца міжнародная выстаўка А р г т э х н і к а-76* (Звязда, 1975).

Словазлучэнні гэтай групы амаль не ўжываюцца ў гутарковай мове. Сінонімамі да іх з'яўляюцца спалучэнні назоўніка з парадкавым лічэбнікам: *дом сем — сёмы дом; раздзел адзінаццаць — адзінаццаты раздзел.* Але такія сінонімы магчымы толькі ў тых выпадках, калі словазлучэнне з прымыкаючым лічэбнікам не з'яўляецца абрэвіятурай; не маюць сінонімаў спалучэнні *мэбля-84, уран-236* і пад., паколькі яны з'яўляюцца скарачэннем складаных словазлучэнняў *мэбля тысяча дзевяцьсот восемдзесят чацвёртага года* або *мэбля ў тысяча дзевяцьсот восемдзесят чацвёртым годзе.*

## *Разрад 1. Словазлучэнні назоўнікаў са свабоднымі спалучэннямі*

### Група 1. Назоўнік+некалькі сузалежных ці падзалежных кампанентаў

§ 65. Многія пералічаныя вышэй па групах простыя словазлучэнні могуць ператварацца ў складаныя: 1) калі залежны кампанент далучае да сябе адно ці некалькі паясняльных слоў — залежны кампанент другой ступені: *дзень нараджэння — дзень нараджэння сына, барацьба за мір — барацьба за трывалы мір, вопытны інжынер — вельмі вопытны інжынер;* 2) калі галоўны кампанент далучае да сябе паясняльныя словы: *дзень нараджэння — радасны дзень нараджэння, барацьба за мір— працяглая барацьба за мір, вопытны інжынер—вопытны інжынер-эксперыментатар;* 3) калі абодва кампаненты простага словазлучэння далучаюць да сябе паясняльныя словы: *дзень нараджэння — радасны дзень нараджэння сына, барацьба за мір — працяглая барацьба за трывалы мір, вопытны інжынер — вельмі вопытны інжынер-эксперыментатар.*

Усе свабодныя складаныя словазлучэнні могуць разглядацца як вынік аб'яднання простых словазлучэнняў розных тыпаў, разрадаў і груп. Таму іх фармальная і семантыка-сінтаксічная характарыстыка ўключае характарыстыкі простых словазлучэнняў, аб'яднаных у даным складаным: *А з акон вагонаў цэлыя букеты людскіх галоў пазіраюць* (Я. Колас); *І гэта процьма ўсякіх гукаў злілася ў гул адзін вялікі* (Я. Колас); *Ці помніш ты вясняныя разлогі, чаромуху ў цвеце ляракі?* (В. Тарас); *Яны ідуць напорным крокам у краіну светлую жыцця...* (П. Трус); *Мы зноў урачыста заяўляем аб сваёй салідарнасці з нашымі зарубежнымі братамі — працоўнымі капіталістычных краін* (Звязда, 1983).

### Група 2. Назоўнік+група слоў, якія перадаюць аднародныя звязаныя паняцці

§ 66. Словазлучэнні гэтай групы будуюцца на постпазіцыйным прымыканні або слабым кіраванні з боку галоўнага кампанента групай слоў, якія выражаюць аднародныя або пэўным чынам звязаныя паняцці: *матч Карпаў—Каспараў, шаша Масква—Мінск, дыялог чалавек—машына, змова між Ізраілем і ПАР, імгненне між жыццём і смерцю.* Такія канструкцыі маюць азначальныя і азначальна-акалічнасныя значэнні; яны не могуць быць зведзены да простых словазлучэнняў: *А пасля на шашы Мінск—Бягомль засаду зрабілі на акупантаў* (А. Бялевіч); *12 жніўня 1937 года савецкія лётчыкі трэці раз вылецелі ў беспасадачны рэйс Масква — Паўночны полюс — ЗША* (Х. Жычка); ... *Я на світанні ля вёскі з радаснай трывогай саскочу з кузава на скрыжаванні шашы і баравой дарогі* (В. Матэвушаў); *Між Іванам і Васькам цячэ мірная бяседа* (М. Лынькоў); *Учора адбыўся чарговы футбольны матч «Дынама» — «Арарат»; Лік 2 : 1 на карысць гаспадароў поля* (Вяч. Мінск, 1978).

У пэўных выпадках словазлучэнні маюць сінтаксічныя сінонімы: *дарога Мінск—Слуцк — дарога ад Мінска да Слуцка; сустрэча Карпаў—Каспараў — сустрэча Карпава з Каспаравым.*

### Група 3. Назоўнік+складаная назва

§ 67. Залежны кампанент у такіх словазлучэннях выражае адно паняцце, не падлягае сінтаксічнаму падзелу, знаходзіцца ў постпазіцыі і прымыкае да галоўнага члена: *Я рушыў з двара, брыў вёскай Валова Гара* (М. Калачынскі); *Дзяржаўны тэатр лялек папоўніў свой рэпертуар спектаклем «Скажы сваё імя, салдат»* (ЛіМ, 1978); *Новы спектакль па п'есе А. Дзялендзіка «Апошнія суніцы ў жніўні» ажыццявіў Магілёўскі абласны тэатр* (ЛіМ, 1978); *У зборніку «Далёка ад дому» вершы размешчаны не тэматычна, а храналагічна...* (П. Глебка); *Больш чым 200 чалавек удзельнічае ў мастацкай самадзейнасці калгаса «Новае Палессе» Лунінецкага раёна* (Звязда, 1979); *25 красавіка гэтага года адбылося пасяджэнне Камітэта па міжнародных Ленінскіх прэміях «За ўмацаванне міру паміж народамі»* (Звязда, 1981).

Сінанімічных канструкцый такія словазлучэнні звычайна не маюць.

### Група 4. Назоўнік+сінтаксічна непадзельнае словазлучэнне

§ 68. Сінтаксічна непадзельным свабоднае словазлучэнне становіцца тады, калі яно ў пэўнай сінтаксічнай пазіцыі ўтварае адзін член сказа, хоць само па сабе або ў іншай сінтаксічнай пазіцыі яно чляніцца, як і ўсе іншыя свабодныя спалучэнні слоў. У сказе *Вось такія ўмельцы, людзі высокай свядомасці кавалі шчасце, новы побыт у Хатыні* (А. Бялевіч) сінтаксічна непадзельным з'яўляецца спалучэнне *высокай свядомасці*. Разам са словам *людзі* ўся канструкцыя (*людзі высокай свядомасці*) утварае складанае словазлучэнне.

Сінтаксічна непадзельныя словазлучэнні далучаюцца да назоўнікаў у якасці залежнага кампанента ў постпазіцыі на падставе кіравання і слабога кіравання і перадаюць пераважна азначальныя адносіны (часам з дадатковымі адценнямі).

У складзе непадзельнага словазлучэння вылучаецца граматычна вядучы кампанент і далучаны да яго абавязковы дэтэрмінатар, які можа мець розны аб'ём (адно, два, тры і болей слоў).

Найбольш тыповай пабудовай складаных словазлучэнняў гэтай групы з'яўляецца канструкцыя «назоўнік + назоўнік у родным склоне + дэтэрмінатар»: *Памёр вялікіх дум паэт* (П. Трус); *Да суладдзяў адзіных выйшлі людзі ўсіх земляў і нацый* (У. Хадыка); *Мы людзі добрай волі, і думы ў нас адны...* (А. Русак); *У зялёных галінках дрэў весела шчабяталі птушкі незвычайнага хараства* (Я. Колас); *... І Ляўчук нават падумаў: можа, і ён таксама спецыяліст высокага класа* (В. Быкаў); *Творы гераіка-патрыятычнай тэматыкі становяцца прыкметнымі вехамі ў жыцці творчых калектываў* (ЛіМ, 1980); *Для іх быў арганізаваны прагляд новай мастацкай кінаэпапеі «Полымя» вытворчасці кінастудыі «Беларусьфільм»* (ЛіМ, 1979); *Вядуцца і «баі мясцовага значэння» — супраць водгаласаў дэгераізацыі ў нашай літаратуры* (ЛіМ, 1983).

У іншых выпадках вядучы кампанент непадзельнага словазлучэння можа далучацца да галоўнага кампанента складанага словазлучэння пры дапамозе прыназоўнікаў *у, на* і асабліва часта *з*: *І доўга-доўга слухаць буду твой спеў у паўночныя часы!..* (П. Трус); *Увайшла і камісія ў поўным складзе* (Я. Колас); *Панна Варшава... падымала кілішак на ножцы гранёнай...* (Р. Барадулін); *На*

*ўсіх сваіх вялікіх мовах ён аддае загад...* (У. Хадыка); *Творы на словы Янкі Купалы займаюць важнае месца ў творчасці кампазітара* (ЛіМ, 1982); *Жылі там людзі з розных краёў* (П. Броўка); *Тэхнікум з чырвонай чарапічнай страхою стаіць над каналам* (П. Пестрак); *На ўзгорку зелянелі прысадзістыя яліны з зубчастымі вяршалінамі* (І. Гурскі); *Праляцела чарада белых з чорнымі крыламі чаек* (І. Гурскі); ... *Вось ужо прабег і апошні — растаўсцелы карнік з азызлым, счырванелым тварам* (В. Быкаў); *А мой равеснік з грэчаскім профілем спаважна пахрумствае галінкі крохкія* (Р. Барадулін); *КПСС дабіваецца ўстанаўлення прынцыпаў мірнага суіснавання як нормы ўзаемаадносін паміж дзяржавамі з розным сацыяльным ладам* (Звязда, 1985).

Пры абазначэнні меры выкарыстоўваецца творны склон без прыназоўніка: *яма глыбінёй у метр, дзік вагой пудоў на дзесяць. ... Дзяўчынка сінявокая, ростам невысокая, тварам загарэлая, з добраю душой* (А. Русак).

У склад сінтаксічна непадзельных словазлучэнняў нярэдка ўваходзяць лічэбнікі: *З гэтага іх пайкола заставаўся толькі выхад назад, зноў у лес, дзе ў ваўчыным парадку быў разрыў крокаў на дваццаць* (В. Быкаў); *Сядзіба кідалася ў вочы яшчэ ад самай вуліцы прасторнай, на дванаццаць вянкоў з падрубам хатай* (І. Чыгрынаў); *Увесь час адчувалася, быццам плывём мы па шырокай хвалі нейкай раднасай урачыстай музыкі ў сто аграмадных аркестраў* (У. Краўчанка); *Зараз там працуе камісія з трох чалавек, прызначаных райкомам* (Звязда, 1984).

У асобных выпадках непадзельнае словазлучэнне можа прымыкаць да галоўнага кампанента: *Ніжэй даецца апісанне зачысткі № 3* (Весці АН БССР, 1976).

Большасць складаных словазлучэнняў з залежным кампанентам, выражаным сінтаксічна непадзельнай групай слоў, мае сінанімічныя канструкцыі: *людзі высокай свядомасці — людзі з высокай свядомасцю; хадой прытомленага чалавека — прытомленай хадой; шчупак на два кілаграмы — двухкілаграмовы шчупак; разрыў крокаў на дваццаць — разрыў крокаў дваццаць; жанчына немаладых год — немаладая жанчына; чайкі з чорнымі крыламі — чарнакрылыя чайкі; раманс на словы Багдановіча — раманс, напісаны на словы Багдановіча; прозвішчы на дваранскі лад — дваранскія прозвішчы — прозвішчы дваранскага тыпу; дзяўчына тварам загарэлая — дзяўчына з загарэлым тварам.*

### *Разрад 2. Словазлучэнні назоўнікаў з фразеалагічнымі зваротамі*

§ 69. Словазлучэнні такой будовы выражаюць азначальныя адносіны, залежны кампанент — фразеалагізм можа займаць розныя пазіцыі адносна галоўнага кампанента і далучацца да яго на падставе кіравання, прымыкання і дапасавання: *Гм! Ты кажаш падазроцельны чалавек?— пытаецца вечарам ураднік сваю правую руку — гарбатага стражніка* (Я. Колас); *Як тут уцалець гэтай гарачай галаве — Наталі* (Ц. Гартны); *Аб незвычайным подзвігу «на людзях» марыць Міця Птах, юнак з трапяткой душой і ўзвышана-рамантычным настроем* (ЛіМ, 1978); *Тэорыя «мастацтва для мастацтва» даўно адкінута прагрэсіўным літаратуразнаўствам* (ЛіМ,

| Састаў | Залежны кампанент | Група | Асноўнае семантыка-сінтакс. значэнне | Тып сувязі | Парадак кампанентаў | Прыклад |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| Простыя | Назоўнік | наз.+наз., дапасаваны ў склоне | азнач. | дапас. | постпаз. і прэпаз. | волат-лес, срэбра-росы, дождж-вадалей, горад-герой, паэт Танк |
| | | наз. + наз. у наз. скл. | азнач. | іменнае прымык. | постпаз. | горад Баранавічы, газета «Зорка» дзень ікс, сувязь дапасаванне |
| | | наз. + наз. у родн. скл. | суб'ектн., аб'ектн., азнач., акалічн. | кірав. | постпаз. | планы партыі, сход рабочых, цана радасці, купка дрэў |
| | | наз. + наз. у дав. скл. | азнач. | кірав. | постпаз. | канец супраціўленню, служэнне Радзіме, пісьмо маці |
| | | наз. + наз. у він. скл. | азнач., акалічн. | кірав. | постпаз. | стаянка хвіліну |
| | | наз.+наз. у тв. скл. | суб'ектн., аб'ектн., азнач., акалічн. | кірав., прымык. | постпаз. | атрыманне заводам, камандаванне дывізіяй, пагрузка штабелямі, удар пугай, нос гарбінкай |
| | | наз. + прыназоўнік + + наз. у родн. скл. | азнач., акалічн. | кірав. | постпаз. | указанне з раёна, пень ад дзічкі, дарога між бяроз, лес усцяж чыгункі |
| | | наз. + прыназоўнік + наз. у дав. скл. | азнач., акалічн. | кірав. | постпаз. | дарога к базару, сабрат па пяру, аплата адпаведна норме |
| | | наз. + прыназоўнік + наз. у він. скл | аб'ектн., азнач., акалічн. | кірав. | постпаз. | змаганне за хлеб, казка пра Палессе, снег па калені, штукар на прыдумкі |
| | | наз. + прыназоўнік + наз. у тв. скл. | азнач., акалічн., аб'ектн. | кірав. | постпаз. | конь пад князем, сонца за кратамі, дзень перад аперацыяй |
| | | наз. + прыназоўнік + наз. у месн. скл. | азнач., акалічн., аб'ектн. | кірав. | постпаз. | сны аб Беларусі, хвароба ў нагах, размова па тэлефоне |
| | | наз. + нескланяльная абрэвіятура | аб'ектн., азнач., суб'ектн. | прымык. | постпаз. | член КПСС, рэктар БДУ, планы НАТО, рашэнне ПК, расісты ПАР |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Простыя | Прыметнік | наз. + якасны прыметнік са скланяльнымі формамі ступеней параўнання | азнач. | дапас. | прэпаз. | зялёны гай, найболей глухія сцежкі, прыгажэйшыя мясціны |
| | | наз. + якасны прыметнік з нескланяльнай формай вышэйшай ступені параўнання | азнач. | прымык. | постпаз. | будынак прыгажэй, легенды пачэсней |
| | | наз. + адносны прыметнік | азнач. | дапас. | прэпаз. | птушыны разнабой, жытнёвы бохан, нарачанскія хвалі |
| | | наз. + прыналежны прыметнік | азнач. | дапас. | прэпаз. | Аленчына вучонасць, зайцавы сляды |
| | | наз. + нескланяльны прыметнік | азнач. | прымык. | постпаз. | мова ваі, колер хакі, плашч рэглан |
| | | наз. + кароткі прыметнік | азнач. | дапас. | прэпаз. | сіне мора, нова святліца |
| | Займеннік | наз. + абагульнена-прадм. займеннік | аб'ектн., суб'ектн., азнач., акалічн. | кірав. | прэпаз. і постпаз. | гордасць за ўсіх, паклон вам, прапанова наконт таго, стварэнне ім |
| | | наз. + абагульнена-якасны займеннік | азнач. | дапас. | прэпаз. | наш шафёр, іншае жыццё, такія назвы, увесь лес, многія аўтары |
| | | наз. + абагульнена-кольк. займеннік | кольк. | дапас. | прэпаз. | некалькі запалак, столькі хлопцаў |
| | Дзеяслоў | наз. + інфінітыў | азнач. | прымык. | постпаз. | думка схадзіць, уменне танцаваць, час касіць |
| | | наз. + дзеепрыметнік незалежн. стану | азнач. | дапас. | прэпаз. | сцякаючыя кроплі, ажыўшыя рачулкі, алцвітаючы бэз |
| | | наз. + дзеепрыметнік залежн. стану | азнач | дапас. | прэпаз. | акісляемы метал, азначаемае слова, перагароджаная рэчка |
| | | наз. + дзеепрыслоўе | азнач. | прымык. | постпаз. | размова стоячы |
| | Прыслоўе | наз. + якасна-акалічнаснае прыслоўе | азнач., акалічн. | прымык. | постпаз. | поступ наперад, клопат наогул, размова поруч, паварот улева |
| | | наз. + якасна-колькаснае прыслоўе | акалічн. | прымык. | прэпаз. | двойчы герой, амаль студэнт |

4*

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Простыя | Лічэбнік | наз.+парадкавы лічэбнік | азнач. | дапас. | прэпаз. | сёмы дзень, сорак першы год |
| | | наз. + дапасуемыя формы колькасных лічэбнікаў | кольк. | дапас. | прэпаз. | два дубы, пяці сталоў, трыццаццю васьмю сшыткамі |
| | | наз.+лічэбнік у наз. скл. | азнач. | прымык. | постпаз. | мэбля-76, дом восем, мадэль сто адзін |
| Складаныя | Свабоднае спалучэнне слоў | наз.+некалькі сузалежных ці падзалежных членаў | — | — | — | дзень нараджэння сына, радасны дзень нараджэння сына |
| | | наз.+група слоў, якія перадаюць аднародныя звязаныя паняцці | азнач. | прымык., кірав. | постпаз. | шаша Масква—Брэст, бяседа між Іванам і Васькам |
| | | наз.+складаная назва | азнач | прымык. | постпаз. | вёска Валова Гара, п'еса «Скажы сваё слова, салдат» |
| | | наз.+сінтаксічна непадзельнае словазлучэнне | азнач. | кірав. | постпаз. | паэт вялікіх дум, людзі з розных краёў, яма глыбінёй у метр |
| | Фразеалагізм | наз.+фразеалагічнае словазлучэнне | азнач. | кірав., дапас., прымык. | постпаз. і прэпаз. | подзвіг «на людзях», тэорыя «мастацтва для мастацтва» |
| Метамоўныя | | наз. 1 (метамоўны знак) + словаформа (моўны знак) | азнач. | прымык. | постпаз. | надпіс «Не ўваходзіць», словаформа «ідзеш», займеннік *вы* |

1982); *Праследаванні, якім падвергнула чылійскіх камуністаў рэакцыя ў перыяд «халоднай вайны», не зламалі перакананага дэмакрата-антыфашыста* (Звязда, 1981); *Жыццёвы ўклад пануючых класаў быў пабудаваны па прынцыпу «падзяляй і ўладарнічай»* (Звязда, 1984).

Сінтаксічная сінаніміка ў гэтым разрадзе амаль адсутнічае, калі не лічыць пераўтварэнняў устойлівых спалучэнняў тыпу *права зрабіць выступленне — права выступіць.*

## МЕТАМОЎНЫЯ СЛОВАЗЛУЧЭННІ

§ 70. Метамоўныя словазлучэнні ўтвараюцца па мадэлі: назоўнік са значэннем, звязаным з маўленнем, мысленнем, пісьмом, мовай наогул (знак метамовы) + пэўная словаформа (знак мовы), якая прымыкае да

галоўнага кампанента і мае азначальнае семантыка-сінтаксічнае значэнне: *Байцы, забыўшы* с л о в а — с т р а х, *у смерці ласкі не прасілі* (У. Хадыка); *І выбрала* [настаўніца] *с л о в ы «п е ч», «х в о я», «л я м п а», «с в е ч к а», «б р ы т в а»* (Х. Жычка); *З а й м е н н і к вы можа ўжывацца пры звароце да адной асобы* (З падручніка); *І яшчэ многае значыла гэтае с л о в а — «з н а й ш о ў»* (І. Мележ); *І Сяргей глядзіць на гадзіннік — хутка будзе к а м а н д а п а в я р н у ц ь самалёты направа* (М. Лынькоў); *Калі была пададзена к а м а н д а «п е р а к у р ы ц ь», танкісты... нястройным гуртам накіраваліся да шасэ* (І. Мележ); *Прайшлі міма браневіка, на ім красаваўся н а д п і с «С л а в а а ф і ц э р а м»* (Я. Колас); *На запаснай пуціне, ужо недалёка ад семафора, стаяў вагон з н а д п і с а м «К а м е н д а н т»* (Я. Колас).

Як сведчаць прыклады, залежны кампанент у метамоўных словазлучэннях у пераважнай большасці выпадкаў вылучаецца тым або іншым спосабам: двукоссем, працяжнікам, курсівам і г. д., што і падкрэслівае своеасаблівасць такіх словазлучэнняў.

Спецыяльных сінтаксічных сінонімаў для метамоўных словазлучэнняў няма.

# III ТЫП. СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ПРЫМЕТНІКАМ У РОЛІ ГАЛОЎНАГА КАМПАНЕНТА

## ПРОСТЫЯ СЛОВАЗЛУЧЭННІ

### *Разрад 1. Словазлучэнні прыметнікаў з назоўнікамі*

§ 71. Словазлучэнні з прыметнікам у ролі галоўнага слова падзяляюцца на 10 разрадаў: 7 разрадаў аб'ядноўваюць простыя, 2 — складаныя і 1 — метамоўныя словазлучэнні.

#### Група 1. Прыметнік+назоўнік у родным склоне

§ 72. Словазлучэнні гэтай групы лексічна абмежаваны з боку галоўнага і залежнага кампанентаў, аднак па ўжывальнасці яны не ўступаюць словазлучэнням іншых груп. Гэтыя словазлучэнні заснаваны на сувязі кіравання, яны выражаюць а б'е к т н ы я адносіны з рознымі адценнямі.

Асабліва вялікай прадуктыўнасцю характарызуюцца словазлучэнні, у якасці галоўнага кампанента якіх выступаюць якасныя прыметнікі *поўны, варты, дастойны, годны*: *поўны ягад, варты жалю, дастойны павагі, годны гонару* і пад. У якасці залежных кампанентаў гэтых словазлучэнняў выступаюць пераважна назоўнікі з адцягненым значэннем: *Каля Нёмана рассцілаўся луг, п о ў н ы незвычайнага х а р а с т в а* (Я. Колас); *І ў п о ў н ы я ж у д а с ц і нетры ўрэжацца* [карабель], *нібы забой* (Г. Бураўкін); *Д а с т о й н ы вы п е с е н ь вялікіх паэтаў* (Я. Колас); *Пацяроб збочыў на вузенькую, у адну ступню, Галілееву сцежку, прыемна адчуваючы свой г о д н ы х в а л ы дэмакратызм* (М. Зарэцкі); *Радасць вялікая, в а р т а я ўсяго ж ы ц ц я, ахапіла чалавека* (К. Чорны).

Словазлучэнні з прыметнікам *поўны* даволі часта ўключаюць у якасці залежнага кампанента таксама і назоўнікі з канкрэтным значэннем: *Сам канал, хоць і стары, але яшчэ шырокі і п о ў н ы в а д ы, паабрастаны кустамі лазняку, сваёй праміною адплываў удаль і прападаў у да-*

*лёкім лесе* (П. Пестрак); *У галаве Аляксандра круцілася кола ўспамінаў: даўжэзныя, гаманлівыя,* *п о ў н ы я  с а л д а т* *і матросаў калідоры Смольнага* (С. Грахоўскі).

Прамым парадкам слоў у словазлучэннях з галоўнымі словамі *поўны, варты, дастойны, годны* з'яўляецца прэпазіцыя галоўнага кампанента, аднак адваротны парадак сустракаецца даволі часта, пераважна ў паэтычнай мове: *Як сонцам, радасцю сагрэты і* *ш ч а с ц я* *ўсе яны* *п а ў н ы* (Я. Колас); *Так гаворачы, яна села разам з ім, смяецца, ціхай* *р а д а с ц і  п а ў н а* (Я. Колас). Гэтыя словазлучэнні выражаюць аб'ектныя адносіны з адценнем унутранага зместу, напаўнення чым-небудзь: *варты жыцця, годны хвалы, дастойны павагі, поўны радасці.*

Прыметнікі *поўны, дастойны, варты* даволі часта ўжываюцца ў даных словазлучэннях у кароткай форме: *У цяньку старога дрэва селі, снедаюць яны, і іх сэрцы згоды, спеву, светлай* *р а д а с ц і  п а ў н ы* (Я. Колас); *Я  п о в е н  н а т х н е н н я  і радасных дум, суровай адвагі і веры жывой* (П. Панчанка); *Д а с т о й н ы  вы  п е с е н ь  вялікіх паэтаў* (Я. Колас); *Ядвіся ж* *в а р т а  т а г о,* *каб аб ёй часамі і ўздыхнуць* (Я. Колас).

Часам у мастацкай літаратуры ўжываюцца словазлучэнні прыметніка *поўны* з назоўнікамі ў творным склоне: *поўны кветкамі, поўны думкамі* і пад. *Так ён стаяў, шчуплы, і ўзбуджаны,* *п о ў н ы  немымі  б у р а м і* (К. Чорны). Такія словазлучэнні ўтвараюцца звычайна па аналогіі з адпаведнымі дзеяслоўнымі канструкцыямі з залежным назоўнікам у творным склоне, а таксама з дзеепрыметнікавымі канструкцыямі гэтага ж тыпу: *напоўніць кветкамі (думкамі), напоўнены кветкамі (думкамі),* а л е *поўны кветак (думак).* Прыметнікавыя словазлучэнні з залежным назоўнікам у творным склоне ўжываюцца таксама ў некаторых беларускіх гаворках. Для сучаснай літаратурнай мовы яны не характэрны і з'яўляюцца адхіленнем ад літаратурнай нормы.

Да словазлучэнняў з прыметнікамі *поўны, варты, дастойны, годны* прымыкаюць канструкцыі з прыметнікам *датычны: датычны прысутных, датычны кіраўніцтва, датычны справы* і пад. *У парадку дня стаялі зусім іншыя, не* *д а т ы ч н ы я* *асноўнае* *с п р а в ы* *пытанні; Ён* [Зелянок] *гаворыць, што ўсе матэрыялы,* *д а т ы ч н ы я* *сівалапаўскага* *к а л г а с а,* *мае пры сабе Якуб Лакота* (М. Зарэцкі). Але гэтыя словазлучэнні з'яўляюцца ненарматыўнымі для сучаснай беларускай мовы, яны былі характэрны пераважна для мовы першай палавіны XX ст. У сучаснай беларускай мове з прыметнікам *датычны* спалучаюцца назоўнікі ў родным склоне з прыназоўнікам *да,* якія выступаюць сінтаксічнымі сінонімамі да адпаведных беспрыназоўнікавых канструкцый: *датычны справы — датычны да справы.* Ужыванне канструкцый з родным беспрыназоўнікавым часта тлумачыцца ўплывам адпаведных дзеяслоўных канструкцый: *датычыцца справы,* а л е *датычны да справы.*

Не адпавядаюць норме літаратурнай мовы таксама часам ужывальныя канструкцыі тыпу *прагны ведаў.* У сучаснай беларускай мове з прыметнікам *прагны* звычайна спалучаюцца назоўнікі ў родным склоне з прыназоўнікам *да*: *прагны да ведаў.* Параўн.: *прагнуць ведаў, прага ведаў,* а л е *прагны да ведаў.*

### Група 2. Прыметнік+назоўнік у давальным склоне

§ 73. Словазлучэнні гэтай групы самыя прадуктыўныя сярод беспрыназоўнікавых канструкцый з прыметнікам у ролі галоўнага кампанента. Яны выражаюць а б'е к т н ы я адносіны з некаторымі адценнямі.

Асаблівай прадуктыўнасцю характарызуецца семантычная падгрупа словазлучэнняў з прыметнікамі *характэрны, уласцівы, сімпатычны, агід-*

*ны, блізкі, родны, дарагі, чужы, патрэбны, небяспечны, шкодны, вядомы, агульны, арганічны, брыдкі, варожы, прыкры, выгадны, карысны, страшны* і пад., якія маюць у якасці сінонімаў канструкцыі з назоўнікамі ў родным склоне з прыназоўнікам *для: характэрны пісьменніку — характэрны для пісьменніка; блізкі чалавеку — блізкі для чалавека; дарагі сябру — дарагі для сябра; арганічны характару — арганічны для характару; карысны справе — карысны для справы; страшны ворагу — страшны для ворага.*

Словазлучэнні гэтай падгрупы выражаюць аб'ектныя адносіны, ускладненыя адценнем эмацыянальнай ацэнкі з боку суб'екта, выражанага залежным назоўнікам у давальным склоне, напрыклад: *У памяці ўсплывалі падобныя ж блізкія і д а р а г і я  с э р ц у малюнкі, якія даводзілася яму сустракаць не адзін раз* (Я. Колас); *Жэня добраахвотна пайшла на гэту  н е а б х о д н у ю  р а д з і м е  справу* (К. Чорны); *Цяпер у яго знаходзілася гаворка, праўда, таксама ні яму, ні  с в а я к у  н е ц і к а в а я* (К. Чорны).

Да словазлучэнняў гэтай падгрупы прымыкаюць канструкцыі з прыметнікамі *рады, удзячны*, якія выражаюць аб'ектныя адносіны з адценнем эмацыянальных адносін да аб'екта, выражанага залежным назоўнікам у давальным склоне: *рады сябру, удзячны брату* і пад. У адрозненне ад разгледжаных вышэй словазлучэнняў з адценнем эмацыянальнай ацэнкі з боку суб'екта (*блізкі сябру, радасны брату (успамін)*) гэтыя словазлучэнні не маюць сінанімічных канструкцый з залежнымі назоўнікамі ў родным склоне з прыназоўнікам *для: блізкі сябру — блізкі для сябра*, а л е *удзячны сябру; радасны брату (успамін) — радасны для брата (успамін)*, а л е *рады брату*. У апошнім прыкладзе канструкцыі хоць і змяшчаюць блізкія па сэнсу прыметнікі (*радасны* і *рады*), аднак адрозніваюцца па сваіх сінтаксічных уласцівасцях, абумоўленых рознымі адценнямі аб'ектных адносін, якія выражаюцца гэтымі канструкцыямі (у канструкцыях з прыметнікам *радасны* — адценне эмацыянальнай ацэнкі з боку суб'екта; у канструкцыі з прыметнікам *рады* — адценне эмацыянальных адносін да аб'екта).

У словазлучэннях з назоўнікам у давальным склоне прыметнікі *рады, любы, мілы, дарагі* ўжываюцца ў кароткай форме: *Звяры і птушкі былі  р а д ы  в я с н е* (В. Вольскі); *Як я чакаў вясны прыходу, як я вясне і  с о н ц у  р а д!* (А. Астрэйка); *Беларусь ты мнагавёрстая, як ты  л ю б а  д з е т в а р ы!* (А. Астрэйка).

Другую шырокую і прадуктыўную падгрупу словазлучэнняў з назоўнікамі ў давальным склоне складаюць канструкцыі з прыметнікамі *адэкватны, аналагічны, адпаведны, сучасны, прапарцыянальны, сінанімічны, падуладны, верны, падкамандны, паслухмяны, пакорны, аддаты* і пад.

Словазлучэнні гэтай падгрупы не маюць сінанімічных канструкцый з назоўнікамі ў родным склоне. Яны ў адрозненне ад папярэдніх выражаюць аб'ектныя адносіны з адценнямі адпаведнасці або падпарадкаванасці: *Ён так і хацеў падысці проста да гаспадара, узяць  а д п а в е д н ы  м о м а н т у  тон — строгі, вядома, нават суровы, але не звяглівы* (М. Зарэцкі); *І вынікла новае мора,  п а к о р н а е  в о л і людской* (Я. Колас); *Параход падыходзіў да берага ціха,  п а д у л а д н ы  толькі  р у л ю* (І. Мележ); *Ляціш на захад ты, з другімі ў згодзе шляхамі, шлях мой! Ты не знаеш меж, ляціш,  н е  п а д у л а д н ы  п е р а ш к о д з е* (А. Куляшоў).

Асобна вылучаецца падгрупа словазлучэнняў «прыметнік + назоўнік у давальным склоне», якая мае ў якасці сінонімаў прыметнікавыя канструкцыі з залежнымі назоўнікамі ў творным склоне з прыназоўнікам *з: блізкі каму-н. — блізкі з кім-н.; аналагічны чаму-н. — аналагічны з*

*чым-н.; роўны каму-н.— роўны з кім-н.; родны каму-н.— родны з кім-н.* і пад. *Есць сіла, роўная красе, багатшая за ўсе багацці* (П. Глебка). Гэтыя словазлучэнні хоць і абмежаваныя з боку галоўнага слова, аднак даволі прадуктыўныя ў сучаснай беларускай мове.

Заўвага. Прыметнік *падобны* па нормах сучаснай беларускай літаратурнай мовы не можа кіраваць давальным склонам назоўнікаў, а словазлучэнні тыпу *падобны каму-н.* не адпавядаюць літаратурнай мове. Замест іх шырока ўжываюцца словазлучэнні з залежнымі назоўнікамі ў родным склоне з прыназоўнікамі *да* (*падобны да каго-н.*) і *на* (*падобны на каго-н.*), а таксама кантэкстуальна абмежаваныя словазлучэнні з назоўнікамі ў творным склоне з прыназоўнікам *з* (*падобны з кім-н.*)

Словазлучэнні «прыметнік + назоўнік у давальным склоне» заснаваны на сінтаксічнай сувязі кіравання. Прамым парадкам слоў у гэтых словазлучэннях з'яўляецца постпазіцыя залежнага кампанента. Адваротны парадак слоў сустракаецца пераважна ў паэтычнай мове, мастацкай прозе, а таксама ў гутарковым стылі мовы: *Хорам выстраіў ты, твайму воку так міл* (Я. Купала); *Скарынцы чэрствай будзеш рады* (І. Мележ).

## Група 3. Прыметнік+назоўнік у творным склоне

§ 74. Словазлучэнні гэтай групы выражаюць абмежавальныя, часавыя і прасторавыя адносіны з рознымі адценнямі. Гэтыя словазлучэнні заснаваны на сувязі кіравання і прымыкання і характарызуюцца значнай прадуктыўнасцю ў сучаснай беларускай мове: *хворы душой, небяспечны ўскладненнямі, багаты ягадамі, бедны ведамі, вядомы азёрамі, шчаслівы позіркам, абавязаны поспехам, поўны шчабятаннем, здзіўлены выглядам, моцны дружбай, здаровы целам, ціхі характарам, невялікі ростам, кволы сэрцам, хударлявы тварам, стройны станам, дзіўны гучаннем, шчодры душой, цікавы навізною, падобны голасам, баязлівы характарам, прывабны свежасцю, знакаміты адкрыццямі, бадзёры духам, карысны навукай, прыемны гучаннем, шумны гоманам, чароўны прыгажосцю, вязкі месцамі.*

Словазлучэнні з абмежавальна-аб'ектнымі адносінамі складаюць колькасна невялікую падгрупу, аднак з'яўляюцца даволі прадуктыўнымі: *задаволены вынікам, горды поспехам, поўны ягадамі, славуты зубрамі, вядомы вершамі, знакаміты творамі, багаты баравікамі, бедны расліннасцю, характэрны стылем, шчаслівы жыццём, абавязаны поспехам, хворы духам.*

Гэтыя словазлучэнні пабудаваны на аснове сувязі кіравання. Прамым парадкам слоў з'яўляецца постпазіцыя залежнага кампанента: *Мы моцныя духам, загартаваным у барацьбе* (С. Грахоўскі); [Моладзь] *была гордая свядомасцю, што зрабіла вялікую справу* (Я. Колас); *Так ён стаяў, шчуплы і ўзбуджаны, поўны немымі бурамі* (К. Чорны); *У сваім родным краі, імя якому Беларусь, жыве беларускі народ, слаўны сваёй шматвяковай гісторыяй, сваімі нацыянальнымі духоўнымі багаццямі* (К. Чорны); *Будучы цяжарнай трэцім дзіцем, яна* [маці] *пайшла з бацькам на рум варочаць калоды* (І. Гурскі); *Ды глянь: набухшы ў кожнай баразёнцы, цяжарная ўраджаямі ралля ў павітухі запрашае сонца* (П. Макаль).

Адваротны парадак слоў ужываецца пераважна ў паэтычных творах, мастацкай прозе, а таксама ў сказах з адмоўем: *Прасцяг даждж‹ам›і повен* (П. Панчанка); *Бабруйск не бабрамі, а Тураў не турамі сягоння вядомы. Славуты яны героямі працы, савецкай культураю, адважным змаганнем у часе вайны* (П. Панчанка).

Прыметнікі *слаўны, поўны, вядомы, славуты, горды, багаты, бедны* і падобныя ў складзе словазлучэнняў з назоўнікамі ў творным склоне часта ўжываюцца ў кароткай форме: *Быў гэты дом усім в я д о м і слаўнай п р а ц а й і д а б р о м, сваёй гасціннасцю, цяплом* (П. Броўка); *І Магілёў стаў с л а в е н з а в о д а м і і фабрыкамі* (К. Чорны).

Словазлучэнні з прыметнікамі *багаты, бедны* маюць сінанімічныя канструкцыі з залежнымі назоўнікамі ў вінавальным склоне з прыназоўнікам *на: багаты грыбамі — багаты на грыбы; бедны лясамі — бедны на лясы.* Такая сінанімічнасць характэрна пераважна словазлучэнням з залежнымі назоўнікамі канкрэтнага значэння. Словазлучэнні з адцягненымі назоўнікамі ў вінавальным склоне з прыназоўнікам *на* з'яўляюцца менш прадуктыўнымі ў параўнанні з адпаведнымі словазлучэннямі з залежнымі назоўнікамі ў творным склоне, параўн.: *багаты радасцямі — багаты на радасці; бедны ўспамінамі — бедны на ўспаміны.*

Словазлучэнні з прыметнікам *вядомы* маюць сінанімічную канструкцыю з залежным назоўнікам у месным склоне з прыназоўнікам *па*, хоць апошняя характарызуецца значна меншай прадуктыўнасцю, параўн.: *знаёмы вершамі — знаёмы па (сваіх) вершах.*

Для большасці прыметнікаў характэрна двайное кіраванне: назоўнікам у давальным склоне і назоўнікам у творным склоне. У такіх выпадках больш ужывальным і стылістычна правільным з'яўляецца выкарыстанне ў якасці залежнага кампанента назоўніка ў месным склоне, параўн.: *знаёмы (Сцяпану) па работах і знаёмы (Сцяпану) работамі.* Аднак пры ўдакладненні залежнага назоўніка пэўнымі азначэннямі словазлучэнні з назоўнікамі ў творным склоне з'яўляюцца стылістычна правільнымі і шырока ўжывальнымі ў літаратурнай мове, параўн.: *знаёмы Сцяпану работамі — знаёмы Сцяпану выдатнымі работамі, знаёмы Сцяпану сваімі работамі.*

Словазлучэнні з а б м е ж а в а л ь н а-ў д а к л а д н я л ь н ы м значэннем заснаваны на сувязі іменнага прымыкання: *важны вынікамі, відны сабой, невысокі ростам, слабы сэрцам, небяспечны ўскладненнямі, рэзкі характарам, глыбокі зместам, бадзёры духам, бледны тварам, бедны ўбранствам, слабы вачыма, цяжкі выкладам, грозны гневам, малодшы званнем, стройны станам, хударлявы тварам, цікавы замалёўкамі, каштоўны навізною* і інш.

Словазлучэнні гэтай падгрупы ўтвараюцца разнастайнымі якаснымі і некаторымі колькаснымі прыметнікамі і характарызуюцца вялікай прадуктыўнасцю: *Сасннякі густыя з пералескамі, хмызнякі, парослыя лазой, толькі і в ы д а т н ы я п р а л е с к а м і, верасам, куп'ём і дзеразой* (П. Глебка); *Высокі, б я л я в ы т в а р а м, ён* [Алесь] *выгадна адрозніваўся ад заняпалага Казюка* (П. Броўка); *Гэта і н т э р н а ц ы я н а л ь н ы сваёй д у ш о й і сэрцам чалавек* (К. Чорны).

Вельмі рэдка словазлучэнні з залежным назоўнікам у творным склоне могуць утварацца адноснымі прыметнікамі, у прыватнасці прыметнікамі з суфіксам *-ск*, утворанымі ад геаграфічных назваў: *Яна н е с т ы ч ы н с к а я р о д а м* (А. Чарнышэвіч).

Словазлучэнні з прыметнікамі *важны, рэзкі, глыбокі, бедны, цяжкі, малады, цікавы* і падобнымі маюць сінанімічныя канструкцыі з залежнымі назоўнікамі ў месным або давальным склоне з прыназоўнікам *па: важны вынікамі — важны па выніках; рэзкі характарам — рэзкі па характару; глыбокі зместам — глыбокі па зместу; бедны ўбранствам — бедны па ўбранству; цяжкі выкладам — цяжкі па выкладу; малады духам — малады па духу; цікавы зместам — цікавы па зместу.*

Словазлучэнні з прыметнікамі *слабы, хворы, хударлявы, здаровы*

маюць сінанімічныя канструкцыі з залежнымі назоўнікамі ў вінавальным склоне з прыназоўнікам *на: слабы вачыма — слабы на вочы; хворы сэрцам — хворы на сэрца; хударлявы тварам — хударлявы на твар; здаровы целам — здаровы на цела.*

Асобныя словазлучэнні з гэтымі прыметнікамі маюць сінанімічныя канструкцыі з назоўнікамі ў месным склоне з прыназоўнікам *па* і з назоўнікамі ў месным склоне з прыназоўнікам *на*, а таксама канструкцыі з назоўнікамі ў родным склоне з прыназоўнікам *з: бадзёры выглядам — бадзёры па выгляду — бадзёры на выгляд — бадзёры з выгляду; хударлявы тварам — хударлявы па твары — хударлявы на твар — хударлявы з твару.*

Сярод словазлучэнняў з абмежавальна-ўдакладняльным значэннем вылучаецца падгрупа словазлучэнняў з адценнямі:

удакладнення ўнутранага зместу: *шчаслівы жыццём, горды працай, шумны гоманам, відны сабой, асаблівы выкананнем, карысны навукай, чароўны прыгажосцю* і пад. *Мы у л ю б ё н ы я с э р ц а м і ў мір і спакой, мы шчаслівыя сённяшнім днём* (К. Кірэенка);

абумоўленасці і прычыны: *нікчэмны слабасцю, страшны памерам, шчаслівы перамогай, непрыемны вільгаццю, жудасны цеменню* і пад. *На гэтым балотным прасторы пападаюцца вузкія палосы вады, с т р а ш н ы я сваёю м а ў к л і в а с ц ю і глыбінёй* (Я. Колас). Гэтыя словазлучэнні сінанімічны канструкцыям з прыназоўнікамі *ад, у выніку, з-за* і назоўнікамі ў родным склоне, а таксама складаназалежным сказам са злучнікамі *таму што, у выніку таго што, дзякуючы таму што, з-за таго што: страшны цеменню — страшны ад (у выніку, з-за) цемені — страшны, таму што (у выніку таго што, з-за таго што) цемень; шчаслівы перамогай — шчаслівы ад (у выніку) перамогі — шчаслівы, таму што (у выніку таго што, дзякуючы таму што) перамога.*

З а ў в а г а. Словазлучэнні з прыметнікамі *пахучы, бліскучы* і залежнымі назоўнікамі ў творным склоне (*пахучы смалою, бліскучы формай*), якія часам ужываюцца ў мастацкай літаратуры, не адпавядаюць норме сучаснай беларускай мовы. Замест іх патрэбна выкарыстоўваць канструкцыі з прыназоўнікамі *ад, у* і назоўнікамі роднага і меснага склонаў, параўн.: *пахучы смалою* (*хвойнік*) — *пахучы ад смалы* (*хвойнік*); *бліскучы формай* (*афіцыянт*) — *бліскучы ў форме* (*афіцыянт*).

Словазлучэнням з адценнямі ўдакладнення ўнутранага зместу і абумоўленасці, прычыны звычайна ўласціва постпазіцыя залежнага кампанента. Адваротны парадак слоў сустракаецца рэдка, пераважна ў паэтычных творах: *Там працавітыя, х л е б а м н е с ы т ы я, снуюцца людскія цені* (Я. Купала); *Мы м о л а д а с ц ю вечнаю к р ы л а т ы* (А. Вялюгін).

Словазлучэнні «прыметнік + назоўнік у творным склоне», якія выражаюць ч а с а в ы я адносіны, з'яўляюцца адзінкавымі: *сумны ранкам, вечарамі вясёлы* і пад. Гэтыя словазлучэнні заснаваны на сувязі прымыкання. Яны не маюць замацаванага месца галоўнага і залежнага кампанентаў, параўн.: *Сцяпан быў з а к л а п о ч а н ы р а н к а м і Сцяпан быў р а н к а м з а к л а п о ч а н ы.*

Словазлучэнні з п р а с т о р а в а - л а к а л ь н ы м значэннем таксама адзінкавыя, яны абмежаваны з боку залежнага кампанента. Як і словазлучэнні з часавымі адносінамі, гэтыя канструкцыі заснаваны на сувязі прымыкання і не маюць замацаванага месца галоўнага і залежнага кампанентаў: *Дно возера м я с т а м і в я з к а е, мулаватае, м я с т а м і т у п к а е з дробненькім, жоўценькім пясочкам* (Я. Колас); *Угары паслаўся цёмна-сіні прастор, р а б а в а т ы м е с ц а м і ад кавалкаў пушыстых хмар* (П. Галавач).

### Група 4. Прыметнік+прыназоўнік+назоўнік у родным склоне

§ 75. Словазлучэнні гэтай групы выражаюць камплетыўныя і аб'ектныя адносіны.

Канструкцыі з камплетыўнымі (дапаўняльнымі) адносінамі заснаваны на сувязі кіравання. Гэта словазлучэнні з прыназоўнікамі *з, сярод* і прыметнікамі найвышэйшай ступені параўнання: *самы моцны з каманды, смялейшы (самы смелы) з хлопцаў, самы старэйшы з жыхароў, старэйшы з калгаснікаў, самая блізкая з вёсак, найбліжэйшы з хутароў; найлепшы сярод людзей, самы блізкі сярод аднагодкаў, старэйшы сярод дзяцей* і інш. У якасці залежных кампанентаў у такіх словазлучэннях выступаюць назоўнікі множнага ліку або назоўнікі са значэннем множнасці: *бліжэйшы з дамоў, самы бойкі сярод дзяцей, самы шкодны са статку* і інш.

Да словазлучэнняў з камплетыўнымі адносінамі належаць таксама канструкцыі з прыметнікамі *апошні, бліжні, сярэдні, крайні, пярэдні,* а таксама з парадкавымі лічэбнікамі: *апошні з шарэнгі, сярэдні з калоны, крайні з будынкаў, першы з коннікаў. Крайнія з натоўпу пачалі адступацца і цісну́цца* (К. Крапіва); *Яна ачуняла амаль што апошняя з тыфозных хворых* (І. Шамякін).

Камплетыўныя адносіны могуць часткова перадавацца таксама канструкцыямі з прыназоўнікамі *у, на* і назоўнікамі ў форме меснага склону: *лепшы з класа — лепшы ў класе; самы вядомы з завода — самы вядомы на заводзе; першы з калоны — першы ў калоне.*

Камплетыўныя адносіны выражаюць і канструкцыі з прыназоўнікамі *ад, да, для* і назоўнікамі ў родным склоне: *адметны ад сяброў, далёкі ад жыцця, вольны ад заняткаў, блізкі ад лесу; ахвочы да ласункаў, схільны да самоты, падкі да сенсацый, сквапны да грошай; адзіны для вучняў, аднолькавы для супрацоўнікаў, цяжкі для студэнтаў, звычайны для людзей, важны для працоўных, характэрны для пісьменніка* і пад.

Камплетыўныя адносіны ў словазлучэннях з прыназоўнікам *ад* ускладняюцца акалічнасным (прасторавым) адценнем: *Галена пайшла па дарозе і выйшла да крайняй ад балота хацінкі* (К. Чорны); *Ля крайніх ад рэчкі хат мітусіліся людзі* (М. Лынькоў); *А сам Лайзак пайшоў у суседні ад сваёй вёскі фальварак* (П. Броўка).

Для выражэння камплетыўных адносін з прасторавым адценнем часам ужываюцца словазлучэнні з прыназоўнікам *к* і назоўнікамі ў давальным склоне: *бліжэйшы ад лесу — бліжэйшы к лесу, крайні ад шашы — крайні к шашы, бліжэйшы ад вёскі — бліжэйшы к вёсцы. Неўзабаве ... яго ўвагу ўзяў на сябе самы бліжэйшы к лесу дамок* (К. Чорны).

Словазлучэнні з прыназоўнікам *да* выражаюць камплетыўныя адносіны, ускладненыя аб'ектным адценнем: *Мой Андрэй быў характару мяккага, схільны да плачу* (В. Таўлай); *Аж пыл узняўся над усім сялом, калі гэтыя завішныя і ёмкія да працы людзі пачалі ламаць коміны* (М. Лынькоў); *Нястомны Шпунт, не трэба з яго кпіць: да працы ён руплівы і ахвочы* (А. Зарыцкі).

Для выражэння камплетыўных адносін з аб'ектным адценнем з прыметнікамі *сквапны, хціві, ласы, ахвочы* і падобнымі ўжываюцца таксама словазлучэнні з прыназоўнікам *на* і залежнымі назоўнікамі ў форме вінавальнага склону: *сквапны да дабра — сквапны на дабро, ласы да пачастункаў — ласы на пачастункі, падкі да хвалы — падкі на хвалу* і пад. *Народ усё шляхтаваты, на чужую пачостку сквапны* (К. Крапіва); *І гэта ноч, як бы жывая, і быццам нешта яна знае, але*

*аб тым казаць не хоча, бо* *н а р а з м о в ы н е а х в о ч а* (Я. Колас).

Словазлучэнні з прыназоўнікам *для* выражаюць камплетыўныя адносіны, ускладненыя абмежавальна-аб'ектным адценнем: *То былі водсветы людскіх паселішч, новых, буйных, н я з в ы ч н ы х д л я былой соннай ц і ш ы н і гэтага краю* (М. Лынькоў); *Мост быў разбураны. Іншыя з р у ч н ы я д л я п е р а п р а в ы месцы знаходзіліся далёка* (І. Мележ); *Ён ніяк не адважыцца ахвяраваць пэўную колькасць слоўнага матэрыялу на тое, каб зрабіць п'есу больш сціслай і, галоўнае, п р ы д а т н а й д л я п а с т а н о ў к і* (К. Крапіва). Для выражэння камплетыўных адносін з абмежавальна-аб'ектным адценнем часткова ўжываюцца таксама канструкцыі з давальным беспрыназоўнікавым: *У памяці ўсплывалі падобныя ж блізкія і д а р а г і я с э р ц у малюнкі, якія даводзілася яму сустракаць не адзін раз* (Я. Колас).

Прамым парадкам слоў у словазлучэннях з камплетыўнымі адносінамі з'яўляецца постпазіцыя залежнага кампанента. Адваротны парадак слоў сустракаецца адносна рэдка: *Ён д а я д ы не так быў п а д а к* (Я. Колас).

Канструкцыі з а б ' е к т н ы м і адносінамі складаюць адну з самых прадуктыўных падгруп. Яны заснаваны на сувязі кіравання і ўжываюцца з прыназоўнікамі *да, для, ад, без, з, супраць (супроць), адносна:*

*чулы да людзей, даходлівы да чытача, роўны да ўсіх, непрымірымы да ворагаў, патрабавальны да сябе, ветлівы да гасцей, нераўнадушны да клопатаў, прывычны да працы, падобны да сястры, уважлівы да ўсяго, шчыры да сяброў;*

*абавязковы для вучняў, непрыкметны для вока, карысны для грамадства, характэрны для пісьменніка, правамерны для аналізу, зразумелы для чытача, цікавы для навукі, карысны для людзей, спрыяльны для росту, тыповы для рэчаіснасці, традыцыйны для літаратуры, смешны для дзяцей, спажыўны для раслін, непрыкметны для вока* і інш.;

*неаддзельны ад жыцця, неадлучны ад сяброў, залежны ад умоў, вольны ад заняткаў, чысты ад прымесей, незалежны ад рашэння, адметны ад сяброў;*

*смутны без прычыны, вінаваты без віны, вясёлы без песень, яркі без падмалёўкі, гладкі без шліфоўкі, прыгожы без прыкрас;*

*багаты з зямлі, зразумелы з паводзін, выразны з пастановы;*

*эфектыўны супраць пустазелля, устойлівы супраць палягання, бездапаможны супраць камароў, бязлітасны супраць ворагаў, вышэйшы супраць мінулага (паказчык), стомлены супраць ночы;*

*сіметрычны адносна будынка, невысокі адносна даўжыні, варыянтны адносна канчатка (грам.), надзейны адносна захавальнасці.*

Аб'ектныя адносіны ў словазлучэннях з прыназоўнікам *да* ўскладняюцца абмежавальным адценнем: *уважлівы да дзяцей, шчыры да сяброў, падобны да сястры, кемлівы да навукі, патрабавальны да таварышаў. Ён падумаў, што быў вельмі н е с п р а в я д л і в ы д а свае ў н у ч к і* (К. Чорны); *Д а в е р л і в ы я д а л ю д з е й, яны* [буслы] *кружылі зусім нізка над хатай* (В. Вітка); *Старшы сяржант Львоў п а т р а б а в а л ь н ы д а т а в а р ы ш а ў* (Х. Шынклер); *Вы занадта с т р о г а я д а л ю д з е й* (К. Крапіва).

Пераважная частка словазлучэнняў з прыназоўнікам *да* ўтварае сінанімічныя пары з канструкцыямі з прыназоўнікам *к* і залежнымі назоўнікамі ў давальным склоне, хоць апошнія значна менш ужывальныя ў сучаснай беларускай мове: *уважлівы да дзяцей — уважлівы к дзецям; шчыры да сяброў — шчыры к сябрам; патрабавальны да таварышаў — патрабавальны к таварышам.* Прыкладна аднолькавай ужывальнасцю з канструкцыямі з прыназоўнікам *да* характарызуецца па-

раўнальна невялікая частка словазлучэнняў з прыназоўнікам *к*, якія маюць у якасці галоўнага кампанента аддзеяслоўныя прыметнікі: *гатовы к бою, прывычны к рабоце, успрымальны к музыцы, патрабавальны к таварышам, непрымірымы к недахопам.* Параўн.: *Сані г а т о в ы былі д а в ы е з д у* (К. Чорны) і *Г а т о в ы к а д п р а ў ц ы эшалон стаяў на станцыі* (М. Лынькоў). У падобных выпадках выбар прыназоўніка часта абумоўлены патрабаваннямі лёгкасці вымаўлення і мілагучнасці: *успрымальны да кінамастацтва (не к кінамастацтву), патрабавальны да Каці (не к Каці)* і пад.

Значная частка словазлучэнняў з прыназоўнікам *да*, пераважна з якаснымі прыметнікамі неаддзеяслоўнага паходжання ў якасці галоўнага кампанента, сінанімічна адпаведным канструкцыям з прыназоўнікам *з* і з залежным назоўнікам у творным склоне: *ветлівы да гасцей — ветлівы з гасцямі; суровы да людзей — суровы з людзьмі; чулы да дзяцей — чулы з дзецьмі; роўны да ўсіх — роўны з усімі; жорсткі да ворагаў — жорсткі з ворагамі.* Словазлучэнні гэтай семантыкі з прыназоўнікам *з* маюць абмежаванні і з боку залежнага кампанента: у ролі апошняга могуць выступаць толькі адушаўлёныя назоўнікі, што абумоўлена спецыфічным адценнем у семантыцы гэтых канструкцый, якая не супадае цалкам з семантыкай адпаведных словазлучэнняў з прыназоўнікам *да.*

Некаторыя словазлучэнні з прыназоўнікам *да* сінанімічны і канструкцыям з прыназоўнікам *к*, і канструкцыям з прыназоўнікам *з*, утвараючы трохчленны сінанімічны рад: *міласэрны да хворых — міласэрны к хворым — міласэрны з хворымі; бязлітасны да прыгонных — бязлітасны к прыгонным — бязлітасны з прыгоннымі; уважлівы да людзей — уважлівы к людзям — уважлівы з людзьмі.* Галоўнымі кампанентамі такіх словазлучэнняў выступаюць якасныя прыметнікі пераважна неаддзеяслоўнага ўтварэння, залежнымі — адушаўлёныя назоўнікі.

Словазлучэнні з прыметнікам *падобны* ўтвараюць сінанімічныя пары з адпаведнымі канструкцыямі з прыназоўнікам *на: падобны да брата — падобны на брата.* Параўн.: *Ясь Ліскоўскі быў зусім н е п а д о б е н д а б р а т а* (Я. Колас) і *Насустрач ёй узыходзіць высокі і стары чалавек, таксама з твару вельмі п а д о б н ы н а С а ш к у* (К. Чорны). У словазлучэннях з залежнымі назоўнікамі, якія абазначаюць асоб, ужывальнасць абедзвюх канструкцый прыкладна аднолькавая, з некаторай перавагай канструкцый з прыназоўнікам *да*, а ў словазлучэннях з неадушаўлёнымі назоўнікамі ўжыванне прыназоўніка *да* значна больш пашыранае ў параўнанні з ужываннем прыназоўніка *на*, параўн.: *(выпадак) падобны да здарэння — (выпадак) падобны на здарэнне; (комплекс) падобны да збудаванняў — (комплекс) падобны на збудаванні.*

Словазлучэнні з прыметнікамі *кемлівы, здольны, здатны* і падобнымі могуць утвараць сінанімічныя пары канструкцый з прыназоўнікам *на* і залежным назоўнікам у форме вінавальнага склону: *здатны да выдумак — здатны на выдумкі; кемлівы да жартаў — кемлівы на жарты* і пад.

Канструкцыі з аб'ектным значэннем з прыназоўнікам *для* ўскладняюцца абмежавальным адценнем з боку праяўлення прыметы, выражанай прыметнікам: *памятны для сяброў, незвычайны для дзяцей, новы для сяльчан, чужы для прысутных, смешны для дзяцей. Ён рухаўся хутка і спрытна, в е л ь м і в я л і к і д л я гэтай маленькай к у з н і, але усё ў яго выходзіла хутка і прызвычаена* (Э. Самуйлёнак).

Значная частка словазлучэнняў з аб'ектнымі адносінамі з пры-

зоўнікам *для* сінанімічна беспрыназоўнікавым канструкцыям з залежным назоўнікам у форме давальнага склону: *даступны для чытача — даступны чытачу; характэрны для творчасці — характэрны творчасці* і пад. Адносіны сінаніміі не распаўсюджваюцца на параўнальна невялікую частку словазлучэнняў з адценнем адпаведнасці — неадпаведнасці: *вялікі для брата — вялікі брату*, а л е толькі *вялікі для маленькага пакоя; цяжкі для студэнтаў — цяжкі студэнтам*, а л е толькі *цяжкі для пажылога ўзросту*. Ненарматыўным з'яўляецца таксама ўтварэнне сінанімічных канструкцый з давальным беспрыназоўнікавым, адпаведных прыназоўнікавым з моцна выражаным часава-абмежавальным, мэтава-абмежавальным, аб'ектна-абмежавальным і іншымі абмежавальнымі адценнямі: *характэрны для часу, папулярны для перыяду, знамянальны для эпохі, тыповы для стагоддзя, нармальны для ўзросту, дастатковы для завяршэння, каштоўны для навукі, неабходны для вырошчвання, эфектыўны для выхавання, недастатковы для аналізу, павучальны для прысутных, агульны для студэнтаў, традыцыйны для літаратуры, аўтарытэтны для моладзі, памятны для сяброў* і пад.

Словазлучэнні з прыназоўнікамі *ад, без, з* таксама выражаюць аб'ектныя адносіны, ускладненыя абмежавальным адценнем: *У в о л ь н ы я а д баявых а п е р а ц ы й дні да бацькі Мірона збіралася багата людзей па розных справах* (М. Лынькоў); *Камбінат стаў для сотняў крушынцаў н е а д д з е л ь н ы м а д іхняга ж ы ц ц я* (Б. Мікуліч); *Ты р а з у м е н б е з н а в у к і* (Я. Колас); *Дый усмешкі на капрызныя і б е з п а д м а л ё ў к і я р к і я губкі было не пазычаць дзяўчыне* (М. Лужанін); *Так паказаць героя, каб яго душэўны стан быў з р а з у м е л ы з д з е я н н я ў* (П. Галавач).

З а ў в а г а. Словазлучэнні з прыназоўнікам *з* тыпу *давольны з пастановы, давольны з канцоўкі* не з'яўляюцца прадуктыўнымі і паступова выходзяць за межы літаратурнай нормы. Замест іх шырока ўжываюцца канструкцыі з творным беспрыназоўнікавым: *задаволены (давольны) пастановай, задаволены (давольны) канцоўкай*. Параўн.: *Я быў з а д а в о л е н ы з непрадбачанай к а н ц о ў к і* (Х. Шынклер); *Усе д а в о л ь н ы з п а с т а н о в ы — нежанаты і жанаты* (Я. Купала).

Словазлучэнні з прыназоўнікамі *ад, без, з* з аб'ектным значэннем практычна не маюць сінонімаў. Выключэннем з'яўляюцца адзінкавыя словазлучэнні з прыметнікамі *адметны, адрозны* і семантычна блізкімі да іх з прыназоўнікам *ад*, якія сінанімічны канструкцыям з прыназоўнікамі *паміж(між), сярод* і залежнымі назоўнікамі ў форме роднага склону: *адметны ад сяброў — адметны паміж (між), сярод сяброў; адрозны ад прысутных — адрозны паміж (між), сярод прысутных*. Канструкцыі з прыназоўнікамі *паміж (між), сярод* маюць некаторую семантычную спецыфіку, абумоўленую значэннем гэтых прыназоўнікаў.

Прыметнік *пераходны*, як і адпаведны дзеяслоў, кіруе часта формамі роднага склону з прыназоўнікам *ад* і *на*: *Нярэдка можна сустрэць верш, які з'яўляецца п е р а х о д н ы м а д а д н а г о р а з м е р у д а д р у г о г а* (К. Крапіва).

Словазлучэнні з прыназоўнікам *супраць (супроць)* з аб'ектным значэннем ускладняюцца абмежавальным адценнем: *У с т о й л і в ы я с у п р а ц ь п а л я г а н н я сарты ячменю на тарфяна-балотных глебах адрозніваюцца ад малаўстойлівых радам марфалагічных адзнак* (Весці АН БССР, 1982). Яны сінанімічны функцыянальна абмежавальным словазлучэнням з састаўным прыназоўнікам *у адносінах* і часткова — словазлучэнням з прыназоўнікамі *адносна, да*: *эфектыўны супраць пустазелля — эфектыўны ў адносінах пустазелля — эфектыўны адносна пустазелля* (амаль не ўжывальнае); *устойлівы супраць паля-*

*гання — устойлівы ў адносінах палягання — устойлівы адносна палягання — устойлівы да палягання; бездапаможны супраць камароў — бездапаможны ў адносінах камароў* (стылістычна няправільнае) — *бездапаможны адносна камароў.*

Да словазлучэнняў з прыназоўнікам *супраць* з аб'ектнымі адносінамі прымыкаюць словазлучэнні з адценнем параўнання: *невысокі супраць сяброў, здаровы супраць Мікіты* і пад. *Супраць Красуцкага ён быў невялікі* (Я. Скрыган). У адрозненне ад словазлучэнняў з аб'ектна-абмежавальнымі адносінамі словазлучэнні з аб'ектна-параўнальнымі адносінамі не маюць сінанімічных канструкцый з прыназоўнікамі *у адносінах, адносна, да,* а ўжывальныя часам канструкцыі такога тыпу з'яўляюцца стылістычна няправільнымі: *устойлівы супраць палягання — устойлівы ў адносінах (адносна, да) палягання,* але толькі *здаровы супраць Мікіты.*

Словазлучэнні з прыназоўнікам *адносна* з'яўляюцца малапрадуктыўнымі. Яны выражаюць аб'ектна-абмежавальныя адносіны: *Круг узбуджальных цел ... абмяжоўваецца ў асноўным двухмернымі формамі, што ствараюць сіметрычны адносна восі цела эфект* (Весці АН БССР, 1982). Некаторыя з іх сінанімічны канструкцыям з прыназоўнікамі *да, па* і назоўнікамі ў форме адпаведных ускосных склонаў, а таксама беспрыназоўнікавым канструкцыям з залежнымі назоўнікамі ў форме давальнага склону: *сіметрычны адносна будынка — сіметрычны да будынка — сіметрычны будынку; варыянтны адносна націску — варыянтны па націску; надзейны адносна захавальнасці — надзейны па захавальнасці* і пад.

Прамым парадкам слоў у словазлучэннях з аб'ектнымі адносінамі з'яўляецца постпазіцыя залежнага кампанента. Адваротны парадак слоў сустракаецца рэдка, пераважна ў мастацкай літаратуры (часцей у паэзіі) і ў размоўным стылі мовы: *Ад усёй грамады чалавек выбарны* (К. Чорны); *Старшы сяржант Львоў патрабавальны да таварышаў* (Х. Шынклер); *Сама зямля без гною тлуста* (Я. Колас); *На ўскраіну з песняй прыйшоў лістапад — без слоў галасісты, вясёлы без кветак* (У. Хадыка).

Словазлучэнні «прыметнік + прыназоўнік + назоўнік у родным склоне», якія выражаюць прасторавыя адносіны, прадстаўлены ў сучаснай беларускай мове таксама даволі разнастайнымі па ўжывальнасці і стылістычнай афарбоўцы канструкцыямі з прыназоўнікамі *ад, да, з, з-за, сярод, паміж (між), каля, вышэй, ніжэй,* заснаванымі на сувязі прымыкання:

*процілеглы ад лесу, бліжні ад горада, пярэдні ад шашы, апошні ад краю;*

*бліжні да парку, бліжэйшы да вёскі, доўгі да пят, мокры да пояса;*

*непрыкметны з зямлі, пагнуты з краёў, патрэсканы з канцоў, цёмны з сярэдзіны, хмарны з краю, апошні з краю;*

*нявідны з-за хмар, нябачны з-за павароту, глыбокі сярод дрэў, моцны сярод поля;*

*рыхлы паміж (між) купін, зацішны паміж (між) будынкаў;*

*свежы каля ракі, вільготны каля балота;*

*сухі вышэй лесу, мокры вышэй пояса, загарэлы ніжэй лакцей* і пад.

Словазлучэнні з прыназоўнікам *ад* хоць і абмежаваныя колькасна, аднак па ўжывальнасці не ўступаюць іншым прадуктыўным канструкцыям: *Вартавы хуценька падаўся назад і застыў у цяньку на бяспечнай ад зямлянкі дыстанцыі* (М. Лынькоў); *Гэта адбывалася можа нават на той самай апошняй ад фронту станцыі* (К. Чорны); *А сам Лайзан пайшоў у суседні ад сваёй вёскі фальварак*

(П. Броўка); Асобныя з гэтых словазлучэнняў сінанімічны канструкцыям з прыназоўнікамі *з, к*: *апошні ад краю — апошні з краю; бліжэйшы ад вёскі — бліжэйшы к вёсцы; першы ад лесу — першы к лесу.* Адзінкавыя словазлучэнні з прыметнікам *бліжэйшы* сінанімічны канструкцыям з прыназоўнікамі *да*: *бліжэйшы ад вёскі — бліжэйшы да вёскі; першы ад возера — першы да возера.*

Словазлучэнні з прасторавымі адносінамі з прыназоўнікам *да* складаюць малапрадуктыўную і колькасна невялікую падгрупу: *І на далёкіх тылавых базах, і на б л і з к і х д а ф р о н т у пляцоўках — ля самалётаў дзяжураць г а т о в ы я д а в ы к а н а н н я задання лётчыкі* (Х. Шынклер); *Д а п о я с а м о к р ы, цяжкай мядзвежай хадой ён чмакаў па залітым лузе* (Я. Брыль).

Па сваёй семантыцы і па сінтаксічных асаблівасцях гэтыя словазлучэнні падзяляюцца на дзве часткі: з камплетыўным (*блізкі да лесу, бліжні да вёскі* і пад.) і аб'ектным адценнямі (*мокры да пояса, доўгі да пят* і пад.). Першая частка словазлучэнняў можа мець сінонімамі канструкцыі з прыназоўнікамі *к, ад*: *блізкі да лесу — блізкі к лесу; бліжні да вёскі — бліжні ад вёскі.* Другой часткі словазлучэнняў сінанімічны канструкцыі з прыназоўнікам *па* і назоўнікамі ў вінавальным склоне: *мокры да пояса — мокры па пояс; доўгі да пят — доўгі па пяты.*

Словазлучэнні з прасторавымі адносінамі з прыназоўнікам *з* ускладняюцца абмежавальным адценнем, залежны назоўнік абазначае пункт, напрамак, месца, адкуль распаўсюджваецца прымета, названая галоўным словам: *Міхась з Антосем вайшлі ў хату, з д в а р а зусім п а д с л е п а в а т у* (Я. Колас); *Сплывуцца светленькія болачкі ў б л і с к у ч а - х м а р н ы я з к р а ё ў грудкі і вялікія сярэбраныя кучы* (М. Гарэцкі); *Сухадолы, крутыя ўзгоркі, с у к а в а т ы я з самага к а м л я каржакаватыя сосны — такі тут лес* (І. Шамякін).

Большая частка гэтых словазлучэнняў сінанімічна канструкцыям з прыназоўнікам *ад*: *сукаваты з камля — сукаваты ад камля; бліскуча-хмарны з краёў — бліскуча-хмарны ад краёў; апошні з краю — апошні ад краю,* а л е *прыкметны з вышкі, падслепаваты з двара.*

Словазлучэнні з прыназоўнікамі *з(за), сярод, паміж (між), каля, вышэй, ніжэй* з'яўляюцца непрадуктыўнымі, прасторавыя адносіны ў іх часта ўскладняюцца абмежавальным адценнем: *«Но-о-о, каб цябе ваўкі задавілі»,—крычаў ён на ўсё горла і шлёпаў лапцямі па г л ы б о к а й с я р о д в у л і ц ы асенняй гразі* (М. Лобан); *В і л ь г о т н а я к а л я с т у д н і зямля прыемна халадзіла гарачыя ногі* (К. Чорны); *Усе сыходзіліся на грэблі: большасць мокрыя вышэй пояса, з абляпанымі тванню сарочкамі* (І. Мележ).

Канструкцыям «прыметнік + прыназоўнік + назоўнік у родным склоне» з прасторавымі адносінамі ўласціва звычайна постпазіцыя залежнага кампанента. Адваротны парадак слоў сустракаецца вельмі рэдка. Выключэнне складаюць словазлучэнні з прыназоўнікам *з*, у якіх няма строга замацаванага парадку галоўнага і залежнага кампанентаў: *Воўк з ядлоўцу вылятае..., вельмі с т р а ш н ы з г а л а в ы* (Я. Колас); *М а л е н ь к а я з н а д в о р к у, будка ў сярэдзіне была досыць памястоўная* (Я. Колас); *З п а ч а т к у ц ё м н а я, па канцах рыжая, барада яго пачыналася чуць не ад самых вачэй* (Я. Колас).

Словазлучэнні «прыметнік + прыназоўнік + назоўнік у родным склоне» з п р ы ч ы н н ы м і адносінамі заснаваны на сувязі прымыкання. Залежным кампанентам у гэтых словазлучэннях выступаюць назоўнікі ў форме роднага склону з прыназоўнікамі *ад, з-за, з*:

*сівы ад інею, чорны ад дыму, чырвоны ад марозу, шчаслівы ад пос-*

*пеху, залацісты ад сонца, салёны ад слёз, хрыплы ад хвалявання, ліпкі ад смалы, стомлены ад болю, светлы ад месяца, мокры ад дажджу;*

*хрыплы з-за прастуды, неразборлівы з-за часу, нячутны з-за гоману, бледны з-за хваробы;*

*чырвоны з марозу, вялы са сну, хворы з недасыпання, ціхі з гора, непрытомны з гарачкі.*

Словазлучэнні з прыназоўнікам *ад* складаюць самую шырокую і прадуктыўную частку канструкцый з прычыннымі адносінамі: *Сівы ад інею лес драмаў на ўзгорку* (З. Бядуля); *Бронзавы ад загару чалавек ішоў берагам ракі* (Я. Маўр); *Гарачы яшчэ ад спрэчкі з Крываношкам, звярнуўся Юзік да сакратара* (К. Крапіва); *Багровыя ад зарава крыллі* [самалёта] *здаваліся казачнымі чырвонымі макамі* (М. Лынькоў); *Маўклівы курган узвышаўся над імі, шызы ад палыну, ліловы ад верасу, сівы ад павуціння* (У. Караткевіч).

Некаторыя словазлучэнні з прыназоўнікам *ад* сінанімічны адпаведным канструкцыям з прыназоўнікам *з: чырвоны ад ветру — чырвоны з ветру; сіні ад холаду — сіні з холаду; злы ад крыўды — злы з крыўды; вялы ад сну — вялы са сну; сівы ад гора — сівы з гора; непрытомны ад гарачкі — непрытомны з гарачкі.*

Прыведзеныя пары сінанімічных канструкцый утвараюць прыметнікі з семантыкай знешняга або ўнутранага стану чалавека. Астатнія словазлучэнні з прыназоўнікам *ад* не маюць сінанімічных канструкцый з прыназоўнікам *з*, а ўжываемыя часам словазлучэнні тыпу *чорны з дыму, залацісты з сонца, цёмны са змроку* не адпавядаюць норме літаратурнай мовы.

Словазлучэнні з аб'ектным адценнем могуць мець сінонімамі канструкцыі з прыназоўнікам *на* і назоўнікам у форме меснага склону: *Рознакаляровая ад сонца раса іскрылася на мурожнай траве* (В. Каваль) і *Рознакаляровая на сонцы раса іскрылася на мурожнай траве.*

Словазлучэнні з прыназоўнікам *з-за* з прычыннымі адносінамі шырока ўжываюцца ў сучаснай беларускай мове: *Ва ўсім абліччы гэтага чалавека, некалькі нязграбным і мешкаватым з-за прасторнага ватніка, было столькі ўпэўненасці..., што хацелася сказаць разам з ім:— Так, будзе пець* (М. Лынькоў); *Шэвенінгенскі бераг — гэта велізарны добраўпарадкаваны і пустэльны з-за дрэннага надвор'я пляж* (З газет). Гэтыя словазлучэнні практычна не маюць сінонімаў. Невялікім выключэннем з'яўляюцца часам ужывальныя канструкцыі з прыназоўнікам *праз: нячутны з-за шуму — нячутны праз шум; неразборлівы з-за трэску — неразборлівы праз трэск*, але толькі *хрыплы з-за прастуды, неразборлівы з-за часу, бледны з-за хваробы* і пад.

Частка словазлучэнняў з прыназоўнікам *ад* можа мець у якасці сінонімаў канструкцыі з прыназоўнікам *з-за: чорны ад дыму — чорны з-за дыму; зялёны ад моху — зялёны з-за моху; ліпкі ад клею — ліпкі з-за клею; салёны ад слёз — салёны з-за слёз.*

Не ўтвараюць сінанімічных пар словазлучэнні з адценнем абумоўленасці: *ціхі ад прыроды, сляпы ад нараджэння, маўклівы ад прыроды, сарамлівы ад прыроды, кемлівы ад прыроды.* Часам ужывальныя канструкцыі такой семантыкі з прыназоўнікамі *з, з-за* з'яўляюцца сінтаксічна няправільнымі, параўн.: *маўклівы ад прыроды — маўклівы з (з-за) прыроды; сарамлівы ад прыроды — сарамлівы з (з-за) прыроды.* Словазлучэнні з залежным кампанентам *з нараджэння* не маюць значэння абумоўленасці. Яны выражаюць часавыя адносіны і не з'яўляюцца сінонімамі да адпаведных канструкцый з прыназоўнікам *ад*, параўн.: *сляпы ад нараджэння — сляпы з нараджэння.*

Словазлучэнні з прыназоўнікам з адзінкавыя, аднак складаюць прадуктыўны тып канструкцый: *Вялыя з холаду мурашкі поўзалі па каструбаватай кары старой арабіны і на зямлі пад ёю* (К. Чорны); *Гаварыць адразу захацелі трое, п'яныя не з чаркі, з добрага настрою* (П. Броўка); *Тады, хворая з голаду, яна магла хаваць гэта ад цікаўных наглядальнікаў* (К. Чорны).

Канструкцыі з прычыннымі адносінамі «прыметнік + прыназоўнік + назоўнік у родным склоне» ў пераважнай большасці характарызуюцца прамым парадкам слоў — постпазіцыяй залежнага назоўніка: *І зноў, і зноў я здымаю з паліцы гэты выцвілы ад часу томік у мяккай папяровай вокладцы ружавата-пясчанага колеру* (Н. Гілевіч); *Сама Ліда была бронзавая ад загару* (І. Шамякін).

Адваротны парадак слоў сустракаецца часам у мастацкай літаратуры, пераважна ў паэтычнай мове, а таксама ў размоўным стылі: *Выскачыў з бярлогі сумны воўк, ад голаду сухі, бы корч* (З. Бядуля); *А на прасторы, з болю сінім, адказ на здзек, адказ на зман — дужэе выбух гнеўнай сілы* (М. Лужанін).

Словазлучэнні «прыметнік + прыназоўнік + назоўнік у родным склоне» з азначальнымі адносінамі складаюць прадуктыўны тып прыназоўнікавых канструкцый. Яны ўжываюцца з прыназоўнікамі *да, ад, без* і заснаваны на сувязі прымыкання:

*знаёмы да драбніц, мокры да ніткі, манатонны да санлівасці, гладкі да блеску, адкрыты да драбніц, смелы да дзёрзкасці;*

*удзячны ад душы, рады ад сэрца;*

*просты без хітрасці, шчаслівы, шырокі, жвавы, сярдзіты, недаверлівы, салёны, салодкі* (без меры).

Словазлучэнні з прыназоўнікам *да* выражаюць азначальныя адносіны з адценнем ступені або меры праяўлення прыметы. Яны характарызуюцца шырокай ужывальнасцю: *Песня была жаласлівая, сумная да слёз* (З. Бядуля); *Усё кругом было да недарэчнасці звычайным* (К. Крапіва); *Ах, вочы!.. Вочы!.. Што за вочы!.. Пад смехам палкія ў іх сны. Цыганскай гордасці дзявочай да краю поўныя яны!..* (П. Трус).

У словазлучэннях са значэннем меры або ступені (*знаёмы да купіны — знаёмы да купін; поўны да краю — поўны да краёў* і пад.) залежныя назоўнікі могуць ужывацца як у адзіночным, так і ў множным ліку, што сведчыць аб сінтаксічнай нерэлевантнасці значэння ліку ў семантыцы залежнага кампанента гэтых словазлучэнняў.

Даныя словазлучэнні не маюць сінонімаў. Большая частка гэтых канструкцый характарызуецца прэпазіцыяй залежнага кампанента, хоць строга замацаваны парадак слоў ім не ўласцівы, што адрознівае іх ад большасці прыметнікавых словазлучэнняў: *Па гэтай карце, да драбніц вядомай... прыйшоў нялёгкай сцежкай я дадому* (В. Вольскі); *І на здабытым рубяжы, да берагоў пачуццем поўн, я новаю работай жыў* (М. Лужанін).

Словазлучэнне *поўны да адказу* па асноўных характарыстыках набліжаецца да ўстойлівых: *Шмат часін, да адказу поўных, назапашу, вазьму ў жыцця* (М. Лужанін).

Словазлучэнні з прыназоўнікам *ад* выражаюць азначальныя адносіны з паясняльным, удакладняльным адценнем. Яны адзінкавыя ў беларускай мове, аднак характарызуюцца шырокай ужывальнасцю: *Жыве наш дом! І я ад сэрца рад яго гамонцы, песням, смеху, звону* (П. Панчанка). Сінонімаў гэтыя канструкцыі не маюць. У адрозненне ад большасці прыметнікавых канструкцый, якім уласцівы ўстойлівы парадак слоў, звычайна постпазіцыя залежнага кампанента, слова-

злучэнні гэтай семантыкі з прыназоўнікам *ад* не маюць строга замацаванага парадку слоў. Большай ужывальнасцю характарызуюцца словазлучэнні з прэпазіцыяй залежнага кампанента: *ад сэрца рады, ад душы ўдзячны.*

Значная частка словазлучэнняў з прыназоўнікам *без* выражае азначальныя адносіны з адценнем меры, ступені праяўлення прыметы: *Хоць цікаўны быў без меры, а ўсяму не мог даць веры* (В. Вітка); *Смачныя без меры тут раслі калісьці бэры* (К. Крапіва); *Яна — хударлявая, без меры клапатлівая жанчына* (К. Чорны).

Словазлучэнні, у якіх залежным кампанентам выступае назоўнік *мера* з прыназоўнікам *без,* сінанімічны канструкцыям з залежным прыслоўем *бязмерна* ў якасці залежнага кампанента: *шчаслівы без меры — шчаслівы бязмерна; сярдзіты без меры — бязмерна сярдзіты.*

Канструкцыі з адценнем меры, ступені праяўлення прыметы не маюць строга замацаванага парадку слоў, словазлучэнні з прэпазіцыяй і постпазіцыяй залежнага кампанента характарызуюцца аднолькавай ужывальнасцю: *Свет шырокі без меры і краю, хопіць поля і нетраў лясных* (П. Глебка); *Без канца доўгая фаланга чаўноў і лодак упіраецца ў бераг вострымі насамі* (Я. Колас).

Прадуктыўны тып складаюць словазлучэнні, якія выражаюць азначальныя адносіны з адценнем якаснай характарыстыкі, абмежавання або ўдакладнення: *строгі без жаласці, добры без сентыментальнасці, хуткі без паспешнасці, салодкі без прытарнасці, патрабавальны без жорсткасці, дакладны без педантычнасці. Нязмернае гора спакутаванага прыгнечанага сялянства... шырокай ракой помсты і барацьбы вылівалася ў простых без хітрасці словах* (Р. Мурашка); *У гэтым настроі, з думкамі без хітрасці простымі зайшоў Ігнась да Любы* (Р. Мурашка). Некаторыя з гэтых словазлучэнняў маюць сінанімічныя канструкцыі з залежнымі прыслоўямі: *строгі без жаласці — бязжаласна строгі; просты без хітрасці — бясхітрасна просты; добры без сентыментальнасці — бессентыментальна добры.*

Заўвага. Словазлучэнне *хворы без надзеі* сінанімічна больш ужывальнай канструкцыі з залежным прыслоўем *хворы безнадзейна.* Аднак аналагічныя канструкцыі з іншымі прыметнікамі не выражаюць азначальных адносін з адценнем якаснай характарыстыкі або ўдакладнення і не з'яўляюцца сінанімічнымі адпаведным словазлучэнням з залежным прыслоўем, параўн: *сумны без надзеі* і *сумны безнадзейна.*

Адносна парадку слоў словазлучэнні з адценнем якаснай характарыстыкі, абмежавання або ўдакладнення характарызуюцца перавагай постпазіцыі залежнага кампанента.

Словазлучэнні «прыметнік + прыназоўнік + назоўнік у родным склоне» з абмежавальнымі адносінамі ўжываюцца з прыназоўнікамі *да, з:*

*скоры да работы, заўзяты да рыбалкі, ненасытны да чытання, жвавы да бойкі;*

*худы з твару, спакойны з выгляду, падобны з плячэй, мужны з твару.*

Словазлучэнні з прыназоўнікам *да* з абмежавальнымі адносінамі ўтвараюцца параўнальна невялікай колькасцю прыметнікаў, прычым значная частка фармальна аднолькавых словазлучэнняў з залежным назоўнікам у родным склоне выражае камплетыўныя адносіны і заснавана на сувязі кіравання: *сквапны да грошай, прагны да славы, схільны да самоты* і пад. Словазлучэнні з абмежавальнымі адносінамі заснаваны на сувязі прымыкання, абмежавальныя адносіны ў іх ускладнены камплетыўным адценнем: *А ўжо які ён спрытны быў да пе-*

*с е н ь ды да дзявочага насення* (К. Крапіва). Некаторыя з гэтых словазлучэнняў маюць сінанімічныя канструкцыі з залежнымі назоўнікамі ў вінавальным склоне з прыназоўнікам *на: скоры да бойкі — скоры на бойку; ненасытны да чытання — ненасытны на чытанне.* Аднак прадуктыўнасць гэтых канструкцый у параўнанні з аднатыпнымі словазлучэннямі з камплетыўнымі адносінамі значна меншая.

Словазлучэнні з прыназоўнікам *з* з абмежавальнымі адносінамі таксама колькасна абмежаваны і ўскладнены камплетыўнымі адносінамі: *Пятрусь Маргун п а д о б е н з т в а р у да архангела Міхаіла* (Я. Колас); *І вось ён глядзіць на мяне, гэты ціхі, п а н у р ы нават з в ы г л я д у — глядзіць з добрай усмешкай старэйшага брата* (Я. Брыль). Гэтыя словазлучэнні маюць сінанімічныя канструкцыі з прыназоўнікам *на* і назоўнікам у вінавальным склоне: *худы з твару — худы на твар; спакойны з выгляду — спакойны на выгляд; мужны з твару — мужны на твар.* Асобныя словазлучэнні гэтага тыпу маюць больш ярка выражанае камплетыўнае адценне і не ўтвараюць адпаведных сінанімічных канструкцый з прыназоўнікам *на: падобны з плячэй, худы з постаці.* Гэтыя словазлучэнні, як і большасць аднатыпных канструкцый з камплетыўнымі адносінамі, утвараюць сінанімічныя пары са словазлучэннямі, у якіх у ролі залежнага кампанента выступаюць назоўнікі творнага склону: *падобны з плячэй — падобны плячыма; худы з постаці — худы постаццю.*

Словазлучэнні «прыметнік + прыназоўнік + назоўнік у родным склоне» з абмежавальнымі адносінамі звычайна маюць замацаваны парадак слоў з постпазіцыяй залежнага кампанента. Адваротны парадак слоў сустракаецца ў паэтычных творах: *Быў зломлен вораг. Яго здалёку гнаў салдат, з а б л і ч ч а я с н ы, строгі* (М. Лужанін).

Канструкцыі «прыметнік + прыназоўнік + назоўнік у родным склоне», якія выражаюць ч а с а в ы я адносіны, заснаваны на сувязі прымыкання. Яны складаюць колькасна невялікі, аднак даволі значны па ўжывальнасці тып словазлучэнняў з прыназоўнікамі *ад, да, з, сярод:*

*сумны ад ранку, пахмурны ад пайдня;*

*незабыўны да скону, невядомы да здарэння, вясёлы да вечара;*

*знаёмы з дзяцінства, прывычны з маленства;*

*незвычайны сярод лета. Ён быў п а х м у р н ы а д р а н к у* (Я. Брыль); *Строіў Адзярыха для працоўных масаў — чырвонаармеец н а д с т а ў н ы а д ч а с у* (Я. Купала); *Я прагавіта ўглядаюся ў прасторы з д з я ц і н с т в а з н а ё м а й зямлі* (Я. Колас); *Скрып дзвярэй быў а д з і н о к і м с я р о д н о ч ы* (К. Чорны).

Словазлучэнні з прыназоўнікамі *ад* і *да* часта ўтвараюць антанімічныя пары канструкцый з часавым значэннем: *сумны ад вечара — сумны да вечара; пахмурны ад пайдня — пахмурны да пайдня.*

Канструкцыі з прыназоўнікам *ад* сінанімічны адпаведным канструкцыям з прыназоўнікам *з: вясёлы ад ранку — вясёлы з ранку.* Аднак адваротныя замены з'яўляюцца стылістычна правільнымі толькі адносна канструкцый, у якіх залежным кампанентам выступаюць назоўнікі з ярка выражаным часавым значэннем, параўн.: *вясёлы з ранку — вясёлы ад ранку і вясёлы з дзяцінства — вясёлы ад дзяцінства.*

Парадак слоў у словазлучэннях з часавымі адносінамі строга не замацаваны, аднак больш ужывальнымі з'яўляюцца канструкцыі з постпазіцыяй залежнага кампанента.

## Група 5. Прыметнік+прыназоўнік+назоўнік у давальным склоне

§ 76. Гэтыя словазлучэнні складаюць колькасна невялікую і малаўжывальную групу. Словазлучэнні з аб'ектнымі і аб'ектна-абмежавальнымі адносінамі заснаваны на сувязі кіравання і ўжываюцца з прыназоўнікам *к*: *здольны к матэматыцы, няздатны к працы, гатовы к прыёму, прывычны к паездкам. На бой, на бой, хто к бою здольны* (М. Засім); *Арол той з крыкам ваяўнічым імкне за зайцам, як страла, і чуе заяц за сабою смяртэльны холад страшных крыл. На спіну ўпаў, гатовы к бою і — шах арла ён з усіх сіл!* (Я. Колас).

Словазлучэнні з прыназоўнікам *к* з названымі адносінамі складаюць непрадуктыўны тып канструкцый. Замест іх звычайна ўжываюцца словазлучэнні з залежным назоўнікам у родным склоне з прыназоўнікам *да*. Словазлучэнні з прыназоўнікам *к* не маюць строга замацаванага парадку слоў.

Абмежавальныя адносіны з рознымі адценнямі выражаюцца канструкцыямі з прыназоўнікам *па*, якія характарызуюцца высокай прадуктыўнасцю ў сучаснай беларускай мове. Яны ўтвараюцца шырокім кругам якасных і адносных прыметнікаў: *незвычайны па форме, зменлівы па знешнасці, блізкі па ідэях, арыгінальны па зместу, неадпародны па складу, просты па афармленню, вузкі па ахопу, новы па выкананню, аналітычны па стылю, прасторны па аб'ёму, сціслы па выкладу, дваісты па характару, глыбокі па зместу, перадавы па поглядах, польскі па графіцы, усходнеславянскі па асаблівасцях, тутэйшы па нараджэнню*. Словазлучэнні гэтага тыпу заснаваны па сувязі кіравання: *Яны розныя па ўзросту і выгляду, але імкненне ў іх адно* (К. Крапіва); *Паэма была незвычайнай па тону, па рытмічнаму ладу, па сваёй унутранай экспрэсіўнасці* (Н. Перкін); *Ужо нашто стычынцы чэрствыя па сваёй прыродзе людзі, а і тыя казалі, што Палагея — залатая работніца* (А. Чарнышэвіч); *Розныя па колеру і фасону, яны* [хмаркі] *часта ахаплялі вялікую частку неба* (З. Бядуля).

Словазлучэнні гэтага тыпу маюць сінанімічныя канструкцыі з залежным назоўнікам у творным склоне без прыназоўніка: *незвычайны па форме — незвычайны формай; блізкі па поглядах — блізкі поглядамі; шырокі па размаху — шырокі размахам; просты па афармленню — просты афармленнем; новы па выкананню — новы выкананнем*. Канструкцыі з творным беспрыназоўнікавым з'яўляюцца патэнцыяльна дапушчальнымі ў якасці сінонімаў практычна да ўсіх словазлучэнняў з якаснымі прыметнікамі, якія выражаюць абмежавальныя адносіны, аднак яны характарызуюцца значна меншай прадуктыўнасцю і пэўнымі адценнямі ў семантыцы. Словазлучэнні з адноснымі прыметнікамі і залежнымі назоўнікамі ў давальным склоне з прыназоўнікам *па* звычайна не маюць адпаведных сінонімаў з назоўнікамі ў творным склоне, такія канструкцыі з'яўляюцца стылістычна няправільнымі, параўн.: *усходнеславянскі па асаблівасцях — усходнеславянскі асаблівасцямі; школьны па прызначэнню — школьны прызначэннем; мясцовы па вырабу — мясцовы вырабам; тутэйшы па нараджэнню — тутэйшы нараджэннем*.

Словазлучэнні з залежнымі назоўнікамі *выгляд, твар, аблічча* і падобнымі ў давальным склоне з прыназоўнікам *па* маюць рад сінанімічных канструкцый з прыназоўнікамі *з, на* і назоўнікамі ў родным ці вінавальным склоне: *моцны па выгляду — моцны з выгляду — моцны*

*на выгляд; светлы па абліччу — светлы з аблічча — светлы на аблічча; малажавы па постаці — малажавы з постаці — малажавы на постаць.*

Словазлучэнні з назоўнікамі *смак, пах* і падобнымі сінанімічны канструкцыям з прыназоўнікам *на* і назоўнікамі ў вінавальным склоне: *горкі па смаку — горкі на смак: прыемны па паху — прыемны на пах.*

Даволі часта ў мастацкай літаратуры замест залежнай формы назоўніка ў давальным склоне ўжываецца форма меснага склону: *Розныя па форме і колеры кветкі стракацелі на лузе* (Я. Колас); *Шпаркімі крокамі развіваецца культура беларускага народа, нацыянальная па форме і сацыялістычная па змесце* (ЛіМ, 1982). Гэтыя канструкцыі ўласцівы некаторым беларускім гаворкам, асноўныя рысы якіх звычайна адлюстроўваюцца ў мове пісьменнікаў. У сучаснай літаратурнай мове пад уплывам рускай значна большай прадуктыўнасцю характарызуюцца словазлучэнні з назоўнікамі ў давальным склоне.

Аднак у словазлучэннях з залежнымі назоўнікамі множнага ліку апошнія заўсёды ўжываюцца ў форме меснага склону. Ужыванне формы давальнага склону ў множным ліку ў такіх словазлучэннях, як *значны па задумах, дакладны па формах, нясталы па думках, сур'ёзны па разважаннях, смелы па размахах, незвычайны па здольнасцях,* і падобных з'яўляецца адхіленнем ад літаратурнай нормы. Параўн.: *нясталы па думцы — нясталы па думках; сур'ёзны па разважанню — сур'ёзны па разважаннях; светлы па абліччу — светлы па абліччах.* Такая неадпаведнасць склонавых форм у адзіночным і множным ліку абумоўлена ўплывам рускай мовы на ўжывальнасць і прадуктыўнасць формы давальнага склону назоўнікаў адзіночнага ліку ў гэтых канструкцыях. У назоўніках множнага ліку захавалася ўласцівая беларускай мове форма меснага склону, якая аказалася больш устойлівай да ўплыву рускай мовы з прычыны больш ярка выражанай спецыфікі форм множнага ліку меснага і давальнага склонаў у рускай і беларускай мовах.

Да словазлучэнняў з абмежавальнымі адносінамі прымыкаюць блізкія па форме і семантыцы канструкцыі з адмоўем *не*, якія выражаюць значэнне неадпаведнасці прыметы: *вялікі не па росту, сур'ёзны не па ўзросту, кемлівы не па гадах. Ім прыйшлося добра папацець, пакуль ускінулі на воз не па сіле цяжкія мяшкі* (І. Шамякін). Адносна выкарыстання залежнай формы назоўнікаў меснага склону гэтыя словазлучэнні падпарадкоўваюцца той жа заканамернасці, што і канструкцыі з абмежавальнымі адносінамі: ужыванне формы меснага склону не з'яўляецца прадуктыўным, параўн.: *вялікі не па росту — вялікі не па росце; шырокі не па размеру — шырокі не па размеры.*

Словазлучэнні з абмежавальнымі адносінамі і адносінамі неадпаведнасці не маюць строга замацаванага парадку слоў, аднак большай ужывальнасцю характарызуюцца канструкцыі з прэпазіцыяй залежнага назоўніка: *На свет глядзіць не па ўзросту суровымі вачыма* (В. Таўлай); *Гарачы хлопец з чорнай чупрынай, апрануты ў вялікую не па росту гімнасцёрку..., быў лепшым прамоўцам ад камсамольцаў на вербаўскіх дыспутах* (І. Мележ).

Словазлучэнні «прыметнік+прыназоўнік+назоўнік у давальным склоне» з часавымі адносінамі колькасна абмежаваны і характарызуюцца нязначнай прадуктыўнасцю ў беларускай мове. Яны ўжываюцца з прыназоўнікамі *к* і *па* і заснаваны на сувязі кіравання: *гарачы к поўдню, стомлены к вечару; апошні па часу, млявы па вячэры. Тылавыя часці, відаць, выбраліся, застаўся недзе наперадзе жудкі, загадкавы к ночы фронт* (Х. Шынклер); *І ўсё гэта, як нешта далёкае і*

*па часу блізкае, уявілася без асабістых выразных здарэнняў* (К. Чорны).

Словазлучэнні тыпу *размораны па вячэры, лагодны па абедзе* маюць сінанімічныя канструкцыі з залежнымі назоўнікамі ў форме роднага склону з прыназоўнікам *пасля: размораны па вячэры — размораны пасля вячэры; лагодны па абедзе — лагодны пасля абеду.* Апошнія з'яўляюцца больш ужывальнымі і прадуктыўнымі ў сучаснай мове: *Спатыкнуўся на коўзкай пасля дажджу сцяжынцы і пляснуўся на рукі ў гразь* (Я. Брыль); *Яна ўжо ўстала, яна ўжо ідзе па ваду ці ў грыбы,— залітая сонцам і гэтак родна цёплая пасля сну, з іхнім шчасцем, з іхняй вялікай радасцю ў вачах* (Я. Брыль).

Словазлучэнні з часавымі адносінамі характарызуюцца аднолькавай ужывальнасцю канструкцый з постпазіцыяй і прэпазіцыяй залежнага кампанента.

Адзінкавыя канструкцыі «прыметнік+прыназоўнік+назоўнік у давальным склоне» выражаюць прычынныя адносіны і адносіны меры. Апошнія прадстаўлены словазлучэннямі з прыназоўнікам *к: Глянеш на жыта, высокае к небу* (М. Засім). Яны маюць у якасці сінонімаў словазлучэнні з прыназоўнікам *да*, якія характарызуюцца большай ужывальнасцю і прадуктыўнасцю для выражэння адносін меры, параўн.: *высокі к небу — высокі да неба.* Прамым парадкам слоў у гэтых словазлучэннях з'яўляецца постпазіцыя залежнага назоўніка. Адваротны парадак выкарыстоўваецца рэдка.

Адзінкавыя словазлучэнні з прычыннымі адносінамі прадстаўлены канструкцыямі з прыназоўнікам *па: танны па неапрацаванасці, слабы па старасці. Стаіць ля варот румын-дзядок, па-руску вітаецца з намі. Бародка яго па старасці срэбная, кашуля па беднасці — зрэбная, лапці — са скуры-сырыцы* (А. Зарыцкі). Словазлучэнні гэтага тыпу сінанімічны больш ужывальным канструкцыям з прыназоўнікамі *з-за, з прычыны* і назоўнікамі ў родным склоне: *танны па неапрацаванасці — танны з-за неапрацаванасці — танны з прычыны неапрацаванасці; непрыгодны па зношанасці — непрыгодны з-за зношанасці — непрыгодны з прычыны зношанасці; слабы па старасці — слабы з-за старасці — слабы па прычыне старасці.*

Прамым парадкам слоў у словазлучэннях гэтага тыпу з'яўляецца постпазіцыя залежнага кампанента. Адваротны парадак слоў сустракаецца ў мастацкай літаратуры, пераважна ў паэтычных творах і ў размоўным стылі.

### Група 6. Прыметнік+прыназоўнік+назоўнік у вінавальным склоне

§ 77. Словазлучэнні гэтай групы з'яўляюцца даволі прадуктыўнымі і разнастайнымі па характару сінтаксічных сувязей і выражаемых адносінах.

Словазлучэнні з аб'ектнымі адносінамі заснаваны па сувязі кіравання. Яны прадстаўлены канструкцыямі з прыназоўнікамі *на, за:*

*злосны на сябра, адчувальны на крытыку, хуткі на выдумкі, памятлівы на зло, гатовы на бой, скупы на грошы, ахвочы на размовы, падобны на сябра, хворы на сэрца;*

*удзячны за дапамогу, адказны за правядзенне, спакойны за брата.*

Словазлучэнні з прыназоўнікам *на* маюць абмежавальнае адценне: *Калі стары Бязручка скупы на словы, то сын гаворыць і за сябе і за бацьку* (Я. Колас); *Насустрач ёй узыходзіць высокі і стары чалавек, таксама з твару вельмі падобны на Сашку* (К. Чор-

ны): *І гэта ноч, як бы жывая, і быццам нешта яна знае, але аб тым казаць не хоча, бо на размовы не ахвоча* (Я. Колас); *Васіль быў лагодны, не памятлівы на зло чалавек* (І. Мележ).

Значная частка гэтых словазлучэнняў мае сінанімічныя канструкцыі з прыназоўнікам *да* і залежным назоўнікам у родным склоне: *нястомны на пошукі — нястомны да пошукаў; смелы на выдумкі — смелы да выдумак; падобны на брата — падобны да брата; скважны на грошы — скважны да грошай; падкі на ласункі — падкі да ласункаў.* Не маюць сінанімічных пар з прыназоўнікам *да* адзінкавыя словазлучэнні з прыметнікамі *злы, сярдзіты, злосны: злосны на сябра, сярдзіты на таварыша*, а таксама даволі прадуктыўныя словазлучэнні тыпу *хворы на сэрца, хворы на ногі.*

Словазлучэнні з прыназоўнікам *за* з аб'ектнымі адносінамі складаюць даволі ўжывальны, хоць і невялікі ў колькасных адносінах тып канструкцый: *Я вельмі і вельмі ўдзячны за дапамогу, якую вы абяцаеце мне* (Я. Колас); *Адказны за збожжанарыхтоўку ты, а не Кавальчук* (М. Паслядовіч); *Як рады будзе ён за сваіх землякоў-уральцаў* (Х. Шынклер). Гэтыя словазлучэнні не маюць сінонімаў.

Прамым парадкам слоў у канструкцыях «прыметнік+прыназоўнік+назоўнік у вінавальным склоне» з аб'ектнымі адносінамі з'яўляецца постпазіцыя залежнага назоўніка, адваротны парадак слоў сустракаецца даволі часта: *Мы людзі бестурботныя, на ўсё добрае ахвотныя* (Я. Колас); *Народ усё шляхтаваты, на чужую пачостку скважны* (К. Крапіва); *За адступленне ж я адказны* (Я. Колас).

Словазлучэнні з адносінамі меры, колькасці, удакладнення, азначэння заснаваны на сувязі прымыкання. Яны прадстаўлены канструкцыямі з прыназоўнікамі *за, на, над, пад, праз, у:*

*дужы за дваіх, доўгі за калена;*

*прыгожы на здзіўленне, гасцінны на дзіва, падобны на каліва;*

*поўны пад ручку;*

*праз меру высокі, праз меру старанны, праз меру лагодны;*

*сіні ў палоску, чырвоны ў гарошак, гарачы не ў меру, у меру спакойны;*

*над меру гарачы, над меру складаны.*

Асобныя з гэтых словазлучэнняў сінанімічны паміж сабой і характарызуюцца розпай ступенню прадуктыўнасці: *праз меру гарачы — не ў меру гарачы — над меру гарачы; праз меру высокі — не ў меру высокі — над меру высокі.* Словазлучэнні тыпу *над меру гарачы, над меру высокі* характарызуюцца нязначнай прадуктыўнасцю ў сучаснай мове. Яны ўласцівы некаторым беларускім гаворкам і ўжываюцца ў творах асобных пісьменнікаў: *Віктар зважна ківае галавой і над меру салідным тонам канстатуе* (М. Зарэцкі); *«Ключ» аказаўся над меру складаным* (І. Мележ).

Словазлучэнні з прыназоўнікамі *праз, у* тыпу *праз меру гарачы, у меру высокі* складаюць прадуктыўны і шырока ўжывальны тып канструкцый: *Там праз меру ўсе лагодны* (З. Бядуля); *Голас у яго быў праз меру танклявы* (Я. Колас); *О пушча, цёмная не ў меру, чыя душа з табой не дрогне?!* (Я. Купала); *Я тут партрэт яго зазначу. Ён невысок, не надта ёмак, ды карчавіты і няўломак, а волас мае цёмна-русы, і зухаўскія яго вусы у меру доўгі, густаваты у гору чуць канцы ўзняты* (Я. Колас).

Гэтыя словазлучэнні сінанімічны канструкцыям з залежным прыслоўем *бязмерна* і канструкцыям з залежным назоўнікам у родным

склоне з прыназоўнікам *без: праз меру гарачы — не ў меру гарачы — празмерна гарачы — без меры гарачы.* Аднак пры выкарыстанні гэтых сінанімічных канструкцый трэба ўлічваць іх стылістычную і сэнсавую спецыфіку, параўн.: *бязмерна старанны — старанны без меры; празмерна далікатны — праз меру далікатны; бязмерна ўдзячны — не ў меру ўдзячны.* З прычыны сэнсавай і стылістычнай спецыфікі кожнай з пералічаных канструкцый яны не заўсёды ўзаемазамяняльныя.

Прамым парадкам слоў у гэтых словазлучэннях з'яўляецца прэпазіцыя залежнага назоўніка, адваротны парадак слоў выкарыстоўваецца з мэтай падкрэсліць прымету, якая выражаецца прыметнікам. Параўн.: *Голас у яго быў п р а з  м е р у  т а н к л я в ы* (Я. Колас) і *Голас у яго быў т а н к л я в ы  п р а з  м е р у; Віктар зважна ківае галавой і н а д  м е р у  с а л і д н ы м тонам канстатуе* (М. Зарэцкі) і *Віктар зважна ківае галавой і с а л і д н ы м  н а д  м е р у тонам канстатуе.*

Словазлучэнні з прыназоўнікам *на* тыпу *прыгожы на здзіўленне* сінанімічны канструкцыі з прыслоўем у ролі галоўнага слова: *прыгожы на здзіўленне — дзіўна прыгожы.*

Словазлучэнні з прыназоўнікам *пад* тыпу *поўны пад ручку* сінанімічны канструкцыям з прыназоўнікам *да: поўны пад ручку — поўны да ручкі.*

У якасці сінонімаў да словазлучэнняў з прыназоўнікам *у* тыпу *сіні ў палоску, чырвоны ў гарошак* часам ужываюцца словазлучэнні з залежнымі назоўнікамі ў творным склоне без прыназоўніка, хоць апошнія значна менш прадуктыўныя і ўласцівы пераважна размоўнаму стылю, параўн.: *сіні ў палоску — сіні палоскай; чырвоны ў гарошак — чырвоны гарошкам.*

У словазлучэннях з прыназоўнікамі *за, пад, у* з адносінамі меры, колькасці, удакладнення, азначэння прамым парадкам слоў з'яўляецца постпазіцыя залежнага кампанента, адваротны парадак слоў сустракаецца даволі рэдка: *Сам я д у ж  з а  д в а і х* (М. Засім); *З коміна, дзе ўткнута ш э р а я  п а д  к о л е р сталі гліняная труба, тарапліва, як бы яго ліхаманка трасе, плыве-бяжыць сіняваты дымок* (Я. Колас); *Вось табе, маці,— узмахнуў ён у паветры с і н я ю  ў  г а р о ш ы н к у хусткай,— а гэта Марфачцы,— і падаў сястры партфель* (П. Броўка).

Словазлучэнне *на каліва падобны* характарызуецца пераважным выкарыстаннем прэпазіцыі залежнага назоўніка: *Ён успамінаў цяпер, што калі на вуліцы ў Мінску сустракалася дзяўчына, н а  адно  к а л і в а  п а д о б н а я  на Кацю, ён глядзеў ёй услед* (А. Чарнышэвіч).

Словазлучэнні з ч а с а в ы м і адносінамі складаюць колькасна абмежаваны круг канструкцый з прыназоўнікамі *за, праз, у:*

*знаёмы за год, прывычны за жыццё; (добра) вядомы праз жыццё; гатовы ў пару.*

Большая частка канструкцый з часавымі адносінамі мае ў якасці залежнага кампанента назоўнік у вінавальным склоне з паясняльным словам. Простыя словазлучэнні абмежаваны і з боку колькасці, і з боку прадуктыўнасці: *Учора, калі дзень хіліўся да вечара і па кутках асядаў прыцемак, не было відаць гэтай так в я д о м а й  п р а з  ж ы ц ц ё хаціны* (П. Пестрак).

Гэтыя словазлучэнні заснаваны на сувязі прымыкання. Прамым парадкам слоў з'яўляецца постпазіцыя залежнага кампанента.

Словазлучэнні з адносінамі п р ы з н а ч э н н я або м э т ы нешматлікія, аднак яны характарызуюцца шырокай ужывальнасцю. Яны заснаваны на аснове сінтаксічнай сувязі прымыкання і прадстаўлены канструкцыямі з прыназоўнікамі *на, у:*

*прыгодны на рагатку, патрэбны на будаўніцтва;*

*прыгодны ў ежу, варты ў артысты, гатовы ў паход.*

Гэтыя словазлучэнні абмежаваны з боку галоўнага члена, у якасці якога выступаюць прыметнікі з семантыкай годнасці, прызначэння: *Бо як ты пазнаеш без аналізу, г о д н а я  гэта плаўка  н а  камбайнавы н о ж  ці на танкавую браню!* (М. Паслядовіч); *Збожжа там  п а т р э б н а  і  н а  я д у  і на насенне* (А. Чарнышэвіч); *А работнік хоць куды — в а р т ы  ў  д э п у т а т ы!* (А. Бялевіч).

## Група 7. Прыметнік+прыназоўнік+назоўнік у творным склоне

§ 78. Словазлучэнні гэтай групы прадстаўлены даволі значнай колькасцю разнастайных па прадуктыўнасці і тыпах выражаемых адносін канструкцый.

Словазлучэнні з  а б'е к т н ы м і  адносінамі з'яўляюцца самымі прадуктыўнымі сярод канструкцый з творным прыназоўнікавым. Яны заснаваны на сувязі кіравання і прадстаўлены канструкцыямі з прыназоўнікамі *з, пад, паміж (між), перад:*

*суседні з вёскай, адзіны з народам, суадносны з перажытым, сугучны з эпохай, неразлучны з сябрам, знаёмы з медыцынай, строгі з падначаленымі, шчыры з сябрамі;*

*насмешлівы над таварышамі, не ўладны над часам, бяссільны над хваробай;*

*вядомы пад імем (пад прозвішчам, пад назвай), скрыты пад назвай;*

*слаўны між байцамі, выдатны між гарадамі, знакаміты паміж вучонымі;*

*шчыры перад таварышамі, адкрыты перад сябрамі, бездапаможны перад цяжкасцямі.*

Словазлучэнні з прыназоўнікам *з* складаюць самы прадуктыўны тып словазлучэнняў гэтай групы. Даныя словазлучэнні заснаваны на сувязі кіравання: *Адзін снарад упаў на край  с у с е д н я г а  з  Ю р ы е м  акопа* (І. Мележ).

Па ўласцівасцях сінаніміі гэтыя словазлучэнні падзяляюцца на дзве часткі адпаведна двум адценням у іх семантыцы. Значная частка словазлучэнняў, у якіх аб'ектныя адносіны ўскладнены адценнем сумеснасці, узаемнасці прыметы, не мае сінанімічных канструкцый: *сумесны з астатнімі, агульны з усімі, адзіны з народам, неразлучны з сябрамі* і інш. Другая частка словазлучэнняў з уласна аб'ектнымі адносінамі патэнцыяльна можа мець сінанімічныя канструкцыі з залежнымі назоўнікамі ў давальным склоне без прыназоўніка і з назоўнікамі ў родным склоне з прыназоўнікам *да*, хоць не ўсе яны аднолькава ўжывальныя: *суседні з Беларуссю — суседні Беларусі; падобны з астатнімі — падобны да астатніх; асцярожны з людзьмі — асцярожны да людзей; шчыры з таварышамі — шчыры да таварышаў; адкрыты з сябрамі — адкрыты сябрам — адкрыты да сяброў; строгі з падначаленымі — строгі к падначаленым — строгі да падначаленых.* Некаторая частка гэтых словазлучэнняў мае таксама сінанімічныя канструкцыі з прыназоўнікамі *для, перад: адкрыты з сябрамі — адкрыты для сяброў — адкрыты перад сябрамі; шчыры з людзьмі — шчыры для людзей — шчыры перад людзьмі.*

Словазлучэнні з прыназоўнікам *над* з аб'ектным значэннем з'яўляюцца адзінкавымі, яны абмежаваны з боку галоўнага слова: *Смерць  б я с с і л ь н а  н а д  г е р о е м — між намі вечна жыць ён будзе* (Я. Колас); *І ўжо зусім затапляла ўсе пачуцці нявыказаная словамі вялікая*

*радасць, што вельмі ж вось падабаецца Алесь; што яны ўдваіх едуць на яго возе купляць, што ім патрэбна, што можа яна паклікаць яго,* *к п л і в а г а  н а д  у с і м і, і ён ціха прыйдзе да яе* (К. Чорны). Гэтыя словазлучэнні не маюць сінонімаў.

Словазлучэнні з прыназоўнікам *пад* з аб'ектнымі адносінамі таксама адзінкавыя. Яны абмежаваны з боку галоўнага і залежнага кампанентаў: *Вы, нарэшце, пачынаеце стамляцца ад мноства ўражанняў і адчуваеце, што ўжо не здольны скарыстаць параду дасведчаных людзей і наведаць у той жа дзень музей васковых фігур,  в я д о м ы  тут  п а д  н а з в а й  музея мадам Тысо* (К. Крапіва). Сінонімаў словазлучэнні з прыназоўнікам *пад* з аб'ектным значэннем не маюць.

Словазлучэнні з прыназоўнікамі *паміж (між)* з аб'ектнымі адносінамі колькасна абмежаваныя і непрадуктыўныя ў сучаснай мове: *Цябе прашу я аб адным,  н я с т о м н а я  м і ж  н а м і* (П. Броўка). Замест гэтых канструкцый шырока ўжываюцца прадуктыўныя словазлучэнні з залежнымі назоўнікамі ў форме роднага склону з прыназоўнікамі *паміж (між), сярод,* параўн.: *слаўны між байцамі — слаўны між (сярод) байцоў; выдатны між гарадамі — выдатны між (сярод) гарадоў; знакаміты паміж вучонымі—знакаміты паміж (між) вучоных. Камандзір разведкі Горны  с л а ў н ы  быў  м і ж  п а р т ы з а н а ў* (П. Броўка).

Словазлучэнні з прыназоўнікам *перад* з аб'ектнымі адносінамі колькасна абмежаваныя, аднак шырока ўжывальныя ў сучаснай мове. Большая частка гэтых канструкцый, у якасці залежнага кампанента якіх ужываюцца адушаўлёныя назоўнікі, мае адценне ўзаемнасці і мае сінанімічныя словазлучэнні з прыназоўнікамі *з, да: шчыры перад людзьмі — шчыры з людзьмі — шчыры да людзей; адкрыты перад сябрамі — адкрыты з сябрамі— адкрыты да сяброў.* Другая, нязначная частка словазлучэнняў, у якіх у якасці залежнага кампанента выступаюць неадушаўлёныя назоўнікі, тыпу *бездапаможны перад цяжкасцямі, бяссільны перад засухай* не мае такіх сінонімаў.

Словазлучэнні «прыметнік+прыназоўнік+назоўнік у творным склоне» з аб'ектнымі адносінамі характарызуюцца постпазіцыяй залежнага кампанента: *Два акны выходзілі на двор, а сенцы былі  а г у л ь н ы я  з суседняй  к в а т э р а й* (К. Чорны); *Пятым ад канца вуліцы стаяў стары дзеравяны дом у адну кватэру, нізенькі і падгніўшы, адкуплены даўно ад управы чыгункі Дзянісам Пляцінскім,  в я д о м ы м  тут  п а д  п р о з в і ш ч а м  бочкавоза* (К. Чорны); *Цесны саюз народаў, як вечная скала,  н е п а х і с н ы  п е р а д  в о р а г а м* (К. Чорны).

Адваротны парадак слоў выкарыстоўваецца з мэтай вылучыць прадмет або асобу, выражаныя залежным назоўнікам, на якія распаўсюджваецца пэўная прымета, названая галоўным кампанентам.

Словазлучэнні з  а з н а ч а л ь н ы м і  адносінамі заснаваны на сувязі прымыкання і прадстаўлены канструкцыямі з прыназоўнікам *з (са): шэры з блакітам, сіні з пояском, чырвоны з кветкамі, жоўты з адлівам, тонкі з гарбінкай, блакітны з гарошкам. У яе  ш э р ы х  з  с і н я в і н к а й  вачах ён прачытаў спачатку нешта падобнае на здзіўленне* (М. Лынькоў); *І вось яна стаіць... высокая, стройная, у  ш э р а й  з  с і н і м  футболцы* (Я. Брыль). Гэтыя словазлучэнні характарызуюцца значнай прадуктыўнасцю і ўжывальнасцю ў сучаснай мове. Сінонімаў яны не маюць. Канструкцыям з прыназоўнікам *з* характэрна постпазіцыя залежнага кампанента. Адваротны парадак слоў ужываецца вельмі рэдка.

Словазлучэнні з  п р а с т о р а в ы м і  адносінамі складаюць шырокі і разнастайны па ўжывальнасці тып канструкцый з прыназоўнікамі

*над, пад, за, паміж (між), перад, побач з*, заснаваных на сінтаксічнай сувязі прымыкання:

*светлы над морам, нізкі над лесам, непрыкметны над страхою, празрысты над лугам, цёмны над снегам;*

*вузкі пад лесам, зялёны пад гарой, цесны пад пахамі, мяккі пад нагамі, сіні пад месяцам, іскрысты пад сонцам;*

*непрыкметны за лесам, нябачны за паваротам, звілісты за ракой, вузкі за гарой;*

*рыхлы між купінамі, зялёны між бярозамі, звілісты паміж дрэвамі, светлы паміж дамамі;*

*рэдкі перад горадам, апошні перад вяршыняй, зялёны перад лесам, прамы перад спускам, зацішны перад домам;*

*вытаптаны побач з домам, свежы побач з возерам, адзінокі побач з лесам, зялёны побач з балотцам.*

Усе пералічаныя словазлучэнні прадуктыўныя і шырока ўжываюцца ў сучаснай мове. За выключэннем словазлучэнняў з прыназоўнікам *паміж (між)*, гэтыя канструкцыі не маюць сінонімаў.

Канструкцыі з прыназоўнікам *паміж (між)* сінанімічны словазлучэнням з прыназоўнікам *сярод* і назоўнікамі ў родным склоне: *зялёны паміж (між) бярозамі — зялёны сярод балот; звілісты паміж (між) дрэвамі — звілісты паміж (між) дамамі.* Некаторая спецыфіка ў семантыцы гэтых канструкцый не заўсёды дазваляе іх узаемазамену, параўн.: *рыхлы між купін (снег) — рыхлы сярод купін.*

Словазлучэнням «прыметнік+прыназоўнік+назоўнік у творным склоне» з прасторавымі адносінамі характэрна постпазіцыя залежнага кампанента: *Дні за днямі цікаўна, але нясмела глядзела яна на вуліцу, на ўсіх, хто праходзіў міма,— сціплая, н е п р ы к м е т н а я з а н я з г р а б н ы м п л о т а м, блізка да вялікіх дрэў* (І. Мележ); *Дым віўся з ледзь п р ы к м е т н а г а н а д с т р а х о ю коміна* (П. Пестрак); *Цягнік прыпыніўся на хвіліну на невялікай станцыі, а п о ш н я й п е р а д г а р а д к о м* (М. Лынькоў); *Невялікія, чорныя цяпер домікі, густа налепленыя на кавалак зямлі, агеньчыкамі лямп міргаюць у полі, а над імі высока ўзняліся белыя камяніцы цэркваў (манастырскіх і гарадскіх), і чорная, удзень чырвоная, стромкая каланча, а д з і н о к а я п о б а ч з ц э р к в а м і* (П. Галавач).

Адваротны парадак слоў выкарыстоўваецца рэдка: *Снег п а д м е с я ц а м с і н я в а т а-і с к р ы с т ы мяняецца, мільгаціць* (К. Крапіва).

Словазлучэнні з ч а с а в ы м і адносінамі складаюць колькасна невялікі, аднак даволі шырока ўжывальны тып канструкцый. Яны заснаваны на сінтаксічнай сувязі прымыкання з прыназоўнікамі *за, перад (прад):*

*цьмяны за часам, патускнелы за часам;*

*узбуджаны перад экзаменам, апошні перад вясной, уступны перад дакладам.*

Словазлучэнні з прыназоўнікам *за* з'яўляюцца адзінкавымі ў сучаснай мове: *Уваскрасалі ў памяці ц ь м я н ы я з а ч а с а м, дробязныя — як здавалася тады — факты, здарэнні, якія знайшлі фіксацыю ў спадарожніку-блакноце* (Х. Шынклер). Яны маюць адценне прычыны і з'яўляюцца сінанімічнымі канструкцыям з прыназоўнікамі *з-за, ад* і назоўнікамі ў родным склоне: *цьмяны за часам — цьмяны з-за часу — цьмяны ад часу; патускнелы за часам — патускнелы з-за часу — патускнелы ад часу.*

Словазлучэнні з прыназоўнікам *перад (прад)* маюць абмежавальнае адценне: *Камсамолец Віктар скрозь чорную ноч, скрозь лютую, мабыць, а п о ш н ю ю п е р а д в я с н о й, завіруху ехаў у далёкую*

*незнаёмую вёску шукаць свайго друга* (М. Зарыцкі); *У грудзях было* п р ы в ы ч н а е  п е р а д  б о е м *адчуванне нейкай пустаты, калі іншыя пачуцці змяняе адно — чаканне і прага бітвы* (І. Мележ). Сінонімаў гэтыя словазлучэнні не маюць.

Канструкцыям «прыметнік+прыназоўнік+назоўнік у творным склоне» з часавым значэннем звычайна ўласціва постпазіцыя залежнага кампанента. Адваротны парадак кампанентаў ужываецца рэдка.

### Група 8. Прыметнік+прыназоўнік+назоўнік у месным склоне

§ 79. Словазлучэнні гэтай групы складаюць даволі шырокі і разнастайны ў адносінах да семантыка-сінтаксічных асаблівасцей і прадуктыўнасці тып канструкцый.

Словазлучэнні з п р а с т о р а в ы м і адносінамі заснаваны на сувязі прымыкання з прыназоўнікамі *на, па, пры, у:*

*недаступны на дрэве, шырокі на канцы, недасягальны на вяршыні, маленькі на вышыні;*

*зялёны па берагах, пыльны па абочынах, чорны па канцах, востры па баках, невысокі па ўзлесках, спелы па палянках, пахучы па лугавінах;*

*пясчаны пры беразе, слізкі пры ўваходзе, абрывісты пры возеры, зялёны пры алешніку, цёмны пры снезе;*

*зялёны ў лагчынах, зацішны ў лесе, нябачны ў кустах, рэдкі ў лугах, зялёны ў праталінах, смачны ў полі, незвычайны ў гарах, круты ў пад'ёме.*

Словазлучэнні з прыназоўнікам *на* характарызуюцца значнай прадуктыўнасцю: *Яшчэ ўчора ўвечары* в і л ь г о т н ы  н а  в у л і ц ы *пыл і пясок за ноч у марозе ацвярдзелі, пазмярзаліся* (Р. Мурашка); *Наўкруга, як толькі акінуць вокам, плыве і плыве збажына, чуць-чуць зеленаватая ў лагчынах і ўжо чыста* ж о ў т а я  н а  п а г о р к а х (Я. Скрыган). Некаторыя з гэтых спалучэнняў маюць сінанімічныя канструкцыі з назоўнікамі ў творным склоне без прыназоўніка: *зялёны на пагорках — зялёны пагоркамі; спелы на палянках — спелы палянкамі.*

Словазлучэнні з прыназоўнікам *па* таксама характарызуюцца значнай прадуктыўнасцю ў сучаснай мове: К у ч а р а в ы  п а  б е р а г а х, *ён* [канал] *сцішна туліўся пад лёгкаю, мяккаю імглою, паблісквеючы сваім люстрам* (П. Пестрак); *Пясчаная, жоўтая дарога,* з я л ё н а я  п а  а б о ч ы н а х, *вілася ўверх да млына* (П. Пестрак). У адрозненне ад папярэдніх канструкцый усе яны практычна маюць сінанімічныя канструкцыі з творным беспрыназоўнікавым: *зялёны па берагах — зялёны берагамі; пыльны па абочынах — пыльны абочынамі; востры па краях — востры краямі; невысокі па ўзлесках — невысокі ўзлескамі.*

Даволі прадуктыўныя словазлучэнні з прыназоўнікам *пры* сінанімічны канструкцыям з прыназоўнікам *каля: пясчаны пры беразе — пясчаны каля берага; слізкі пры ўваходзе — слізкі каля ўваходу; абрывісты пры возеры — абрывісты каля возера.*

Словазлучэнні з прыназоўнікам *у* характарызуюцца значнай прадуктыўнасцю і семантычнай неаднароднасцю: *Дзед пазірае на палоску, на нізкую і* р э д к у ю  ў  н і з і н а х *ярыну* (П. Галавач); *З боку бярэзніка, за якім раскінуўся бальшак, пачуліся* н е в я д о м ы я  ў *гэтых* м я с ц і н а х *гукі* (З. Бядуля). Некаторыя словазлучэнні з прыназоўнікам *у* сінанімічны канструкцыям з творным беспрыназоўнікавым:

*зялёны ў лагчынах — зялёны лагчынамі; жоўты ў праталінах — жоўты праталінамі* і пад.

Словазлучэнні «прыметнік+прыназоўнік+назоўнік у месным склоне» з прасторавымі адносінамі характарызуюцца перавагай постпазіцыі залежнага кампанента: *Ніжняя* [хмара] *цёмна-сіняя, ажно* *ч о р н а я п р ы з я м л і, здавалася, падымалася з самага лесу, злівалася з ім* (І. Шамякін); *Вось яна і Шчара, з а м е р з л а я толькі п р ы б е р а г а х* (П. Пестрак). Адваротны парадак слоў ужываецца рэдка: *З пачатку цёмная, п а к а н ц а х р ы ж а я, барада яго пачыналася чуць не ад самых вачэй* (Я. Колас).

Словазлучэнні з адносінамі п р ы ч ы н ы і а б у м о ў л е н а с ц і заснаваны на сінтаксічнай сувязі прымыкання. Яны даволі шырокія ў колькасных адносінах і па семантыка-сінтаксічных асаблівасцях, ужываюцца з прыназоўнікамі *на, пры, у, па:*

*ружовы на ветры, бадзёры на марозе, залацісты на сонцы, гулкі на паркеце, выразны на фоне;*

*сляпы пры бляску, araматны пры цвіценні, цёмны пры лямпе;*

*цёмны ў змроку, іскрысты ў праменнях, празрысты ў шклянцы, фантастычны ў змроку;*

*адсутны па хваробе (па дазволу).*

Словазлучэнні з прыназоўнікам *на* са значэннем абумоўленасці маюць прасторавае адценне: *На ім* [іржэўніку] *роўнымі радамі ляжалі кучкі з а л а т о й н а с о н ц ы саломы* (І. Шамякін); *Тыя ж цяжкія крокі, г у л к і я н а п а р к е ц е, мяккія з шоргатам на дывановай дарожцы* (І. Шамякін). Гэтыя словазлучэнні маюць сінанімічныя канструкцыі з прыназоўнікамі *ад, з-за* і назоўнікамі ў родным склоне: *ружовы на ветры — ружовы ад ветру — ружовы з-за ветру; бадзёры на марозе — бадзёры ад марозу — бадзёры з-за марозу; залацісты на сонцы — залацісты ад сонца — залацісты з-за сонца.*

Словазлучэнні з прыназоўнікам *пры* колькасна абмежаваныя, аднак даволі шырока ўжывальныя: *З падпечка чуецца хрыплы, пакутны крык перапуджанага і с л я п о г а п р ы с в я т л е лучыны пеўня* (К. Крапіва). Гэтыя словазлучэнні, таксама як і словазлучэнні з прыназоўнікам *на,* маюць сінанімічныя канструкцыі з прыназоўнікамі *ад, з-за* і назоўнікамі ў родным склоне: *сляпы пры бляску — сляпы ад бляску — сляпы з-за бляску; цёмны пры лямпе — цёмны ад лямпы — цёмны з-за лямпы.*

Словазлучэнні з прыназоўнікам *у* колькасна абмежаваныя, хоць і даволі шырока ўжывальныя: *Вочы яе, вялікія і ц ё м н ы я ў малочным з м р о к у, глядзяць на яго знізу, чаруюць і прыцягваюць* (К. Крапіва); *Маячаць с р э б н ы я ў с н я г а х палі і лясы* (Э. Самуйлёнак). Таксама як і папярэднія канструкцыі з адносінамі абумоўленасці, гэтыя словазлучэнні адпаведны канструкцыям з прыназоўнікамі *ад* і *за: цёмны ў змроку — цёмны ад змроку — цёмны з-за змроку; іскрысты ў праменнях — іскрысты ад праменняў — іскрысты з-за праменняў.*

Словазлучэнні з прыназоўнікам *па* выражаюць прычынныя адносіны. Яны адзінкавыя ў беларускай мове: *Паказанні сведак, а д с у т н ы х п а законных п р ы ч ы н а х, суд пастанавіў агаласіць у свой час* (Я. Колас). Гэтыя словазлучэнні не маюць сінонімаў.

Словазлучэнні «прыметнік+прыназоўнік+назоўнік у месным склоне» з адносінамі абумоўленасці, прычыны характарызуюцца перавагай постпазіцыі залежнага кампанента: *Выгляд яго, суровы і в е л і ч н ы ў асвятляльна белым к а ў п а к у і ў жаўтаватым халаце, спалохаў Валянціну Андрэеўну* (І. Шамякін); *Васіль бачыць, што вочы яе, цёмныя, г л ы б о з н ы я ў блеклым ранішнім с в я т л е, радасна блішчаць* (І. Мележ). Адваротны парадак членаў амаль не ўжываецца.

Словазлучэнні з **часавымі** адносінамі заснаваны на сінтаксічнай сувязі прымыкання з прыназоўнікамі *на, па, пры, у:*

*слепаваты на старасці, малы на пачатку, дакладны на службе, уважлівы на прыёме;*

*звонкі па прадвесні, сакавіты па вясне, жоўты па восені;*

*неабходны пры ад'ездзе, дакладны пры выкананні, акуратны пры рабоце;*

*цікавы ў мінулым, небывалы ў вяках, вясёлы ў дарозе, няпэўны ў пачатку, узнёслы ў дарозе, патрэбны ў адпачынку.*

Некаторыя словазлучэнні з прыназоўнікамі *на, па* з часавымі адносінамі маюць дадатковае прасторавае і абмежавальнае адценні: *Ты **на працы крэпак**, дуж* (Я. Колас); *Перад ім стаіць раздвоены Станіслаў Бутрымовіч, **дакладны па службе** міліцыянер* (П. Пестрак). Гэтыя словазлучэнні маюць сінанімічныя канструкцыі з прыназоўнікам *у час: дакладны па службе — дакладны ў час службы; уважлівы на прыёме — уважлівы ў час прыёму.*

Словазлучэнні з прыназоўнікам *пры* маюць у рознай ступені абмежавальнае адценне. У залежнасці ад семантыкі канструкцый яны сінанімічны словазлучэнням з прыназоўнікам *у час* і з прыназоўнікам *у: неабходны пры ад'ездзе — неабходны ў час ад'езду — неабходны ў ад'ездзе; дакладны пры выкананні — дакладны ў час выканання — дакладны ў выкананні; акуратны пры рабоце — акуратны ў час работы — акуратны ў рабоце.*

Словазлучэнні з прыназоўнікам *у* колькасна абмежаваныя: *Настрой яго, узнёслы і **вясёлы ў дарозе**, паступова псаваўся* (І. Шамякін). Частка гэтых словазлучэнняў сінанімічна канструкцыям з прыназоўнікам *у час: вясёлы ў дарозе — вясёлы ў час дарогі; патрэбны ў адпачынку — патрэбны ў час адпачынку.*

Канструкцыі «прыметнік+прыназоўнік+назоўнік у месным склоне» з часавымі адносінамі характарызуюцца значна большым ужываннем постпазіцыі залежнага кампанента: *Андрэй — мастак-расказчык. **Багаты ў мінулым**, ён прагуляў палавіну свайго хутара* (П. Пестрак); *Сняцца Эме прыгожыя сны залатога маленства, як песні, **сакавітыя на прадвесні*** (П. Глебка). Адваротны парадак слоў выкарыстоўваецца для асаблівага падкрэслівання прамежку часу, на які распаўсюджваецца прымета, выражаная прыметнікам.

Словазлучэнні з **аб'ектнымі** адносінамі складаюць малапрадуктыўны тып канструкцый, заснаваных на сінтаксічнай сувязі кіравання з прыназоўнікамі *аб, у:*

*спакойны аб сябры, дбайны аб маці;*

*вінаваты ў спрэчцы, згодны ва ўсім.*

Словазлучэнні з прыназоўнікам *аб* тыпу *спакойны аб сястры* сінанімічны больш прадуктыўным у сучаснай мове канструкцыям з прыназоўнікам *за* і назоўнікам у вінавальным склоне: *спакойны аб сястры — спакойны за сястру.* Словазлучэнні з прыназоўнікам *у* не маюць сінонімаў. Адносна парадку кампанентаў словазлучэнні з прыназоўнікамі *аб, у* не з'яўляюцца аднатыпнымі. Словазлучэнні з прыназоўнікам *аб* характарызуюцца пераважнай ужывальнасцю постпазіцыі залежнага кампанента. У словазлучэннях з прыназоўнікам *у* пераважае прэпазіцыя залежнага кампанента, асабліва ў канструкцыях з адмоўем *не.*

Словазлучэнні з **абмежавальнымі** адносінамі складаюць прадуктыўны тып канструкцый, заснаваных на сінтаксічнай сувязі прымыкання з прыназоўнікамі *па, у:*

*розныя па адценнях, аднолькавыя па маштабах, перадавы па поглядах, аднолькавыя па паказчыках;*

*упарты ў патрабаваннях, асцярожны ў дзеяннях, шчыры ў размовах, бездапаможны ў змаганні, бездакорны ў адносінах, вопытны ў гандлі, цяжкі ў ажыццяўленні, спакойны ў голасе, жвавы ў размове.*

Словазлучэнні з прыназоўнікам *па* колькасна абмежаваны, аднак шырока ўжывальныя: *Працэсы будоўлі, хоць і розныя па маштабах, у прынцыпах былі падобныя* (П. Броўка); *Яна бачыла ўсмешкі розныя па сваіх адценнях, ад зларадных да спачувальных* (І. Шамякін). Гэтыя словазлучэнні маюць сінанімічныя канструкцыі з залежным назоўнікам у творным склоне: *розныя па адценнях — розныя адценнямі; аднолькавыя па маштабах—аднолькавыя маштабамі; перадавы па поглядах — перадавы поглядамі; аднолькавы па паказчыках — аднолькавы паказчыкамі.*

Словазлучэнні з прыназоўнікам *у* складаюць шырокі ў колькасных адносінах і прадуктыўны тып канструкцый з абмежавальнымі адносінамі. Сінанімічных канструкцый яны не маюць.

Словазлучэнні «прыметнік+прыназоўнік+назоўнік у месным склоне» з абмежавальнымі адносінамі характарызуюцца перавагай постпазіцыі залежнага кампанента: *Даўно знаёмы і дарагі мне па партрэтах воблік яго* [Горкага] *ўсё ж паразіў мяне сваім чарграваннем* (Я. Колас); *Дзе ён і як знік, бачыў адзін чалавек, нізкі, вусаты, дубаваты ў паходцы і ў голасе* (К. Чорны); *І руплівы ў сваіх малых справах і рухавы ў рабоце Максім Астапавіч... пачынаў сумаваць, калі доўга не бачыў свае Марыны* (К. Чорны).

Словазлучэнні з адносінамі меры і ступені прадстаўлены прадуктыўнымі канструкцыямі з прыназоўнікам *у*, заснаванымі на сінтаксічнай сувязі прымыкання:

*у аснове правільны, у корані фальшывы, у многім падобны, у асноўным прынцыповы, у аснове прагрэсіўны, у пераважнасці флегматычны, у большасці зразумелы. Пад уплывам тэндэнцыйнага і аднабочнага асвятлення іх* [войн], *выпуклення гераічнай стараны і наўмыснага закрывання вачэй на яе цёмныя бакі ў ім злажылася ўяўленне, у корані фальшывае, аб ваяцкіх здольнасцях царскай Расіі, аб яе непераможнасці ў вайне* (Я. Колас); *Гэта — агульны, троху напісаны, але ў грунце правільны вобраз той пары, што апісваецца ў нашым апавяданні* (М. Зарэцкі). Сінонімаў гэтыя словазлучэнні не маюць. Характарызуюцца ў адрозненне ад большасці прыметнікавых канструкцый аднолькавай ужывальнасцю постпазіцыі і прэпазіцыі залежнага кампанента.

### *Разрад 2. Словазлучэнні прыметнікаў у формах ступеней параўнання з прыслоўямі і часціцамі*

§ 80. Словазлучэнні гэтага тыпу заснаваны на сінтаксічнай сувязі прымыкання і выражаюць адносіны меры, ступені павышэння або паніжэння якасці, якая выражаецца галоўным кампанентам: *многа мацнейшы, значна цікавейшы, яшчэ цяплейшы, як найпрыгажэйшы, тым большы, усё смялейшы, куды весялейшы, штораз цікавейшы, штодзень святлейшы.*

Гэтыя словазлучэнні характарызуюцца значнай прадуктыўнасцю і ўжывальнасцю. Сінанімічных канструкцый яны не маюць. Характарызуюцца прэпазіцыяй залежнага кампанента. Такі парадак слоў з'яўляецца прамым для гэтых канструкцый: *Асілкаў шмат было на свеце, быў шмат дужэйшы наш народ* (Я. Купала); *Яго выступленне маўк-*

*лівая зала сустрэла* *я ш ч э  б о л ь ш ы м,  я ш ч э  х а л а д н е й ш ы м* *майчаннем* (М. Зарэцкі); *Як верашчака ў дно спадала, то маці есці пакідала ды йшла ў камору па другое,* *я ш ч э  б о л ь ш  с м а ч н а е,* *ядкое* (Я. Колас).

Адваротны парадак слоў у гэтых словазлучэннях сустракаецца вельмі рэдка.

### *Разрад 3. Словазлучэнні прыметнікаў з прыслоўямі*

§ 81. Гэтыя словазлучэнні заснаваны на сінтаксічнай сувязі п р ы м ы к а н н я: *сонечна шчаслівы, зычна пявучы, пакутліва цяжкі, цудоўна прыгожы, досыць спрытны, чамусьці мокры, заўжды неспакойны, калісьці непрыкметны, яшчэ малады, часамі недаступны, улетку вільготны, данізу сухі, усюды вядомы.*

Яны выражаюць у адпаведнасці з семантыкай прымыкаемага прыслоўя разнастайныя адносіны.

А з н а ч а л ь н ы я: *невыразна маркотны, афіцыйна строгі, пачварна тоўсты, іскрыста белы, незамутнёна-спакойны, неспадзявана добры, нечакана ціхі, ідэйна падрыхтаваны, спецыфічна беларускі, фактычна бяспраўны, сапраўды народны, па-дзіцячы пяшчотны, па-ранейшаму ўвішны.* Словазлучэнні з гэтымі адносінамі складаюць вельмі шырокі і прадуктыўны тып словазлучэнняў прыметнікаў з прыслоўямі. Гэта тлумачыцца ў многім няспынным ростам якасных прыслоўяў у сучаснай мове.

С т у п е н і,  м е р ы  праяўлення прыметы: *гранічна важны, бязмерна шчаслівы, непамерна моцны, наўздзіў добры, зусім прымітыўны, як мага абыякавы, добра знаёмы, мала выгадны, так блізкі, досыць спрытны, трошкі сумны, злёгку лірычны, аднолькава любы.* Словазлучэнні з гэтымі адносінамі таксама шырока ўжывальныя і прадуктыўныя ў сучаснай мове.

П р ы ч ы н н ы я: *таму неспакойны (усхваляваны, заклапочаны, нервовы), чамусьці незразумелы (няпэўны, недаверлівы, смутны, радасны, узнёслы), чагосьці пераканаўчы (адсталы, чужы, ненадзейны, адначасовы, родны, смутны).* Гэтыя словазлучэнні абмежаваны з боку залежнага кампанента, у якасці якога выступаюць толькі прыслоўі *таму, чамусьці, чагосьці.* Аднак, нягледзячы на гэта, словазлучэнні з прычыннымі адносінамі характарызуюцца шырокай ужывальнасцю.

Ч а с а в ы я: *заўжды неспакойны, звычайна гаварлівы, адвеку малады, змалку дысцыплінаваны, вечна жывы, раней памяркоўны, калісь магутны, тады невялікі, дасюль самотны, пакуль маўклівы, яшчэ малады, сягоння неспадзяваны, уначы прыгожа-казачны, лагодны ўдзень.* Словазлучэнні гэтай семантыкі хоць і больш шырокія ў колькасных адносінах, аднак таксама абмежаваныя з боку залежнага кампанента, у якасці якога выступаюць прыслоўі часу. Словазлучэнні з часавымі адносінамі характарызуюцца шырокай ужывальнасцю.

П р а с т о р а в ы я: *знізу белы, звонку прыгожы, нідзе не лішні, знадворку глянсаваны, ззаду чорны, адгэтуль далёкі, кнізу шырокі.* Словазлучэнні з прасторавымі адносінамі колькасна абмежаваны з боку залежнага кампанента, аднак характарызуюцца шырокай ужывальнасцю.

Словазлучэнні прыметнікаў з прыслоўямі не маюць сінонімаў. Прамым парадкам слоў для гэтых словазлучэнняў у адрозненне ад канструкцый з залежнымі назоўнікамі з'яўляецца прэпазіцыя залежнага кампанента: *Пры зручным выпадку гаспадыня* *в е л ь м і  а х в о ч а*

*пагаварыць* (А. Кулакоўскі); *Перад вачыма адкрываўся цудоўна прыгожы малюнак* (Ц. Гартны); *Пад нагамі скрыпіць іскрыста белы снег* (З. Бядуля); *Спецыфічна беларускі пейзаж мільгае за акном вагона* (У. Краўчанка); *Зусім маленькая птушачка прыгожа спявала ў кустах маліннiку* (П. Галавач); *Добры майстар нідзе не лішні* (Прыказка).

Адваротны парадак слоў ужываецца рэдка: *Маўклівы заўсёды, Кухар больш Грамабою не адказваў* (К. Крапіва); *Бярозы, белыя знізу, зелянелі купчастымі вершалінамі* (Б. Мікуліч). Такі парадак слоў выкарыстоўваецца звычайна пры адасабленні прыметніка з залежным прыслоўем.

### Разрад 4. Словазлучэнні прыметнікаў з інфінітывам

§ 82. Словазлучэнні гэтага разраду заснаваны на сінтаксічнай сувязі прымыкання і выражаюць камплетыўныя або аб'ектныя адносіны: *бяссільны змагацца, здатны пагуляць, волен сказаць, слабы зрабіць; гатовы ехаць, рады сказаць, ахвочы марыць, згодзен дапамагаць.* Словазлучэнні з інфінітывам у якасці залежнага кампанента характарызуюцца шырокай ужывальнасцю кароткіх форм прыметнікаў: *Аж душа мая святлее і спяваць я зноў гатоў* (Я. Колас); *Часамі я яго ненавідзела, часамі шкадавала. Ён здолен здзеквацца з другога, ён здолен мучыць сваю сям'ю* (К. Чорны).

Сінонімаў гэтыя словазлучэнні не маюць. Прамым парадкам слоў з'яўляецца постпазіцыя залежнага інфінітыва: *Аленка перамагае ўсмешку, гатовую закрасаваць на яе свежанькіх губках* (Я. Колас); *Хто ж ахвоцен з нас уставаць з дарогі* (Я. Купала); *Праўда, Іван Паддубны схільны быў думаць інакш, але маўкліва рабіў уступку агульнай думцы* (П. Пестрак).

Адваротны парадак слоў сустракаецца рэдка: *Хлопцы-зухі і дзяўчаты пагуляць тым часам рады* (Я. Колас).

### Разрад 5. Словазлучэнні прыметнікаў з займеннікамі

#### Група 1. Прыметнік+абагульнена-прадметны займеннік

§ 83. Гэтыя словазлучэнні складаюць асноўную частку прыназоўнікавых і беспрыназоўнікавых словазлучэнняў разглядаемага разраду. Па сваіх семантыка-сінтаксічных уласцівасцях яны аднатыпны адпаведным словазлучэнням з назоўнікам у ролі залежнага кампанента: *І нельга будзе Мечыку крыкнуць у сваё апраўданне, што агню нарабіў не ён, а ненавісны яму і ўсім калгаснікам Дзёма Чыжык* (М. Паслядовіч); *І без песень жа народ што ён варт быць можа?* (Я. Купала); *Лабановіч тым часам крыху асвойтаўся з гэтаю незвычайнаю для яго абстаноўкаю і з цікавасцю прыглядаецца да гэтых новых для яго людзей* (Я. Колас).

Найбольш пашыраны парадак слоў у гэтых словазлучэннях — постпазіцыя залежнага кампанента. Адваротны парадак слоў выкарыстоўваецца для больш выразнага падкрэслівання прыметы, выражанай галоўным кампанентам. Словазлучэнні з адваротным парадкам слоў выкарыстоўваюцца пераважна ў паэтычных творах: *Хіба ж перад кім я вінна, што так радасці хачу?* (А. Астрэйка); *Над ім* [Жыткам] *не ўладна тло гадоў, яго зачын гарыць яскрава* (М. Лужанін).

### Група 2. Прыметнік+азначальны займеннік

§ 84. Гэтыя словазлучэнні адзінкавыя ў колькасных адносінах, аднак шырока ўжывальныя. У ролі залежнага кампанента ў іх выступаюць азначальныя займеннікі *увесь, сам.* Словазлучэнні з займеннікам *увесь* маюць значэнне вычарпальнасці прыметы: *увесь шэры, увесь чорны, увесь мёрзлы, увесь сухі.* Сінонімаў гэтыя канструкцыі не маюць. Найбольш пашыраным парадкам слоў з'яўляецца прэпазіцыя залежнага кампанента — займенніка. Адваротны парадак слоў ужываецца пры асаблівым падкрэсліванні прыметы: *Голас быў ціхі, спакойны, да ўсяго абыякавы* (М. Лынькоў).

Словазлучэнні з займеннікам *сябе* выражаюць значэнне сумеснасці, узаемнасці. Яны заснаваны на сувязі прымыкання з прыназоўнікам *паміж (між): падобныя паміж (між) сабою, роўныя між сабою, незнаёмыя між сабой, блізкія між сабой. Незнаёмых між сабою людзей цяпер аб'ядноўвае на гэтай доўгай скамейцы адна і тая самая думка: — Ці хутка прыйдзе аўтобус на Шапалевічы* (З. Бядуля); *Гаспадары і госці рады, жычлівы, ветлы між сабой* (Я. Колас). Сінонімаў гэтыя словазлучэнні не маюць. Характарызуюцца ўстойлівай перавагай канструкцый з постпазіцый залежнага кампанента: *Пісьменніцкае асяроддзе складаецца з талентаў яркіх і менш яркіх, не падобных паміж сабой* (Я. Колас).

### *Разрад 6. Словазлучэнні прыметнікаў з прыметнікамі*

§ 85. Асноўную частку словазлучэнняў гэтага разраду складаюць адзінкавыя ў колькасных адносінах, аднак вельмі ўжывальныя канструкцыі таўталагічнага характару з прыназоўнікамі *з, сярод, для,* якія набліжаюцца да ўстойлівых: *роўны сярод роўных, лепшы з лепшых, выдатнейшы з выдатных* і пад. *Высокае становішча грамадзяніна сацыялістычнай краіны, роўнага сярод роўных у шматмільённай савецкай сям'і, напоўніла сэрца беларуса гонарам за сябе і за сваю вялікую радзіму* (К. Крапіва). Да гэтага разраду адносяцца і значна менш ужывальныя аднатыпныя словазлучэнні нетаўталагічнага характару: *незразумелы для новых, дзіўны для староніх, звычайны для дасведчаных* і пад.

## СКЛАДАНЫЯ СЛОВАЗЛУЧЭННІ

### *Разрад 1. Словазлучэнні прыметнікаў са свабоднымі спалучэннямі слоў*

### Група 1. Прыметнік+некалькі сузалежных ці падзалежных кампанентаў

§ 86. Складаныя прыметнікавыя словазлучэнні са свабоднымі спалучэннямі слоў у якасці залежнага кампанента характарызуюцца вялікай ужывальнасцю і разнастайнасцю семантыка-сінтаксічных значэнняў, што ў многім тлумачыцца шырокімі магчымасцямі мовы ў выражэнні адценняў прымет, якасцей, уласцівасцей прадметаў і з'яў: *Эх, што можа быць даражэй вольнай волечкі, палёў?* (Я. Колас); *Ты — марцовага снегу бялей, броўкі — долі сіроц-*

6*

*кай чарней* (М. Багдановіч); *Рака наша слаўная, Нёман, чысцейшая чэрвеньскіх рос, хто мар не ўплятаў у твой гоман, табе хто пашаны не нёс?* (А. Астрэйка); *Бачыў шмат я гарачых вачэй, што за ясныя зоры ярчэй* (А. Астрэйка); *Ясь Ліскоўскі быў зусім не падобны да брата і на цэлую галаву вышэйшы за яго* (Я. Колас); *Не ведалі, хто вінават у гэтай сварцы* (З. Бядуля).

Па тыпу сінтаксічнай сувязі, семантыка-сінтаксічных адносінах і па парадку галоўнага і залежнага кампанентаў складаныя словазлучэнні гэтай групы супадаюць з адпаведнымі простымі.

Умовы для ўтварэння складаных прыметнікавых словазлучэнняў, у якасці залежнага кампанента якіх выступаюць свабодныя спалучэнні слоў, у асноўным тыя ж, што і для ўтварэння складаных словазлучэнняў гэтага разраду з назоўнікам у ролі галоўнага кампанента:

1) калі залежны кампанент мае адно ці некалькі паясняльных слоў — залежны кампанент другой ступені. Гэтыя складаныя словазлучэнні характарызуюцца шырокай ужывальнасцю і прадуктыўнасцю, разнастайнасцю семантыка-сінтаксічных сувязей. Словазлучэнні кожнай з разгледжаных вышэй груп простых канструкцый з залежнымі назоўнікамі ўсіх склонаў могуць утвараць складаныя словазлучэнні з залежным кампанентам, выражаным назоўнікам і азначальнымі прыметнікамі або спалучэннем назоўнікаў разнастайных семантыка-сінтаксічных груп: *дастойны павагі — дастойны вялікай павагі; поўны ягад—поўны спелых ягад; рады брату—рады старэйшаму брату; горды працай — горды выдатнай працай на заводзе; цяжкі для ўспрыняцця — цяжкі для ўспрыняцця гледача; вольны ад заняткаў — вольны ад заняткаў са студэнтамі; чырвоны ад ветру — чырвоны ад моцнага паўночнага ветру; здольны да працы — здольны да адказнай працы; блакітны ў палоску — блакітны ў сінюю палоску; адкрыты перад сябрамі — адкрыты перад блізкімі сябрамі; жоўты з адлівам — жоўты з залацістым адлівам; цяжкі ў ажыццяўленні — цяжкі ў практычным ажыццяўленні; бездакорны ў адносінах — бездакорны ў адносінах з калегамі. Неба поўна сівых хмараў* (Я. Купала); *Сілівон сядзеў у хаце рады выдумцы чарговай* (М. Лужанін); *Ноч маўчала, была зычная далёкай пустатой* (К. Чорны); *Ён вядомы сярод усіх юрыстаў Расіі* (Я. Колас); *Старасць-слабасць падаспела, стаў нядуж к рабоце ўсякай* (Я. Купала);

2) калі галоўны кампанент мае адно ці некалькі паясняльных слоў. Складаныя прыметнікавыя словазлучэнні з ускладненым галоўным кампанентам, таксама як і словазлучэнні з ускладненым залежным кампанентам, могуць утварацца ад простых словазлучэнняў усіх груп. Аднак яны лексічна абмежаваны з боку паясняльных да галоўнага кампанента слоў. У якасці паясняльных слоў могуць выступаць прыслоўі і назоўнікі ў функцыі прыслоўяў колькасна абмежаванай семантычнай групы меры, ступені: *поўны ягад — з верхам поўны ягад; удзячны сябру — надзвычай удзячны сябру; чароўны прыгажосцю — невыказна чароўны прыгажосцю; далёкі ад жыцця — безнадзейна далёкі ад жыцця; просты па выкладу — незвычайна просты па выкладу; непрыкметны пад мохам — амаль непрыкметны пад мохам; розныя па поглядах — дыяметральна розныя па поглядах. Можа, чорствы ты крыху душой, не ведаеш, што робіцца ў дзявочым сэрцы* (М. Лынькоў); *Сам ён, не надта сарамлівы ад прыроды, адчуваў сябе ў гэты дзень крыху ніякавата* (А. Чарнышэвіч); *З хаты чуваць высокі, малады, на дзіва чысты голас* (К. Крапіва);

3) калі абодва кампаненты простага словазлучэння маюць пояс-

няльныя словы: *пойны ягад — з верхам пойны спелых ягад; удзячны сябру — надзвычай удзячны чуламу сябру; чаройны прыгажосцю — невыказна чаройны сціплай прыгажосцю; далёкі ад жыцця — вельмі далёкі ад жыцця студэнтаў; просты па выкладу — незвычайна просты па мастацкаму выкладу; непрыкметны пад мохам — амаль непрыкметны пад пухлым мохам; розныя па поглядах — дыяметральна розныя па навуковых поглядах. Ён рухаўся хутка і спрытна, вельмі вялікі для гэтай маленькай кузні, але ўсё ў яго выходзіла хутка і прызвычаена* (Э. Самуйлёнак); *І хата, маўклівая, вельмі няўтульная без звычайнай дзіцячай валтузні і гаману здалася, як склеп* (І. Мележ).

### Група 2. Прыметнік+група слоў, якія перадаюць аднародныя звязаныя паняцці

§ 87. Прыметнікавыя словазлучэнні гэтай групы характарызуюцца нязначнай прадуктыўнасцю, яны ўтвараюцца пераважна толькі ад словазлучэнняў з прыназоўнікам *паміж (між)* і назоўнікамі ў творным склоне: *зацяжны паміж (між) Карпавым і Каспаравым, звілісты паміж возерам і вёскай.* Такія словазлучэнні з'яўляюцца ў сказах адасобленымі азначэннямі: *Сцяжынка, звілістая між возерам і невялікім лесам, вяла да нябачнай адсюль вёскі* (Чырвоная змена, 1983). Неадасобленыя азначэнні семантычна і сінтаксічна звязаны з азначаемым назоўнікам і ўтвараюць разам з ім словазлучэнні з назоўнікам у ролі галоўнага слова: *Звілістая сцяжынка між возерам і невялікім лесам вяла да нябачнай адсюль вёскі* (Чырвоная змена, 1982).

Словазлучэнні гэтай групы будуюцца на аснове сінтаксічнай сувязі прымыкання і постпазіцыі залежнага кампанента.

### Група 3. Прыметнік+складаная назва

§ 88. Складаныя словазлучэнні гэтай групы колькасна абмежаваны, аднак даволі прадуктыўныя: *рады Старым Дарогам, пойны «Новай зямлёй», незабыўны для «Новага шляху», мацнейшы ў Броннай Гары, вядомы ў Мар'інай Горцы.* Прамым парадкам слоў у гэтых словазлучэннях з'яўляецца постпазіцыя залежнага кампанента. Па тыпу сінтаксічных сувязей, семантыцы сінтаксічных адносін паміж галоўным і залежным кампанентамі, адносінах сінаніміі гэтыя словазлучэнні аднатыпныя з простымі словазлучэннямі адпаведных груп.

## *Разрад 2. Прыметнік+сінтаксічна непадзельнае словазлучэнне*

§ 89. Словазлучэнні гэтага разраду вызначаюцца шырокай ужывальнасцю, разнастайнасцю семантычных адносін, парадку кампанентаў і ступені прадуктыўнасці. У якасці залежнага кампанента ў гэтых канструкцыях выступаюць словазлучэнні, якія з'яўляюцца адным членам сказа. Пры аддзяленні залежнага кампанента, абавязковага дэтэрмінатара да залежнага назоўніка, страчваецца сэнс канструкцыі: *міралюбівыя людзі добрай волі, цудоўны ў вячэрні час, эфектыўны на вышэйшым узроўні, правадзейны ў поўным складзе, зразумелы на ўсіх мовах, нявоўны з зубчастымі вяршалінамі.*

Адносна фармальна-граматычнай будовы вылучаюцца наступныя складаныя словазлучэнні.

### Група 1. Прыметнік+назоўнік у родным склоне+дэтэрмінатар

§ 90. Словазлучэнні гэтай групы прадстаўлены канструкцыямі з аб'ектнымі і часавымі адносінамі. Першыя даволі прадуктыўныя ў сучаснай мове: *Ён жа сам і пятай часці таго не варт, што тытуню мне напсаваў* (К. Крапіва).

Непрадуктыўнымі складанымі словазлучэннямі з залежным назоўнікам у родным склоне і пэўным дэтэрмінатарам з'яўляюцца канструкцыі з часавымі адносінамі: *Проста, скажу табе, што заўтрашняга дня пэўны не быў* (Э. Самуйлёнак).

### Група 2. Прыметнік+назоўнік у вінавальным склоне+дэтэрмінатар

§ 91. Гэтыя прадуктыўныя складаныя словазлучэнні з сінтаксічна непадзельным залежным кампанентам выражаюць акалічнасныя адносіны з адценнямі часу і колькасці (або меры): *Але мне здаецца, ані не страцілі і ніколі не страцяць свае глыбокае цікавасці тыя таемныя, кожны разновыя, своеасаблівыя шляхі, па якіх ідзе чалавек ад вузка асабістых сваіх разломаў да поўнага расчынення сябе ў калектыве* (М. Зарэцкі); *Часам Сава пасля прыезду быў увесь дзень задумёны, маўклівы* (П. Пестрак); *Тыя боты як уздзене, дык халявы па калені, а як пойдзе, дык рыпяць, варты мо' чырвонцаў пяць* (К. Крапіва); *Месца выбралі здатнае, вырылі дол, дол тры сажні шырокі, глыбокі; закапалі, убілі асінавы кол, далі насып тры сажні высокі* (Я. Купала).

Словазлучэнні тыпу *тры сажні шырокі, два сажні глыбокі* не адпавядаюць норме сучаснай беларускай мовы. Яны былі характэрны для старабеларускай мовы і ўжываюцца для вырашэння выразна стылістычных задач у творчасці некаторых пісьменнікаў і паэтаў. Замест іх у сучаснай беларускай мове часам ужываюцца складаныя канструкцыі з прыназоўнікам *у: шырокі ў тры сажні, глыбокі ў два сажні,* аднак больш прадуктыўнымі з'яўляюцца адпаведныя назоўнікавыя словазлучэнні: *шырынёй у тры сажні, глыбінёй у два сажні.*

Словазлучэнні тыпу *варты дзесяць рублёў, варты рублёў трыццаць* характарызуюцца невысокай прадуктыўнасцю. Замест іх часта ўжываюцца значна больш прадуктыўныя словазлучэнні тыпу *каштуе дзесяць рублёў, каштуе рублёў трыццаць.* Трэба адзначыць, што складаныя словазлучэнні з сінтаксічна непадзельнымі спалучэннямі складаюць пераважную большасць канструкцый групы «прыметнік + назоўнік у вінавальным склоне».

### Група 3. Прыметнік+назоўнік у творным склоне+дэтэрмінатар

§ 92. Асаблівай прадуктыўнасцю характарызуюцца гэтыя складаныя словазлучэнні, якія маюць таўталагічны характар і выражаюць у асноўным абмежавальна-аб'ектныя адносіны: *вясёлы нястрымнай весялосцю, шчаслівы шчасцем дзяцей, горды самай высокай гордасцю. Колас не быў добранькі слязлівай дабратою* (М. Лужанін); *Усе былі ружовыя з марозу, свежыя, вясёлыя крэпкай, здаровай весялосцю* (М. Зарэцкі); *Вы ж самі бачыце, як я шчаслівы вашым і маім шчасцем* (К. Чорны). Залежны кампанент гэтых словазлучэнняў выражаны назоўнікам, аднакарэнным з галоўным прыметнікам, і абавязковым дэтэрмінатарам.

Некаторыя з гэтых складаных словазлучэнняў выражаюць часавыя адносіны: *Над цёмным лесам з'явіўся невялічкі, але рэзкі гэт-*

*к а ю  п а р о ю вецер, і макушкі злёгку зашумелі, заківаліся* (М. Гарэцкі); *Думаючы пра радаслоўную гэтага м о д н а г а  а п о ш н і м  ч а с а м шаблону, можна ўспомніць не адну кінахроніку і не адну кнігу* (Я. Брыль).

Адзінкавыя складаныя канструкцыі з залежным кампанентам — назоўнікам у творным склоне з дэтэрмінатарам выражаюць а б м е ж а в а л ь н ы я  адносіны з удакладненнем унутранага зместу прыметы: *Мы ўлюбёныя сэрцам у мір і спакой, мы ш ч а с л і в ы я  с ё н н я ш н і м  д н ё м* (К. Кірэенка).

### Група 4. Прыметнік+прыназоўнік+назоўнік у родным склоне+дэтэрмінатар

§ 93. Гэтыя словазлучэнні выражаюць у асноўным ч а с а в ы я адносіны: *сумны ад таго дня, незабыўны ад тых часоў, невядомы да таго часу, новы для таго часу, вядомы з таго часу. І я — сын Нёмана, з капыльскіх вежаў, што п а м я т н ы  а д  І г а р а в ы х  д з ё н, сівому Бугу, пушчы Белавежы, табе, наш горад Брэст прынёс паклон* (А. Астрэйка); *Верасняцы аж гарэлі ад цікаўнасці, каб як найхутчэй пабачыць г і с т а р ы ч н ы  а д  г э т а г а  д н я Стрымкаў двор* (М. Паслядовіч); *Знайшоўся нават н е в я д о м ы  д а  г э т ы х  п о р адзін пясняр* (Я. Колас); *Раптам зрабіліся чорнымі с і н і я  д а  г э т а г а  ч а с у вокны* (М. Паслядовіч); *Гэтак скончылася сяброўства двух людзей, сяброўства незвычайнае і разам з тым б а н а л ь н а е  д л я  н а ш а г а  ч а с у* (Б. Мікуліч); *Сярод бліжэйшых хутаранцаў Каржакевіч быў досыць п а п у л я р н ы  яшчэ з  д а р э в а л ю ц ы й н а г а  ч а с у* (К. Крапіва); *Пані Вашамірская х в о р а я  яшчэ  з  ч а с о ў  б а л у* (З. Бядуля).

Складаныя словазлучэнні гэтай групы з п р а с т о р а в ы м і адносінамі прадстаўлены адзінкавымі, аднак шырока ўжывальнымі канструкцыямі з непадзельнымі словазлучэннямі *адзін ад аднаго, адзін да аднаго: Гэтая дарога злучае два беларускія абшары, сваёй прыродай, характарам і выглядам  д а л ё к і я  а д з і н  а д  а д н а г о* (К. Чорны); *Трэба сказаць, што яны пачалі адчуваць самі сябе вельмі б л і з к і м і  а д з і н  д а  а д н а г о людзьмі* (К. Чорны).

З а ў в а г а. Прыметнік *пераходны* паясняецца звычайна адначасова формамі роднага склону з прыназоўнікамі *ад* і *да*: *Нярэдка можна сустрэць вершы, якія з'яўляецца п е р а х о д н ы м  а д  а д н а г о  р а з м е р а  д а  д р у г о г а* (К. Крапіва).

Складаныя словазлучэнні са значэннем  м е р ы,  с т у п е н і  прадстаўлены адзінкавымі канструкцыямі: *І такім чынам* [Булавін] *у адзін вясновы дзень з'явіўся ў  н о в а й  д а  а п о ш н я й  х а т ы вёсцы Баравікі* (П. Пестрак).

### Група 5. Прыметнік+прыназоўнік+назоўнік у давальным склоне+дэтэрмінатар

§ 94. Гэтыя складаныя словазлучэнні даволі часта выражаюць п р а с т о р а в а-л а к а л ь н ы я  адносіны: *Цераз курганы і заводы в і д о ч н ы я  п а  ў с ё й  з я м л і, ад гэтых сцен, ад Валгаграда праспекты міру праляглі* (М. Лужанін); *Міліцыянер Цішка Каборда, в я д о м ы  п а  ў с ё й  в а к о л і ц ы  вялікім спрытам выкрываць самагоншчыкаў, меў свой погляд на гэту справу* (З. Бядуля).

### Група 6. Прыметнік+прыназоўнік+назоўнік у вінавальным склоне+дэтэрмінатар

§ 95. Гэтыя складаныя словазлучэнні выражаюць часавыя і прасторава-лакальныя адносіны: *Ён рэдка смяўся. Быў увесь час злосны, надзьмуты* (П. Броўка); *Старшыня калгаса адчуў звыклае за апошнія часы прыемнае сцясненне ў грудзях* (Э. Самуйлёнак); *Можа, чутны на цэлы свет, лёгкім птахам ляціць экспрэс* (К. Кірэенка); *Гэй ты, князь! Гэй праслаўлен на цэлы бел-свет!* (Я. Купала).

### Група 7. Прыметнік+прыназоўнік+назоўнік у творным склоне+дэтэрмінатар

§ 96. Адзінкавыя складаныя словазлучэнні гэтай групы выражаюць часавыя адносіны з абмежавальным адценнем: *Панас сядзеў каля стала і слухаў уступную перад пачаткам сходу прамову Камекі* (П. Галавач).

### Група 8. Прыметнік+прыназоўнік+назоўнік у месным склоне+дэтэрмінатар

§ 97. Нязначная колькасць гэтых складаных словазлучэнняў, якія характарызуюцца даволі шырокай ужывальнасцю, выражае часавыя адносіны: *А пытанні гэтыя пастаўлены як эпізадычныя, а праз іх і сама справа фактычна зводзіцца да як каштоўнага толькі на тым этапе эпізоду* (К. Чорны); *Справа гэта па дальнейшых часах страшная* (М. Лужанін); *Чарняхоўскі быў самым маладым з камандуючых франтамі, маладым і па гадах і па вайсковай біяграфіі* (І. Мележ); *Паказанні сведак, адсутных па законных прычынах, суд пастанавіў агаласіць у свой час* (Я. Колас); *З падпечка чуецца хрыплы, пакутны крык перапуджанага і сляпога пры святле лучыны пеўня* (К. Крапіва).

## IV ТЫП. СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ЛІЧЭБНІКАМ У РОЛІ ГАЛОЎНАГА КАМПАНЕНТА

§ 98. Словазлучэнні гэтага тыпу з'яўляюцца прадуктыўнымі і шырокаўжывальнымі: *шэсць лыжак, дваццаць сталоў, многа дрэў, сто крокаў, двое з прысутных, трое сяброў, некалькі чалавек, дзвесце двароў, трэці з боку, адзін з вучняў, двое з вінтоўкамі.* Яны характарызуюцца спецыфікай сінтаксічных сувязей кампанентаў. Пэўнаколькасныя лічэбнікі да *пяці* ў назоўным і вінавальным склонах дапасуюцца да адушаўлёных і неадушаўлёных назоўнікаў: *тры сталы, дзве кніжкі, чатыры талеркі; трох сыноў, двух коней, чатырох сясцёр.* Пэўнаколькасныя лічэбнікі ад *пяці* і вышэй, няпэўнаколькасныя і зборныя назоўнікі ў назоўным склоне, а таксама ў вінавальным, які супадае з назоўным, кіруюць назоўнікамі і іншымі словамі, што выступаюць у ролі назоўнікаў: *сем крэслаў, многа кніжак, некалькі сталоў.* Ва ўскосных склонах гэтыя лічэбнікі дапасуюцца да назоўніка (*трох кніжак, шасці сталоў, некалькіх крэслаў*).

Словазлучэнні гэтага тыпу не маюць сінонімаў. Прамым парадкам слоў з'яўляецца прэпазіцыя галоўнага члена — лічэбніка. Парадак членаў у іх строга замацаваны. Змена парадку кампанентаў словазлучэнняў з пэўнакалькаснымі лічэбнікамі ў ролі галоўнага слова прыводзіць да змены значэння. Канструкцыі з постпазіцыяй лічэбніка атрымліваюць значэнне недакладнай, прыблізнай колькасці (*сем кніг — кніг сем,* гл. ч. 1, § 214). Адваротны парадак кампанентаў у словазлучэннях з няпэўнакалькаснымі лічэбнікамі (постпазіцыя лічэбніка) ужываецца рэдка, а ў словазлучэннях са зборнымі лічэбнікамі практычна не ўжываецца.

## V ТЫП. СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ЗАЙМЕННІКАМ У РОЛІ ГАЛОЎНАГА КАМПАНЕНТА

§ 99. Словазлучэнні гэтага тыпу колькасна абмежаваныя і разнастайныя ў адносінах прадуктыўнасці. Словазлучэнні з асабовымі і зваротным займеннікамі з'яўляюцца непрадуктыўнымі. Да гэтых займеннікаў могуць адносіцца толькі адасобленыя азначэнні: *Сонная, яна хістанулася на нагах і шпарка пайшла ў хату* (К. Чорны).

Словазлучэнні з няпэўнымі займеннікамі характарызуюцца значнай прадуктыўнасцю, яны ўключаюць у якасці залежнага кампанента прыметнікі, дзеепрыметнікі, займеннікі іншых разрадаў: *нехта задаволены, нешта незвычайнае, што карыснае, нешта знаёмае, нехта іншы, штосьці пазабытае, хтосьці з мясцовых, некаторыя з іх, многія з нас. А можа і сапраўды надарыцца яму дзе што добрае* (Я. Колас); *Ён адхіснуўся, нібы чымсьці вострым штурханулі яму ў грудзі* (А. Кулакоўскі); *Штось забылога — ім, вядома, пэўна ў памяці ўсплыло* (Я. Колас); *Рух нерашучасці і замяшання скаваў некаторым з нас языкі* (М. Лынькоў).

Словазлучэнні гэтага тыпу не маюць сінонімаў. Прамым парадкам у гэтых канструкцыях з'яўляецца постпазіцыя залежнага кампанента. Адваротны парадак слоў сустракаецца рэдка. Тып сувязі — далучэнне.

## VI ТЫП. СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ПРЫСЛОЎЕМ У РОЛІ ГАЛОЎНАГА КАМПАНЕНТА

§ 100. Канструкцыі з прыслоўем у ролі галоўнага слова падзяляюцца на 3 разрады ў залежнасці ад граматычнага класа залежнага слова.

Парадак кампанентаў гэтых словазлучэнняў адносна ўстойлівы. У канструкцыях «прыслоўе + прыслоўе» звычайна наглядаецца прэпазіцыя залежнага кампанента, а ў канструкцыях «прыслоўе + назоўнік» і «прыслоўе+займеннік» — постпазіцыя: *роблена па-старыкоўску, цікава для шматлікіх слухачоў, ізалявана ад усіх нас.* Галоўны і залежны кампаненты звязаны сінтаксічнай сувяззю прымыкання.

Сінонімаў гэтыя канструкцыі не маюць.

## *Разрад 1. Словазлучэнні прыслоўяў з прыслоўямі*

§ 101. Канструкцыі гэтага разраду падзяляюцца на 9 груп у залежнасці ад граматычных разрадаў прыслоўяў. Пры гэтым не ўсе тэарэтычна магчымыя мадэлі словазлучэнняў рэалізуюцца ў сучаснай беларускай мове. Так, не адзначаны прыслоўныя словазлучэнні з колькасным прыслоўем у ролі галоўнага кампанента, а таксама канструкцыі «акалічнаснае прыслоўе + якаснае прыслоўе», дзе акалічнаснае выступае ў ролі галоўнага кампанента.

### Група 1. Словазлучэнні якаснае прыслоўе+якаснае прыслоўе

§ 102. Гэтыя спалучэнні выражаюць якасныя адносіны: *Марудна пасоўваючыся над аблокамі і самотна квола курлыкаючы, ляцеў там у невядомую далеч невялікі ланцужок журавоў* (В. Быкаў); *Неяк прыкра было камандзіру ад таго, што надоечы накрычаў ён на Фішара* (В. Быкаў); *Незвычайна хутка падкраўся змрок* (К. Чорны).

Залежнае якаснае прыслоўе далучаецца да галоўнага на аснове сувязі прымыкання. Парадак слоў у даных канструкцыях устойлівы: залежны кампанент звычайна знаходзіцца ў прэпазіцыі да галоўнага: *падкрэслена ветліва, прарэзліва тужліва, неверагодна мілагучна, неяк загадкава, аднолькава шчыра.* Інверсія тут немагчыма. Пры змене парадку кампанентаў словазлучэння галоўнае слова ўспрымаецца як залежнае. Гэта або змяняе сэнс канструкцыі, або робіць яе незразумелай, параўн.: *кампазіцыйна проста — проста кампазіцыйна; жыццёва перакананаўча — перакананаўча жыццёва; аднолькава роўна — роўна аднолькава.*

### Група 2. Словазлучэнні якаснае прыслоўе+колькаснае прыслоўе

§ 103. Гэтыя спалучэнні выражаюць якасна-акалічнасныя адносіны: *Было трохі вусцішна аднаму сярод цемрадзі і глухмені лесу* (Я. Колас); *Атрымалася даволі недарэчна* (Я. Брыль); *І хоць яму было вельмі няёмка тут, у гэтым сцюдзёным ветраным полі... але баец маўкліва цярпеў* (В. Быкаў).

У даных словазлучэннях залежнае колькаснае прыслоўе прымыкае да якаснага. Залежны кампанент звычайна стаіць у прэпазіцыі да галоўнага, аднак часам сустракаюцца выпадкі інверсіі: *Неспакойна трохі было на сэрцы ў Паўлюка, дый злосць яго стала праходзіць* (Я. Колас).

Па сваіх семантыка-сінтаксічных уласцівасцях да гэтых словазлучэнняў далучаюцца і канструкцыі з якасным прыслоўем вышэйшай ступені параўнання ў ролі галоўнага кампанента: *Падсілкаваўшыся, Панас пачуўся шмат ямчэй* (Я. Колас); *Пасля смерці бацькі ён стаў любіць яе ўдвая болей* (В. Быкаў).

### Група 3. Словазлучэнні якаснае прыслоўе+ якасна-акалічнаснае прыслоўе

§ 104. Гэтыя словазлучэнні выражаюць якасныя адносіны: *Глечык захлябнуўся слязьмі і крыўдай і па-хлапечы звонка з неспатольнай здзічэлай роспаччу закрычаў услед* (В. Быкаў); *Але немцы трымаліся па-ранейшаму ўпарта* (І. Мележ).

Залежнае якасна-акалічнаснае прыслоўе прымыкае да якаснага і стаіць звычайна перад ім.

### Група 4. Словазлучэнні якаснае прыслоўе+акалічнаснае прыслоўе

§ 105. Словазлучэнні данай групы ўжываюцца ў сучаснай беларускай мове вельмі рэдка. Па такой мадэлі ўтвараюцца толькі спалучэнні з акалічнаснымі прыслоўямі мэты ў ролі залежнага кампанента: *сумыслу павольна, незнарок голасна.*

Гэтыя канструкцыі заснаваны на сувязі прымыкання, парадак слоў — прэпазіцыя залежнага кампанента: *Гаснуў дзень назнарок пакрысе* (А. Астрэйка).

### Група 5. Словазлучэнні якасна-акалічнаснае прыслоўе+ якаснае прыслоўе

§ 106. Гэтыя словазлучэнні таксама вельмі рэдка ўжываюцца ў сучаснай беларускай мове. Яны выражаюць азначальныя адносіны: *неяк знянацку, роблена па-старыкоўску, неяк па-святочнаму.*

Прамы парадак кампанентаў — залежнае якаснае прыслоўе размяшчаецца перад галоўным словам. Такія словазлучэнні заснаваны на сувязі прымыкання.

### Група 6. Словазлучэнні якасна-акалічнаснае прыслоўе+ колькаснае прыслоўе

§ 107. Названыя словазлучэнні таксама выражаюць азначальныя адносіны: *Хоць рушылі амаль адразу за артылерыйскімі выбухамі... вораг яшчэ спрабаваў утрымацца* (І. Мележ); *Трохі наўзбоч — змешаны лісцвяны лес* (І. Навуменка).

Залежны кампанент — колькаснае прыслоўе — звычайна знаходзіцца ў прэпазіцыі: *зусім па-летняму, амаль аднačасова, крыху наўзбоч.* Гэтыя словазлучэнні заснаваны на сувязі прымыкання.

### Група 7. Словазлучэнні якасна-акалічнаснае прыслоўе+ акалічнаснае прыслоўе

§ 108. Ужываюцца вельмі рэдка. Яны выражаюць азначальныя адносіны.

Парадак слоў — прэпазіцыя залежнага кампанента: *па-заліхвацку набакір, уздоўж радамі.* Гэтыя словазлучэнні ўтвораны на аснове сувязі прымыкання.

У ролі галоўнага кампанента словазлучэнняў гэтай групы ўжываюцца прыслоўі месца, часу і вельмі рэдка — прычыны і мэты. Магчымасці ўтварэння канструкцый з гэтымі прыслоўямі абмежаваны. Да акалічнасных прыслоўяў прымыкаюць пераважна колькасныя прыслоўі: *зусім блізка, крыху наводшыбе, зусім позна, яшчэ зацемна, зусім спрасоння, амаль нізавошта, амаль назнарок, трохі напаказ.* Толькі да прыслоўяў месца і часу могуць прымыкаць, акрамя колькасных, адпаведна прасторавыя і часавыя прыслоўі: *недзе ззаду, далёка адсюль, высока ўгару, учора вечарам, сёння ноччу, калісьці даўно.*

### Група 8. Словазлучэнні акалічнаснае прыслоўе+ колькаснае прыслоўе

§ 109. Названыя словазлучэнні выражаюць азначальна-колькасныя адносіны: *Быццам павінен быў страціць штосьці дарагое, значэнне якога зразумеў толькі цяпер, вельмі позна* (І. Мележ);

*Магчыма, не трэба было займаць НП т а к б л і з к а ад ворага...* (І. Мележ). Яны заснаваны на сінтаксічнай сувязі прымыкання.

Звычайны парадак слоў у гэтых словазлучэннях — прэпазіцыя залежнага члена. Інверсія дапускаецца рэдка.

### Група 9. Словазлучэнні акалічнаснае прыслоўе (месца, часу)+ акалічнаснае прыслоўе (месца, часу)

§ 110. Гэтыя словазлучэнні выражаюць адпаведна п р а с т о р а в ы я і ч а с а в ы я адносіны: *Увесь час білі варожыя гарматы, але снарады рваліся н е д з е з з а д у* (І. Мележ); *П о з н а ў в е ч а р ы пачуўся шолах лісцяў пад нагамі* (Я. Колас).

Залежны кампанент звычайна знаходзіцца ў прэпазіцыі да галоўнага, аднак інверсія сустракаецца даволі часта: *Д а ў н о к а л і с ь ц і, ясновым ранкам, з далінаў Нёмна крыжацкі комтур да прускіх замкаў гнаў шмат палонных* (М. Танк). Гэтыя словазлучэнні заснаваны на сувязі прымыкання.

## *Разрад 2. Словазлучэнні прыслоўяў з назоўнікамі*

### Група 1. Словазлучэнні якаснае прыслоўе+прыназоўнік+назоўнік у родным склоне

§ 111. Гэтыя словазлучэнні ўключаюць канструкцыі з прыназоўнікамі *да, для, ад: моцна да болю, зразумела для вучняў, асобна ад дзяцей.*

Словазлучэнні з прыназоўнікам *да* выражаюць а з н а ч а л ь н ы я адносіны з адценнем меры і ступені, спалучэнні з прыназоўнікамі *для, ад* — аб'ектныя адносіны.

Звычайны парадак членаў — постпазіцыя залежнага назоўніка: *Ідуць кожны па сваёй патрэбе: хто па ягады, хто па грыбы, хто нарваць мяккага вішу на сяннік, а хто неўзаметку, п а т а е м н а а д леснікавага в о к а, укасіць між кустоўя капу сена* (І. Навуменка).

Залежны кампанент звязаны з галоўным на аснове сувязі прымыкання.

### Група 2. Якаснае прыслоўе вышэйшай ступені параўнання+ прыназоўнік+назоўнік у родным склоне

§ 112. У якасці залежнага кампанента словазлучэнні данай групы ўключаюць назоўнікі ў родным склоне без прыназоўнікаў або з прыназоўнікамі *да, ад, за.* Гэтыя словазлучэнні вельмі распаўсюджаны ў сучаснай беларускай мове: *Плывуць аблокі над ёй высока... яна ж в ы ш э й самых а б л о к а ў* (П. Броўка); *Вунь, бачыш, п р а в е й д р э ў ц а як бы купінкі — кулямёт* (І. Мележ); *Фішар хоць і не быў вайскоўцам, але за час франтавога жыцця навучыўся ўжо разбірацца ў ваенных абставінах, як ён думаў, н е г о р ш з а К а р п е н к у* (В. Быкаў); *За тры крокі ад яго, д а л е й а д п а л а т н а чыгункі, відны былі дзве постаці* (М. Лобан); *Я, мамка і яшчэ другія мамы і дзеці хочам праціснуцца б л і ж э й д а гэтай б р а м ы, а нейкі нядобры дзядзька ўсё нас адганяе* (Я. Маўр).

У сучаснай беларускай літаратурнай мове з двух сінанімічных канструкцый — беспрыназоўнікавых і прыназоўнікавых — большай ужывальнасцю характарызуюцца апошнія, параўн.: *вышэй аблокаў — вы-*

*шэй за аблокі; правей лесу — правей ад лесу; бліжэй вёскі — бліжэй да вёскі.* Аднак беспрыназоўнікавыя канструкцыі часам маюць сваю семантычную спецыфіку і не могуць быць заменены прыназоўнікавымі: *вышэй лесу, ніжэй палавіны.* Беспрыназоўнікавыя словазлучэнні гэтай групы шырока ўжываюцца ў размоўным стылі мовы, у мове мастацкай літаратуры; пераважнае выкарыстанне гэтых канструкцый характэрна для многіх беларускіх гаворак. Прыназоўнікавыя словазлучэнні гэтай групы выражаюць, таксама як і беспрыназоўнікавыя, адносіны прыпадабнення з пэўнымі адценнямі, абумоўленымі семантыкай прыназоўнікаў.

Канструкцыі з прыслоўямі вышэйшай ступені ў якасці галоўнага кампанента адрозніваюцца ад астатніх тыпам сувязі паміж кампанентамі: яны заснаваны на сувязі кіравання (параўн.: *высока ў аблоках* і *вышэй аблокаў*). Парадак членаў — постпазіцыя залежнага кампанента.

### Група 3. Словазлучэнні якасна-акалічнаснае прыслоўе+ прыназоўнік+назоўнік ва ўскосных склонах

§ 113. Даныя словазлучэнні выражаюць а б ' е к т н ы я адносіны: *употай ад людзей, упоперак да сцяны.*

Прамым парадкам для гэтых словазлучэнняў з'яўляецца постпазіцыя назоўніка, хоць залежны кампанент даволі часта стаіць перад галоўным — якасна-акалічнасным прыслоўем: *...Пабеглі, не чуючы ног над сабою, з а г р у к а т а м у с л е д, насустрач невядомасці* (П. Глебка).

Звычайна тып сувязі ў словазлучэннях «якасна-акалічнаснае прыслоўе + назоўнік» — кіраванне. Аднак сярод іх ёсць асобныя адзінкавыя выпадкі спалучэння прыслоўяў з назоўнікамі, заснаванага на сувязі прымыкання: *наўскос да шляху, напрасткі па цаліку, напрасткі к вёсцы, упоперак да гасцінца.*

У спалучэннях тыпу *наперарэз ворагу, насустрач поезду* прыслоўі перайшлі ў прыназоўнікі, хоць некаторыя з іх яшчэ захоўваюць сваю спецыфіку (*наўздзіў людзям, наўздагон шчасцю*). Актывізацыя пераходу прыслоўяў у прыназоўнікі наглядаецца і ў прыназоўнікавых словазлучэннях якасна-акалічнасных прыслоўяў з назоўнікамі і займеннікамі. Многія якасна-акалічнасныя прыслоўі, якія набліжаюцца да акалічнасных прасторавых, поўнасцю перайшлі ў прыназоўнікі: *Паводле падання, недзе п а б л і з у а д г э т ы х м я с ц і н быў забіты князь Ігар, той самы, што двойчы за адзін год хацеў пажывіцца данінай у непакорных драўлян* (І. Навуменка). Гэта адносіцца таксама да вельмі пашыраных канструкцый з прыназоўнікам *з*: *Пасля дэманстрацыі Іван Лобік і Нупрэй Гіль р а з а м з М і ц е м прыйшлі пад сасну* (І. Навуменка).

Пры інверсіі пераход прыслоўяў у прыназоўнікі не адбываецца, параўн.: *старайся разам з бацькам* і *старайся з бацькам разам.* Гэта адносіцца і да словазлучэнняў, у якіх якасна-акалічнасныя прыслоўі кіруюць беспрыназоўнікавымі формамі назоўнікаў: *ветру наперакор, людзям наўздзіў, шчасцю наўздагон.*

### Група 4. Словазлучэнні акалічнаснае прыслоўе (месца, часу)+ прыназоўнік+назоўнік ва ўскосных склонах

§ 114. Гэтыя словазлучэнні з'яўляюцца вельмі пашыранымі і прадуктыўнымі ў сучаснай беларускай мове. Выражаюць п р а с т о р а в ы я або ч а с а в ы я адносіны: *Н е п а д а л ё к а д г а р б к а ішлі па-*

*возкі са снарадамі* (І. Мележ); *Яна падыходзіць н а з а д д а свае х а т ы* (К. Чорны); *Д з е с ь ц і н а суседняй а с і н е яшчэ вуркалі галубы, ды, пераклікаючыся з нястомнымі берасцянкамі, па лесе залівалася зараначка* (М. Лобан); *Я сціснуў вінтоўку рукой, мне з а ў т р а на досвітку ў б о й* (А. Астрэйка); *Невялікае селішча Скіп'ёўскае Перабродзе ўзнікла на голым месцы пры вялікім Скіп'ёўскім лесе а д р а з у п а с л я р э в а л ю ц ы і* (К. Чорны).

Парадак кампанентаў у гэтых словазлучэннях — постпазіцыя залежнага кампанента. Аднак сустракаюцца і выпадкі інверсіі: *Я зноў сябе кінуў з а р э ч к у н а з а д, бягу п а р ы д л ё ў к у д а х а т ы* (Я. Колас). Таксама як і ў спалучэннях з якасна-акалічнаснымі прыслоўямі ў ролі галоўнага слова, у канструкцыях з акалічнаснымі прыслоўямі прасторы многія прыслоўі перайшлі ў прыназоўнікі (*побач з дрэвам, далёка ад хаты, поруч з сябрамі, следам за байцом*).

Канструкцыі «прыслоўе часу + назоўнік» уключаюць у якасці залежнага кампанента назоўнікі роднага, вінавальнага, меснага і часам творнага склонаў з прыназоўнікамі: *вечарам пасля работы, раніцай другога дня, далёка за поўнач, назаўтра пад вечар, сёння на світанні* і пад.

Параўнальна з прасторавымі прыслоўнымі канструкцыямі словазлучэнні з прыслоўямі часу значна менш разнастайныя і ўжывальныя ў сучаснай беларускай мове. Залежныя назоўнікі могуць і не мець прамога часавага значэння і толькі кантэкстуальна ўказваюць на пэўны момант ці прамежак часу: *Усведамленне гэтага прыйшло яшчэ т а д ы ў в а г о н е* (П. Пестрак).

### *Разрад 3. Словазлучэнні прыслоўяў з займеннікамі*

§ 115. Прыслоўныя словазлучэнні з займеннікамі з'яўляюцца нешматлікімі, пераважна прыназоўнікавымі. Гэтыя канструкцыі паўтараюць некаторыя мадэлі словазлучэнняў з назоўнікамі (*поруч з ім, следам за вамі, збоку ад усяго, наводшыбе ад усіх* і пад.): *З б о к у к а л я я г о шугае агонь* (Я. Колас); *Плывуць аблокі н а д ё й в ы с о к а...* (П. Броўка); *Яшчэ некалькі цягнулася з з а д у а д і х* (І. Мележ).

Яны абмежаваны з боку залежнага слова: да прыслоўяў могуць прымыкаць толькі асабовыя займеннікі і азначальны займеннік *увесь* (*уся, усё, усе*). Пытальна-адносныя займеннікі прымыкаюць да прыслоўяў толькі ў тых выпадках, калі яны з'яўляюцца злучальнымі словамі ў даданых частках складаназалежных сказаў: *За ўзгоркам паказаўся лясок, з б о к у а д я к о г а цягнулася рэчка.*

# СІНАНІМІЯ СЛОВАЗЛУЧЭННЯЎ

## АБ'ЕКТНЫЯ СЛОВАЗЛУЧЭННІ

### *1 Словазлучэнні са значэннем уздзеяння на аб'ект*

§ 116. Дзеяслоўныя канструкцыі гэтай семантыкі прадстаўлены ў сучаснай беларускай мове дзвюма вялікімі часткова сінанімічнымі групамі: з назоўнікамі ў вінавальным склоне (са значэннем поўнага ўздзеяння) і з назоўнікамі ў родным склоне (са значэннем частковага ўз-

дзеяння): *парэзаць хлеб — парэзаць хлеба; прывезці дровы — прывезці дроў; патраціць грошы — патраціць грошай; прынесці мёд — прынесці мёду.*

Словазлучэнні галоўным словам якіх выступаюць дзеясловы закончанага трывання з прыстаўкамі *на-, аб-, пера-* з адценнем паўнаты праяўлення дзеяння, а залежным словам — рэчыўныя, зборныя або абстрактныя назоўнікі ў форме роднага склону, не маюць адпаведных канструкцый з назоўнікамі ў вінавальным склоне: *намалоць мукі, нагрэбці саломы, навазіць дроў, насадзіць дрэў, нарабіць клопату, нагаварыць непрыемнасцей, наслухацца казак, аб'есціся канюшыны, пераесці вішань* і пад.

Залежныя назоўнікі, якія абазначаюць непадзельныя прадметы ці паняцці, у словазлучэннях гэтай групы ўжываюцца ў літаратурнай мове ў форме вінавальнага склону: *пашыць блузку, адрамантаваць гадзіннік, вырасціць сад.* Ужыванне ў гутарковай мове, а таксама пры яе адлюстраванні і ў творах мастацкай літаратуры адпаведных канструкцый з залежнымі назоўнікамі ў родным склоне не адпавядае норме літаратурнай мовы: *Прыйдзецца нейкага р у б л я ці збожжа пуд в ы к і н у ц ь* (К. Крапіва); *Д а д у ц ь м е д з я к а для прыліку, што ліў пот не толькі за кнут* (Я. Купала); *Такіх д у б о ў цяпер рэдка дзе ў б а ч ы ш* (Я. Колас).

У словазлучэннях са значэннем часовага карыстання аб'ектам залежныя назоўнікі, якія абазначаюць непадзельныя прадметы, ужываюцца ў форме роднага склону і ўтвараюць, такім чынам, аб'ектныя словазлучэнні, сінанімічныя словазлучэнням з залежным кампанентам у вінавальным склоне, якія адрозніваюцца ад першых па семантычнай прымеце поўнага — часовага карыстання аб'ектам: *папрасіць сцізорык — папрасіць сцізорыка; узяць лыжкі — узяць* (у сэнсе пазычыць) *лыжак. Сядзе Зося ля дзіцяці, паплача ціхенька ды ідзе да суседкі ч ы г у н а п а з ы ч ы ц ь* (К. Крапіва).

Адпаведныя назоўнікавыя словазлучэнні са значэннем уздзеяння на аб'ект утвараюцца толькі з залежнымі назоўнікамі ў родным склоне і не дыферэнцыруюцца па адценнях поўнага або частковага ўздзеяння на аб'ект, параўн.: *парэзаць хлеб, парэзаць хлеба — рэзанне хлеба; прывезці дровы, прывезці дроў — прывоз дроў; патраціць грошы, патраціць грошай — трата грошай.* Гэтыя сінанімічныя назоўнікавыя словазлучэнні абмежаваны з боку словаўтваральных магчымасцей адпаведных дзеясловаў, паколькі не ўсе прыставачныя дзеясловы могуць утвараць адпаведныя назоўнікі: *прывезці дровы — прывоз дроў,* а л е *патраціць грошы (патраціць грошай), парэзаць хлеб (парэзаць хлеба)* і інш. З гэтым звязана таксама адсутнасць адпаведных назоўнікавых словазлучэнняў да многіх канструкцый, галоўным словам якіх выступаюць дзеясловы закончанага трывання з прыстаўкай *на-: нанасіць пяску, нагрэбці сена, начытацца кніг, нацярпецца страху, наслухацца непрыемнасцей, наесціся груш* і інш.

Сінтаксічна свабодныя складаныя словазлучэнні са значэннем уздзеяння на аб'ект характарызуюцца тымі ж сінанімічнымі адносінамі, што і простыя: *узяць белы хлеб — узяць белага хлеба; выпіць смачны квас — выпіць смачнага квасу; усыпаць салодкія грушы — усыпаць салодкіх груш; узяць востры сцізорык — узяць* (часова) *вострага сцізорыка.*

У сінтаксічна непадзельных складаных словазлучэннях залежны кампанент звычайна абазначае колькасць, меру аб'екта, які падвяргаецца ўздзеянню і выражаецца колькасна-іменным словазлучэннем, залежны назоўнік у якім заўсёды мае форму роднага склону: *усыпаць*

*20 груш, даць многа вішань, прынесці кошык грыбоў* і пад. Гэтыя складаныя словазлучэнні не маюць адпаведных канструкцый з назоўнікамі ў вінавальным склоне. Сінанімічныя пары ўтвараюць толькі тыя нешматлікія сінтаксічна непадзельныя словазлучэнні, складаны залежны кампанент якіх характарызуецца азначальнымі адносінамі. Залежны кампанент гэтых словазлучэнняў прадстаўлены пераважна фразеалагічнымі спалучэннямі, напрыклад: *прынесці зайчыкаў хлеб — прынесці зайчыкавага хлеба; з'есці забаронены плод — з'есці забароненага плода.* Некаторыя сінанімічныя пары гэтых канструкцый страчваюць адрозненне па прымеце паўнаты або непаўнаты дзеяння: *паабяцаць абяцанкі-цацанкі — паабяцаць абяцанак-цацанак,* што залежыць ад ступені набліжэння ўсяго складанага словазлучэння да фразеалагізма.

Сінтаксічна непадзельныя словазлучэнні са складанымі тэрмінамі ў якасці залежных кампанентаў характарызуюцца тымі ж сінанімічнымі адносінамі, што і простыя: *прынесці гусіныя лапкі — прынесці гусіных лапак; прывезці дыягнастычныя машыны — прывезці дыягнастычных машын.*

Складаныя словазлучэнні, залежны кампанент якіх абазначае непадзельныя прадметы або паняцці, не маюць сінанімічных канструкцый з назоўнікамі ў родным склоне: *прывезці электронна-вылічальную машыну, увесці ў запамінальнае прыстасаванне* і пад.

Фразеалагічныя словазлучэнні са значэннем уздзеяння на аб'ект таксама характарызуюцца варыянтным ужываннем залежнага назоўніка ў форме вінавальнага склону або ў форме роднага склону: *напускаць туман — напускаць туману; паабіваць парогі — паабіваць парогаў.* Аднак агульнае значэнне фразеалагізма і ў першым і ў другім варыянце застаецца аднолькавым, дыферэнцыяцыя значэнняў поўнага і частковага ўздзеяння на аб'ект у такіх фразеалагізмах у параўнанні з адпаведнымі па форме свабоднымі словазлучэннямі адсутнічае: *Гаворыць Сцёпка і на Аленку не глядзіць, каб па вачах яго не пазнала, што ён трохі т у м а н у  н а п у с к а е* (Я. Колас); *Нямала прыйшлося яму п а а б і в а ц ь панскія п а р о г і* (Я. Колас); *У мяне свае справы, і мне некалі тут б і ц ь б і б і к і* (М. Лынькоў).

Як і свабодныя словазлучэнні, фразеалагічныя словазлучэнні, у ролі галоўнага слова якіх выступаюць дзеясловы закончанага трывання з адценнем паўнаты, максімальнай ступені праяўлення дзеяння, маюць у якасці залежнага кампанента толькі назоўнікі роднага склону: *Як мокрыя вароны, снуюцца або як б л ё к а т у  а б' е ў ш ы с я* (Я. Купала).

Залежныя назоўнікі, якія абазначаюць непадзельныя прадметы або паняцці ў фразеалагічных словазлучэннях, таксама як і ў адпаведных свабодных, ужываюцца толькі ў вінавальным склоне: *На тым жыцці яна п а с т а в і л а  к р ы ж  і не захацела ўспамінаць пра яго* (Я. Скрыган); *Я скіну, с а р в у  л а н ц у г і  свайго старога жыцця* (М. Гарэцкі); *Дзеці ходзяць, п а в е с і ў ш ы  н а с ы* (Х. Шынклер).

Метамоўныя словазлучэнні са значэннем уздзеяння на аб'ект характарызуюцца тымі ж сінанімічнымі адносінамі, што і моўныя: *раскупіць «Жыгулі» — раскупіць «Жыгулёў», прадаць «Іжы» — прадаць «Іжоў»* і пад.

### *Словазлучэнні са значэннем пераадолення аб'екта*

§ 117. Дзеяслоўныя канструкцыі з гэтым значэннем прадстаўлены ў беларускай мове сінанімічнай парай «дзеяслоў + назоўнік у вінавальным склоне» — «дзеяслоў + прыназоўнік *праз* (*цераз*) + назоўнік у

вінавальным склоне»: *пераплысці рэчку — пераплысці праз (цераз) рэчку; пераскочыць планку — пераскочыць праз (цераз) планку; перайсці поле — перайсці праз (цераз) поле.*

Адпаведныя назоўнікавыя словазлучэнні гэтай семантыкі не ўтвараюць аналагічных па форме сінанімічных пар, паколькі адпаведныя аддзеяслоўныя назоўнікі не спалучаюцца з назоўнікамі ў вінавальным склоне без прыназоўнікаў. Яны прадстаўлены сінанімічнай парай «назоўнік + назоўнік у родным склоне» — «назоўнік + прыназоўнік *праз (цераз)* + назоўнік у вінавальным склоне»:*пераплыванне рэчкі — пераплыванне праз (цераз) рэчку; пераскокванне планкі — пераскокванне праз (цераз) планку; пераход поля — пераход праз (цераз) поле.*

Складаныя сінтаксічна падзельныя і непадзельныя словазлучэнні гэтай семантыкі характарызуюцца адпаведнымі асаблівасцямі сінанімії: *пераскочыць высокую планку — пераскочыць праз (цераз) высокую планку; пераскокванне высокай планкі — пераскокванне праз (цераз) высокую планку; перайсці сетку ручаёў — перайсці праз (цераз) сетку ручаёў; пераход сеткі ручаёў — пераход праз (цераз) сетку ручаёў* і пад.

Сінтаксічна непадзельныя словазлучэнні са складанымі тэрмінамі ў якасці залежнага кампанента ўжываюцца рэдка.

Адпаведным па форме фразеалагічным словазлучэнням звычайна не ўласціва варыянтнае ўжыванне залежных форм назоўнікаў, параўн.: *перайсці дарогу* (каму-н.) — **перайсці праз (цераз) дарогу* (каму-н.); *перайсці граніцу* (цярпення) — **перайсці праз (цераз) граніцу (цярпення); перайсці рубікон — *перайсці праз (цераз) рубікон.*[1]

Метамоўныя простыя і складаныя словазлучэнні гэтай семантыкі характарызуюцца такімі ж уласцівасцямі сінаніміі, як і адпаведныя моўныя: *пераехаць «Узыход» — пераехаць праз (цераз) «Узыход»; перайсці «Зялёны бор» — перайсці праз (цераз) «Зялёны бор».*

### *Словазлучэнні з семантыкай прызначэння аб'екта, абазначэння роду або віду працоўнай дзейнасці, пасады асобы*

§ 118. Гэтыя нешматлікія словазлучэнні прадстаўлены прадуктыўнымі стылістычна нейтральнымі канструкцыямі «дзеяслоў + назоўнік у творным склоне», сінтаксічнымі сінонімамі выступаюць значна менш прадуктыўныя словазлучэнні з прыназоўнікамі *за, у якасці* ў спалучэнні з назоўнікамі ў вінавальным і родным склонах: *служыць гадзіннікам — служыць за гадзіннік — служыць у якасці гадзінніка; прымаць паказчыкам — прымаць за паказчык — прымаць у якасці паказчыка; абраць брыгадзірам — абраць за брыгадзіра — абраць у якасці брыгадзіра.* Дзве апошнія канструкцыі не з'яўляюцца стылістычна нейтральнымі. Так, абмежаваныя лексічна дзеясловамі *служыць, выступаць, працаваць, абраць* і падобнымі, канструкцыі з прыназоўнікам *за* характэрны для гутарковага стылю, а больш прадуктыўная канструкцыя з прыназоўнікам *у якасці* ўласціва навуковаму і афіцыйна- дзелавому стылям.

Складаныя сінтаксічна свабодныя словазлучэнні з гэтай семантыкай непрадуктыўныя, параўн.: *працаваў брыгадзірам — працаваў за брыгадзіра — працаваў у якасці брыгадзіра,* але *працаваў добрым брыгадзірам — *працаваў за добрага брыгадзіра — *працаваў у якасці добрага брыгадзіра.*

[1] Словазлучэнні, абазначаныя зорачкамі, няправільныя або ненарматыўныя ў сучаснай беларускай мове.

Назоўнікавыя словазлучэнні з семантыкай прызначэння аб'екта ўтвараюць адпаведныя сінанімічныя канструкцыі, за выключэннем канструкцыі з прыназоўнікам *за,* якая непрадуктыўна ў сучаснай беларускай мове з семантыкай роду дзейнасці, пасады асобы і ўжываецца часам толькі ў гутарковым стылі, параўн.: *праца брыгадзірам — праца ў якасці брыгадзіра — *праца за брыгадзіра.* Канструкцыі тыпу *праца за брыгадзіра* з'яўляюцца аманімічнымі. Асноўнае іх значэнне 'праца замест каго-н.', і значна менш ужывальныя, абмежаваныя гутарковым стылем канструкцыі з семантыкай роду дзейнасці, пасады асобы. Такая аманімічнасць таксама накладвае абмежаванні на выкарыстанне данай канструкцыі ў разглядаемым значэнні.

Сінтаксічна непадзельныя складаныя словазлучэнні гэтай семантыкі прадстаўлены толькі дзвюма канструкцыямі — з залежным назоўнікам у творным склоне без прыназоўніка і з назоўнікам у родным склоне з прыназоўнікам *у якасці,* апошняя значна менш прадуктыўная: *прыняць ганаровым членам — прыняць у якасці ганаровага члена; залічыць членам брыгады — залічыць у якасці члена брыгады.* Трэцяя сінанімічная канструкцыя — з залежным назоўнікам у вінавальным склоне — ужываецца толькі ў гутарковым стылі, параўн.: *прыняць ганаровым членам — прыняць у якасці ганаровага члена — *прыняць за ганаровага члена; залічыць членам брыгады — залічыць у якасці члена брыгады — *залічыць за члена брыгады.* Канструкцыі тыпу *прыняць за члена брыгады* з'яўляюцца аманімічнымі, яны маюць значэнне 'памылкова лічыць каго-н. кім-н.' і, як мы адзначылі, у гутарковым стылі выражаюць семантыку прызначэння, роду або віду дзейнасці асобы. Такая аманімічнасць часта з'яўляецца перашкодай для ўжывання гэтай канструкцыі ў даным сінанімічным радзе.

Блізкае да разглядаемага значэння маюць метамоўныя канструкцыі з прыназоўнікам *за* з дзеясловамі *гуляць, выступаць* і пад.: *гуляць за «Спартак», выступаць за «Дынама»,* якія, аднак, не адносяцца да разглядаемага сінанімічнага рада і не маюць адпаведных сінанімічных словазлучэнняў.

### *Словазлучэнні са значэннем эмацыянальнага ўспрыняцця аб'екта, унікнення, пазбаўлення ад аб'екта*

§ 119. Гэтыя канструкцыі ў сучаснай беларускай мове прадстаўлены сінанімічнай парай «дзеяслоў + назоўнік у родным склоне» — «дзеяслоў + прыназоўнік *ад* + назоўнік у родным склоне», напрыклад: *спалохацца цяжкасцей—*спалохацца ад цяжкасцей; ухіляцца гутарак— ухіляцца ад гутарак; узрадавацца сустрэчы — узрадавацца ад сустрэчы; пазбавіцца няволі — пазбавіцца ад няволі; пазбыцца турбот —*пазбыцца ад турбот.* З боку семантыкі ў канструкцыях з прыназоўнікам *ад* больш ярка выражаецца аб'ектнае значэнне. З боку ўжывальнасці словазлучэнні з прыназоўнікам *ад* менш пашыраныя і маюць семантычныя і граматычныя абмежаванні. Па-першае, зусім нязначная частка дзеясловаў з семантыкай жадання, імкнення, дасягнення або пазбаўлення, унікнення аб'екта можа ўтвараць прыназоўнікавыя словазлучэнні з названым вышэй значэннем; па-другое, некаторыя словазлучэнні з прыназоўнікам *ад* ужываюцца пераважна з дзеясловамі закончанага трывання: *узрадавацца ад сустрэчы — *радавацца ад сустрэчы.*

Некаторыя сінанімічныя пары словазлучэнняў са значэннем станоўчага эмацыянальнага ўспрыняцця аб'екта маюць яшчэ сінанімічныя канструкцыі з залежным назоўнікам у творным склоне: *узрадавацца сустрэчы — узрадавацца ад сустрэчы — узрадавацца сустрэчай.* Асобныя

дзеясловы са значэннем адмоўнага ўспрыняцця аб'екта ўтвараюць толькі дзве апошнія канструкцыі і не ўжываюцца ў словазлучэннях без прыназоўніка *ад*: *змучыцца ад успамінаў — змучыцца ўспамінамі.*

Словазлучэнні названай семантыкі з прыназоўнікам *ад* звычайна маюць у якасці галоўнага кампанента зваротныя дзеясловы, а ў якасці залежнага — абстрактныя назоўнікі. Для беспрыназоўнікавых словазлучэнняў з назоўнікамі ў родным склоне апошняе абмежаванне не з'яўляецца такім жорсткім, параўн.: *ухіляцца ад гутарак, сцерагчыся ад прастуды, сцерагчыся цягніка.*

Назоўнікавыя словазлучэнні са значэннем эмацыянальнага ўспрыняцця аб'екта і пазбаўлення ад аб'екта могуць уступаць у сінанімічныя адносіны амаль з усімі адпаведнымі дзеяслоўнымі канструкцыямі. Так, сінонімамі могуць выступаць дзеяслоўныя і назоўнікавыя канструцыі з назоўнікам у родным склоне без прыназоўніка і з прыназоўнікам *ад*: *ухіленне гутарак — ухіляцца гутарак; ухіленне ад гутарак — ухіляцца ад гутарак.* У сінанімічным радзе канструкцый са значэннем станоўчага эмацыянальнага ўспрыняцця аб'екта выключэнне па сінаніміі з назоўнікавымі словазлучэннямі складаюць толькі канструкцыі з залежным назоўнікам у творным склоне без прыназоўніка: *узрадавацца сустрэчы, узрадавацца ад сустрэчы, узрадавацца сустрэчай — радасць сустрэчы, радасць ад сустрэчы.* Сінанімічная пара дзеяслоўных канструкцый са значэннем адмоўнага эмацыянальнага ўспрыняцця аб'екта, наадварот, мае ўсе тры сінанімічныя назоўнікавыя канструкцыі: *змучыцца ад успамінаў, змучыцца ўспамінамі — мука ўспамінаў, мука ад успамінаў, мука ўспамінамі* (першая назоўнікавая канструкцыя, з залежным назоўнікам у родным склоне без прыназоўніка, не мае адпаведнай дзеяслоўнай канструкцыі).

Сінтаксічна свабодныя складаныя назоўнікавыя канструкцыі са значэннем эмацыянальнага ўспрыняцця аб'екта характарызуюцца тымі ж семантыка-сінтаксічнымі ўласцівасцямі, што і простыя: *пазбыццё трывог — пазбыццё вялікіх трывог; радасць ад успамінаў — радасць ад прыемных успамінаў.* Сінтаксічна свабодныя складаныя дзеяслоўныя словазлучэнні гэтай семантыкі ўступаюць у тыя ж сінанімічныя адносіны, што і адпаведныя простыя словазлучэнні, параўн.: *ухіляцца гутарак — ухіляцца ад гутарак* і *ўхіляцца шчырых гутарак — ухіляцца ад шчырых гутарак; узрадавацца сустрэчы — узрадавацца ад сустрэчы — узрадавацца сустрэчай* і *ўзрадавацца нечаканай сустрэчы, узрадавацца ад нечаканай сустрэчы — узрадавацца нечаканай сустрэчай.*

Сінтаксічна непадзельныя складаныя словазлучэнні гэтай семантыкі даволі абмежаваны, яны прадстаўлены пераважна словазлучэннямі, у якіх залежная частка абазначае колькасць, аб'ём аб'екта, які звычайна выражаецца канкрэтнымі назоўнікамі, напрыклад: *узрадавацца вядру вішань (кілаграму цукерак, кошыку грыбоў), засмуціцца палавінай цукеркі (жменькай ягад).* Функцыянальна абмежаваны сінтаксічна непадзельныя словазлучэнні гэтай семантыкі, у якіх у якасці залежнага кампанента выступаюць складаныя тэрміны *асцерагацца высокавольтнай лініі* і пад.), паколькі дзеясловы са значэннем эмацыянальнага ўспрыняцця аб'екта, ухілення, пазбаўлення ад аб'екта практычна не ўжываюцца ў навуковым стылі.

Словазлучэнні са значэннем адмоўнага ўспрыняцця аб'екта прадстаўлены пераважна складанымі сінтаксічнымі канструкцыямі. Адпаведныя простыя канструкцыі без кантэксту не маюць сэнсу, параўн.: *мучыцца нязжатым жытам — мучыцца жытам.*

Паколькі залежны кампанент складаных сінтаксічна непадзельных словазлучэнняў звычайна выражаецца канкрэтнымі назоўнікамі, то

дзеяслоўныя канструкцыі з прыназоўнікам *ад* звычайна не ўтвараюцца, параўн.: *радавацца вядру вішань — *радавацца ад вядра вішань; здзівіцца стопцы кніг — *здзівіцца ад стопкі кніг.* Адпаведныя назоўнікавыя канструкцыі з прыназоўнікам *ад*, наадварот, значна больш прадуктыўныя ў параўнанні з беспрыназоўнікавымі, параўн.: *радасць ад вядра вішань — *радасць вядру вішань; здзіўленне ад стопкі кніг — *здзіўленне стопцы кніг* і пад.

Адпаведныя па форме фразеалагічныя словазлучэнні з дзеясловамі эмацыянальнага ўспрыняцця аб'екта, ухілення, пазбаўлення ад аб'екта ў сучаснай беларускай мове не зафіксаваны.

Метамоўныя словазлучэнні названай семантыкі характарызуюцца тымі ж семантыка-сінтаксічнымі ўласцівасцямі, што і моўныя з залежнымі канкрэтнымі назоўнікамі, г. зн. яны прадстаўлены пераважна беспрыназоўнікавымі канструкцыямі з назоўнікамі ў давальным і творным склонах: *радавацца «Усходу», радавацца «Усходам».*

### Словазлучэнні са значэннем накіраванага, прызначанага дзеяння

§ 120. Сінанімічныя дзеяслоўныя словазлучэнні гэтай семантыкі падзяляюцца на дзве вельмі розныя па колькаснаму складу і прадуктыўнасці ў сучаснай беларускай мове групы. Першая, вельмі шырокая і прадуктыўная — словазлучэнні з залежнымі назоўнікамі ў давальным склоне: *сказаць хлопчыку, усміхацца сонцу, супярэчыць таварышу, перадаць знаёмым, кінуць курам, купіць дачцэ, берагчы дзецям, пакланіцца мясцінам, загадаць салдатам.* Другая, лексічна абмежаваная і мала прадуктыўная група — з назоўнікам у родным склоне з прыназоўнікам *для: купіць для дачкі, берагчы для дзяцей.* А л е: *сказаць хлопчыку, усміхацца сонцу, супярэчыць таварышу.*

Канструкцыі з прыназоўнікам *для* ўтвараюць толькі некаторыя дзеясловы са значэннем прамой накіраванасці на аб'ект. Пашыраныя ў асобных дыялектах і часам ужывальныя ў мастацкай літаратуры словазлучэнні тыпу *сказаць для Веры, дапамагчы для бацькі, загадаць для дзяцей, растлумачыць для вучня, паабяцаць для яго* не адпавядаюць норме сучаснай літаратурнай мовы.

Нязначная частка словазлучэнняў першай групы ўтварае яшчэ сінанімічны рад з малапрадуктыўнымі канструкцыямі «дзеяслоў + прыназоўнік *з* + назоўнік у родным склоне» і «дзеяслоў + назоўнік у творным склоне»: *здзіўляцца бацьку — здзіўляцца з бацькі — здзіўляцца бацькам; дзівіцца мудрасці — дзівіцца з мудрасці — дзівіцца мудрасцю.*

Значна больш пашырана канструкцыя «дзеяслоў + прыназоўнік *з* + назоўнік у родным склоне», у якой у якасці галоўнага слова выступаюць дзеясловы *смяяцца, здзекавацца, кпіць* і пад.: *смяяцца з дзіцяці, здзекавацца з палонных, кпіць з сябра.* Гэта канструкцыя мае сінанімічныя словазлучэнні з залежнымі назоўнікамі ў творным склоне з прыназоўнікам *над: смяяцца над дзіцем, здзекавацца над палоннымі, кпіць над сябрам.*

Асобныя канструкцыі першай групы з абстрактнымі назоўнікамі ў якасці залежнага кампанента маюць сінонімамі словазлучэнні з залежнымі назоўнікамі ў месным склоне з прыназоўнікам *у: садзейнічаць поспеху — садзейнічаць у поспеху; спагадаць няшчасцю — спагадаць у няшчасці; дапамагаць рабоце — дапамагаць у рабоце, перашкодзіць росту — перашкодзіць у росце.*

Некаторыя канструкцыі першай групы маюць сінанімічныя словазлучэнні з залежнымі назоўнікамі ў вінавальным склоне з прыназоўні-

кам *у*: *верыць маладосці — верыць у маладосць; верыць шчасцю — верыць у шчасце.*

Назоўнікавыя словазлучэнні са значэннем накіраванага, прызначанага дзеяння знаходзяцца ў такіх жа адносінах сінаніміі, як і адпаведныя дзеяслоўныя словазлучэнні, толькі адрозніваюцца ад апошніх семантычнай спецыфікай аддзеяслоўных назоўнікаў, напрыклад: *пакупка дачцэ — пакупка для дачкі; перадаванне партызанам — перадаванне для партызан.* Таксама як і адпаведныя дзеяслоўныя словазлучэнні, назоўнікавыя словазлучэнні з залежным назоўнікам у давальным склоне без прыназоўніка (*дапамога таварышу, усміханне зоркам, паклон зямлі, перадаванне партызанам, загад байцам, здзіўленне мудрасці, кіданне курам, спачуванне сябрам, пярэчанне брату* і пад.) значна больш пашыраныя і прадуктыўныя ў параўнанні з канструкцыямі з залежным назоўнікам у родным склоне з прыназоўнікам *для.*

Адпаведныя названым вышэй дзеяслоўным назоўнікавыя канструкцыі ўтвараюць сінанімічны рад з малапрадуктыўнымі назоўнікавымі канструкцыямі «назоўнік + прыназоўнік *з* + назоўнік у родным склоне» і «назоўнік + назоўнік у творным склоне», напрыклад: *здзіўленне бацьку — здзіўленне з бацькі — здзіўленне бацькам.* Таксама як і адпаведныя дзеяслоўныя, значна больш пашыраны назоўнікавыя канструкцыі з прыназоўнікам *з*, галоўным словам якіх выступаюць аддзеяслоўныя назоўнікі *смех, жарты, здзекаванне, кпіны.* Сінонімамі да гэтых канструкцый выступаюць словазлучэнні з прыназоўнікам *над: смех з дзіцяці — смех над дзіцем; здзекаванне з жывёліны — здзекаванне над жывёлінай; кпіны з сябра — кпіны над сябрам.*

У залежнасці ад семантыкі і граматычных уласцівасцей галоўны дзеяслоў або назоўнік можа патрабаваць назоўніка са значэннем прамога аб'екта, напрыклад: *насыпаць збожжа курам, перадаць звесткі партызанам, купіць касцюм сыну, выпісванне прадуктаў для сталовай, шыццё касцюма сыну.* Не патрабуюць назоўнікаў са значэннем прамога аб'екта безасабовыя і асабовыя зваротныя дзеясловы на *-ся (-цца): не спіцца ветэрану, не церпіцца хлопчыку, усміхацца сонцу, пакланяцца прыгажосці* і пад.

Складаныя сінтаксічна падзельныя і непадзельныя словазлучэнні са значэннем накіраванага прамога або ўскоснага дзеяння характарызуюцца такімі ж сінанімічнымі адносінамі, як і адпаведныя простыя: *купіць старэйшаму сыну — купіць для старэйшага сына; перадача маладым байцам — перадача для маладых байцоў; выдзеліць большасці супрацоўнікаў — выдзеліць для большасці супрацоўнікаў.*

Такімі ж сінанімічнымі адносінамі характарызуюцца і метамоўныя словазлучэнні: *выпісаць «Новаму быту» — выпісаць для «Новага быту»; заказ «Нёману» — заказ для «Нёмана».*

Адпаведныя па форме фразеалагічныя словазлучэнні (*насаліць камунебудзь, заказаць дзесятаму*) звычайна не маюць сінонімаў.

### *Словазлучэнні са значэннем жадання, імкнення, дасягнення*

§ 121. Дзеяслоўныя канструкцыі гэтай семантыкі прадстаўлены таксама пераважна беспрыназоўнікавымі словазлучэннямі з залежнымі назоўнікамі ў родным склоне: *дачакацца свята, жадаць поспехаў, прасіць дапамогі, прагнуць самастойнасці, хацець спакою* і пад. Асобныя з гэтых канструкцый могуць мець сінонімамі прыназоўнікавыя словазлучэнні з прыназоўнікам *да: дачакацца да свята* і пад. Апошнія могуць мець як ідэнтычнае беспрыназоўнікавым словазлучэнням эмацыянальна нейтральнае, так і эмацыянальна афарбаванае значэнне неадабрэн-

ня вялікай працягласці, зацягнутасці дзеяння. У гэтым выпадку яны набываюць значэнне, адваротнае значэнню беспрыназоўнікавых канструкцый, выступаюць сінтаксічнымі антонімамі, параўн.: *дачакацца замаразкаў (з нецярплівасцю чакаць і з радасцю сустрэць замаразкі) — дачакацца да замаразкаў (цягнуць, адкладваць справу і з незадавальненнем сустрэць замаразкі)*.

Назоўнікавыя словазлучэнні са значэннем жадання, імкнення, дасягнення ўступаюць у сінанімічныя адносіны з адпаведнымі дзеяслоўнымі канструкцыямі як без прыназоўніка, так і з прыназоўнікам *да: чакаць мая — чаканне мая; чакаць да мая — чаканне да мая.* Некаторыя назоўнікавыя канструкцыі з прыназоўнікам *да* прадстаўлены ў сучаснай беларускай мове больш шырока ў параўнанні з адпаведнымі дзеяслоўнымі, параўн.: *прага да ведаў — *прагнуць да ведаў.* Апошняя, дзеяслоўная канструкцыя неўжывальная ў беларускай мове, замест яе выкарыстоўваецца беспрыназоўнікавая канструкцыя *прагнуць ведаў.* Назоўнікавыя канструкцыі з прыназоўнікам *да* маюць у параўнанні з адпаведнымі дзеяслоўнымі толькі адно, эмацыянальна нейтральнае значэнне, ідэнтычнае значэнню адпаведных беспрыназоўнікавых канструкцый, параўн.: *дачакацца да замаразкаў* 1) *'з нецярплівасцю чакаць і з радасцю сустрэць замаразкі'*, 2) *'цягнуць, адкладваць справу і з незадавальненнем сустрэць замаразкі'* і *чаканне да замаразкаў* (толькі першае значэнне з пэўнымі семантычнымі і стылістычнымі адценнямі).

Складаныя і метамоўныя словазлучэнні са значэннем жадання, імкнення, дасягнення характарызуюцца тымі ж семантыка-сінтаксічнымі ўласцівасцямі, што і простыя: *дачакацца да замаразкаў — дачакацца да першых замаразкаў.*

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ПРАСТОРАВЫМІ АДНОСІНАМІ

### *Словазлучэнні са значэннем месца дзеяння*

§ 122. Гэтыя словазлучэнні прадстаўлены ў беларускай мове некалькімі радамі і парамі сінанімічных канструкцый.

Адзін з такіх радоў складаецца з трох канструкцый: «дзеяслоў+назоўнік у творным склоне» — «дзеяслоў+прыназоўнік *праз* (*цераз*)+назоўнік у вінавальным склоне» — «дзеяслоў+прыназоўнік *па*+назоўнік у месным склоне»: *ісці вёскай — ісці праз (цераз) вёску — ісці па вёсцы; ехаць полем — ехаць праз (цераз) поле — ехаць па полі; прабірацца кустамі — прабірацца праз (цераз) кусты — прабірацца па кустах.*

У першых двух канструкцыях недыферэнцыравана выражаюцца значэнні месца і напрамку дзеяння, у пераважнай большасці выпадкаў першае і другое значэнні расчляніць нельга. Трэцяя канструкцыя (з назоўнікам у месным склоне з прыназоўнікам *па*) адрозніваецца ад папярэдніх больш выразным значэннем месца (а не напрамку) дзеяння. Словазлучэнні з асабліва ярка выражаным значэннем месца дзеяння звычайна або зусім не маюць двух адпаведных сінанімічных канструкцый, або гэтыя канструкцыі з'яўляюцца значна менш прадуктыўнымі (параўн.: *спусціцца па лесвіцы — спусціцца лесвіцай, спусціцца праз лесвіцу* і *пайсці па канапе — *пайсці канапай, *пайсці праз (цераз) канапу; каціцца па падлозе — *каціцца падлогай, *каціцца праз (цераз) падлогу*). Апошнія канструкцыі з'яўляюцца, аднак, нарматыўнымі, калі залежны дзеяслоў не адносіцца да семантычнай групы дзеясловаў руху

(*перапраўляць па чыгунцы — перапраўляць чыгункай — перапраўляць праз (цераз) чыгунку; сплаўляць па рэчцы — сплаўляць рэчкай — сплаўляць праз (цераз) рэчку*).

Заўвага. Словазлучэнні з залежнымі назоўнікамі *дарога, сцежка* і падобнымі ў вінавальным склоне з прыназоўнікам *праз* (*цераз*) маюць значэнне напрамку руху, якое зусім адрозніваецца ад значэння двух другіх разгледжаных словазлучэнняў са значэннем месца і напрамку руху, параўн.: *ісці праз* (*цераз*) *дарогу — ісці дарогай, ісці па дарозе; бегчы праз* (*цераз*) *сцежку — бегчы сцежкай, бегчы па сцежцы.*

Тры разгледжаныя канструкцыі з'яўляюцца поўнасцю сінанімічнымі пры выражэнні значэнняў напрамку руху праз прастору (*бегчы па двары* (*праз двор, дваром*), *прабіцца па зараслях* (*праз зараслі, зараслямі*), *ісці па сцюжы* (*праз сцюжу, сцюжай*)).

Пры выражэнні значэння напрамку руху паверх прадмета гэтыя канструкцыі не выступаюць сінонімамі і ўзаемныя замены іх немагчымы: *пераляцець праз* (*цераз*) *мора* (**па моры, морам*), *пераскочыць праз* (*цераз*) *градку* (**па градцы, градкай*).

Пры значэнні напрамку дзеяння праз прадмет узаемныя замены магчымы, але яны абмежаваны семантыкай галоўнага і залежнага кампанентаў: *сцякаць праз* (*цераз*) *дзіркі — сцякаць па дзірках — сцякаць дзіркамі*, але *даносіцца праз* (*цераз*) *вокны — *даносіцца па вокнах — *даносіцца вокнамі.* Сінтаксічна правільнымі звычайна з'яўляюцца ўсе гэтыя канструкцыі з канкрэтным значэннем галоўнага і залежнага кампанентаў.

У значэнні напрамку дзеяння праз прадмет словазлучэнні з прыназоўнікам *праз* (*цераз*) сінанімічны словазлучэнням з прыназоўнікам *скрозь: прабівацца праз* (*цераз*) *галіны — прабівацца скрозь галіны; убачыць праз* (*цераз*) *сетку — убачыць скрозь сетку.*

Шырока распаўсюджаныя фразеалагічныя словазлучэнні з прыназоўнікам *скрозь* звычайна ўжываюцца толькі ў гэтай форме, а магчымыя варыянты з прыназоўнікам *праз* значна менш ужывальныя, параўн.: *скрозь зямлю праваліцца — праз зямлю праваліцца; глядзець скрозь пальцы — глядзець праз пальцы; сказаць скрозь зубы — сказаць праз зубы.* Прыназоўнік *цераз*, які звычайна выступае варыянтам прыназоўніка *праз*, у названых фразеалагізмах не выкарыстоўваецца. Фразеалагізм *скрозь зямлю бачыць* сінанімічны фразеалагізму з прыназоўнікам *пад* (*пад зямлёю бачыць*).

Усе тры названыя дзеяслоўныя канструкцыі маюць адпаведныя сінанімічныя словазлучэнні з аддзеяслоўным назоўнікам у ролі галоўнага слова. Апошнія выражаюць ідэнтычныя значэнні з пэўнымі стылістычнымі і семантычнымі адрозненнямі, абумоўленымі спецыфікай аддзеяслоўных назоўнікаў, параўн.: *бегчы полем, бегчы праз* (*цераз*) *поле, бегчы па полі — бег полем, бег праз* (*цераз*) *поле, бег па полі; прабірацца зараслямі, прабірацца праз зараслі, прабірацца па зараслях — прабіранне зараслямі, прабіранне праз зараслі, прабіранне па зараслях.*

Сінтаксічна свабодныя складаныя словазлучэнні ўтвараюцца шляхам пашырэння аднаго або абодвух кампанентаў канструкцыі. Яны цалкам супадаюць па магчымасцях сінаніміі з простымі словазлучэннямі: *ішоў залітым сонцам лугам, ішоў праз* (*цераз*) *заліты сонцам луг, ішоў па залітым сонцам лузе — хадзьба залітым сонцам лугам, хадзьба праз* (*цераз*) *заліты сонцам луг, хадзьба па залітым сонцам лузе; спрытна прабіраўся густымі зараслямі, спрытна прабіраўся праз* (*цераз*) *густыя зараслі, спрытна прабіраўся па густых зараслях — спрытнае прабіранне густымі зараслямі, спрытнае прабіранне праз* (*цераз*) *густыя зараслі, спрытнае прабіранне па густых зараслях.*

Шырока ўжывальныя ў беларускай мове адпаведныя па форме словазлучэнні «дзеяслоў+назоўнік у творным склоне», «дзеяслоў+прыназоўнік *праз (цераз)*+назоўнік у вінавальным склоне» і «дзеяслоў+прыназоўнік *па*+назоўнік у месным склоне» з аб'ектнымі адносінамі не з'яўляюцца сінанімічнымі, а часам маюць і процілеглыя значэнні, параўн.: *стукнуць жалезам — стукнуць па жалезе; скакаць па кольцу — скакаць праз (цераз) кольца.*

Адпаведныя па форме сінтаксічна непадзельныя складаныя словазлучэнні прадстаўлены ў асноўным фразеалагізмамі, якія значна адрозніваюцца па семантыцы ад адпаведных свабодных, паколькі ў большасці выпадкаў страчваюць прамое значэнне месца або напрамку руху, параўн.: *ісці вузкай сцежкай — ісці непраторанай сцежкай; ісці лясной дарогай — ісці ўласнай дарогай.* Сінтаксічна непадзельныя словазлучэнні значна абмежаваны ў адносінах сінаніміі, патэнцыяльна магчымыя сінанімічныя канструкцыі з'яўляюцца мала ўжывальнымі, параўн.: *ісці ўласнай дарогай — ісці па ўласнай дарозе; ісці непраторанай сцежкай — ісці па непраторанай сцежцы.*

Адпаведныя па форме метамоўныя словазлучэнні звычайна захоўваюць значэнне месца або напрамку дзеяння і прадстаўлены ўсімі трыма сінанімічнымі канструкцыямі: *ісці Навасёлкамі — ісці праз (цераз) Навасёлкі — ісці па Навасёлках; ехаць «Новым бытам» — ехаць праз (цераз) «Новы быт» — ехаць па «Новым быце».*

### *Словазлучэнні са значэннем мяжы дзеяння*

§ 123. Гэта значэнне выражаецца сінанімічнай парай канструкцый «дзеяслоў+прыназоўнік *па*+назоўнік у вінавальным склоне» — «дзеяслоў+прыназоўнік *да*+назоўнік у родным склоне»: *засеяць па лужок — засеяць да лужка; узараць па мяжу — узараць да мяжы; праходзіць па лес — праходзіць да лесу.*

Словазлучэнні гэтай сінанімічнай пары могуць быць простымі і складанымі. Апошнія супадаюць па семантыка-сінтаксічных характарыстыках з простымі: *засеяць па самы лужок — засеяць да самага лужка; узараць па старую мяжу — узараць да старой мяжы.* Складаныя словазлучэнні гэтай сінанімічнай пары даволі часта ўключаюць у якасці залежных кампанентаў або паясняльных слоў да гэтых кампанентаў словы метамоўнага паходжання, напрыклад: *працягвацца па Затонне (па Дворышчы, Зарэчча, «Новы шлях», «Узыход») — працягвацца да Затоння (да Дворышчаў, Зарэчча, «Новага шляху», «Узыхода»); цягнуцца па затонскі (дварышчанскі, зарачанскі, навашляхайскі, узыходайскі) лес — цягнуцца да затонскага (дварышчанскага, зарачанскага, навашляхайскага, узыходайскага) лесу.*

Складаныя сінтаксічна непадзельныя словазлучэнні гэтай семантыкі ўключаюць у якасці залежнай часткі пераважна двухслоўныя тэрміны: *цягнуцца па лінію высокага напружання (да лініі высокага напружання), узараць па нечарназёмную глебу (да нечарназёмнай глебы)* і пад.

Яшчэ адну пару сінанімічных канструкцый з агульным значэннем мяжы дзеяння складае блізкая па сэнсу і аднатыпная па форме сінанімічная пара з адценнем узроўню ахопу прадмета пэўным дзеяннем, напрыклад: *улезці па калені — улезці да кален; адрасці па плечы — адрасці да плеч; уехаць па вось — уехаць да восі.* Цалкам супадаючы па сваіх семантыка-сінтаксічных характарыстыках з папярэдняй парай, гэтыя словазлучэнні адрозніваюцца дадатковым акалічнасным значэннем

меры, ступені дзеяння. У адрозненне ад папярэдніх яны не ўключаюць у якасці залежнай часткі слоў метамоўнага паходжання.

Асобную пару сінанімічных канструкцый са значэннем мяжы дзеяння складаюць складаныя сінтаксічна непадзельныя словазлучэнні з залежным назоўнікам *бок* у спалучэнні з паяснятьнымі словамі *левы, правы, адзін, той, гэты* і падобнымі і прыназоўнікамі *па* і *з*, напрыклад: *ісці па левы бок — ісці з левага боку; размяшчацца па той бок — размяшчацца з таго боку; знаходзіцца па адзін бок — знаходзіцца з аднаго боку.*

Патэнцыяльна дапушчальныя простыя канструкцыі з прыназоўнікам *з* тыпу *ўзвышацца з боку* не знаходзяцца ў адэкватных сінанімічных адносінах са складанымі канструкцыямі, а простыя канструкцыі з прыназоўнікам *па* сінтаксічна няправільныя.

Простыя словазлучэнні з блізкай семантыкай магчымы з залежным назоўнікам *бок* у форме множнага ліку: *узвышацца па баках (з бакоў).*

Фразеалагічныя словазлучэнні адпаведнай формы ў беларускай мове не адзначаны.

Даволі шырока ўжываюцца ў сучаснай мове названыя канструкцыі з паяснятьнымі словамі метамоўнага паходжання да слова *бок*, напрыклад: *па мазырскі бок (Прыпяці), па навабытаўскі бок (лесу), па ўсходаўскі бок (угоддзяў).* Гэтыя канструкцыі знаходзяцца ў такіх жа сінанімічных адносінах з канструкцыямі з прыназоўнікам *з: па мазырскі бок (Прыпяці) — з мазырскага боку (Прыпяці).*

### *Дзеяслоўныя словазлучэнні са значэннем руху, працякання дзеяння ў прасторы паміж прадметамі або асобамі*

§ 124. Яны прадстаўлены сінанімічнай парай канструкцый «дзеяслоў+прыназоўнік *паміж (між)*+назоўнік у родным склоне» — «дзеяслоў+прыназоўнік *паміж (між)*+назоўнік у творным склоне»: *знікнуць паміж (між) купін — знікнуць паміж (між) купінамі; стаяць паміж (між) дрэў — стаяць паміж (між) дрэвамі; плысці паміж (між) скал — плысці паміж (між) скаламі.* У словазлучэннях з назоўнікам у творным склоне больш падкрэсліваюцца прадметы, у прасторы паміж якімі адбываецца дзеянне, а ў словазлучэннях з назоўнікам у родным склоне — само дзеянне.

Некаторыя з гэтых словазлучэнняў сінанімічныя дзеяслоўным словазлучэнням з прыназоўнікам *сярод (стаяць паміж (між) купін — стаяць паміж (між) купінамі — стаяць сярод купін).* У параўнанні з дзвюма папярэднімі канструкцыямі словазлучэнні з прыназоўнікам *сярод* звычайна выражаюць размяшчэнне або працяканне дзеяння паміж мноствам прадметаў, параўн.: *апынуцца між скал — апынуцца сярод скал.*

Выкарыстоўваемы часам у гэтых словазлучэннях прыназоўнік *спаміж* з'яўляецца ўстарэлым і не адпавядае норме сучаснай беларускай мовы (*працякаць спаміж балот, прабірацца спаміж збожжа).*

Калі прасторавае значэнне канструкцый з прыназоўнікам *паміж (між)* ускладняецца аб'ектным з адценнем вылучэння, то перавага павінна аддавацца словазлучэнням з назоўнікам у родным склоне, напрыклад: *вылучацца паміж аднагодкаў (дрэў, дамоў, студэнтаў* і пад.), а не *вылучацца паміж аднагодкамі (дрэвамі, дамамі, студэнтамі).* Адпаведныя па форме словазлучэнні з суб'ектна-аб'ектным значэннем узаемнасці дзеяння ўжываюцца толькі з залежным назоўнікам у творным склоне: *паміж (між) сябрамі адбылася размова.* У выпадку ўжывання залежнай формы роднага склону словазлучэнне страчвае значэнне ўзаемнасці і набывае больш выразнае прасторава-аб'ектнае значэнне,

параўн.: *Між сялян пайшла глухая гаворка* (Я. Колас) і *Між сялянамі пайшла глухая гаворка.*

Адпаведныя назоўнікавыя словазлучэнні з залежнымі формамі роднага і творнага склонаў таксама знаходзяцца ў адносінах сінаніміі: *размяшчэнне паміж (між) дрэў — размяшчэнне паміж (між) дрэвамі; хадзьба паміж (між) купін — хадзьба паміж (між) купінамі.* У параўнанні з дзеяслоўнымі словазлучэннямі гэтай семантыкі яны з'яўляюцца больш абмежаванымі па сферы ўжывання, выкарыстоўваюцца ў навуковым і афіцыйна-дзелавым стылях. Выключэнне складаюць словазлучэнні з прасторава-аб'ектным значэннем, а таксама канструкцыі са значэннем узаемнасці дзеяння, якія не абмежаваны навуковым і афіцыйна-дзелавым стылямі мовы, напрыклад: *гаворка (чуткі, смех, жарты) паміж (між) людзей, размова (непрыемнасць, напружанасць, прыкрасць) паміж (між) сябрамі.*

Гэтым назоўнікавым словазлучэнням звычайна адпавядаюць сінтаксічна непадзельныя складаныя дзеяслоўныя словазлучэнні з дзеясловамі *быць, хадзіць* (перан.), *адбывацца, адчувацца, наглядацца* і пад.: *паміж (між) сялян былі чуткі, паміж (між) студэнтаў хадзілі жарты, паміж (між) сябрамі адбылася размова, паміж (між) братамі адчувалася напружанасць.*

Калі ў ролі залежнага кампанента словазлучэнняў з прыназоўнікам *паміж (між)* выступаюць два назоўнікі, якія абазначаюць прадметы або асобы, у прасторы паміж якімі адбываецца пэўнае дзеянне, то больш ужывальнымі з'яўляюцца залежныя назоўнікі ў форме творнага склону, параўн.: *праязджаць паміж (між) пляцоўкай і домам — праязджаць паміж (між) пляцоўкі і дома; сесці паміж (між) бацькам і братам — сесці паміж (між) бацькі і брата.* Складаны залежны кампанент гэтых словазлучэнняў з'яўляецца сінтаксічна і семантычна непадзельным.

Астатнія сінтаксічна непадзельныя складаныя словазлучэнні ўтвараюць адпаведныя сінанімічныя пары без абмежаванняў, напрыклад: *размяшчацца паміж (між) трыма дубамі — размяшчацца паміж (між) трох дубоў.*

Дзеяслоўныя сінтаксічна непадзельныя словазлучэнні з прасторава-аб'ектным значэннем прадстаўлены пераважна складанымі канструкцыямі з дзеясловамі *быць, хадзіць* (перан.), *разносіцца, чуцца, узнікаць* і падобнымі і адным залежным назоўнікам з паясняльнымі словамі або без іх: *былі жарты паміж (між) студэнтаў, хадзілі чуткі паміж (між) сялян.*

Сінтаксічна свабодныя складаныя словазлучэнні і словазлучэнні са складаным тэрміналагічным кампанентам па ўсіх уласцівасцях сінаніміі цалкам супадаюць з простымі свабоднымі словазлучэннямі: *ісці паміж (між) густой збажыны — ісці паміж (між) густой збажынай; апынуцца паміж (між) адвеснымі скаламі — апынуцца паміж (між) адвесных скал; знаходзіцца паміж (між) святлоадчувальнымі часцінкамі — знаходзіцца паміж (між) святлоадчувальных часцінак; размяшчацца паміж (між) вугламі адлюстравання — размяшчацца паміж (між) вуглоў адлюстравання.*

Словазлучэнні з метамоўнай залежнай часткай прадстаўлены пераважна канструкцыямі, у якіх у ролі залежнай часткі выступаюць два назоўнікі, напрыклад: *размяшчацца паміж «Новым бытам» і «Узыходам», пралягаць паміж Мінскам і Барысавам.* Па сінтаксічных і семантычных характарыстыках яны супадаюць з адпаведнымі моўнымі словазлучэннямі. Аднак у параўнанні з моўнымі словазлучэннямі з двума залежнымі назоўнікамі яны практычна не ўжываюцца з залежнымі формамі ў родным склоне, параўн.: *праязджаць паміж (між) «Усходам» і*

*«Веліканам»* — **праязджаць паміж (між) «Усхода» і «Велікана»; размяшчацца паміж (між) Бугам і Мухаўцам* — **размяшчацца паміж (між) Буга і Мухаўца.*

Адпаведныя словазлучэнні з фразеалагічнымі кампанентамі не маюць сінанімічных канструкцый з назоўнікам у родным склоне *(знаходзіцца між Сцылай і Харыбдай).*

### *Словазлучэнні са значэннем працякання дзеяння паблізу чаго-небудзь*

§ 125. Гэтыя шырокаўжывальныя ў сучаснай беларускай мове словазлучэнні прадстаўлены сінанімічнымі канструкцыямі з прыназоўнікамі *каля, пад, пры, паблізу, непадалёк* і адпаведнымі склонавымі формамі назоўнікаў, напрыклад: *стаяць каля цырульні (пад цырульняй, пры цырульні, паблізу цырульні непадалёк цырульні); размяшчацца каля Брэста (пад Брэстам, пры Брэсце, паблізу Брэста, непадалёк Брэста).* Семантычна гэтыя словазлучэнні адрозніваюцца ў залежнасці ад ступені адрознення значэнняў адпаведных прыназоўнікаў і лексічных значэнняў дзеясловаў, якія абумоўліваюць спалучальнасць або неспалучальнасць дзеясловаў з пэўнымі прыназоўнікавымі формамі.

Усе канструкцыі гэтай семантыкі маюць адпаведныя назоўнікавыя ўтварэнні. Дзеяслоўныя і назоўнікавыя канструкцыі могуць быць складанымі і метамоўнымі. Складаныя і метамоўныя канструкцыі характарызуюцца тымі ж семантыка-сінтаксічнымі ўласцівасцямі, што і разгледжаныя вышэй.

Яшчэ адзін сінанімічны рад канструкцый гэтай семантыкі складаюць словазлучэнні з прыназоўнікамі *уздоўж, усцяж, паўз, каля,* якія акрамя значэння працякання дзеяння паблізу чаго-небудзь, могуць мець адценне накіраванасці дзеяння: *праходзіць уздоўж чыгункі (усцяж чыгункі, паўз чыгунку, каля чыгункі).*

Асобную групу сінанімічных канструкцый са значэннем блізкасці да месца дзеяння складаюць малаколькасныя словазлучэнні «дзеяслоў+прыназоўнік *па*+назоўнік у давальным склоне» — «дзеяслоў+прыназоўнік *у*+назоўнік у месным склоне» — «дзеяслоў+назоўнік у творным склоне», напрыклад: *жыць па суседству — жыць у суседстве — жыць суседзямі.* Прасторавае значэнне найбольш выразна выражана ў першай канструкцыі, у другой і трэцяй прасторавае значэнне ўскладняецца акалічнасным спосабу дзеяння.

Адпаведныя назоўнікавыя словазлучэнні характарызуюцца аналагічнымі сінанімічнымі адносінамі, напрыклад: *жыццё па суседству — жыццё ў суседстве — жыццё суседзямі.* З боку семантыкі назоўнікавыя словазлучэнні характарызуюцца больш моцным адценнем акалічнасната значэння спосабу дзеяння.

Як дзеяслоўныя, так і назоўнікавыя словазлучэнні гэтай семантыкі могуць быць складанымі. Выключэнне складае першае словазлучэнне (з прыназоўнікам *па*), у якім звычайна залежны кампанент не пашыраецца з прычыны некаторай ступені ўстойлівасці, характэрнай для гэтага словазлучэння, параўн.: *жыць па суседству — *жыць па блізкаму суседству; жыць у суседстве — жыць у блізкім суседстве.* Складаныя словазлучэнні звычайна з'яўляюцца сінтаксічна падзельнымі і характарызуюцца такімі ж сінтаксічнымі адносінамі, як і простыя, напрыклад: *жыць у блізкім суседстве — жыць блізкімі суседзямі.*

Метамоўныя словазлучэнні гэтай семантыкі не адзначаны.

### *Словазлучэнні са значэннем накіраванасці руху на прадмет або асобу, меры праяўлення дзеяння ў прасторы*

§ 126. Словазлучэнні з такой семантыкай прадстаўлены некалькімі сінанімічнымі радамі і парамі канструкцый. Адну з такіх пар складаюць словазлучэнні з прыназоўнікамі *да* і *к* і адпаведна з назоўнікамі роднага і давальнага склонаў: *накіравацца да рэчкі — накіравацца к рэчцы; пайсці да дзвярэй — пайсці к дзвярам; паехаць да сына — паехаць к сыну; пайсці да суседа — пайсці к суседу; уздымацца да нябёс — уздымацца к нябёсам; нагінацца да зямлі — нагінацца к зямлі; клікаць да стала — клікаць к сталу; запрасіць да сябра — запрасіць к сябру.* Усе пералічаныя словазлучэнні сумяшчаюць прасторавыя і аб'ектныя значэнні.

Словазлучэнні з прыназоўнікам *да*, якія маюць значэнне накіраванасці дзеяння на канечны пункт *(даехаць да вёскі, дабегчы да лесу)*, не ўтвараюць сінанімічных канструкцый з прыназоўнікам *к*, а ўжыванне такіх канструкцый у гутарковым стылі і ў мове мастацкай літаратуры не з'яўляецца літаратурнай нормай.

Канструкцыі са значэннем меры праяўлення дзеяння ў прасторы сінанімічны яшчэ словазлучэнням з назоўнікамі ў вінавальным склоне і прыназоўнікам *пад*, напрыклад: *узлятаць да воблакаў — узлятаць к воблакам — узлятаць пад воблакі.*

Словазлучэнні з прыназоўнікам *пад*, якія выражаюць прасторавае значэнне канечнага пункта руху, характэрны для гутарковага стылю, часам ужываюцца ў мастацкай літаратуры: *Па прывычцы ўзяла вядро і п а й ш л а п а д к а л о д з е ж* (Я. Колас); *Юлік Барановіч, падцягваючы хворую ногу, п а в а л о к с я п а д Т а м а ш а* (К. Чорны). У літаратурнай мове больш прадуктыўны словазлучэнні з прыназоўнікамі *да, к*, параўн.: *ісці пад калодзеж — ісці да калодзежа (к калодзежу); прыехаць пад ганак — прыехаць да ганка (к ганку).* У літаратурнай мове канструкцыі гэтай семантыкі з прыназоўнікам *пад* даволі часта ўтвараюцца з галоўнымі дзеясловамі, якія ўключаюць аналагічную прыстаўку: *пад'ехаць пад калодзеж, падбегчы пад ганак.* Ужывальныя з прыназоўнікам *пад* таксама канструкцыі з беспрыставачнымі дзеясловамі, якія выражаюць адценне непасрэднай блізкасці да канечнага пункта руху: *ехаць пад хату, газаваць пад пуню́* пад.

Асноўнае значэнне канструкцый з прыназоўнікам *пад* з прасторавым значэннем месца дзеяння з адценнем некаторай аддаленасці ад пэўнага прадмета: *размяшчацца пад Мінскам, прыбываць пад Лагойск.*

Дзеяслоўныя словазлучэнні разглядаемай семантыкі звычайна маюць адпаведныя канструкцыі з аддзеяслоўнымі назоўнікамі ў ролі галоўнага слова: *кіравацца да лесу — кірунак да лесу, кіравацца к лесу — кірунак к лесу,* якія характарызуюцца такімі ж магчымасцямі сінаніміі, як і адпаведныя дзеяслоўныя. Назоўнікавыя словазлучэнні гэтай групы лексічна і граматычна абмежаваны, паколькі значная частка дзеясловаў гэтай семантыкі не ўтварае аддзеяслоўных назоўнікаў. Словазлучэнні з прыназоўнікам *да*, якія выражаюць значэнне накіраванасці дзеяння да канечнага пункта, не маюць адпаведных назоўнікавых словазлучэнняў, паколькі прыставачныя дзеясловы закончанага трывання гэтай семантыкі звычайна не могуць утвараць адпаведных назоўнікаў.

Сінтаксічна свабодныя складаныя словазлучэнні са значэннем накіраванасці руху на прадмет або асобу, меры праяўлення дзеяння ў прасторы, запрашэння да асобы характарызуюцца тымі ж асаблівасцямі

сінаніміі, што і простыя словазлучэнні, напрыклад: *паспешліва пайсці да дзвярэй — паспешліва пайсці к дзвярам; спрытна прабірацца да гнязда — спрытна прабірацца к гнязду.*

Сінтаксічна непадзельныя складаныя словазлучэнні з гэтым значэннем характарызуюцца аналагічнымі магчымасцямі сінаніміі: *спяшацца да месца здарэння — спяшацца к месцу здарэння; накіравацца да восьмага рада — накіравацца к восьмаму раду; працягнуць руку да вуха — працягнуць руку к вуху.*

Гэта адносіцца таксама і да сінтаксічна непадзельных словазлучэнняў, якія ўключаюць двухслоўныя і больш тэрміны: *памкнуцца да рычага пераключэння хуткасцей — памкнуцца к рычагу пераключэння хуткасцей; працягнуць руку да рэле перадач — працягнуць руку к рэле перадач.*

Складаныя словазлучэнні данай семантыкі з фразеалагічнымі кампанентамі або адпаведныя па форме шматслоўныя фразеалагізмы звычайна не маюць сінанімічных канструкцый, а патэнцыяльна магчымыя варыянты з'яўляюцца мала ўжывальнымі: *бабіна дарога ад печы да парога.*

Словазлучэнні з метамоўнай залежнай часткай па сінанімічных адносінах супадаюць з моўнымі словазлучэннямі: *накіравацца да «Цэнтральнага» — накіравацца к «Цэнтральнаму».*

Пpасторавае значэнне накіраванасці руху выражаюць таксама канструкцыі «дзеяслоў+прыназоўнік *у*+назоўнік у вінавальным склоне»: *ісці ў вёску, ехаць у лес, скіравацъ у кювет, паляцець у Маскву.* У гэтым агульным значэнні месца, напрамку руху канструкцыі з прыназоўнікам *у* сінанімічны разгледжанай вышэй пары канструкцый, аднак у параўнанні з апошняй яны выражаюць накіраванасць не да межаў прадмета, а ўнутр прадмета, параўн.: *накіравацца да лесу, накіравацца к лесу — накіравацца ў лес; бегчы да возера, бегчы к возеру — бегчы ў возера; ехаць да горада, ехаць к гораду — ехаць у горад.*

Дзеяслоўныя словазлучэнні з прыназоўнікам *у*, якія выражаюць накіраванасць дзеяння на пэўную ўстанову, арганізацыю, галіну або сферу дзейнасці, маюць сінонімамі складаныя словазлучэнні, якія ўключаюць у якасці залежнага кампанента назоўнікі ў родным склоне з прыназоўнікамі *да, для,* напрыклад: *рыхтавацца ва універсітэт — рыхтавацца да паступлення ва універсітэт; прапанаваць у камісію — прапанаваць для ўключэння ў камісію.*

Канструкцыі з прыназоўнікам *да*, якія выступаюць поўнымі сінонімамі канструкцый з прыназоўнікам *у* і абазначаюць рух унутр прадмета, не адпавядаюць літаратурнай норме, напрыклад: *ехаць да горада* (у значэнні 'у горад'), *пайсці да лесу* (у значэнні 'у лес') і пад.

Назоўнікавыя словазлучэнні гэтай групы з прыназоўнікам *у* знаходзяцца ў аналагічных семантычных адносінах з назоўнікавымі словазлучэннямі з прыназоўнікамі *да, к: кірунак у лес — кірунак да лесу — кірунак к лесу.* Па іншых семантыка-сінтаксічных асаблівасцях назоўнікавыя словазлучэнні таксама супадаюць з дзеяслоўнымі, у прыватнасці па сінаніміі са складанымі канструкцыямі: *падрыхтоўка ва універсітэт — падрыхтоўка да паступлення ва універсітэт.*

Складаныя сінтаксічна падзельныя і непадзельныя словазлучэнні з прыназоўнікам *у* ўступаюць у тыя ж сінанімічныя адносіны, што і простыя: *накіравацца ў блізкі лес — накіравацца да блізкага лесу, накіравацца к блізкаму лесу; цягнуцца ў пяць вёсак — цягнуцца да пяці вёсак, цягнуцца к пяці вёскам.* Гэта адносіцца таксама і да сінтаксічна непадзельных складаных словазлучэнняў з тэрміналагічным складаным кампанентам: *працягвацца да лініі электраперадач — працягвацца к лініі*

*электраперадач*, а таксама з метамоўным кампанентам: *праходзіць у «Юнацтва» — праходзіць да «Юнацтва», праходзіць к «Юнацтву»*.

У выражэнні пярэстаравага значэння накіраванасці руху канструкцыям з прыназоўнікамі *да, к, у* сінанімічны таксама словазлучэнні з прыназоўнікамі *на, за* з адпаведнымі адценнямі, абумоўленымі спалучэннем дзеяслова з пэўным прыназоўнікам, параўн.: *накіравацца да возера — накіравацца к возеру — накіравацца ў возера — накіравацца на возера, накіравацца за возера*.

Адпаведныя па форме фразеалагічныя словазлучэнні з разгледжанымі вышэй прыназоўнікамі страчваюць сінанімічныя адносіны, напрыклад: *пайсці ў свет, увесці ў вушы, выйсці з рамак, ехаць за свет*.

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З КОЛЬКАСНЫМІ АДНОСІНАМІ

### *Словазлучэнні з колькасна-часавым значэннем*

§ 127. Дзеяслоўныя словазлучэнні гэтай групы прадстаўлены сінанімічнай парай канструкцый «дзеяслоў+назоўнік у вінавальным склоне» — «дзеяслоў+прыназоўнік з+назоўнік у вінавальным склоне». Апошняя канструкцыя адрозніваецца ад папярэдняй адценнем недакладнасці, прыблізнасці пэўнага часу працякання дзеяння, напрыклад: *працаваць год — працаваць з год; працягвацца гадзіну — працягвацца з гадзіну; адпачываць месяц — адпачываць з месяц; чакаць тыдзень — чакаць з тыдзень*.

Назоўнікавыя словазлучэнні гэтай семантыкі характарызуюцца такімі ж адносінамі сінаніміі: *адпачынак месяц — адпачынак з месяц; чаканне тыдзень — чаканне з тыдзень*. У параўнанні з дзеяслоўнымі гэтыя словазлучэнні значна менш ужывальныя.

Складаныя дзеяслоўныя і назоўнікавыя словазлучэнні звычайна ўключаюць азначальныя або ўказальныя займеннікі *увесь, усё, цэлы, каторы, кожны, гэты* ці іх спалучэнні *увесь гэты, усе тыя, усе свае, усё сваё, усю сваю*, адносныя прыметнікі *апошні, папярэдні, мінулы, будучы*, парадкавыя лічэбнікі *першы, трэці, дзесяты* і інш. Яны прадстаўлены толькі канструкцыямі з залежнай беспрыназоўнікавай формай вінавальнага склону: *прабыць увесь тыдзень, правучыцца цэлы семестр, мяняцца кожны тыдзень, працаваць мінулы год, правесці ўвесь свой адпачынак*. Адсутнасць сінанімічнай прыназоўнікавай канструкцыі з адценнем недакладнасці перыяду працякання дзеяння абумоўлена тым, што названыя паясняльныя словы ўдакладняюць і канкрэтызуюць прамежак часу, у які адбываецца дзеянне.

Некаторыя складаныя словазлучэнні з названымі ўдакладняючымі словамі з'яўляюцца сінтаксічна непадзельнымі: *думаць каторы дзень, прыходзіць кожны тыдзень, прыехаць мінулы год* і пад.

У ролі залежнага кампанента складаных словазлучэнняў са значэннем працягласці дзеяння часта выступаюць спалучэнні двух назоўнікаў, адзін з якіх мае форму вінавальнага склону, другі — форму таго або іншага ўскоснага склону з прыназоўнікам, або сінтаксічныя спалучэнні назоўнікаў роднага і вінавальнага склонаў з прыназоўнікам *з*, а таксама спалучэнні назоўнікаў са значэннем прамежку часу і слоў *назад, таму назад: працаваць дзень у дзень — працаваць з дня ў дзень; чытаць дзень пры дні — чытаць з дня ў дзень; прыязджаць месяц назад, сустрэць тыдзень таму назад* і пад. У размоўным стылі часта ўжываюцца эліптычныя канструкцыі тыпу *прыязджаць месяц таму, сустрэць тыдзень таму*.

У адрозненне ад аналагічных па форме словазлучэнняў *працаваць*

*год у год, чытаць дзень у дзень* словазлучэнні з залежнымі кампанентамі *гадзіна ў гадзіну, мінута ў мінуту, секунда ў секунду* не выражаюць значэння працягласці дзеяння. Яны маюць семантыку дакладнасці часу дзеяння: *завяршыць гадзіна ў гадзіну, прыехаць мінута ў мінуту, прыбегчы секунда ў секунду.*

Асабліва шырока прадстаўлены складаныя сінтаксічна непадзельныя словазлучэнні гэтай семантыкі з залежным спалучэннем колькасных лічэбнікаў з назоўнікамі ў форме вінавальнага або роднага склону: *працаваць два гады, правесці тры дні, правучыцца тры семестры, прабыць пяць гадзін* і інш. Гэтыя словазлучэнні ў адрозненне ад папярэдніх складаных канструкцый маюць сінанімічныя прыназоўнікавыя словазлучэнні з адценнем недакладнасці працягласці дзеяння. Парадак слоў складанага залежнага кампанента ў іх звычайна адваротны ў параўнанні з беспрыназоўнікавымі канструкцыямі, параўн.: *працаваць два гады — працаваць гады з два; прабыць пяць гадзін — прабыць гадзін з пяць* і пад.

Недакладнасць прамежку часу, на працягу якога адбываецца дзеянне, выражаецца таксама беспрыназоўнікавымі канструкцыямі з прэпазіцыяй назоўніка: *прабыць дні два, гаварыць мінут дзесяць, ісці гадзіны тры.*

Значэнне працягласці дзеяння выражаюць таксама складаныя сінтаксічна непадзельныя канструкцыі, у якіх залежны назоўнік не мае значэння часу, а набывае гэта значэнне ў спалучэнні з пэўнымі дзеясловамі і словамі *увесь, усё, усю,* напрыклад: *расказваць усю дарогу, смяяцца ўвесь фільм, чакаць увесь адпачынак.* Адпаведных канструкцый з адценнем недакладнасці працягласці дзеяння гэтыя словазлучэнні не маюць.

Фразеалагічныя словазлучэнні адпаведнай формы ў сучаснай мове не зафіксаваны.

Метамоўныя словазлучэнні гэтай семантыкі з'яўляюцца адзінкавымі і непрадуктыўнымі: *смяяцца ўвесь «Чарлі Чаплін», глядзець усю «Паўлінку»* і пад. Сінанімічных прыназоўнікавых канструкцый з адценнем недакладнасці прамежку працякання дзеяння метамоўныя словазлучэнні не маюць.

### *Словазлучэнні з колькасна-прасторавым значэннем*

§ 128. Гэтыя словазлучэнні характарызуюцца тымі ж семантыка-сінтаксічнымі ўласцівасцямі, што і колькасна-часавыя. Так, простыя дзеяслоўныя і назоўнікавыя словазлучэнні гэтай семантыкі прадстаўлены аналагічнымі сінанімічнымі беспрыназоўнікавымі і прыназоўнікавымі канструкцыямі з залежнымі назоўнікамі ў вінавальным склоне. Прыназоўнікавыя словазлучэнні маюць адценне недакладнасці працягласці дзеяння ў прасторы: *ехаць кіламетр — ехаць з кіламетр; узараць гектар — узараць з гектар; язда кіламетр — язда з кіламетр.* Назоўнікавыя словазлучэнні гэтай семантыкі з'яўляюцца значна менш прадуктыўнымі ў параўнанні з адпаведнымі колькасна-часавымі словазлучэннямі.

Складаныя сінтаксічна падзельныя і сінтаксічна непадзельныя колькасна-прасторавыя словазлучэнні з азначальнымі словамі *увесь, цэлы* не маюць сінанімічных прыназоўнікавых словазлучэнняў з адценнем недакладнасці, прыблізнасці прасторавай працягласці дзеяння: *абысці ўсю вёску, аб'ехаць увесь горад, зжаць цэлы палетак, узараць кожны гектар.*

Сінтаксічна непадзельныя складаныя словазлучэнні з залежнымі колькасна-іменнымі спалучэннямі маюць сінанімічныя словазлучэнні з

адценнем недакладнасці, прыблізнасці, якія характарызуюцца адваротным парадкам слоў у складзе колькасна-іменнага словазлучэння. Яны могуць быць прыназоўнікавымі і беспрыназоўнікавымі, параўн.: *узараць дваццаць гектар — узараць гектар дваццаць (гектар з дваццаць); прайсці дзесяць крокаў — прайсці крокаў дзесяць (крокаў з дзесяць); праплысці дзвесце метраў — праплысці метраў дзвесце (метраў з дзвесце).*

Метамоўныя словазлучэнні гэтай семантыкі прадстаўлены толькі беспрыназоўнікавымі канструкцыямі, напрыклад: *абысці Зарэчча, аб'ехаць «Новы быт», аблятаць палавіну Афрыкі.*

### *Словазлучэнні з уласна колькасным значэннем*

§ 129. Простыя і складаныя словазлучэнні гэтай семантыкі абазначаюць:

а) меру, колькасную працягласць дзеяння *(сустракацца тры разы, наведванне многа раз, паглядзець два разы, праглядзець разы тры);*

б) меру вагі, аб'ёму, грашовых адзінак, фізічных і духоўных намаганняў *(купіць два кілаграмы, наліць вядро вады, атрыманне дваццаці рублёў, прыкласці шмат намаганняў);*

в) колькасць прадметаў *(пабудаваць тры школы, аб'ехаць вёсак дзесяць, атрыманне двух пасылак).*

Пералічаныя словазлучэнні характарызуюцца тымі ж уласцівасцямі сінанііміі, што і разгледжаныя вышэй колькасна-часавыя і колькасна-прасторавыя: *сустрэцца тры разы — сустрэцца разы тры (разы з тры); купіць два кілаграмы — купіць кілаграмы два (кілаграмы з два); аб'ехаць дзесяць вёсак — аб'ехаць вёсак дзесяць (вёсак з дзесяць); наведванне тры разы — наведванне разы тры (разы з тры).*

Нешматлікія лексічна абмежаваныя метамоўныя словазлучэнні гэтай семантыкі таксама прадстаўлены сінанімічнымі беспрыназоўнікавымі і прыназоўнікавымі канструкцыямі: *заказаць дзесяць «Зверабояў» — заказаць з дзесяць «Зверабояў»; набыць дваццаць «Спеваў» — набыць з дваццаць «Спеваў».* У адрозненне ад разгледжаных вышэй канструкцый метамоўныя словазлучэнні з адваротным парадкам слоў у складанай залежнай частцы з'яўляюцца непрадуктыўнымі.

## СЛОВАЗЛУЧЭННІ З ЧАСАВЫМІ АДНОСІНАМІ

§ 130. Дзеяслоўныя словазлучэнні з часавымі адносінамі прадстаўлены рознымі па ўжывальнасці, ступені нарматыўнасці і стылявой прыналежнасці простымі і складанымі сінанімічнымі канструкцыямі. Найбольш пашыраныя стылістычна нейтральныя канструкцыі з залежным лічэбнікам у родным склоне ў спалучэнні з назоўнікам: *сустрэцца 10 верасня, прыляцець 25 жніўня, нарадзіцца 28 сакавіка.* Сінтаксічнымі сінонімамі гэтых канструкцый выступаюць значна менш пашыраныя і характэрныя пераважна для размоўнага стылю словазлучэнні з залежнымі назоўнікамі *дзень, ноч, год, месяц* і падобнымі ў спалучэнні з указальнымі або азначальнымі займеннікамі: *прыехаць таго ж дня, сустрэцца тае вясны, наведваць кожнае раніцы, з'явіцца тае ночы, дамовіцца трэцяга дня.* Нарматыўнымі і стылістычна нейтральнымі з'яўляюцца сінанімічныя канструкцыі з залежным назоўнікам у вінавальным склоне ў спалучэнні з указальнымі або азначальнымі займеннікамі з прыназоўнікам *у* або без прыназоўніка, параўн.: *прыехаць таго ж дня — прыехаць у той жа дзень; сустрэцца тае вясны — сустрэцца ў тую вясну;*

*наведваць кожнае раніцы — наведваць кожную раніцу.* У словазлучэннях з азначальным словам кожны залежны назоўнік у вінавальным склоне звычайна ўжываецца без прыназоўніка *у*.

У асобных выпадках утварэнне канструкцый з залежнымі назоўнікамі ў родным склоне немагчыма: *працаваць кожнае лета — *працаваць кожнага лета; ездзіць кожны тыдзень — *ездзіць кожнага тыдня.* Не адзначаны таксама некаторыя адпаведныя словазлучэнні з залежнымі назоўнікамі ў вінавальным склоне: *дамовіцца трэцяга дня — *дамовіцца ў трэці дзень.*

Нарматыўнымі, але моцна абмежаванымі з боку галоўнага і залежнага кампанентаў з'яўляюцца сінанімічныя словазлучэнні з залежнымі назоўнікамі ў творным склоне: *сустрэцца тае вясны — сустрэцца ў тую вясну — сустрэцца той вясной; прыехаць тае ночы — прыехаць у тую ноч — прыехаць той ноччу,* але *ездзіць кожны тыдзень — *ездзіць кожным тыднем* (параўн. шырока ўжывальную канструкцыю *ездзіць кожным летам); наведваць кожны дзень — *наведваць кожным днём* (параўн. нарматыўную, хоць і мала ўжывальную канструкцыю *наведваць кожнай раніцай).*

Асобную сінанімічную пару складаюць дзеяслоўныя словазлучэнні са значэннем адносін дзеяння да часу яго завяршэння. Гэта словазлучэнні «дзеяслоў+прыназоўнік *за*+назоўнік у вінавальным склоне» — «дзеяслоў+прыназоўнік *на працягу*+назоўнік у родным склоне»: *змайстраваць за зіму—змайстраваць на працягу зімы; прачытаць за вечар—прачытаць на працягу вечара; змяніцца за лета — змяніцца на працягу лета.* Асаблівасцю канструкцый з прыназоўнікам *за* з'яўляецца пераважнае ўжыванне дзеясловаў закончанага трывання, параўн.: *прачытаць за вечар — *чытаць за вечар.* У канструкцыях жа з прыназоўнікам *на працягу* ўжываюцца пераважна дзеясловы незакончанага трывання, хоць гэта абмежаванне не з'яўляецца такім жорсткім, як у канструкцыях з прыназоўнікам *за.* Патэнцыяльна ў гэтых канструкцыях могуць ужывацца дзеясловы закончанага і незакончанага трывання ў залежнасці ад семантыкі канструкцыі ў адносінах да завершанасці — незавершанасці дзеяння, параўн.: *чытаць на працягу вечара — прачытаць на працягу вечара.*

Назоўнікавыя простыя і складаныя словазлучэнні з часавымі адносінамі характарызуюцца аналагічнымі семантыка-сінтаксічнымі ўласцівасцямі, аднак значна меншай ужывальнасцю.

8. Зак. 213

# СКАЗ

## ТЫПЫ СКАЗАЎ

§ 131. Сказы прынята класіфікаваць паводле наступных прымет: 1) мэты паведамлення і інтанацыйнага афармлення; 2) структуры; 3) адносін зместу сказа да аб'ектыўнай рэчаіснасці.

### ТЫПЫ СКАЗАЎ ПАВОДЛЕ МЭТЫ ПАВЕДАМЛЕННЯ І ІНТАНАЦЫЙНАГА АФАРМЛЕННЯ

§ 132. Паводле мэты паведамлення і інтанацыйнага афармлення сказы дзеляцца на апавядальныя, пытальныя, пабуджальныя і клічныя.

#### *Апавядальныя сказы*

§ 133. А п а в я д а л ь н ы м і называюцца сказы, якія заключаюць у сабе паведамленне пра тыя ці іншыя з'явы, падзеі, факты, іх прыметы; у форме апавядальных сказаў фармулююцца законы навукі, вынікі пазнавальнай дзейнасці чалавека. Гэтыя сказы найбольш часта ўжываюцца ў сучаснай беларускай літаратурнай мове: *Нас Ленін з'яднаў назаўсёды адзінаю праўдай сваёю* (П. Броўка); *Над ціхай крыніцаю спеў салаўіны ўвечары сэрца маё закранае* (А. Русак); *Чыстым інеем пакрыты на гасцінцы беразняк* (Я. Колас); *Да вышыняў вядзе свой народ наша партыя простай пуцінай* (Я. Колас); *Камунізм ёсць савецкая ўлада плюс электрыфікацыя ўсёй краіны* (У. І. Ленін); *Ціхі вечар у сузор'і над сялом плыве* (А. Русак); *Зямлю цалуе неба сінь сваім чырвоным сонцатварам* (М. Чарот); *Мінск — адзін з самых старажытных гарадоў Беларусі* (А. Якімовіч); *Астап Лугавін — школьны інспектар* (Я. Колас).

Сказы, у якіх паведамляецца аб працэсах, маюць у сваім саставе дзеяслоўны выказнік, а сказы, у якіх выражаецца паняцце аб прадмеце ці называецца яго ўласцівасці,— іменны: *Ж ы ў ляснік са сваёй лесьнічыхай каля завадзі ціхай* (А. Куляшоў); *Сваю мы Радзіму ніколі, ніколі нікому на ганьбу, на здзек не д а д з і м* (А. Астрэйка); *Зімовая ноч б ы л а с в е т л а й і х а л о д н а й* (Ц. Гартны); *Вучыцца ў народа — з а д а ч а кожнага пісьменніка* (К. Чорны).

Важным структурным элементам апавядальных сказаў з'яўляецца інтанацыя. Схема яе наступная: узнікшы на вышыні, звычайнай для таго, хто гаворыць, голас паступова павышаецца ў першай частцы, затым плаўна паніжаецца і заканчваецца пачатковай вышынёй (інтанацыя канца).

Напрыклад:

↓
*зорак*
*ззяннем* *сонечная*
*Абліта* *паляна* (З. Бядуля).

Найбольш высокім тонам вымаўляецца тое слова ў сказе, на якое падае лагічны націск. Лагічна выдзяляцца можа любое знамянальнае слова. Так, у сказе *Мой брат працуе ў інстытуце* можна выдзеліць слова *мой: Мой* (а не чый-небудзь) *брат працуе ў інстытуце; брат: Мой брат* (а не хто-небудзь іншы) *працуе ў інстытуце; працуе: Мой брат працуе* (а не вучыцца) *у інстытуце; у інстытуце: Мой брат працуе ў інстытуце* (а не дзе-небудзь у іншым месцы).

У залежнасці ад месца лагічнага націску мяняецца сэнс сказа. Калі ў сказе няма слова, якое лагічна выдзяляецца, то самым высокім тонам вымаўляецца выказнік: *Кроплі срэбнае расы туман паклаў на ціхім доле* (М. Хведаровіч); *Хмары апусцілі на зямлю млявую парнасць* (І. Мележ).

У сярэдзіне апавядальнага сказа робіцца невялікая паўза, якая звычайна раздзяляе сказ на састаў дзейніка і састаў выказніка: *Свеціць // месяц* (К. Чорны); *Даспяваюць // вішні* (С. Грахоўскі); *І шуміць, і гамоніць пра мірнае суіснаванне // асамблея зялёная дубоў і бяроз* (П. Макаль); *Нашай Канстытуцыі слаўныя заветы // не памруць, жыць будуць праўдай векапомнай* (Я. Купала).

Працяглая паўза ўласціва сказам, якія азначаюць якое-небудзь лагічнае паняцце; у такіх сказах першая частка вымаўляецца больш высокім тонам, а другая — больш нізкім: *Мой родны Мінск! Ты — прыгажосць і слава Беларусі, яе палеткаў, пушчаў і нябёс. Ты — наша сталасць, нашае юнацтва. Ты — песня непаўторная мая* (П. Прыходзька); *Кожны чалавек — гэта цэлы свет* (К. Чорны).

Апавядальныя сказы распаўсюджаны ва ўсіх стылях вуснай і пісьмовай мовы. У вуснай мове яны аддзяляюцца адзін ад аднаго паўзай, на пісьме — кропкай.

### *Пытальныя сказы*

§ 134. Пытальнымі называюцца сказы, якія выражаюць пытанне: *Ну, дык дзе ж вы, аднагодкі? У якіх шыротах-далях? Можа ў памяці кароткай нашы клятвы пагублялі?* (А. Звонак); *Завошта хутар сіратлівы Каспійкай людзі нараклі?* (А. Астрэйка); *Ад чыіх напаўняецца слёз Ніл шырокі, глыбокі вякамі?* (А. Бялевіч).

Заключанае ў пытальных сказах пытанне патрабуе на сябе адказу. Таму пытальныя сказы ўласцівы дыялагічнай мове.

У асобных выпадках яны могуць уводзіцца і ў маналагічную мову з мэтай засяродзіць увагу на выкладзе, паставіць пытанне перад самім сабой, выразіць катэгарычнае сцвярджэнне.

Паводле значэння пытальныя сказы разнастайныя; яны могуць заключаць у сабе:

пытанне, якое абавязкова патрабуе адказу (уласна пытальныя сказы): — *Пароль ёсць? — Ёсць. — Які? — Ракета* (А. Куляшоў); — *І добра зарабляеце?— Зарабляем* (М. Лобан);

пытанне, якое патрабуе пацвярджэння ці адмаўлення (пытальна-сцвярджальныя сказы): — *Няўжо было заўсёды так? — Не!* (М. Гамолка); — *Зося? — сарвалася ў мяне.— Зося,— адказаў камандзір.— Ты яе ведаеш? — Як не ведаць? Я ж перад службай настаўнічаў у мястэчку* (Звязда, 1982); — *Мірон Якімавіч? — Каму ж яшчэ там быць!* (Т. Хадкевіч);

пытанне з ускосным пабуджэннем да дзеяння (пытальна-пабуджальныя сказы): *Хто ж адвагі знойдзе, смеласці з сілай моладзі памерацца?* (М. Чарот), г. зн. 'знайдзіце адвагу, смеласць памерацца з

сілай моладзі'; *Гэй, хто стрымае наш творчы размах?* (В. Таўлай), г. зн. 'паспрабуйце стрымаць наш творчы размах і паглядзіце, што з гэтага атрымаецца';

пытанне, якое заключае ў сабе сцвярджэнне,— так званае рытарычнае пытанне (пытальна-рытарычныя сказы): *Што ж мне можа быць больш за Радзіму любімую міла?* (П. Панчанка), г. зн. 'нічога'; *Але хто, жывучы ля вады, не завядзе лодку і вуду, каго не прывабіць спакойная гладзь, каму не любы пошум чаротаў на ўзбярэжжы і гучны лопат качыных крылаў?* (Е. Лось), г. зн. 'кожны';

пытанне, мэта якога— прыцягнуць увагу субяседніка ці чытача (так званыя ўстаўныя сказы-пытанні): *Ручаёк агінаў бугаркі і выспы, выныраў з-за густых ракіт, аж пакуль — хто іх столькі высыпаў? — не наблізіліся пяскі* (А. Бачыла); *Мінуўшы варту, без ключоў да хлопца хтосьці — пэўна сон? — нячутным крокам увайшоў* (А. Вялюгін); *А навокал жывыя вянкі — колькі іх? — з кветак розных: лясных, лугавых, палявых, акуратна пакладзеных на траву* (А. Куляшоў);

пытанне, якое мае эмацыянальныя і мадальныя адценні: *Куды спяшаюцца дажджоў калоны, не зведаўшы дарог і пераправ?* (А. Пысін); *Бедная клянінка, што ж ты пахмурнела, апусціла голле, лісцем пажаўцела?* (Ц. Гартны); *Чаму глядзяцца зоры ў люстэрка чыстых вод?* (М. Чарот).

Асноўныя канструктыўныя элементы пытальных сказаў — інтанацыя, парадак слоў, пытальныя словы.

Інтанацыя пытальных сказаў характарызуецца рэзкім павышэннем тону на слове, якое патрабуе адказу. У сказе *Ты ідзеш сёння ў кіно?* пытанне можа быць звязана з любым словам, таму тон можа павышацца на першым слове: *Ты*↓ *ідзеш сёння ў кіно?* (сыходная інтанацыя), на другім ці трэцім: *Ты ідзеш*↓ *сёння ў кіно?* (узыходна-сыходная інтанацыя), на апошнім: *Ты ідзеш сёння ў кіно*↓*?* (узыходная інтанацыя). У першым выпадку пацвярджэння ці адмаўлення патрабуе слова *ты* (ты ці хто-небудзь іншы?); у другім — *ідзеш* (ідзеш ці не?); у трэцім — *сёння* (сёння ці заўтра?); у чацвёртым — *у кіно* (у кіно ці ў тэатр?). Значыць, лагічны націск падае на тое слова, з якім звязаны сэнс пытання.

У пісьмовай мове знешнія сродкі выражэння пытальнасці, заключанай у тым ці іншым слове, адсутнічаюць. Таму слова з лагічным націскам звычайна вызначаецца пры дапамозе кантэксту: *Сына няма дома?— Так, сына.* Адказ дапамагае зразумець, што пытанне адносіцца да слова «сына».

Пытальнае значэнне сказа можа выражацца пры дапамозе асобага парадку слоў—вынясення галоўнага слова пытання на першае месца. Напрыклад: *Ён быў учора на занятках? Быў ён учора на занятках? Учора ён быў на занятках? На занятках ён быў учора?* Аднак роля парадку слоў у афармленні пытальнага сказа другарадная, паколькі сам па сабе, без пытальнай інтанацыі, ён не можа ўтварыць пытальнага сказа. Параўн.: *Зажурыўся бор* (Р. Барадулін) — *Бор зажурыўся.* Парадак слоў змянілі, аднак сказ застаўся апавядальным.

У афармленні пытальных сказаў могуць удзельнічаць спецыяльныя пытальныя словы, якімі з'яўляюцца:

пытальныя займеннікі *хто, што, які, каторы, чый, колькі* ў розных склонах, з прыназоўнікамі і без прыназоўнікаў: *Што мне рабіць з маёю журбою?* (А. Астрэйка); *Хто спыняе рэкі і злучае моры?* (Я. Колас); *А з якім жа ён атрадам праз якія йшоў агні?* (П. Прыходзька); *З чым жа, маці азёр беларускіх, мог я ў песні цябе параўнаць?* (П. Прыходзь-

ка); *А хто там ідзе, а хто там ідзе ў агромністай такой грамадзе?* (Я. Купала); *А чые гэта нівы аж гнуцца пад цяжкім налівам?* (М. Лужанін); *Пра што луг думае ў світальны час?* (М. Калачынскі);

пытальныя прыслоўі *дзе, куды, калі, адкуль, навошта, чаму* і інш.: *Дзе ж ты, цёплае лета, сонцам яркім сагрэта?* (А. Русак); *Чаму ж нядобры час прынёс мне доўгае расстанне з вамі?* (М. Багдановіч); *Навошта ж лёс дрэнны у лепшую хвіліну сцяў кветку жыцця маладога?* (М. Чарот); *Куды спяшаюцца дажджой калоны, не зведаўшы дарог і пераправў?* (А. Пысін); *Нашто жаўрук ключом сярэбраным нашы сэрцы крануў без пары?* (В. Таўлай); *Чаму вянкі ў тваёй душы так рана ў квецені завялі? Куды нясуць іх жыцця хвалі?..* (П. Трус);

пытальныя часціцы *няўжо, ці, хіба* і інш.: *А хіба камуніст можа жыць, працаваць, ваяваць без насельніцтва, без народа, асабліва вось у гэтых партызанскіх умовах?* (М. Лынькоў); *Быць Чалавекам — ці ж гэта не шчасце?* (А. Марціновіч); *Ці ж мы, хлопцы, рук не маем? Ці ж нам сілы бог не даў?* (Я. Колас); *Няўжо гэта ён падглядаў у вокны?* (Я. Колас); *Ці чулі вы зязюлі кукаванне ў глыбокіх сутонннях лясных?* (А. Пысін).

У сказах са спецыяльнымі пытальнымі словамі пытальная інтанацыя больш слабая, чым у тых сказах, дзе яна з'яўляецца адзіным сродкам выражэння пытальнасці.

Сказы з пытальнымі займеннікамі і прыслоўямі называюцца з а й м е н н і к а в ы м і, усе астатнія пытальныя сказы — н е з а й м е н н і к а в ы я.

### *Пабуджальныя сказы*

§ 135. П а б у д ж а л ь н ы м і называюцца сказы, якія выражаюць волевыяўленне, пабуджэнне да дзеяння. Пабуджальныя сказы могуць выражаць загад, просьбу, заклік, запрашэнне, параду, прадасцярогу, забарону, пратэст, дазвол: *Прынясі нам хмарку, вецер лёгкакрылы* (М. Машара); *Родны край, у шчасці расцвітай* (А. Русак); *На варту зямлі і свабод падымайся, рабочы народ!* (Я. Колас); *Не шуміце веццем, вербы, ля ракі* (Я. Колас); *Давайце дружна песню звонкую спяём* (З. Бядуля); *Ніколі не спыняйцеся на паўдарозе* (Я. Колас).

Прамежкавае становішча паміж пабуджальнымі і апавядальнымі сказамі займаюць канструкцыі, у якіх выражаецца не пабуджэнне да дзеяння, а толькі жаданне таго, хто гаворыць, напрыклад: *Нам бы ў добрых усмешках за працай яснець* (П. Панчанка); *Нікуды не хацелася спяшацца... Так бы сядзець, маўчаць і глядзець на зачараваны азёрны прастор* (С. Грахоўскі).

Пастаянная граматычная прымета пабуджальных сказаў — асобая імператыўная інтанацыя, якая мае мноства адценняў.

Адным з граматычных сродкаў афармлення пабуджальных сказаў з'яўляецца форма выказніка.

У якасці спецыяльнай і найбольш пашыранай формы выказніка, які мае пабуджальнае значэнне, выступае дзеяслоў у загадным ладзе: *Няхай жа для шчасця цвіце ваша доля* (А. Русак); *Над люстрам ракі запляці свае косы, бярозка-красуня* (А. Куляшоў); *Давайце дружна песню звонкую спяём* (З. Бядуля); *Мой мілы таварыш, мой лётчык, вазьмі ты з сабою мяне!* (Я. Купала); *Жаўранак, птушачка вольная, хутчэй прылятай!..* (Ц. Гартны); *Заходзьце ж вы і набірайце сілы, прыязнасць, дружба, ласка і любоў!* (А. Бачыла); *Не шукай ты шчасця, долі на чужым далёкім полі* (Я. Купала); *Слаўся ты, наша радзіма, песняй і працай свабоднай, нашаю доляй шчаслівай, воляй і дружбай народнай* (А. Русак); *Не шкадуйце, хлопцы, пораху, куль гарачых і гранатаў* (М. Танк).

Выказнік можа выражацца і іншымі формамі дзеяслова:

умоўным ладам у спалучэнні з інтанацыяй просьбы, парады: *Прыйшла б яна заўтра да мяне; Адпачыў бы ты трохі;*

інфінітывам у спалучэнні з імператыўнай інтанацыяй: *Жыццём шчаслівым і багатым квітнець табе, край малады!* (А. Астрэйка);

будучым простым часам у спалучэнні з інтанацыяй распараджэння: *Потым прынясеш! Заўтра прыйдзеш!;*

прошлым часам у спалучэнні з інтанацыяй загаду: *Паехалі!; Пабеглі!;*

цяперашнім ці будучым часам у спалучэнні з інтанацыяй запрашэння: *Ідзём туды! Пойдзем адсюль!;*

будучым часам у спалучэнні з часціцамі і з інтанацыяй сказа: *Ці не пабудзеш ты сёння са мной дома?*

У ролі пабуджальных сказаў, пры дапамозе якіх выражаюцца розныя каманды, катэгарычныя папярэджанні і патрабаванні, могуць выступаць назоўнікі, прыслоўі, безасабова-прэдыкатыўныя словы ці выклічнікі ў спалучэнні з інтанацыяй загаду: *Нельга! Марш! Агонь! Уперад! Хутчэй!* і пад.

У сказах з выказнікам-дзеясловам у загадным і абвесным ладзе інтанацыя выступае ў якасці другараднага граматычнага сродку; у астатніх структурных тыпах пабуджальных сказаў інтанацыя з'яўляецца асноўным граматычным сродкам выражэння значэння загаднасці. Пабуджальныя сказы выкарыстоўваюцца ў розных жанрах мастацкай літаратуры і ў публіцыстыцы, рэдка — у навуковым стылі мовы. Асноўная сфера ўжывання пабуджальных сказаў — простая мова. Яны надаюць выказванню жывасць і эмацыянальнасць, перадаюць непасрэднасць гутарковай мовы.

### *Клічныя сказы*

§ 136. Клічнымі называюцца сказы, у якіх выражэнне асноўнага зместу суправаджаецца моцным пачуццём таго, хто гаворыць.

Эмацыянальную афарбоўку могуць атрымліваць усе разгледжаныя вышэй тыпы сказаў. Так, могуць быць сказы апавядальна-клічныя: *Сягоння на новых шляхах Беларусь!* (А. Звонак); *Шчасце ідзе па маёй старане!* (Ц. Гартны); пытальна-клічныя: *Колькі наперадзе спраў маладым!* (А. Астрэйка); *Каго толькі не сустрэнеш на палявой сцежцы!* (А. Куляшоў); *Колькі шуму ў нашым збожжы, спеву і гаворкі!* (Я. Колас); *Калі ўжо на сваім двары мы самі не гаспадары, дык у жыцці чаго мы варты?!* (М. Аўрамчык); *Край мой родны! Дзе ж у свеце край другі такі знайсці!* (Я. Колас); пабуджальна-клічныя: *Выйдзем, хлопцы, усе к працы вялікай на поле!* (М. Чарот); *На сход, на ўсенародны, грозны, бурны сход ідзі, аграблены, закаваны народ!* (Я. Купала); *Заўсёды наперад! Ніколі назад!* (Я. Купала).

Паколькі пабуджальныя сказы вымаўляюцца з экспрэсіяй, яны з'яўляюцца адначасова і клічнымі сказамі.

Эмоцыі, што выражаюцца клічнымі сказамі, могуць мець самыя разнастайныя адценні—упэўненасці і няўпэўненасці, згоды, роздуму, іроніі, ласкі, жаласці, папроку, загаду, просьбы і г. д.: *Не, народа майго аніхто не сагне!* (П. Панчанка); *Абелiскі — слава роднае зямлі!* (П. Прыходзька); *Добра ў лузе ў час палудны!* (Я. Колас); *О, якія травы ў лузе шаўкавістыя!* (З. Бядуля); *Партыя павяла к камунізму светлай дарогай народы!* (А. Русак); *Ідзем мы ў строі паходным на светлы камуны маяк!* (П. Броўка); *Я гарачыя словы у песенны сплаў пералью, закаханы навекі ў тваю маладую зямлю!* (А. Звонак).

Ва ўсіх клічных сказах эмацыянальная афарбоўка дапаўняе асноўны змест сказа: паведамленне, пытанне, пабуджэнне. І толькі ў некаторых

выпадках выражэнне эмоцый становіцца асноўным у клічных сказах: *Якія знаёмыя назвы і словы! Якая цудоўная родная мова!* (П. Панчанка).

Асноўным граматычным сродкам афармлення эмацыянальных сказаў з'яўляецца асобая (клічная) інтанацыя, якая характарызуецца больш высокім тонам, з лагічным выдзяленнем таго слова, якое выражае пачуццё: *Хай нянавісць чырвоным пажарам уздымаецца, грозна гарыць!* (М. Хведаровіч); *Але як яныігралі! Гэта трэба было чуць і бачыць* (У. Дамашэвіч).

Акрамя інтанацыі, розныя адценні пачуццяў выражаюцца пры дапамозе выклічнікаў і часціц: *Ого, колькі гераічных момантаў адбываецца ў звычайным будзённым жыцці!* (У. Краўчанка); *Ох, як многа розных песень чуецца ў дарогах!* (Я. Колас); *Якія раслі тут бярозы, на гэтых пясчаных наносах!* (М. Танк); *Хай святло навукі яснай заблішчыць, як сонца ўсход!* (Я. Колас); *А нялёгка, ой, браточкі, змалку быць закутым!* (Я. Купала); *А як прыгожы пуцявінкі ў шаўках зялёнае травінкі!* (Я. Колас); *О, колькі песень з сэрца рвецца!* (Я. Купала); *Хай дровы ярчэй разгарацца! Хай добрыя рукі сяброў, грубыя ад сцюжы і працы, да полымя цягнуцца зноў!* (А. Куляшоў); *Але што за дока быў дзед Мікіта ў маладыя гады!* (Я. Колас); *Вунь нашая рэчка! Вунь школа ля гаю!* (П. Броўка).

На пісьме ў канцы клічных сказаў ставіцца клічнік.

Як і пабуджальныя, клічныя сказы ўжываюцца ў розных жанрах мастацкай літаратуры, у публіцыстыцы, рэдка — у навуковым стылі.

## ТЫПЫ СКАЗАЎ ПА СТРУКТУРЫ

§ 137. У залежнасці ад структуры ўсе сказы дзеляцца на простыя і складаныя.

Простым называецца сказ, які змяшчае ў сабе адну прэдыкатыўную адзінку: *Над вольнаю краінай прасторнаю пуцінай ідзе наш ясны дзень* (Я. Колас); *Сонца ўмываецца ранняю расой* (А. Бялевіч); *На мяжы маёй дзяржавы пільныя стаяць заставы* (В. Вітка).

Складаным называецца сказ, які складаецца з дзвюх ці некалькіх прэдыкатыўных частак, што нагадваюць сабой адзінае сэнсавае, граматычнае і інтанацыйнае цэлае. Састаўным часткам складаных сказаў уласціва прэдыкатыўнасць, аднак сэнсавай і інтанацыйнай закончанасці яны не маюць: *Звіслі ўніз каласы і пад месяцам спяць, толькі кроплі расы на вусах іх блішчаць* (А. Бачыла); *Каб слава дружыла з табой праз гады, ты з праўдай зрадніся, мой сын, назаўжды* (А. Бялевіч); *Вясне так хочацца прысесці на сакавітую траву: каштанаў факельнае шэсце ёй закружыла галаву* (П. Панчанка). Часткі складанага сказа могуць аб'ядноўвацца як раўнапраўныя, граматычна незалежныя (*То віўся ўгору густым вянком спелы пажоўклы хмель, то абвісалі цяжкімі гронкамі спелыя чырвоныя вішні, а то раптам шырока раскідваў сваё вецце пышны ружовы куст* (П. Галавач)) і як залежныя (*А ў ціхім лузе пад калінай, дзе дываном муры-трава, пастух засмучанай дзяўчыне легенды ў песнях напяваў* (П. Трус)).

Простыя сказы могуць быць двухсастаўнымі і аднасастаўнымі, неразвітымі і развітымі, поўнымі і няпоўнымі.

Двухсастаўным называецца сказ, у якім ёсць дзейнік і выказнік (ці састаў дзейніка і састаў выказніка): *У буйным лузе ззяюць, граюць кветкі, мошкі, матылькі* (Я. Купала); *Як бы ўсе хацелі жыць пад*

*мірным небам!* (В. Вітка); *Зямля Радзімы! У сэрцы боль салодкі хто не адчуў, сустрэўшыся з табой?* (А. Звонак).

Аднасастаўным называецца такі сказ, у якім ёсць толькі адзін граматычны састаў, галоўны член якога суадносіцца з дзейнікам ці выказнікам двухсастаўнага сказа: *Люблю цябе, мая краіна* (Я. Колас); *Не завіце маю рэспубліку краінай цёмных лясоў!* (К. Кірэенка); *Са звязанымі рукамі не гавораць пра шчасце* (М. Лынькоў); *Было нам радасна страчаць Кастрычніцкае свята* (М. Лужанін); *Не быць вайне!* (М. Засім); *Вось старая хатка. Садзік невялічкі. Малады алешнік па краях крынічкі* (Я. Колас).

Неразвітым называецца сказ, які складаецца толькі з галоўных членаў ці з аднаго галоўнага члена: *Свеціць месяц* (К. Чорны); *Цвіце ядловец* (М. Танк); *Полудзень. Вар. Цішыня* (Я. Колас); *Вечарэла* (Я. Колас).

Сказ, у якім, акрамя галоўных, ёсць і даданыя члены, называецца развітым: *У бледнай празрыстай пазалоце сонца ззялі вяршаліны стромкіх хвой і вячыстых дубоў* (М. Лынькоў); *Поле пахне свежым хлебам і хмелем першае расы* (М. Машара); *Сякеру, молат, серп і плуг нам доля з роду даручыла* (Ц. Гартны); *Люблю лугі квяцістыя, за полем шумны гай, палеткі каласістыя, цябе, мой родны край* (А. Русак); *Усё зробім для шчасця краіны сваёй* (Я. Купала). *Не пагасне ніколі салдацкая слава* (А. Вялюгін).

Поўным называецца сказ (аднасастаўны ці двухсастаўны), у якім ёсць усе ўласцівыя яму члены: *Над пасёлкам Янтарным занялася зара* (П. Прыходзька); *Антось заложна і цярпліва ў зямлю ўкладваў сваю сілу* (Я. Колас); *Вышыня. Натоўп гранітных глыбаў. Горны звал на стромкіх берагах* (А. Звонак); *Снежна. Санна. Свежа* (А. Вялюгін); *На ўзлеску моцна пахла сасной* (І. Шамякін).

Няпоўным называецца такі сказ, у якім апушчаны той ці іншы член, гэты член лёгка ўзнаўляецца з кантэксту ці пэўнай сітуацыі: *Міхал хватае дубальтоўку і хоча выстраліць у воўка. А потым стрэльбу апускае і воўка зблізку разглядае* (Я. Колас); *Сонца дае цеплыню і святло, зямля — свае жыватворныя сокі* (І. Навуменка).

Сказы, у структуры якіх немагчыма выдзеліць асобныя члены,—нерасчлянёныя сказы (словы-сказы): Сымон. *А дзедка ўсё гасціць у нас!* Старац. *Але, сынку мой* (Я. Купала); Прыстаў. *Зямлі захацеў свае?* Леапольд Гушка. *Але, паночку* (К. Чорны).

## ТЫПЫ СКАЗАЎ ПАВОДЛЕ АДНОСІН ІХ ЗМЕСТУ ДА АБ'ЕКТЫЎНАЙ РЭЧАІСНАСЦІ

§ 138. Паводле характару выражэння адносін да рэчаіснасці сказы надзяляюцца на сцвярджальныя і адмоўныя.

Сказ, у якім сцвярджаецца сувязь паміж прадметам маўлення і яго прыметай, называецца сцвярджальным: *Над рэчкай лозы дрэмлюць* (Я. Колас); *Дружба — вялікая справа* (К. Чорны); *Рашэнне было цвёрдае* (А. Асіпенка); *За Дняпром шырокім вырасла пшаніца* (А. Русак); *У гаі цвілі каліны навальнічнаю парой, асыпалі на сцяжыны квецень буйную з расой* (П. Прыходзька).

Сказ, у якім адмаўляецца сувязь паміж прадметам маўлення і яго прыметай, называецца адмоўным: *Цэлы дзень не ціхнуць песні над ракою* (А. Астрэйка); *Ноч імжыстая не пагасіла незакатны дзень,* (А. Пысін); *Ішлі мы, прыпынку не зналі, праз безліч пакутаў і слёз* (П. Броўка); *На Палессі елкі не растуць* (І. Навуменка).

Асноўным граматычным сродкам выражэння адмоўя з'яўляецца часціца *не*. Сцвярджэнне граматычна выражаецца адсутнасцю адмоўнай часціцы *не*.

Адрозніваюць агульнаадмоўныя і прыватнаадмоўныя сказы. Агульнаадмоўныя сказы выражаюць поўнае адмаўленне, якое граматычна выражаецца ўжываннем часціцы *не* перад выказнікам: *Не ашуквае песня ў жыцці ніколі* (В. Таўлай); *Не курыцца светлы пыл усцяж дарог* (М. Багдановіч); *Не моўкне спеваў пераздон* (М. Чарот).

Прыватнаадмоўныя сказы выражаюць частковае адмаўленне. Граматычна яно выражаецца ўжываннем часціцы *не* перад дзейнікам ці даданым членам: *Не месца ўпрыгожвае чалавека, а чалавек — месца* (Прыказка); *Дзеці Зямлі, яны сумавалі па ёй і аддавалі ёй шмат увагі не толькі ў час спецыяльных эксперыментаў і даследаванняў* (М. Гіль); *Свае сілы не марна мы трацілі* (А. Астрэйка).

Адмоўе можа ўзмацняцца часціцай *ні* ці злучнікам *ні — ні*: *На небе ні хмурынкі* (Я. Колас); *...У яго зялёнай вёсачцы на Віцебшчыне не было ні рэчкі, ні азярца* (І. Мележ); *Стары млын стаяў нерухома. Не было каля яго ні людзей, ні фурманак* (Я. Колас); *Ні адной хмурынкі на блакіце, ні павеву ветру на зямлі* (А. Астрэйка); *У блакітным небе — ні адзінай хмаркі* (І. Гурскі).

Адмоўныя сказы ўтвараюцца таксама пры дапамозе адмоўя *няма* і адмоўных займеннікаў і прыслоўяў: *Нічога асаблівага не было ў гэты вечар, але памяць пра яго грэла і трывожыла іх потым многія гады* (І. Мележ); *А для салдат, чые навек закрыты вейкі, няма ўжо дат, ніякіх дат* (П. Панчанка); *Дзень ідзе, другі ідзе, не відаць гары нідзе* (К. Крапіва); *І расце, і расце, і шырэй, і шырэй узрастае камунараў сцяна, што сабой прыкрывае народы, не зламалі яе аніякія буры, нягоды* (П. Броўка).

Некаторыя сказы з адмоўнай часціцай *не* страчваюць адмоўнае значэнне і набываюць сцвярджальны сэнс. Гэта адбываецца пры ўжыванні часціцы *не:*

а) перад спрагальнай формай і перад інфінітывам састаўнога дзеяслоўнага выказніка: *Поспехі ў вучобе сына не маглі не радаваць бацькоў; Не магла ж яна не рэагаваць на такі факт* (П. Кавалёў);

б) у спалучэнні з безасабова-прэдыкатыўным словам *нельга: Гэтай бялявай худзенькай дзяўчыне нельга было не верыць* (І. Мележ);

в) у спалучэнні з займеннікамі і прыслоўямі *хто, як* і г. д.: *Хто не зразумее гэтага?; Ну, як не палюбіць цябе, мой родны край!*

Сказы са спалучэннямі *хто ні, куды ні* і падобнымі таксама маюць сцвярджальнае значэнне: *Хто ні паглядзіць, кожны зразумее; Куды ні глянь — усюды прыгажосць.*

Сцвярджальнымі і адмоўнымі могуць быць усе тыпы сказаў: апавядальныя, пытальныя, пабуджальныя і клічныя, аднасастаўныя і двухсастаўныя, поўныя і няпоўныя.

## ПРОСТЫ СКАЗ

### ЧЛЕНЫ СКАЗА

§ 139. Любы сказ складаецца з асобных членаў, якія адлюстроўваюць разнастайныя адносіны паміж з'явамі рэчаіснасці. У якасці членаў сказа выступаюць знамянальныя часціны мовы, а таксама ўстойлівыя словазлучэнні, якія з'яўляюцца эквівалентам слова. Службовыя часціны мовы не бываюць членамі сказа: яны або зусім не ўваходзяць у састаў

членаў сказа (злучнікі, узмацняльныя часціцы), або ўтвараюць іх разам са знамянальнымі словамі (прыназоўнікі, формаўтваральныя часціцы, звязкі); не з'яўляюцца членамі сказа таксама звароткі, мадальныя словы і выклічнікі.

Значыць, паміж часцінамі мовы і членамі сказа існуе ўзаемасувязь: члены сказа ёсць не што іншае, як часціны мовы ў пэўнай сінтаксічнай функцыі; у той жа час і самі часціны мовы атрымліваюць сваё найбольш поўнае выражэнне толькі ў саставе сказа.

Аднак часціны мовы і члены сказа нельга атаясамліваць: часціны мовы — гэта марфалагічныя катэгорыі мовы, а члены сказа — катэгорыі сінтаксічныя, гэта функцыі часцін мовы ў структуры сказа. Таму адна і тая ж часціна мовы і нават адна і тая ж форма слова можа выконваць ролю розных членаў сказа.

Кожная часціна мовы можа выступаць як у асноўнай сваёй функцыі, так і ў функцыі вытворнай, не ўласцівай ёй. Так, для назоўніка галоўнай з'яўляецца роля дзейніка ці дапаўнення, для прыметніка — роля азначэння, для дзеяслова — роля выказніка, для прыслоўя — роля акалічнасці; іншыя сінтаксічныя функцыі гэтых часцін мовы лічацца вытворнымі. У першым выпадку члены сказа называюцца м а р ф а л а г і з а в а н ы м і, у другім — н е м а р ф а л а г і з а в а н ы м і.

Члены сказа нераўназначныя: адны з іх з'яўляюцца г а л о ў н ы м і, другія — д а д а н ы м і.

## ГАЛОЎНЫЯ ЧЛЕНЫ СКАЗА

§ 140. Граматычна незалежны галоўны член сказа, які абазначае прадмет думкі, называецца д з е й н і к а м. Граматычна залежны ад дзейніка галоўны член сказа, які абазначае дзеянне, стан або прымету прадмета, названага дзейнікам,— в ы к а з н і к. Так, у сказе *І месяц бляск струменіць белы з бяздоннай цьмянай глыбіні* (Я. Колас) граматычна незалежны член, дзейнік — слова *месяц*, а граматычна залежны ад яго, выказнік — слова *струменіць*.

Сэнсавыя адносіны паміж выказнікам і дзейнікам могуць быць рознымі: прадмет і прымета *(Дзень марозны)*, суб'ект і дзеянне *(Дзяўчына спявае)*, відавое і родавае паняцці *(Жалеза — метал)*, дзеянне і яго прымета *(Жыць цікава)* і г. д. Побач з разнастайнасцю гэтых адносін паміж двума галоўнымі кампанентамі сказа існуюць абавязковыя адносіны прэдыкатыўнасці. Іменна прэдыкатыўнасць (разам з сэнсавай і інтанацыйнай закончанасцю, мадальнасцю) і дазваляе лічыць падобныя спалучэнні слоў сказамі.

Наяўнасць абодвух галоўных членаў уласціва толькі двухсастаўнаму сказу. Яны служаць яго структурнай асновай і часцей за ўсё адпавядаюць членам суджэння — суб'екту і прэдыкату.

Акрамя галоўных членаў, у сказе могуць быць і іншыя члены — даданыя, якія паясняюць дзейнік ці выказнік. Знаходзячыся ў становішчы, залежным ад таго ці іншага галоўнага члена, даданыя члены сказа ў сваю чаргу могуць мець пры сабе словы, якія іх паясняюць: *Узыдзе месяц над курганам у вянках прыгажосці і чар і ўзорам тонкім даматканым засцеле ў просіні абшар* (П. Трус); *Белым снегам замятае вецер чорныя палі* (Я. Колас).

Такім чынам, двухсастаўны сказ дзеліцца на састаў дзейніка і састаў выказніка. Састаў дзейніка ўтвараецца з дзейніка і даданых членаў

сказа, якія да яго адносяцца. Састаў выказніка ўтвараецца з выказніка і даданых членаў, якія да яго адносяцца.

У неразвітым двухсастаўным сказе ў састаў дзейніка ўваходзіць толькі дзейнік, а ў састаў выказніка — толькі выказнік.

## СПОСАБЫ ВЫРАЖЭННЯ ДЗЕЙНІКА

§ 141. Дзейнік можа быць выражаны як марфалагізаванымі, так і немарфалагізаванымі формамі. Марфалагізаванай формай выражэння дзейніка з'яўляецца назоўнік, займеннік-назоўнік і колькасны лічэбнік у назоўным склоне. Немарфалагізаваным называецца дзейнік, выражаны любой іншай часцінай мовы, якая ўжываецца ў значэнні назоўніка ў назоўным склоне.

1. Найбольш распаўсюджаная форма выражэння дзейніка — назоўны склон назоўніка любога лексіка-граматычнага разраду. Прадметнае значэнне назоўніка і незалежны назоўны склон найбольш прыгодныя для выканання функцыі дзейніка як незалежнага члена, што абазначае прадмет выказвання: *Нерухома стаяў густы амярцвелы л е с* (Я. Колас); *На пустым і закінутым полі не народзяць зярнят к а л а с ы* (А. Бялевіч); *Дарэмна стараюцца в о р а г і зноў парушыць спакой нашых меж-рубяжоў* (М. Танк); *Х л о п ч ы к з нямецкай блакады быў вырвацца рады* (А. Куляшоў); *Л і т а р а т а р павінен быць вельмі чулы да слова* (Я. Скрыган); *Маладыя вунь с а с о н к і цешаць вока ростам гонкім* (Я. Пушча); *Г о л а с партыі — голас міру* (Прыказка); *Найлепшы нам памочнік — д а б р а т а* (У. Калеснік); *М о к у ц ь — чортава месца, гіблае для касца* (І. Мележ); *Апошні раз акінуў Л а б а н о в і ч вачамі ўсе ваколіцы* (Я. Колас); *Памяць сэрца ніколі не закрэсляць г а д ы* (А. Бялевіч); *Наша п р а ц а — наш узлёт, наша слава і багацце* (Я. Колас).

2. У функцыі дзейніка часта выступаюць займеннікі-назоўнікі:

а) асабовыя: *М ы не забудзем тую ноч на петраградскім рубяжы...* (М. Калачынскі); *Я тугу ў тваіх вачах ніколі, маці, не забуду!* (М. Хведаровіч); *Сцяг брыгады нясу я* (А. Куляшоў);

б) пытальна-адносныя: *Х т о так гулка стукаецца ў дзверы? Гэта ты, пасланнік поля — хлеб* (П. Макаль); *Ш т о магло б там прылучыцца Петрусю маламу?* (Я. Колас);

в) адмоўныя: *Н і х т о не мае права хавацца ад абавязку барацьбы са злом* (Я. Брыль); *Н і х т о каб ніколі не меў на вас злосці...* (А. Русак); *Нашых песень, светлых думак н і ш т о не зацемрыць* (Я. Купала);

г) няпэўныя: *Х т о-н і х т о ўжо працаваў на полі* (К. Чорны); *Ноччу па лесе а б ы-х т о не ходзіць* (Я. Колас).

3. Калі размова ідзе пра колькасць, у ролі дзейніка выступае колькасны лічэбнік у назоўным склоне: *Д з е с я ц ь дзеліцца на пяць.*

4. Дзейнік можа быць выражаны немарфалагізаванымі формамі:

субстантываванымі прыметнікамі, дзеепрыметнікамі, парадкавымі лічэбнікамі і займеннікамі: *З в ы к л а е, часта ч у т а е і б а ч а н а е не насцярожвае ўжо чалавека, ён яго як бы і не заўважае* (Р. Сабаленка); *Гусі апусціліся на жытнёвае поле. А д н ы паспешліва шчыпалі рунь, д р у г і я навыперадкі беглі да азярца, т р э ц і я ўжо асунуліся ў ваду* (Т. Хадкевіч); *С т а я ў ш ы я каля студні перадавалі далей Арцёмавы словы* (Я. Колас); *І гэта «і х», як здань ліхая, спакой ад дзядзькі адганяе* (Я. Колас);

субстантывіраванымі нязменнымі часцінамі мовы: прыслоўямі, злучнікамі, прыназоўнікамі, часціцамі, выклічнікамі: *Увесь час у яго гэтае «гэй» на языку верціцца* (Я. Колас); *І ўсё мілагучна для слыху майго: і звонкае «дзе» і густое «чаго»* (П. Панчанка); *І сёння і светлае заўтра вялікіх паэтаў народзіць* (Я. Пушча); *У лесе грымнула «ўра»* (Р. Сабаленка); *У каго не сціснецца сэрца, калі з яшчэ цёплага неба восені загучыць і тужлівае і жалкотнае «курлы-курлы»* (К. Кірэенка).

5. Дзейнік можа выражацца ўстойлівымі спалучэннямі іменнага тыпу: *Савецкі Саюз — магутны аплот міру ва ўсім свеце* (Звязда, 1985); *Белавежская пушча — багаты музей жывой прыроды* (В. Вольскі).

6. У ролі дзейніка могуць выступаць сінтаксічна непадзельныя словазлучэнні са значэннем: а) колькасці, б) сумеснасці, в) выбіральнасці, г) пэўнасці ці няпэўнасці.

Дзейнік з колькасным значэннем выражаецца:

спалучэннем колькаснага ці зборнага лічэбніка з назоўнікам у назоўным ці родным склоне: *Дзве маленькія шэрыя птушачкі сарваліся з галіны і, тоненька ціўкаючы, паляцелі ў поле* (Т. Хадкевіч); *На шырокім двары Азярышчанскага райкома стаяла некалькі фурманак* (П. Пестрак); *Усе трое пасажыраў моўчкі аглядалі наваколле* (М. Ракітны); *Усе чацвёра хлапцоў скончылі васьмігодку сёлетняй вясной* (Т. Хадкевіч);

спалучэннем назоўніка з колькасным значэннем ці са значэннем сукупнасці ў назоўным склоне і назоўніка ў родным склоне: *Рухаючыся з поўначы на поўдзень, вялікія масы лёду драбнілі цвёрдыя пароды, цягнулі іх з сабою і пакідалі на сваім шляху буйныя валуны, дробныя каменні, гліну і пясок* (В. Вольскі); *У нядзельку з самае раніцы паявіліся натоўпы людзей з чырвонымі сцягамі* (Р. Сабаленка).

Дзейнік са значэннем сумеснасці выражаецца спалучэннем назоўніка ці займенніка ў назоўным склоне з назоўнікам ці займеннікам у творным склоне з прыназоўнікам з[1]: *Заслонаў з Міронам Іванавічам правялі кароткую нараду* (М. Лынькоў); *Юрка з дзядзькам Лявонам не разлучаліся ні на адзін дзень* (І. Гурскі); *Андрэй з Параскай і не заўважылі, як вырас іх сын* (Р. Сабаленка); *Мікіта з старым Купрыянам з камісіяй робяць абход* (Я. Колас).

Дзейнік са значэннем выбіральнасці выражаецца спалучэннем займенніка *кожны, любы, усякі, адзін, нехта, хто* і падобных з іншым займеннікам ці назоўнікам у родным склоне: *Кожны з нас адчувае Леніна заўсёды поруч з сабою, у сабе* (А. Бялевіч); *Кожны з нас памятае прачытаную ў юнацтве першую кнігу* (Я. Скрыган); *Усякі з нас летняму дожджычку рад* (Я. Купала); *Над уласцівасцямі солі мала хто з нас задумваецца* (А. Куляшоў); *Шмат хто з гараджан прыязджаў летам у вёску на адпачынак* (І. Гурскі).

Дзейнік са значэннем пэўнасці ці няпэўнасці выражаецца:

спалучэннем асабовага займенніка з азначальнымі займеннікамі *сам* ці *увесь*: *Так я зразумеў яшчэ адну ісціну, што нясказанае слова павінен сказаць толькі ты сам* (В. Вітка); *Са з'яўленнем.. [Соні] мне быц-*

---

[1] У гэтым выпадку выказнік ужываецца ў множным ліку; пастаноўка ж выказніка ў адзіночным ліку ўказвае на тое, што да дзейніка адносіцца толькі назоўнік ці займеннік у назоўным склоне: *На прыгуменні, поруч з садам, павець з гумном стаяла радам* (Я. Колас).

*цам перадаваўся яе бадзёры настрой, і я ў в е с ь ажываў* (М. Ракітны);

спалучэннем указальнага займенніка *гэта* з азначальным *усё: Пайсці ў грыбы ці ў тую рыбу або паехаць на сялібу ці ў млын малоць на хлеб збажынку — у с ё г э т а вабіла хлапчынку* (Я. Колас); *Разбраенне польскага канвоя, арышт Панаса, знікненне дзеда Талаша, жорсткая расправа палякаў у Вепрах — у с ё г э т а адышло цяпер на другі план і засланілася Ганусанскімі падзеямі* (Я. Колас);

спалучэннем няпэўнага займенніка *нешта, штосьці* і падобных з прыметнікам: *І раптам н е ш т а ц ё п л а е нахлынула на сэрца, агарнула яго ціхаю радасцю з нейкім невыразным смуткам* (М. Лынькоў); *Можа, свет і любім мы за тое, што ў стрыечнай блізкасці жывём. Ш т о с ь ц і с в о й с к а е і ш т о с ь л ю д с к о е ў гэтых дрэў, каменя і жывёл* (А. Пысін).

7. Дзейнік можа быць выражаны незалежным інфінітывам. Дзейнік-інфінітыў звычайна стаіць перад выказнікам і аддзяляецца ад яго паўзай, якая інтанацыйна дзеліць сказ на дзве часткі — састаў дзейніка і састаў выказніка: *В у ч ы ц ц а ніколі не позна* (Прыказка); *Б у д а в а ц ь — вялікае шчасце для чалавецтва* (М. Паслядовіч); *Ж ы ц ь п а х о д а м — адна ў мяне ўцеха* (К. Кірэенка); *П а т р а п і ц ь хоць бы на змену ў Арэхайскі піянерскі лагер лічылася шчасцем* (Е. Лось); *Ч ы т а ц ь гэты твор — асалода і праца* (Я. Брыль).

Пры адваротным парадку слоў дзейнік, выражаны інфінітывам, выдзяляецца агульным сэнсам сказа, узмоцненым фразавым націскам на выказніку, паўзай перад саставам дзейніка: *Ваш абавязак — р а б і ц ь сваю справу* (П. Галавач); *Самае цяжкае было п е р а а д о л е ц ь лагчыну, потым ішло лягчэй* (В. Быкаў).

Інфінітыў-дзейнік двухсастаўнага сказа трэба адрозніваць ад інфінітыва ў складзе выказніка безасабовага сказа. Іх адрозненне праяўляецца ў спосабах выражэння выказніка, інтанацыі і ў парадку слоў.

8. Дзейнік можа быць выражаны цэлым сказам, які адасабляецца інтанацыйна і з'яўляецца прадметам думкі: *«С в е т у — м і р!» — дэвіз усяго прагрэсіўнага чалавецтва; «П р а л е т а р ы і ў с і х к р а і н, я д н а й ц е с я!» — галоўны лозунг камуністаў; Гучнае «Д з е н ь д о б р ы, т а в а р ы ш ы!» пачулася ля ўваходу ў майстэрню* (Х. Шынклер).

У структурных адносінах адрозніваюць тры тыпы дзейніка: просты, складаны і састаўны. П р о с т ы дзейнік складаецца з аднаго слова ці ўстойлівага спалучэння: *Вечная д р у ж б а з'яднала братоў* (А. Бачыла); *Першамайскімі называліся новыя б р ы г а д ы к а м у н і с т ы ч н а й п р а ц ы* (А. Куляшоў). С к л а д а н ы дзейнік нагадвае сабой сінтаксічна непадзельнае словазлучэнне: *Узняты с о т н і р у к сялянскіх да полымя сцягоў чырвоных* (М. Аўрамчык); *Раз увечар д з е д з С ы м о н к а м выйшлі ў парк у свой абход* (Я. Колас). С а с т а ў н ы дзейнік выражаецца спалучэннем дзеяслоўнай звязкі ў форме інфінітыва і назоўнікаў, прыметнікаў, парадкавых лічэбнікаў або займеннікаў з абагульнена-якасным значэннем у форме творнага склону: *С т а ц ь з а м о ж н ы м і — наша мэта* (І. Шамякін); *Б ы ц ь с в і н а р к а й — пачэсная праца* (З. Бядуля).

## ТЫПЫ ВЫКАЗНІКА

§ 142. Выказнікі падзяляюцца на дзеяслоўныя і іменныя. Д з е я с л о ў н ы м называецца выказнік, выражаны дзеяслоўнай формай ці словам са значэннем дзеяння: *Нівы ціха а д п а ч ы в а л і пасля летняй*

працы (Цётка); *Пабялелі ад снегу маўклівыя сосны* (С. Грахоўскі); *Потым — гоп яна з калёс, села ля дарогі...* (К. Крапіва).

Іменным называецца выказнік, выражаны дзеяслоўнай звязкай і іменнай часткай: *Пасля рэвалюцыі ўсё стала нашым, народным* (М. Гарэцкі); *Пасля дажджу лес зрабіўся панурым, непрыветлівым* (М. Лынькоў); *Якое кароткае лета было той год у нас!* (М. Танк).

У структурных адносінах выказнікі могуць быць простымі, ускладненымі, састаўнымі і складанымі. Дзеяслоўныя выказнікі бываюць усіх чатырох тыпаў, а іменныя — толькі састаўнымі ці складанымі.

Простым называецца выказнік, выражаны адным дзеясловам ці яго фразеалагічным эквівалентам: *Мы стаім за жыццця прыгажосць* (Э. Агняцвет); *Агні работ гараць у нашым краі* (Р. Няхай); *Твой сын не прадавай душы* (Н. Гілевіч); *Там ва ўсе званы звоняць пра гэты цуд* (П. Пестрак).

Ускладненым называецца выказнік, выражаны спалучэннем паўназначных дзеясловаў: *Кіравацць то ты кіруй, ды не вельмі тузай* (К. Крапіва); *Скачуць-плачуць сухавеі* (З. Бядуля); *Пойдзем, хлопцы, паглядзім на горад, па кіно даўно знаёмы нам* (П. Панчанка).

Састаўным называецца выказнік, які складаецца са звязкі ці дапаможнага дзеяслова і прызвязачнай часткі або інфінітыва іншага дзеяслова: *К вечару пакідае звінець неабдымная шырыня летняга дня* (К. Чорны); *Святлейшымі сталі нябёсы ад празрыстых кропелек расы* (П. Прыходзька).

Складаным называецца выказнік, які складаецца з трох і больш кампанентаў: *Хлопчык марыў вырасці мужным і смелым* (І. Новікаў); *У хаце ўжо збіраліся класціся спаць* (П. Галавач); *Мой бацька, Пятрусь Сурмак, вымушаны быў лічыць мяне памочнікам у гаспадарцы* (Я. Брыль).

## СПОСАБЫ ВЫРАЖЭННЯ ДЗЕЯСЛОЎНАГА ВЫКАЗНІКА

### *Просты дзеяслоўны выказнік*

§ 143. Просты дзеяслоўны выказнік можа быць выражаны як марфалагізаванай, так і немарфалагізаванай дзеяслоўнай формай.

Марфалагізаванымі формамі выказніка з'яўляюцца:

дзеясловы абвеснага ладу: *З лісцем пажоўклым горкія слёзы падаюць, сыплюцца з белай бярозы* (П. Броўка); *Цёмны лес з усіх бакоў абступаў невялікую паляну* (З. Бядуля); *Ціха шумелі ліпы* (У. Шахавец); *Незабыўных не забудзем мы ахвяраў, да канца за нашу справу пастаім, сцяг чырвоны векапомных камунараў нашай змене для палёту аддадзім* (А. Куляшоў); *Плыве, гудзе шум гулкі будаўнічы па ўсёй краіне з краю ў край* (Я. Купала); *Сады цвілі ў наваколлі* (А. Звонак); *Да камунізма нам дарог ніхто не загародзіць* (А. Русак); *Адзвінеўшая песня лета чабаровым пахне настоем* (К. Кірэнка);

дзеясловы загаднага ладу: *Не тужы ты, Нёман, адзінока па красуні Прыпяці шырокай* (А. Русак); *Пралятайце вы, дні, залатымі агнямі* (М. Багдановіч); *Жыві ты, савецкі народ* (Я. Колас); *Плыві, наша песня, далёка, па ўсіх акіянах плыві* (П. Броўка); *Зямлі і працы гаспадар, у поле ідзі, араты* (М. Чарот); *Гэй, вольная песня, уздымайся на крылах маланак нястрымных...* (М. Танк);

*Нястомны камунар, змаганню гімн спявай, на варце пільнай будзь* (Я. Журба); *Дняпро і Сож, Дзвіна і Прыпяць, нясіце радасць нашу ўдаль...* (М. Чарот); *Вей, вецер, хвойным водарам* (П. Панчанка);

дзеясловы ўмоўнага ладу: *Я хацеў бы, каб мірна і весела ў добрай працы прайшлі іх гады, самай мірнай жадаў бы прафесіі ім, маім сябрам маладым* (П. Панчанка); *Я злавіў бы яго, млынара, за руку, я яму паказаў бы, чым мелюць муку* (А. Куляшоў);

аналітычныя дзеяслоўныя формы: *Доўга будзе памятаць наша зямля варожую ліхую навалу* (К. Кірэенка); *Хай дровы ярчэй разгарацца. Хай добрыя рукі сяброў, грубыя ад сцюжы і працы, да полымя цягнуцца зноў* (А. Куляшоў); *Хай змываюць хмары чыстымі дажджамі след вайны нядаўняй, што прайшла лясамі, хай жа тое сонца, што ўстае з усходу, дасць зацвіўшым кветкам ясную пагоду* (М. Калачынскі);

фразеалагічныя спалучэнні з дзеясловам у якасці галоўнага слова: *Хлопец даўно з яе вока не зводзіў* (М. Лужанін); *Ды, зрэшты, перад кім ён выварочваў сваю душу?* (К. Чорны); *Спыніўся на парозе, на хату кінуў востры зрок* (Я. Колас); *Усё да сэрца браў я блізка...* (П. Броўка); *Пры дарозе б'е нізкі паклон кучаравы лянок валакністы* (М. Хведаровіч); *Маладыя вунь сасонкі цешаць вока ростам гонкім* (Я. Пушча).

Немарфалагізаваныя выказнікі выражаюцца:

дзеяслоўнымі выклічнікамі: *Мікола ўзяў за руку сына і сказаў: «Сынок, хадзем дахаты. І маўчы, нікому нічога ані шэп...»* (Я. Колас); *І раптам — бліська у лесе агеньчык* (Я. Колас); *Вяртлявая сінічка пырх — і няма яе* (М. Лынькоў);

гукапераймальнымі словамі: *Бурбалкі са дна возера — буль-буль-буль* (Я. Брыль); *Ляжыць Жук навязаны, маўчыць, маўчыць, потым — воў, воў, воў...* (Я. Брыль);

інфінітывам са значэннем энергічнага пачатку дзеяння: *Душа ў напружаным хваляванні, Алеся — бегчы* (П. Трус); *Прагаияты ўцякаць* (У. Караткевіч); *Я за імі цікаваць, а потым калі трахнуў* (З. Бядуля);

дзеясловам *ёсць* пры дзейніку ў множным ліку: *Люба адчула, што яна не адзінокая, што каля яе ёсць свае, родныя людзі* (І. Шамякін);

дзеясловамі загаднага ладу са значэннем неабходнасці, пажадання, умовы, нечаканасці: *Пішуць гэтых вершаў цэлыя стагі, а я — выдавай* (М. Лужанін); *А цесната — ні стаць, ні сесці: тырчы, як пень, на адным месцы* (Я. Колас); *Вось! За цябе толькі і бойся. Ледзь сышоў з вачэй, то і трывожся* (І. Мележ).

### *Ускладнены дзеяслоўны выказнік*

§ 144. Асаблівасці такога выказніка заключаюцца ў тым, што значэнне, якое ім выражаецца, суправаджаецца самымі рознымі дадатковымі мадальнымі і экспрэсіўнымі адценнямі. Для перадачы такіх адценняў выкарыстоўваюцца разнастайныя паўтарэнні дзеяслоўных форм ці далучэнне да дзеяслова іншых слоў (часцей за ўсё часціц): *А маці недзе чакае не дачакаецца* (І. Шамякін); *А трактар гудзе і гудзе* (Я. Брыль); *Жыў-быў вожык у лесе, а потым узяў ды памёр* (Я. Брыль); *Лятуць ды лятуць кволыя сняжынкі* (З. Бядуля); *Скрыпіць-паскрыпвае за акном стары вяз* (П. Галавач); *Дні нястомнай хадою бягуць і бягуць* (Я. Колас); *Лес гудзе-ракоча цёмнай шапкай верхавін* (Я. Колас); *Жоўта-чырвонае лісце па-*

*д а е, п а д а е з дрэў* (М. Машара); *Ад соцень гулкіх вуліц калоны дэманстрантаў п л ы л і, п л ы л і, п л ы л і...* (П. Броўка); *Б а я ц ц а я н е б а ю с я, няхай падпальшчыкі знаюць, нябёсам маёй Беларусі дарэмна яны пагражаюць* (А. Куляшоў).

Ускладняючыя элементы ўносяць дадатковыя адценні ў граматычнае і рэчыўнае значэнні выказніка, не закранаючы яго структуры. Яны паказваюць адносіны таго, хто гаворыць, да зместу сказа, г. зн. перадаюць суб'ектыўную мадальнасць сказа.

### *Састаўны дзеяслоўны выказнік*

§ 145. Састаўны дзеяслоўны выказнік выражаецца спалучэннем дапаможнага дзеяслова ў асабовай форме і прымыкаючага інфінітыва. У інфінітыве заключана асноўнае лексічнае значэнне выказніка, а дапаможны дзеяслоў выконвае граматычную функцыю, указваючы на час, лад, асобу, род ці лік выказніка.

Дапаможнымі могуць быць:

дзеясловы, якія абазначаюць пачатак, працяг ці канец дзеяння,— так званыя фазавыя дзеясловы. У спалучэнні з фазавымі дзеясловамі інфінітыў выкарыстоўваецца толькі ў форме незакончанага трывання: *Чырвань зары п а ч а л а н а б і р а ц ц а блакіту і блекнуць* (Я. Брыль); *Настаўнік устае і паволі п а ч ы н а е п р а х а д ж в а ц ц а паміж роўных радоў парт* (А. Васілевіч); *Алёшка зноў п а ч а ў а д ч у в а ц ь млявасць і стому* (А. Якімовіч); *Неба на ўсходзе п а ч а л о с в я т л е ц ь* (М. Лынькоў); *Язык полымя п а ч а ў р а з р а с т а ц ц а, н а б і р а ц ь паўкруглую форму* (Я. Брыль); *Чапцоў і капітан з б і р а л і с я р а з в і т а ц ц а* (І. Мележ); *Музыка на вуліцы сціхла, і Ганне с т а ў ч у в а ц ь гоман многіх галасоў* (І. Мележ); *Мірон Іванавіч а с т а ў с я н а ч а в а ц ь у Заслонава* (М. Лынькоў); *Серадзібор п а ч ы н а е р а с ц і, п а ч ы н а е ш у м е ц ь...* (П. Пестрак);

дзеясловы мадальнага значэння, якія выражаюць магчымасць ці немагчымасць, неабходнасць і інш.: *Лабановічу рэдка калі т р а п л я л а с я б а ч ы ц ь такое мноства баравікоў на зусім невялікай лапінцы* (Я. Колас); *Іншы раз вочы яе м а г л і, як і раней, б л і с н у ц ь вясёласцю* (І. Мележ); *Нашу працу і нашых сяброў мы ў м е л і л ю б і ц ь* (Я. Дудар);

дзеясловы са значэннем волевыяўлення, якія выражаюць жаданне ці нежаданне, імкненне, старанне, рашэнне, спробу і пад.: *Палкоўнік в ы р а ш ы ў п а г а в а р ы ц ь са сваімі памочнікамі* (П. Кавалёў); *Дарэмна с т а р а л і с я ворагі зноў п а р у ш ы ц ь спакой нашых меж-рубяжоў* (М. Танк); *Хлопец х а ц е ў п р а ц а в а ц ь на заводзе і адначасова в у ч ы ц ц а ў вячэрняй школе* (Звязда, 1985); *Ён і м к н у ў с я з д а г а д а ц ц а, навошта яго сюды паслалі* (А. Кулакоўскі);

дзеясловы, якія выражаюць мысліцельныя працэсы і ўнутраныя перажыванні (*думаць, спадзявацца, любіць, ненавідзець* і пад.): *У гэты ранні час Арцём заўсёды л ю б і ў г л я д з е ц ь на далёкія горы* (Э. Самуйлёнак); *Я к ён м а р ы ў п р ы в е з ц і ў палі Беларусі хоць бы частку таго, чым квітнеў Ленінград* (П. Броўка); *Л ю б л ю г л я д з е ц ь, калі бялеюць іскрыста-чыстыя снягі* (А. Бялевіч).

Дапаможныя дзеясловы ў асабовай форме ў састаўных выказніках маюць аслабленае лексічнае значэнне і без інфінітыва не ўжываюцца. Іх трэба адрозніваць ад дзеясловаў, якія абазначаюць самастойнае дзеянне. У апошнім выпадку прымыкаючы да іх інфінітыў не ўваходзіць у састаў выказніка, а з'яўляецца самастойным членам сказа — дапаўненнем ці акалічнасцю: *Ён п а п р а с і ў госця пасадзіць на памяць дрэўца*

(А. Куляшоў); *Той прыехаў павучыцца, як заводы мы будуем. Той прыехаў павучыцца, як мы новы дзень плануем* (П. Броўка); *Вясной з'явілася іх сем свет новы будаваць* (Я. Купала); *І здаецца зноўку — еду я дадому пераведаць родных, блізкіх, дарагіх* (П. Трус).

Сінтаксічная функцыя інфінітыва ў спалучэнні з асабовай формай дзеяслова праяўляецца не заўсёды выразна. Асабліва сцёрты граніцы паміж інфінітывам — часткай выказніка і інфінітывам — дапаўненнем у спалучэнні з асабовымі формамі дзеясловаў са значэннем волевыяўлення, мысліцельных працэсаў і ўнутраных перажыванняў.

Варта памятаць, што дзеясловы *загадаць, забараніць, прасіць, параіць* і падобныя звычайна спалучаюцца з аб'ектным інфінітывам (*загадаў прынесці, забараніў сустракацца, прасіла перадаць, параілі паляпыцца*).

### Складаны дзеяслоўны выказнік

§ 146. Складаны дзеяслоўны выказнік выражаецца:

спалучэннем спрагальнага дзеяслова і двух інфінітываў: *Начаваць ён мейся пайсці да Андрэя* (М. Зарэцкі); *Сымон сабраўся ісці секчы дровы ў бярэзнік* (З. Бядуля); *Лабановіч вырашыў неадкладна пастарацца пабачыць Ядвісю і пагаварыць з ёю* (Я. Колас); *Стась намерваўся ісці вучыцца ў дзесяцігодку* (Т. Хадкевіч); *Я хацеў навучыцца іграць на скрыпцы* (Я. Колас); *Ён не спозніцца прыехаць паказаць нам кладку сцен* (Я. Брыль);

спалучэннем прыметнікаў *рад, гатовы, павінен, схільны* і падобных ці назоўніка *майстар, любіцель* і падобных, інфінітыва і звязкі, у тым ліку і нулявой: *Паклонам першым і паклонам сотым, п'янеючы без хмелю пакрысе, я кланяцца гатоў пчаліным сотам, мядовай іх спакуслівай красе* (П. Макаль); *Рады мы сягоння вас павіншаваць, добраю часінай вяселле пачаць* (А. Русак); *Хлопчык з нямецкай блакады быў вырвацца рады* (А. Куляшоў); *Ён прыйшоў на Случчыну і гатовы быў цалаваць зямлю, якой так доўга цураўся* (А. Чарнышэвіч); *І майстар быў дзяцюк есці гэтыя абаранкі* (З. Бядуля); *Лазіць па дрэвах я быў мастак* (А. Якімовіч); *Майстрам стаў вялікім туркаць языком, пугачом кугыкаць, скавытаць ваўком* (З. Бядуля).

## СПОСАБЫ ВЫРАЖЭННЯ ІМЕННАГА ВЫКАЗНІКА

### Састаўны іменны выказнік

§ 147. Састаўны іменны выказнік складаецца са звязкі і прызвязачнага члена. Звязка выражае граматычнае значэнне (час, асобу, лад) і злучае выказнік з дзейнікам. Прызвязачны член перадае лексічнае значэнне выказніка.

У іменным выказніку ўжываюцца звязкі трох тыпаў: адцягненыя, паўадцягненыя і рэчыўныя.

Адцягненыя звязкі поўнасцю страцілі лексічнае значэнне. У якасці іх звычайна ўжываюцца асабовыя формы дзеяслова *быць*. Паўадцягненыя звязкі страцілі лексічнае значэнне толькі часткова. Ролю іх выконваюць дзеясловы *з'яўляцца, рабіцца, стаць, станавіцца, бываць, называцца* і пад. Рэчыўныя звязкі поўнасцю захавалі лексічнае значэнне. Гэтымі

звязкамі бываюць дзеясловы руху ці стану (*ісці, вяртацца, сядзець, ляжаць* і пад.).

Прызвязачны член выражаецца рознымі часцінамі мовы: назоўнікам, прыметнікам, дзеепрыметнікам, займеннікам, лічэбнікам, прыслоўем, выклічнікам: *Пасля дажджу лес зрабіўся панурым, непрытульным* (М. Лынькоў); *Вада ў рэчцы была чыстая і халодная* (І. Новікаў); *Нарачанская група азёр — самая вялікая і самая вядомая на Беларусі* (В. Вольскі); *Шум залацістай дубровы стаў родным для партызан* (Р. Няхай); *Вучыцца ў народа — задача кожнага пісьменніка* (К. Чорны); *Рыбак быў дзядзька наш Антоні, як і работнік, адмысловы* (Я. Колас); *Пасцябунчык стаяў ні жывы ні мёртвы* (М. Лынькоў); *Людовік іш оў пануры і ўстрывожаны* (А. Куляшоў); *Камуністы першымі ідуць заўжды* (У. Дубоўка); *З вечара было зорна* (К. Чорны).

Пры нулявой звязцы (г. зн. пры той, якая матэрыяльна не выражана, адсутнічае) звычайна ўжываецца назоўны склон назоўніка: *Вясна — час работы, а не гутарак* (І. Шамякін); *Аксён Каль — селянін з Высокага* (Я. Колас); *Міхась — брыгадзір, а Сяргей — камбайнер* (М. Хведаровіч).

Назоўнік з аслабленым лексічным значэннем выконвае функцыю прызвязачнага члена разам з азначэннем (дапасаваным ці недапасаваным), якое да яго адносіцца: *Мудрая рэч — праца сярод людзей і для людзей* (П. Пестрак); *Белавежская пушча — наша гордасць* (В. Вольскі); *Турбота народа — турбота мая, а доля мая — доля краю* (А. Бялевіч); *Дружнасць — першы крок свабоды, згода — сіла грамады* (Я. Колас).

У сказе, дзе абодва галоўныя члены выражаны назоўнікам у назоўным склоне, выказнік звычайна знаходзіцца ў постпазіцыі: *Мінск — сталіца БССР.* Аднак пры інверсіі ён аказваецца ў прэпазіцыі: *Сталіца БССР — Мінск.*

Пры вызначэнні сінтаксічных функцый назоўнікаў у назоўным склоне неабходна ўлічваць рад момантаў:

лексічнае значэнне назоўнікаў: выказнік звычайна абазначае больш шырокае паняцце, а дзейнік — больш вузкае ці індывідуальнае (*Зямля — планета; Васільеў — урач*); у тых выпадках, калі выказнік абазначае больш вузкае паняцце, ён выдзяляецца па агульнаму сэнсу сказа і па інтанацыі (*Гэты чалавек — мой сябар*);

адносіны азначаючага да азначаемага (*Праца — наша багацце*);

магчымасць замены назоўнага склону творным (*сталіцай БССР з'яўляецца Мінск*);

магчымасць пастаноўкі перад выказнікам часціц *гэта, вось, таксама* ці параўнальных злучнікаў *як, быццам, усё роўна як* і пад.: *Камуністы — гэта перш за ўсё інтэрнацыяналісты* (М. Гамолка); *Вершы паэта — гэта яго біяграфія* (А. Валюгін); *Мір — гэта і праца, і шчасце, і радасць* (М. Гамолка); *Стракозы быццам верталёцікі: ім кожны ліст — аэрадром* (П. Панчанка); *Жыццё маё, ты — як цягнік бясконцы* (П. Панчанка).

Звязка *ёсць* і злучнік *як* абавязковыя, калі дзейнік і выказнік выражаны адным і тым жа назоўнікам: *Школа ёсць школа, а вучэнне ёсць вучэнне* (А. Васілевіч);

інтанацыю: *Мы — песняры працоўнай эры* (М. Машара); *Стаць высокакваліфікаваным спецыялістам — абавязак кожнага студэнта* (Звязда, 1985).

§ 148. Складаны іменны выказнік складаецца з трох і больш кампанентаў:

спрагальнага дзеяслова са значэннем пачатку, працягу ці канца дзеяння, інфінітыва і іменнага прызвязачнага члена: *Узнімаўся вецер, змрок пачаў рабіцца яснейшы* (К. Чорны); *Я пазіраю на колішнюю Алену, і яна ўсё больш пачынала здавацца мне інакшай, не той* (М. Лупсякоў); *І ён першы стаў памагаць такелажнікам* (У. Карпаў); *Першым пачаў гаварыць дырэктар* (П. Пестрак);

спрагальнага дзеяслова з мадальным значэннем, інфінітыва і іменнага прызвязачнага члена: *Я хачу быць такім, як тата* (І. Мележ); *Я старшынёй быць не думаю* (І. Шамякін); *Прыгавор, як гнеў людзей, агністы ад імя усіх зямных краін тым, хто сее здраду і паклёпы, тым, хто стаўку ставіць на уран, тым, хто зрабаваную Еўропу хоча бачыць мёртваю ад ран* (П. Панчанка);

кароткага прыметніка, інфінітыва і прызвязачнага члена: *Салдацкія простыя боты павінны быць моцнай работы* (П. Глебка); *Кожны быць павінен спецам дзён вялікае будоўлі* (П. Глебка); *Я ж казаў, што гатоў стаць памочнікам у Юзіка* (А. Якімовіч); *Дружба павінна быць вялікай і вечнай* (К. Чорны).

Пры наяўнасці звязкі складаны іменны выказнік становіцца чатырохчленным: *Маюцца толькі тыя, каму гэтая справа павінна была б стаць блізкай* (У. Караткевіч); *І таму ў ім усё павінна было быць незвычайным і грандыёзным: плошча, вуліцы, дамы* (У. Карпаў).

# ДАДАНЫЯ ЧЛЕНЫ СКАЗА

§ 149. Дадатнымі членамі сказа называюцца члены сказа, якія знаходзяцца ў падпарадкавальнай сувязі з галоўнымі членамі сказа ці паміж сабой і служаць для іх паяснення, удакладнення, дапаўнення. Даданымі членамі сказа з'яўляюцца: азначэнне (яго разнавіднасць — прыдатак), дапаўненне і акалічнасць.

## АЗНАЧЭННЕ

§ 150. Азначэннем называецца даданы член сказа, які адносіцца да слова з прадметным значэннем і характарызуе прадмет, названы гэтым словам, з боку яго якасці, прыметы ці ўласцівасці: *Мне жывою крыніцаю хочацца ўліцца ў імклівы паход* (А. Бялевіч); *На пуховы белы снег ночка крылы звесіла* (М. Васілёк); *А хвоі, елкі векавыя пад зыкі песень маладыя маўчком стаялі ў нейкім думе* (Я. Колас); *І заціхла ў полі на шырокім прыволлі праца дружных вясёлых брыгад* (А. Русак); *Песняй вясны лебядзінаю, скінуўшы зімнія чары, Шэпчуцца явар з калінаю ў сумнай даліне над ярам* (Я. Купала); *Абмытая ветрам,*

*начною расою, павевам ружовай зары, ты* [Беларусь], *гордая юнай і свежай красою, завеш працаваць і тварыць* (А. Звонак).

Па характару сінтаксічнай сувязі азначэння з азначаемым словам усе азначэнні дзеляцца на дапасаваныя і недапасаваныя.

### *Дапасаванае азначэнне*

§ 151. Дапасаваныя азначэнні выражаюцца тымі часцінамі мовы, якія здольны дапасоўвацца да азначаемага слова ў ліку і склоне, а ў адзіночным ліку — і ў родзе. Дапасаваныя азначэнні выражаюцца прыметнікамі [1], дзеепрыметнікамі, займеннікамі-прыметнікамі, парадкавымі лічэбнікамі, а таксама колькаснымі лічэбнікамі ва ўскосных склонах: *Расчасалі вішні шоўкавыя косы* (П. Трус); *Я люблю легенд дасціпны сказ і народ свой кемлівы і здольны* (Я. Пушча); *Белым снегам замятае вецер чорныя палі* (Я. Колас); *Золак пунсовы заліў небакрай, ранне страчае абноўлены край* (А. Звонак); *Пад ясна-сіняю страхою чыеюсь дбалаю рукою збудован мне прасторны дом* (Я. Колас).

Значэнне дапасаванага азначэння як дастанага члена сказа вызначаецца лексічным значэннем слова, якім яно выражана. Азначэнні, выражаныя якаснымі прыметнікамі, абазначаюць разнастайныя прыметы прадмета, асобы ці з'явы: *Па блакітным небе павольна плывуць над Мінскам белыя воблачкі* (В. Вольскі); *Да нас з-за зялёных бароў ужо чэрвень пахучы прыйшоў* (П. Броўка); *На траве крыштальна чыстай мой застаўся цёмны след* (М. Хведаровіч); *О, як бы нам хацелася здабыць навекі мір для роднае краіны* (П. Панчанка); *На ўзлесках цвіў лілова-сіні сон і аддаваў мне ўсю сваю пяшчоту* (Н. Мацяш).

Азначэнні, выражаныя адноснымі прыметнікамі, абазначаюць разнастайныя прыметы прадмета, асобы ці з'явы не непасрэдна, а праз адносіны да іншых прадметаў, а таксама да месца, часу (у адпаведнасці з лексічным значэннем прыметніка): *Мы глыбокаю ноччу зімовай і засушлівым ліпеньскім днём ратаваць чалавека гатовы, рызыкуючы ўласным жыццём* (Э. Агняцвет); *За стагамі сейм бусліны збіраецца восеньскай раніцай* (А. Бачыла); *На заводскай агароджы серабрыўся зубр* (І. Гурскі); *Тут пад гамонку хваль дняпроўскіх раслі за волю змагары* (П. Броўка).

Азначэнні, выражаныя прыналежнымі прыметнікамі, абазначаюць прыналежнасць пэўнага прадмета канкрэтнай асобе: *Алесевы бацькі хацелі вучыць хлопца на настаўніка ці доктара, але яго ўзялі па прызыву ў армію* (Р. Сабаленка); *Мікітава хата стаяла на ўзлеску* (К. Чорны); *Васілёва жаданне пайсці працаваць старшынёй адсталага калгаса спадабалася райкому* (І. Шамякін); *Спевы бацькавы і матчыны нам засталіся ў спадчыну* (Я. Пушча).

Значэнне прыналежнасці выражаецца таксама прыналежнымі займеннікамі: *Не пакідай мяне, трывога, будзь спадарожнікам маім* (А. Пысін); *Салавей пяе ў маёй дуброве, растрывожыў песняю душу* (П. Панчанка); *Мой край юбілей адзначае і славіць здабыткі свае* (А. Астрэйка); *Перад намі ў сонцы, у зорах будучыня наша* (Я. Купала).

Азначэнні, выражаныя ўказальнымі займеннікамі, указваюць на канкрэтнасць азначаемага прадмета, з'явы ці асобы: *Той дзень пра-*

[1] Азначэннем нельга лічыць прыметнікі, якія ўваходзяць у састаў устойлівых іменных спалучэнняў: *Новы год, Чорнае мора, белы грыб* і пад.

*паў і страчаны навекі, калі ты не зрабіў таго, што мог* (П. Панчанка); *Далёка за далінай снегавымі разводамі сіней усё т о й жа высачэзны Мядзведжы хрыбет* (В. Быкаў); *Лабановічу стала шкада г э т а г а няскладнага, сарамлівага і, відаць, здольнага хлопца* (Я. Колас); *Т а к і х людзей гісторыя назвала народнымі мсціўцамі, а нашу ціхую Беларусь — краінай класічнай партызанскай вайны* (Я. Брыль).

Азначэнні, выражаныя няпэўнымі займеннікамі, указваюць на няпэўнасць прадмета ў адносінах якасці, уласцівасці, прыналежнасці і г. д.: *Ч ы й с ь ц і голас пачуўся на вуліцы* (Ц. Гартны); *Не дзіва было, што і яшчэ адзін н е ч ы сын назваў яе святым для ўсіх і ўсюды словам* (Я. Брыль); *Магутны, мяккі, як гэтая ноч, тэнар пачаў з н е й к і х асабліва патаемных, глыбокіх тонаў* (У. Караткевіч); *На гэтай палянцы, запаўвярсты ад дарогі, раскінулася ч ы я с ь пасада* (Я. Колас).

Азначэнні, выражаныя азначальнымі і адмоўнымі займеннікамі, абазначаюць выдзяляльна-ўзмацняльныя прыметы: *У с я станцыя была забіта вагонамі і цягнікамі* (Я. Колас); *У в е с ь лес звінеў ад птушыных галасоў* (Я. Маўр); *К о ж н ы новы дзень прыносіў у пасёлак якія-небудзь навіны* (І. Навуменка); *К о ж н ы бацька ўсё лепшае бачыць толькі ў сваіх дзецях* (С. Баранавых); *І расце, і расце, і шырэй, і шырэй узрастае камунараў сцяна, што сабой прыкрывае народы, не зламалі яе а н і я к і я буры, нягоды* (П. Броўка).

Азначэнні, выражаныя парадкавымі лічэбнікамі, абазначаюць парадак прадметаў ці з'яў пры лічэнні: *П е р ш ы я замаразкі ўбіралі інеем астуджаную зямлю* (М. Лынькоў); *Каля Оршы век ракетны п е р ш ы м залпам прагрымеў* (П. Броўка); *Праходзяць эпохі,— змагаемся мы, д з е с я т ы падмурак заклалі* (П. Трус); *Настала ч а ц в ё р т а я ноч* (Я. Колас); *Над маёй галавой т р ы н а ц ц а т ы раз вішні цвет асыпаюць* (М. Танк).

Азначэнне, выражанае колькасным лічэбнікам, абазначае колькасць прадметаў: *Падводы ехалі з розных вёсак па а б о д в у х баках рэчкі* (П. Пестрак); *Увага т р о х прыяцеляў спынілася на незнаёмых падарожных* (Я. Колас).

Азначэнні, выражаныя дзеепрыметнікамі, абазначаюць прымету, якая з'яўляецца вынікам пэўнага дзеяння: *Пахла зямля, багата а к р о п л е н а я расою* (Я. Колас); *А пры сцяжыне — сімвалам вечнага абнаўлення — стаяла юнае, нікім не к р а н у т а е дрэўца* (Я. Брыль); *Напэўна нашым песням лёс падараваў вітальную, сваю няўрымслівую сілу, н а с т о е н у ю на цяністым шуме траў, на водары малін, крушын і жывасілу* (М. Танк).

Азначэнні, выражаныя прыметнікамі, займеннікамі, дзеепрыметнікамі і парадкавымі лічэбнікамі, дапасуюцца да азначаемых слоў у родзе, ліку і склоне. Азначэнні, выражаныя колькаснымі лічэбнікамі, дапасуюцца да азначаемых слоў толькі ў склоне.

### Недапасаванае азначэнне

§ 152. Н е д а п а с а в а н ы я азначэнні ў адрозненне ад дапасаваных звязваюцца з азначаемым словам по спосабу кіравання (*галінка бэзу, верш Купалы*) ці прымыкання (*рашэнне выехаць, суп па-магілёўску*). Яны могуць быць выражаны:

назоўнікамі без прыназоўнікаў (у родным і творным склонах) і з прыназоўнікамі (ва ўсіх ускосных склонах): *І колькі год званіцы с о с е н званілі роднай старане* (В. Вярба); *Над брацкімі магіламі герояў А й ч ы н н а й в а й н ы маладыя бярозы, клёны і сасонкі калышуць*

*вясну нашай* *п е р а м о г і* *над лютым ворагам* (А. Бялевіч); *Жняя загончык жала* *з д о л ю* *ш ы р ы н ё ю* (М. Васілёк); *Шлях* *д а* *п а р т ы* *а д* *к а л ы с к і* *доўгі, як ні гавары* (Е. Лось); *М е с я ц а* *прамені леглі ля стала* (М. Хведаровіч); *З выглядам* *м а л о й ц а* *новы, вольны сейбіт братаецца* *з сонцам* (Я. Купала); *На плошчы* *Г е р о я ў* *у зарыве яблынь пад сонца ўзнялася Даватара шабля* (П. Панчанка);

асабовым займеннікам у родным склоне (у прыналежным значэнні): *Гаспадар глядзеў на хлопца, і было відно, як дабрэў* *я г о* *твар* (Р. Сабаленка); *Эх, яшчэ не звоняць* *я г о* *пералівы сярод нашых гоней, на шырокіх нівах* (М. Танк); *Лісты* *і х* *пра паходы штурмавыя спакойна не давалі нам заснуць* (П. Панчанка); *З вачэй* *я е* *струменіліся хвалі глыбокай і празрыстай сінявы* (П. Панчанка); *Па дарозе* *яму сустрэлася* *Надзька, сяброўка* *я г о* *сястры Веры* (Я. Скрыган); *Яна заявіла, што дзяўчаты* *я е* *звяна вырашылі ў гэтым годзе адмовіцца ад надбаўкі* (А. Кулакоўскі); *Недаверлівасць і суровасць* *я е* *твару прападалі* (Я. Колас).

прыслоўем: *На вуліцы тарахцелі калёсы, даносіліся паасобныя крыкі* *п а - п о л ь с к у* (П. Пестрак); *І смерць прыйшла непатрэбная, смерць* *з н я н а ц к у,* *сабачая смерць нявольніка* (Э. Самуйлёнак);

інфінітывам: *Прыйшла пара* *п а ч ы н а ц ь* *жніво* (К. Чорны); *Жаданне* *п р а й с ц і с я* *па незнаёмых мясцінах апанавала маладога настаўніка* (Я. Колас);

сінтаксічна непадзельнымі словазлучэннямі: *Праз дзень з'явіўся новы начальнік і з ім атрад* *у* *д в а ц ц а ц ь* *ч а л а в е к* (Я. Маўр); *Квадрацік зямлі* *н а* *ш э с ц ь* *а р ш ы н* *у хаце быў усёй Фросінай зямельнай гаспадаркай* (З. Бядуля).

У ролі азначэння, выражанага сінтаксічна непадзельнымі словазлучэннямі, часцей за ўсё выступаюць:

спалучэнні назоўніка ў родным склоне з дапасаваным да яго колькасным лічэбнікам: *У хату ўбег хлопчык* *г а д о ў* *с я м і* (А. Чарнышэвіч); *Конны атрад* *з* *т р ы ц ц а ц і* *ч а л а в е к* *рыссю імчаўся па лясным шляху* (П. Пестрак);

спалучэнні назоўніка з прыметнікам у творным склоне: *Селянін без шапкі з* *у с к у д л а ч а н ы м і* *в а л а с а м і* *віхрам імчаўся на шпаркім кані* (Я. Колас); *Невялічкі дом* *з* *в ы с о к і м* *к о м і н а м* *быў блізкі Алесю* (П. Броўка); *Чалавек* *з* *с і в ы м і* *с к р о н я м і* *паказаўся на двары* (У. Краўчанка); *На ўзгорку зелянелі прысадзістыя яліны* *з* *з у б ч а с т ы м і* *в е р ш а л і н а м і* (І. Гурскі), а таксама словазлучэнні, якія складаюцца з прыметніка і назоўніка ў родным склоне, у якіх прыметнік нельга аддзяліць, паколькі іменна ён выражае размежавальную прымету: *У зялёных галінках дрэў весела шчабяталі* *птушкі* *н е з в ы ч а й н а г а* *х а р а с т в а* (Я. Колас); *У калгасе былі плугі* *н а в е й ш а й* *с і с т э м ы* (Я. Колас).

Радзей сустракаюцца азначэнні, выражаныя сінтаксічна непадзельнымі словазлучэннямі іншых тыпаў: *Дуб таўшчынёю* *ў* *д в а* *а б х в а т ы* *стаяў пры ўездзе ў сяло* (Я. Маўр); *Пячора была досыць вялікая:* *м е т р ы* *т р ы* *н а* *т р ы* *і* *вышынёю* *к а л я* *д в у х* *м е т р а ў* (У. Караткевіч); *Адзін за адным выраслі* *буйнапанельныя і буйнаблочныя дамы* *н а* *ч а т ы р ы* *і* *п я ц ь* *п а в е р х а ў* (С. Грахоўскі).

Недапасаваныя азначэнні, выражаныя назоўнікам у родным склоне, могуць абазначаць:

прыналежнасць: *Домік* *А ў г і н і* *Тычынінай* *стаяў непадалёк ад Гарадоцкай шашы* (І. Новікаў); *Нават* *адсюль відно было,* *як хадзілі рукі* *м у л я р о ў* (К. Чорны); *Лепей на зямлі* *б а ц ь к о ў* *канаць, чым раскашавацца на чужыне* (Р. Барадулін);

адносіны да калектыву, установы: *Ён інфармаваў сакратара р а й к о м а аб працы праўлення к а л г а с а* (П. Пестрак); *Малады ўрач земскай б а л ь н і ц ы дружыў з маладым інжынерам вялікага металургічнага з а в о д а* (Э. Самуйлёнак);

суб'ект дзеяння: *Ужо заціхлі за ракой ж н я я р а к галасы* (А. Русак); *Спевы п т у ш а к напоўнілі гай* (М. Паслядовіч); *А як раніца настане, блікі с о н ц а загуляюць* (Я. Купала);

носьбіта прыметы: *Залатая чырвань л і с т о ў нерухліва звісае на купчастых галінах высокіх вязаў* (Я. Колас); *Згінуў холад н о ч ы мглістай, песні працы на сяле* (М. Хведаровіч);

адносіны цэлага да часткі, якая абазначана азначаемым словам: *Сонечныя праменні пазалацілі шырокую макаўку д у б а* (І. Новікаў); *Ад хуткай хады Аляксандр расчырванеўся і расшпіліў каўнер ш ы н я л я* (С. Грахоўскі).

Недапасаваныя азначэнні, выражаныя назоўнікам у творным склоне без прыназоўніка, абазначаюць прымету, якая вызначаецца шляхам параўнання з прадметам, названым азначаемым словам: *Вострая бародка сінім т р ы к у т н і к а м наперад нібы працярэблівае сабе дарогу ў паветры* (З. Бядуля); *Нос г а р б і н к а й і касмылістыя бровы надавалі суровы выгляд яго твару* (М. Лынькоў); *Гляджу на поле я, на дол, на нівы доўгія ш н у р а м і, што скрозь ляжаць перад вачамі* (Ц. Гартны).

Недапасаваныя азначэнні, выражаныя назоўнікамі ва ўскосных склонах з прыназоўнікамі, таксама абазначаюць разнастайныя прыметы:

па матэрыялу: *За тонкай перагародкай з ф а н е р ы стукалі пішучыя машынкі* (З. Бядуля); *Малойцы Сцяпана адпачываюць на пасцелях з і м х у і с е н а* (П. Пестрак);

па наяўнасці ў прадмета знешняга адрознення: *Мы слаўны герб з с я р п о м і м о л а т а м у заўтрае нясём* (А. Астрэйка); *У разоры, каля грады з ц ы б у л я ю, стаяў пусты кошык* (П. Галавач);

па прызначэнню прадмета: *Важнецкія выйшлі б спіцы д л я к о л а ў* (Я. Колас); *Перабраўся Цімох у зімоўку д л я п ч о л з пуні жыць* (А. Куляшоў);

назоўнікі ў давальным склоне з прыназоўнікам абазначаюць абмежавальныя прыметы, прасторавыя ці часавыя: *Па дарозе спыніліся каля спецыяльнага будыначку п а с у с е д с т в у з хлявамі* (Я. Колас); *З дзяцінства майго выплывае задзірысты танклявы хлапчына, сарвігалава, мой аднакласнік п а ш к о л е* (Я. Скрыган);

назоўнікі ў вінавальным склоне з прыназоўнікам абазначаюць прымету па знешняму выгляду: *Бывала, астануцца яны з маткаю, адчыняць куфар і пачнуць пераглядаць цікавыя рэчы: пярсцёнкі, дарагія хусткі ў яркія, бліскучыя, як агонь, к в е т к і* (Я. Колас);

па напрамку ў прасторы: *Дзверы ў с е н ц ы былі адчынены* (У. Краўчанка); *Ёсць на Беларусі, за ракой Бярозай, ціхая хаціна з вокнамі ў с а д* (П. Глебка);

па часу: *Роўна палова н а п я т у ю* (Э. Самуйлёнак); *Амяльян і Гамыра стаіліся каля хлява пад застрэшшам і ціха абмяркоўваюць план работы н а гэтую н о ч* (Я. Колас);

назоўнікі ці сінтаксічна непадзельныя словазлучэнні ў месным склоне абазначаюць прымету паводле якой-небудзь дэталі, па прасторавых і часавых адносінах: *Да іх падышоў чалавек у шэрай памятай к е п ц ы* (П. Пестрак); *Гаі... І вёска п р ы г а с ц і н ц ы. Чаму пад гоман вербалоз яшчэ з гадоў свайго дзяцінства я пакахаў цябе да слёз?* (П. Трус); *Помню дзень у с е м н а ц ц а т ы м г о д з е, была восень тады, як і сёння* (П. Глебка). *Напэўна, у кожнага з іх пры гэтай песні ўзнікалі*

*прад вачыма свае родныя прасторы, свае дарогі ў вербах і тапо-лях, свае пясчаныя палі* (П. Пестрак); *Люблю народ наш беларускі, хаціны ў зелені садоў* (К. Буйла); *Адгэтуль адкрываецца прыгожы пейзаж: поле, рэчка ў кустах, недалёкі лес* (Э. Самуйлёнак).

Недапасаваныя азначэнні, выражаныя прыслоўем, могуць абазначаць прымету ў адносінах якасці, напрамку, часу, спосабу дзеяння: *Непадалёку пачулася гаворка па-нямецку* (М. Лынькоў); *У сваім магутным поступе наперад савецкі народ змёў з дарогі ўсіх ворагаў і пабудаваў сацыялізм* (Я. Колас); *Жыццё цяпер — бурлівы вір* (М. Чарот).

Недапасаваныя азначэнні, выражаныя інфінітывам, дапамагаюць раскрыць змест прадмета, часта абазначанага абстрактным назоўнікам: *Жаданне вучыцца заўсёды трэба вітаць* (Я. Колас); *Але жаданне пабачыць вас у мяне было такое моцнае, што я разуўся і ўброд пайшоў* (Я. Колас).

Атрыбутыўнае значэнне недапасаваных азначэнняў часта спалучаецца з адценнямі іншых значэнняў. Функцыянальная ўскладненасць асабліва характэрна для азначэнняў, выражаных прыназоўнікава-іменнымі спалучэннямі і прыслоўямі, што звязана з іх лексіка-марфалагічнай прыродай. Так, прыназоўнікава-іменныя спалучэнні ў азначальнай функцыі могуць ускладняцца акалічнаснымі значэннямі:

прасторавым: *І дзед не раз гаварыў пра зямлю пад Дубамі, пра паплавы на рэчцы* (Я. Колас); *Плошчай ад сада, ад снежнай алеі людзі цякуць да дзвярэй Маўзалея* (К. Буйла);

часавым: *Не забыла яно* [сэрца], *памятае дружбу Марыны з Цімохам са школьных часоў* (А. Куляшоў); *Пачуццё братняй блізасці да яе было амаль заўсёды загублена ў навале шматдзённых клопатаў і работы з раніцы да вечара* (К. Чорны).

Азначэнні, выражаныя прыслоўямі, могуць мець:

атрыбутыўна-прасторавае значэнне: *Гэтак ідзе тыдзень за тыднем, месяц за месяцам, год за годам, акуратна, як па загаду звышку* (З. Бядуля); *Па дарозе дадому Люба забегла на медпункт* (І. Шамякін);

атрыбутыўна-часавае: *У гэтага чалавека, здаецца, ужо былі гатовы рашэнні наперад* (П. Пестрак); *Цыпрук ідзе ў вёску шукаць прытулку на нач* (З. Бядуля).

У сучаснай беларускай мове, асабліва ў газетна-публіцыстычным стылі, расшыраецца ўжыванне ў якасці недапасаванага азначэння формы назоўнага склону. Такія свабодныя сінтаксічныя формы актыўна выкарыстоўваюцца ў мове газет: *касманаўт пяць, пост два, праблема «бацькі — дзеці», тэлеперадача «Месяц — Зямля»* і пад.

### *Прыдатак*

§ 153. Прыдатак — гэта азначэнне, выражанае назоўнікам, дапасаваным да азначаемага слова ў склоне: *У Белавежы-пушчы са шляху не збіцца: тут і сосны-мачты, і дубы-тубыльцы, і асілкі-грабы ў роздуме глыбокім, і плывуць над імі лёгкія аблокі. Між дзяўчат-бярозак чырванее ясень* (Я. Пушча); *У прасторах-палях, дзе жаўцеюць пяскі, ой, пяскі-курганы адзінокія, будуць вечна цвісці ружы-кветкі тады, будуць ветры шумець, ветры-сокалы* (П. Трус); *Кланялася жыта раніцы, прасторам, караблям-камбайнам, што прыйшлі ў пору* (А. Русак); *А ў даліне ў цішы чырвань-кветкі цвілі* (П. Трус).

Характарызуючы прадмет, прыдатак дае яму іншую назву. Прыдат-

кі могуць адносіцца да любога члена сказа, выражанага назоўнікам, асабовым займеннікам, субстантываваным прыметнікам і дзеепрыметнікам, а таксама лічэбнікам. Прыдаткі бываюць неадасобленыя і адасобленыя, могуць быць выражаны адным словам ці спалучэннем слоў, але ў любым выпадку прыдатак азначае прадмет ці асобу, удакладняе ці характарызуе іх у самых розных адносінах. Прыдатак можа:

заключаць у сабе якасную характарыстыку асобы ці прадмета: *Спіце спакойна ў магілах крывавых, спіце, а р л ы-камунары* (П. Трус); *І шумяць а г р а м а д з і н ы-крыгі, разганяюцца ўдаль безупынна* (П. Трус); *І плыве, плыве імкліва, светлы Нёман-ч а р а д з е й* (Я. Пушча); *Убачу хустку белую ў калоссі ля ракі, і щчокі загарэлыя, і вочы-в а с і л ь к і* (А. Русак);

указваць на род заняткаў, узрост, прафесію, нацыянальнасць асобы, на прыналежнасць яе да палітычнай арганізацыі і г. д.: *Аднойчы дзяўчаты-к а м с а м о л к і прынеслі першых вясновых кветак, белых, як снег, і сініх, як неба* (В. Каваль); *Добра было з чытачамі-с т у д э н т а м і ў адной з гарадскіх бібліятэк* (Я. Брыль); *Замурзаныя вапнай падлеткі-б у д а ў н і к і, якіх мы бачылі ўвесь тыдзень на рыштаваннях, смяюцца сёння, як дзеці* (Я. Брыль); *Перад парогам белай мазанкі мяне вітала, як роднага, старая, нямоглая маці-ў к р а і н к а* (Я. Брыль);

з'яўляцца геаграфічнай назвай: *Квітнее вёска Л а в ы над рэчкаю Т у р'ё й* (А. Русак); *Між магутных ствалоў высокіх дрэў зіхаціць сіняя гладзь возера С в і ц я з ь* (В. Вольскі).

Пры спалучэнні ўласнага назоўніка (назва асобы) і агульнага ў якасці прыдатка звычайна выступае агульны назоўнік: *Сядзіба-леснічоўка д з я д з ь к і Ігната стаіць пры лесе* (Т. Хадкевіч); *Д о к т а р Хведар Іванавіч Шабуня ішоў з работы* (А. Чарнышэвіч); *Калі развіднела, л е й т э н а н т Карпаў выстраіў дывізіён* (І. Шамякін); *Жыў на Палессі м у з ы к а н т Кулік* (М. Танк); *С т а р ш ы н я калгаса Васіль Кулікоў з б р ы г а д з і р а м Іванам і б р а т а м яго Пятром надумалі застрэліць мядзведзя-шкодніка* (А. Чарнышэвіч).

Аднак калі неабходна канкрэтызаваць асобу, у якасці прыдатка можа выступаць і ўласны назоўнік; такі прыдатак заўсёды стаіць за азначаемым словам: *Віктараў бацька, М і к і т а Б р а н а в е ц, працаваў старшынёй калгаса* (А. Кулакоўскі); *І вось на трэці дзень касьбы самы лепшы ў калгасе касец, А п а н а с, не выйшаў на работу* (Я. Брыль).

Заўсёды з'яўляюцца прыдаткамі і маюць форму назоўнага склону незалежна ад склонавай формы азначаемага слова геаграфічныя назвы, а таксама ўласныя назоўнікі, якія выступаюць у якасці ўмоўных назваў газет, часопісаў, навуковых артыкулаў, літаратурных твораў, арганізацый, прадпрыемстваў, устаноў і пад.: *Некалькі гадоў назад на берагах возера Д р ы с в я т ы вырасла гідраэлектрастанцыя «Д р у ж б а н а р о д а ў»* (В. Вольскі); *Далёка раўніна відна з вяршыні гары Б е з ы м я н н а й* (А. Астрэйка); *На ўмацаванне калгаса «П р а м е н ь» прыехаў з горада Якаў Уладзіміравіч Ярашэвіч* (І. Гурскі); *Сухія груды крута спускаюцца да глыбокай даліны рэчкі М і р а н к і* (Я. Колас); *Такі твор, як паэма «Н о в а я з я м л я», з'яўляецца сапраўднай жамчужынай у беларускай літаратуры* (Я. Колас); *На ўзгорку ...узвышаліся понурыя, чорныя карпусы цэхаў завода «Н е п т у н»* (Э. Самуйлёнак); *Зайгралі на баяне вальс «Н а с о п к а х М а н ь ч ж у р ы і»* (І. Гурскі).

Пры спалучэнні двух агульных назоўнікаў прыдатак можна вызначыць шляхам замены яго прыметнікам: *Зялёны гай смяецца пад блакітам, празрыстым поглядам вітае р а н ь-вясну* (П. Трус); *Ажывала зямля-п р ы г а ж у н я ад дрымотнага зімняга сну* (З. Бядуля). Спа-

лучэнні *рань-вясна, зямля-прыгажуня* можна замяніць субстантыўнымі словазлучэннямі, у якіх залежны кампанент па значэнню адпавядае прыдатку: *ранняя вясна, прыгожая зямля.*

Калі ж такая замена немагчыма, то сінтаксічная функцыя суседніх агульных назоўнікаў вызначаецца кантэкстам, лексічным значэннем абодвух слоў, парадкам слоў і г. д. Так, у сказе *Не цвіце трава-чабор* (Я. Купала) сінтаксічная функцыя назоўнікаў вызначаецца іх лексічным значэннем: прыдаткам з'яўляецца відавая назва — слова *чабор.*

Прыдатак можа далучацца да азначаемага слова пры дапамозе паясняльных злучнікаў *гэта значыць, ці, як* і інш.: *Назаўтра ўсе тры перагаворшчыкі, гэта значыць члены забастовачнага камітэта, былі арыштаваны* (П. Пестрак); *У беларускіх лясах гнездзіцца жаўна, або чорны дзяцел* (В. Вольскі); *Палешукі, галоўным чынам старыя жыхары, важна селі на лаўках* (Я. Колас); *Для партызан знайшоўся зручны выпадак ліквідаваць гэтых хапуноў ці проста грабежнікаў* (М. Лынькоў);

слоў *напрыклад, па прозвішчу* і пад.: *У невялікай вёсцы з прыгожаю назваю Лучайка жыў хлопчык па імені Гошка* (Е. Лось); *Каля воза стаяў Раман Чачотка, па мянушцы Свісток* (Я. Брыль); *Сядзелец, па фаміліі Кляп, выказваў усе адзнакі нецярплівасці такою маруднасцю пісара* (Я. Колас); *Пажылы мужчына, па прозвішчу Хмель, ехаў у млын* (Я. Колас); *Сабака, па клічцы Амур, упэўнена пайшоў па следу* (Звязда, 1984).

Спалучэнні прыдаткаў з азначаемым словам неабходна адрозніваць ад некаторых блізкіх па форме спалучэнняў, кампаненты якіх не звязаны атрыбутыўнымі адносінамі. Да іх адносяцца парныя спалучэнні сінанімічнага характару (*трава-мурава, род-племя, акіян-мора*), антанімічнага характару (*купля-продаж, экспарт-імпарт, прыход-расход*), асацыятыўнага характару (*хлеб-соль, каліна-маліна, грыбы-ягады*).

Не з'яўляюцца прыдаткамі (хоць знешне падобныя да іх) кампаненты некаторых тыпаў складаных слоў: а) складаных слоў, якія нагадваюць сабой тэрміны[1] (*хата-чытальня, музей-кватэра, раман-газета*); б) складаных слоў, састаўной часткай якіх з'яўляюцца ацэначныя словы (*гора-кіраўнік, жар-птушка, гром-баба*).

Не з'яўляюцца прыдаткамі імя і імя па бацьку ў поўных формулах іменавання асобы: *Уладзімір Ільіч Ленін, Іван Дамінікавіч Луцэвіч.*

## ДАПАЎНЕННЕ

§ 154. Дапаўненнем называецца даданы член сказа, які абазначае аб'ект дзеяння, стану ці прыметы. Дапаўненне адносіцца да дзеяслова, назоўніка, прыметніка, прыслоўя ці да слоў катэгорыі стану: *любіць Радзіму, вера ў перамогу, падобны на маці, непрыкметна для іншых, шкода брата.* Дапаўненні выражаюцца рознымі часцінамі мовы, найбольш часта назоўнікамі ва ўскосных склонах з прыназоўнікамі і без іх: *Гром для хмараў загады піша вогненным пяром* (К. Кірэенка); *Шчасце мы створым сваімі рукамі* (У. Дубоўка); *Мне кожны колас Прыдняпроўя жадае добрага здароўя наклонам русай галавы* (А. Пысін); *Нас ніхто скарыць не зможа!*

---

[1] У складаных словах-тэрмінах вядучай з'яўляецца тая частка, якая выражае больш шырокае паняцце ці канкрэтна абазначае прадмет; азначэнне і выказнік дапасуюцца да вядучага слова: *Канцэрт-загадка прайшоў з поспехам; Вялікая табліца-плакат вісела на сцяне.*

(П. Броўка); *Беларускі народ ганарыцца сваімі героямі* (Звязда, 1985); *Аб славе народнай гамоняць зарніцы* (П. Броўка); *Вясна пачала пераможны паход* (П. Панчанка).

Функцыю дапаўнення могуць выконваць займеннікі-назоўнікі, субстантывіраваныя прыметнікі і дзеепрыметнікі: *Пра яго гавораць толькі харошае* (М. Лынькоў); *Усім нам давялося да самага донца выпіць горкую паходную біклагу* (А. Вялюгін); *Я слаўлю слова! Ім спынялі на небе сонца, ім заўжды дзень пачыналі...* (М. Лужанін); *Нам партыя лёс на вякі здабыла* (А. Астрэйка); *Ніколі не бярыцеся за наступнае, не зрабіўшы як след папярэдняе* (Прыказка); *Хлопчык падбег да дзеда і пра нешта спытаўся ў яго* (З. Бядуля); *З малымі ён размаўляў, як са старымі, і з імі радзіўся, спрачаўся — як роўны з роўнымі трымаўся* (Я. Колас); *Пра былое толькі згадкі. Прайшлі суровыя гады* (П. Броўка); *Яму было балюча і крыўдна* (М. Ваданосаў).

Дапаўненне можа быць выражана любой часцінай мовы, ужытай у значэнні назоўніка: *«Ура» так моцна вы крычыце, калі кладуцца дзеці спаць* (П. Панчанка); *Я на ўсё прыдатны, усё адолею, усё перажыву, перацярплю, толькі каб не кінуў ты мне болем за маё адданае «люблю»* (К. Кірэенка); *Сінічка ў сваім зялёным і чорным, і жоўтым адзенні сказала б, вядома, сваё «ці-сік, ці-сік»* (Я. Брыль).

У ролі дапаўнення можа ўжывацца неазначальная форма дзеяслова. Звычайна ў ролі дапаўнення выступае аб'ектны інфінітыў, г. зн. інфінітыў, што абазначае дзеянне, суб'ект якога не супадае з суб'ектам дзеяння дзеяслова-выказніка: *Юста ціхенька сядзіць каля печы, голасу яе не чуваць, бо маці не дазваляе ёй ні песні заспяваць, ні громка гаварыць* (Я. Колас); *Сінім снежным адвячоркам Грыбок хадзіў ад акна да акна па сяле, загадваў ісці ў Ігнатаву хату на сход* (І. Мележ); *Доўг салдацкай службы патрабаваў ад мяне несці параненага сябра* (І. Шамякін); *Маці падала снедаць, а сама пайшла ў горад* (Ц. Гартны); *Афіцэр закамандаваў чакаць* (К. Чорны).

Дапаўненнем можа быць і суб'ектны інфінітыў, г. зн. інфінітыў, які абазначае дзеянне, суб'ект якога супадае з суб'ектам дзеяння дзеяслова-выказніка.

Сінтаксічная функцыя суб'ектнага інфінітыва залежыць галоўным чынам ад значэння паясняемага дзеяслова: калі гэты дзеяслоў з самастойным значэннем[1], суб'ектны інфінітыў выступае ў ролі дапаўнення: *Ты ж, сын, вучыся родны край любіць, як прадзеды любілі* (М. Калачынскі); *Прывучыліся хлопцы хадзіць па лясных сцежках так, што пад абцасам не трэсне сухая галінка* (У. Корбан); *Ехаць у кабіне Пазняк адмовіўся* (У. Шахавец).

Дапаўненнямі могуць быць розныя спалучэнні слоў, часцей за ўсё гэта:

колькасна-іменнае спалучэнне, у састаў якога ўваходзіць колькасны лічэбнік: *Абрушыла сонца за дзесяць хвілін мільярды праменняў на снег* (П. Панчанка); *У прасветы хмар заслоны сыпле сонца стрэл мільёны — шле зямлі дары* (Я. Колас); *Ужо, відаць, пад поўнач выгнутая дугой траншэя сяк-так злучыла пяць стралковых ячэек* (В. Быкаў); *Астап паспеў тут шапнуць Піліпчыку некалькі слоў* (М. Лынькоў);

спалучэнне азначальнага, неазначальнага, няпэўнага ці адмоўнага займенніка з прыназоўнікава-склонавай канструкцыяй: *Яна не бачыла,*

---

[1] Пры дапаможных дзеясловах суб'ектны інфінітыў уваходзіць у склад выказніка: *Ужо дзе-нідзе з дубоў пачалі падаць адзінокія лісты* (Я. Маўр).

*як праз хвіліну шафёр ізноў спыніўся на шашы і запрасіў ласкава ў кабіну* *к а г о с ь з п а р т ф е л е м, у к а п е л ю ш ы* (Н. Гілевіч); *Рух нерашучасці і замяшання скаваў н е к а т о р ы м з н а с языкі* (М. Лынькоў); *У н е к а т о р ы х з і х* [раненых] *пачыналася ўжо гарачка, і яны варушыліся, шаматалі саломаю і выкрыквалі розныя словы* (К. Чорны); *Сам жа Зязюлькін пасля гэтага заганарыўся і казаў т а м у - с я м у з п а н я м о н ц а ў: «Ну, куды ж вы варты»* (Я. Колас);

колькасна-іменнае спалучэнне, у састаў якога ўваходзіць назоўнік са значэннем пэўнай *(дзесятак, тройка, сотня)* ці няпэўнай *(маса, куча, бярэма, паток)* колькасці: *Дзяўчынка з маёвага лесу пад поўдзень дадому прыйшла, б я р э м а сінюткіх п р а л е с а к з дзялянкі лясной прынясла* (М. Калачынскі); *Ганна якраз прынесла бежанцы ж м е н ю к р у п* (П. Пестрак); *У адной руцэ ён трымаў л у с т у х л е б а, у другой — б р у с с а л а* (К. Чорны).

### Прамое дапаўненне

§ 155. Пры членах сказа, выражаных дзеясловамі і словамі катэгорыі стану, адрозніваюць дапаўненні прамое і ўскоснае.

П р а м о е дапаўненне — гэта дапаўненне ў форме вінавальнага склону без прыназоўніка, якое адносіцца да члена сказа, выражанага пераходным дзеясловам. Прамое дапаўненне абазначае прадмет, на які непасрэдна накіравана дзеянне: *Лёгкі парыўчаты вецер хістае г а л і н ы дрэў, узнімае лісцяны ш о л а х* (П. Броўка); *Пафарбавала восень пазалотай над возерам заспаныя л я с ы* (А. Астрэйка); *Поле страціла залацісты б л я с к* (З. Бядуля).

У залежнасці ад канкрэтнага значэння таго члена сказа, які яно паясняе, прамое дапаўненне можа мець розныя адценні значэння. Яно можа абазначаць:

аб'ект, які з'яўляецца вынікам дзеяння: *На адну і тую ж тэму можна напісаць газетны ф е л ь е т о н і сатырычны р а м а н* (К. Крапіва); *Мікалай дастаў п а ч а к махоркі і пачаў круціць п а п я р о с у* (К. Чорны);

аб'ект, які падвяргаецца пэўнаму дзеянню: *Сонца пяшчотна асвятляла п а л я н к у* (Я. Колас); *Жарам сэрцаў сваіх растапляем мы н е т р ы прамерзлыя, з непадатных парод высякаем мы р о с с ы п алмазны кайлом* (А. Звонак); *Сонца ў чырвані купае сочныя з а г о н ы* (П. Трус);

аб'ект пачуцця, успрыняцця: *Яна любіла свайго п л я м е н н і к а* (Я. Колас); *Доктар агледзеў п а л а т у* (Я. Скрыпач); *Яго чуткае вуха ўспрымала далёкі-далёкі г у л, бы гром* (Я. Колас); *Я не апошні і не першы люблю лясную г л у х а м а н ь* (М. Хведаровіч).

Прамое дапаўненне можа абазначаць аб'ект, які пераадольваецца адпаведным рухам або адносна якога гэты рух адбываецца (пры дзеясловах перамяшчэння): *Д а р о ж к у перабягаў нявялікі ручэй* (П. Броўка); *Ён мінаў быльняговыя м е ж ы, пераходзіў змагання г р а н і ц ы* (П. Трус); *Ён праехаў высокі драўляны м о с т і затармазіў каля чайной* (Я. Скрыган);

аб'ект думкі, развагі, выказвання, пазнання: *І мы прыгадалі былыя г а д ы* (П. Глебка); *Ён добра памятаў свайго б а ц ь к у* (Я. Маўр); *Нанова перадумваў кожнае ўпісанае с л о в а, абмяркоўваў кожную д у м к у і «за» і «супроць»* (З. Бядуля).

аб'ект стану (пры словах катэгорыі стану): *Петраку было шкада Д ж а м і л ю* (У. Караткевіч).

У сучаснай беларускай літаратурнай мове наглядаецца паралельнае ўжыванне форм вінавальнага і роднага склонаў[1] прамога дапаўнення пасля пераходных дзеясловаў з адмоўем *не*. Іншы раз вінавальны і родны склоны выкарыстоўваюцца як раўназначныя, паколькі граматычнай розніцы паміж імі няма, параўн.: *Я не чытаў гэты раман — Я не чытаў гэтага рамана.* Аднак ва ўжыванні форм дапаўнення з пераходнымі дзеясловамі пры адмоўі наглядаюцца пэўныя заканамернасці. У самых агульных рысах адрозненне паміж гэтымі формамі зводзіцца да таго, што дапаўненню ў родным склоне ўласціва значэнне ўзмоцненага адмаўлення, а дапаўненне ў форме вінавальнага склону аслабляе адмаўленне. Таму ў адных выпадках пераважна выкарыстоўваецца родны склон, а ў другіх — вінавальны.

1. Вінавальны склон пры пераходных дзеясловах з адмоўем акцэнтуе ўвагу чытача на пэўным прадмеце ці якой-небудзь з'яве: *Алесь Марціна прыплятае і ўсё шукае, і не знаходзіць сваю с т р а т у* (Я. Колас); *Я веру словам простым: Радзіма, камуніст, прысяга, смерць... І толькі «здрада» — выклятае с л о в а — не мог я ні ўспрыняць, ні зразумець* (П. Панчанка).

2. У форме вінавальнага склону звычайна ўжываюцца ўласныя назоўнікі, якія абазначаюць назвы асоб: *Ц я р э ш к у ніхто не заўважыў* (З. Бядуля); *З першага дня не ўзлюбілі Верамейчыкі З о с ю* (К. Крапіва); *Лабановіч не асуджаў В а л ю* (Я. Колас).

3. На выбар формы дапаўнення пры пераходных дзеясловах з адмоўем *не* іншы раз уплывае актуалізацыя дапаўнення, яго пазіцыя ў адносінах да выказніка; так, калі дапаўненне знаходзіцца ў прэпазіцыі да дзеяслова, яно звычайна ўжываецца ў форме вінавальнага склону: *Свіст кулі чуў я на вайне, ш т ы к не здымаў з вінтоўкі* (А. Куляшоў); *Т в а р не хаваю ад ветру, хай расцалуе буяны* (П. Трус); *Жывую с і л у не запраторыш ты ў магілу* (Я. Колас); *Л е с не сякуць языкамі* (К. Крапіва); *П а м я ц ь сэрца ніколі не закрэсляць гады* (А. Бялевіч).

4. У канструкцыі «адмоўная часціца *не* + дапаможны дзеяслоў у спрагальнай форме + інфінітыў пераходнага дзеяслова + дапаўненне» форма дапаўнення залежыць не столькі ад дапаможнага дзеяслова і часціцы *не*, колькі ад інфінітыва, таму дапаўненне прымае форму вінавальнага склону: *Лабановіч ужо не мог змяніць т о н* (Я. Колас); *Мы, пісьменнікі, не змаглі даць в о б р а з паўнакроўнага жывога бальшавіка* (Я. Колас); *Юрка... не ўмее цаніць м а ч ы х у* (Я. Колас).

5. Значэнне адмоўя, характэрнае для роднага склону, узмацняецца часціцай *ні*, а таксама займеннікам ці прыслоўем, у састаў якіх уваходзіць гэта часціца: *На дарозе н і ч о г а не было відаць ад сонца* (І. Пташнікаў); *Ніхто, ніхто не стрымае вялікіх ясных і д э й* (К. Кірэенка); *Ночка нават не гайдала ні г а л і н к і, ні к у с т о ч к а, ні б ы л і н к і, ні л і с т о ч к а, ні на ніве к а л а с о ч к а* (Я. Колас); *Тады ніякага а п р а ў д а н н я нічаму я не шукаў* (К. Чорны); *Ніколі не схіляў г а л а в ы беларускі народ перад захопнікамі* (Я. Колас).

6. У форме роднага склону ўжываецца прамое дапаўненне і тады, калі ролю выказніка выконваюць дзеясловы думкі, успрыняцця, жадання (*ведаць, разумець, чакаць, заўважаць, прасіць, чуць* і пад.): *Не*

---

[1] Родны склон толькі ўмоўна можна лічыць прамым дапаўненнем, паколькі аб'ект, які ім выражаецца, ці зусім не падвяргаецца дзеянню (пры дзеясловах з адмоўем), ці падвяргаецца часткова.

*чуваць у лузе песні* *а д г а л о с к а ў* (А. Бачыла); *У начной цішыні не чуваць было ні* *с м е х у, ні п е с н я ў, ні г а в о р к і* (У. Краўчанка); *Нідзе не знаць даўнейшай* *с ц е ж к і* (Я. Колас).

7. Прамое дапаўненне ўжываецца ў форме роднага склону, калі яно выражаецца абстрактным назоўнікам у саставе ўстойлівых спалучэнняў: *Кандрат Назарэўскі аніяк не аддаваў* *у в а г і* *ні сонцу, ні цішыні на полі і ў лесе* (К. Чорны); *Ні днём, ні ноччу ад турбот* *с п а к о ю* *ён не мае* (А. Куляшоў).

Пры членах сказа, выражаных словамі катэгорыі стану, дапаўненне прымае форму вінавальнага склону, калі яно выражана адушаўлёным назоўнікам (*Шкода* *д з я ў ч ы н у*), ці форму роднага склону, калі яно выражана абстрактным назоўнікам (*Шкода* *ч а с у*).

### *Ускоснае дапаўненне*

§ 156. У с к о с н а е дапаўненне — гэта дапаўненне, выражанае формамі вінавальнага склону з прыназоўнікамі ці формамі іншых ускосных склонаў з прыназоўнікамі і без іх, а таксама прымыкаючым інфінітывам. Ускоснае дапаўненне адносіцца да непераходных дзеясловаў, прыметнікаў, прыслоўяў ці да слоў катэгорыі стану. Канкрэтнае значэнне ўскоснага дапаўнення залежыць ад лексіка-граматычнага значэння галоўнага слова і склонавай формы залежнага кампанента: *Наліваецца колас* *с о н ц а м і с о к а м і* *цаліны* (М. Калачынскі); *Светлая раніца ўсміхнулася* *г о р а д у* (М. Лынькоў); *Лічыць час калгасным* *с ё л а м* *гудок* *н а п е в а м* *маладым* (Я. Колас).

### Прыдзеяслоўнае дапаўненне

§ 157. Ускосныя дапаўненні могуць перадаваць розныя значэнні аб'ектных адносін.

Дапаўненні, выражаныя формамі ўскосных склонаў без прыназоўнікаў, абазначаюць:

аб'ект, на які дзеянне пераходзіць часткова: *Адпачыла зямля ад завей, ад вятроў, напілася яна* *с о к у* *талых снягоў* (А. Русак); *А на двары сонца набірала* *с і л ы* (П. Броўка); *Узяў сець* *р ы б ы* *палавіць і ўжо два тыдні як ні сеці, ні рыбы* (Э. Самуйлёнак); *Пані Дамічэля памаленьку раздабывала рознага* *н а с е н н я* *для свайго агароду* (Я. Колас); *Вы бачыце, як яна налівае ў міску* *в а д ы* *з вядра* (К. Крапіва); *Я* *п р а л е с а к* *блакітных сягоння нарву і вянкамі цябе прыбяру* (П. Панчанка);

аб'ект дасягнення чаго-н.: *Працавітыя людзі ў лясах смаглі гэтага* *з в о н у і г р у к у* (П. Глебка); *Хочацца* *ш ы р ы, п а в е т р а і с о н ц а,* *хочацца з лісцяў расінкі страсаць* (А. Куляшоў); *Людзі сена сушаць, косяць ды* *п а г о д ы* *ў неба просяць* (К. Крапіва);

аб'ект, на які накіравана дзеянне: *Пяюць варштаты ткацкія, складаюць* *п р а ц ы* *гімн* (А. Астрэйка); *Я рад служыць* *р а д з і м е* *дарогай* (М. Чарот); *І* *л у г а м, і к а с а г о р а м, н і в а м, п у ш ч а м і а з ё р а м* *сонца шле прамень* (А. Бачыла);

сродак утварэння дзеяння: *Разам будзем араць поле* *т р а к т а р а м* *сталёвым, сеяць жыта і пшаніцу на загонах новых* (Я. Купала); *Ён з усёй сілы грукнуў* *д з в я р ы м а* (Я. Колас); *Хлапчук прыпыніў* *л е й ц а м і* *лапавухую кабылу* (К. Чорны).

Дапаўненне, выражанае формамі ўскосных склонаў з прыназоўнікамі, абазначае:

матэрыял, з якога што-небудзь зроблена: *Ён з* *ц э г л ы,* *а не з за-*

*п а л а к, пад небам, а не пад дахам, пачаў будаваць з запалам магутны гмах за гмахам* (А. Куляшоў);

накіраванасць дзеяння на аб'ект: *Д а нашага любага к р а ю шчасце вясны прыплывае* (Ц. Гартны); *Клічуць нас далі ў госці к с а б е* (Я. Колас);

аб'ект думкі, маўлення і пад.: *А б з я м л і, а б сапраўднай народнай с в а б о д з е мудры Ленін падпісвае першы дэкрэт* (П. Глебка); *Мая Беларусь маладая а б п а р т ы і песні пяе* (А. Астрэйка); *Сябры яшчэ доўга гаварылі п р а ўсякія с п р а в ы* (П. Пестрак); *Збірайцеся дружна сябрынаю цеснай, спяём п р а н а р к о м а, таварышы, песню* (П. Глебка); *Будуць спрадвеку казаць каласы, песні спяваць спрадвеку п р а нашы г а д ы, п р а нашы ч а с ы, п р а кожнага ч а л а в е к а* (А. Куляшоў).

## Прыад'ектыўнае дапаўненне

§ 158. У функцыі ўскоснага дапаўнення пры членах сказа, выражаных прыметнікамі, выступаюць назоўнікі, займеннікі-назоўнікі і субстантывіраваныя формы. Гэтыя дапаўненні абазначаюць аб'ект, у адносінах да якога праяўляецца пэўная прымета. Прыад'ектыўныя дапаўненні могуць ужывацца з прыназоўнікамі і без прыназоўнікаў: *Мы горды роднаю з я м л ё ю, разумнай п р а ц а й смелых рук, народаў добраю с я м'ё ю, вялікай м о в а ю сваёю, святым і правым і м е м — друг!* (М. Лужанін); *Кожны дзень наш багаты п о д з в і г а м і* (І. Шамякін); *Каля Нёмана рассцілаўся луг, поўны незвычайнага х а р а с т в а* (Я. Колас); *Мы моцныя д у х а м, загартаваным у барацьбе* (С. Грахоўскі); *Гатовы к а д п р а ў ц ы эшалон стаяў ля станцыі* (М. Лынькоў); *Сівы а д і н е ю лес драмаў на ўзгорку* (З. Бядуля).

Дапаўненне пры вышэйшай і найвышэйшай ступенях параўнання прыметніка абазначае аб'ект параўнання: *Кватэра была многа лепшая а д яго к в а т э р ы* (Я. Колас); *Пятро адчуваў, нібы зрабіўся сталейшы з а ўсіх сваіх с я б р о ў, нават за тых, што старэйшыя з а я г о па гадах...* (І. Шамякін).

## Прысубстантыўнае дапаўненне

§ 159. Ускосныя дапаўненні пры членах сказа, выражаных назоўнікамі, у асноўным абазначаюць аб'ект дзеяння. Гэта значэнне рэалізуецца ў дапаўненнях пры аддзеяслоўных назоўніках, утвораных ад пераходных дзеясловаў. Пры такіх назоўніках у функцыі ўскоснага дапаўнення ўжываецца родны склон аб'екта, суадносны па значэнню з вінавальным склонам прамога аб'екта: *У калгасе канчаюць уборку с е н а* (І. Шамякін); *Пачынаецца асенняя сяўба і копка б у л ь б ы* (П. Пестрак); *Так пачыналася аднаўленне к а л г а с а* (Я. Брыль). Значэнне аб'екта дзеяння характэрна для дапаўненняў, выражаных назоўнікамі, утворанымі ад непераходных дзеясловаў. Пры такіх назоўніках у функцыі ўскоснага дапаўнення ўжываецца тая ж склонавая форма, што і пры ўтвараючых дзеясловах: *І сэрца зноў забілася гарачай прагай п р а ц ы* (П. Глебка); *Вялікая просьба р а т у н к у была ў Косцікавым голасе* (С. Баранавых); *Яна, прызнацца, адчувала тут страх г л у ш ы і а д з і н о ц т в а* (Я. Колас).

Дапаўненне пры назоўніках, не суадносных з дзеясловам ні па ўтварэнню, ні па значэнню, сустракаецца рэдка. Такія назоўнікі звычайна маюць абстрактнае значэнне, іх змест канкрэтызуецца дапаўненнем:

*Імкнуцца да лепшай долі вызваленыя мільёны, энергіі ў іх даволі* *д а п р а ц ы,* *д а а б а р о н ы* (А. Куляшоў).

Ускосныя дапаўненні могуць адносіцца да назоўнікаў, утвораных ад прыметнікаў. Па форме і значэнню такія дапаўненні суадносныя з прыад'ектыўнымі дапаўненнямі: *Самай каштоўнай з гэтых якасцей з'яўляецца беззапаветная адданасць сваёй сацыялістычнай* *Р а д з і м е* (К. Крапіва); *І ад гэтай думкі захацелася яму моцна крыкнуць нешта такое, што б заставіла ўсіх іх адчуць радасную блізкасць — блізкасць людзей* *к ч а л а в е к у* *і чалавека* *к л ю д з я м* (К. Чорны).

Некаторыя прысубстантыўныя дапаўненні набываюць азначальныя адценні. Тэндэнцыя да азначальных адносін наглядаецца:

у дапаўненняў, якія паясняюць назоўнікі са значэннем стану, становішча, факта: *аварыя з маторам, гісторыя з класам, выпадак з братам, становішча з рамонтам;*

у дапаўненняў, якія залежаць ад назоўнікаў, суадносных ці блізкіх па значэнню з дзеясловамі маўлення і думкі: *даклад аб культуры мовы, думка пра будучае, легенда аб моры, аповесць пра каханне, мара пра шчасце;*

у дапаўненняў, выражаных творным склонам з прыназоўнікам з: *бутэрброд з сырам, заява з просьбай, ваза з кветкамі.*

Усе гэтыя выпадкі можна назваць пераходнымі паміж дапаўненнем і азначэннем.

Што ж да спалучэнняў тыпу *букет бэзу, большасць студэнтаў, вядро малака, метр палатна, вядро вішань* і пад., то іх трэба разглядаць як адзін член сказа, паколькі яны абазначаюць адзінае паняцце: групу, сукупнасць асоб ці прадметаў.

### Прыадвербіяльнае дапаўненне

§ 160. Пры членах сказа, выражаных прыслоўямі, у ролі дапаўнення выступаюць назоўнікі ці займеннікі з прыназоўнікамі і без прыназоўнікаў. Яны абазначаюць аб'ект, у адносінах да якога праяўляецца прымета, выражаная прыслоўем: *Навокал* *н а с* *драмалі нівы* (Я. Колас); *На свеце нам радней і даражэй* *з а д з е н ь* *К а с т р ы ч н і к а* *няма нічога* (А. Астрэйка); *Побач* *з х а т а й* *расце высокая пышнаверхая ліпа* (П. Галавач); *Горш* *з а ў с ё* *Людовік не любіў шуму і аднастайнасці ў працы* (А. Кулакоўскі); *Ніжэй* *м а с т а* *берагі рэчкі крутыя і высокія* (І. Шамякін).

Ускоснае дапаўненне пры словах катэгорыі стану абазначае аб'ект стану: *Маркотна* *м н е* *без Беларусі* (Я. Купала); *Прыемна* *ч а л а в е к у* *вясновымі днямі глядзець на бела-ружовыя пялёсткі саду* (І. Гурскі); *М н е* *было прыемна за свайго суседа* (А. Куляшоў).

## АКАЛІЧНАСЦЬ

§ 161. А к а л і ч н а с ц ю называюцца даданыя члены сказа, якія ўказваюць на абстаноўку і характар дзеяння, стану ці прыметы: *Н а д з я м л ё ю* *раняла сонейка прамені* (Я. Колас); *Г у ч н а* *трэскаліся* *а д м а р о з у* *дубы* (І. Шамякін); *П а - в е с н а в о м у* *ч а с т а* *сінела неба,* *у ж о* *в е л ь м і* *л а г о д н а* *ўгравала сонца* (І. Мележ); *Падмуркі будынкаў* *ш т о д н я* *закладаем, з калгаснага* *п о л я* *ўраджай сабіраем* (А. Русак); *Пайтараецца* *в е ч н а,* *а гучыць* *н е з а в у ч а н а* *кожнай новай* *в я с н о ю* *кукаванне зязюльчына* (П. Панчанка).

**Акалічнасці могуць быць выражаны прыслоўямі, дзеепрыслоўямі,**

назоўнікамі ў творным склоне без прыназоўніка, назоўнікамі ва ўскосных склонах з прыназоўнікам, інфінітывам: *Чорныя скалы* *ц я п е р* *стаялі* *с п а к о й н а* *і с у р'ё з н а* (Я. Маўр); *Н а* *невялічкай* *г р а д з е* *ўзвышаліся кучаравыя бярозы* (І. Гурскі); *Растуць* *н а* *р а д з і м е* *маёй* *неабсяжныя дрэвы* (М. Танк); *Зашумелі* *ў* *л о з а х* *ніцых нашы рэкі і крыніцы* (А. Русак); *Н я с т о м н а* *прабіваюцца* *з* *г л ы б і н ь* *халодныя вулканчыкі крыніц* (А. Пысін); *Мы да новых даляў імкнемся* *ш т о х в і л і н н а* (У. Дубоўка); *І дзівосным* *к а р а б л ё м* *плыў над галавою блакітны, белы і залаты Андрэеўскі сабор* (У. Караткевіч); *П о т ы м* *ён пусціў хлопцаў* *п а г у л я ц ь* (Я. Колас).

Акалічнасці, выражаныя прыслоўем, звычайна адносяцца да выказніка, выражанага дзеясловам ці безасабова-прэдыкатыўным словам: *Аляксею* *м і г а м* *прыгадалася дажджлівае поле на Куршчыне* (І. Мележ); *Пахне мятай* *с а л о д к а-с а л о д к а,* *д а л ё к а-д а л ё к а* (Г. Бураўкін); *На нашым полі, полі калгасным дзянькі праходзяць* *в е с е л а,* *я с н а* (Я. Купала).

Такія акалічнасці могуць адносіцца і да ўсяго сказа: *Д з е с ь* *у лесе на папасе забалбоча штось не ў часе чуткі цецярук* (Я. Колас); *Д а ў н о* *заморскія краіны гукнулі ў вырай журавоў* (А. Бялевіч); *Н е ў з а б а в е* *з туману цьмянымі постацямі выніклі стрэхі хацінак, голае вецце дрэў* (В. Быкаў); *М у т н а* *гаснуць асеннія дні* (М. Танк).

Значна радзей прыслоўі ў функцыі акалічнасці могуць адносіцца да азначэнняў і акалічнасцей: *І звон аб прыпек скавародны,* *т а к* *блізкі сэрцу,* *т а к* *ім родны, у нейкім радасным настрою, спяваў ім песняю святою* (Я. Колас); *Ён неспадзеўкі падняў на хлопца здзіўлены,* *ч а м у с ь ц і* *ўсхваляваны позірк* (І. Мележ); *А д н а с т а й н а* *бясконца шалясцяць сітнягі* (П. Глебка); *А стрэл апошні* *я ш ч э* *не хутка, а кулі свішчуць* *з л а в е с н а* *жудка* (Я. Купала).

Акалічнасці, выражаныя дзеепрыслоўем ці дзеепрыслоўным зваротам, звычайна адносяцца не толькі да выказніка, але і да ўсяго сказа ў цэлым: *Н е* *х а п а ю ч ы с я,* *н е* *в ы с і л ь в а ю ч ы с я,* *а ш ч а д н а* *т р а ц я ч ы* *сілу, мерным, спрактыкаваным рухам вадзіў Васіль касою* (І. Мележ); *Н а к р ы ў ш ы* *к е п к а й* *н е р а с ч а с а н у ю* *с і в і з н у,* *дзед выйшаў з хаты, асцярожна рыпнуўшы дзвярыма* (Я. Брыль); *З а т у л і ў ш ы с я* *а д* *в е т р у,* *камбат ціха стаяў ля бруствера, агорнуты ноччу, сцюжай і цішынёй* (В. Быкаў).

Акалічнасці, выражаныя формай творнага склону назоўнікаў без прыназоўнікаў, звычайна адносяцца да выказніка, выражанага асабовымі формамі дзеясловаў: *І вочы ўспыхнулі* *а г н я м і* *бліскавіц* (П. Глебка); *Я б хацеў насіцца,* *м а т ы л ё ч к а м* *віцца* (Ц. Гартны); *Музыка ўсё бегла шырокімі* *х в а л я м і* ў свет (К. Чорны).

Акалічнасці, выражаныя назоўнікамі ва ўскосных склонах з прыназоўнікамі, могуць адносіцца або да членаў сказа, выражаных дзеяслоўнымі формамі, або да ўсяго сказа ў цэлым: *З* *п у ш ч ы* *верасень гнаў* *н а* *д а р о г у* *лісты* (А. Куляшоў); *І* *з-п а д* *Б у г а* *плыве гоман, весяліцца ўся зямля* (Я. Купала); *А д* *к р а ю* *ў* *к р а й* *гудуць трактары* (П. Глебка); *Цвёрда трымайся юнак* *н а* *д а п р о с е* (А. Куляшоў); *Зашумела* *н а* *У к р а і н е* *песня Тарасова* (Я. Купала); *Бярозы* *ў* *ш э р а н і* *сівеюць, палі бялеюць, як паркаль* (П. Глебка); *П е р а д* *а к н о м* *у нас расцвітае чаромха* (Я. Брыль); *З а* *а к н о м* *цвіў сад* (Я. Скрыган); *А д* *Мурманскіх халодных* *у з б я р э ж ж а ў* *д а* *залатога сонечнага* *К р ы м а* *пралёг наўсцяж у воблачных мярэжах абшар мае вялікае Радзімы* (А. Звонак).

У ролі акалічнасцей могуць выступаць устойлівыя фразеалагічныя

спалучэнні прыслоўнага тыпу: *Стаміліся ўсе і ішлі* ***нага за нагу*** (П. Пестрак); *І рэчка* ***пад бокам,*** *і процьма ў ёй рыбы* (Я. Колас); *Васіль і Яўхім сустрэліся* ***тварам у твар*** (І. Мележ); *Зноў і зноў я думаю пра тых, хто адсюль* ***за свет*** *паехаць мусіў, і ў хвіліну гэтую чамусьці так шкада мне, так шкада мне іх* (Н. Гілевіч).

Функцыю акалічнасцей могуць выконваць сінтаксічна непадзельныя словазлучэнні, сярод якіх пераважаюць спалучэнні лічэбнікаў з формамі роднага склону назоўнікаў: ***Некалькі мінут*** *у хаце панавала цішыня* (Я. Колас); ***Два тыдні*** *стукаў цяслярскаю сякерою дзед Байтрук* (Я. Колас); ***Пяць дзён*** *на захад мы ішлі румынскім бур'яном* (А. Астрэйка); *Так пражыла Наталля* ***дваццаць год*** (Я. Скрыган); *І засталіся так стаяць* ***некалькі хвілін*** (К. Чорны); а таксама спалучэнні назоўнікаў з прыметнікамі: *Маўчком Антось* ***часінай шэрай*** *у ельнячок шмыгнуў з сякерай* (Я. Колас); *Роўна* ***важкаю паходкай*** *я іду адпачываць* (М. Багдановіч).

### Разрады акалічнасцей па значэнню

§ 162. Абазначаючы якасную характарыстыку дзеяння, стану ці прыметы, а таксама ўмовы, якія суправаджаюць іх (указанне на прычыну, час, месца і г. д.), акалічнасці дзеляцца на акалічнасці спосабу дзеяння, ступені, месца, часу, меры, прычыны, мэты, умовы, уступкі.

Акалічнасці **спосабу дзеяння** абазначаюць якасць дзеяння, стану, а таксама спосаб ажыццяўлення дзеяння ці праяўлення прыметы. У сучаснай беларускай літаратурнай мове найбольш пашыраныя акалічнасці са значэннем якасці дзеяння ці прыметы. Яны выражаюцца якаснымі прыслоўямі, назоўнікамі ў творным склоне без прыназоўніка (часта ў спалучэнні з дапасаванымі азначэннямі) і фразеалагічнымі спалучэннямі: ***Галасіста*** *заліваюцца дразды* (І. Новікаў); *Паміж хмараў месяц ясны* ***ціха*** *коціцца па небе* (М. Хведаровіч); ***Ціха, міла*** *кружацца сняжынкі за акном* (А. Бачыла); *Над вадою* ***задумліва*** *схіляюць вецце ніцыя лозы* (В. Вольскі); ***Ласкава*** *срэбрацца воды Дзвіны* (А. Звонак); *Страчала* ***сардэчна*** *свайго трактарыста калгаснае наша сяло* (А. Бялевіч); *Дома яна прачытала ўсё* ***адным духам,*** *і здалося, што ўсё гэта яшчэ няпраўда* (Я. Скрыган).

Разнастайнымі марфалагічнымі сродкамі можа выражацца і спосаб ажыццяўлення дзеяння. Найбольш часта ў гэтай сінтаксічнай функцыі выкарыстоўваюцца прыслоўі, назоўнікі ва ўскосных склонах, дзеепрыслоўі ці дзеепрыслоўныя звароты і фразеалагічныя спалучэнні: *Дзед Талаш ішоў* ***не спяшаючыся*** (Я. Колас); *На іржэўніку* ***роўнымі радамі*** *ляжалі кучкі залатой на сонцы саломы* (І. Шамякін); *Выраб цэглы ў калгасе ішоў* ***поўным ходам*** (А. Чарнышэвіч); *Недзе ў зялёным гаі вецер* ***упрысядкі*** *скача* (М. Хведаровіч); *У век разумны, век вучоны* ***жывою явай*** *гарады паўсталі ў стэпах, у глухмені тайгі, на кручах берагоў* (А. Бялевіч); *Павал сядзеў на траве,* ***падагнуўшы пад сябе ногі*** (К. Чорны); *Ва ўсёй зялёнай красе стаялі дубы,* ***раскінуўшы шырока галлё з лапчатым густым лісцем*** (І. Мележ).

Спосаб ажыццяўлення дзеяння можа выражацца шляхам параўнання, прыпадабнення. У такіх выпадках ужываецца форма творнага склону назоўніка без прыназоўніка: *Чорнай звілістай* ***стужкай*** *праклаў сцежку ў паветры дымок з коміна цагельнага завода* (П. Пестрак); *Неўзабаве з туману цьмянымі* ***постацямі*** *выніклі стрэхі хацінак, го-*

ясняемым словам з'яўляюцца злучнікі *як, як і*: *У гэты час з палетка падышоў чалавек, вельмі малады, такі самы, як і жанчына* (К. Чорны); *У гарадоў, як і ў людзей, свой лёс, характары, свае біяграфіі* (Полымя, 1985); *Яна пазірала не так, як заўсёды* (Э. Самуйлёнак); *Над усёй планетай неба павінна быць такое, як і над намі* (П. Панчанка).

Ад злучніка, якім звязаны параўнальна-раўналежны зварот з паясняемым словам, залежыць адценне сэнсавага значэння параўнальнага звароту. Калі параўнальны зварот звязваецца злучнікам *як і*, ён паказвае поўную адпаведнасць дзеянняў, прымет прадметаў, аднолькавасць дзеяння, накіраванага на розныя прадметы, супадзенне прымет і дзеянняў аднаго прадмета ў розных абставінах: *Да сканчэння тэхнікума ён быў удзельнікам хору і да спевак і выступленняў хору адносіўся таксама ўважліва, як і да свае літаратурнае работы* (М. Лужанін); *Там мяне, як і Юзю, пусціць не хацелі* (М. Гарэцкі); *Пракоп, як і кожны селянін, крыху дыпламат* (Я. Колас); *Змрок, як і заўсёды ў познюю восень, наплываў хутка* (А. Кулакоўскі).

Параўнальна-раўналежныя звароты, звязаныя з паясняемымі словамі злучнікам *як*, паказваюць на падабенства паводле дзеяння ці прыметы аднаго прадмета да другога, якому найбольш уласцівы названае дзеянне ці прымета; гэты злучнік паказвае таксама на падабенства аднаго дзеяння ці прыметы прадмета да другога дзеяння ці прыметы гэтага самага прадмета ў іншых умовах: *Лес быў ціхі-ціхі, горды, як на Алтаі, да якога Завішнюк прывык* (І. Пташнікаў); *І ўсюды грукат колаў, трывожны, насцярожаны, горкі — як тая праклятая «Бген Руслянд»...* (Я. Брыль); *Усюды было так ціха, як у лесе* (П. Пестрак); *Такога палахлівага і баязлівага чалавека, як ён, цяжка знайсці* (Я. Колас); *Лес тут быў не такі, як на пясчаніку* (І. Мележ).

Параўнальна-раўналежныя звароты ў адрозненне ад вобразных не могуць мець мадальнага значэння, таму што не выражаюць умоўнасці або меркавання. Характару сэнсавых функцый іх адпавядае характар сувязі з паясняемым словам — яны не могуць звязвацца злучнікамі *нібы, бы, нібыта* і інш.

Для канструкцый з параўнальна-раўналежнымі зваротамі ў большай ступені, чым з вобразнымі, характэрна разнастайнасць марфалагічнага выражэння суб'екта і аб'екта параўнання. Яны могуць выражацца і словамі прадметнага значэння, як у канструкцыях з вобразнымі параўнальнымі зваротамі, і займеннікамі, прыслоўямі. Найбольш часта функцыю параўнальна-раўналежных зваротаў у беларускай мове выконваюць прыслоўі: *О родны край! О край пакуты, нягодай цяжкаю прыгнуты! Калі ж ты збудзеш тое гора, што і цяпер там, як і ўчора, як і дайней, цябе знішчае і горкім смуткам апявае* (Я. Колас); *З таго боку, дзе быў Скуратовічаў хутар, так, як і адсюль, ішла цішыня* (К. Чорны); *Сонца ўзышло, як і ўчора, з-за цёмнага бору свайго* (М. Хведаровіч); *Як дайней, звініць на клёнах лісце, і дзятлы малоцяць, як калісьці* (П. Панчанка).

У канструкцыях з параўнальна-раўналежным зваротам суб'ект і аб'ект параўнання або толькі суб'ект ці аб'ект параўнання могуць выражацца ўласнымі назоўнікамі: *Кандыбовіч, як і Хурс, з купцоў* (К. Чорны); *Пшаніца добрая расце пад Рымам, як пад Гомелем* (П. Панчанка).

Параўнальна-раўналежныя звароты могуць адносіцца ў сказе да суадносных слоў-займеннікаў і займеннікавых прыслоўяў *такі, такі самы, так, так сама*. З дапамогаю суадносных слоў яшчэ больш узмацняецца

момант лагічнай ацэнкі, падкрэсліваецца тоеснасць пэўных прадметаў, з'яў, дзеянняў: *Дзяўчат і маладзіц, такіх, як Марыля, такіх баб, як свякроў, такіх мужыкоў, як litстары Жук, Іван, Мікіта, бачыў я шмат, хапала іх толькі ў адным нашым Загор'і* (Я. Брыль); *Такі нос, як у Каці,— каму ён здасца прыгожым?* (І. Шамякін).

Суадносныя словы часам ужываюцца з адмоўем *не*. У такіх выпадках для сувязі суб'екта і аб'екта параўнання не можа выкарыстоўвацца злучнік *як і*, а толькі *як*, бо адмоўе *не* паказвае на процідастаўленне, а злучнік *і* — на раўналежнасць: *І тут нават не так сонца, як там, дома, усходзіць* (Я. Колас); *І я пачуў мяккі, зусім не такі, як раней, голас жанчыны* (У. Караткевіч).

Акрамя параўнанняў, што ўводзяцца ў структуру сказа пры дапамозе злучнікаў, у беларускай мове ёсць вялікая група *бяззлучнікавых* параўнанняў. Яны выражаюцца склонавымі і прыназоўнікава-склонавымі формамі назоўнікаў (часта з паясняльнымі словамі): *Кадушка-Зося сонцам ззяе* (Я. Колас); *Хоць бы з гару акраец з'ем* (Я. Купала); *Гулліва косячы на яго свае жучкі-вочкі, яна нягучна, але вельмі рытмічна выводзіла незнаёмыя і ад таго яшчэ болей напеўныя словы* (В. Быкаў). Такія параўнанні выконваюць функцыю прыдатка.

Найбольш пашыраны сродак выражэння бяззлучнікавых параўнанняў — беспрыназоўнікавы творны склон. Творны параўнання, як і вобразны параўнальны зварот, называе якасць дзеяння і адначасова метафарычна характарызуе дзейнік — суб'ект дзеяння, тым самым ён мае ў сказе двухбаковую сувязь — з дзейнікам і выказнікам.

Творны параўнання можа выражацца адным назоўнікам або назоўнікам з паясняльнымі словамі, якія надаюць канструкцыі большую вобразнасць: *Далёкія ад зямлі і палітыкі, ляцелі гусі і гагаталі, раставалі сняжынкамі ў плыткай праталінцы* (Р. Барадулін); *Асколачкам вясновай радугі на сонцы блісне акунёк* (П. Панчанка); *То свяціла ясным сонцам вера, то нявер'е кідала ў адчай* (П. Панчанка); *Полымем прыпалі грудзі да грудзей* (Я. Купала).

Выконваючы ў сказе ролю акалічнасці, творны параўнання сінанімічны вобразнаму параўнальнаму звароту, які характарызуе якасць дзеяння. Пацвярджае гэту думку магчымасць трансфармацыі творнага параўнання ў вобразны параўнальны зварот: *На кустах блішчыць шкляным шротам раса* (З. Бядуля) — *На кустах блішчыць, як шкляны шрот, раса.*

Лексіка творнага параўнання ў сучаснай беларускай літаратурнай мове вельмі разнастайная. Параўноўвацца могуць не толькі канкрэтныя прадметы, але і абстрактныя паняцці:... *Традыцыі ўсіх мёртвых пакаленняў вісяць кашмарам над свядомасцю жывых* (К. Чорны); *Яе імя гучала ў яго вушах незвычайнаю музыкаю і мела нейкае асаблівае значэнне* (Я. Колас); *Думка рэжа нажом* (М. Гарэцкі); *І зноў вісіць спакой пераспелай малінай* (Р. Барадулін).

Частыя выпадкі ў мове, калі адзін прадмет характарызуецца праз параўнанне з другім прадметам, выражаным назоўнікам любога склону без прыназоўніка. У такой канструкцыі няма лексічна выражанай асновы параўнання. Адметная асаблівасць такіх канструкцый — супастаўленне прадметаў, розных паводле семантыкі: *Каронай зялёнай дзед-бор патрасаў* (Я. Купала); *На гэты стук у яме-хаце найперад рыпнулі палаці* (Я. Колас).

Дапасаванне ў родзе і ліку такіх слоў не абавязковае, але абавязковае ў склоне: *Мянёк-завала ўзварухнуўся* (Я. Колас); *Рукі калышуць мару-дзіцяя* (Я. Купала); *Ох, скажы ты, саранча-людзі! — не стала спрачацца, мірна паскардзілася мачыха* (І. Мележ).

Суб'ект і аб'ект параўнання ў такіх спалучэннях не супадаюць у адной субстанцыі.

Ад параўнанняў гэтага тыпу трэба адрозніваць такія спалучэнні, як *хлопцы-трактарысты* і пад.: *Нашы хлопцы-трактарысты стаялі ля прысад* (К. Буйло). Канструкцыя *хлопцы-трактарысты* не выражае параўнальных адносін, бо ў ёй паясняемае *(хлопцы)* і паяснядьнае *(трактарысты)* словы супадаюць у адной субстанцыі — у адным прадмеце. У канструкцыях, што выражаюць параўнальныя адносіны, паясняемае і паясняльнае словы — абавязкова розныя прадметы: *мара-дзіця, лапы-расліны, вусікі-крыльцы, дзед-бор* і інш.

Пашыраны спосаб рэалізацыі параўнання — прыназоўнікава-склонавыя формы імя. Суб'ект і аб'ект параўнання ў такіх канструкцыях звязваюцца прыназоўнікам, ад якога залежыць склонавая форма аб'екта параўнання і сэнсавае значэнне параўнальнай канструкцыі. Параўнальныя адносіны могуць выражацца з дапамогай прыназоўнікаў *з, на, у, накшталт, на манер, на ўзор* і пад.

У канструкцыях з прыназоўнікава-склонавай формай «*з*+вінавальны» выражаюцца азначальныя адносіны: паказваецца падабенства аднаго прадмета да другога паводле велічыні. У склад такіх канструкцый звычайна ўваходзіць яшчэ назоўнік у творным склоне са значэннем памеру — *велічынёю, ростам, памерам, таўшчынёю* і інш., або прыметнікі *буйны, вялікі* і пад.: *Хадзілі па горцы туды і сюды, хавалі на выраст грыбок малады, ростам з арэх — браць такі грэх* (Я. Колас); *Загрыбок маладыы... вішнюку нагадалася, што ён, гэты чалавек, адным махам ссякае на лініі сасонку таўшчынёй з добрую жэрдку* (І. Пташнікаў).

Параўнанне, выражанае вінавальным склонам назоўніка з прыназоўнікам *з*, бывае вобразнае, калі пісьменнік наўмысна перабольшвае ці памяншае нейкі прадмет, з'яву, параўноўваючы з іншым прадметам ці з'явай. У такіх канструкцыях выяўляюцца адносіны самога аўтара да прадмета: *Бег вялікі сабака, ростам з добрую мыш* (Я. Скрыган); *А сам дарэктар, з вузел ростам, у сваім уборы бедным, простым, у зрэбных портках і кашулі стаяў як бы яго прыгнулі* (Я. Колас).

Параўнанне можа выражацца вінавальным склонам назоўнікаў з прыназоўнікам *у*. Яно звязваецца ў сказе з дзеясловам, дзеепрыметнікам або дзеепрыслоўем і выражае азначальна-акалічнасныя адносіны, паказваючы меру, ступень або інтэнсіўнасць дзеяння: *Шырокі прастор покля звузіўся ў чорную бочку, і нічога не магло разгледзець вока адзінокага Васіля* (Я. Колас); *Азгур стукнуў па ім* [злепку] *кулаком, у адзін міг змясіўшы ў апрэснік усю гэтую чалавечую радасць* (Я. Скрыган).

У большасці такіх канструкцый галоўныя словы з лексічна выражаным параўнаннем утвараюць фразеалагічныя спалучэнні: *Скурчыўшыся ў тры пагібелі, спалі яны вакол таго месца, дзе быў агонь* (Я. Колас); *Нікуды я не пабягу, а сагну яго ў дугу* (А. Чарнышэвіч).

Вінавальны параўнання можа выражацца таксама назоўнікам з прыназоўнікам *на*. Аднак такія канструкцыі ў мове не пашыраны. Яны сінанімічны канструкцыям, у якіх параўнанне выражаецца назоўнікам з прыназоўнікам *у*: *Збілі на горкі яблык* (Я. Колас); *Вада шырока разальецца. І снег на кашу пабярэцца* (Я. Колас); *Не мог на мак змяць яму косці* (Я. Купала); *Спалоханы грукатам танкаў, аднекуль з гародаў шугае ў паветра вялізны, на паўнеба, статак вераб'ёў* (В. Быкаў).

Параўнанне можа выражацца назоўнікам у давальным склоне з прыназоўнікам *па*. Суб'ект і аб'ект параўнання ў такіх канструкцыях утва-

раюць словазлучэнні, якія выражаюць азначальныя адносіны. Гэтыя канструкцыі сінанімічны з вінавальным параўнання, выражаным назоўнікам з прыназоўнікам *з*. Ужыванне іх у літаратуры абмежаванае. Тлумачыцца гэта, відавочна, лексічнай абмежаванасцю іх кампанентаў: з дапамогаю параўнання паказваецца толькі велічыня прадметаў (абавязкова некалькіх), роўных паміж сабой: *І вочы ў яе былі шэрыя, вялікія, па яблыку* (І. Пташнікаў); *Дробнае, з гарох, і буйное, па яйку, яно* [каменне], *падсохлае, блішчала на сонцы і пахла востра і едка — шкіпінарам* (І. Пташнікаў); *З трывогай у душы хлопец абабег калючы рададэндравы зараснік, абсыпаны вялікімі, па кулаку, чырвонымі кветкамі, і з невялікага распада-райка наперадзе яго данёсся шум вадаспада* (В. Быкаў).

Параўнальныя канструкцыі, выражаныя назоўнікамі роднага склону з прыназоўнікам *накшталт* або назоўнікам вінавальнага склону з прыназоўнікамі *на ўзор, на манер,* не маюць экспрэсіўнага значэння: *Ёсць людзі на быдля манер* (Я. Купала); *Маршалак, таўшчэразны, непаваротны чалавек накшталт гіпапатама, прыйшоў у вялікае абурэнне* (Я. Колас); *Збудаваў яго* [касцёл] *вядомы вілянчук, пан гетман Пац, у італьянскім стылі, на ўзор сабора Пятра ў Рыме* (М. Гарэцкі).

Параўнанне можа быць выражана прыметнікам, спалучэннем прыметніка *падобны* з прыназоўнікава-склонавай формай: *Пэўна здзіўлены нечаканай сустрэчай, жук спыніўся, выставіў свае рачыныя вочы і чакаў, грозна шавелячы доўгімі гнуткімі вусамі* (В. Быкаў); *Ён* [Іван] *азірнуўся, агледзеўся і, убачыўшы ў траве непадалёк шэрыя махры падобнай на падарожнік травы, адарваў ад іх некалькі лісткоў* (В. Быкаў).

### Сінтаксічная прырода параўнальных зваротаў

§ 181. Граматычныя катэгорыі (у тым ліку і сінтаксічныя), як вядома, адрозніваюцца на аснове семантычных, сінтаксічных і марфалагічных прымет, прычым пры вызначэнні катэгорыі трэба абапірацца не на адну з названых прымет, а на іх сукупнасць (комплекс), улічваючы, аднак, дамінуючую ролю семантычнага фактару.

Падыходзячы з такога пункту погляду да сінтаксічнай прыроды параўнальных зваротаў, трэба прызнаць, што ні з пункту погляду семантыкі, ні з пункту погляду сінтаксічнай ролі і марфалагічнага афармлення параўнальныя звароты не ўтвараюць даданых сказаў, як лічаць некаторыя даследчыкі, а выступаюць у якасці элементаў простага сказа, у састаў якога яны ўваходзяць. Няма падстаў бачыць сказ у тых злучнікавых канструкцыях, дзе:

а) выражаецца не адносна закончаная думка, а толькі асобнае паняцце. Параўнальны зварот больш моцна, экспрэсіўна адцяняе пэўныя якасці, уласцівасці, дзеянні шляхам непасрэднага супастаўлення ў саставе сказа з іншым прадметам, вобразам, які ў большай ступені ўвасабляе гэту якасць, уласцівасць, дзеянне;

б) адсутнічае структурная і мадальная закончанасць і канструкцыя не мае сваіх арганізуючых цэнтраў — галоўных членаў сказа;

в) наглядаецца цесная сэнсавая і граматычная суадноснасць злучнікавай канструкцыі з часткамі асноўнага саставу сказа;

г) у выніку адзначаных прычын узнаўленне як быццам бы прапушчаных членаў аказваецца штучным, яўна парушае сінтаксічныя і сэнсавыя адносіны.

Параўнальныя звароты не могуць разглядацца як даданыя сказы і з

пункту погляду іх сінтаксічных функцый. Адасобленыя параўнальныя звароты ў сказе могуць выступаць у ролі:

1) выказніка: *Як мора — лес, як неба — долы* (Я. Колас); *Дочкі, дочкі ў сяброў, і ў мяне, як бярозкі ў гаёчку, дзяўчаты* (А. Пысін); *Бульба — як арэхі* (Я. Купала);

2) акалічнасці: *Нідзе так звонка не чуваць спеў жаваранка, як у полі* (І. Грамовіч); *І як бы баючыся спалохаць звера, краўся ён густымі зараснікамі* (Звязда, 1985); *Мы ж сёстры і падобныя, казалі, як блізняты* (Е. Лось); *І сёння выканаў норму, як і ўчора* (І. Грамовіч); *Быццам у кручыне, галаву схіляе старадаўні бор* (П. Глебка); *Міхалка, трасучыся, як злоўленая птушка, расказваў усё і нават усялякія свае здагадкі* (К. Чорны);

3) азначэння: *Пырскі, крохкія, як шкло, узлятаюць пад вяслом* (П. Глебка); *Круглы, нібы шар, месяц выплыў з-за лесу* (К. Чорны); *Адтуль, недзе з-за ўзгорку, даносіліся невыразныя, як бы прыдушаныя, гукі* (К. Крапіва); *На палях шугаў цёплы, быццам недзе здалёк нагрэты, вецер* (У. Караткевіч);

4) прыдатка: *Як пастух, паўночны вецер падганяе ключ гусей* (М. Хведаровіч); *Збоку вербачкі крывыя, бы кабецінкі старыя, нуднай кучаю ляжаць* (Я. Колас); *Як з братам, з ветрам шчыра абымуся* (Я. Купала).

Параўнальнымі адносінамі ахопліваюцца ўсе члены сказа: параўноўвацца могуць дзейнікі, выказнікі, дапаўненні, азначэнні, акалічнасці: *Ільны такія белыя — што лебядзіны пух* (М. Калачынскі); *Снапы, што салдаты, стаяць* (П. Броўка); *Мне тут лягчэй, чым вам* (З. Бядуля); *Рабіў ён хутчэй, чым гаварыў* (Т. Хадкевіч); *У гэтую нядзельную раніцу Андрэй раней, чым звычайна, ускочыў з пасцелі* (М. Гамолка); *Неба мела густыя, як над Палессем, колеры* (К. Чорны); *Ён зрабіў так, як мог* (І. Гурскі); *Мы гаспадарым, як гаспадарылі* (М. Лужанін); *Дробныя хвалі, як жывыя, пераліваліся і блішчэлі пры месячным святле* (Я. Колас).

Старая школьная трактоўка параўнанняў толькі як акалічнасцей спосабу дзеяння з'яўляецца вельмі прыблізнай і аднабаковай: імёны ў прамым і ўскосных склонах, выступаючы ў параўнаннях, заўсёды захоўваюць суб'ектнае ці аб'ектнае значэнне; параўнальныя выказнікі і азначэнні ніяк нельга аднесці да акалічнасцей. Апорнае слова параўнальных зваротаў — гэта ў многіх выпадках кіруемы член сказа, склонавая форма якога вызначаецца лексіка-граматычнымі ўласцівасцямі кіруючага слова: *Гукне вясна і, як ветрам, развее гора-нуду* (М. Багдановіч); *Мяцеліца снег мяце, як мятлой* (Я. Купала); *Вецер, убраўшыся ў сёлы, лесам, як венцам, трасе* (Я. Купала); *Цяпер Юзіку без газеты, як без вачэй* (К. Крапіва); *Як на старонках кніг, на гонях чытаю літары слядоў* (П. Глебка).

Асабняком паводле сінтаксічных сувязей стаяць параўнальныя звароты з апорным словам у назоўным склоне: *Вочы свецяцца, як зоры* (М. Чарот); *Вецер звініць, як струна* (М. Калачынскі); *Асеннія сады, як вогнішчы, палаюць* (П. Панчанка).

Сувязі такога параўнальнага звароту некалькі нагадваюць сувязі так званых недапасаваных прыдаткаў тыпу *ад машыны «Жыгулі», машынай «Жыгулі», на машыне «Жыгулі»*. Як там асобы від азначэння пазбаўлены дапасавання з азначаемым словам у склоне, так і тут асобы від акалічнасці не мае склонавага падпарадкавання галоўнаму слову, звычайнага пры кіраванні. Такі назоўны з'яўляецца залежным не па сінтаксічных сувязях, а толькі паводле сінтаксічнай функцыі, свайго становішча,— як акалічнасны член сказа.

Значыць, апорнае слова параўнальнага звароту можа ці звязвацца з адпаведным галоўным членам сказа па спосабу сінтаксічнага кіравання ці суадносіцца з ім толькі ў плане сэнсавай залежнасці.

Пэўную ролю ў вызначэнні сінтаксічнай спецыфікі параўнальных зваротаў адыгрывае злучнік. Іменна злучнік дае падставы лічыць параўнальныя звароты з апорным словам у назоўным склоне, што адносяцца да дзеяслова, акалічнасцю спосабу дзеяння: *Як сталь, пружыняць нервы* (А. Куляшоў); *Вецер на полі гуляе, вые, як звер* (М. Багдановіч); *Каля гумна стаяць, як вежы, стагі саломы і кармоў* (Я. Колас).

Чаму назоўнікі *сталь, звер, вежы* — даданыя члены сказа? Толькі таму, што злучнік *як* ставіць іх у становішча акалічнасных членаў пры дзеяслове. Разам з тым злучнік паказвае і на лексічную суаднесенасць параўнальнага звароту са словам, якое называе прадмет параўнання: *Снег блішчыць, як халодная сталь* (М. Багдановіч); *Чулы аер дрыжыць, як птушыныя кryллі* (З. Бядуля). У гэтых сказах параўнальныя звароты *як халодная сталь, як птушыныя крыллі* залежаць ад дзеясловаў: *блішчаць* — як? — *як халодная сталь; дрыжаць* — як? — *як птушыныя крыллі.*

Адначасова яны залежаць і ад дзейнікаў *снег, аер.* Праўда, гэта своеасаблівая залежнасць, падобная на тую, якая наглядаецца паміж адасобленым прыдаткам і азначаемым словам, паміж удакладняючай і ўдакладняемай акалічнасцю. Адносіны такога тыпу прынята называць адносінамі сінтаксічнага паяснення. Сутнасць іх у тым, што словы, якімі абазначаецца прыпадабненне, аднолькава суадносяцца з выказнікам або іншым дзеяслоўным членам і маюць марфалагічна аднолькавае ці функцыянальна раўназначнае афармленне: *Вялікае, як навальніца, шчасце ахапіла яго* (К. Чорны); *Вецер засыпае сцежку белым струменьчыкам дробнага, пухкага, як мука, снегу* (Я. Колас).

Значыць, іменна дзякуючы злучніку сувязь параўнальнага звароту ў саставе сказа адначасова і падпарадкавальная, і паясняльная: падпарадкавальная ў адносінах да выказніка і паясняльная ў адносінах да члена сказа, які называе з'явы, што параўноўваюцца.

У залежнасці ад характару параўнання і ступені сувязі з удакладняемым словам параўнальныя звароты могуць размяшчацца ў пачатку, у сярэдзіне ці ў канцы сказа: *Не знаю я большае веры, чым Ленінскі мудры закон* (П. Броўка); *Як мары, белыя бярозы пад сінявой начной стаяць* (М. Багдановіч); *Краіне трэба песня так, як сталь, як хлеб і вугаль...* (М. Танк); *Па гладкай, як шкло, магістралі, дзе ліпы вясною цвітуць, нібы тая блакітныя хвалі, машыны плывуць і плывуць* (М. Хведаровіч); *Горкае, нібы крушына, было ў людзей жыццё* (М. Калачынскі); *Заварушылася моладзь, бы тое птаства* (Я. Колас); *Дні ішлі, быццам цені, маўкліва* (М. Машара).

## ЗВАРОТАК

### АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА

§ 182. Зваротакам называецца слова або спалучэнне слоў, што абазначаюць асобу ці прадмет, да якіх звяртаюцца з мовай.

Спецыфічнай асаблівасцю звароткa з'яўляецца тое, што ён граматычна не звязаны з членамі сказа: *Магутнае слова, ты, роднае слова! Са мной ты наяве і ў сне* (Я. Купала); *Перамогі дзень!*

*Не забыць нам век твой апошні залп і салюта гром* (М. Танк); *О, р э к і, р э к і Б е л а р у с і с я р о д л у г о ў, с я р о д л я с о ў! Калі я гімн сатказь збяруся з блакітных вашых паясоў?* (Г. Бураўкін); *Р а д з і м а н а ш а, п е с н я н а ш а, м о й б о л ь і с о н м о й з а л а т ы, цывілізацыі інакшай калыскай стала сёння ты!* (П. Панчанка); *На прастор, на шырокі разлог выходзі, м о й н а р о д, грамадою — сотні новых і ясных дарог рассцілае жыццё прад табою* (Я. Колас).

Адсутнасць сінтаксічнай сувязі зваротка з членамі сказа не азначае, што зваротак не мае і сэнсавай сувязі з імі. Так, калі апусціць зваротак у сказе *Б е л а р у с ь, я — твой воін адданы і сын, маё сэрца і думкі заўсёды з табой* (П. Панчанка) ці ў сказе *Эх, х м а р ы н к і! Плывяце вы у старонку тую, дзе пакінуў я сямейку, хатачку старую* (Я. Колас), стане невядомы адрасат маўлення. У гэтых сказах няма іншых сродкаў, здольных выдзеліць асобу ці прадмет, да якіх звяртаюцца. Доказам цеснай сувязі зваротка са зместам сказа з'яўляецца наяўнасць у ім займеннікаў. Вядома, што займеннік як указальнае слова ніколі не ўжываецца ў мове, калі яго канкрэтны змест не раскрываецца сітуацыяй ці словамі кантэксту, з якімі ён (займеннік) суадносіцца. У прыведзеных сказах суадносяцца паводле свайго зместу *Беларусь — твой, хмарынкі — вы*, г. зн., з аднаго боку, назоўнікі, што называюць граматычныя прадметы, і, з другога, займеннікі, якія ўказваюць на гэтыя прадметы. Значыць, пры апушчэнні зваротка займеннікі *твой, вы* не маглі б ужывацца ў такіх сказах, бо змест гэтых займеннікаў быў бы не раскрыты. Інакш кажучы, ужыць гэтыя займеннікі дазволіла наяўнасць у сказе зваротkаў.

Такім чынам, звароткі з'яўляюцца адным са сродкаў раскрыцця рэальнага зместу займеннікаў. Зваротак і займеннік, рэальны змест якога раскрываецца звароткам, знаходзяцца паміж сабой у суадноснай сувязі.

Выразным сведчаннем сэнсавай сувязі зваротка са сказам служыць і наяўнасць у сказе дзеяслова-выказніка ў форме загаднага ладу: *Разгарні ты, л ю д р а б о ч ы, сілу, волю ва ўсю шыр* (Я. Колас); *Мы шчасце збудавалі, цвіці, м о й р о д н ы к р а й!* (М. Машара); *С о н ц а, с о н ц а! З мірнаю зарою ты вярніся ў стэп з начных дарог* (А. Вялюгін); *Квітней, ж ы ц ц ё, на ўсёй зямлі, як першы летні дзень* (Э. Агняцвет).

Калі ў сказах з дзеясловамі загаднага ладу ў ролі выказніка апусціць зваротак, стане невядома, каму адрасавана пабуджэнне да дзеяння; сказ, па сутнасці, не будзе выконваць камунікатыўнай функцыі, перастане быць сказам.

У іншых выпадках сэнсавая сувязь зваротка са сказам праяўляецца менш выразна: *Добрай ночы, з а р а - з а р а н і ц а* (М. Багдановіч); *Зямля ж тут, б р а т ц ы, залатая* (Я. Колас); *Прачнулася сэрца, не спіцца, выходжу на ганак: дзень добры, ж ы ц ц ё м а л а д о е і с о н е ч н ы р а н а к!* (Я. Пушча); *Здароў, м а р о з н ы, з в о н к і в е ч а р!* (М. Багдановіч).

Сэнсавая сувязь зваротка са сказам праяўляецца па-рознаму. Папершае, зваротак можа адносіцца да ўсяго выказвання. У такіх выпадках ён выступае або ў ролі своеасаблівага зачына і тым самым падрыхтоўвае глебу для далейшага выражэння думкі (*Б р а т ы м а е, р о д н ы я л ю д з і! Наш сонечны дзень не пагас* (Я. Колас)), або, уваходзячы непасрэдна ў састаў сказа, надае яго сэнсу пэўнае адценне (*Вучыцца нам, б р а т, яшчэ трэба многа,— зазначыў Турсевіч* (Я. Колас)). Па-другое, зваротак можа адносіцца да членаў сказа, удакладняючы іх змест:

а) да дзейніка, выражанага займеннікам 2-ой асобы адзіночнага або множнага ліку. Зваротак канкрэтызуе змест займенніка шляхам най-

мення той дзеючай асобы, на якую ўказвае займеннік: *Вы так цікава расказваеце, А н д р э й  М і х а й л а в і ч, што мне ўжо хочацца пусціцца ў дарогу* (Я. Колас); *Пралятайце вы, д н і, залатымі агнямі!* (М. Багдановіч); *Не кувай ты, ш э р а я  з я з ю л я, сумным гукам у бары!* (М. Багдановіч);

б) да выказніка, выражанага дзеясловам загаднага ладу адзіночнага ці множнага ліку, пры якім звычайна адсутнічае займеннік 2-ой асобы. У такіх сказах зваротак называе аб'ект, на які накіравана волевыяўленне: *Знімі, ц я п л о, зімовую заслону, прымі нас, л е с, прыпынак дай і схоў* (Я. Колас); *Прымі, с а в е ц к а я  р а д з і м а, аддана сць шчырую табе* (Ц. Гартны); *Праславім, с я б р ы, перамогу, якую здабыў наш народ* (З. Бядуля);

в) да дапаўнення, выражанага асабовым займеннікам 2-ой асобы ва ўскосным склоне адзіночнага ці множнага ліку. Зваротак удакладняе аб'ект дзеяння, называючы канкрэтную асобу, прадмет, на якія ўказвае займеннік: *Мы не забудзем ніколі цябе, д а р а г і  ч а л а в е к* (А. Бялевіч); *Дзень добры вам, л я с ы  і  д а л і, п р а с т о р ы  в о л ь н ы я  з я м л і! Я зноў між вас, п а г о р к і, х в а л і! П а л о с к і  ц ь м я н а е  р а л л і* (Я. Колас); *Люблю цябе, п о л е, люблю я твой плёс!* (Я. Колас);

г) да азначэння, выражанага прыналежным займеннікам. Зваротак канкрэтызуе яго змест, называючы тую асобу, прадмет, на якія ўказвае гэты займеннік: *Не было яшчэ той сілы і той перашкоды, што звязала б вашы крылы, к а м с а м о л е, с л а ў н ы, м і л ы, п е р ш а ц в е т  н а р о д а!* (Я. Колас); *Я слаўлю плён ваш, п а р т ы і  с ы н ы!* (М. Калачынскі).

Уступаючы ў сэнсавую сувязь з галоўнымі і даданымі членамі сказа, зваротак удакладняе і канкрэтызуе іх лексічнае значэнне.

Важная сінтаксічная асаблівасць зваротка заключаецца ў тым, што ён часта мае двайстае значэнне, збліжаючыся па сваіх функцыях з выказнікам, прыдаткам і дзейнікам.

Выказнікавае (прэдыкатыўнае) значэнне маюць звароткі ацэначна-кваліфікатыўнага характару: *«Што вы робіце, д у р н і?!» — крыкнуў ён раз'яраным байцам і стаў паміж імі* (Я. Колас); *Пятроў і Сяргееў! Давайце абдымемся, ч э р ц і!* (М. Лужанін); *Гэта ж дваццаць пяць год мінула, г а л а в а  я л о в а я* (В. Быкаў).

Прэдыкатыўнае значэнне найбольш наглядна выяўляецца ў звaротках, выражаных двухсастаўнымі ацэначнымі сказамі: *Р о д н ы  м о й! Г о л у б  в ы  м о й  с і в ы! Я ж бы хацела параіць вам, як найлепш!* (К. Крапіва); *«Пятрусь, уставай! — гукнула старая на печ.— Уставай, п а д л а  т ы, тры гадзіны!..»* (Я. Брыль).

На той жа прэдыкатыўна-ацэначнай аснове звароткі збліжаюцца з адасобленымі прыдаткамі, асабліва з тымі, якія знаходзяцца ў дыстантнай пазіцыі або адносяцца да слова за межамі даданага сказа: *«Прыгожая, ш э л ь м а!» — думае Кузьма і кажа лагодненька: «Настачка, якая ты цяпер харошая!»* (Я. Колас); *«Уцякаюць, п і р а т ы!» — сказаў Ікрамаў* (І. Мележ).

У некаторых выпадках зваротку ўласціва выразнае дзейнікавае значэнне. Зваротак збліжаецца з дзейнікам у імператыўных сказах. Гэта і зразумела: зваротак мае другаасабовае значэнне, а ўсякі дзеяслоў-імператыў звернуты да другой асобы. Зваротку ўласціва граматычнае значэнне суб'екта дзеяння, што пацвярджаецца магчымасцю пазіцыйнай замены другаасабовых звароткаў і другаасабовых займеннікаў: *Ты зрабі — Д з і м а, зрабі, Вы рашыце — Д з е ц і, рашыце.*

Сінтаксічная роднасць зваротка з дзейнікам праяўляецца і яшчэ ў адным плане. Існуюць сказы тыпу *Прападай мая галава!; Іван рабі, а*

*яны будуць лынды біць* і г. д. Загадная форма дзеясловаў тут не мае прамога імператыўнага значэння: яна выражае абавязак, прымус, павіннасць як унутраны стан дзеючай асобы, выкліканы якім-небудзь знешнім уздзеяннем. Такое значэнне загаднай формы справядліва прызнаюць асобым ладам дзеяслова — «павіннасным».

Несумненны дзейнік такіх сказаў можа ўспрымацца як зваротак у сказах імператыўных і наадварот.

Зваротак адрозніваецца ад дзейніка тым, што апошні граматычна звязаны з іншымі членамі сказа, у прыватнасці з выказнікам. Зваротак жа не звязаны з іншымі словамі ў сказе ні падпарадкавальнай, ні злучальнай сувяззю, не ўваходзіць у састаў прэдыкатыўнай (граматычнай) асновы.

### *Асноўныя функцыі зваротка ў мове*

§ 183. Асноўная функцыя зваротка — служыць назвай асобы, да якой звернута мова таго, хто гаворыць. Сказы са зваротkам паводле структуры і зместу могуць быць самымі разнастайнымі, але ў іх часцей за ўсё адна мэта — засяродзіць увагу на прадмеце паведамлення, выканаць загад, параду, просьбу, пажаданне таго, хто гаворыць, выслухаць паведамленне, адказаць на пастаўленае пытанне і г. д. Называючы адрасат маўлення, зваротак уваходзіць у састаў сказа і разам з іншымі яго членамі абслугоўвае мову як сродак зносін, г. зн. у саставе сказа і праз сказ зваротак удзельнічае ў ажыццяўленні камунікатыўнай функцыі мовы. Лексічнае значэнне слоў, што выконваюць функцыю зваротка, разнастайнае. Яны абазначаюць імёны жанчын і мужчын, прозвішчы, імя па бацьку, а таксама асоб паводле сацыяльнага становішча, якое яны займаюць у грамадстве, паводле іх класавай і саслоўнай прыналежнасці, адносін да розных партый, цячэнняў, арганізацый, пасады, прафесіі, спецыяльнасці, прыналежнасці да якой-небудзь мясцовасці, нацыі, калектыву; абазначаюць ступень роднасці, узрост, стан і інш.: *Эх, салдацікі родныя нашы, многа можна пра вас расказаць!* (П. Пестрак); *Ідзі, народ, на свой вялікі, вольны сход!* (Я. Купала); *Наперад, хлопцы, блізка Гомель — радзіма добрая мая!* (П. Глебка); *Камсамолец сямідзесятых! Вазьмі ў сэрца імёны сваіх слаўных папярэднікаў. Як і яны, раней думай аб Радзіме, а потым — аб сабе* (Маладосць, 1984); *Мы тут самі, Пілін Гардзеевіч, сабралі прыёмнічак* (М. Ткачоў); *Сельскія працаўнікі! Шырэй разгортвайце сацыялістычнае спаборніцтва на палях і фермах* (Звязда, 1985); *Грэх табе будзе, Сцёпка, ну, проста-такі грэх, калі ты вучыцца не будзеш* (Я. Колас); *Дайце, жнейкі, серп займісты* (Цётка); *Грабар і муляр, каменшчыкі з цеслямі, стройцеся дружна ўдарнымі цэхамі!* (П. Глебка). Гэтыя зваротки маюць так званае нейтральнае лексічнае значэнне, без дадатковых эмацыянальных і экспрэсіўных адценняў.

Зваротак можа выконваць функцыю трапнай характарыстыкі субяседніка, ярка выражаць эмацыянальныя адносіны да яго таго, хто гаворыць. У ролі такіх звароткаў выступаюць назоўнікі, што абазначаюць назвы жывёл, птушак (пераважна ў паэзіі), яны ўжываюцца часта ў пераносным значэнні, характарызуючы субяседніка са станоўчага ці адмоўнага боку: *Мамачка, галубка,— просіць сын так міла* (Я. Колас); *Адпусці, паночку-лябедзіку, маю Марыльку на дзянёк* (З. Бядуля); *Бачу, бачу, мой саколе, ты музыка па душы* (А. Русак).

Неадушаўлёныя назоўнікі таксама могуць ужывацца ў ролі зваротка як ацэначныя характарыстыкі, г. зн. у пераносным значэнні. Дзякуючы

такім словам мова становіцца больш эмацыянальнай і экспрэсіўнай: *Хадосьчын бацька Ігнат, чарнявы, сіваваты, ускудлачаны, гнуўся трохі ўбаку, час ад часу пакрыкваў на жонку, што мяняла паставу, засланяла святло,— каб адхілілася.*

*— Ціхо бо ты, старое верацяно! — зазлаваў ён нарэшце.*

*Жонка адхілілася, прымірэнча сказала:*

*— Што ты ўсё бурчыш, стары лапаць?* (І. Мележ);

*— Стаўбуней сабе ў дзеўках, разяда аблезлая* (К. Чорны); *—Заткніся, кадзіла... добрасмярдзючае! Тарас Іванавіч павярнуўся да Памахайліка, акінуў яго грозным вокам.—Табе колькі даць, масла ты лампаднае? — спытаў ён Памахайліка ўжо тонам згоды* (Я. Колас).

У большасці выпадкаў звароткі, што выражаюць ветлівасць ці грубасць, прыязнасць ці фамільярнасць, іронію ці сарказм, садзейнічаюць стварэнню пэўнага каларыту, адпаведным чынам настройваюць слухача ці чытача і ўводзяць яго ў эмацыянальную і экспрэсіўную атмасферу выказвання. Гэтыя дадатковыя адценні значэння, якія наслойваюцца на асноўную функцыю зваротка, ствараюцца з дапамогай стылістычных рэсурсаў экспрэсіўнай лексікі, суфіксаў ацэнкі, шляхам далучэння да назвы асобы азначэнняў-эпітэтаў. Такім чынам, уваходзячы ў структуру сказа і ўдзельнічаючы ў ажыццяўленні камунікатыўнай функцыі, звароткі ў той жа час з'яўляюцца адным з моўных сродкаў выражэння экспрэсіі.

Але і гэтым не вычэрпваюцца функцыі зваротка. Іншы раз сэнсавая нагрузка зваротках настолькі вялікая, што яны засланяюць сабой значэнне ўсяго кантэксту, перастаюць успрымацца як элемент дадатковы і атрымліваюць значэнне такой структурнай часткі сказа, без якой нельга выразіць яго змест: *Мой родны кут, як ты мне мілы!..* (Я. Колас); *Родная зямля! Дзе б я ні быў, душа мая заўсёды цягнецца да цябе, і я шчаслівы ад таго, што часта бываю ў тваіх па-мацярынску ласкавых абдымках, што сустракаюся з землякамі, бачу іх самаадданую працу* (Маладосць, 1985); *Сонца! Красуй над зямлёю, самай у свеце прыгожаю* (А. Астрэйка); *Радзіма мая дарагая! Красуйся і ў шчасці жыві!* (А. Бачыла).

Як паэтычны прыём для ўзмацнення эмацыянальнай афарбоўкі сказа такія звароткі часта сустракаюцца ў паэтычных творах, асабліва ў лірыцы. Яны ўваходзяць у састаў вобразных сродкаў мовы, з дапамогай якіх аўтар раскрывае свае думкі, пачуцці, свае адносіны да жыцця. Магчымасць чалавека адрасаваць сваю мову не толькі рэальнай асобе, якая прымае непасрэдны ўдзел у размове, але і адсутнай асобе, неадушаўлёнаму прадмету пры персаніфікацыі надае мове большую жывасць, эмацыянальнасць, павышае яе экспрэсіўнасць, выразнасць і тым самым узмацняе яе ўздзеянне на чытача.

Такім чынам, асноўныя функцыі зваротка ў мове наступныя:

а) назва асобы субяседніка, пазбаўленая эмацыянальных і экспрэсіўных адценняў значэння;

б) назва асобы, пэўным чынам эмацыянальна афарбаваная, якая выражае ўзаемныя адносіны паміж тымі, хто гаворыць;

в) назва асоб, прадметаў, з'яў, якія не прымаюць непасрэднага ўдзелу ў зносінах; такія звароткі ўжываюцца для ўзмацнення экспрэсіі і для выражэння думак, пачуццяў, а таксама аўтарскіх адносін да таго, пра што гаворыцца ў сказе.

Паводле стылістычных якасцей звароткі могуць быць рытарычнымі (пры звароце да адсутнай асобы, да неадушаўлёных прадметаў і пачуццяў), перыфрастычнымі (пры замене прамой назвы апісальным выра-

зам), напрыклад: *Мне цяжка-цяжка, горка-горка, калі падумаю, што я не стрэну больш Вас, мая зорка, вясна апошняя мая!* (Я. Колас) і метанімічнымі, напрыклад: *Ну, новыя боты, чаго ж ты — валяй! А вы — за ім* (Я. Брыль).

Выбар пэўнай формы зваротка амаль заўсёды прама ці ўскосна адлюстроўвае адносіны да субяседніка, абумоўленыя самымі рознымі фактарамі — пачынаючы ад адносін узроставай і сацыяльнай іерархіі, якія звязваюць субяседнікаў, і канчаючы асабістымі адносінамі паміж імі, эмацыянальным станам таго, хто гаворыць, узроўнем яго этычнай культуры і пад.

### *Спосабы выражэння зваротка*

§ 184. Найбольш тыповай і ўжывальнай у сістэме звароткаў сярод іншых форм яго выражэння з'яўляецца форма назоўніка ў назоўным склоне (з паясняльнымі словамі і без іх).

Семантыка-граматычныя прыметы гэтай мадэлі адлюстроўваюць змест зваротка. Ён мае катэгорыі прадметнасці, адушаўлёнасці, роду, ліку, склону: *Краса мая, мой Нёман родны, мая любімая рака! Люблю разліў твой шумнаводны і ціхі бераг рыбака* (А. Русак); *Няхай жа будзе чыстым тваё, дачка, сумленне; расці, вучыся гэтак, як рос, вучыўся Ленін* (А. Вялюгін); *О, маці, як я ганаруся тым, што я — твой родны сын* (М. Аўрамчык); *Паглядзі, правадыр наш, на ўзнятую к сонцу сталіцу маю, на шчаслівы горад наш, адважны і мірны* (П. Панчанка); *Хачу быць я, мой ты бацька, лётчыкам-героем* (Я. Купала); *Добрай раніцы, сонечны лес!* (Я. Брыль); *Будзь жа, век малады, поўны светлымі днямі! Пралятайце, гады, залатымі агнямі!* (М. Багдановіч); *Гэй вы, хлопцы, арлы маладыя! Уздымайце магутныя крыллі!* (П. Трус).

Зваротак можа выражацца субстантываванымі часцінамі мовы ў назоўным склоне: *Не сумуй па мне, старая, будзь здарова, маці* (К. Крапіва); *Працоўныя! Чуйце і будзьце гатовы сусветны Кастрычнік спаткаць!* (Я. Колас); *Гэй вы, коні, гэй, малыя! Што заснулі? Спіце, загнаныя, ад сонца скрытыя, спіце, бяздольныя, горам забітыя!* (Я. Купала); *Жанатыя і халастыя, успамінайце кожны раз, што ўсе жанкі крыху святыя, што маці нарадзіла вас* (С. Грахоўскі); *Весялей! Гэй, у скачку, залатыя! Варушыцеся жывей!* (Я. Колас); *Моцна кахаў я цябе, дарагая, але расстацца нам час* (М. Багдановіч); *Гэй, араты, пастой* (А. Куляшоў); *Не плач, забытая, прыеду на пасёлак пазней ці ў травені, як зацвітуць сады* (П. Трус).

Звароткі, выражаныя субстантываванымі прыметнікамі і дзеепрыметнікамі, маюць іншыя семантыка-граматычныя катэгорыі, чым звароткі, выражаныя назоўнікамі. У іх асоба называецца паводле якаснай ці працэсуальнай прыметы. Істотнай рысай такіх форм з'яўляецца захаванне парадыгматычных і сінтагматычных якасцей прыметнікаў (ужыванне ступеней параўнання, форм суб'ектыўнай ацэнкі).

У мастацкіх творах сустракаюцца звароткі, выражаныя формай старога клічнага склону назоўніка: *Бачыш, княжа, загоны, лясы, сенажаць,— ім пакорны я толькі з гуслямі, сілен, княжа, караць, галаву сілен зняць,— не скуеш толькі дум ланцугамі* (Я. Купала); *Чаго вам хочацца, панове? Які вас выклікаў прымус забіць трывогу аб той мове, якой азваўся беларус?* (Я. Купала); *Дзень добры, скульптар, як жывеш ты, друже?* (А. Звонак); *Дзень добры, суседзе, у новую хату* (М. Танк); *Камсамоле, яснацвеце, наша радасць, слава! Аб вас песні па ўсім свеце носіць наш усходні вецер* (Я. Колас); *Прыйдзі*

*пад вечар ты на поле і палюбуйся ім, с а к о л е* (Я. Колас); *На хараство Радзімы, д р у ж а, падзівіся і абнімі Радзіму мужнаю рукой* (Я. Пушча); *Кланяйся, г р о м е, роднаму полю, родны вітай ты мой кут!* (Я. Колас); *Шумі, шумі, з я л ё н ы г а ю, хоць трохі сэрца супакой. Бывай, бывай, бывай, н а ш к р а ю, яшчэ мы стрэнемся з табой* (А. Зарыцкі).

Акрамя гэтага, зваротак можа выражацца:

а) займеннікамі 2-ой асобы адзіночнага і множнага ліку. Звароткі, выражаныя займеннікамі 2-ой асобы, маюць адценне грубасці ці фамільярнасці і ўжываюцца ў размоўным стылі: *Ну, т ы, цыц! Не разводзь сырасць...* (А. Макаёнак); *«Ну, т ы... падымайся!» — закамандаваў ён* (Я. Колас); *Т ы!.. Ты прыехала са сваёй байстручкай, дык маўчы!..* (І. Шамякін); *«Гэй, т ы, пастой!» — настойліва паклікаў Отта Штрайх сівога чалавека* (М. Лынькоў); *Т ы! Не крычы гэтак!* (К. Чорны);— *Гэй, в ы! — крыкнуў ён.— Скідайце шапкі!* (І. Чыгрынаў); *Эй, т ы, чаму не едзеш?* (К. Чорны);

б) спалучэннямі сінанімічнага характару: *Гэй, с у с т р э ч н ы-п а п я р э ч н ы, абдаруй хлапчынку скарбам* (З. Бядуля); *Гэй, д а р о г і-п у ц я в і н ы, чыёй волі вы ганцы?* (Я. Колас); *Ой, л я с ы - б а р ы ды л у г і - р а з л о г і! Цераз вас ідуць пуцінкі-дарогі* (М. Багдановіч);

в) непадзельнымі словазлучэннямі: *Дык здароў жа будзь, г о д Н о в ы, с о р а к д р у г і г о д!* (Я. Колас).

Важную стылістычную функцыю ў мове мастацкай літаратуры выконваюць звароткі фразавага тыпу. Шырокая, часта метафарычная характарыстыка асобы ці прадмета прадвызначае пераважнае ўжыванне такіх зваротак у паэтычнай мове: *Паўстань, пракляццем катаваны! Паўстань, х т о з г о л а д у в е к п у х!* (Я. Купала); *Худзее жонка ў слёзах, працы, трасе дзюравым каптаном... Гэй т ы, ш т о п е с ц і ш с я ў п а л а ц ы, меў ж літасць над маім жыццём?!* (Я. Купала); *О в ы, ш т о в е к ц э л ы а д з е т ы і с ы т ы, і з д у м к а й а д н о й, к а б п р а ж ы ц ь в е с я л е й! Ці бачылі гора ў вёсцы забытай?* (Я. Купала); *Гэй, к а т о р ы з г о л а ю с п і н о й! Хадзем пад яблыню, казку раскажу* (У. Караткевіч); *«Ну,— звярнуўся ён да настаўнікаў,— к а м у а б р ы д л а н а с т а ў н і ц т в а і х т о х о ч а к а з ё н н а й к а ш ы — падпісвайся!»* (Я. Колас).

Звароткі могуць мець фармальную структуру двухсастаўных сказаў (з іменным выказнікам), у якіх асабовыя займеннікі *ты, вы* ператвараюцца з дзейнікаў ва ўзмацняльныя службовыя словы, напрыклад: *М о й ты с ы н о ч а к, м о й т ы р о д н е н ь к і, я свету божага не бачу, ночак не сплю праз цябе... Як там даводзіцца табе, п а к у т н і к м о й з а л а т ы...* (А. Васілевіч); *М о й т ы с л а ў н ы, што ты тужыш?* (П. Панчанка).

Зваротам можа быць і той запытальны выраз, праз які шукаецца імя адрасата — *як цябе?, як вас?*: *«Гэй! Я к ц я б е там? Вярніся! Чуеш?» — гукае а. Мадэст* (Я. Колас); *«Гэй! — крыкнуў Лабановіч.— Гэй, х т о т а м? Пачакайце!»* (Я. Колас).

Функцыю зваротка здольны выконваць і залежныя ад прапушчанага імя азначальна-акалічнасныя прыназоўнікава-склонавыя формы: *Гэй, н а к р а н е, падавай блок!* (З вуснай мовы); *Пакружыўся над намі лясны самалёт, насварыўся крыламі: «Эй вы, н а п а г о р к у!»* (М. Лужанін).

### *Тыпы зваротак*

§ 185. У залежнасці ад аб'ёму зваротка, г. зн. колькасці слоў, якімі ён выражаецца, адрозніваюць развітыя і неразвітыя звароткі.

Н е р а з в і т ы м і называюцца звароткі, выражаныя адным словам:

*Я стаю ў цішы і слухаю тваё дыханне, Нарач* (Н. Гілевіч); *Весела, госцейкі, песню спявайце* (М. Танк); *Вей, вецер, хвойным водарам* (П. Панчанка); *Не пазнаць, Беларусь, цябе сёння!* (Я. Колас); *Таварышы! Зняць шапкі над жывой магілай* (Я. Купала); *Ранне! Крыштальнай расою выкупай травы мурожныя* (А. Астрэйка); *Адстукай, вецер, мне дэпешу кляновым голлем на акне* (П. Броўка); *Таварышы! Гляньце, якая вясна без грому вайны ўзыходзіць на ганак* (М. Лужанін).

Звароткі, у склад якіх, акрамя асноўнага слова, уваходзяць залежныя ад яго словы, называюцца развітымі. Такія звароткі служаць сродкам якаснай характарыстыкі асобы, прадмета, жывой істоты. Яны падкрэсліваюць іх асноўныя прыметы, уласцівасці: *Праклятьі навекі нямецкі фашызм, няўжо не хопіць ва ўсёй тваёй зграі здольнасці зразумець, што нельга будаваць сваё шчасце на вялікім няшчасці мільёнаў?* (В. Быкаў); *О, светлае сонца, прасветлае! Усім ты нясеш і цяпло і красу* (Я. Купала); *Ой, старонка мая ты лясная, беларуская наша зямля, табе сёння паклон пасылае ўсіх народаў савецкіх сям'я* (А. Астрэйка); *Народ пранясе цябе, родная мова, святлом незгасальным у сэрцы сваім* (М. Танк); *Дзе б я ні быў, сябры мае, перад вачыма нібы жывая ўстае мая Радзіма* (А. Александровіч).

Састаў развітых звароткаў вельмі разнастайны: у іх пры вядучым слове могуць быць дапасаваныя і недапасаваныя азначэнні, прыдаткі, дапаўненні, акалічнасці і нават дадзеныя сказы: *Дзень добры, Масква, сэрца нашай Радзімы!* (А. Астрэйка); *О, край мой любімы, як многа прыволля...* (А. Русак); *Дзень добры, Беларусь, народная дзяржава, зямля руплівых рук, радзіма слаўных спраў* (А. Звонак); *Слаўся палётам крылатым, наша жыццё маладое* (А. Русак); *Ад тваёй мудрай волі і сілы, наша добрая партыя-маці, за плячыма ў нас выраслі крылы* (А. Астрэйка); *Зямля ты наша, упрыгожым, у сад абернем мы цябе!* (Я. Колас); *Народы вялікай краіны, што селі ў пачэсным куце! Няхай наша дружба цвіце, каб сонцам ірдзелі пуціны* (Я. Колас).

Па спосабу ўжывання звароткі бываюць адзіночныя, паўторныя, складаныя і групавыя.

Адзіночны — гэта зваротак (развіты або неразвіты), адрасаваны адной асобе або прадмету і ўжыты ў сказе адзін раз: *Маладосць! Я ўсё табе аддам, не сыйду з дарог тваіх ніколі!* (Маладосць, 1984); *Радзіма мая дарагая, ты ў шчасці жаданым жыві* (А. Бачыла); *Эх, луг шырокі! Як жывы, ты, травой мурожнаю пакрыты, стаіш зялёны прада мною і ззяеш дзіўнаю красою!* (Я. Колас).

Зваротак, ужыты ў сказе два і болей разоў з мэтай узмацнення яго эмацыянальнай выразнасці, называецца паўторным: *Эй, хлопцы, хлопчыкі! Ўставайце! Кароў на пашню выганяйце* (Я. Колас); *Эх, шляхі, родныя шляхі! Хто перакажа нам вашы казкі, разгадае думкі, назбіраныя і напісаныя часамі на камнях вашых прысад* (Я. Колас); *Маладзечна, Маладзечна, мой паклон табе сардэчны* (А. Русак); *Ой, дарогі, вы, дарогі, колькі мы вас абышлі* (А. Астрэйка); *Восень, ой, восень, панурая, сумная, зноў ты прыйшла ўжо да нас* (А. Гурло); *Лета, ты, лета прыгожа-квяцістае, колькі ты ўносіш аздобы з сабой!* (Я. Купала).

Паўторныя звароткі больш выразныя і эмацыянальныя, чым адзіночныя: *Сэрца, сэрца, тугою не ный* (П. Трус); *Вясна, вясна жаданая! Ты прыйдзеш зноў, ты вернешся!* (Я. Колас); *Шляхі,*

*шляхі! О як жа многа было вас пройдзена ў жыцці!* (П. Прыходзька).

Зваротак, які складаецца з двух і болей слоў або словазлучэнняў і па-рознаму называе адну і тую ж асобу, прадмет, называецца складаным. Асаблівасць складанага зваротка заключаецца ў тым, што элементы яго, выступаючы рознымі назвамі аднаго і таго ж прадмета, асобы, знаходзяцца як бы ў раўнапраўных адносінах да гэтага прадмета, асобы, але звязаны адзін з другім семантычна-экспрэсіўнай градацыяй: *А дзядзька! Дзядзечка, саколік! Насып мне ягад у прыполік!* (Я. Колас); *Алесь, сынок, ...ідуць кароўкі! Бяжы хутчэй* (Я. Колас); *Новы край, савецкі край! Беларусь, мая старонка! Я хацеў бы песняй звонкай... слова выказаць: вітай!* (Я. Колас); *Спі, сынок, маё дзіцятка* (В. Вярба); *Краіна мая, радасць мая, песня мая маладая! Па нівах тваіх, па тваіх гаях сынава сэрца рыдае* (П. Панчанка).

Групавыя — гэта звароткі, адрасаваныя розным асобам, прадметам. Кампаненты групавых звароткаў злучаюцца, як правіла, інтанацыяй пералічэння, а часамі і злучальнымі злучнікамі: *Ой, вы, сонца, месяц, зоры! Праўду мне скажыце* (Я. Колас); *Эх, горы і скалы, даліны і кручы, і ты, нерухомы, магутны Чымган!* (Я. Колас); *Ласка і гнеў, ціша і бура! Я вітаю вас, калі вы прыходзіце ў сваім часе, калі выконваеце вы адвечную волю жыцця* (Я. Колас); *Бывайце, грушы шапаткія, вербы ціхія, маладыя, вольныя вечары!* (І. Мележ); *Хлопцы, цёткі і дзяўчаты, дзядзькі, сёстры і браты, нашай песні ўзмах крылаты не стрымаюць і вятры* (М. Машара); *Ой, бярозы ды сосны — партызанскія сёстры, вас ніколі ў жыцці не забыць* (А. Русак).

Такія звароткі звязаны адносінамі аднароднасці.

Розныя тыпы звароткаў ажыўляюць паведамленне, робяць яго выразным і эмацыянальным, настройваюць чытача (слухача) на пэўнае ўспрыняцце тэксту.

### *Месца зваротка ў сказе, яго інтанацыйнае выдзяленне і сфера ўжывання*

§ 186. Зваротак можа стаяць па-за сказам ці ўваходзіць у яго састаў. Уваходзячы ў састаў сказа, зваротак не становіцца яго членам, г. зн. не мае злучальнай ці падпарадкавальнай сувязі з іншымі словамі і захоўвае граматычную самастойнасць і адасобленасць сваёй пазіцыі.

Паколькі зваротак граматычна не звязаны з членамі сказа, то ён не мае пастаяннага месца і можа стаяць у пачатку, сярэдзіне або ў канцы сказа. Аднак у радзе выпадкаў у залежнасці ад мэты выказвання, лагічнага выдзялення і інтанацыйнага афармлення акрэсліваецца больш-менш пэўнае месца зваротка ў сказе.

У пачатку сказа зваротак звычайна ставіцца тады, калі выражаецца заклік, загад, пабуджэнне, просьба або перадаюцца тыя ці іншыя эмоцыі, пачуцці: *Браты! Вялікая дарога чакае нас і родны край* (Я. Колас); *Нястомны камунар, змаганню гімн спявай, на вар-це пільнай будзь* (Я. Журба); *О Беларусь мая, ён* [Ленін] *даў тваім сынам дзяржаўны руль, братэрскай дружбы сілу, а мове, песням іх — узмах арліны крылаў* (А. Александровіч); *Любыя! З ценем былога нам не патрэбна дружыць* (М. Хведаровіч); *Дняпро і Сож, Дзвіна і Прыпяць, нясіце радасць нашу ўдаль...* (М. Чарот); *О Расія, я песняй сардэчнай падзялюся, як хлебам, з табой* (П. Прыходзька).

У пытальных і клічных сказах, у зваротах ветлівасці зваротак зай-

мае месца пераважна ў канцы сказа: *Век жыць вам у сэрцы народа, г е р о і!* (М. Танк); *Ты чуеш, д р у ж а? Ранак мая курантаў бой расыпаў па Маскве* (П. Прыходзька); *Звіні, в я с ё л ы х б о м а ў м е д з ь!* (М. Багдановіч); *Я слаўлю твой лёс, п е с е н н а-с в е т л а я В і ц е б ш ч ы н а!* (М. Калачынскі); *Дзень добры, Б е л а р у с ь, н а р о д н а я д з я р ж а в а, з я м л я р у п л і в ы х р у к, р а д з і м а с л а ў н ы х с п р а ў* (А. Звонак).

Звароткі, якія лагічна не выдзяляюцца, звычайна знаходзяцца ў сярэдзіне сказа. У ролі гэтых зваротkаў нярэдка выступаюць словы, што страцілі сваё канкрэтнае значэнне, і словы са значэннем ацэнкі, характарыстыкі: *Праляціш над нашым полем ты на самалёце, калі я там, м о й с а к о л е, буду на рабоце* (Я. Колас); *З Масквы, з Крамля хадою ўдумнай, усенароднай, чалавечай, праз поле, поплавы, буруны ідзе, т а в а р ы ш ы, камуна на свеце шчасце ўвекавечыць!* (Я. Купала); *Ці чуеш, ці бачыш, м о й д р у ж а, як іншы, як лепшы стаў свет?* (Я. Купала); *Няможна, с ы н о к, дабром раскідацца* (З. Бядуля).

Некаторыя звароткі гэтага тыпу па функцыі набліжаюцца да пабочных канструкцый. Гэта словы *брат, браток, браце, брат ты мой*, якія ўжываюцца безадносна да полу і ступені роднасці: *«Яўгеня,— усміхнуўся ў той бок Змітра,— ты, б р а т, цар-баба, я ведаю»* (Я. Брыль); *«Айдоля!— гукае Сцяпан.— Ідзі, б р а т, закуры!»* (К. Крапіва); *Жыві, б р а т в ы д р а, калі такая справа выйшла* (Э. Самуйлёнак).

Месца зваротка ў сказе ўплывае на ступень дадатковай прэдыкатыўнасці сказа. Па ступені дадатковай прэдыкатыўнасці сказы са звароткамі, як і іншыя ўскладненыя сказы, неаднародныя. Сярод іх можна выдзеліць сказы з мінімальнай, сярэдняй і максімальнай ступенню прэдыкатыўнасці зваротkаў.

Для сказаў з мінімальнай ступенню прэдыкатыўнасці зваротkаў характэрна інтэрпазіцыя зваротка. Звычайна такі зваротак выражаецца назоўнікам без ацэначнай семантыкі, неразвіты ці мала развіты: *Сядай, Я к у б е, з намі* (К. Крапіва); *Давай, з я м л я к, мяшкі паложым, спачнем ля бацькаўскіх варот* (П. Глебка).

Сказы з максімальнай ступенню прэдыкатыўнасці зваротkаў нагадваюць сабой вакатыўныя сказы: — *П а н а с! — вырваўся нямы крык з грудзей старога, і ён кінуўся да нерухлівай постаці свайго сына* (Я. Колас); *Ён падышоў на два крокі, пільна зазірнуў мне ў вочы, уздыхнуў: «Эх, Ш а п я т о в і ч, Ш а п я т о в і ч...»* (І. Шамякін).

Прамежкавую групу ўтвараюць сказы з сярэдняй ступенню прэдыкатыўнасці. У гэту групу ўваходзяць звароткі, якія не толькі называюць адрасат маўлення, але і даюць яго паўпрэдыкатыўную характарыстыку — звароткі, выражаныя словамі, словазлучэннямі і фразеалагізмамі, якія маюць якасна-ацэначнае значэнне, а таксама звароткі з прыдаткам і інш.: *«Хадзі, д з е т к і, сюды»,— паклікала яго цётка ў камору* (Я. Колас); *Давайце, д о б р ы я с я б р ы, пагутарым аб шчасці* (П. Глебка); *Прымі паклон і пажаданне, ц у д о ў н ы П і н с к, д з і ц я в я к о ў, каб за цяжкія ўсе насланні ты шчасце вечнае знайшоў* (У. Дубоўка); *Ой, ты, м е с я ц, л ю б ы д р у ж а, паплыві на мора* (А. Русак).

Адным з важных фактараў, якія ўзмацняюць прэдыкатыўнасць зваротkаў, з'яўляецца іх развітасць. Чым больш пры зваротку азначальных слоў, тым больш у структуры зваротка патэнцыяльнай прэдыкатыўнасці, паколькі любыя атрыбутыўныя спалучэнні лёгка трансфармуюцца ў прэдыкатыўныя: *З я м л я м а я, н я б ё с а ў р о д н ы х с і н ь, л у г о ў з я л ё н ы я п а с ц е л і! Вы ўстаяце з-за смутных далячынь...* (Я. Колас); *О й, с т а р о н к а м а я т ы л я с н а я, б е л а р у с к а я*

*наша зямля, табе сёння паклон пасылае ўсіх народаў савецкіх сям'я* (А. Астрэйка).

Развітыя звароткі знаходзяцца звычайна ў пачатку ці ў канцы сказа. У залежнасці ад месца і функцыі звароткa (прыцягнуць ці падтрымаць увагу субяседніка, указаць на адносіны паміж субяседнікам і тым, хто гаворыць) рознай будзе і інтанацыя. Знаходзячыся ў ізаляваным становішчы ці ў пачатку сказа, зваротак заўсёды вымаўляецца з асобай, толькі яму ўласцівай, клічнай інтанацыяй: *Краіна мая, радасць мая, песня мая маладая! Па нівах тваіх, па тваіх гаях сынава сэрца рыдае* (П. Панчанка); *Беларусь мая! Твае каліны, арабіны, ясені ў гаю — шолахам і песняй жураўлінай заплылі ў мой лёс, душу маю* (Маладосць, 1985); *Край ты, край наш дзівосны, дарагая Радзіма! Без тваіх ясных вёснаў жыць нідзе б не змаглі мы* (К. Кірэенка); *Мая вялікая Радзіма, люблю твой бурны подых дзён* (П. Глебка).

Калі зваротак знаходзіцца ўнутры сказа, ён вымаўляецца з інтанацыяй пабочнасці, больш хутка ў параўнанні з тэмпам вымаўлення ўсяго сказа: *Паклон табе, бацькоўская зямля, паклон табе — ад сына, а не госця* (Звязда, 1984); *Шуміце ж, шчаслівыя родныя нівы, пад ціхія шэпты прысад. Красуй, каласістае жыта, шумліва, краіны савецкай краса!* (П. Глебка).

Экспрэсіўныя ці так званыя ацэначныя звароткі звычайна лагічна і інтанацыйна выдзяляюцца і вымаўляюцца некалькі працягла: — *Ну, с'волачы, цяпер чакайце! — сцішна, з ледзьве стоеным, гатовым прарвацца запалам сказаў Жук. Галадай, устаючы ад бомбы, буркнуў.— Памаўчы. Раней скокні.— Нічога, браткі, нічога,— выціраючы спатнелы лоб, сказаў у куце Янушка, былы калгасны брыгадзір, цяпер аднавокі гефтлінг, аздоблены мішэнямі за тры спробы ўцячы на волю* (В. Быкаў).

Лагічна зваротак выдзяляецца і тады, калі ён стаіць пасля асабовага займенніка, хоць і вымаўляецца з некаторым паніжэннем голасу: *Ты ляці, маё слова, праз палі і лясы, прывітайся з краінай маёй дарагою* (П. Панчанка); *Ты была для мяне песняй казак-надзей,— маці... маці мая дарагая* (П. Трус); *Эх ты, жыццё, жыццё людское! Няма табе, няма спакою* (Я. Колас); *Паклон табе нізкі, Нява, паклон табе, Ленінград* (А. Русак).

Такім чынам, акрамя сэнсавай і функцыянальнай сувязі са сказам, зваротак звязаны з астатнім саставам сказа і інтанацыйна.

Асноўная сфера ўжывання звароткa:

а) вусная або пісьмовая дыялагічная мова:

— *Што ў цябе такое? — устрывожана пытаецца ён.*

— *Каня... укралі. Язэпка, родненькі, саколік, ратуй жа ты нас* (К. Крапіва);

б) мова аратарскіх выступленняў: *Дарагія таварышы! Цэнтральны Камітэт КПСС горача вітае ўдзельнікаў Усерасійскай нарады сакратароў партыйных арганізацый...* (Звязда, 1985);

в) мова дзелавога характару — загады, аб'явы, адозвы, лозунгі, прывітанні: *Таварышы! Сёння адбудзецца ўрачысты сход;*

г) мова дзелавой і прыватнай перапіскі, дзе зваротак з'яўляецца формулай, з якой пачынаецца пісьмо: *Гануся мая! Пішу табе з дарогі* (К. Чорны);

д) мова лірычных твораў і лірычных адступленняў: *Далёкае неба! Сіняе неба! Што ёсць на свеце дзіўнейшае, як ты?* (Я. Колас); *Меднаствольы, як выліты, высіцца бор, зацвітае на ўзлессі блакітны чабор, заглядзелася сонца ў люстра азёр,— гэта ты, мая Беларусь!*

(П. Панчанка); *К р а й  т ы, к р а й  н а ш  д з і в о с н ы, д а р а г а я  Р а д з і м а!  Без тваіх ясных вёснаў жыць нідзе б не змаглі мы* (К. Кірэенка); *Ой, в ё с к а, в ё с к а  п р ы  г а с ц і н ц ы! Пад ціхі гоман вербалоз яшчэ з гадоў свайго дзяцінства я пакахаў цябе да слёз!* (П. Трус); *Прымі паклон і пажаданне, ц у д о ў н ы  П і н с к, д з і ц я  в я к о ў, каб за цяжкія ўсе насланні ты шчасце вечнае знайшоў* (У. Дубоўка); *О  к р а й  м о й  м і л ы! Усёй душою хачу злучыцца я з табою, ў тваіх палях пазычыць сілу, ў тваёй зямлі сысці ў магілу* (Я. Колас); *К р ы н і ц а  п о б л і з  м а ё й  в ё с к і, с х а в а н а я  ў  г у с т ы м  т р ы с ц і! Люстэркам чыстым, самым першым ты мне з'явілася ў жыцці* (П. Броўка).

## ПАБОЧНЫЯ КАНСТРУКЦЫІ
## (словы, спалучэнні слоў і сказы)

### АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА

§ 187. П а б о ч н ы м і называюцца такія граматычна не звязаныя з членамі сказа канструкцыі (словы, спалучэнні слоў і сказы), якія служаць для выражэння адносін таго, хто гаворыць, да выказанай думкі. Пабочныя словы і спалучэнні слоў не з'яўляюцца членамі сказа: *Любіў я некалі, б ы в а л а, глядзець, як ліўся дождж суздром* (А. Бачыла); *У полі паветра, з д а е ц ц а, аж звініць ад чысціні* (Т. Хадкевіч); *Пануры лес, з д а в а л а с я, драмаў на сонцы* (З. Бядуля); *Жыццё, я к  в я д о м а, рэч вельмі складаная* (М. Паслядовіч); *Там, дзе чарот шумеў, б ы в а л а, цяпер пшаніца шалясціць* (Я. Колас); *Вялікае, к а ж у ц ь, добра бачыцца на адлегласці* (М. Калачынскі); *Больш-менш вялікіх каменняў на Палессі не знойдзеш: яны засталіся далей на поўнач, н а п р ы к л а д, у Полаччыне* (Я. Маўр).

З а ў в а г а. Ад пабочных слоў і спалучэнняў трэба адрозніваць:

а) часціцы і прыслоўі, якія выражаюць сумненне, меркаванне ці маюць азначальнае, узмацняльнае, абмежавальнае значэнне (*як быццам, як раз, наўрад ці, амаль, прыкладна, пэўна, выключна* і пад.);

б) слова *нарэшце* з'яўляецца пабочным, калі абазначае парадак выкладу, паслядоўнасць думак. Калі ж гэта слова мае акалічнаснае значэнне 'пад канец, у выніку ўсяго', то яго нельга лічыць пабочным; у такім выпадку *нарэшце* часта ўжываецца ў пачатку сказа, інтанацыйна не выдзяляецца, выконвае функцыю акалічнасці часу;

в) слова *аднак* у пачатку і ў сярэдзіне сказа часцей за ўсё выступае як злучнік (у значэнні *але*) і не з'яўляецца пабочным;

г) слова *значыць* выконвае функцыю пабочнага ў тым выпадку, калі ўказвае на сувязь думак, на адносіны паміж часткамі выказвання, вывад. Калі ж гэта слова ўжыта са значэннем 'абазначае', яно — член сказа.

Пабочныя словы, спалучэнні слоў і сказы — адзін з відаў парантэзы (грэч. parenthesis) — унясенне, устаўка якіх-небудзь элементаў, што суадносяцца са зместам асноўнага саставу сказа ці яго канструктыўных частак, але выходзяць за межы звычайных сінтаксічных сувязей паміж кампанентамі гэтага саставу.

Парантэза ажыццяўляецца галоўным чынам з дапамогай інтанацыйных сродкаў мовы і абумоўліваецца або неабходнасцю аўтарскай характарыстыкі ці ацэнкі зместу выказвання, чаму служаць пабочныя словы, спалучэнні слоў і сказы, або неабходнасцю паведаміць нейкія

дадатковыя заўвагі адносна зместу выказвання ў цэлым ці асобных яго частак, для чаго ўжываюцца ў мове ўстаўныя канструкцыі.

Пабочныя словы, спалучэнні слоў і сказы звязаны з асноўным зместам сказа, з'яўляюцца яго арганічнай часткай, адным з яго кампанентаў, што робіць немагчымай адвольную замену адных пабочных элементаў іншымі, далёкімі па сэнсу. Пропуск пабочных слоў і спалучэнняў слоў у сказе таксама вядзе да больш ці менш значных змен яго сэнсу. Калі ў сказ, дзе не было пабочных элементаў, увесці іх, у яго змесце адбудуцца пэўныя змены.

Пабочныя словы і спалучэнні слоў выражаюць розныя адценні суб'ектыўных адносін таго, хто гаворыць, да зместу выказвання:

1) верагоднасць, несумненнасць, поўную адпаведнасць зместу паведамлення фактам рэчаіснасці (*безумоўна, бясспрэчна, сапраўды, натуральна, вядома, несумненна, праўда, разумеецца, без сумнення, на самай справе*);

2) неверагоднасць, папярэдняе меркаванне, няпэўнасць (*відавочна, відаць, магчыма, думаю, думаецца, здаецца, мажа, напэўна, трэба думаць* і пад.);

3) крыніцу, аўтарства думкі (*па-мойму, на мой (наш) погляд, павашаму, па-твойму, гаворым, гаворыце, паводле слоў, як кажуць, як вядома*).

Асобае месца сярод пабочных слоў гэтай групы займае слова *моў (маўляў)*, якое ўказвае на ўскосную перадачу зместу прамой мовы (*Хай не бянтэжыць вас яго размова, што, м о ў, гады і час, м а ў л я ў, дамоў* (А. Зарыцкі));

4) указанне на спосаб выражэння думак (*іншымі словамі, калі можна так сказаць, з дазволу сказаць, так сказаць*);

5) спасылкі на звычайнасць фактаў, пра якія ідзе размова (*як заўсёды, бывае, здараецца*);

6) лагічныя і экспрэсіўныя адносіны паміж думкамі ў ходзе выказвання (*па-першае, па-другое, далей, нарэшце, напрыклад, так, у прыватнасці, значыць, такім чынам, наадварот, аднак, між іншым, з аднаго боку, з другога боку, разам з тым, як адзначалася, дарэчы, адным словам*). Многія словы гэтай групы, выражаючы адносіны паміж часткамі выказвання, выконваюць функцыі злучнікаў;

7) эмацыянальныя адносіны таго, хто гаворыць, да рэчаіснасці (*на шчасце, на жаль, як на бяду, дзіўная справа*);

8) ацэнку меры ці ступені якой-небудзь якасці ці колькасці, ацэнку значнасці пэўнага факта (*галоўнае, самае галоўнае, па меншай меры*);

9) нечаканае прыпамінанне чаго-небудзь па асацыяцыі з выказаным раней (*дарэчы, між іншым*);

10) рознага роду заклікі да субяседніка ці чытача з мэтай актывізаваць яго ўвагу, выклікаць у яго пэўныя адносіны да названага факта (*уяві сабе, паверце, ці паверыш, паўтараю, падкрэсліваю, паслухай, ці верыш* і пад.).

Пабочныя кампаненты з гэтым значэннем нярэдка аказваюцца семантычна факультатыўнымі, а таму іх збліжаюць з выклічнікамі. Аднак больш падстаў для функцыянальнага і семантычнага збліжэння такіх адзінак з часціцамі, асабліва ў тых выпадках, калі яны з'яўляюцца інфарматыўна лішнімі.

Разнастайныя паводле значэння, спосабу выражэння і будовы пабочныя элементы маюць агульныя дыферэнцыяльныя прыметы, асноўныя з якіх наступныя:

а) агульнае значэнне пабочных кампанентаў — адносіны таго, хто гаворыць, да таго, пра што паведамляецца;

б) з спосабаў выражэння дамінантнай з'яўляецца катэгорыя мадальных слоў, гэта асноўны лексіка-граматычны клас, які выступае ў функцыі пабочных слоў;

в) інтанацыйнае выдзяленне ў вуснай мове.

Найбольш выразная з гэтых прымет — семантычная прымета, якая абумоўлівае спосаб выражэння.

Галоўнай сінтаксічнай асаблівасцю пабочных слоў, спалучэнняў слоў і сказаў з'яўляецца іх фармальная незалежнасць ад асноўнага саставу сказа, у які яны ўваходзяць. Іх адносіны са сказам, яго асобнымі членамі ці цэлымі часткамі не афармляюцца ні злучальнай, ні падпарадкавальнай сувяззю. Нават калі ў саставе пабочных слоў, спалучэнняў слоў і сказаў ёсць злучнік, ён не выступае ў функцыі звязкі.

Граматычная сувязь пабочных элементаў са сказам ажыццяўляецца галоўным чынам пры дапамозе інтанацыі пабочнасці, якая характарызуецца паніжэннем голасу і больш хуткім вымаўленнем слоў у параўнанні з вымаўленнем асноўных кампанентаў сказа.

Такім чынам, пабочныя кампаненты знаходзяцца ў семантыка-інтанацыйнай сувязі з асноўным саставам сказа ў цэлым: *Р а з у м е е ц ц а, я з вялікаю ахвотаю згадзіўся занесці дзядзьку полудзень* (Я. Колас); *А д н ы м  с л о в а м, палонны і хлопец, пакуль прыйшлі на кватэру, пасябравалі* (К. Чорны). Акрамя таго, яны могуць знаходзіцца ў семантыка-інтанацыйнай сувязі з адной з частак складанага сказа, з'яўляючыся нейтральнымі ў адносінах да другой часткі яго:

а) з адной з частак складаназлучанага сказа (*У яго душы, в і д а ц ь, адбываўся нейкі балючы працэс, і ён перажываў яго моўчкі, патаемна* (Я. Колас); *Янук стаіць на высачэзным рыштаванні, і, з д а е ц ц а, увесь свет відзён яму адтуль* (А. Кулакоўскі));

б) з галоўным сказам у саставе складаназалежнага (*П р а ў д а, Сцёпка стараўся ўпэўніць сябе, што нічога благога ў яго не было* (Я. Колас); *В я д о м а, ён разумеў, што ў такім становішчы трэба быць асабліва пільным* (В. Быкаў));

в) з даданай часткай складаназалежнага сказа (*Лабановіч пачуў, як бы яму стала чагось шкада, хоць, п р а ў д у  с к а з а ц ь, яму і надакучыла за зіму гэта работа* (Я. Колас); *Трус, м а б ы ц ь, каб яму аднаму было не сумна выступаць, угаварыў і мяне прачытаць свой верш «Маці»* (Р. Сабаленка)).

Сэнсава-інтанацыйная сувязь пабочных элементаў са сказам выяўляецца найбольш выразна і ў большай ступені тады, калі яны адносяцца да асобных членаў сказа, якія маюць лагічны націск. Напрыклад, калі далучаюцца да:

дзейніка (*«Ды ты, а к а з в а е ц ц а, добра ведаеш сельскую раніцу!» — усклікнуў Дзямід Сыч* (М. Паслядовіч));

выказніка (*Дубок, добра выканаўшы сваё заданне, вярнуўся, а д н а к, сумны, незадаволены* (М. Лынькоў));

дапаўнення (*Старшыня нахіляецца да Мірона Брыля, штось гаворыць, в і д а ц ь, аб адчыненні сходу* (Я. Колас));

азначэння (*Малады, в і д а ц ь, дужы, ён аб чымсьці ўвесь час думаў* (М. Лынькоў));

акалічнасці (*Найпільней за ўсіх, з д а е ц ц а, слухаў Захар Зубец* (П. Пестрак)).

Пабочныя словы і спалучэнні слоў могуць знаходзіцца ў семантыка-інтанацыйнай сувязі і з адасобленымі зваротамі, якія не маюць на сабе лагічнага націску: *Выпрабоўваючы, м а б ы ц ь, свае сілы, захапляючыся шырынёй прасторам, ён хутка збег з узгорка* (Э. Самуйлёнак); *Людзі там спяшаюцца, м у с і ц ь, як і гэтыя воблакі* (А. Грамовіч).

Знаходзячыся ў семантычнай і інтанацыйнай сувязі з асноўным саставам сказа ці з якім-небудзь яго членам, пабочныя словы і спалучэнні слоў у сваёй форме не залежаць ад яго, зближаючыся ў гэтых адносінах з прымыкаючымі словамі (*вядома, ён; вядома, прыйдзе* і пад.).

Паміж пабочнымі членамі і астатняй часткай сказа існуе суадносная сувязь.

Пастаяннага месца ў сказе пабочныя словы і спалучэнні слоў не маюць, яны могуць стаяць у пачатку, у сярэдзіне і ў канцы сказа. Пачатак ці канец сказа — найбольш звычайная пазіцыя для тых пабочных элементаў, якія па сэнсу звязаны з усім асноўным саставам сказа: *Па праўдзе сказаць, настаўніку хацелася пабачыць панну Ядвісю* (Я. Колас); *Адным словам,— быў свой невялікі круг, родная частка вялікага свету, з сярэдзінай, сэрцам — Верачкай* (Я. Брыль); *Здаецца, нічога і не змянілася* (М. Ракітны); *А вось пасля сходу са смельчаком можна разлічыцца. Неўпрыкметку, вядома* (А. Асіпенка); *Гэты год будзе ранняя восень, відаць* (К. Чорны); *Нішто ўжо не магло скрануць іх з месца — ні сталь, каваная дзеля вайны, ні полымя, ні смерць сама, здаецца* (М. Калачынскі).

Пры сувязі ж пабочных слоў і спалучэнняў слоў з асобным членам сказа яны ў большасці выпадкаў займаюць месца побач ці паблізу яго. Прэпазіцыйнае выкарыстанне пабочных слоў і спалучэнняў слоў у такіх выпадках сустракаецца значна часцей, чым постпазіцыйнае: *Атрад абышоў вёску, бо нямецкі пост, па дакладных звестках, павінен знаходзіцца ў канцы правага флангу* (М. Лынькоў); *Так зычліва ззяюць зоры, мабыць, радыя вясне* (Я. Колас); *Ён пачаў гаварыць спакойна і, на здзіўленне сабе, салідна* (П. Пестрак).

Сістэма пабочных слоў і спалучэнняў слоў неаднародная. Адны з іх утвараюць пэўныя граматычныя тыпы, другія выступаюць у выглядзе застыўшых форм слоў, якія страцілі былую сувязь з адпаведнымі часцінамі мовы, трэція — як устойлівыя фразеалагічныя адзінкі або лексічна абмежаваныя тыпы спалучэнняў слоў. Сярод пабочных слоў і спалучэнняў слоў выдзяляюцца:

1. Словы і ўстойлівыя спалучэнні слоў, якія адарваліся ад сваёй парадыгмы і ў мове выступаюць толькі ў якасці пабочных. Гэта мадальныя словы. Яны належаць да нязменных слоў і ў сказе выступаюць у ролі толькі пабочных кампанентаў. Сюды ўваходзяць: *напрыклад, мабыць, нябось, словам, стала быць, уласна кажучы, калі ласка, бадай што.* Да іх далучаюцца і словы, граматычна падобныя да мадальных, але адрозныя ад апошніх семантычна: *па-першае, па-другое, па-трэцяе, па-чацвёртае.*

Заўвага. Тэрміны «мадальныя словы» і «пабочныя словы» — не сінонімы, паколькі мадальныя словы — адзінкі марфалогіі, а пабочныя словы — адзінкі сінтаксісу.

2. Словы і спалучэнні слоў, якія не адасобіліся ад розных часцін мовы. Адметнай рысай слоў і спалучэнняў гэтай групы з'яўляецца неабавязковасць для іх мадальнага значэння і пабочнай функцыі. А таму яны могуць выступаць і ў ролі пабочных элементаў, і ў ролі членаў сказа. Да гэтай групы адносіцца пераважная большасць слоў і спалучэнняў слоў з самым разнастайным значэннем, многім з якіх пры ўжыванні ў ролі пабочных уласціва і выражэнне мадальнасці: *магчыма, бясспрэчна, сапраўды, вядома, кажуць, ведаеце, відаць, прызнацца, здаецца, па-мойму, па-вашаму, сказаць па сакрэту, мне здаецца, як на*

*шчасце, такім парадкам, на нашу думку, можна сказаць, дарэчы сказаць, паводле слоў* і г. д. Словы і спалучэнні слоў гэтага тыпу, выступаючы ў функцыі пабочных, як правіла, аддаляюцца ад свайго канкрэтнага значэння.

Паводле аб'ёму і структуры пабочныя элементы бываюць:

а) аднаслоўныя: *бач, здаецца, відаць, разумеецца, мусіць, мабыць, можа, прынамсі, безумоўна, пэўна, звычайна, напрыклад* і інш.;

б) словы з прыназоўнікамі: *на жаль, на шчасце, на радасць, для прыкладу* і інш.;

в) словы ў спалучэнні з часціцамі і злучнікамі: *ці паверыце, не паверыце, сказаў бы, павер жа, зноў жа, як відаць, як кажуць, калі хочаце, як на злосць, як быццам бы* і інш.;

г) спалучэнні з двух і болей знамянальных слоў: *можа быць, на яго думку, само сабой разумеецца, тым часам, уявіце сабе* і інш.

## ПАБОЧНЫЯ СЛОВЫ

§ 188. Па суадноснасці з пэўнымі часцінамі мовы пабочныя словы падзяляюцца на два тыпы — іменны і дзеяслоўны.

### ІМЕННЫ ТЫП

§ 189. У склад іменнага тыпу ўваходзяць пабочныя словы, якія па форме суадносяцца са склонавымі формамі назоўнікаў, прыметнікаў, а таксама з рознымі групамі прыслоўяў. Па спосабу ўтварэння пераважаюць прыназоўнікавыя канструкцыі. У залежнасці ад марфалагічнай прыроды іменны тып пабочных слоў у сваю чаргу падзяляецца на наступныя групы:

1. Пабочныя словы, суадносныя са склонавымі формамі назоўнікаў. Не ўсе назоўнікі (і ў першую чаргу назоўнікі з канкрэтна-рэчыўным значэннем) могуць ужывацца ў якасці пабочных слоў. У гэтай функцыі выступаюць пераважна назоўнікі з адцягненым значэннем, напрыклад, звязаныя з разумовай дзейнасцю чалавека (*памяць, розум, слова, думка, погляд, звесткі, спрэчка*), са сферай эмацыянальнага жыцця (*радасць, шчасце, жаль, бяда, сорам, дзіва, здзіўленне*). Гэтыя і падобныя да іх назоўнікі часта становяцца паказчыкамі мадальнасці, у выніку чаго і пачынаюць выступаць у сінтаксічнай функцыі пабочных слоў. З іх найбольш пашыраны:

а) пабочныя словы, суадносныя з назоўнікамі ў форме давальнага склону адзіночнага ліку з прыназоўнікам *па: па праўдзе, па думцы, па сутнасці;*

б) пабочныя словы, суадносныя з назоўнікамі ў форме вінавальнага склону адзіночнага ліку з прыназоўнікам *на: на шчасце, на жаль, на бяду, на думку, на погляд;*

в) пабочныя словы, суадносныя з назоўнікамі ў форме меснага склону адзіночнага ліку з прыназоўнікам *у: у прыватнасці;*

г) пабочныя словы, суадносныя з беспрыназоўнікавымі формамі назоўнікаў: *праўда, прыкладам.*

2. Пабочныя словы, суадносныя са склонавымі формамі субстантываваных прыметнікаў. Такія ўтварэнні абмежаваны лексічна і граматычна. Гэта пабочныя словы, суадносныя з прыметнікамі ў форме

назоўнага склону адзіночнага ліку ніякага роду,— *галоўнае* і ў форме найвышэйшай ступені — *самае галоўнае, самае лепшае, самае большае, самае меншае.*

3. Пабочныя словы, суадносныя са склонавымі формамі субстантываваных займеннікаў:

а) з указальным займеннікам *той* і азначальным займеннікам *увесь* у форме роднага склону адзіночнага ліку з прыназоўнікамі *акрамя, апрача, апроч, паміма, звыш: акрамя таго, апроч таго, апрача таго, паміма таго, звыш таго, апрача ўсяго, апроч усяго, звыш усяго;*

б) з займеннікамі *той, увесь* у форме роднага склону з прыназоўнікам *да: да таго ж, да ўсяго;*

в) з займеннікамі ў форме творнага склону з прыназоўнікамі *паміж, між, разам з: паміж намі, між намі, між тым, разам з тым, паміж іншым.* Яны набылі граматычна ўстойлівы характар.

4. Пабочныя словы прыслоўнага паходжання. Гэта найбольш прадуктыўная група слоў, якая папаўняецца ўсё новымі ўтварэннямі:

а) пабочныя словы, суадносныя з прыслоўямі на *-а: бясспрэчна, магчыма, пэўна, напэўна, вядома, відавочна, зразумела, прыкладна, адпаведна, натуральна, звычайна* і інш.;

б) пабочныя словы, суадносныя з прыслоўямі ў форме вышэйшай ступені: *карацей, далей, праўдзівей, сапраўдней;*

в) пабочныя словы, суадносныя з прыслоўямі, утворанымі са спалучэнняў назоўнікаў, прыметнікаў, займеннікаў, лічэбнікаў ва ўскосных склонах з прыназоўнікамі: *нарэшце, урэшце, зрэшты, дарэчы, наадварот, наогул, увогуле, сапраўды, аднак, па-сапраўднаму, па-мойму, па-твойму, па-вашаму, па-першае, па-другое, па-трэцяе* і г. д.

## ДЗЕЯСЛОЎНЫ ТЫП

§ 190. У фарміраванні пабочных слоў удзельнічаюць дзеясловы, што паводле свайго лексічнага значэння могуць выражаць мадальныя адносіны. Гэта пераважна дзеясловы, якія абазначаюць паняцці разумовай дзейнасці чалавека: *думаць, разумець, зразумець, памятаць, ведаць, бачыць, казаць, перадаваць, верыць, прызнацца* і інш. Пабочныя словы дзеяслоўнага тыпу граматычна нагадваюць сабой розныя віды аднасастаўных сказаў.

1. Пабочныя словы, суадносныя з формамі пэўна-асабовых аднасастаўных сказаў. Яны выражаны:

а) дзеясловамі 1-ай асобы цяперашняга і будучага часу адзіночнага і множнага ліку:*кажу, бачу, думаю, памятаю, спадзяюся, прызнаюся; дапусцім, скажам* і інш.;

б) дзеясловамі 2-ой асобы цяперашняга і будучага часу адзіночнага і множнага ліку (часта з адмоўем *не* або пытальнай часціцай *ці*): *бачыш — бачыце, глядзіш — глядзіце, ведаеш — ведаеце; думаеш — думаеце, кажаш — кажаце, разумееш — разумееце; ці ведаеш — ці ведаеце, ці паверыш — ці паверыце; не паверыш — не паверыце.*

2. Пабочныя словы, суадносныя з формамі няпэўна-асабовых аднасастаўных сказаў, выражаюцца дзеясловамі 3-яй асобы множнага ліку цяперашняга і прошлага часу: *кажуць, гавораць, перадаюць, паведамляюць, думаюць, пішуць; казалі, расказвалі, перадавалі, паведамлялі, пісалі.*

3. Пабочныя словы, суадносныя з формамі абагульнена-асабовых сказаў, выражаюцца дзеясловамі 2-ой асобы загаднага ладу адзіночнага і множнага ліку: *лічы — лічыце, заўваж — заўважце, павер — па-*

*верце, уяві — уявіце, скажы — скажыце, зразумей — зразумейце, глядзі — глядзіце, згадзіся — згадзіцеся* і інш.

4. Пабочныя словы, суадносныя з формамі безасабовых аднасастаўных сказаў, выражаюцца:

а) дзеясловамі 3-яй асобы адзіночнага ліку цяперашняга часу ў безасабовым значэнні: *здаецца, разумеецца, аказваецца, здараецца, бывае, выходзіць, мусіць, можа, значыцца;*

б) дзеясловамі прошлага часу ніякага роду ў безасабовым значэнні: *здалося, здавалася, здавалася б, здаралася, бывала.*

5. Пабочныя словы, якія збліжаюцца з аднасастаўнымі інфінітыўмі сказамі. Яны суадносныя з інфінітывам: *відаць, чуваць, знаць, сказаць, прызнацца* і інш.

Такім чынам, марфалагічнымі асаблівасцямі пабочных слоў з'яўляюцца: па-першае, суадноснасць іх з рознымі часцінамі мовы і або замацаванне толькі ў функцыі пабочных, або тэндэнцыя замацавацца ў гэтай функцыі; па-другое, адсутнасць форм змянення; па-трэцяе, утварэнне імі асобнай лексіка-граматычнай групы, якая адрозніваецца ад іншых катэгорый слоў паводле свайго марфалагічнага складу, сэнсавага значэння, сінтаксічнага ўжывання і інтанацыйнага гучання.

Пабочныя словы могуць выражацца многімі (але не ўсімі) мадальнымі словамі і часціцамі (*вядома, напэўна, па-першае, відавочна, відаць, значыць, праўда, словам, напрыклад*), а таксама некаторымі словамі іншых лексіка-граматычных катэгорый (пераважна ў адной якой-небудзь форме): прыназоўнікава-іменнымі канструкцыямі (*на шчасце, на жаль*), прыметнікамі (*галоўнае*), дзеясловамі ў розных формах (*думаю, спадзяюся, бачыце, дапусцім, прызнацца, здаецца, думаецца* і інш.), прыслоўямі (*сапраўды, безумоўна, бясспрэчна, несумненна, карацей, нарэшце, дарэчы* і інш.), часціцамі (*прыкладна, проста*).

## ПАБОЧНЫЯ СПАЛУЧЭННІ СЛОЎ

§ 191. Пад пабочнымі спалучэннямі слоў разумеюцца граматычна аформленыя два і больш знамянальных слоў, якія служаць для выражэння мадальнага, эмацыянальнага і экспрэсіўнага значэнняў зместу сказа. Яны ўтвараюцца на базе аб'яднання паўназначных слоў, з якіх адно з'яўляецца дамініруючым, асноўным, а другое — залежным ад яго. Паводле граматычнай прыроды дамініруючага слова пабочныя спалучэнні слоў бываюць трох тыпаў: іменныя, дзеяслоўныя, спалучэнні пабочных слоў з прыслоўямі, займеннікамі, злучнікамі.

### ІМЕННЫ ТЫП

§ 192. Пабочныя спалучэнні гэтага тыпу вельмі прадуктыўныя. Шырокае распаўсюджанне ў мове атрымалі спалучэнні склонавых форм назоўнікаў, прыметнікаў з прыназоўнікамі і без прыназоўнікаў. Найбольш пашыраны сярод іх прыназоўнікавыя спалучэнні слоў:

1) спалучэнні назоўніка ў давальным склоне з прыназоўнікамі *к, па* і дапасаванага да яго прыметніка або займенніка: *к майму здзіўленню, к нашаму шчасцю, па нашаму перакананню, па добраму звычаю;*

2) спалучэнні назоўніка ў давальным склоне з прыназоўнікамі *к, па*

і назоўніка ці займенніка ў родным склоне: *к сораму дзяўчыны, к шчасцю маці, па перакананню вучоных;*

3) спалучэнні назоўніка ў вінавальным склоне з прыназоўнікам *на* і дапасаванага прыметніка або займенніка: *на вялікі жаль, на маё здзіўленне, на мой розум, на мой погляд, на сваю бяду, на ваша шчасце* і інш.;

4) спалучэнні назоўніка ў вінавальным склоне з прыназоўнікам *на* і назоўніка ці займенніка ў родным або давальным склоне без прыназоўніка: *на здзіўленне, на дзіва, на радасць (каго-небудзь, каму-небудзь), на шчасце, на погляд, на думку (каго-небудзь);*

5) спалучэнні назоўніка ў месным склоне з прыназоўнікамі *на, у, па* і дапасаванага да яго прыметніка або займенніка: *на самай справе, у лепшым выпадку, па дакладных звестках, па няпэўных чутках* і інш.

Невялікую групу складаюць пабочныя беспрыназоўнікавыя спалучэнні слоў. Гэта ў асноўным устойлівыя словазлучэнні, выражаныя спалучэннем назоўніка ў назоўным або творным склоне і дапасаванага да яго прыметніка, лічэбніка або займенніка: *вядомая справа, вядомая рэч; іншымі словамі, адным словам, пэўным чынам, галоўным чынам, тым часам, такім парадкам.*

## ДЗЕЯСЛОЎНЫ ТЫП

§ 193. Сярод спалучэнняў дзеяслоўнага тыпу выдзяляюцца:

1. Пабочныя спалучэнні з асабовай формай дзеяслова ў якасці галоўнага члена:

а) спалучэнні дзеясловаў абвеснага ладу 1-ай асобы адзіночнага і множнага ліку цяперашняга і будучага часу з асабовымі займеннікамі 2-ой асобы, назоўнікамі (з прыназоўнікамі і без іх), прыслоўямі: *прызнаюся вам, проста скажу, скажу па праўдзе, скажу па сакрэту, скажу па шчырасці;*

б) спалучэнні дзеясловаў, пераважна са значэннем думкі, успрыняцця ў форме 2-ой асобы адзіночнага і множнага ліку цяперашняга часу з постпазіцыйнымі асабовымі займеннікамі ў назоўным склоне: *бачыш ты, ведаеш ты, разумееце вы;*

в) спалучэнні дзеясловаў загаднага ладу 2-ой асобы адзіночнага і множнага ліку з постпазіцыйнымі асабовымі займеннікамі *(скажы ты, глядзі ты)* і зваротным займеннікам *(заўваж сабе, уяві сабе)*, з назоўнікамі ў вінавальным склоне без прыназоўніка *(зрабі ласку);*

г) спалучэнні зваротнага дзеяслова ў форме 3-яй асобы адзіночнага ліку цяперашняга часу з асабовым займеннікам у давальным склоне *(мне здаецца, мне думаецца, мне ўяўляецца)* і з адносным займеннікам у назоўным склоне *(што называецца)*.

2. Пабочныя спалучэнні з інфінітывам у якасці галоўнага слова:

а) спалучэнні інфінітыва з назоўнікам у родным склоне з прыназоўнікам *з (з дазволу сказаць)*, з назоўнікам у давальным склоне з прыназоўнікамі *па, к (па праўдзе сказаць, к слову сказаць);*

б) спалучэнні інфінітыва з прыслоўямі: *проста сказаць, лепш сказаць, карацей сказаць, дарэчы сказаць*, а таксама з безасабова-прэдыкатыўнымі словамі: *трэба сказаць, можна сказаць, трэба прызнацца.*

3. Пабочныя спалучэнні слоў з дзеепрыслоўем у якасці галоўнага слова:

а) спалучэнні дзеепрыслоўяў з назоўнікам у вінавальным склоне *(праўду кажучы)* і ў давальным з прыназоўнікам *па (па праўдзе кажучы);*

б) спалучэнні дзеепрыслоўяў і асабовых займеннікаў з прыназоў-

нікамі *паміж (між), пры: паміж (між) нас кажучы, паміж (між) намі гаворачы, не пры вас (не пры ім) кажучы;*

в) спалучэнні дзеепрыслоўяў з прыслоўямі: *уласна кажучы, дакладна кажучы, шчыра кажучы, прасцей кажучы, мякка кажучы, не тут кажучы, няўрокам кажучы.*

Пабочныя спалучэнні слоў дзеепрыслоўнай формы трэба адрозніваць ад блізкіх да іх адасобленых дзеепрыслоўных зваротаў. Розніца паміж імі ў тым, што пабочныя дзеепрыслоўныя спалучэнні слоў адносяцца, як правіла, да ўсяго сказа, выражаючы суб'ектыўныя адносіны асобы да яго зместу, у той час як дзеепрыслоўныя звароты адносяцца толькі да дзеяслова-выказніка, абазначаючы дадатковае дзеянне.

4. Спалучэнні пабочных слоў з прыслоўямі, займеннікамі, злучнікамі. Пабочныя канструкцыі гэтага тыпу ўтвараюцца на аснове спалучэння пабочных слоў з прыслоўямі *як, калі*, займеннікам *што*, якія выступаюць у ролі адносных слоў, і злучнікамі *ці, калі*, якія служаць граматычнымі сродкамі далучэння пабочных элементаў да выказвання. Такія канструкцыі выражаюцца:

а) спалучэннямі *як, калі* з формамі дзеясловаў цяперашняга і прошлага часу: *як кажаш, як казаў, як гаворань, як гаворыцца, як бачу, як бачыш, як бачыце, калі хочаце, калі жадаеце;*

б) спалучэннямі *як, калі, ці* з неазначальнай формай дзеяслова, якая нярэдка ўскладняецца прыслоўямі, назоўнікамі, займеннікамі: *як відаць, як сказаць, як трэба адзначыць, як можна думаць, як трэба думаць, ці лепей сказаць, ці праўдзівей сказаць* і інш.;

в) спалучэннямі *як, што* з дзеепрыметнікамі залежнага стану прошлага часу ніякага роду: *як адзначана, як было адзначана, што сказана.* Яны ўласцівы дзелавому стылю мовы;

г) спалучэннямі *як* з назоўнікамі ў вінавальным склоне з прыназоўнікам: *як на шчасце, як на бяду, як на грэх, як на злосць, як на дзіва;*

д) спалучэннямі *як* з прыслоўямі і безасабова-прэдыкатыўнымі словамі: *як вядома, як наўмысна, як трэба, як патрэбна, як звычайна, як заўсёды.*

Пабочныя спалучэнні слоў устойлівага тыпу адносяцца да непрадуктыўных, хоць і шырокаўжывальных. Тут пераважаюць прыназоўнікавыя спалучэнні:

а) спалучэнні назоўніка ў родным склоне з прыназоўнікам *з* і дапасаванага да яго прыметніка або займенніка: *з аднаго боку, з другога боку, з свайго боку, з вашага дазволу;*

б) спалучэнні назоўніка ў родным склоне з прыназоўнікам *з* і кіруемага ім назоўніка ў родным склоне: *з пункту погляду, з пункту гледжання;*

в) спалучэнні назоўніка ў давальным склоне з прыназоўнікам *па* і дапасаванага да яго прыметніка: *па меншай меры, па крайняй меры;*

г) спалучэнні назоўніка ў вінавальным склоне з прыназоўнікам *на* і дапасаванага да яго займенніка: *на тую бяду, на ўсякі выпадак;*

д) спалучэнні назоўніка ў вінавальным склоне з прыназоўнікам *у* і субстантывіраванага займенніка: *у дадатак да ўсяго;*

е) спалучэнні аднакарэнных займеннікаў у родным склоне з прыназоўнікам *на: усяго на ўсяго;*

ё) спалучэнні прыслоўяў і займеннікаў пры дапамозе прыназоўнікаў: *перш-на-перш, перш за ўсё.*

Такім чынам, у якасці пабочных спалучэнняў слоў у сучаснай беларускай мове ўжываюцца свабодныя і фразеалагічныя словазлучэнні розных структурных тыпаў.

## ПАБОЧНЫЯ СКАЗЫ

§ 194. Пабочнымі называюцца сказы, уключаныя ў іншы сказ, але не звязаныя спалучальнай ці падпарадкавальнай сувяззю ні з адным з яго членаў. Значэнне пабочных сказаў адпавядае значэнню пабочных слоў[1]: яны могуць указваць на пэўнасць ці няпэўнасць паведамлення, заключанага ў асноўным сказе, даваць яму эмацыянальную ацэнку, характарызаваць стыль, вызначаць экспрэсію маўлення, указваць на суадносіны паміж асобнымі часткамі выказвання ці выражаць розныя заклікі да субяседніка.

Характэрнымі прыметамі, якія адрозніваюць пабочныя сказы ад пабочных слоў і спалучэнняў слоў, з'яўляюцца большая канкрэтнасць іх зместу і адносная сэнсавая закончанасць.

У якасці пабочных сказаў могуць выступаць:

1) двухсастаўныя асабовыя сказы: *Іларык, як казала маці, быў хлопчык ціхі, паслухмяны* (А. Якімовіч); *Вада пад камень пад ляжачы, гавораць людзі, не бяжыць* (А. Бялевіч); *Вясновай яснай раніцай, казаў ён, можна ўбачыць, як нізка пырхаюць, кружацца над крынічкай птушкі, любуючыся сабой, як у люстэрку* (Т. Хадкевіч); *У рэчцы пад карчамі, калі я не памыляюся, водзяцца ракі* (Я. Маўр); *Гасяць, чуў я, пажары сустрэчным агнём* (А. Куляшоў);

2) аднасастаўныя няпэўна-асабовыя сказы: *Як гавораць, сад калгасны ён трымае на плячах* (А. Бялевіч); *Піліп Раднік, «хітры мужычок», як яго называлі, мнагазначна ўсміхаўся* (І. Шамякін); *Кажуць, месяц прыцягвае хвалі марскія* (М. Танк); *Тут у вас, мне толькі што казалі, рэчка блізка?* (Я. Скрыган);

3) аднасастаўныя безасабовыя сказы: *Рэчка, як нам здавалася, пачынала мялець* (І. Навуменка); *Стралялі аднекуль зводдалек і, як цяпер было ўжо відаць,— мінамі* (І. Мележ); *Пайшла яна, як можна было меркаваць, у напрамку да Палікарпаўны* (А. Кулакоўскі).

Пабочныя сказы ўключаюцца ў асноўны сказ як без злучнікаў, так і пры дапамозе злучнікаў і злучальных слоў: *Яшчэ, як той казаў, не ўсё скончана* (Я. Брыль); *Вось гэта, я разумею, практычнае знаёмства* (І. Шамякін); *Настрой у людзей, заўважыў ён, быў трывожны, усіх непакоіла няўдача* (І. Мележ); *Яму ўжо прыйшлося, як і ўсім дзецям беднаты, прыняць удзел у будаўніцтве жыцця, калі можна так сказаць* (Я. Колас); *Але, што не кажы сабе, узмужнеў ты і спрыту патрэбнага набыў і добрай кемлівасці* (М. Лынькоў).

Пабочныя канструкцыі стылістычна разнародныя, яны шырока распаўсюджаны і ў кніжным, і ў размоўным стылях. У мастацкай літаратуры пабочныя элементы выкарыстоўваюцца як выразны сродак для стварэння моўных характарыстык персанажаў. Навуковаму і дзелавому стылям уласцівы пабочныя словы, спалучэнні слоў і сказы, якія выражаюць лагічныя сувязі і адносіны паміж часткамі сказа, указваюць на паслядоўнасць выкладу думак.

---

[1] Супастаўленне пабочных слоў, спалучэнняў слоў і сказаў сведчыць аб тым, што рэзкіх граніц паміж імі няма. Гэта супастаўленне яшчэ раз пацвярджае наяўнасць пераходных з'яў у сінтаксісе. Асабліва паказальныя ў гэтым плане аманімічныя сінтаксічныя канструкцыі, якія адрозніваюцца толькі функцыянальна. Параўн.: *Вядома, што чалавек ён выхаваны* (*вядома* — галоўная частка складаназалежнага сказа) — *Вядома, чалавек ён выхаваны* (*вядома* — пабочны сказ) — *Ён, вядома, чалавек выхаваны* (*вядома* — пабочнае слова).

Злоўжываць пабочнымі словамі, спалучэннямі слоў і сказамі не трэба. Ужытыя недарэчы, яны засмечваюць мову. Выкарыстанне пабочных адзінак у сказе павінна быць апраўдана тым зместам, які хоча выразіць той, хто гаворыць.

## УСТАЎНЫЯ КАНСТРУКЦЫІ
### (словы, спалучэнні слоў і сказы)

### АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА

§ 195. Устаўнымі называюцца інтанацыйна адасобленыя словы, спалучэнні слоў і сказы, якія ўводзяцца (устаўляюцца) у сказ для выражэння розных дадатковых заўваг, што паясняюць, удакладняюць і развіваюць змест асноўнага выказвання: *Бальзак ніяк не выйшаў з рамак свайго (буржуазнага) класа, які ён так высмейваў і крытыкаваў* (К. Чорны); *Хурс ужо сядзеў за сталом (снедаў)* (К. Чорны); *Гэтак сама адна маці — праўда, дасціпная,— адна ў полі, адна ў хаце, корміць, абмывае* (Я. Колас); *Не будку мае Жук — палацы (хоць не свае, вядома, працы)* (К. Крапіва); *Мы пазналі без памылкі — выдаў шэлест цемнаты,— што прывезлі нам пасылкі, тэлеграмы і лісты* (П. Глебка); *Абвяшчае генерал — у ім пазнаў ён сына — байцам дывізіі прывал* (А. Куляшоў); *У промні — дзень пагодны — жыў і жыве ў табе, салдат, нязломны дух народны* (М. Лужанін); *Цяпер таксама па небе — ужо не нашым, палескім, а чужым, нямецкім,— беглі, плылі хмурыначкі-хмаркі,— плылі зусім гэтак жа, як і там, у нас дома — паволі-паволі, адна адну даганяючы, злучаючыся і зноў разлучаючыся* (Б. Сачанка); *Мост не знае таксама — адкуль яму знаць? — што не будзе Пятлянка пад ім булькатаць* (А. Куляшоў); *Мне ішоў чатырнаццаты год, калі раптоўна, у ад'ездзе ад дому, памёр ад разрыву сэрца (так некалі казалі пра сённяшні інфаркт) мой бацька-каморнік* (А. Васілевіч).

Такія заўвагі, паясненні, удакладненні могуць быць малаістотнымі, другараднымі, але могуць быць і вельмі важнымі для разумення сэнсу сказа. Для ўстаўных канструкцый характэрна спецыфічная інтанацыя: яны звычайна выдзяляюцца ў сказе некалькі паніжаным тонам і больш хуткім тэмпам вымаўлення, а таксама паўзамі. Аднак доўгімі паўзамі, рэзкім паніжэннем тону і залішне паскораным тэмпам устаўныя канструкцыі вымаўляць нельга: парушыцца цэласнасць выказвання. На пісьме ўстаўныя канструкцыі выдзяляюцца дужкамі ці працяжнікамі. Устаўны характар канструкцый, пры іх інтанацыйным і пунктуацыйным выдзяленні, дазваляе падкрэсліць наяўныя ў іх звесткі, звярнуць на іх увагу чытача ці слухача. Функцыю ўстаўных могуць выконваць разнастайныя паводле граматычнай афармленасці адзінкі: ад мінімальнай і прасцейшай (напрыклад, толькі клічны і пытальны знак, які перадае адносіны да выказвання) да складанага сказа і нават цэлага абзаца: *Базараву «хочацца напомніць аб некаторых несправядлівасцях (!!) у адносінах да Талстога, у якіх вінаваты рускія інтэлігенты наогул, а мы, радыкалы розных толкаў, у асаблівасці»* (У. І. Ленін); *Сцэна (дадатковая), якая падвешана (!) над звычайнай сцэнай, важыць зноў жа ні многа ні мала — сорак пяць тон* (А. Васілевіч); *Не толькі што дзеці, бацькі ўжо не ведаюць пра страшны — з кары і імху — горкі хлеб* (П. Панчанка); *А на дварэ — над немцамі,*

*людскімі пакутамі, блізкай смерцю — ціха лунаў надвячорак цудоўнай восеньскай пары — бабінага лета* (В. Быкаў); *Наўрад ці ўпрыгожваюць паэтычны твор радкі накшталт: «Букет струменяў пералівісты шугнуў падобна рысаку (?)», «Зямля ўсміхаецца абсохлая, пячэ у пяткі ёй пясок (?)»* (Н. Гілевіч).

У літаратурна-пісьмовай мове ўстаўныя канструкцыі ўжываюцца звычайна ў якасці наўмыснага прыёму, рознае выкарыстанне якога залежыць ад стылю мовы і стылістычных асаблівасцей самога твора. Аднак і тут устаўныя канструкцыі могуць з'явіцца вынікам увядзення дадатковага выказвання, якое ўзнікла ў працэсе пісьма: *Абагнаўшы, не згінаючыся ўжо беражліва перад галлём, роўна, уздымна седзячы, ён* [Васіль], *здавалася, чуў на спіне позіркі ўсіх, хто сядзеў там на возе, і сярод іх асабліва — помслівы і па-юначы радасна — яе позірк* (І. Мележ); *На насілках пад кажушком ляжаў маладжавы яшчэ камандзір з двума шпаламі ў чорных пятліцах (як даведаліся потым, быў ён з танкавай часці, якая падтрымлівала іх дывізію)* (В. Быкаў); *Аграномы прапанавалі зжаць квадратны метр плошчы (бо пшаніца ўжо гатовая для жніва), абмалаціць і зважыць, потым палічыць вагу на гектар* (П. Пестрак); *Шчасце здабудуць сабе назаўсёды — так будзе! — гордасць і слава зямлі нашай — простыя людзі* (А. Куляшоў).

У вуснай мове, хуткае цячэнне якой не дае магчымасці загадзя прадугледзець неабходныя папярэднія даведкі, устаўныя канструкцыі часта з'яўляюцца сродкам выражэння думкі, якая ўзнікла ў момант паведамлення, «на хаду».

У структурна-граматычных адносінах устаўныя канструкцыі неаднародныя. У саставе сказа яны могуць афармляцца па-рознаму:

1) як члены сказа, з захаваннем сінтаксічнай сувязі; такія «члены сказа» выключаюцца з яго саставу інтанацыйна ў вымаўленні і графічна на пісьме, набываючы дзякуючы гэтаму асобую, паяснальна-ўдакладняльную функцыю: *Дзве ядлаўчыны — гэтакія знаёмыя — тырчэлі над аснежаным выганам* (К. Чорны); *Пінчук працаваў раней на заводзе «Бальшавік» (былым Абухаўскім) у Ленінградзе* (І. Гурскі); *У Вашамірскай заўсёды торт (вельмі мастацкай работы) быў традыцыйнай украсай стала* (З. Бядуля);

2) як даданыя сказы: *На адной фатаграфіі чалавек выйшаў з нейкім пагнутым носам (калі толькі сапраўды нос быў у яго просты), з адтапыранымі губамі* (К. Чорны); *Пад камандай Пяхоты як галоўнага агранома калгаса (бо прыехала яшчэ аграном-дзяўчына) прароблены парнікі на агародным надазер'і* (П. Пестрак); *Выпаліўшы печы (калі сонца ўжо стала вышэй лесу), выйшлі ў поле жанчыны* (В. Каваль); *Не верыцца — хоць кліч сябровў у сведкі,— што ўжо мінула роўна дваццаць пяць* (А. Бачыла).

Аформленыя як члены сказа ці як састаўная частка складанага сказа, устаўныя канструкцыі характарызуюцца дваістай сінтаксічнай прыродай: з аднаго боку, у асноўным сказе яны выконваюць функцыю яго членаў ці частак складанага сказа, з другога боку, называючы пабочныя заўвагі, яны істотна адрозніваюцца ад членаў сказа і ад даданых сказаў, так як, выпадаючы па сэнсу з саставу цэлага сказа, сінтаксічна менш цесна звязаны з ім.

У іншых выпадках устаўныя канструкцыі структурна не звязаны са сказам. Як правіла, гэтыя словы і дамініруючы кампанент спалучэнняў слоў стаяць у назоўным склоне: *Ад яе працы (любая мамачка!) вее ў сэрца цёплай радасцю* (М. Гарэцкі); *Высокая дамба — не*

*грэбля — лягла на рачны сухадол* (М. Калачынскі); *Гэтае месца (востраў, акружаны з усіх бакоў балотам) яму спадабалася* (М. Лынькоў).

Такім чынам, многія ўстаўныя канструкцыі функцыянальна і сінтаксічна зближаюцца з членамі сказа, дададзенымі часткамі складанага сказа, далучальнымі канструкцыямі.

Рэзка выражаную граматычную спецыфіку сярод устаўных канструкцый маюць прэдыкатыўныя адзінкі — устаўныя сказы: *У адным сяле (няважна — дзе) хадзіў баран у чарадзе* (К. Крапіва); *Раніцай у апошні дзень снежня — толькі-толькі засінела ў вокнах — зазвінеў званок у дзвярах* (Т. Хадкевіч); *З захаду, дзе схавалася сонца — дзень быў ясны, марозны,— плыла хмара* (І. Шамякін); *Вясна была засушлівая, прайшлі толькі два ці тры невялікія дажджы (што гэта значыць для пясчанай глебы!)* (І. Гурскі); *Самы большы пакой — а ён знаходзіўся пры ўваходзе ў кватэру — быў прыстасаваны спецыяльна для святочных візітаў* (Я. Колас); *Школа (я адразу ўбачыў і беспамылкова пазнаў) стаяла ўбаку, за гародамі, бліжэй да лесу* (І. Шамякін).

Устаўныя сказы вельмі часта маюць падтэкст, невербалізаваныя думкі, пачуцці, назіранні. У выніку сказы, ускладненыя ўстаўнымі адзінкамі, інфарматыўна больш багатыя, чым сказы з пабочнымі кампанентамі.

Пабочныя і ўстаўныя элементы некалькі падобныя паміж сабой. Па-першае, як пабочныя, так і ўстаўныя канструкцыі прыўносяць у асноўны сказ экспрэсію, узбагачаючы яго іншым, дадатковым зместам. Па-другое, як пабочныя, так і ўстаўныя канструкцыі могуць уключацца ў састаў сказа пры дапамозе злучнікаў і злучальных слоў. Па-трэцяе, устаўныя, як і пабочныя, канструкцыі фармальна-граматычна не звязаны са сказам.

Устаўныя і пабочныя канструкцыі адрозніваюцца паміж сабой па функцыі ў мове.

Характэрнай прыметай пабочных адзінак з'яўляецца іх суб'ектывізм, выражаныя ў іх суб'ектыўна-мадальныя адносіны да рэчаіснасці. Устаўныя ж канструкцыі — адзін са сродкаў выражэння аб'ектыўнай мадальнасці: яны ў пэўных адносінах паясняюць, удакладняюць і развіваюць змест асноўнага выказвання.

Устаўныя канструкцыі ў адрозненне ад пабочных маюць і асобыя структурна-граматычныя ўласцівасці, абумоўленыя спецыфічным характарам іх функцый. Калі пабочныя адзінкі складаюць адносна ўстойлівую, абмежаваную колькасць слоў і спалучэнняў слоў, а таксама строга акрэслены структурны тып пабочных сказаў, то ўстаўныя канструкцыі не абмежаваны пэўнымі лексіка-граматычнымі сродкамі выражэння, яны характарызуюцца разнастайнасцю структурных тыпаў.

Устаўныя канструкцыі адрозніваюцца ад пабочных інтанацыяй і месцам размяшчэння ў сказе.

## СЕМАНТЫЧНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА УСТАЎНЫХ КАНСТРУКЦЫЙ

§ 196. Сэнсавыя і стылістычныя функцыі ўстаўных канструкцый разнастайныя.

І. Устаўныя канструкцыі шырока выкарыстоўваюцца пры тлумачэнні малазразумелых ці рэдкаўжывальных слоў і выразаў (архаізмаў, не-

алагізмаў, абласных слоў, тэрміналагічнай лексікі і пад.). Тлумачэнне ажыццяўляецца як шляхам дакладнага азначэння паняцця, так і праз сінанімічнае супастаўленне паясняемага і паясняючага: *За соснікам пачынаецца імшара — высокі верас па поясі багун* (І. Пташнікаў); *Аджываюць свой век і такія беларускія словы, як «андарак», «камора», «калітка» (у сэнсе кашалёк), «аловак» выцясняецца «карандашом»* (К. Крапіва); *Арцём сядзеў на ганку, ускінуўшы на плечы гуню (світку), і курыў* (А. Чарнышэвіч); *Міхалка бачыў вельмі выразна, як Скуратовіч дайшоў да палявой ігрушы (дзічкі), што расла паміж лесам і хутарам* (К. Чорны); *Між каменняў былі такія буруны (прыбой), што аб'язджаць іх было вельмі рызыкоўна* (Я. Маўр); *Разводзяць яны* [папуасы] *какосавую пальму, таро, бананы, ямс (як проса), тытунь* (Я. Маўр); *У руках у яго вялікая галка камякоў (бульбяной кашы)* (К. Крапіва); *Назаўтра ў «выўратоўцаў» — бунтароў — афіцэры перад строем забралі вінтоўкі* (Я. Брыль); *У мове сустракаюцца словы, якія гучаць аднолькава, але маюць зусім рознае значэнне. Напрыклад: каса (частка сушы), каса (сельскагаспадарчы інвентар), каса (дзявочая); блок (механізм), блок (саюз) і інш.* (М. Цікоцкі).

II. Устаўныя канструкцыі ўжываюцца для ўдакладнення выказвання ў цэлым ці асобных яго кампанентаў: 1) раскрываюць рэальнае значэнне займеннікаў: *Захопленыя гамонкаю, яны* [жанчыны] *не звažалі на малога Дзятліхі — Валодзьку, тым больш, што гаспадара — Васіля, ля агню не было: недзе паіў каня* (І. Мележ); *Яна (вуліца), упіраецца прама ў цёмна-сіні заліўчык возера* (І. Мележ); *Ён (стары Міхаеневіч) слаўны паляўнічы* (З. Бядуля);

2) канкрэтызуюць значэнне ўласных назоўнікаў: *Ягаднае — асушанае калгаснікамі балота — вузкай і доўгай паласой уразалася ў лес* (І. Шамякін); *З-за непагадзі паездка да Разліва (возера Леніна) была адкладзена* (М. Лупсякоў); *Быстрынка — так называлася невялікая рачулка — ціха плыла сярод кустоў алешніку і вербалозу* (У. Краўчанка);

3) удакладняюць агульнае родавае паняцце шляхам указання на асобныя яго віды: *Вялікі вопыт вучыў, што каму-каму, а яго* [Апейкі] *амаль заўсёдным слухачам — сялянам — патрэбна нязменна: канкрэтнасць, дзелавітасць, яснасць* (І. Мележ); *Чым далей ён* [Васіль] *так ступаў, мерна, лапаць за лапцем, тым больш цела яго — рукі, ногі, спіна — наліваліся зняможнай стомай, прыемнай, хмельнай, нібы пасля гарэлкі* (І. Мележ); *Ганаровае званне — народны паэт — з'яўляецца найвялікшым прызнаннем народнасці мастака, прызнаннем вялікай сілы яго таленту, неўміручасці ўсёй яго творчасці* (І. Шамякін); *Тэхнічныя культуры — такія, як каноплі — могуць азалаціць калгас* (П. Пестрак);

4) ілюструюць асноўнае выказванне прыкладам: *На жаль, такія таленты-гіганты, як Леў Талстой (узнавіць праўдзіва і па-мастацку гісторыю праз сто гадоў!), нараджаюцца, можа, раз на трыста-чатырыста гадоў* (Маладосць, 1984); *Пад націскам мы атрымліваем не а, а о (роў, зароў)* (К. Крапіва); *Некаторыя беларускія словы заменены рускімі (дзерввяны — дзераваны(й))* (Я. Колас);

5) служаць для выдзялення найбольш важнай часткі выказвання: *Палітыка-выхаваўчая праца сярод моладзі (асабліва ў вышэйшых навучальных установах) павінна заняць належнае месца* (Звязда, 1985); *Выграб ямку пад рэйкай паміж шпаламі, уставіў тол, тады — найбольш адказная работа, — сабраўшы ўсю*

*асцярожнасць, ён прывязаў да кручка шнурок і кужаль і заправіў у заpад* (Я. Брыль); ...*У тыраж выходзіць вялікая колькасць кніжнай прадукцыі (у п е р ш у ю ч а р г у ш к о л ь н ы я п а д р у ч н і к і), і гэту прадукцыю трэба друкаваць нанава* (К. Крапіва);

6) могуць удакладняць змест асноўнага выказвання, указваючы на час ці месца дзеяння, або канкрэтызаваць часавае ці прасторавае паняцце, выражанае ў асноўным тэксце ў больш агульнай форме. Такую функцыю выконваюць пераважна ўстаўныя сказы, якія пачынаюцца спалучэннямі тыпу *гэта было, справа была*: *Калісьці (г э т а б ы л о м е н ш з а м е с я ц т а м у н а з а д, а з д а е ц ц а д а ў н о - д а ў н о) у такі час сяло як бы абуджалася пасля дзённай цішыні* (І. Мележ); *У цішыні — б ы л о ў ж о з а п о ў н а ч — пачуўся гудок паравоза* (К. Чорны); *Да Сялюціч падышлі апоўначы (г э т а б ы л о д а в о л і д а л ё к а а д л а г е р а б р ы г а д ы)* (І. Мележ); *Аднойчы (г э т а б ы л о г а д ы с а д в а т а м у н а з а д) Васіль Шаман і нампаліт заспрачаліся, колькі патрэбна часу, каб вызначыць, ці добры старшыня калгаса* (М. Паслядовіч); *Янка Тукала жыў не так далёка ад Мікуціч — з а Н ё м а н а м в я р с т ы т р ы* (Я. Колас);

7) абмяжоўваюць пэўнае паняцце шляхам выключэння: *Але «малы» Лондан (б е з п р ы г а р а д а ў) — таксама не маленькі* (К. Крапіва); *Манг і ўсе жанчыны (а п р а ч а б е л а й) пайшлі ў лес па ягады* (Я. Маўр);

8) удакладняюць выказаную думку шляхам яе расшырэння: *І ён доўга глядзеў так у неба — а д з і н н а а д з і н з С у с в е т а м з с о т н я м і з о р, в я л і к і х і л е д з ь в е п р ы к м е т н ы х, з к р ы в о ю д а р о г а й Ч у м а ц к а г а ш л я х у ц е р а з у с ё н е б а* (В. Быкаў); *Выдатным дасягненнем Янкі Маўра — майстра не толькі ў літаратуры, а, напэўна, і ў слясарнай, тэхнічнай справе (н е з д а р м а ж ё н к а н ч а ў р а м е с н а е в у ч ы л і ш ч а!) — была аповесць «ТВТ»* (Звязда, 1985); *Яна* [Жэнька] *не магла моцна плакаць, толькі плечы яе ўздрыгвалі ды збянтэжана трэслася — м ы ш ы н ы х в о с ц і к — тоненькая светлая коска* (К. Крапіва); *Прамень сонца спачатку з'явіўся на столі — в у з к а я р у ж о в а я п а л о с к а, п е р а л а м а н а я ў к у ц е* (І. Шамякін); *Паступова праз словы і рэчы перада мной раскрывалася яе жыццё — к л о п а т ы, с п р а в ы, д у м к і н а с т а ў н і ц ы ў д а л ё к а й п а л е с к а й в ё с ц ы* (І. Шамякін); *Конь — б я л ь м а т ы н а л е в а е в о к а К а р л — цюпаў памалу, ледзьве перастаўляў свае старыя касцістыя ногі* (Б. Сачанка); *Цяпер ён, маёр Сяржант (н е а д з і н у с м і х а ў с я, п а ч у ў ш ы, я к т у т с т а л і п о б а ч з в а н н е і п р о з в і ш ч а) заўсёды цікавы і часта вясёлы субяседнік сядзеў моўчкі, задуманы* (Я. Брыль).

Сярод устаўных канструкцый гэтага разраду выдзяляюцца:

а) канструкцыі, якія, указваючы на характэрную прымету чаго-небудзь, выражаюць паясняльна-далучальныя адносіны: *Да 15 год ёй* [Наташы] *не хапае толькі тры месяцы, і сакратар калгаснай камсамольскай арганізацыі Косця Прынцып (г э т а я г о х л о п ц ы т а к п р а з в а л і, с а п р а ў д н а е ж я г о і м я і п р о з в і ш ч а б ы л о К а н с т а н ц і н С а в е л ь ч ы к) сказаў ёй...* (І. Шамякін); *Вера жыла ў свайго бацькі Івана Маеўскага (у в ё с ц ы д о б р а я т р э ц я я ч а с т к а ж ы х а р о ў м е л а г э т к а е п р о з в і ш ч а)* (І. Шамякін); *Аднойчы бацька паслаў мяне з нейкай запіскай да суседа-лесніка — т а к, п а э с т а ф е ц е, а д а д н а г о д а д р у г о г а п е р а д а в а л а с я п о ш т а л я с н і ц т в а* (І. Шамякін); *У цішыні, чуваць было, з высокай пастаўні цярушыцца апад (ж а ў н а к а р у м я д з я н у ю д з я ў б л а)* (М. Танк); *А ён, яшчэ раз скалануўшыся ад холаду, ускочыў, шалёна*

*замахаў у паветры рукамі, пачаў выкідваць убокі ногі і прысядаць — выпрабаваны салдацкі спосаб сагрэцца* (В. Быкаў);

б) канструкцыі, што выражаюць адносіны прычыны і выніку: *Дарога — ад таго, што шырокая, ветраная і пыльная — вясёлая* (К. Чорны); *Лорд не любіў яркага святла—балелі вочы — і выключаў лішнія лямпы* (М. Лынькоў); *На купінах каля пнёў, дзе каса не кранула травы (яе цяжка абразаць ля дрэва) застылі, мусіць, мокрыя ад расы, блакітныя балотныя званочкі* (І. Пташнікаў);

в) канструкцыі, звязаныя з асноўным саставам сказа ўступальна-супраціўнымі адносінамі: *Мне не лёгка расстацца з табою (хоць даўно ўжо мінуў аўдыенцыі час)* (М. Танк); *Нам трэба выхоўваць людзей гарманічна развітых, не вузкіх — няхай і бліскучых — спецыялістаў, а людзей вялікага грамадзянскага тэмпераменту* (ЛіМ, 1985); *Ен адчуў, як знябыўся за жыццё і вайну ў адзіноце,—салдацкае таварыства было ўсё ж з іншае катэгорыі адносін* (В. Быкаў); *Рыпнулі дзверы, і на ганачку з'явілася жанчына маіх год (хоць у першую хвіліну яна здалася старэйшай), з грубаватымі, як у мужчыны, рысамі твару* (І. Шамякін);

г) канструкцыі, звязаныя з асноўным саставам сказа супастаўляльна-супрацьпастаўляльнымі адносінамі: *Хваля — не хваля, хмара — ускідваецца высока над берагам, уздымаючы над сабой светлую грыву пырскаў* (І. Мележ); *Ляцець — не йсці — прывыкла на колах пошта ўслед* (М. Калачынскі); *Быў чалавек не паголены, твар яго зарос сівым шчаціннем, нос — бульбіна—пасівераў і цяпер аблазіў, лупіўся* (Б. Сачанка);

д) канструкцыі, якія выконваюць службовую функцыю, г. зн. з'яўляюцца звычайнымі спасылкамі на выкарыстаную аўтарам літаратурную крыніцу, яе выданне, старонку: ... *Аб матывах і характары нядаўняга іхняга звону пісаў Янка Купала ў лісце ў рэдакцыю «Звязды»* (№ 90 за 2 красавіка 1931 г.) (Я Колас); ... *Весткі аб ім знаходзяцца ў «Хроніцы Гваніны», надрукаванай у 1578 г. лацінкаю і ў 1611 г.— польскаю моваю (гл. «Полоцко-Витебская старина», 1916, вып. III, стар. 325 — 329), Гваніны, па паходжанню італьянец...* (Я. Колас).

III. Устаўныя канструкцыі са значэннем эмацыянальна-экспрэсіўнай ацэнкі. У мастацкім стылі часта сустракаюцца ўстаўныя канструкцыі, якія звычайна выпадаюць з агульнага лагічнага плана паведамлення і выкарыстоўваюцца пісьменнікамі як сродак перадачы сваіх эмацыянальна-ацэначных тлумачэнняў і характарыстык: *Мы б адчулі гэтае хараство ночы (ціхае хараство ў вайну!), але дрымота і здранцвеласць цела туманіла нам галовы і зацягвала сэрца карою абыякавасці* (К. Чорны); *З таго часу жыццё не раз і не два пляскала ў гразь яшчэ ці даўно. самага паважанага, самага моцнага — можна сказаць самага магутнага ў Куранях — гаспадара* (І. Мележ); *Цімох Панасавіч паціраў рукі ад хвалявання: каб чаго не здарылася — бываюць жа прыкрыя нечаканасці — і ад радаснага прадчування, што здарыцца нічога не можа* (І. Шамякін); *Палявы стан брыгады Лясовіча, да якога накіраваўся Паходня (ох, і хапіла ж размоў і пісаніны, пакуль стварылі такія станы ў трох найбольш буйных брыгадах), нагадваў маленькую часовую сядзібу* (Т. Хадкевіч).

Устаўныя канструкцыі гэтага разраду выражаюць розныя пачуцці (здзіўленне, радасць, захапленне і г. д.), выкліканыя папярэднім кантэкстам: *А на карэннях дуба — нябачны цяжар! — вісіць у кроплях дажджавых зямлі зялёны шар* (А. Вялюгін); *У розных кутках бе-*

*ларускай зямлі — там помнікі б з мармуру высечы!— славутыя колісь друкарні былі — гадоў таму ледзь не пайтысячы* (Н. Гілевіч); *Львіцы — як толькі могуць уседзецьу адной клетцы! — з чыста жаночай цікавасцю паглядалі праз краты клеткі* (М. Лужанін); *Сцепанідзе, відаць, надакучыла чакаць, яна спіхнула з воза малога — выліты Мікіта Самарос! — і паслала па бацьку* (А. Асіпенка).

## СЭНСАВАЯ СУВЯЗЬ УСТАУНЫХ КАНСТРУКЦЫЙ СА СКАЗАМ І СПОСАБЫ ЎКЛЮЧЭННЯ ІХ У СКАЗ

§ 197. Па сэнсу ўстаўныя канструкцыі могуць быць звязаны:

а) з усім сказам: *Ён* [Хадосьчын бацька Ігнат] *корпаўся з выслізганым вастрадзюбым падплеткам і лазоваю дзяжкаю — плёў лапаць* (І. Мележ); *Відаць, дарогі бягуць заўсёды туды, куды імкнецца чалавек (калі скончыцца вайна, дарогі павернуцца ва ўсе бакі — на ўсход, на поўдзень, на поўнач...). Цяпер жа ва ўсіх толькі адзін кірунак!* (І. Мележ); *Тысячы дзяўчат блакітнавокіх — па тварах бачу — зычаць шчасця мне* (П. Панчанка); *...Не адрываючыся ад паперы, падаў яму левую руку (у правай ён трымаў завостраны з абодвух канцоў чырвона-сіні алowак)* (К. Крапіва);

б) з часткай складанага сказа: *Наперадзе дамоў ужо не было, на касагорыне спакойна ляжаў някошаны лужок — у бязветранай цішы драмалі рамонкі, лагодна гойдаліся мяцёлкі нейкай травы, далей і вышэй у раўках і распадах пачынаўся лес* (В. Быкаў); *Жанчыны — праўда, іх было не так многа—памагалі гаспадыні накрываць стол, бо ўжо ўсе госці былі ў зборы* (Я. Колас); *Яўмен чытаў газету, у якой зноў (каторы раз за вясну!) пісалі пра Сяргея Бярозку* (І. Шамякін); *І калі давядзецца табе, Вадзім Рыгоравіч, жыць на зямлі — а ўміраць не трэба спяшацца — можа, і карысна будзе для справы, калі выведаеш ты ўсё аб асіных гнёздах* (М. Лынькоў);

в) з членам сказа: *Маці прала — адставіўшы руку, цягнула і цягнула пальцамі з «барады» на прасніцы кужаль, спрытна звівала яго ў нітку* (І. Мележ); *То ціснулі зямлю халады і чыстай беллю — аж адбірала вочы — шырыліся палі, то мокла адліга — снег сцямнеў, і, нудны, беспрасветны, церусіў дождж* (І. Мележ); *Прыцьмейшае наваколле — скальныя груды, адхоны, цяснiны і даліны — завалакла мутная мешаніна аблокаў* (В. Быкаў).

Паводле спосабу ўключэння ўстаўных канструкцый у сказ іх можна раздзяліць на тры групы:

1) канструкцыі, якія ўключаюцца ў сказ без злучнікаў і злучальных слоў: *У летні поўдзень — была спёка — выходзіць рой, снуе высока і на вярбе ўгары садзіцца* (Я. Колас); *У пярэднім пакоі жанчыны — маці з Зосяй — ляскалі посудам* (І. Чыгрынаў); *Шчасце здабудуць сабе назаўсёды — так будзе! — гордасць і слава зямлі нашай — простыя людзі* (А. Куляшоў);

2) канструкцыі, якія ўключаюцца ў асноўны сказ з дапамогай злучнікаў *і, а, ці* і інш.: *Практыка паказвае, што байка прыхільна сустракаецца чытачом (і слухачом) і стварае належны эфект* (К. Крапіва); *Як гэта вам падабаецца? — з пачуццём яўнай перавагі — і не толькі перавагі, а ле і від авочнай перамогі—праказаў маёр*

(М. Лынькоў); *А тут ужо дрымота зусім адабрала думкі і от ужо... (ці гэта са сну, ці сапраўды гэта ўсёна дварэробіцца) недзе плюхае вада* (К. Чорны); *Усё гэта не так ужо важна — ці мала як ездзілі дауней з кірмашу людзі — важна было здарэнне ў дарозе...* (Я. Колас); *Дзядзька Астап, а гэта быў ён, адпачываў у садку каля хаты* (М. Лынькоў); *Каля Нёмана, а ён тут працякаў недалёка, чуліся галасы плытагонаў* (Я. Колас); *Антон Крамарэвіч убачыў перад сабою хударлявага хлапчука, у якім (і гэта адразу кідалася ў вочы) нерашучасць і баязлівасць змагаліся з самай выразнай адвагай* (К. Чорны);

3) канструкцыі, якія ўключаюцца ў сказ пры дапамозе падпарадкавальных злучнікаў і злучальных слоў *калі, хоць, як, што, каторы, які* і інш.: *Для Юркі гэтыя паездкі — калі бацька браў яго з сабою — былі цэлым святам* (І. Мележ); *Калі заплюшчыць вока і глядзець доўга на гэтыя жылкі (як робіць Настачка), дык яны нагадваюць вялізны густы лес...* (З. Бядуля); *Зося — быццам хтось кальнуў яе іголкаю ў самае хворае месца — пачула вялікую боль* (Ц. Гартны); *Рак (што ўрэшце ўнерат сампапаўся) арцеллю кіраваў* (Э. Валасевіч); *Ён гасціў у таварыша на дачы... Аграфена Макараўна, сястра таварыша (якая потым вышла за яго замуж) называла яго Анціпікам* (З. Бядуля); *Яго ворагі і прыяцелі (што часамі бывае адно і тое ж) рады якой-небудзь няўдачы* (Э. Самуйлёнак); *Нават агульны выгляд твару меў характар цікавай асаблівасці (бо і дрэва мае свой воблік)* (Я. Колас); *Сцяпана зноў жа сон змарыў (хоць ён, здаецца, не курыў)* (К. Крапіва); *На зямлі ляжаў кавалачак паперы, на якім друкаваным ладам (каб не пазнаць было рукі) штосьці напісана* (К. Чорны).

Пастаяннага месца ў сказе ўстаўныя канструкцыі не маюць. Іх размяшчэнне залежыць ад таго, з усім сказам ці з часткай яго яны звязаны. Пачынаць сказ устаўныя канструкцыі не могуць. Калі яны адносяцца да ўсяго асноўнага сказа, то размяшчаюцца звычайна ў сярэдзіне ці ў канцы. Калі ж устаўныя канструкцыі адносяцца да аднаго якога-небудзь члена сказа, то яны звычайна ставяцца побач ці блізка ад яго, часцей постпазіцыйна: *Мястэчка Панямонь — прашу не змешваць яго з другою Панямонню — было ў трох вярстах ад станцыі, а можа, нават і меней* (Я. Колас); *Калі іх (панямонцаў) моцна што здзівіць, то сваё здзіўленне, — а гаварыць яны борздзенька, — выказваюць так: Ва! Ва!* (Я. Колас); *Мала таго, імя Маклая (яны вымаўляюць «Макрай») засталося для абазначэння добрага чалавека* (Я. Маўр); *Ідэйна-эстэтычны ўплыў слова на свядомасць і пачуцці вучняў пры вывучэнні творчасці пісьменніка (у яе сувязях з грамадскім жыццём, літаратурным працэсам і мастацкім развіццём чалавецтва) складае аснову сучаснай методыкі літаратуры як навукі* (Полымя, 1985); *Сухое сена (на ўзгорку ляжалі першыя пакосы) разлівала далёка навокал не толькі густы водар, які п'яніў, але і асаблівую цяплынь, якая ўзнімала настрой, будзіла фантазію, уяўленні і ўспаміны маленства* (І. Шамякін).

Своеасаблівая функцыя ўставак — дадаткова што-небудзь паведаміць, растлумачыць, матываваць, выказаць думку, звярнуць увагу, даць ацэнку і г. д. — дазваляе выкарыстоўваць іх у розных стылях. Устаўныя канструкцыі — адна з форм выражэння суджэнняў, роздуму, ацэнак. Іменна таму яны актыўна ўжываюцца ў навуковым стылі, у творах філасофскага характару, а таксама ў мастацкай літаратуры.

# АДНАСАСТАЎНЫЯ СКАЗЫ

## АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА

§ 198. Аднасастаўнымі называюцца сказы з адным галоўным членам (суадносным ці з выказнікам, ці з дзейнікам двухсастаўнага сказа, але не ідэнтычным яму), які сумяшчае ў сабе значэнне лагічнага суб'екта і прэдыката: *Без навукі цяжка жыць гэтым трудным векам* (Я. Колас); *Вось паказвалі ў рабоце конную касілку: няхітрая нібы рэч, а як лёгка працаваць на ёй. Кіруй адно са зручнага сядзення, слухай толькі, як бегаюць, чыкаюць спрытныя зубы-нажыкі, падразаючы траву* (І. Мележ); *Спрачайся да слёз, а ў бойку не лезь* (Прыказка); *Не, нашых пожняў больш ніколі чужому танку не таптаць* (А. Бачыла); *Калі мне пішацца, тады — такі багаты, што ўсе ракфелеры і форды не раўня* (П. Панчанка); *Ару нанова, сею, лешу абшар сваіх пражытых дзён...* (Р. Барадулін).

Наяўнасць у аднасастаўных сказах толькі аднаго з галоўных членаў — спецыфічная асаблівасць гэтых сказаў. Другі галоўны член і не ўзнаўляецца, і не падразумяваецца — у гэтым адрозненне аднасастаўных сказаў ад няпоўных. У апошніх, як вядома, адзін галоўны член не забяспечвае паўнаты славеснага выражэння думкі, у выніку чаго па-за кантэкстам і пэўнай сітуацыяй яны застаюцца незразумелымі. Так, у сказах тыпу *Пайду ў кіно* і па-за кантэкстам няма неабходнасці ў дзейніку. У адрозненне ад такіх сказаў няпоўныя двухсастаўныя сказы тыпу *Пайшоў у кіно* ў адрыве ад кантэксту аказваюцца незразумелымі і для паўнаты славеснага выражэння патрабуюць дзейніка.

Класіфікацыя аднасастаўных сказаў звычайна праводзіцца на аснове семантычных прымет (што асабліва важна пры вызначэнні іх пэўнасці, няпэўнасці, абагульненасці, пры адмежаванні аднасастаўных сказаў, у прыватнасці, намінатыўных, ад падобных да іх канструкцый) і з улікам граматычнага выражэння галоўнага члена.

У залежнасці ад формы выражэння галоўнага члена аднасастаўныя сказы дзеляцца на два асноўныя тыпы — дзеяслоўныя (*Прадавалі апельсіны; Думаю вучыцца; Світае; Быць бядзе*) і іменныя (*Поўдзень; Зіма; Народу!*).

Агульная ўласцівасць усіх дзеяслоўных аднасастаўных сказаў — бессуб'ектнасць. Суадноснасць суб'екта і дзеяння не выражана; дзеянне ўспрымаецца як незалежнае, самастойнае. Аднак незалежнае дзеянне можа быць унутрана суаднесена з «ідэяй суб'екта», г. зн. з дзеячам. Так, у сказе *Званілі па тэлефоне* дзеяслоў выражае дзеянне, выкананне якога прадвызначае наяўнасць пэўнага суб'екта, але дзеяч тут лексічна не выражаны і граматычна, у форме дзеяслоўнага галоўнага члена, прадстаўлены як няпэўны.

Паводле адносін дзеяння да яго вытворцы дзеяслоўныя аднасастаўныя сказы дзеляцца на чатыры тыпы: пэўна-асабовыя, няпэўна-асабовыя, абагульнена-асабовыя, безасабовыя. Асобую разнавіднасць дзеяслоўных аднасастаўных сказаў складаюць інфінітыўныя сказы.

У аснове выдзялення пэўна-асабовых, няпэўна-асабовых, абагульнена-асабовых і безасабовых сказаў ляжыць структурна-семантычны прынцып. Сутнасць яго ў тым, што пры вызначэнні тыпу аднасастаўных дзеяслоўных сказаў неабходна ўлічваць семантыку сказа па ступені пэўнасці дзеяння і суадносін гэтай семантыкі з формай выражэння галоўнага члена сказа.

Галоўны член дзеяслоўных аднасастаўных сказаў паводле свайго

сінтаксічнага значэння адрозніваецца ад залежнага галоўнага члена (выказніка) двухсастаўных сказаў. Асноўная рыса выказніка — суадноснасць з дзейнікам: граматычнае падпарадкаванне дзейніку, выражэнне прыметы, аднесенай да пэўнага суб'екта (*Мора шуміць; Сады цвітуць; Чалавек жыве*). Галоўны член дзеяслоўнага аднасастаўнага сказа з'яўляецца незалежным, выражаная ў ім прымета не аднесена да суб'екта (*Надзьмула снегу; Прынеслі пошту*), таму называць такі член выказнікам няправільна; характарызуючы структуру дзеяслоўных аднастаўных сказаў, трэба карыстацца тэрмінам «галоўны член» (аднасастаўнага сказа).

Агульнае граматычнае значэнне іменных аднасастаўных сказаў — выражэнне быційнасці і прэдыкатыўнасці (мадальныя і часавыя значэнні). Выражэнне мадальных і часавых значэнняў уласціва ўсім тыпам простага сказа (разумеецца, гэтыя значэнні выражаюцца па-рознаму). Быційнасць — спецыфічная рыса іменных аднасастаўных сказаў. Быційнасць, выражаная ў сказах *Цішыня; А машын!* з'яўляецца сінтаксічным, граматычным значэннем, звязаным з лексічным значэннем назоўнікаў.

Значэнне быційнасці ўзнікае ў выніку ўжывання назоўнікаў у назоўным або ў родным склоне ў незалежнай пазіцыі. Выражэнне быційнасці — умова «ператварэння» слова ў сказ. Неабходным сродкам гэтага «ператварэння» з'яўляецца прэдыкатыўная інтанацыя, якая тым самым удзельнічае ў выражэнні быційнасці.

У залежнасці ад формы выражэння галоўнага члена сярод іменных аднасастаўных сказаў адрозніваюць два структурныя тыпы — н а м і н а т ы ў н ы я (галоўны член выражаны назоўнікам у назоўным склоне) і г е н і т ы ў н ы я (галоўны член выражаны назоўнікам у родным склоне).

Кожны з тыпаў аднасастаўных сказаў (як дзеяслоўных, так і іменных) мае свае структурныя і сэнсавыя асаблівасці, разнавіднасці, сваю сферу стылістычнага выкарыстання.

Спецыфіка аднасастаўных сказаў абумоўлена лаканічнасцю іх, здольнасцю актуалізаваць што-небудзь адно, найбольш важнае для паведамлення (дзеянне, стан, прымету, прадмет ці з'яву).

Прычыны наяўнасці аднаго галоўнага члена як асноўнай асаблівасці ўсіх аднасастаўных сказаў неаднолькавыя. Дастатковасць аднаго галоўнага члена ў пэўна-асабовых сказах абумоўлена чыста граматычнымі фактарамі. Яна поўнасцю залежыць ад марфалагічных уласцівасцей дзеясловаў 1-ай і 2-ой асобы абвеснага і загаднага ладу. Магчымасць абысціся без дзейніка вызначаецца тут ужываннем асабовых канчаткаў *-у, -еш, -іш, -ем, -ім, -еце, -іце* ці форм загаднага ладу, якія і без дзейніка забяспечваюць інфармацыю аб суб'екце. Дзеясловы тыпу *чытаю, думаю, сходзі, прынясі, зрабіце, раскажыце* сваімі канчаткамі паказваюць, што выканаўцамі дзеяння з'яўляюцца ўдзельнікі гутаркі. Займеннікі *я, ты, вы* новай інфармацыі тут не дабаўляюць, аказваюцца інфарматыўна лішнімі.

З а ў в а г а. Займеннік у такіх сказах важны толькі ў экспрэсіўна-стылістычным аспекце. Так, наяўнасць займенніка 2-ой асобы пры форме загаднага ладу ў прэпазіцыі надае пабуджэнню змякчальны (*Ты паслухай*), у постпазіцыі — узмацняльны характар (*Паслухай ты*). Аднак такія сказы двухсастаўныя. Двухсастаўныя сказы з дзеясловам у форме загаднага ладу ўжываюцца значна радзей, чым аднасастаўныя.

Ва ўсіх іншых тыпах адсутнасць дзейніка выклікана камунікатыўна-семантычнымі прычынамі.

Аднасастаўныя сказы могуць выступаць як самастойныя сказы і як

часткі складаных сказаў: *Дарэктар слухаў з захапленнем, дзівіўся розным тут здарэнням: як барсука ў Парэччы білі, як тут куніц, тхароў лавілі...* (Я. Колас); *Добра быць у дарозе, якую ты сам выбіраеш!* (Я. Колас); *Запахла полем, пчолім роем, расою жнівеньскай парой* (А. Вялюгін); *Вёсцы не дрэмлецца* (Р. Барадулін); *Зіма. Снягі. Мароз. Завеі. Дарога звонкая, як сталь* (П. Глебка); *У нашых бязмежных радзімых прасторах і казак, і казачных дзеяў нямала* (У. Дубоўка).

Аднасастаўныя сказы могуць быць развітымі і неразвітымі ў залежнасці ад таго, паясняецца галоўны член дадатковымі словамі ці не: *Ціхі след. Зорны шлях. І ваколіца. Над рачулкай вярбіна мая ледзь трымціць, свавольніца* (К. Кірэенка); *У лесе і ў палях пачынала цямнець* (Я. Колас); *Пад цёмнымі крыллямі ночы нельга нічога ўбачыць* (М. Багдановіч); *У бяздонні часу не прыкмеціш дна* (А. Звонак); *Люблю цябе, мая краіна!* (Я. Колас); *Соладка ўлетку ў дзень ройны ў зелені, у кветках купацца, з ветрам гуляць неспакойным, з сонцам гуляць, цалавацца!* (Я. Купала).

### Пэўна-асабовыя сказы

§ 199. Пэўна-асабовымі называюцца аднасастаўныя сказы, галоўны член якіх выражаны дзеясловам у асабовай форме, што ўказвае на пэўную дзеючую асобу.

Галоўны член пэўна-асабовых сказаў можа быць выражаны наступнымі дзеяслоўнымі формамі:

1) 1-ай асобы адзіночнага і множнага ліку цяперашняга і будучага часу абвеснага ладу: *Смела кажу: мала дзе знойдзеце вы такія прыгожыя рэчкі, як Нёман* (Я. Колас); *Стаю ля акна ў цішы калідора, са мной размаўляюць аршанскія зоры* (П. Панчанка); *З той пары ўспомню Украіну — і ўсплывае вобраз кожны раз: «Заповіт» пяе ў цішы дзяўчына над магілай слаўнай Кабзара* (П. Панчанка); *Марым і верым, працуем і лаемся, і ўхмыляемся, і захапляемся* (П. Панчанка); *Шлю падзяку вёскам і сябрам, жытнім копам на шырокім полі* (А. Куляшоў); *Люблю цябе, мой Нёман родны, мая любімая рака* (А. Русак); *«Задушу!» — хрыпеў ён, як звер, сціснуўшы аб'ездчыка за горла* (Я. Колас).

Заўвага. З формай 1-ай асобы множнага ліку абвеснага ладу марфалагічна супадае форма загаднага ладу: — *Ідзём дамоў,* — *сказала маці.* — *Пагуляем трохі,* — *адказаў сын.* У адрозненне ад абвеснага форма загаднага ладу вымаўляецца з асобай пабуджальнай інтанацыяй і ніколі не ўжываецца з займеннікам *мы.* У размоўным стылі гэта форма нярэдка ўжываецца з часціцай *давай* (-це): *Давайце ўспомнім пра студэнцкае жыццё; Давайце прысядзем, адпачнем.*

Пэўна-асабовыя сказы, у якіх галоўны член выражаны дзеясловам загаднага ладу, што абазначае запрашэнне да сумеснага дзеяння, заўсёды аднасастаўныя;

2) 2-ой асобы адзіночнага і множнага ліку цяперашняга і будучага часу абвеснага ладу: *Калі, бывала, пазіраеш на Мінск з раёнаў Брэсцкага вакзала, то гэты астрожны замак у першую чаргу кідаецца ў вочы, засланяючы сабою горад. Едзеш па чыгунцы ў Вільню, глядзіш на горад праз акно вагона — зноў гэты ідал тырчыць перад тваімі вачыма* (Я. Колас); *Увіце на момант работу шахтапраходчыка* (Полымя, 1983); *Дзіву даешся нязмернай працавітасці П. Галавача: ён умеў спалучаць службовую, грамадскую і літаратурную работу, на ўсё знаходзіў час* (Чырвоная змена, 1984); *Калі глядзіш на маленькую металічную фігурку зубра на радыятары аўтамабіля, перад*

*вачыма паўстае той слаўны, імклівы шлях, які прайшла Савецкая Беларусь* (В. Вольскі); *Марына пацiснула плячыма, як бы сказаўшы: «А мне што да таго? Як хочаце, так і рабіце»* (Я. Скрыган).

Заўвага. Ужываючы замест формы 1-ай форму 2-ой асобы, той, хто гаворыць, паведамляе пра сябе як бы збоку, г. зн. надае свайму выказванню адценне абагульнення. Значэнне прошлага часу ў такіх сказах перадаецца з дапамогай часціцы *бывала*: *Глядзіш, бывала, і здаецца, што скрозь сцяну галін жывую, скрозь гэту тканку маладую ні мыш, ні пташка не праб'ецца* (Я. Колас);

3) 2-ой асобы адзіночнага і множнага ліку загаднага ладу: *Пі пах лугоў, красой гаёў любуйся* (П. Панчанка); *Не гасіце агнёў! Хай праменні ясней асвятляюць праспаныя вочы* (А. Гурло);— *Што ж ты плачаш, ідзі ў хату... Не плач, супакойся* (Я. Колас); *Куды ні зірні — малінавых сцягаў шугаюць агні* (А. Вялюгін); *Сельскія працаўнікі! Дабівайцеся высокага ўраджаю ў трэцім, рашаючым годзе пяцігодкі! Настойліва змагайцеся за павышэнне прадуктыўнасці жывёлагадоўлі!* (З заклікаў ЦК КПСС); *Куды ні зірні — усюды лес ды лес,— таемны, магутны, прыгожы* (Р. Мурашка).

Форма 3-яй асобы не можа быць галоўным членам пэўна-асабовых сказаў, паколькі яна не ўказвае на пэўную дзеючую асобу.

Асабовыя бяздзейнікавыя сказы з формай дзеяслова 3-яй асобы з'яўляюцца няпоўнымі двухсастаўнымі: *Але раптам калі гляне — на нябесным на экране ў музеі мёртва-сонны сам Хвядос сваёй пярсонай* (К. Крапіва); *Яны* [людзі] *цяпер ужо зусім не варушыліся. Думалі, відаць, якая і куды чакае іх дарога, шкадавалі пуцявін, што вялі няйнакш дадому і якія, глядзі, зноў адрэзаны і, можа, назаўсёды... І напэўна, праклiналі тыя, якімі ступілі сюды, у гэты край, тры гады назад, у сорак першым...* (І. Пташнікаў).

Адсутнасць дзейніка не стварае непаўнаты пэўна-асабовага сказа, паколькі галоўны член дакладна ўказвае на таго, хто ўтварае дзеянне. Не патрэбен дзейнік і для паўнаты выказвання. Такім чынам, пэўна-асабовыя сказы — самастойны структурны тып простага сказа з адным галоўным членам — выказнікам. Па семантыцы гэтыя сказы блізкія да асабовых двухсастаўных сказаў: амаль заўсёды адпаведную інфармацыю можна перадаць двухсастаўнымі сказамі, уключыўшы ў іх займеннікі *я, ты, мы* ці *вы*; параўн.: *Іду; Памятаеш; Працуеце — Я іду; Ты памятаеш; Вы працуеце.* У сэнсавых адносінах такія канструкцыі раўнапраўныя. Розніца паміж абодвума тыпамі сказаў чыста стылістычная: у першых увага засяроджана на дзеянні, што надае паведамленню дынамічнасць, уносіць адценне размоўнасці, іншы раз выражае катэгарычнасць: *Прапаную ўстаць.* Аднак калі ўвага акцэнтуецца на дзейніку-займенніку ці падкрэсліваецца супрацьпастаўленне, то сінанімічная замена асабовага сказа пэўна-асабовым не допускаецца: *Хто паедзе ў калгас?—Я паеду ў калгас* (г. зн. я, а не хто-небудзь іншы); *Вы ідзіце, а я пачакаю.*

Заўвага. Адценні ў семантыцы пэўна-асабовых і двухсастаўных сказаў іншы раз настолькі нязначныя, што многія вучоныя не выдзяляюць пэўна-асабовыя сказы ў асобы тып, а разглядаюць іх як няпоўную рэалізацыю структурнай схемы двухсастаўных сказаў. Семантычная адэкватнасць аднасастаўных пэўна-асабовых сказаў двухсастаўным сказам — сведчанне таго, што структурна-семантычныя тыпы простага сказа — двухсастаўныя, аднасастаўныя і нерасчлянёныя (словы-сказы) — узнікаюць, развіваюцца і існуюць пры пастаянным узаемадзеянні. Паміж імі няма рэзкай мяжы, яны ўтвараюць вялікую колькасць пераходных (прамежкавых і перыферыйных) тыпаў, якія стаяць на мяжы паміж двухсастаўнымі і аднасастаўнымі, аднасастаўнымі і нерасчлянёнымі сказамі.

Пэўна-асабовыя сказы зразумелыя і па-за кантэкстам, сітуацыяй, чым і адрозніваюцца ад няпоўных сказаў.

Адрозніваюцца яны і ад іншых тыпаў аднасастаўных сказаў, напрыклад, безасабовых: галоўны член пэўна-асабовых сказаў сваёй марфалагічнай формай указвае на вытворцу дзеяння, у форме ж галоўнага члена безасабовых сказаў значэнне асобы-дзеяча не выражана.

Пры размежаванні пэўна-асабовых і абагульнена-асабовых сказаў трэба ўлічваць іх змест: апошнія выражаюць агульныя палажэнні, вывады, што не характэрна для пэўна-асабовых сказаў.

Размежаваць пэўна-асабовыя і няпэўна-асабовыя сказы няцяжка: у апошніх галоўны член выражаецца дзеясловам 3-яй асобы множнага ліку, чаго ніколі не бывае ў пэўна-асабовых сказах.

Пры параўнанні пэўна-асабовых сказаў з іншымі аднасастаўнымі сказамі відаць, што яны валодаюць найбольшай ступенню логіка-граматычнай члянімасці, збліжаючыся з двухсастаўнымі сказамі, паколькі вытворца дзеяння ў іх мысліцца пэўна: ён можа быць вербалізаваны толькі ў выглядзе займеннікаў *я, мы, ты, вы*.

У сучаснай беларускай мове пэўна-асабовыя сказы даволі ўжывальныя. Асабліва ўжывальныя яны ў дыялагічнай мове, дзе сама абстаноўка вызначае характар сінтаксічнай будовы сказа. У прыватнасці, адсутнасць асабовых займеннікаў у пэўна-асабовых сказах звязана з тым, што субяседнікам вядома, да каго звяртаюцца, і таму няма неабходнасці называць асобу. Пэўна-асабовыя сказы шырока выкарыстоўваюцца ў паэзіі. Уласцівы яны афіцыйна-дзелавому стылю мовы, калі неабходна падкрэсліць значэнне дзеяння, а не асобы: *Прашу выдзеліць мне пуцёўку ў санаторый-прафілакторый; Даводжу да вашага ведама, што ўчора я вярнуўся з адпачынку.* Характэрны яны і для эпісталярнага жанру: *Жадаю поспеху, цалую, абдымаю!; Перадай прывітанне; Прашу прабачэння.* Галоўны член у такіх выпадках выражаецца, як правіла, дзеясловам са значэннем прывітання, пажадання, прабачэння.

Пэўна-асабовыя сказы дазваляюць пазбегнуць лішняга паўтарэння асабовых займеннікаў. Ужываючы пэўна-асабовыя сказы, аўтар усю ўвагу засяроджвае на дзеянні, самым важным для яго. Найбольшая экспрэсія дасягаецца ўжываннем аднародных галоўных членаў у пэўна-асабовых сказах: *Прыгледзься днём к яснаму сонцу і месяцу ночнай парой; у шум цёмнай услухайся пушчы і ў шумы паводкі вясной* (Я. Купала); *Не стаў сабе дачасна помнік і ў бяссмерце не спяшы, лаві не ўласнай славы промні, а сонца кожнае душы* (П. Панчанка); *Мацуйся, ідзі, працавітая, да новых здабыткаў, краіна!* (П. Глебка).

### *Няпэўна-асабовыя сказы*

§ 200. Няпэўна-асабовымі называюцца аднасастаўныя сказы, галоўны член якіх выражаны дзеясловам 3-яй асобы множнага ліку цяперашняга, будучага ці прошлага часу і ўказвае на дзеянне, якое выконваюць няпэўныя асобы.

Вытворцы дзеянняў, пра якіх гаворыцца ў няпэўна-асабовых сказах, існуюць рэальна, ды і самі дзеянні выражаюцца асабовымі формамі дзеяслова. Таму такія сказы і называюцца асабовымі. Але паколькі дзеючая асоба не названа і мысліцца няпэўна (дзеянне ўтварае нехта), такія сказы яшчэ называюцца няпэўнымі. Адсюль іх двайная назва. Няпэўнасць значэння — семантычнае ядро няпэўна-асабовых сказаў. Няпэўнасць дзеючай асобы ствараецца і значэннем форм 3-яй асобы, якія ў адрозненне ад форм 1-ай і 2-ой асобы менш канкрэтныя: *Спявалі недзе ў дальнім канцы вёскі* (І. Шамякін); *Вам раскажуць, якая ў нас*

*дысцыпліна. Адным словам, у нас зброю не губляюць* (І. Шамякін); *Сустракаюць чалавека па адзенню, а праводзяць па розуму* (Прыказка); *Перш за ўсё пачалі перапраўляць раненых* (І. Мележ); *З раёна званілі сёння* (Т. Хадкевіч); *Камандзіра дывізіі паклікалі да тэлефона* (І. Мележ); *У дзверы пакоя нясмела пастукалі* (І. Шамякін).

Канструктыўны састаў няпэўна-асабовых сказаў, як правіла, не абмяжоўваецца адным галоўным членам, а ўключае таксама даданыя члены. Прычым у адпаведных выпадках выкарыстанне даданых членаў матывіруецца не толькі іх уласным семантыка-сінтаксічным прызначэннем, але і тым, што ў межах пэўнага сказа яны ўтвараюць той мінімальна неабходны кантэкст, у якім няпэўна-асабовая форма дзеяслова праяўляе свае спецыфічныя ўласцівасці ў параўнанні з аманімічнай формай 3-яй асобы множнага ліку.

Сказанае датычыць перш за ўсё акалічнасных даданых членаў (у тым ліку і дэтэрмінантаў). Іменна дзякуючы наяўнасці акалічнасных даданых членаў сказы тыпу *Каля мікітавых гулялі, бо гэта было ў нядзелю* (Я. Брыль); *У хаце пасварыліся* (К. Чорны) успрымаюцца як поўныя няпэўна-асабовыя. Калі ж з саставу гэтых сказаў выключыць акалічнасныя даданыя члены, іх можна ўспрыняць як няпоўныя пэўна-асабовыя сказы (напрыклад, у дыялагічных рэпліках тыпу *«Дзе цяпер твае дзеці?» — «Вучацца»*).

Няпэўна-асабовыя сказы аманімічныя няпоўным двухсастаўным сказам.

Увядзенне дзейніка змяняе не толькі тып прэдыкатыўнай адзінкі, але і яе сэнс (няпэўнасць знікае).

Няпэўна-асабовым сказам сінанімічныя асабовыя сказы. Так, у сказе *Няхай смяюцца, паступіць інакш я не магу* ўвага таго, хто гаворыць, засяроджана на дзеянні (у першай частцы), суб'ект жа дзеяння не ўказаны, паколькі ён вядомы. Замест такога няпэўна-асабовага сказа можна ўжыць асабовы сказ: *Няхай смяюцца знаёмыя (таварышы)*... Сэнс сказа застаўся той жа, знікла толькі адценне дынамічнасці.

У адрозненне ад пэўна-асабовых няпэўна-асабовыя сказы нагадваюць сабою абсалютна самастойную структурна-семантычную разнавіднасць сказаў. Аднасастаўнасць уласціва ім арганічна і звязана з асноўнай асаблівасцю іх граматычнай семантыкі; так як дзеянне абазначаецца ў іх безадносна да канкрэтнага яго выканаўцы, яны дазваляюць засяродзіць усю ўвагу на характары дзеяння: *У будныя дні ўставалі рана* (Я. Колас); *Машыну, што засела, узялі на буксір. Пакуль прывязалі трос, вывалаклі машыну, прайшло многа часу* (І. Мележ); *Назаўтра ўвесь дзень з свірна выдавалі пад канчатковы разлік збожжа на працадні, а ў канторы — грошы* (А. Пальчэўскі); *Пакасілі пожні, знялі з ніў красу* (М. Машара); *Нас перакінулі на той бок заліва, на заходні* (І. Шамякін).

Дзеяслоўная форма множнага ліку (3-яя асоба) выражае агульную граматычную семантыку няпэўна-асабовых сказаў, а не множнасць суб'ектаў: яна ўжываецца і ў тым выпадку, калі рэальным выканаўцам дзеяння з'яўляецца адзін суб'ект (*Прынеслі зарплату; Пазванілі па тэлефоне*).

Важная асаблівасць граматычнай семантыкі няпэўна-асабовых сказаў заключаецца ў тым, што з іх дапамогай выражаюцца толькі праяўленні чалавечай дзейнасці. У гэтых адносінах яны рэзка адрозніваюцца ад безасабовых сказаў, якія выражаюць дзеянні стыхійных сіл.

Пры наяўнасці аб'екта няпэўна-асабовыя сказы па значэнню нярэдка збліжаюцца з залежнымі канструкцыямі, параўн.: *Творы класікаў купляюць больш ахвотна* і *Творы класікаў купляюцца больш ахвотна;*

*Бацьку выклікалі ў школу* і *Бацька быў выкліканы ў школу.* І ў няпэўна-асабовых сказах, і ў залежных канструкцыях абазначэнне дзеючай асобы не з'яўляецца мэтай выказвання.

Асаблівасцямі граматычнай семантыкі няпэўна-асабовых сказаў абумоўлены магчымасці камунікатыўнага выкарыстання іх. Няпэўна-асабовыя сказы ўжываюцца тады, калі па розных прычынах нельга, не трэба ці нават немагчыма назваць выканаўцу дзеяння. Часцей за ўсё яны выкарыстоўваюцца тады, калі размова ідзе аб нейкай калектыўнай дзейнасці (*Шукалі нафту; Будавалі БАМ*). Хоць у адносінах да калектыўнай дзейнасці не толькі немэтазгодна, але нават і не заўсёды магчыма абазначыць канкрэтных выканаўцаў дзеяння, у цэлым выканаўцы тых дзеянняў, пра якіх гаворыцца ў няпэўна-асабовых сказах, ясныя для чытача. Ускосную інфармацыю аб іх дае кантэкст. Радзей у няпэўна-асабовых сказах паведамляецца пра дзеянні адной ці некалькіх асоб (*Яе паклікалі*). Падставай для ўжывання такіх сказаў служыць тое, што асоба невядома. Такія няпэўна-асабовыя сказы семантычна блізкія да двухсастаўных сказаў з займеннікам *нехта* (*Нехта галосіць. Нехта панура маўчыць. Нехта заліхвацка зацягвае песню пад усхліпы гармоніка* (Я. Скрыган)). Аднак спецыфіка няпэўна-асабовых сказаў праяўляецца і тут: яны дазваляюць поўнасцю абстрагавацца ад дзеючай асобы. У двухсастаўных сказах значэнне няпэўнасці перадаецца лексічна, з дапамогай няпэўнага займенніка, у аднасастаўных няпэўнасць асобы выражаецца граматычна, незалежнай дзеяслоўнай формай.

Камунікатыўная роля няпэўна-асабовых сказаў — паведамленне, канстатацыя рэальнага факта дзеяння, якое адбылося, адбываецца ці адбудзецца, з праяўленнем абыякавасці да паведамлення пра дзеяча.

Няпэўна-асабовыя сказы ў параўнанні з пэўна-асабовымі менш прадуктыўныя ў сучаснай беларускай мове. Ужываюцца яны часцей за ўсё ў размоўным стылі, што звязана з неабходнасцю ў пэўных выпадках акцэнтаваць увагу на дзеянні, а не на яго вытворцы (хоць ён ці яны вядомыя). Частае ўжыванне няпэўна-асабовых сказаў у размоўным стылі прывяло да таго, што некаторыя з іх набылі характар устойлівых спалучэнняў, напрыклад: *Каму гавораць?!; Табе гавораць.* Няпэўна-асабовыя сказы шырока выкарыстоўваюцца і ў мове мастацкай літаратуры. У навуковым стылі мовы, каб пазбегнуць няяснасці, няпэўнасці выражэння думкі, няпэўна-асабовыя сказы амаль не ўжываюцца. Сфера выкарыстання няпэўна-асабовых сказаў у дзелавым стылі таксама абмежавана: яны звычайна ўжываюцца толькі ў афіцыйных аб'явах: *«Тут падаюцца заяўкі на калектыўнае наведванне»; «Просяць не курыць»; «У вучылішчы рыхтуюць будаўнікоў».*

### Абагульнена-асабовыя сказы

§ 201. А б а г у л ь н е н а-а с а б о в ы м і называюцца аднасастаўныя сказы, галоўны член якіх выражаны дзеясловам 2-ой асобы адзіночнага ліку (радзей у іншых асабовых формах) цяперашняга ці будучага часу і абазначае дзеянне, якое ў аднолькавай меры адносіцца ці можа адносіцца да любой асобы: *Калі ж ы в е ш доўгі час на адным месцы, неяк і не з а ў в а ж а е ш, як многа розных рэчаў завялося ў тваім доме* (У. Шахавец); *Бо што ж чалавеку болей трэба, як не імкненне? З імкненнем а б о й д з е ш зямлю — з добрым, прыгожым,— не з а б л у д з і ш на моры і ў лесе* (В. Каваль); *Як ні к р у ц і, як ні м я р к у й, а парасткі новага жыцця прабіваюцца буйна, густа, сакавіта* (Я. Колас).

Дзеянне галоўнага члена ў абагульнена-асабовых сказах абмяжоў-

ваецца пэўным часавым планам. Тыповая форма выражэння абагульнення ў абагульнена-асабовых сказах — форма 2-ой асобы адзіночнага ліку дзеясловаў цяперашняга і будучага часу: *Пад гэты гром, пад дождж упарты то там, то тут п а ч у е ш жарты* (Я. Колас); *Яно скварку добрую як у б я р э ш, тады і сякерай у ахвоту н а м а х а е ш с я і любы краж з в а л і ш* (М. Лынькоў); *Не з л і ч ы ш дарой тваіх, верасень, сёлета* (А. Вялюгін); *На палубе шум галасой, вясёлы смех, баяна звон. Нямала с т р э н е ш тут сяброй з далёкіх і з сваіх старон* (М. Танк).

З дапамогай форм 2-ой асобы адзіночнага ліку цяперашняга і будучага часу абвеснага ладу як найбольш тыповым сродкам выражэння абагульненасці ў абагульнена-асабовых сказах падкрэсліваецца, што назіранні датычаць як бы любога чалавека.

Галоўны член абагульнена-асабовых сказаў можа быць выражаны дзеясловам 2-ой асобы адзіночнага ліку загаднага ладу: *Новых сяброй н а б ы в а й, а старых не з а б ы в а й* (Прыказка); *Чалавека с л у х а й, а сваю думку м а й* (М. Лынькоў); *Што ні к а ж ы, а жыццё ўжо само па сабе ёсць радасць, вялікае шчасце, бясцэнны дар* (Я. Колас); *Рачной мятай, мядовым водарам мурагоў настоена паветра. Хоць б я р ы чай з а в а р в а й з гэтага густога пахучага настою!* (А. Бялевіч); *Нам пад сілу любая з работ! У абозе нас не ш у к а й!* (П. Панчанка); *Бацьку л ю б і, старых п а в а ж а й, здароўе б е р а ж ы, а калгаснае дабро п а м н а ж а й* (Прыказка); *В ы з н а ч а й смак не па скарлупіне, а па асяродку* (Афарызм).

Функцыю галоўнага члена абагульнена-асабовых сказаў (вельмі рэдка) можа выконваць дзеяслоў 1-ай і 2-ой асобы множнага ліку цяперашняга часу, у асноўным — гэта прыказкі і прымаўкі: *Добра п р а ц у е м — калгас м а ц у е м; Як м а е м, так у ж ы в а е м; Увосень за стол п р о с і м; Х в а л і ц е мяне, а я вас.*

У якасці галоўнага члена абагульнена-асабовага сказа можа выступаць дзеяслоў 3-яй асобы множнага ліку цяперашняга часу: *Ад дабра дабра не ш у к а ю ц ь* (К. Крапіва); *Аб адсутных не г а в о р а ц ь кепска* (І. Шамякін); *Клін клінам в ы г а н я ю ц ь* (Прыказка); *Хваробу л е ч а ц ь і атрутамі* (М. Багдановіч).

Адна з важнейшых семантычных асаблівасцей абагульнена-асабовых сказаў заключаецца ў тым, што ўжываюцца яны пры выражэнні толькі такіх назіранняў, якія з'яўляюцца бясспрэчнымі, аксіёматычнымі, паколькі яны натуральна выцякаюць з аб'ектыўных асаблівасцей пэўных з'яў ці сітуацый. На гэтай аснове ў абагульнена-асабовых сказах узнікаюць мадальныя значэнні магчымасці, немагчымасці, неабходнасці, непазбежнасці, аб'ектыўнай абумоўленасці пэўных назіранняў: *Так і сачы за ім, каб не ўкраў хаця больш ужо* (П. Галавач); *Трэба тут з сілай, ды не з малою, а потым шоргай яшчэ пілою, так і натрэш мазоль часамі; а потым — пніся, кладзі на сані ды цаліною тралюй да дарогі* (К. Крапіва); *Што ж тады будзе? Якое ж тады жыццё настане? Гэта ж спакойна не пажывеш. Усё гніся, спяшайся зрабіць...* (У. Грамовіч).

Значэнне аб'ектыўнай абумоўленасці пэўных назіранняў асабліва наглядна праяўляецца тады, калі абагульнена-асабовыя сказы — састаўная частка складаных сказаў (злучнікавых і бяззлучнікавых), у якіх выражаецца ўмова: *Дзяры лыкі, калі дзяруцца* (З. Бядуля); *Калі робіш у купе, не баліць у пупе* (Прыказка); *Праедзь або прайдзі ад Кушкі да Ямала, геаграфічных дзіў убачыш ты нямала* (П. Панчанка); *Пападзіся такому ў рукі — у рог сагне* (І. Шамякін); *Кранеш адно, усплыве другое* (Я. Колас).

Асаблівасць семантыкі абагульнена-асабовых сказаў праяўляецца і ў тым, што, выражаючы абагульненне, форма 2-ой асобы адзіночнага ліку найбольш непасрэдна і ў першую чаргу звязана з асобай таго, хто гаворыць,— з абагульненнем яго жыццёвага вопыту ці засвоенага ім вопыту калектыўнага.

Абагульнена-асабовыя сказы не абавязкова аднасастаўныя: у іх можа ўжывацца дзейнік *ты* — таксама з абагульнена-асабовым значэннем: *Жывеш, ліпіш, як на калу, ты, і ногі й рукі ўдзеты ў путы* (Я. Колас); *Якая б ні была сама па сабе глуш, але калі ты чуеш гудок паравоза, шум вагонных колаў і бачыш гэтыя роўныя або прыгожа закругленыя палоскі жалеза на шпалах, то не так тужліва адчуваеш адарванасць ад людзей і культуры, бо чыгунка з'яўляецца як бы жывым вобразам непарванай сувязі з людзьмі* (Я. Колас); *Травы гнуцца ад рос. І ты бачыш, як макі на градах узнялі да нябёс каснікі каляровыя радуг* (П. Панчанка).

Такія двухсастаўныя сказы блізкія да асабовых.

Яшчэ больш збліжаюцца з асабовымі тыя двухсастаўныя абагульнена-асабовыя сказы, у якіх ужываецца займеннік *вы*, а не *ты*: *Праходзячы з залы ў залу і сузіраючы творы вялікіх мастакоў, вы, нарэшце, пачынаеце стамляцца ад мноства ўражанняў* (К. Крапіва); *Згодзен, аднак заўважце, усё, што робіцца ўпотай ад другога, з'яўляецца здрадай дружбе, бо ў такім выпадку вы кіруецеся толькі ўласнай выгадай, а не выгадай для вас абаіх* (А. Чарнышэвіч).

Асобна стаяць двухсастаўныя сказы з формамі загаднага ладу (2-ой асобы адзіночнага ліку). Калі гэтыя формы захоўваюць прамое — пабуджальнае значэнне, то абагульненне калектыўнага вопыту ў іх часта ўспрымаецца як павучанне, звернутае да субяседніка — другой асобы: *Бяссмертныя іх* [герояў] *помнікі к р а н і ты — і цеплыню адчуеш пад рукой: іх высеклі не з камняў, не з граніту,— з людской любві, з удзячнасці людской* (П. Панчанка); *Ты вось а д г а б л ю й добра дошку, а д п а л і р у й яе як след, п у с ц і добрую палітру, і воку твайму прыемна!* (М. Лынькоў); *І ты з вады ў ц я к а й, бо хваля другая таксама — як плясне!..* (Я. Брыль).

Калі ж формы 2-ой асобы ўжываюцца ў значэнні неімператыўных, то гэтыя сказы маюць звычайнае абагульнена-асабовае значэнне: *Зрабі ты найлепшую грэблю, а выльецца вясною вада і сапрэ яе* (Я. Колас).

Займеннікі *ты, вы* ў якасці дзейнікаў такіх двухсастаўных сказаў не выклікаюць уяўлення пра пэўную асобу, таму такія сказы і з'яўляюцца абагульнена-асабовымі.

Двухсастаўныя абагульнена-асабовыя сказы ўжываюцца параўнальна рэдка. Абагульнена-асабовыя сказы, як правіла, з'яўляюцца аднасастаўнымі.

Функцыянальнае прызначэнне абагульнена-асабовых сказаў — даць вывад, агульнае палажэнне, каб ахарактарызаваць ці вызначыць якую-небудзь з'яву, у гэтым іх семантычнае адрозненне ад няпэўна-асабовых сказаў, функцыянальнае прызначэнне якіх — паведамленне, канстатацыя факта, дзеяння. Указваючы на канкрэтны факт дзеяння, няпэўна-асабовыя сказы не могуць быць аформлены як устойлівыя фразы, прымаўкі, прыказкі — тыповы ўзор абагульнена-асабовых сказаў: *Языком работы не зробіш; Як дбаеш, так і маеш; Не рабі ліхога і не бойся нікога; Глыбей узарэш — болей збярэш; Жывучы, усім не ўнаровіш; За багацце розуму не купіш; Рана ўстанеш — многа зробіш.*

Абагульнена-асабовыя сказы — прадуктыўны тып сказаў. Яны шырока выкарыстоўваюцца не толькі ў размоўным стылі, але і ў мастац-

кай літаратуры, публіцыстыцы: *Народ не сагнеш, не пакорыш нічым — ніякім прымусам, ні здзекам* (П. Броўка); *Скажаш слова не такое — быць бядзе* (Я. Колас); *У кароткія зімовыя дні час бяжыць хутка. Не агледзішся, як пачынае шарэць* (А. Пальчэўскі); *Што больш жывеш, чым далей адыходзіш ад сваёй маладосці, тым усё часцей успамінаецца далёкае мінулае, усё з большай асалодай аддаешся гэтым успамінам* (А. Кулакоўскі); *Ніколі не ўгадаеш, што цябе чакае, асабліва, калі табе дваццаць год* (Полымя, 1985).

У семантычных і стылістычных асаблівасцях абагульнена-асабовых сказаў захоўваецца пэўная сувязь з канкрэтна-асабовай семантыкай 2-ой асобы. 2-ая асоба абагульнена-асабовых сказаў як бы заключае ў сабе намёк на тое, што той, хто гаворыць, запрашае рэальнага ці ўяўнага субяседніка да сумесных назіранняў, у многіх выпадках і да суперажывання. З гэтым звязана пастаянная эмацыянальная афарбаванасць абагульнена-асабовых сказаў, што, натуральна, абмяжоўвае сферу іх стылістычнага выкарыстання: у афіцыйных стылях такіх сказаў няма.

### Безасабовыя сказы

§ 202. Безасабовымі называюцца аднасастаўныя сказы, галоўны член якіх абазначае дзеянне ці стан незалежна ад вытворцы дзеяння (ці носьбіта прыметы): *Гэтаму чалавеку выпала ў жыцці многа папрацаваць і многа зазнаць* (І. Мележ); *У Аляксея радасна было на душы* (Т. Хадкевіч); *У Машы ажно пахаладзела пад сэрцам* (І. Шамякін); *З рэчкі пацягнула халадком* (А. Стаховіч); *Цяжка на сэрцы было і не хацелася паказваць свайго гора другім* (А. Пальчэўскі); *Ужо вечарэла. З Нёмана пацягнула цёплым струменем вільгаці* (П. Пестрак); *І паглядзець было цікава, як дзядзька шчыра і ласкава касу на рынку выбірае* (Я. Колас); *Было даволі холадна, хоць апошнія дні пацяплела і снег растаў* (І. Шамякін); *Холадна. Хочацца есці* (П. Глебка); *У лесе значна пасвятлела* (Я. Колас).

Істотнай структурнай прыметай безасабовых сказаў з'яўляецца наяўнасць аднаго асноўнага прэдыкатыўнага кампанента, які падпарадкоўвае сабе астатнія кампаненты (калі яны ёсць у сказе). У адрозненне ад іншых аднасастаўных сказаў гэты структурна-граматычны цэнтр не дапускае ўвядзення ў структурную схему другога палярнага кампанента. Спроба ператварыць безасабовыя сказы ў асабовыя шляхам увядзення дзейніка прыводзіць або да бяссэнсавасці, або да стылістычнай таўталогіі, параўн.: *Цямнее — Ноч цямнее; Марозіць — Мароз марозіць.*

У безасабовых сказах паведамляецца пра з'явы прыроды, працэсы ў арганізме чалавека і жывёл, фізічны і псіхічны стан, якія ўзнікаюць самі па сабе. Адсутнасцю ў такіх працэсаў пэўнага дзеяча тлумачыцца тое, што сярод безасабовых няма пабуджальных сказаў.

У параўнанні з пэўна-асабовымі, няпэўна-асабовымі і абагульнена-асабовымі безасабовыя сказы больш разнастайныя і па граматычнай структуры, і па сваіх семантычных магчымасцях.

Вызначальнай асаблівасцю граматычнай семантыкі безасабовых сказаў з'яўляецца значэнне стыхійнасці, міжвольнасці дзеяння ці стану. Не менш важнай і характэрнай з'яўляецца другая семантычная асаблівасць безасабовых сказаў: прымета, якая ў іх выражаецца, часцей за ўсё — вынік дзеяння няпэўнай сукупнасці стыхійных сіл ці аб'ектыўных абставін. Таму самім ужываннем мадэлі безасабовага сказа падкрэсліваецца, што прымета гэта не мае прамой сувязі з кім-небудзь асобным суб'ектам.

Для многіх безасабовых сказаў характэрна выкарыстанне даданых

членаў, якія ўдакладняюць «межы» праяўлення прыметы. Звычайныя ў гэтай ролі, з аднаго боку, акалічнасці, якія ўказваюць на месца і час праяўлення прыметы, з другога — дапаўненні, якія абазначаюць асобу ці прадмет, у адносінах да якіх праяўляецца пэўная прымета: *Бралася на мароз* (К. Чорны); *Пахла цвіллю, веяла халадком* (Т. Хадкевіч); *На шыбах пачынае днець* (М. Танк); *У райкоме было людна* (М. Лынькоў); *Павее ад нашых палёў залатых не казкай, а шчасцем* (П. Панчанка); *З поля цягнула свежым і чыстым ветрам* (К. Чорны); *Пасля дзённай працы зорнай летняй ноччу люба прагуляцца* (К. Крапіва).

Сярод даданых членаў, што могуць развіваць галоўны член безасабовых сказаў, адрозніваюцца факультатыўныя і нефакультатыўныя (структурна абавязковыя). Нефакультатыўныя даданыя члены выконваюць ролю дапаможных сродкаў, якія афармляюць безасабовыя канструкцыі і неабходны для выражэння пэўнай семантыкі сказа ў цэлым. Адсутнасць іх можа быць прыметай структурнай непаўнаты безасабовых сказаў.

Не патрабуюць канструктыўна неабходных даданых членаў толькі некаторыя безасабовыя дзеясловы і безасабова-прэдыкатыўныя словы, якія сваім лексічным значэннем выразна вызначаюць прадмет думкі: *Задажджыла; Ветрана; Марозіць* і г. д. У такіх сказах могуць быць акалічнасці часу, якія канкрэтызуюць час стану *(учора, сёння, ноччу, раніцай* і пад.), акалічнасці ступені дзеяння і якасці *(Вельмі ветрана)*.

У большасці выпадкаў структурна-семантычныя ўласцівасці безасабовых сказаў вызначаюцца лексіка-граматычнымі ўласцівасцямі галоўнага і даданых членаў: *На вуліцы холадна* (стан прыроды); *У пакоі холадна* (стан навакольнага асяроддзя); *На сэрцы холадна* (псіхічны стан чалавека).

У канструяванні безасабовых сказаў пэўнай семантыкі як структурна абавязковыя ўдзельнічаюць наступныя даданыя члены: ускоснае дапаўненне са значэннем асобы, якая перажывае пэўны стан — так званы давальны суб'екта *(Яму нездаровіцца; Мне не спіцца)*; ускоснае дапаўненне ў творным склоне *(Цягне холадам; Пахне ліпаю)*; ускоснае дапаўненне ў родным склоне *(Нічога не чуваць; Сіл хопіць ненадоўга)*; прамое дапаўненне ў вінавальным склоне *(Сарвала страху; Узарвала мост)*; акалічнасці месца ў асобных семантычных мадэлях *(Вакол незвычайна прыгожа)*.

Своеасаблівасць безасабовых сказаў ствараецца ўзаемадзеяннем семантычных і структурных фактараў і наглядна раскрываецца пры супастаўленні іх з сінанімічнымі двухсастаўнымі сказамі: *Мне не будзе спакойна спацца, я не выпушчу стрэльбу з рукі, пакуль ёсць паны ў палацах, пакуль ёсць на зямлі жабракі* (П. Панчанка) — *Я не буду спакойна спаць.., пакуль ... ёсць на зямлі жабракі.*

У двухсастаўным сказе сцвярджаецца сувязь дзеяння з дзеячам (я не буду спаць), дзеяння з якасцю (спаць спакойна). У аднасастаўным дзеяслоўным сказе дзеянне ўспрымаецца як незалежнае ад дзеяча, як такое, якое адбываецца само па сабе; у аднасастаўным сказе выражаецца стан асобы.

Безасабовыя сказы блізкія па сэнсу да няпэўна-асабовых. Так, у сказах *Прапануюць зрабіць перапынак* і *Прапануецца зрабіць перапынак* значэнне адно і тое ж. Але ў першым падразумяваецца няпэўная дзеючая асоба, а ў другім яна не мысліцца зусім. Сінанімічнымі могуць быць таксама безасабовыя і асабовыя сказы: *Пахне мятай* і *Пахне мята.* Аднак у безасабовых сказах увага акцэнтуецца на самім дзеянні ці стане, безадносна да суб'екта, а ў асабовых сказах на першым плане суб'ект дзеяння. Варта адзначыць таксама, што ў ролі суб'екта без-

асабовых сказаў могуць выступаць толькі неадушаўлёныя прадметы, нельга сказаць, напрыклад, *Хлопчыкам разбіла шкло; Сабакам укусіла дзіця,* а толькі: *Хлопчык разбіў шкло; Сабака ўкусіў дзіця.*

Сінонімамі асабовых сказаў могуць выступаць таксама безасабовыя сказы з адмоўем: *Сяброўкі дома не было — Сяброўка дома не была.*

Блізкія паводле значэння і канструкцыі тыпу *Мне думаецца — Я думаю; Не пішацца — Не пішу.* Але ёсць паміж імі і адрозненне: калі ў асабовых і пэўна-асабовых сказах падкрэсліваецца актыўнасць дзеяння, то безасабовыя сказы маюць адценне пасіўнасці, міжвольнасці дзеяння.

Семантыка безасабовых сказаў вельмі разнастайная. Яна абумоўлівае суіснаванне структурна-семантычных разнавіднасцей безасабовых сказаў, сярод якіх выдзяляюцца як асноўныя:

а) безасабовыя сказы дзеяслоўнага тыпу: *Надзьмула гурбы снегу;*

б) безасабовыя сказы прыслоўнага тыпу: *У пакоі душна; На душы неспакойна;*

в) безасабовыя сказы іменнага тыпу: *Яму не да свята; Мне не да іх.*

У залежнасці ад марфалагічнай прыроды галоўнага члена вылучаюцца наступныя семантыка-граматычныя разнавіднасці дзеяслоўных безасабовых сказаў:

1. Безасабовыя сказы з галоўным членам, выражаным безасабовым дзеясловам. Гэта самы распаўсюджаны тып безасабовых сказаў. Галоўны член такіх сказаў можа быць выражаны як зваротнымі, так і незваротнымі дзеясловамі. Значэннем безасабовых дзеясловаў вызначаецца агульнае значэнне такіх безасабовых сказаў — паведамляць пра стан прыроды, навакольнага асяроддзя, псіхічны ці фізічны стан жывой істоты, абазначаць наяўнасць ці адсутнасць, недахоп чаго-небудзь: *Было ўжо цёмна. П а х а л а д а л а* (В. Быкаў); *З м я р к а л а с я, і ўсюды было гэтак ціха, як і ўдзень* (К. Чорны); *М а р о з і ц ь, а сняжку няма* (І. Шамякін); *Яму ш а н ц а в а л а: кулі міналі яго, за ўсю вайну толькі аднойчы яго злёгку кантузіла* (І. Шамякін); *Дзеду Талашу не с я д з і ц ц а ў хаце* (Я. Колас); *Зосі не м а ў ч а л а с я* (Ц. Гартны); *П а ц я п л е л а. Вецер сціх. Залаціцца ціхі асенні дзень* (К. Чорны); *На гэта ў мяне часу х о п і ц ь* (Я. Купала); *У тую ноч мне с п а л а с я соладка* (А. Чарнышэвіч); *Ж ы л о с я яму ў чужой сям'і дрэнна* (М. Гарэцкі); *Толькі мора ўзбуранага не х а п а е, хмар чорных і вінтападобных бліскавіц* (Э. Самуйлёнак).

Сказы з безасабовымі дзеясловамі на *-ся (-цца)* характарызуюць стан жывой істоты — асобы ці (зрэдку) жывёлы. Адушаўлёны аб'ект, стыхійна ахоплены тым ці іншым станам, абазначаецца ў іх з дапамогай давальнага склону дапаўнення.

Некаторыя з безасабовых дзеясловаў на *-ся (-цца)* абавязкова патрабуюць якаснай характарыстыкі стану з дапамогай акалічнасцей спосабу дзеяння тыпу *добра, дрэнна, лёгка, цяжка* і пад.: *Д ы х а л а с я тут хораша, лёгка* (Т. Хадкевіч); *І хоць нейкае нечуванае багацце раптоўна і не прыйшло, але праз усе гады добра е л а с я і п і л о с я, добра п р а ц а в а л а с я і слаўна д ы х а л а с я цудоўным скіп'ёўскім паветрам* (К. Чорны); *Лёгка ў с т а е ц ц а, спорна п р а ц у е ц ц а* (М. Лужанін).

2. Безасабовыя сказы з галоўным членам, выражаным асабовым дзеясловам у безасабовым значэнні.

Такія сказы даволі распаўсюджаны ў беларускай мове і разнастайныя паводле структуры і значэння. Асабовыя дзеясловы ў безасабовым

ужыванні страчваюць формы змянення і застываюць у форме 3-яй асобы адзіночнага ліку цяперашняга часу ці ў форме ніякага роду прошлага часу. Параўн. асабовыя і безасабовыя канструкцыі: *Вецер дзьме — Праз шчыліну дзьме; Сонца прыпякала — У поўдзень прыпякала.*

Асабовых дзеясловаў, якія могуць ужывацца ў безасабовым значэнні, значна больш, чым дзеясловаў уласна безасабовых, таму так разнастайныя і багатыя па значэнню сказы з такімі дзеясловамі ў якасці галоўнага члена. Яны могуць выражаць стан прыроды, навакольнага асяроддзя, жывой істоты, з'явы, дзеянні, што прыпісваюцца міфічным сілам, і пад.: *Вецер, аднак, аж шалеў ад лютасці, навокал, бы ў нябачнай гіганцкай трубе, г у л о, с т а г н а л а, з в і н е л а, магчыма, у вушах* (В. Быкаў); *Р-рах... У-ух... І-і-і-го-ох! Г-ох! Потым раптам с ц і х л а* (І. Мележ); *То ў жар к і д а е, то ў пот* (Я. Колас); *Зноў з а г р у к а л а недзе, як у сенцах* (І. Пташнікаў).

Сказы, якія выражаюць уздзеянне стыхійных сіл на які-небудзь аб'ект, маюць у сваім саставе прамое дапаўненне. Вельмі часта выкарыстоўваецца творны склон ускоснага дапаўнення з агульным значэннем сродку дзеяння: *Паўліка нібы ветрам з н я с л о з зэдліка* (І. Шамякін); *Пракопа мацней п а ц я г н у л а дадому* (Я. Колас); *Дарогу зусім з а н я с л о, ехалі не па шляху, паміж прысадамі, а з боку, па полі, дзе снегу было менш* (І. Шамякін); *На грэблі к а л ы ш а і п а д к і д а е калёсы* (І. Пташнікаў); *Неба з а с л а л а хмарамі* (І. Шамякін); *Усе лужыны ўночы з а ц я г н у л а шклістым лёдам* (М. Машара).

Абмежаваную, але дастаткова ўжывальную групу складаюць безасабовыя сказы з непераходнымі дзеясловамі тыпу *пахне, цягне, дзьме* і пад.: *П а х л а дымам, смалою, настоенымі сухімі выпарэннямі сасновага бору* (М. Машара); *Знадворку ц я г н у л а свежым, лёгкім і апойным паветрам* (Ц. Гартны); *І клінам, і смажанай рыбай, і ветрам п а д у л а з гары, адтуль, дзе пад сонечнай ліпай канчаюць пліту печкуры* (А. Куляшоў); *П а в е я л а ранішнім халадком* (Я. Колас); *Было росна. П а х л а медуніцай і дзяцелінай, якая пачынала ўжо цвісці* (А. Асіпенка); *А д д а в а л а водарасцямі і тым своеасаблівым пахам прэсных вадаёмаў, які заўсёды выклікае ўяўленне аб рыбе* (Полымя, 1985); *П а х л а дурнап'янам і спелай пшаніцай, ... з-за вёскі з выгану н е с л а гарэлым торфам* (І. Пташнікаў); *Ад ракі п а т ы х а л а асвяжаючай вільгаццю, няўлоўнымі пахамі прыбярэжнай твані, рыбнай цвілі* (М. Лынькоў).

З дапамогай дзеяслова тут абазначаецца працэс стыхійнага распаўсюджання ў паветраным асяроддзі паху, цяпла, холаду і — адначасова — працэс успрыняцця іх органамі пачуццяў. Абавязковым для такіх канструкцый з'яўляецца творны склон дапаўнення.

Многія з такіх сказаў можна трансфармаваць у двухсастаўныя: *Пахла свежай збажынай і вішнёвым сокам* (І. Шамякін) — *Пахла свежая збажына і вішнёвы сок; Пахне маладой травіцай* (І. Мележ) — *Пахне маладая травіца.*

3. Безасабовыя сказы з галоўным членам, выражаным дзеепрыметнікам залежнага стану. Такія сказы выражаюць стан як вынік пэўнага дзеяння ў мінулым. Яны часцей за ўсё бываюць развітымі: у іх саставу, як правіла, уваходзяць дапаўненні і акалічнасці. Пераважае ў іх вінавальны ці давальны склон дапаўнення, якое ўказвае на прадмет ці асобу, на якія накіравана дзеянне. Да дзеепрыметніка можа адносіцца інфінітыў, які канкрэтызуе дзеянне: *Шмат с т р а ч а н а, р а з г у б л е н а сяброў* (Я. Колас); *Аляксею было д а р у ч а н а таксама вартаваць* (П. Пестрак); *Сцежкі-дарожкі. Многа іх с х о д ж а н а тут*

(П. Пестрак); *Яму самому* *д а з в о л е н а* *было з'яўляцца тут толькі ў выпадку самай крайняй патрэбы* (М. Лынькоў); *Некаму* *с у д ж а н а* *апошні раз сёння глядзець на гэтыя зоркі* (К. Крапіва); *Пра яе мацярынскую любоў шмат* *н а п і с а н а,* *р а с к а з а н а,* *п р а с п я в а н а* (Звязда, 1985); *Пра гэта ўсё* *н а п і с а н а* *вось тут* (П. Глебка); *На безымянным кургане ім* *с у д ж а н а* *вянком апасці* (М. Танк).

Дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу, што ўжываюцца ў безасабовым сказе, утвараюцца, як правіла, ад дзеясловаў са значэннем волевыяўлення (*вырашана, прыказана, даручана* і пад.).

4. Безасабовыя сказы з безасабова-прэдыкатыўнымі словамі ў ролі галоўнага члена. Значэнне такіх слоў — ацэнка стану чалавека, асяроддзя, дзеяння (у інфінітыве), цэлай думкі (дадацай часткі). Безасабова-прэдыкатыўныя словы ў спалучэнні з інфінітывам могуць выражаць розныя мадальныя значэнні, у прыватнасці, магчымасць, немагчымасць ці неабходнасць ажыццяўлення дзеяння: *Нам кожнаю назвай (вялікай і дробнай)* *п а т р э б н а,* *як імем сваім,* *д а р а ж ы ц ь* (П. Панчанка); *Калі не падвядзе лета з надвор'ем, дык* *м о ж н а* *с п а д з я в а ц ц а* *на добры ўраджай* (Т. Хадкевіч); *Ц я ж к а* *і* *ў я в і ц ь,* *што рабілі б мы ў шалашах ці палатках пры сённяшніх марозах* (М. Лынькоў); *Н е л ь г а* *было адразу* *р а з а б р а ц ь,* *што тоіцца ў яе позірку* (Т. Хадкевіч).

У сказах, якія выражаюць фізічны ці псіхічны стан асобы, безасабова-прэдыкатыўныя словы, як правіла, спалучаюцца з давальным склонам: *Апейку было* *л ё г к а,* *р а д а с н а* (І. Мележ); *Яму было* *ц я ж к а* *д ы х а ц ь* *і* *п р ы е м н а* *а д ч у в а ц ь,* *як апухлы твар абвяваецца ветрам* (К. Чорны); *С а м о т н а* *аднаму ў хаце вечарам* (І. Пташнікаў); *Смажыла, сушыла яму ў горле,* *г о р к а* *было на языку, бы пад нагамі пылілі не верасы, а трашчаў і малоўся на муку палын* (І. Пташнікаў); *Ёй* [даярцы], *пэўна,* *р а д а с н а,* *што ў гэты дзень каровы шмат далі ўдою* (П. Панчанка); *Ц і к а в а* *ёй* *п а з і р а ц ь* *на такога звера* (М. Паслядовіч); *Ш к а д а* *мне зялёнай нівы, што шуміць у полі* (Я. Колас); *Яму робіцца* *ц я ж к а-ц я ж к а* *на душы* (Я. Колас).

З а ў в а г а. Назва «безасабовыя» дадзена сказам такога тыпу на падставе структурных прымет: гэта аднасастаўныя сказы, якія не маюць і не могуць мець незалежнага назоўнага склону імя ў ролі дзейніка — другога арганізуючага цэнтра сказа. Паводле ж значэння яны асабовыя, так як заўсёды абазначаюць душэўны стан якойнебудзь асобы.

Давальны склон у такіх сказах можа адсутнічаць, але яго заўсёды лёгка вызначыць з пэўнай сітуацыі, кантэксту: *Хораша на душы, лёгка, светла* (І. Шамякін); *Многа, здаецца, часу прайшло... І так важка на душы. Так пуста і брыдка... Нядобра — перад богам...* (І. Мележ); *Цёмна стала ўваччу і закруцілася ў галаве* (І. Пташнікаў).

Сказы з безасабова-прэдыкатыўнымі словамі ў якасці галоўнага члена могуць выражаць фізічныя і атмасферна-метэаралагічныя з'явы прыроды: *Ц і х а* *было* *і* *с п а к о й н а* *пад стагоднімі хвоямі* (К. Чорны); *Было* *ц ё м н а,* *с ц ю д з ё н а* *і* *в е т р а н а* (В. Быкаў); *На полі* *м о к р а,* *п у с т а,* *вецер ходзіць, а ў лесе хвоі густа стаяць,* *з е л е н а,* *з а ц і ш н а,* *с в е ж а* *і толькі вецер у хвоях ш-ш-ш...* (К. Чорны); *Х о л а д н а,* *з о л к а,* *п у с т а* *і глуха* (Я. Колас).

Многія безасабова-прэдыкатыўныя словы ў спалучэнні з інфінітывам даюць ацэнку дзеянню, выражанаму інфінітывам: *Д о б р а* *ж ы ц ь* *і тварыць пад радзімай зарой* (П. Панчанка); *Д о б р а* *б ы ц ь* *у дарозе, якую ты сам выбіраеш!* (Я. Колас); *Д о б р а* *ў садзе* *х а д з і ц ь,* *су-*

*стракаючы сонечны ранак, чулым сэрцам л а в і ц ь звонкі голас дзявочых вяснянак* (П. Панчанка).

Даючы ацэнку цэлай думкі, безасабова-прэдыкатыўныя словы ў якасці галоўных членаў безасабовых сказаў могуць выступаць у саставе складаназалежных сказаў: *Самому пакута не страшна. Страшна, калі хто блізкі пакутуе* (К. Чорны); *Мне вядома, чаму ты не спіш па начах, а за думкамі следам вандруеш далёка* (П. Броўка).

У параўнанні з безасабовымі сказамі дзеяслоўнага тыпу безасабовыя сказы з галоўным членам, выражаным безасабова-прэдыкатыўнымі словамі, больш універсальныя паводле сваіх семантычных магчымасцей. Яны ў аднолькавай ступені могуць выкарыстоўвацца як для паведамлення пра стан навакольнага асяроддзя, так і пра стан жывой істоты (*У хаце было душна — Мне было душна*), могуць выражаць стан фізічны (*Мне дрэнна*) і стан псіхічны (*Мне няёмка*). З дапамогай звязкі ў іх могуць выражацца адрозненні статычнай прыметы і дынамічнай: *Было цёмна* (статычны стан) і *Станавілася цёмна* (дынамічны). У дзеяслоўных безасабовых сказах перадаецца толькі дынамічны стан.

Істотную ролю ў сказах з безасабова-прэдыкатыўнымі словамі адыгрывае звязка (у тым ліку і нулявая — як у састаўным іменным выказніку двухсастаўных сказаў). Звязка выражае мадальнасць паведамлення, указвае на час праяўлення прыметы, статычны ці дынамічны характар стану (*На вуліцы шумна — было шумна — будзе шумна — стала шумна*).

5. Безасабовыя сказы, галоўны член якіх — адмоўнае слова ці канструкцыя, што выражае адмаўленне. Галоўны член такіх безасабовых сказаў выражаецца адмоўным словам *няма*, дзеясловамі *быць, стаць* у безасабовым значэнні з адмоўем. Пастаянным кампанентам гэтых сказаў з'яўляецца родны склон ускоснага дапаўнення, якім абазначаецца прадмет ці з'ява, што адсутнічаюць. Самым ужывальным у такіх сказах з'яўляецца дзеяслоў *быць*: *Дзеда Талаша і сапраўды не б ы л о тут* (Я. Колас); *У пакоі нікога не б ы л о* (І. Мележ); *Хвойніку амаль што не б ы л о* (І. Шамякін); *Не б ы л о па глухіх закутках Палесся ні газет, ні тэлеграфаў, ні тэлефонаў,— гэтых здабыткаў людскога розуму, гэтых перадатчыкаў вестак аб падзеях на свеце* (Я. Колас); *І ў гэтую ноч не спалася ніяк. Не б ы л о адбою ад назол-камароў, ад дыму* (І. Мележ).

Такія аднасастаўныя сказы маюць суадносныя сцвярджальныя канструкцыі — двухсастаўныя сказы: *Братоў і сясцёр у яго не было — У яго былі браты і сёстры.*

У безасабовых сказах адмоўнае слова *няма* можа апускацца. У такіх выпадках перад назоўнікам у родным склоне ўжываецца часціца *ні*, якая ўзмацняе адмоўнае значэнне сказа: *У яе ні грама сумлення; На небе ні воблачка.*

Колькасць дзеясловаў, што ўжываюцца ў безасабовых адмоўных сказах, абмежаваная: *быць, знаходзіцца, сустрэцца, з'яўляцца, паказвацца, даносіцца, віднецца, захавацца* і інш., а таксама словы *відаць, чуваць*, якія выступаюць у той жа функцыі, што і безасабова-прэдыкатыўныя словы *чутно, відно* са значэннем успрыняцця: *Хмары сонейка закрылі; зор у ночку не в і д а ц ь* (Я. Колас); *Не ч у в а ц ь было ні лёскату машын, ні грукату матораў, ні людскіх галасоў* (М. Лынькоў); *Зімняе неба сонейкам беліцца, вецер нямее, хмар не в і д а ц ь* (Я. Купала).

З адмоўем могуць быць і асабовыя сказы: *Крыку не было чуваць — Крык не быў чуваць.* Асабовыя сказы больш характэрны для дзелавой,

кніжнай мовы, акрамя таго, яны нярэдка ўказваюць на прыватныя, канкрэтныя выпадкі, безасабовыя ж сказы маюць больш абагульнены характар.

Да безасабова-адмоўных адносяцца і сказы, у якіх галоўны член выражаны назоўнікам ці займеннікам у родным склоне з прыназоўнікам *да* і прэпазіцыйнай часціцай: *Яму не да свята; Мне не да кіно.* Такія сказы нагадваюць сабой своеасаблівы фразеалагічны зварот, які выражае стан нясхільнасці да чаго-, каго-небудзь. У склад такіх сказаў звычайна ўваходзяць назоўнікі ці займеннікі ў давальным склоне. Для выражэння прошлага і будучага часу ўжываюцца адпаведныя формы дзеяслова *быць: Ей было не да нас; Ім будзе не да вечарынкі.*

Семантыка-стылістычныя магчымасці безасабовых сказаў розных тыпаў незвычайна шырокія. Пры дапамозе безасабовых канструкцый можна апісаць такія станы, якія характарызуюцца неўсвядомленасцю, нематываванасцю. Акрамя таго, пры дапамозе іх можна надаць дзеянню асобае адценне лёгкасці (*мне думаецца, мне лёгка думаць*), і, нарэшце, безасабовыя сказы незаменныя пры неабходнасці выдзеліць само дзеянне ці стан безадносна яго да якога-небудзь дзеяча. Усё гэта садзейнічае шырокаму распаўсюджанню безасабовых сказаў у размоўным стылі і ў мове мастацкай літаратуры. Некаторыя разнавіднасці безасабовых сказаў знаходзяць прымяненне і ў дзелавой мове, напрыклад, у афіцыйных аб'явах, пастановах: *Забараняецца ўваходзіць з сумкамі ў гандлёвую залу; Прапануецца паглядзець новую выстаўку.*

### *Інфінітыўныя сказы*

§ 203. Інфінітыўнымі называюцца аднасастаўныя сказы, галоўны член якіх выражаны незалежным інфінітывам. Агульным значэннем інфінітыўных сказаў з'яўляецца ўказанне на дзеянне, якое адбудзецца ў будучым: *Не злічыць у небе ясных зорак, не злічыць у сэрцы светлых дум* (М. Багдановіч); *Бору пад ветрам гнуцца, поўні — дрыжаць слязою* (Р. Барадулін); *Не пазнаць, Беларусь, цябе сёння* (Я. Колас); *Нам лётаць высока, ісці нам далёка, вучыцца на праўдзе суровай* (П. Панчанка); *Накрэслена дарога прама, па ёй да шчасця нам ісці* (С. Грахоўскі).

З пункту погляду выражэння дзеяння інфінітыўныя сказы безасабовыя, аднак аб'ядноўваць іх нельга.

Інфінітыўныя сказы адрозніваюцца ад безасабовых дзеяслоўных сказаў паводле агульнага значэння. У інфінітыўных сказах называецца дзеянне, якое трэба (пажадана і г. д.) ажыццявіць пэўнай, няпэўнай ці абагульненай асобе, а ў безасабовых дзеянне абстрагавана ад актыўнага дзеяча. Інфінітыў мае больш блізкія адносіны да вытворцы дзеяння, чым безасабовы дзеяслоў, што тлумачыцца самой прыродай інфінітыва. Характар дзеяча ў інфінітыўных сказах мае семантыка-стылістычнае значэнне, а няпэўнасць вытворцы дзеяння ў безасабовых сказах—структурна-сінтаксічнае.

Інфінітыўныя сказы адрозніваюцца ад безасабовых саставам прэдыкатыўнай асновы. У безасабовых сказах інфінітыў залежны, ён прымыкае да безасабова- прэдыкатыўнага слова. У інфінітыўных сказах інфінітыў незалежны, г. зн. пры ім не можа быць ні безасабовага дзеяслова, ні безасабова-прэдыкатыўнага слова.

Асноўная структурная прымета (наяўнасць ці, наадварот, немагчымасць ужывання безасабовых дзеясловаў і безасабова-прэдыкатыўных слоў) дазваляе з дастатковай выразнасцю размежаваць безасабовыя і

інфінітыўныя сказы як самастойныя разнавіднасці аднасастаўных сказаў бяздзейнікавага тыпу.

Для структуры інфінітыўных сказаў характэрна ўжыванне ў спалучэнні з прэдыкатыўным незалежным інфінітывам давальнага склону назоўніка, які абазначае суб'ект дзеяння. Абазначэнне ўскоснага суб'екта можа быць і ў безасабовых сказах *(Бурай знесла страху; Чалавеку нездаровіцца)*, але гэта ім уласціва ў меншай ступені, чым інфінітыўным сказам. Акрамя таго, выражэнне ўскоснага суб'екта ў безасабовых сказах не абмежавана толькі давальным (для гэтай мэты шырока выкарыстоўваецца і творны склон).

Адрознівае ад безасабовых інфінітыўныя сказы і выражэнне мадальнасці. У безасабовых сказах мадальнасць выражаецца лексічна — безасабовым дзеясловам ці безасабова-прэдыкатыўным словам *(Можна ехаць)*. У інфінітыўных сказах мадальнасць выражаецца самой формай інфінітыва і інтанацыяй *(Быць бядзе!)*, а ўзмацняецца і дыферэнцыруецца часціцамі *(Пакупацца б нам!)*; у безасабовых сказах гэтыя значэнні могуць быць перададзены толькі лексічна *(Нам трэба ісці; Яму хочацца пагуляць)*.

Своеасаблівасць інфінітыўных сказаў вызначаецца спецыфікай лексіка-граматычных уласцівасцей інфінітыва; апошні спалучае ў сабе значэнні дзеслова і назоўніка, з якім звязаны этымалагічна (паводле паходжання інфінітыў — форма назоўніка). Значыць, у інфінітыве спалучаецца значэнне прадметнасці са значэннем дзеяння, працэсу. Гэтым і вызначаецца асобае становішча інфінітыўных сказаў сярод аднасастаўных. Інфінітыўныя сказы з'яўляюцца пераходнай ступенню ад дзеяслоўных сказаў да іменных, у прыватнасці да намінатыўных.

Інфінітыўныя сказы могуць быць развітымі і неразвітымі: *Расці дубам, расці, мужнець, над родным краем ім шумець, пад сонцам новы дзень вітаць* (П. Броўка); *Быць ураджаю сёлета!* (Т. Хадкевіч); *Атамнымі бомбамі нас не запалохаць, не зламаць* (П. Панчанка); *Век жыць вам у сэрцы народа, героі* (М. Танк); *Не звярнуць яму зноў незваротных гадоў, не забыць, хоць ліхой, але — долі сваёй, не закрэсліць той шлях — ад хаўтур да хаўтур, не забыць — ні людзей, ні завей, ні віхур; не закрэсліць жыцця, што было, хай цяжкім, але ўсё ж для яго, як сваё, дарагім* (А. Куляшоў); *Вакол спакойна дрэмле поле, блішчыць у росах сенажаць,— не, нашых пожняў больш ніколі чужому танку не таптаць* (А. Бачыла); *Надаўшы больш вясёлы выраз свайму твару, Сяргей сказаў:— «Эх, братцы. Курнуць бы, эх, курнуць!»* (Я. Колас); *Адшукаць пераправу!* (І. Новікаў).

Інфінітыўныя сказы могуць выступаць як сінонімы безасабовых сказаў: *Вам бы адпачыць — Вам неабходна (трэба) адпачыць;* асабовых сказаў: *Да каго мне звярнуцца? — Да каго я магу звярнуцца?*

Паводле значэння выдзяляюцца наступныя разнавіднасці інфінітыўных сказаў.

1. Сказы, якія выражаюць катэгарычныя загады і заклікі, для іх характэрна асобая інтанацыя загаду: *Атамана, атамана абраць!* (Я. Колас); *Адставіць канвой!..* (М. Лынькоў); *«Падрыхтаваць зброю!»—загадаў Ярка, выслухаўшы Здэнека* (Т. Хадкевіч); *Таварышы, рыхтавацца ў паход!* (Я. Колас); *Васіль Іванавіч пацямнеў тварам, гучна загадаў: «Спыніць!»* (М. Лынькоў); *Ужо бачыць Вяль з музыкай бор стары, зялёны бераг. Яшчэ раз вяслом ударыць!* (М. Танк); *Затворы ў вінтоўках прамыць газай і выцерці насуха, каб не прыставалі* (К. Крапіва); *Для разведкі падабраць дзесяткі два-тры ахвотнікаў* (Я. Колас).

Гэтыя сказы сінанімічныя пэўна-асабовым сказам з формамі загаднага ладу (параўн.: *Падняць сцяг!— Падыміце сцяг*). Ад апошніх інфі-

нітыўныя сказы адрозніваюцца, па-першае, большай катэгарычнасцю, па-другое, адсутнасцю абазначэння асоб, якім адрасуецца загад ці заклік, у выніку чаго пабуджэнне ў іх збліжаецца з неабходнасцю адпаведных паводзін, што звычайна перадаецца словамі *неабходна* і *нельга*. Так, у сказах тыпу *У пакоі не курыць!* выказнік як бы сумяшчае два значэнні: 1) 'не курыць'; 2) 'у пакоі курыць нельга'.

Інфінітыўныя сказы, што выражаюць катэгарычны загад, нярэдка выкарыстоўваюцца ў загалоўках артыкулаў, якія маюць характар прызываў, у лозунгах: *Жыць і працаваць па-камуністычнаму!; Убраць ураджай без страт!*

2. Сказы, якія выражаюць неабходнасць ці немагчымасць дзеяння. Для такіх сказаў характэрна як апавядальная, так і клічная інтанацыя: *Не зламаць народнай волі дзікім ордам у баі!* (Я. Колас); *Паволжа стане садам вялізным, цвісці якому пры камунізме* (П. Панчанка); *Забойцу на свеце не жыць* (П. Панчанка); *Нічога не зробіш, куды ён — там і ёй быць* (І. Мележ); *Колькі буду я жыць, мне яго не забыць* (А. Куляшоў); *Здолеем мы перашкоды... Нас не стрымаць ані дзе!* (П. Бачыла); *Не, ніякай цаною не закатаваць народ* (П. Броўка); *Дзе не праехаць, не прайсці — я поўз, я лез, упарты* (А. Куляшоў); *Эх, быць бядзе, ну, быць бядзе...* (Я. Колас); *Так, я ведаю: зв'ёздам герояў — гарэць і звінець словам рапартаў на высокіх надвоблачных струнах* (П. Панчанка).

3. Сказы з пытальнымі займеннікамі і прыслоўямі і пытальнай інтанацыяй, якія выражаюць пытанне аб магчымасці ці абавязковасці, дазволе: *Але дзе ўзяць людзей?* (А. Куляшоў); *Як пры сустрэчы цябе і пазнаць, сястра?* (П. Глебка); *Зноў перад ёй ярка ажыў вобраз Андрэя Віткоўскага. Як з ім звязацца?* (І. Мележ).

Такія сказы па значэнню блізкія да асабовых сказаў з дзеясловам *можа* ці безасабовых з *можна, трэба*, але адрозніваюцца ад апошніх большай экспрэсіяй, лаканічнасцю, напружанасцю.

Пытальныя інфінітыўныя сказы могуць быць і без пытальных слоў. У такіх сказах высвятляецца прынцыповая магчымасць самога дзеяння — з пункту погляду мэтазгоднасці ці нямэтазгоднасці яго ў пэўных абставінах. Такія пытанні часта служаць сродкам апісання разважанняў, унутранай мовы; гэта пытанні, звернутыя да самога сябе — пытальныя рэплікі ўнутранага дыялогу: *Зайсці ці не зайсці? Ехаць ці не ехаць? Ісці ці не ісці?* (П. Панчанка).

У сказах з пытальнымі словамі пытанне таксама звязана з высвятленнем перспектывы патэнцыяльна магчымага дзеяння *(Куды ісці?)*. Такія сказы мнагазначныя. Звычайна ў іх выражаецца пытанне пра абставіны, невядомыя таму, хто гаворыць. Такое пытанне заключае ў сабе зварот да субяседніка і ў большасці выпадкаў — пэўны і адназначны адказ (*«Як трапіць у паліклініку?»— «Направа»*).

Іншы раз гэта можа быць пытанне пра абставіны, прыкладна вядомыя *(А як ехаць туды? А калі там нікога няма?)*. У такіх выпадках павінна быць адно, найбольш мэтазгоднае рашэнне.

4. Сказы, у якіх выражаецца пажаданасць-непажаданасць дзеяння. Граматычнай прыметай гэтых сказаў амаль заўсёды з'яўляецца часціца *бы (б)*: *Паслухаць бы драздоў світанне ў час ружовага світання* (П. Панчанка); *Прайсці б цяпер, брат, па парошы!* (Я. Колас); *Ганне ніяк не ўдавалася пабачыцца з Васілём... Хоць бы здалёк пабачыць, вачыма перамовіцца* (І. Мележ); *Убачыць толькі б родны Сож — не шкода ўсё аддаць* (П. Панчанка); *Зноў насунуліся нізкія цёмна-сінія хмары... Прыдумаць бы мятлу такую, каб змесці ўсе хмары...* (А. Бялевіч); *На сяўбу прыйсці б дамоў нам* (М. Лужанін); *Глянуць бы на гэты*

*край, схіліцца ў сыноўскай любві перад ім, цалаваць бы зямлю, на якой у маленстве зрабіў першы крок* (Т. Хадкевіч); *Нікуды не хацелася спяшацца... Так бы сядзець, маўчаць і глядзець на зачараваны азёрны прастор* (С. Грахоўскі).

Некаторыя інфінітыўныя сказы звязаны з выражэннем мэтанакіраванага жадання (*Толькі б дажыць; Толькі б даплыць*).

Многія з такіх сказаў маюць семантычнае адценне таго, што гэта дзеянне не збудзецца ці што для яго ажыццяўлення ёсць цяжкасці. Часта ў наступным кантэксце з *але* ёсць прамыя ўказанні на тое, што гэта жаданне не здзейсніцца: *Мне б пабыць аднаму, але ўсё не выпадае.*

Канструкцыі з адмоўнай часціцай перадаюць непажаданасць ажыццяўлення дзеяння. Гэта агульнае значэнне можа суправаджацца рознымі адценнямі, у прыватнасці выражэннем боязі, што дзеянне можа ажыццявіцца. Спецыялізаваным сродкам выражэння гэтага адцення служыць спалучэнне часціц *як бы не: Як бы не спужаць; Як бы горш не зрабіць; Як бы не памыліцца.*

Пры звароце да субяседніка інфінітыўныя сказы з часціцай *бы (б)* выражаюць параду: *Табе б палячыцца; Вам бы пажыць асобна.* Інфінітыўныя сказы вызначаюцца павышанай экспрэсіяй, лаканізмам, катэгарычнасцю, перадаюць напружанасць дзеяння, якая часта падтрымліваецца адпаведнай інтанацыяй.

Выражаючы разнастайныя мадальныя значэнні, інфінітыўныя сказы часта ўжываюцца ў размоўным стылі. У творах мастацкай літаратуры яны пераважна выкарыстоўваюцца ў мове персанажаў, у публіцыстычным стылі — у закліках і лозунгах. Для навуковага і дзелавога стылю інфінітыўныя сказы не характэрны.

### *Намінатыўныя сказы*

§ 204. Н а м і н а т ы ў н ы м і называюцца аднасастаўныя сказы, якія сцвярджаюць наяўнасць, існаванне прадметаў, з'яў; галоўны член іх выражаны назоўнікам у назоўным склоне: *Сіняе неба і яснае сонца. Сіняя Прыпяць і белы пясок нізкага левага берага* (В. Вольскі); *Цаліна. Маладая пара. Сябры. Раніцай ступаем босай нагой у бурт пшаніцы, як у родную раку. Праца ў рэдакцыях. Камандзіроўкі на буйнейшыя новабудоўлі рэспублікі. Цікавыя людзі, гутаркі, сустрэчы* (Р. Барадулін); *Слёзы... Кроў... Літанне... Жудасць... І крыжы на ўсходзе... А над вогнішчам жахлівым сонца ўзыходзіць* (П. Трус); *Снег і агонь... Агонь і снег... Агонь на зямлі ад выбухаў бомбаў, бясконцых залпаў гармат* (І. Шамякін).

Назва такіх сказаў паходзіць ад лацінскага слова nominativus, што значыць — назоўны склон. Гэтым тэрмінам падкрэсліваецца, што форма назоўнага склону, адна ці разам з паясняльнымі словамі, як абсалютна незалежная ад іншых членаў сказа, з'яўляецца арганізуючым цэнтрам такіх канструкцый: *Чэрвень. Раніца. Росы і цішыня* (П. Панчанка); *Шум, гоман, смех дзяцей* (Я. Колас); *Ноч, цемра, глухмень* (Я. Колас); *Цішыня. Мёртвы попел* (П. Панчанка); *Круглае поле. Узгоркі, каменне. Лес па краях, як сцяна* (Я. Колас); *Май. Вішнёвы пажар. Сіні ранак. Па ваду да крыніцы ты йдзеш цераз луг, што ў кветкі прыбраны* (П. Панчанка); *Бурны рост. Цвёрды крок* (Я. Купала); *Цішыня. Над туманнай лагчынай, як браты, абняліся дубы* (А. Звонак); *Вось і бераг... Жоўты спад і круча* (К. Кірэенка).

Асноўным значэннем намінатыўных сказаў з'яўляецца сцвярджэнне

наяўнасці прадметаў ці з'яў. Гэта значэнне можа ўскладняцца значэннем указання, эмацыянальнай якаснай ацэнкі, волевыяўлення і інш.

Намінатыўныя сказы могуць быць апавядальныя і клічныя. У клічных сказах выражаецца эмацыянальная ацэнка той ці іншай з'явы рэчаіснасці, у іх могуць быць узмацняльныя часціцы: *Ото натура!— жонка лае, а ён смяецца, не шманае* (Я. Колас); *Якія горы! А сады якія!* (П. Панчанка); *Якія сэрцы, якія людзі! Тут раз пабудзеш — век не забудзеш!* (П. Панчанка); *Якое хараство! Якая шпаркасць! Сіла!* (К. Крапіва); *...Ото, брат, горад! От даміщчы, ото дзе сыпалі грашышчы! Якія вежы і касцёлы! Як толькі іх трымаюць долы!* (Я. Колас).

Намінатыўныя сказы бываюць неразвітымі і развітымі: *Светлы вечар алтайскі. Цішыня і прастор* (Э. Агняцвет); *Снег скрыпучы пад санямі, быстры конь, мяцелі дым* (М. Машара); *Халадок. Мароз. Звонка* (М. Лужанін); *Рэвалюцыя. Воля. Верх узяў пралетарый...* (Я. Купала).

З развітых намінатыўных сказаў часцей за ўсё ўжываюцца такія, галоўны член якіх, выражаны назоўнікам у форме назоўнага склону, мае пры сабе дапасаваныя і недапасаваныя азначэнні: *Снежная пустыня. Цішыня* (І. Шамякін); *Восеньская ноч. Туман. Вецер. Дождж* (В. Быкаў); *Ранне. Шляхі праз палі і бары. З выстаўкі едуць дадому сябры* (П. Броўка); *Завеяны снегам сыпучым барозны. Калючыя зоры... Паўночны спакой... Сярэбраным строем над шляхам марозным чатыры яліны стаяць пад Масквой* (А. Вялюгін).

Акрамя гэтага, галоўны член намінатыўнага сказа (назоўнік у назоўным склоне) можа мець пры сабе адасобленае азначэнне, выражанае прыметным ці дзеепрыметным словазлучэннем, адасоблены развіты прыдатак і нават даданы сказ: *Багна, трысце, гнілая вада, зацягнутая бросняй і плеўкамі рудой, іржавай твані* (М. Лынькоў); *Радзіма, казачны мой кут, лясы старыя, пералескі. Знаходзіў я калісьці тут паміж прагалінаў пралескі* (М. Шушкевіч); *Асцярожнасць, хітрыя коды, ключы да якіх наўрад хто знойдзе цяпер...* (І. Шамякін).

Намінатыўныя сказы з прыметнікам у функцыі азначэння трэба адрозніваць ад двухсастаўных сказаў з іменным выказнікам, выражаным прыметнікам. Параўн.: *Бедны, але чысты пакой* (намінатыўны сказ)— *Пакой бедны, але чысты* (двухсастаўны сказ).

Звычайна пры размежаванні такіх сказаў пад увагу бярэцца парадак слоў, тое, якое месца ў адносінах да назоўніка займае прыметнік. Як правіла, у намінатыўных сказах азначэнне-прыметнік стаіць у прэпазіцыі адносна галоўнага члена, у двухсастаўных — у постпазіцыі. У намінатыўных сказах лагічным націскам выдзяляецца назоўнік (галоўны член), у двухсастаўных — прыметнік (выказнік).

Паводле семантыка-функцыянальных прымет намінатыўныя сказы падзяляюцца на быційныя і ўказальныя.

Б ы ц і й н ы я, ці экзістэнцыяльныя, сказы сцвярджаюць існаванне або наяўнасць прадмета, з'явы, стану. Такія сказы характэрны для апісання. У іх пералічваюцца наяўныя прадметы абстаноўкі ці пейзажу, абазначаюцца даты, апісваюцца разнастайныя з'явы. Часцей за ўсё пры дапамозе іх даюцца апісанні абстаноўкі статычнай. Пры гэтым у пачатку тэксту яны нярэдка раскрываюць час і месца сітуацыі: *Ноч. Позняй парою не бачна і ценяў* (А. Бачыла); *Ціхі вечар, знікнула спякота* (М. Багдановіч); *Фестываль. Музыкі граюць з Чылі, з СССР, з Кітая, і з Балгарыі, і з Польшчы* (Я. Брыль); *Ясны жнівеньскі дзень. Даўняе, пазарастанае палыном селішча наводшыбе вялікай палескай вёскі* (Б. Сачанка); *Ноч. У мроку нікнуць травы і кусты* (Я. Колас); *Памор'е. Год трыццаць дзевяты. Я пехацінцам радавым служу* (А. Звонак); *Сіняе неба ўсё сонцам заліта. Полудзень. Вар. Цішыня. Дождж ыку про-*

*сіць зялёнае жыта, прагне вады ярына* (Я. Колас); *Мароз, зіма, снягі вакол, і спіць трава, пад снегам дол* (Я. Колас); *Ціхі, сонечны вераснёвы ранак* (П. Пестрак); *Цішыня... А восень такая, што расчуліць можа да слёз* (П. Панчанка).

Канструктыўны састаў галоўнага члена быційных намінатыўных сказаў лексічна абмежаваны. У ролі галоўнага члена іх звычайна выступаюць назвы з'яў і стану прыроды, падзей, пэўных адрэзкаў часу ці прасторы. Менш прыстасаваны да гэтай ролі назоўнікі з прадметна-канкрэтным значэннем, якія атрымліваюць намінатыўна-быційны сэнс толькі тады, калі яны ўжываюцца ў адным радзе з іншымі намінатыўнымі сказамі *(Ноч. Халодная зямлянка. Перастрэлка. Цішыня* (П. Глебка)). Немагчыма ў якасці быційных намінатыўных сказаў ужыванне адушаўлёных назоўнікаў. Не маюць быційнага значэння, а таму не ўтвараюць быційных намінатыўных сказаў зборныя назоўнікі.

Намінатыўныя быційныя сказы па значэнню блізкія да некаторых асабовых сказаў: *Перастрэлка — Ідзе перастрэлка; Крык — Чуваць крык.* У адрозненне ад апошніх намінатыўныя сказы толькі канстатуюць наяўнасць, існаванне прадметаў ці з'яў, не дапускаючы прэдыкатыўнай развітасці.

Ва ў к а з а л ь н ы х сказах не толькі сцвярджаецца існаванне прадметаў ці з'яў, але і ўказваецца на іх пры іх наяўнасці ці паяўленні. У структурную схему такіх сказаў уваходзяць часціцы *вось, вунь, вот.*

З а ў в а г а. Сказы з часціцамі *вось* і *вунь* (апошняя ўказвае на больш аддалены прадмет) блізкія да двухсастаўных, паколькі ў словах *вось* і *вунь* адчуваецца адценне акалічнасці (*вось,* гэта значыць, 'тут, перад табой'), што ўласціва саставу выказніка.

Фарміраванне ўказальных намінатыўных сказаў у адрозненне ад быційных ажыццяўляецца пераважна на базе канкрэтна-прадметных назоўнікаў (у тым ліку і адушаўлёных): *Вось і бераг, пругкі пясок* (І. Мележ); *Вось корпус заводакіраўніцтва, кабінет дырэктара, кантора бухгалтэрыі, планавага аддзела, аддзела забеспячэння і збыту* (Я. Скрыган); *Вось і масток, і чорныя абрысы трох алешын* (К. Чорны); *Вось і веснiцы колеру свежай травы* (П. Панчанка); *А вунь узгорак* (Т. Хадкевіч); *Унь і замак, бачыш? вежа!* (Я. Колас); *Вось і поўнач. Туман спадае сівы* (М. Танк); *Вось і брама ўся ў вянках, выстаўка адкрыта* (П. Броўка); *Вось і гумно... Змрочная, халодная ёўня... Ахапак саломы. Забыццё... Напалоханыя вочы мацеры... І радасць, і страх на яе такім жа блізкім твары...* (М. Лынькоў).

Спалучэнне *вось і* ўказвае на паяўленне прадмета ці з'явы, якіх чакалі ці пра якія ўпаміналася раней.

У вуснай мове такія сказы звычайна суправаджаюцца ўказальным жэстам. Указальныя намінатыўныя сказы, дарэчы, у вусным стылі мовы шырока распаўсюджаны.

Вызначальнай асаблівасцю намінатыўных сказаў з'яўляецца тое, што ім уласціва фрагментарнасць і адначасова большая ёмістасць выражэння зместу. У іх называюцца толькі асобныя дэталі сітуацыі, але дэталі важныя, разлічаныя на вопыт і ўяўленне чытача,— такія, па якіх ён можа ўявіць сабе агульную карціну пэўнай абстаноўкі. Лаканізм і ў той жа час устаноўка на перадачу шырокага агульнага зместу абумоўліваюць экспрэсіўнасць намінатыўных сказаў.

Семантычная своеасаблівасць намінатыўных сказаў абумоўлівае і семантыка-граматычную спецыфіку галоўнага члена. Па форме ён супадае з дзейнікам, але абазначае не носьбіта прыметы (як у двухсастаўных сказах), а асобага роду прымету. У сувязі з гэтым ён не мае і ўла-

сцівасцей выказніка: не здольны ўжывацца са звязкай і выражаць мадальна-часавыя значэнні.

Прэдыкатыўнасць у намінатыўных сказах выражаецца пры дапамозе сінтаксічнага часу і сінтаксічнай мадальнасці, якія рэалізуюцца інтанацыяй.

Называючы асобныя дэталі пэўнай сітуацыі, намінатыўныя сказы заўсёды суадносяцца з рэальнай мадальнасцю і перш за ўсё са значэннем цяперашняга часу. Пры гэтым у размоўных канструкцыях звычайна канстатуюцца з'явы, якія прама адносяцца да моманту маўлення.

З а ў в а г а. У прошлым і будучым ім адпавядаюць двухсастаўныя сказы з выказнікам, выражаным дзеясловам са значэннем існавання, наяўнасці, параўн.: *Зіма — Была зіма — Будзе зіма.*

У апісальных і апавядальных мастацкіх тэкстах змест намінатыўных сказаў адпавядае часаваму плану «цяперашняга гістарычнага». Абазначаючы наяўнасць прадметаў, з'яў у цяперашнім часе, намінатыўныя сказы бываюць толькі сцвярджальнымі.

Семантычнай і граматычнай спецыфікай намінатыўных сказаў вызначаюцца і іх стылістычныя асаблівасці. Намінатыўныя сказы, як правіла, у мове выконваюць тры стылістычныя функцыі: а) сціслае апісанне абстаноўкі, якое служыць як бы ўступам да асноўнага паведамлення; б) пералічэнне для характарыстыкі найбольш выразных прымет, з'яў; в) перадача прадметаў, з'яў, падзей, якія хутка змяняюцца.

Лаканічныя і выразныя, намінатыўныя сказы шырока выкарыстоўваюцца ў розных жанрах мастацкай літаратуры, а таксама там, дзе патрабуецца найбольшая дакладнасць і сцісласць у апісаннях (газетныя рэпартажы, фельетоны, кінасцэнарыі, дзённікі і г. д.): *Трыццаты год. Гудзе-гамоніць вёска* (П. Панчанка); *Сонца. Блакітнае неба. Птушак вакол гамана. Зноў заспявала, зайграла, загаманіла вясна* (П. Броўка); *Ад крыві чырвонай фарбаваўся Нёман. Гаціліся гаці з трупаў па вадзе. Дзікі свіст і бразгат. І выццё і гоман. Бітва, як ніколі... Бітва, як нідзе* (З. Бядуля); *Вось апошні паварот. Яна ўбачыла наперадзе тое месца, дзе раней было сяло* (І. Мележ).

### *Канструкцыі, якія прымыкаюць да намінатыўных сказаў*

§ 205. З намінатыўнымі сказамі могуць фармальна супадаць некаторыя сінтаксічныя канструкцыі. Гэта такія канструкцыі, якія або не заключаюць у сабе значэння быцця, існавання і не здольны да самастойнага функцыяніравання, або з'яўляюцца няпоўнымі двухсастаўнымі сказамі.

Да намінатыўных сказаў не адносяцца:

1. Назвы кніг, устаноў, надпісы на вывесках, загалоўкі і пад., асноўная функцыя якіх — называнне без значэння быцця: *«На ростанях»; «Хто смяецца апошнім»; Педагагічны інстытут; Акадэмія навук БССР.* Вывескі, ізаляваныя назвы літаратурных твораў, не атрымаўшыя прэдыкатыўнасці, не з'яўляюцца сказамі.

2. Назвы асоб па імені, прозвішчу, пасадзе, спецыяльнасці, становішчу і пад.: *Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч; Кандрат Кандратавіч Крапіва; Старшы навуковы супрацоўнік.*

3. Канструкцыі, якія сведчаць аб наяўнасці ў каго-небудзь пэўных прадметаў: Н о х і м. *Гнутыя палкі, тытунь і запалкі, шпількі, іголкі і перац горкі* (П. Глебка); Т р э ц і. *Кашулі, спадніцы, ручнікі вышываныя!* М а л ь в і н а. *Міскі, талеркі, гаршкі маляваныя!* (В. Вольскі).

4. Канструкцыі, якія заключаюць характарыстыку таго, што было ў

папярэднім сказе ці ясна з кантэксту. Гэта няпоўныя двухсастаўныя сказы з выказнікам у форме назоўнага склону. Яны заўсёды цесна звязаны па сэнсу з папярэднім кантэкстам: *«Хто ты і як тваё прозвішча?»— было першае пытанне.— «Рэвалюцыянер. Прозвішча ў мяне няма»* (Я. Колас); —*«Вы хто ж будзеце?— лагодна запытаў селянін».—«Настаўнік»,— адказаў Лабановіч* (Я. Колас).

Такія канструкцыі з'яўляюцца своеасаблівым прэдыкатам да папярэдняга сказа ці да дзейніка, які падразумяваецца. Прэдыкатыўнасць гэтых сказаў — адметная рыса, што адрознівае іх ад намінатыўных сказаў.

5. Сказы, якія называюць характэрную прымету таго, аб чым гаварылася раней: *Адзін вось зноў убачыў сон: канцлагер, дрот калючы, як ён бяжыць да партызан праз нетры, пушчы, кручы* (М. Танк); *Ён быў падобны на мерцвяка. Белыя шчокі, пустыя вочы, пасінелыя губы* (А. Чарнышэвіч).

6. Сказы, якія ўказваюць на прычыну таго, аб чым гаворыцца ў папярэдніх сказах. Такія канструкцыі цесна звязаны з кантэкстам: *А куля — дзык! А другая ў руку. А трэцяя вось тут, у грудзі!.. Рэшата! Эпапея!* (Я. Брыль); *«Я гуляю... пасля навальніцы... Азон. Раса...»* (І. Шамякін).

7. Двухсастаўныя сказы з пропускам дзеяслова быцця. Параўн.: *Стол для пісьма* і *Стол — каля акна*. Першы сказ намінатыўны, другі — двухсастаўны, няпоўны: «для пісьма» — недапасаванае азначэнне, «каля акна» — акалічнасць месца, звязаная з адсутным дзеясловам. Для адрознівання такіх сказаў, значыць, трэба ўлічваць, да чаго адносяцца залежныя словы — да дзейніка ці да адсутнага выказніка. Гэтыя сказы і вымаўляюцца па-рознаму: у другім сказе пасля дзейніка адчуваецца паўза.

Пры наяўнасці хоць бы аднаго слова з саставу выказніка сказ нельга лічыць намінатыўным, напрыклад: *Пад вярбой зялёнай — луг мурожны* (А. Вялюгін). Слова *пад вярбой* — адзіны прадстаўнік групы выказніка, што не дазваляе адносіць такі сказ да намінатыўных.

8. Словы і словазлучэнні, якія выражаюць прывітанне: *Маё шанаванне; Хлеб-соль; Добры дзень.*

9. Назоўны ўяўлення (назоўны тэмы).

Назоўны ўяўлення — гэта назоўнік у назоўным склоне ці іменнае словазлучэнне, якое мае закончаную інтанацыю і называе прадмет наступнай думкі — з мэтай яго выдзялення, падкрэслівання, з мэтай звярнуць на яго ўвагу: *Канец!.. Як многа разважання і засмучонага пытання ў гэтым простым, страшным слове...* (Я. Колас); *Мінск... Чарняхоўскі думкамі быў ужо ў Мінску* (І. Мележ); *«Пакуты слова». У паняцце гэтае трэба ўключыць іменна тыя пакуты, калі мне хочацца працаваць, а я не магу* (Я. Брыль).

Своеасаблівасць назоўнага тэмы ў тым, што назоўнік у назоўным склоне дае назву ўяўлення, а не паняцця, як у намінатыўных сказах. Звычайна адносна гэтага ўяўлення далей выказваецца пэўнае суджэнне: *Пушкін! Назавіце гэтае імя, і радасна, і горача заб'ецца сэрца* (П. Панчанка); *Час! Яго пульс пранізвае рытм штодзённай палітыка-інфармацыйнай праграмы «Час», вызначае структуру дзённай і тыднёвай тэлевізійных праграм* (Полымя, 1984); *Бабруйск... Маё маленства! Я ўспамінаю яблыневыя сады, сярод якіх хаваюцца драўляныя домікі, разліў Бярэзіны, руіны старажытнай крэпасці...* (Беларусь, 1985); *Масква, Масква! — як многа ў гэтым гуку! Сказаў не я, але і я скажу, што гэта слова — прыстань нашых думак, надзей, жаданняў, веры і любві* (П. Панчанка); *Лісты, лісты! Яны, як порах. Ад сэрца іх далей трымай*

(М. Танк); *Савецкая ўлада на сяле! Гэта не толькі крылатыя словы. Гэта аб'ектыўная рэальнасць, гэта свабода і шчасце, якое дала нам савецкая ўлада...* (А. Бялевіч).

Пры вiдавочным падабенстве назоўнага тэмы i намінатыўных сказаў яны не аднатыпныя.

Назоўны тэмы, пазбаўлены прэдыкатыўнасці, сам па сабе ў адрозненне ад намінатыўных сказаў не можа выражаць паведамленні пра тыя з'явы, якія ён называе. Функцыя назоўнага тэмы толькі ў тым, каб падрыхтаваць чытача да наступнага, асноўнага выказвання: *Бухчаў Стась! Вось каго Галяш і не любіў, можна сказаць, ненавідзеў і нават пабойваўся* (К. Чорны); *Брагіншчына... Яшчэ зусім нядаўна, якіх дваццаць год назад, у гэтым кутку беларускага Палесся на дзесяткі кіламетраў ляжалі сонныя, млявыя балоты* (Беларусь, 1984); *Справядлівасць! Дзе і калі яна была беднаму, цёмнаму чалавеку! Дзе яе шукаць яму, адзінокаму, безабароннаму, які, можна сказаць, і свету не бачыў далей куранёўскіх балот, які і ў Алешніках нясмела азіраецца* (І. Мележ).

Назоўны тэмы цесна звязаны з наступным сказам, абапіраецца на яго. Іменна гэта службовая функцыя, несамастойнасць назоўнага тэмы дазваляюць адмежаваць яго ад намінатыўнага сказа — самастойнага выказвання. Сутнасць канструкцый, якія ўключаюць назоўны тэмы, удала раскрываецца з пазіцыі тэорыі актуальнага члянення сказа. Згодна з гэтай тэорыяй, як вядома, у сказе можна выдзеліць два асноўныя сэнсавыя элементы: тое, аб чым нешта гавораць (г. зн. аснову выказвання, зыходны пункт), і тое, што гавораць аб гэтай аснове (г. зн. ядро выказвання, новае, рэму).

Назоўны тэмы, папярэднічаючы тэме выказвання, падкрэслівае яе, выдзяляе, стварае асобае напружанне, настрой чакання. Калі разглядаць назоўны тэмы разам з наступным сказам, то можна сказаць, што ў гэтым своеасаблівым сегментаваным выказванні тэма абазначаецца двойчы, прычым другі раз часцей за ўсё з дапамогай займеннікаў. Сказ, які ідзе за назоўным тэмы, сам па сабе выдзяляе і тэму, і рэму, але тэма гэтага сказа абазначаецца двойчы: сваё першапачатковае абазначэнне яна атрымала ў папярэдняй канструкцыі. У выніку двайнога абазначэння тэмы і ствараецца экспрэсія выказвання.

Назоўны тэмы вымаўляецца з асобай інтанацыяй фразавага тыпу, з дапамогай якой ён аддзяляецца ад наступнага сказа: *Камуністы!.. Гэты заклік да змагання вымаўляць без хвалявання не магу* (А. Куляшоў); *Смерць! Яна гэта адчула ўсім сваім інстынктам* (К. Чорны); *XX стагоддзе... У гісторыі літаратуры яно пачалося значна раней, чым каляндарнае* (Полымя, 1984); *«Мама!» — слова гэтае кранула самыя найлепшыя пачуцці ў душы* (І. Шамякін); *«Васіль... Васіль...»— уварвалася, пранізала ўсю яе, неяк асабліва, да болю дарагое — у горле зашчымела ад горнасці* (І. Мележ); *Янка Купала! Два словы, простыя беларускія словы, а колькі выклікаюць яны ў нашых пачуццях, уяўленнях успамінаў, перажыванняў, звязаных з творчасцю, з яркім вобразам вялікага паэта!* (Я. Колас); *Вёска Бясхлебавічы! Страшная назва!* (У. Дубоўка).

Сказы са значэннем уяўлення ўжываюцца звычайна пры апісанні разважанняў, успамінаў пра каго-, што-небудзь.

10. Вакатыўныя сказы. Вакатыўнымі (ад лацінскага vokativus — клічны) называюцца сказы, адзіны член якіх, выражаны звароткам, вымаўляецца з інтанацыяй папроку, спачування і пад., тым самым даючы пэўную ацэнку: *«Надзя!» — мімаволі вырвалася ў мяне* (І. Шамякін); *«Адаська!» — закрычаў бацька, кідаючыся да сына ў парозе* (К. Чорны).

З а ў в а г а. Вакатыўныя сказы (сказы-звароткі) ацэньваюцца па-рознаму. Адны выдзяляюць іх у асобы тып аднасастаўных сказаў, другія лічаць намінатыўнымі, трэція разглядаюць вакатыўныя сказы як нерасчлянёныя (словы-сказы). Разнастайнасць характарыстык выклікана сінкрэтызмам семантыка-граматычных уласцівасцей вакатыўных сказаў.

Вакатыўныя сказы падобны да намінатыўных сказаў і да зваротка, паколькі нагадваюць сабой назоўны склон назоўнікаў, і, як правіла, уласных. Абазначаючы асобу, да якой звяртаецца той, хто гаворыць, гэтыя канструкцыі рэзка адрозніваюцца ад намінатыўных сказаў, якія маюць іншае камунікатыўнае прызначэнне.

Цяжэй размежаваць вакатыўныя сказы і зваротак, асабліва ў нетыповых выпадках. Часам толькі кантэкст падказвае, дзе вакатыўны сказ, а дзе — зваротак: *Праз секунду яна зірнула ў адзін бок, у другі і падалася па схіле ўніз, але, на бяду азірнуўшыся, стала.— Іван!!! Спалох, боль і радасць адначасна азваліся ў гэтым воклічы. Яна пляснула далонямі і птушкаю кінулася яму насустрач* (В. Быкаў).

Пры размежаванні вакатыўных сказаў і зваротка неабходна ўлічваць, што зваротак не з'яўляецца самастойнай камунікатыўнай адзінкай, а вакатыўны сказ выражае, хоць і не расчлянёна, думку, пачуццё, волевыяўленне.

Вызначальнай асаблівасцю вакатыўных сказаў у параўнанні са звароткам з'яўляецца іх ізаляванасць, ужыванне імя таго, да каго звяртаюцца, без кантэксту, які як бы ўваходзіць у падтэкст.

Гэта спецыфіка камунікатыўна-сінтаксічнай сутнасці вакатыўных сказаў рэалізуецца ў інтанацыі, характар якой вызначаецца аўтарскай рэмаркай.

Яркім прыкладам інтанацыйнай разнастайнасці вакатыўных сказаў можа быць вымаўленне настаўнікам у час урока прозвішчаў вучняў. Настаўнік можа сцісла выказваць розныя думкі, змяняючы інтанацыю, з якой вымаўляюцца прозвішчы. Гэта можа быць загад, прапанова, папрок, забарона, папярэджанне і г. д.

У вакатыўных сказах няма паказчыкаў мадальнасці і часу. Агульны змест і інтанацыйнае афармленне такіх сказаў дазваляюць убачыць у іх пабуджальную мадальнасць у яе разнастайных адценнях.

У структурна-граматычных адносінах вакатыўныя сказы характарызуюцца тым, што ў іх нельга выдзеліць ні дзейніка, ні выказніка, не бывае ў іх даданых членаў сказа, акрамя азначэння.

Па форме выражэння вакатыўныя сказы аднатыпныя, таму ў аснову іх класіфікацыі кладуцца не структурна-граматычныя, а функцыянальныя прыметы. Пры гэтым прымаюцца пад увагу такія асаблівасці інтанацыі, ад якіх звычайна і залежаць іх сінтаксічныя функцыі.

Усе вакатыўныя сказы можна падзяліць на тры групы з пункту погляду іх функцый, складанасці зместу.

Да п е р ш а й групы адносяцца найбольш простыя вакатыўныя сказы, якія выражаюць заклік, просьбу ці патрабаванне адгукнуцца, адказаць. Эмацыянальная афарбоўка іх можа быць рознай як па якасці, так і па сіле. Па семантыцы такія сказы блізкія да зваротка, але адрозніваюцца ад апошняга інтанацыйна-граматычнай самастойнасцю: *Дзеці! Вы перашкаджаеце працаваць, супакойцеся!*

Д р у г у ю групу складаюць вакатыўныя сказы, якія выражаюць рэакцыю на словы ці дзеянні субяседніка і паводле зместу больш складаныя, чым сказы першай групы. Падобныя вакатыўныя сказы часта ўжываюцца з мэтай спыніць выказванне субяседніка. Яны суправаджаюцца рознымі пачуццямі: просьбы, папроку, спачування, гневу і г. д.

Вакатыўныя сказы гэтай групы могуць ужывацца з выклічнікамі

*эх, ах* і інш. У такіх сказах часта двойчы паўтараецца галоўнае слова. Гэта стварае асобую падкрэсленую экспрэсіўнасць: *«Эх, хлопцы, хлопцы!»— сказаў я, каб стрэсціся ад цяжкіх думак* (Я. Брыль); *«Эх, Зося!— так Янка гаворыць бывала: за што мяне шчасце такое спаткала!»* (Я. Купала); *Ён падышоў на два крокі, пільна зазірнуў мне ў вочы, уздыхнуў: «Эх, Шапятовіч, Шапятовіч...»* (І. Шамякін); *Ай, малады! малады! Брыдка! Праз тры дні вяселле, а ён расцягнуўся, як навой!* (Я. Колас);*«Ах, Міхаліна, Міхаліна»* (назва аповесці І. Шамякіна).

Да трэцяй групы належаць вакатыўныя сказы з выклічнікам, які выражае пачуцці, што ўзнікаюць у момант пазнавання, прыпамінання: — *А, гэта ты, Аўгінька!* (Я. Колас); *—А, гэты!— прамовіў начальнік* (Я. Колас).

### *Генітыўныя сказы*

§ 206. Своеасаблівую групу ў беларускай мове складаюць аднасастаўныя сказы, галоўны член якіх — незалежны родны склон імя — не толькі перадае значэнне наяўнасці, існавання прадмета, але і характарызуе яго ў колькасных адносінах: *А дарог жа, дарог, ды прасторных якіх, што яснотай дышуць!* (Я. Колас); *А ў гарадах, кажуць, што тавару ў магазінах!* (К. Крапіва); *А птушак, птушак!* (М. Лынькоў); *«А трафеяў!— гучна здзівіўся Ладуцька, разглядаючы зводку.— Браткі мае, колькі трафеяў!.. Вось гэта па-баявому!..»* (А. Кулакоўскі).

Назоўнікі ў родным склоне, якія з дапамогай інтанацыі ператварыліся ў сказ, набываюць у незалежнай пазіцыі сінтаксічнае значэнне быційнасці. Дзякуючы гэтаму сказ атрымлівае граматычную аформленасць і камунікатыўную значымасць (г. зн. заключае паведамленне).

Генітыўныя сказы часта маюць у сваім саставе лексічныя паказчыкі колькаснага значэння: *Радасці колькі! Земляпак засталося толькі тры, а гаспадарак у нас каля сотні* (Я. Брыль); *Дружа! Кінь на неба вока — колькі зорак, колькі зор!* (Я. Колас); *А людзей — бясконца многа, аж-но страх!* (З. Бядуля); *Песень скрозь у нас багата* (П. Панчанка); *А зойдзеш у сад калі ты, там гэткая цётка ліпа — на ёй салаўёў — сяло!* (М. Лужанін); *На такой гаспадарцы, як наша, зімой работы няшмат* (Я. Брыль).

З а ў в а г а. Месца генітыўных сказаў у сістэме простага сказа вызначаецца няпэўна: звычайна іх лічаць асобай разнавіднасцю безасабовых сказаў, што не зусім правамерна, паколькі катэгорыя безасабовасці непасрэдна звязана з катэгорыяй выказніка, а лічыць генітыў выказнікам нельга; гэта форма выконвае функцыю называння прадмета (ці прадметаў) і сцвярджэння наяўнасці яго (ці іх) у вялікай колькасці, значыць, функцыянальна генітыўныя сказы бліжэй да намінатыўных, чым да безасабовых. Сам генітыў тут мае суб'ектнае значэнне.

Фармальна такія сказы збліжаюцца з безасабовымі адмоўнымі сказамі тыпу *Вакол ні гуку,* аднак функцыянальна яны розныя: катэгорыя адмоўя — катэгорыя плана выказніка, і родны тут як вынік эліпсісу дзеяслова быцця абумоўлены дзеяслоўнай залежнасцю, у генітыўных сказах тыпу *Народу!* родны нельга тлумачыць залежнасцю ад дзеяслова, гэта незалежнае слова. Незалежнасць сінтаксічнай пазіцыі такога генітыва функцыянальна збліжае яго з дзейнікам.

Колькаснае значэнне ў генітыўных сказах можа быць выражана фразеалагічнымі спалучэннямі: *Клопатаў — па горла!*; *Ягад — хоць прыгаршчамі збірай!*

Лексічныя паказчыкі колькаснага значэння разам з формай роднага склону ўтвараюць граматычную аснову сказа, прычым тыповае значэнне такіх сказаў —'паведамленне пра колькасць названых прадметаў'— перадаецца расчлянёна —родны склон+колькаснае слова ці словазлучэнне.

Генітыўныя сказы маюць прызвязачную структуру выказніка: *Кніжак (ёсць, было, будзе) многа.* На месцы адсутнай звязкі *ёсць* можа ставіцца працяжнік: *Хлеба — два кілаграмы; Адпачынку — дзве гадзіны.* Працяжнік становіцца неабходным знакам, калі выказнік генітыўнага сказа мае нестандартную, «сказавую» форму выражэння: *Кнікак — колькі хочаш, паперы і сшыткаў — хоць заваліся, настаўнікі — усе з вышэйшай адукацыяй* (М. Лужанін).

Генітыўныя сказы выкарыстоўваюцца ў асноўным у дыялагічнай і ў маналагічнай, эмацыянальна афарбаванай мове.

З фармальна-граматычнага пункту погляду падобныя сказы нельга прызнаць двухсастаўнымі, бо родны склон імя не можа быць дзейнікам. Але відавочна і тое, што родны склон тут усё-такі «прадмет думкі», зыходны тэматычны пункт («тэматычны дзейнік»), на які арыентуецца выказнік. Сінтаксічнае значэнне такіх сказаў вельмі акрэсленае: яны выражаюць колькасную, прасторавую або часавую меру таго, што называецца ў родным склоне: *Клопатаў безліч; Дзяцей двое; Хады дзве гадзіны; Тавараў на тысячу рублёў; Снегу па пояс; Турбот па горла.*

Сфера ўжывання генітыўных сказаў шырокая. Яны выкарыстоўваюцца ў размоўным стылі, у мове мастацкай літаратуры (апавяданне і дыялог). У апошні час яны актыўна пранікаюць у мову газеты, асабліва ў нарыс і карэспандэнцыю.

## НЕРАСЧЛЯНЁНЫЯ СКАЗЫ (СЛОВЫ-СКАЗЫ[1])

### АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА

§ 207. Нерасчлянёныя сказы — непадзельныя сінтаксічныя адзінкі з аднаго слова або ўстойлівага спалучэння слоў, якія выражаюць дадатны ці адмоўны адказ на чыё-небудзь выказванне, а таксама мадальна-экспрэсіўную, эмацыянальную ацэнку, пабуджэнне да чаго-небудзь, запытанне: *Хомка спытаў: «Дык ты цяпер на Баханы?»— «Ага»* (І. Чыгрынаў); *«А хіба ты не ведаеш? — «Не»* (К. Чорны); *«А-а»...—здагадаўся тады Ганс* (М. Лынькоў); *«Ну добра. Мы цябе прымаем, але памятай — слухаць павінен»* (Я. Колас); *«Ну, што, прыйшоў твой бацька?»—спытаўся Тонік.— «Не... можа, яшчэ прыйдзе»,—сказаў Арсенік* (В. Адамчык); *«Гэта таксама справа агульная, дзяржаўная».— «Ну?!» — здзівіўся Тугай* (Я. Маўр).

Словам-сказам, як і ўсім сказам сучаснай беларускай мовы, уласцівы і інтанацыя паведамлення, якая надае ім сэнсавую закончанасць і суадносіць іх змест з рэальнасцю, г. зн. служыць сродкам выражэння мадальнасці, і суб'ектыўна-аб'ектыўныя катэгорыі сказа. Аднак спецыфіка праяўлення гэтых катэгорый у многім абумоўлена характарам

---

[1] Тэрмін «словы-сказы» не зусім удалы, паколькі ён не ўказвае на спецыфіку гэтай групы сказаў, а з'яўляецца вельмі ўмоўным абазначэннем, у аснове якога ляжыць чыста колькасны паказчык — «сказы з аднаго слова». Аднак вядома, што многія аднасастаўныя сказы, напрыклад намінатыўныя, безасабовыя, таксама складаюцца з аднаго слова (*Зіма; Вечарэе*).

Нельга лічыць дакладным і тэрмін «эквівалент сказа»: ён не дае адказу на пытанне, сказамі ці не сказамі з'яўляюцца выразы тыпу *Няўжо? Ах так?!* і пад.

Паводле сінтаксічнай прыметы словы-сказы лепш называць нерасчлянёнымі сказамі.

слоў-сказаў. Галоўная асаблівасць такіх сказаў — немагчымасць расчлянення іх фармальнага саставу: *«Максім яшчэ не вярнуўся?—«Н е»* (Я. Колас); *«Праясняецца»,—сказаў я.— «А г а. К вечару будзе лётная пагода»,— зазначыў Сеня* (І. Шамякін); *«З вайны ж яму Даніла пісаў не раз».—«П р а ў д а, яго рука»* (К. Крапіва); *«Ты мяне зваў?»— «А л е. Садзіся»* (Я. Скрыган); *«Пашкадуеш, Марына!»— «Н е. Не пашкадую. Чаго мне шкадаваць?»* (І. Шамякін).

Нерасчлянёнасць слоў-сказаў заключаецца ў тым, што яны не выражаюць сінтаксічных адносін і, значыць, не маюць ні галоўных, ні даданых членаў сказа; яны не могуць быць развіты іншымі словамі. Тут нельга гаварыць пра суадноснасць іх адзінага кампанента з адным з галоўных ці якім-небудзь даданым членам двухсастаўнага сказа. Аднак сінтаксічная нерасчлянёнасць, адсутнасць звычайнага саставу сказа не перашкаджаюць ім быць закончанымі выказваннямі, г. зн. выражаць адносна закончаную думку (пры ўліку іх кантэкстуальнасці).

Немагчымасць расчлянення фармальнага саставу слоў-сказаў — аб'ектыўны сінтаксічны крытэрый адмежавання іх ад іншых тыпаў сказаў, іх галоўная структурная асаблівасць.

Другой характэрнай асаблівасцю слоў-сказаў, што выцякае з іх сінтаксічнай нерасчлянёнасці, з'яўляецца кантэкстуальнасць гэтых моўных адзінак як сродак выражэння мадальнасці, максімальная абумоўленасць іх сэнсавага значэння моўнай сітуацыяй.

Словы-сказы цесна звязаны з кантэкстам; яны заўсёды знаходзяцца ў саставе групы самастойных сказаў. Па-за кантэкстам словы-сказы не могуць ужывацца, паколькі яны не маюць намінатыўнай функцыі[1] і выконваюць толькі камунікатыўную функцыю. Словы-сказы не называюць з'яў рэчаіснасці, а выражаюць мадальна-экспрэсіўныя адносіны: сцвярджэнне, адмаўленне, запытанне, пабуджэнне, эмацыянальную ацэнку. Таму словам-сказам заўсёды павінна папярэднічаць якое-небудзь паведамленне ці сітуацыя, якія выклікаюць гэта сцвярджэнне, запытанне, адмаўленне, эмацыянальную ацэнку ці пабуджэнне да дзеяння: *«Значыцца, яны заўсёды жывуць на адным месцы, на беразе?»— здзівіўся Манг.—«Т а к»* (Я. Маўр); *«Ведаеш, Цімох... Чоран сёння біўся з Завозерскага Лысым.—«Н у?!»— жахнуўся Цімох* (Я. Колас).

Адсутнасць намінатыўнай функцыі ў слоў-сказаў абумоўлена не толькі іх прызначэннем — выражаць мадальна-экспрэсіўныя адносіны, але і іх марфалагічнай прыродай. У якасці слоў-сказаў, як правіла, не ўжываюцца словы-назвы. Нерасчлянёныя сказы звычайна фарміруюцца са слоў, якія не маюць намінатыўнай функцыі. Найбольш ужывальныя ў ролі нерасчлянёных сказаў наступныя катэгорыі слоў і спалучэнняў слоў:

а) выклічнікі *(эй, ай-ай, эге, вон)*;

б) часціцы *(так, не, ну, хіба, няўжо)*;

в) мадальныя словы *(вядома, разумеецца, праўда, несумненна, безумоўна* і пад.);

г) фразеалагічныя спалучэнні *(Нічога падобнага! Што і казаць!* і інш.).

Акрамя асноўнага слова, у састаў нерасчлянёных сказаў могуць уваходзіць:

---

[1] Адсутнасцю намінатыўнай функцыі словы-сказы адрозніваюцца ад вакатыўных сказаў, найбольш блізкіх да іх паводле структурна-семантычных уласцівасцей. Да слоў-сказаў блізкія і словы моўнага этыкету, якія выражаюць прывітанне, удзячнасць, просьбу, прабачэнне і г. д. (*Добры дзень!*; *Дзякую; Здароў!* і пад.). У гэтых словах няма ні сцвярджэння, ні адмаўлення, ні экспрэсіўна-мадальнай ацэнкі выказвання ці пэўнай сітуацыі, што і адрознівае іх ад слоў-сказаў.

а) мадальныя словы (*вядома, здаецца, несумненна*): *Вядома, не; Здаецца, так; Несумненна, так;*

б) узмацняльныя часціцы: *«Ведаеце, што, хлопцы? Пакіну я...» — «Латуту свайго?»—перабіў Гарась.—«А л е ж. Надакучыла мне, браткі, да смерці!»* (В. Каваль); *«Скажы, нябога, ты з гэтай вёскі?»—«Э г е ж»,— коратка адказвае маладзіца* (Я. Колас);

в) выклічнікі: *«Ідзі спаць... Цябе ўжо морыць сон...»—«О н е! Як жа так пайсці? Пабачым...»* (М. Гарэцкі).

Да слоў-сказаў могуць далучацца звароткі: *«Што з вокам у цябе?»—«А н і ч о г а, дзядзя Астап»* (М. Лынькоў). *«А дзедка ўсё госціць у нас?» — «А л е, сынку мой»* (Я. Купала).

Ні мадальныя словы, ні часціцы, ні выклічнікі, ні звароткі не з'яўляюцца членамі сказа, таму можна сцвярджаць, што словы-сказы не маюць даданых членаў сказа. Слова *так* у асобных выпадках пры адказе на пытанне можа выступаць у ролі выказніка і мець пры сабе даданыя члены сказа: *«А ў мінулым годзе вы былі ў адпачынку?»—«У мінулым годзе так»; «Учора вечарам вы былі дома?»—«Учора так».*

Аднак рэплікі-адказы ў гэтых прыкладах нельга лічыць словамі-сказамі, гэта няпоўныя сказы.

Словы-сказы нельга разглядаць як няпоўныя сказы, па-першае, таму, што ў пэўным кантэксце ці пры наяўнасці адпаведнай сітуацыі яны ўспрымаюцца як моўныя адзінкі, што выражаюць закончанае выказванне; па-другое, таму, што слова ці непадзельнае спалучэнне, якое ўтварае нерасчлянёны сказ, не з'яўляецца членам сказа, яно не можа мець пры сабе даданых членаў і не знаходзіцца ў граматычнай сувязі са словамі папярэдняга кантэксту.

Паколькі слова ці непадзельнае спалучэнне, што ўтварае нерасчлянёны сказ, не з'яўляецца членам сказа, у прыватнасці галоўным, па наяўнасці якога вызначаецца састаў сказа, словы-сказы нельга разглядаць і як аднасастаўныя сказы. Сінтаксічная нечлянімасць слоў-сказаў рэзка адмяжоўвае іх як ад двухсастаўных, так і ад аднасастаўных сказаў.

Такім чынам, словы-сказы — асобы структурны тып, яны не могуць быць аднесены ні да двухсастаўных, ні да аднасастаўных сказаў. Яны не маюць асобных членаў і не выконваюць намінатыўнай функцыі, паколькі нічога не называюць.

Як структурны тып, нерасчлянёныя сказы займаюць пэўнае месца ў адзінай сістэме структурных тыпаў простых сказаў у беларускай мове, суадносячыся ў межах гэтай сістэмы з члянімымі сказамі.

З пункту погляду стылістыкі словы-сказы характарызуюцца максімальнай лаканічнасцю і экспрэсіўнай насычанасцю. Яны — прадукт і неабходны элемент дыялогу. Пры пацвярджэнні ўласнай думкі ці пры пярэчанні самому сабе словы-сказы могуць ужывацца і ў маналагічнай мове як адгалосак унутранага дыялогу.

## *Тыпы нерасчлянёных сказаў*

§ 208. На аснове марфалагічнай прыметы выдзяляюцца: а) словы-сказы, выражаныя часціцамі; б) мадальныя словы-сказы; в) выклічнікавыя словы-сказы.

Паводле значэння і функцыі ў мове вылучаюцца: 1) эмацыянальна-ацэначныя, 2) сцвярджальныя, 3) адмоўныя, 4) пабуджальныя, 5) пытальныя словы-сказы.

## Эмацыянальна-ацэначныя словы-сказы

§ 209. Такія словы-сказы ўтвараюцца выклічнікамі і словамі, блізкімі да выклічнікаў. Яны перадаюць непасрэдную эмацыянальную рэакцыю на тое ці іншае выказванне, даюць экспрэсіўную ацэнку пэўным з'явам, што знаходзіць выражэнне і ў інтанацыі. Часцей за ўсё гэтыя сказы бываюць клічнымі: *«Хацеў бы ты, Уладзік, дзічак, скажам, улежаных пад'есці, га?»—«О г о!»— згадзіўся я* (Я. Брыль); *Г о! Я сеў бы на каня і паказаў бы яшчэ, чаго варты стары Талаш!* (Я. Колас).

Сэнс эмацыянальна-ацэначных слоў-сказаў вызначаецца інтанацыяй і кантэкстам, прычым асноўная эмоцыя, выражаная гэтымі словамі-сказамі, можа суправаджацца адценнямі іншых эмоцый.

Эмацыянальна-ацэначныя словы-сказы могуць выражаць радасць, здзіўленне, адчай, незадаволенасць, нянавісць і іншыя пачуцці: *«Браткі мае, гэта ж незнаёмы нейкі!»—«Н у?!!»* (К. Чорны); *«Вось бы мне ў такі калгас! Вось дзе б я даў разгарненне, далібог даў бы!» — «Адам, далі б?» — «У г у!» — коратка адгукнуўся трактарыст* (І. Шамякін); *«Х о! Чую сапраўдны голас рыбака»* (І. Гурскі); *«Яшчэ самаварчык пастаў да ідзі сабе».— «В о й! Такой гарачынёй ды чай піць»* (К. Крапіва); *«Ф і! Я такіх мужыцкіх танцаў не гуляю»* (Я. Купала); *«Ф у! Якая гадасць!»* (З вуснай мовы).

Сінтаксічна нерасчлянёныя сказы, якія выражаюць розныя эмоцыі,— жывы тып сказаў сучаснай беларускай мовы.

## Сцвярджальныя словы-сказы

§ 210. Сцвярджальныя словы-сказы ўтвараюцца словамі *так, як жа, яшчэ б, вядома, правільна, разумеецца, добра* і інш. Функцыяй гэтых слоў з'яўляецца сцвярджэнне, г. зн. станоўчы адказ на пастаўленае пытанне. Часцей за ўсё для такога адказу выкарыстоўваецца слова *так*, якое вызначаецца семантычнай ёмістасцю і здольна выразіць з дапамогай інтанацыі складаную гаму чалавечых пачуццяў: *«Жывеш ты там, як воўк, адзін».— «Т а к, голубе, як трохі адзічэў»* (Я. Колас); *Т а к, на ўсім вайна пакінула свае сляды* (І. Шамякін); *Т а к, падарожжа было незвычайнае* (Б. Мікуліч); *«Значыцца, яны заўсёды жывуць на беразе?»— здзівіўся Манг.— «Т а к»* (Я. Маўр); *«Вы да бацькі на практыку?»—«Т а к»* (А. Куляшоў); *«Гм! Т а к, т а к! Помню,»—рэзюмаваў успаміны пра былое Цімох* (Я. Колас).

Некаторыя з сцвярджальных слоў-сказаў маюць размоўны ці прастамоўны характар, паколькі паводле свайго паходжання з'яўляюцца прадуктам жывой, часта фамільярнай мовы: *«У вас жа, бачу, можна павучыцца».—«А г а!.. Ну, добра»* (Я. Колас); *«Ты што, адзін дома?»— «У г у»* (І. Мележ); *«А гэта хто?»— «Павел». — «Твой брат? — «Н у»* (В. Вольскі); *«Харошая мама?» — «Н у»,— проста пацвердзіў баец* (В. Быкаў); *«Вы прабачце, калі я замест прамога адказу раскажу вам прытчу». — «Н у»* (У. Караткевіч).

У мадальных словах-сказах на асноўнае значэнне сцвярджэння напластоўваюцца дадатковыя адценні, звязаныя з лексічным значэннем мадальных слоў. У адпаведнасці са значэннем мадальных слоў словы-сказы выражаюць, як правіла, сцвярджэнне, што суправаджаецца разумовай лагічнай ацэнкай выказвання: *«То, мусіць, хутар перацягне?»— «В я д о м а. Маргун не дачакаецца, калі Шмігельскі ў сваты прыйдзе»* (К. Крапіва); *«Я цэлую ноч не спаў, Валя, прыгатуй мне пасцель».— «Д о б р а»* (К. Чорны); *«Ну, я ж вас не ведаю, а праверыць трэба, што вы за чалавек»,—дзелавіта заўважае партызан.— «П р а в і л ь н а,* та-

*варыш, п р а в і л ь н а»* (Я. Колас); *«Вось я і хацеў прапанаваць табе ехаць разам».— «Д о б р а. Ты пачакай тутака, пакуль вада падымецца»* (Я. Маўр); *«Так, у вас ёсць чаму павучыцца?»—«А я к ж а ж... В я д о м а...»* (І. Мележ); *«Не збіраецеся назад?»—«В я д о м а»* (І. Мележ); *«Хіба па справе якой, чалавеча?»— «В я д о м а...»* (М. Лынькоў).

Словы-сказы такога тыпу выражаюць не толькі згоду, але і ўпэўненасць у тым, што змест выказанага здзейсніцца.

Лагічную ацэнку паведамленню могуць даваць таксама словы-сказы *несумненна, безумоўна, факт, праўда* і інш.: *«Ну, што ты кажаш?»— здзівіўся Максім.— «П р а ў д а, п р а ў д а, Максім»* (Я. Колас); *«Але аднае стрэльбы яшчэ мала... мала, браце, аднае, нават добрае стрэльбы».—«П р а ў д а»,— кіўнуў галавою Мартын* (Я. Колас); *«Гэта — Ганс Крафт. Каланіст. З Украіны. Шпіён».—«Агент СД?»—«Б е з у м о ў н а»* (І. Шамякін); *«Мікалай жа Пятровіч чэсны чалавек, праўда?»—«Б я с с п р э ч н а»* (К. Крапіва); *«Сакратаром падпольнага райкома камсамола я зацвердзіў Лубяна. Добра будзе?»— «Б е з у м о ў н а»* (І. Шамякін). Пэўную ацэнку, аднак з большай эмацыянальнай афарбоўкай, надаюць выказванню і спалучэнні *вось так, ды ўжо ж так, дзіва што* і падобныя ў функцыі нерасчлянёных сказаў: *«Вы пацвердзіце ўсё гэта, што казалі?»—«Д з і в а ш т о! Адразу»* (К. Чорны); *«Вось купіш якую лахманіну, ходзіш з ёй два дні, пакуль прадасі — дый то не заўсёды заробіш».—«Д ы ў ж о ж т а к»* (М. Зарэцкі); *«Хто я такі? Гаспадар я тут!»—«В о с ь т а к!»* (А. Макаёнак).

### Адмоўныя словы-сказы

§ 211. Адмоўныя словы-сказы ў дыялагічнай мове з'яўляюцца адмоўным адказам на пастаўленае пытанне ці выражаюць нязгоду таго, хто гаворыць, з чым-небудзь выказваннем, у маналагічнай мове — гэта пярэчанне самому сабе.

Да адмоўных слоў-сказаў адносяцца і сказы, якія выражаюць няпэўны адказ на пытанне ці чыю-небудзь заўвагу: *«Ну, як вам падабаюцца нашы мясціны?»—«Н і ч о г а, мясціны як мясціны»* (Я. Колас); *«Так жа можна прастудзіцца»—«Н і ч о г а, н і ч о г а, я не прамокла»* (А. Макаёнак); *«Ці прыедзе ён сёння?»—«Н а ў р а д ці»* (З вуснай мовы).

Функцыю такіх сказаў выконваюць адмоўныя словы *няпраўда, не, ні-ні* і інш. Часцей за ўсё ў ролі адмоўнага нерасчлянёнага сказа выступае слова *не*, якое антанімічна слову *так* і таксама вызначаецца разнастайнасцю значэнняў: *Але зараз мне стала шкада яго не як нешчаслівага, мілага, па-дзіцячы здольнага хлопчыка. Н е! Я стаў бедаваць аб марна загубленым таленце* (М. Лужанін); *Маўчыць каменная турма. Маўчыць? Н я п р а ў д а! Крок гучыць. Пакутны? Н е! Рашучы крок* (А. Вялюгін); *«Ці не змарыліся вы часам?» — «Н і-н і... Гэта толькі здаецца»* (Я. Маўр); *«З людзьмі, мусіць, не сышоўся душа ў душу, а?» — «Д ы н е. Людзі мне падабаюцца»* (І. Мележ); *«Вы даўно гуляеце?» — «Н е, нядаўна»* (З вуснай мовы); *«Ваш Янка яшчэ не прыходзіў?» — «Янка? Н е, даражэнькая, ні старога майго няма, ні Янкі»* (В. Вольскі).

Адмоўныя словы-сказы асабліва выразныя ў маналагічнай мове. Вымаўленыя з пэўнай інтанацыяй, яны іншы раз заключаюць у сабе ўвесь пафас выказвання: *Н е! Не згінем мы з табою, з маёй рыбкай залатою* (Я. Колас).

Выразнасць адмоўнага слова-сказа ўзмацняецца паўтарэннем *не*, а таксама ўзмацняльнымі часціцамі, выклічнікамі, мадальнымі словамі: *«Зося, табе холадна?» — спытала Маша, якая сядзела за яе спіной.— «На маю куртку». — «Н е-н е. Нічога. Гэта так!»* (І. Шамякін); *Н е, н е!*

*Гэтага я таксама не напішу* (К. Крапіва); *«Н е, н е, н е! — Віка сціснула кулакі, стукнула імі сябе па каленях, прашаптала: — Я не магу пагадзіцца...»* (І. Шамякін).

Катэгарычнае адмаўленне выражаецца і адмоўным словам *няпраўда: «Гэты вось, Малец,— ён тыцнуў рукой у грудзі Даніку,— падвучыў іх сабраць грошы...»—«Н я п р а ў д а»,—перабіў яго Санька* (Я. Брыль).

Часціца *ні* ў функцыі слова-сказа, якая экспрэсіўна паўтараецца, мае размоўны характар і абазначае ўзмоцненае адмаўленне ці катэгарычную забарону рабіць што-небудзь: *«Можа б даравала ты ёй?»—«Н і-н і-н і»* (З вуснай мовы).

Як сцвярджальныя, так і адмоўныя структурна нерасчлянёныя сказы лагічна выражаюць прэдыкат, аднак гэтыя словы-сказы не тоесныя выказніку двухсастаўных ці аднасастаўных сказаў.

### Пабуджальныя словы-сказы

§ 212. Пабуджальныя словы-сказы выражаюць эмацыянальную рэакцыю таго, хто гаворыць, на выказванне ці пэўную сітуацыю і разам з тым волевыяўленне, пабуджэнне да пэўнага дзеяння. У якасці пабуджальных слоў-сказаў выступаюць выклічнікі і часціцы: *«В о-о- он!» — раптам крычыць Галена.— «В о н! В о н!»* (К. Чорны); *«Ну вось і прыехалі. Т п р у!»* (З. Бядуля); *«А гэта не вавёрка?!» — «Т с с! Гэта гарнастай!»* (Я. Маўр); *«А л о! Як справы?»* (З вуснай мовы); *«Г э й!»—аклікнуў іх Сцёпка, хлопцы спыніліся* (Я. Колас); *«Ц ы ц! Не смець казаць мянушку, а то зніму на вас папружку»* (Я. Колас); *Ён уподбег дагнаў каня, ускочыў на воз, лясніў пугай: — Н о-о! Варушыся!* (І. Шамякін).

Часціца *ну* ў спалучэнні з формамі вінавальнага склону асабовых займеннікаў *ты (вы), ён (яны)* утварае пабуджальны сказ, які выражае жаданне пазбавіцца ад чаго-небудзь непатрэбнага, ад таго, што надакучыла *(Ну вас к чорту!; Ну іх!)*.

Выразныя пабуджальныя сказы, утвораныя з гукаперайманняў: — *«Ц с с!» — сунімае дзед Талаш грозны голас кулямётчыка* (Я. Колас); *«Толькі — ш а!» — Ігнат Андрэевіч прылажыў палец да вуснаў* (І. Шамякін); — *«Ц ы ц!» — прамовіў стражнік і азірнуўся* (Я. Колас); *А тут кот адкуль ні ўзяўся і пад локаць яму — тоўк! — «П с і к, не лезь!»* (Я. Колас); *«А т ы-г а! а т ы-г а!» Качкі! Гучны плеск весла па вадзе павялічвае шум* (Я. Колас).

З а ў в а г а. У састаў слоў-сказаў не ўваходзяць гукаперайманні, не ўласцівыя мове чалавека (тыпу *цік-так, цік-так* (пра гадзіннік)).

### Пытальныя словы-сказы

§ 213. Пытальныя словы-сказы характарызуюцца выразнай пытальнай інтанацыяй і разнастайнымі адценнямі значэнняў у залежнасці ад лексічнага выражэння пытанняў, кантэксту ці сітуацыі. У якасці пытальных слоў-сказаў ужываюцца сцвярджальныя і адмоўныя словы, мадальныя словы, пытальныя часціцы і выклічнікі розных разрадаў: *«Выклікаю цябе на спаборніцтва» — «А? Што?..»* (Я. Маўр); *«Мясціны ціхія, а людзі добрыя». — «Г а?»* (А. Асіпенка); *«Просім вашай згоды. З Соняй мы ўжо рашылі. Т а к?» — «Учора рашылі...»* (А. Макаёнак); *Ты разумееш, якая ў цябе будучыня? А?* (І. Шамякін); *«Здароў, друг. Што ж ты гэта? Я ўжо чакаў, чакаў. Сядай! Н у?» — «Прыбыў»* (Э. Самуйлёнак); *«Бачылі, які чарадзей?» — нахіліўся да яе Тарас. — «А?» —*

*«Але», — яна ўдзячна паклала сваю руку на яго* (І. Шамякін); *Можа, і справу ўладзілі без нас? А? Максім Іванавіч?* (А. Макаёнак); *«На што ты намякаеш? Га?» — зазлаваў Карпенка* (В. Быкаў); *Вось цяпер прыехаў бы! Га?* (Я. Брыль); *«Наташка!» — «Га?» — «Схадзіце з Ірай на луг і нарвіце шчаўя»* (І. Шамякін); *«Міхась! Міхаська!» — «Га?» — «Ты ўжо спіш, сынок?»* (Я. Колас).

# НЯПОЎНЫЯ СКАЗЫ

## АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА

§ 214. Няпоўныя сказы — гэта сказы з незамешчанымі пазіцыямі членаў сказа, неабходнасць якіх абумоўлена інфарматыўнай семантыкай і сувяззю з тымі членамі сказа, якія ў ім ёсць. Адсутны член сказа лёгка ўзнаўляецца з кантэксту, падказваецца сітуацыяй ці формай наяўных членаў; пропуск такога члена робіць сказ зразумелым.

Заўвага. Для размежавання поўных і няпоўных сказаў асабліва важна паняцце непарыўнасці сінтаксічных сувязей, сутнасць якога ў тым, што падпарадкаваныя члены сказа прадвызначаюць наяўнасць тых членаў, якім яны падпарадкоўваюцца; тыя ж у сваю чаргу ў некаторых выпадках абавязкова патрабуюць падпарадкаваных . У гэтым праяўляюцца як сінтаксічныя адносіны членаў сказа, так і тыя сувязі, якія вызначаюцца лексіка-граматычнымі ўласцівасцямі кампанентаў словазлучэнняў, што ўваходзяць у сказ.

Асноўнай прыметай няпоўных сказаў з'яўляецца не сэнсавая, а граматычная непаўната, г. зн. адсутнасць якога-небудзь члена сказа: *Апоўдні маці пайшла падаіць карову і прынесла з Алесем абед: яна — гаршкі з капустай і кашай, а ён — вялікі збан малака з тварагом* (Я. Брыль); *Цяпер ужо ўсе, хто прысутнічаў, глядзелі на яго, адны — з цікаўнасцю, другія — са спачуваннем, трэція — з трывогай* (І. Шамякін); *«Гэлька, вазьмі Лёніка!» — крыкнула яна старэйшай, а сама не раздзелася, а пачала прыбіраць ля прыпечку: чыгункі — на прыпек, цабэрак — у парог, венік — у кут* (В. Быкаў).

Пра непаўнату сказа, у які лёгка можна падставіць адсутны член, сведчыць асобая інтанацыя, невялікая паўза, якая звычайна абазначаецца працяжнікам: *У чырвонай медзі стаяць дубы, у празрыстым золаце — бярозы* (П. Пестрак); *Сонца дае цеплыню і святло, зямля — свае жыватворчыя сілы* (І. Навуменка); *Будзе бульба на сняданне, на вячэру — акунькі* (С. Грахоўскі); *З аднаго боку дарогі стаяў хвойнік, з другога — кусты ядлоўца, а далей — алешнік* (Я. Колас); *Дзяцельнік выпускаў белы мёд, мяцёлка — крышталёвыя капелькі сіропу, малачайнік — ліпкую белую смятанку, казачкі — цукроўку* (Ц. Гартны); *Гадзіны тры прайшло, а потым дождж закапаў. Спачатку рэдка, а потым усё часцей ды гусцей* (А. Чарнышэвіч).

Агульнай асаблівасцю граматычнага саставу няпоўных сказаў з'яўляецца тое, што ў іх захоўваюцца, як правіла, тыя члены сказа, якія ўваходзяць у рэму выказвання, і, наадварот, звычайна апускаюцца (поўнасцю ці часткова) тыя, якія выражаюць тэму.

Незамешчаныя пазіцыі дазваляюць актуалізаваць замешчаныя, г. зн. узмацніць інфарматыўную значымасць членаў сказа, якія выражаюць «новае». Таму няпоўныя сказы — адзін з галоўных сінтаксічных сродкаў выдзялення камунікатыўнага цэнтра выказвання.

Усе няпоўныя сказы характарызуюцца і тым, што ў іх аказваюцца

незавершанымі, «разарванымі» граматычныя і семантычныя сувязі мінімум у аднаго знамянальнага слова. Найбольш выразна гэта праяўляецца тады, калі залежнае слова ўжываецца без галоўнага, а таксама калі дзейнік ужываецца без выказніка: *«Дакумент!» — кінуў чырвонаармеец* (Я. Колас); *Ты марыш быць паэтам, быць трактарыстам — я* (А. Куляшоў); *Нам партыя дала для будучыні крылы, вачам — арліны зрок, рукам — размах работ...* (А. Звонак); *Травы пахнуць кветкамі, кветкі пахнуць зорамі, зоры над палеткамі — лесам і азёрамі* (П. Глебка).

Паняцце няпоўных сказаў — структурна-граматычнае паняцце. Выдзяленне няпоўных сказаў заснавана на супастаўленні структур (мадэлей, схем) сказаў у сістэме мовы. Адны структуры сказа ацэньваюцца як зыходныя, поўныя, другія, адрозныя ад папярэдніх толькі адсутнасцю аднаго ці некалькіх членаў, выступаюць як варыянтныя ўтварэнні ў адносінах да поўных структур, г. зн. як няпоўныя сказы: *Вось з-за лесу ўстала сонца. Рассыпае каснікі, залатыя ручнікі і цалуе праз аконца збітых кудзер валаконцы* (Я. Колас); *Мы напачатку зазналі страхаў, перад прыродай падалі ніц. Потым лятаць вучыліся ў птахаў, агонь здабываць — у навальніц* (А. Вярцінскі).

Заўвага. Пры супастаўленні поўных і няпоўных сказаў у першых з асаблівай выразнасцю раскрываюцца сінтаксічныя сувязі, больш поўна выражаецца інфармацыйная семантыка. Аднак поўныя сказы не заўсёды дарэчы: паўтарэнне адных і тых жа слоў прыводзіць да мнагаслоўнасці, абцяжарвае зносіны. У няпоўных сказаў ёсць свае семантыка-стылістычныя перавагі: яны надаюць мове жывасць, натуральнасць, прастату, дазваляюць актуалізаваць камунікатыўны цэнтр выказвання. Заканамернасці ўжывання ў мове няпоўных структурных варыянтаў сказаў маюць вялікае значэнне для пабудовы шырокіх кантэкстаў — моўных адрэзкаў маналагічнага і дыялагічнага тыпу.

Няпоўныя сказы не з'яўляюцца асобым структурным тыпам, паколькі пропуск пэўнага члена (галоўнага ці даданага) можа быць у любым сказе — развітым і неразвітым, аднасастаўным і двухсастаўным, простым і складаным. Няпоўныя сказы адносяцца да тых жа структурных тыпаў, што і поўныя.

Няпоўны сказ — такі ж паўнацэнны камунікатыўны сродак мовы, як і граматычны поўны сказ: *Розныя пісьмы бываюць. Чытаючы адны, людзі радуюцца, чытаючы другія,— бядуюць* (І. Сяркоў); *Хлеб заўсёды ляжаў на стале, пакрыты настольнікам, а побач з боханам — нож* (Я. Брыль); *Усё сяло часам збіраецца тут. Адны — працаваць, другія— проста так сабе, палюбавацца* (Я. Колас); *Сонейка высока поіць травы сокамі, а кусты над доламі — росамі мядовымі* (Я. Пушча); *Перад даждом крымская прырода страціла яркія фарбы: кіпарысы здаюцца пыльнымі, наспех уткнутымі ў зямлю мяцёлкамі, горы — злінялай фанернай дэкарацыяй, а мора — шэрай мокраю коўдрай* (М. Лужанін).

Аднак у якасці паўнацэннай камунікатыўнай адзінкі няпоўныя сказы могуць выступаць толькі тады, калі абапіраюцца на кантэкст ці непасрэдна на моўную сітуацыю. Узятыя па-за кантэкстам ці пэўнай сітуацыяй, яны не перадаюць закончанай думкі. Параўн., напрыклад, рэплікі наступных дыялогаў у кантэксце і па-за кантэкстам: *«...Ну, як яна?» — «Лепш». — «Дзіцятка будзе жыць?» — «Будзе»* (І. Шамякін); *«Гэта ты, Васька, якую штуковіну націснуў зараз?»—«Старцёр»,—адказваў Васька.— «А во цяпер?» — «Цяпер педаль газу»* (М. Паслядовіч).

Заўвага. Ад няпоўных сказаў трэба адрозніваць далучальныя члены сказа, напрыклад, у такіх кантэкстах: *Людзі змагаюцца і перамагаюць. Вайну. Страх. Голад. Дэспатызм, тупасць...* (І. Шамякін); *Хлапчуком марыў пра караблі. Вялікія. Магутныя. Марыў пра мора. Сіняе. Неабдымнае. Пеністае* (А. Савіцкі); Для такіх канструкцый, прадуктыўных у мове, характэрна папераджальная інтанацыя далучэння.

Магчымасці структурнай класіфікацыі няпоўных сказаў абмежаваныя, паколькі яны, з'яўляючыся варыянтамі мадэлі поўных сказаў, як адзначалася, не ўтвараюць асобных структурных тыпаў.

У аснове класіфікацыі няпоўных сказаў ляжаць наступныя фактары:

а) сфера ўжывання (вусная ці пісьмовая мова);

б) характар зносін (маналог ці дыялог);

в) узаемасувязь сказа з кантэкстам.

У залежнасці ад сферы ўжывання няпоўныя сказы дзеляцца на кантэкстуальныя і сітуацыйныя, паколькі кантэкст і сітуацыя абумоўліваюць непаўнату саставу сказа і разам з тым дапамагаюць зразумець гэтыя сказы, нягледзячы на пропуск тых ці іншых членаў. У залежнасці ад характару зносін (маналог ці дыялог) адрозніваюцца няпоўныя дыялагічныя і маналагічныя сказы, якія могуць быць як у вуснай, так і ў пісьмовай мове.

Паводле структуры няпоўныя сказы бываюць простыя і складаныя. Простыя сказы лічацца няпоўнымі, калі маюць незамешчаныя сінтаксічныя пазіцыі аднаго ці некалькіх членаў.

Складаныя сказы з'яўляюцца няпоўнымі, калі прапушчана цэлая прэдыкатыўная частка: *«Мне сорамна, што ты мяне, як малога, вядзеш...» — «Бо я дарогу ведаю»* (П. Галавач); *«Я пакінуў? Я да тралейбуса пабег, а ты за мной не пабегла!..» — «Бо вуліцу перабягаць няможна!»* (Я. Брыль); *«Вы мне казку расказваеце». — «Якая стане праўдай»* (К. Крапіва).

### *Кантэкстуальныя няпоўныя сказы*

§ 215. Кантэкстуальнымі няпоўнымі сказамі трэба лічыць такія, у якіх адсутнічае слова ці некалькі слоў, што з'яўляюцца неабходнымі членамі сказа і ўжо ўпаміналіся ў папярэднім кантэксце. Такім чынам, кантэкст узнаўляе члены, якіх не хапае, ліквідуючы тым самым семантычную недастатковасць сказа.

Найбольш часта ўжываюцца сказы з апушчаным дзейнікам. Дзейнік апускаецца тады, калі ён ёсць у суседнім сказе, ці тады, калі апушчанаму дзейніку адпавядае ў папярэднім сказе слова, якое з'яўляецца іншым членам сказа: *Дзед Баўтрук быў работнік сумленны. Гарачкі не пароў, а рабіў паважна, але гладка і акуратна* (Я. Колас); *Ужо шмат гадоў Нёман падмываў круты правы бераг, а пакаты левы ўсё ўразаўся ды ўразаўся далей у раку* (А. Пальчэўскі); *Ліпеньскае сонца падымаецца ў поўдзень. Пякучае, расплаўленае — разлівае ліпкую стому і смагу* (Я. Скрыган); *Палез Антось перш па драбінах, з драбін цярэбіцца ў галінах. Сяк-так прыладзіў сіта крышку, абрус адсунуў, бярэ лыжку і толькі чуць крануўся рою, гудзе пчала над галавою* (Я. Колас).

Заўвага. Гаворачы пра адсутнасць галоўных членаў няпоўных сказаў, трэба мець на ўвазе толькі структурна неабходныя члены сказа, абавязковыя для той ці іншай канструкцыі. Зыходзячы з гэтага, няпоўнымі нельга лічыць аднасастаўныя намінатыўныя, пэўна-асабовыя, няпэўна-асабовыя і абагульнена-асабовыя сказы: дзейнік у пэўна-асабовых, няпэўна-асабовых і абагульнена-асабовых сказах не з'яўляецца структурна неабходным элементам, яго адсутнасць — норма для беларускай літаратурнай мовы. Тым больш нельга гаварыць аб пропуску выказніка ў намінатыўных сказах. Адсутнасць выказніка тут з'яўляецца характэрнай тыпалагічнай прыметай. Да няпоўных сказаў не адносяцца таксама перарваныя, незакончаныя выказванні.

Выказнік у сказах апускаецца радзей, чым дзейнік, і, відавочна, таму, па-першае, што іменна выказнік звычайна заключае ў сабе галоўны змест выказвання, абазначае тое новае, пра што паведамляецца ў

сказе; па-другое, пры дапамозе выказніка ў значнай меры выражаецца асноўнае сінтаксічнае значэнне сказа — прэдыкатыўнасць.

Паказчыкам пропуску выказніка з'яўляецца кантэкст, у якім гэты выказнік абазначаны. Унутры сказа на пропуск выказніка ўказваюць падпарадкаваныя формы дадзеных членаў, што адносяцца да выказніка: *На таку ляжала кучка сена, а ў куточку — крышан сена* (Я. Колас); *На каляровай вокладцы ўнізе была жоўтая ніва, а далей — праз усю старонку — стромкі лес* (А. Пальчэўскі); *Усё здаецца добрым, радасным,— нават старыя, патрэсканыя, дзе-нідзе аблезлыя, без кары жэрдкі, за плотам — гарбузнік, упарты хвост якога ўзлез поблізу на кол* (І. Мележ); *Над дрыгвяністым балотам узнімаецца выспа, на выспе — курган* (Я. Колас); *Здаецца, тут не сонца свеціць, а ружы — полымем сваім!* (А. Бачыла); *На скрыжаванні палявых дарог здаўна стаіць сяло Чырвоны Лог. На ўсход — падковай векавечны бор, на захад — край імшараў і балот* (М. Танк); *Справа непадалёк віднелася вёска, за ёю — рэдкія бярозавыя прысады, злева — нядаўна ўзаранае глянцавата-чорнае поле* (І. Мележ). Такія сказы сведчаць аб умоўнасці тэрміна «няпоўны сказ», паколькі непаўната тут дыктуецца законамі пабудовы складаных сказаў.

Пры апушчэнні аднаго ці двух галоўных членаў фармальная непаўната сказа адчуваецца найбольш выразна.

Акрамя галоўных членаў, у кантэкстуальных сказах бывае прапушчана дапаўненне. Яго пропуск пацвярджаецца кантэкстам і наяўнасцю ў няпоўным сказе пераходнага дзеяслова: *А сягоння ён быў у нас у класе. У шынялі і з пагонамі. А на пагоне дзве зорачкі і адна пасачка. Я сам бачыў* (І. Мележ); *Якім зернем хто сее, такім і збірае* (Прыказка); *Кастусь Прыбыткоўскі трымаў у левай руцэ аўтаматычную вінтоўку, а правай даставаў з пояса гранату* (К. Чорны); *Першую курачку я бяру сабе. Другую даю каралеве. Трэцюю і чацвёртую — каралевічам. Пятую — старэйшай маёй дачцы* (В. Вольскі).

Сказы з неназваным дапаўненнем абмежаваны ва ўжыванні. Дапаўненне не заўсёды з'яўляецца структурна неабходным членам сказа нават пры наяўнасці пераходных дзеясловаў, калі яны ўжыты ў непераходным значэнні; у кантэксце ж дапаўненні зразумелыя (вядомыя).

Сказы з неназванымі акалічнасцямі і азначэннямі нельга адносіць да няпоўных, паколькі такія члены звычайна не з'яўляюцца фармальна неабходнымі, калі не ўваходзяць у састаў галоўных членаў ці не абумоўлены наяўнасцю іншых, звязаных з імі.

Кантэкстуальныя няпоўныя сказы даволі прадуктыўныя і ўжывальныя ў мове.

### Сітуацыйныя няпоўныя сказы

§ 216. Сітуацыйнымі няпоўнымі сказамі называюцца такія сказы, непаўната якіх абумоўліваецца пераважна абстаноўкай маўлення і сітуацыяй у цэлым. Сітуацыйныя сказы — адзін з распаўсюджаных тыпаў граматычна няпоўных сказаў. Яны зразумелыя і ўжываюцца ў якасці паўнацэнных адзінак паведамлення толькі ва ўмовах пэўнай сітуацыі. Сама абстаноўка размовы падказвае субяседнікам паняцці, неабходныя для разумення, але лексічна не выражаныя. Напрыклад: (З аўдыторыі, дзе здаюць экзамены, выходзіць студэнт.) *«Ну, што?» — звяртаюцца да яго аднакурснікі.— «Чатыры»,— адказвае ён.*

Паводле значэння сярод сітуацыйных сказаў выдзяляюцца:

1) сітуацыйныя сказы прэдыкатыўнага характару; яны даюць назву, азначэнне ці экспрэсіўную характарыстыку прадмета (з'явы), вядомага субяседніку, ці выражаюць дзеянне, якое выконвае прадмет: *«Ну, як ты*

*жывеш тут?»* — *спытаў ён.— «Нічога. Ваюем».— «Батарэя добрая. На КП хвалілі. Як камандзір?» — «Сеўчанка? Залаты чалавек».— «У цябе ўсе залатыя. Я цябе ведаю»* (В. Быкаў). У гэтых рэпліках наяўны член па сваёй сінтаксічнай сутнасці з'яўляецца прэдыкатам (выказнікам). Няма неабходнасці вызначаць тут дзейнік, паколькі прадмет, пра які гаворыцца, зразумелы з самой сітуацыі і не абавязкова павінен быць выражаны лексічна;

2) сітуацыйныя пабуджальныя рэплікі, як правіла, выражаны залежнымі формамі слоў і вымаўляюцца з пабуджальнай інтанацыяй. Дзеяслоў у такіх сказах адсутнічае (*Уперад! Вады!* і пад.), але ён і не патрэбны для выражэння пэўнага зместу.

Сітуацыйныя пабуджальныя рэплікі звычайна складаюцца з аднаго слова. Няма неабходнасці прыраўноўваць гэта слова да пэўнага члена поўнага сказа, у гэтым выпадку мы падмянілі б аналіз аднаго сказа другім *(«Вады!..» — Прынясі вады)*.

Формы выражэння наяўных членаў у пабуджальных сказах разнастайныя. Калі ў сказе выражана патрабаванне даць пэўны прадмет, ужываецца назоўнік у назоўным, родным ці вінавальным склоне:

*«Віна, Джакобе...» — «Што, цяжка, камандзір? Віна б мо выпіў?»* (М. Клімковіч); *«Дакументы!» — «Якія ж, пане, дакументы ў свата!»* (К. Крапіва).

Калі ў сітуацыйнай рэпліцы заключана пабуджэнне рухацца, перамяшчацца, то яна выражаецца прыслоўямі ці спалучэннямі назоўніка з прыназоўнікам, якія абазначаюць напрамак ці мэту руху. Формы назоўнікаў у пабуджальных сітуацыйных рэпліках выразна акрэслены: гэта вінавальны склон з прыназоўнікамі *у, на, праз* і інш., творны склон з прыназоўнікам *за* і інш.: *«Сюды! Хутчэй!» — раздаўся яго вясёлы голас* (Я. Маўр); *«Рукі ўгору!» — крыкнуў дзед Талаш* (Я. Колас); *Чарняўскі загадаў: «У штаб фронту!»* (І. Мележ); *«Кругом агонь!» — адказалі яму сотні ўтрапёных галасоў.— «Праз агонь!» — крыкнуў Астаповіч* (К. Чорны); *«За рэчку, падалей, на балота!» — падаў каманду аўтаматчыкам Бохан* (М. Лынькоў); *«На коней! Хутчэй!»* (К. Чорны).

Сітуацыйныя няпоўныя сказы выкарыстоўваюцца ў размоўным стылі. Таму, хто гаворыць, і субяседніку з сітуацыі вядомы ўсе невербалізаваныя члены.

Поўныя сказы ў такіх умовах амаль не ўжываюцца. У мове мастацкай літаратуры сітуацыю ствараюць рэмаркі, а таксама рэплікі аўтара, расказчыка.

### *Дыялагічныя няпоўныя сказы*

§ 217. Састаў няпоўных сказаў не вызначаецца пэўнай устойлівасцю. Яны могуць уключаць толькі галоўныя члены, адзін галоўны член, адзін даданы член, галоўны і даданы члены і г. д. Асабліва разнастайныя паводле граматычнага саставу няпоўныя сказы дыялагічнай мовы.

Дыялагічная мова мае свае ўласныя заканамернасці пабудовы, выкліканыя ўмовамі яе фарміравання і мэтавым прызначэннем: кожная рэпліка ствараецца ў працэсе непасрэдных зносін і таму мае двухбаковую камунікатыўную накіраванасць.

Асаблівасць дыялагічных сказаў вызначаецца тым, што ў вуснай мове ў якасці дадатковых кампанентаў побач са словамі выступаюць і пазамоўныя фактары: жэсты, міміка, сітуацыя. У састаў такіх сказаў уваходзяць толькі тыя словы, без якіх думка незразумелая.

Рэплікі дыялогу заўсёды ўтвараюць складанае адзінства, яны звязаны паміж сабой не толькі па сэнсу, але і граматычна. У саставе дыя-

логу рэплікі з'яўляюцца паўнацэннымі адзінкамі паведамлення, хоць граматычна няпоўнымі.

Першы сказ, з якога пачынаецца дыялог, як правіла, разгорнуты, поўны па структуры. Наступныя сказы-рэплікі выражаны залежнымі словамі ці спалучэннямі слоў, у якіх заключаецца неабходны змест. Гэты змест выражаецца дзякуючы цэласнасці ўсяго дыялогу; асобная, ізаляваная рэпліка не выражае пэўнага зместу: *«Што ты бачыў?» — запытаўся Віктар.— «Вярблюда».— «Не, без жартаў».— «Мусіць, нейкі алень ці лось, але чамусьці з гарбом»* (Я. Маўр); *«Дык ты зараз з Вільні?» — «Адтуль, браце!» — «А адгэтуль куды падасіся?»* (Я. Колас); *«Таварыш Пратасаў! Куды?» — «Дадому. А ты?» — «Еду ў Мінск». — «Залазь сюды. У цябе які вагон?» — «Пяты»* (М. Паслядовіч).

Кожная рэпліка заключае ў сабе рэакцыю на думку, выражаную ў папярэднім сказе: *«Як гэта я дагэтуль не здагадвалася! Гэта ж ты ўсадзіў яго!» — «Бушмара? Я!» — урачыста крычыць Вінцэнты* (К. Чорны); *«Жыта і ярына, значыцца, вам асталіся?» — «Якія жыта і ярына?» — «А што Скуратовіч у вас складаў!»* (К. Чорны); *«... А з якога вы фронту? Дзе вас параніла?» — «Я?» — Ён неяк дзіўна ўсміхнуўся. — «Я адтуль».— «Адкуль?» — «З Палесся».*

Непаўната дыялагічных сказаў цесна звязана з актуальным члянennем сказа: у іх звычайна ў наяўнасці элементы, якія выражаюць «дадзенае», названае раней.

Паводле агульнай мэтавай накіраванасці рэплікі дыялогу падзяляюцца на тры групы: 1) рэплікі-адказы; 2) рэплікі-пытанні; 3) рэплікі-працягі.

Рэплікі-адказы заключаюць у сабе адказы на пытанне, выражанае ў папярэднім сказе: *«А дзе ж вы вучыцеся?» — запытала зноў Алёнка.— «На другім курсе рабфака».— «А ці ведаеце вы... Баруту Сцяпана?» — «Ведаю...»* (Я. Колас); *«Панаса забралі палякі»,— глуха адказала яна* [бабка].— *«Калі забралі?» — «Учора ўночы»* (Я. Колас).

Рэплікі-пытанні выражаюць пытанне, выклікане зместам пачатковага сказа ці папярэдняй рэплікі: *«А я ў той час таксама быў у Варонежы».— «Палкоўнікам?» — «Не, я быў настаўнікам гімназіі»* (К. Крапіва); *«А што вы прывезлі?» — «Кнігі?» — «Але»,— «Якія кнігі?» — «Нашы. Савецкія»,— раздражнёна адказаў Пятро* (І. Шамякін).

Рэплікі-працягі паведамляюць што-небудзь дадаткова да выказанага ў пачатковым сказе. Сказы-рэплікі, якія працягваюць дыялог, менш поўныя, чым тыя, што пачынаюць яго; яны бліжэй да асобных членаў сказа, хоць іншы раз цяжка вызначыць, да якіх іменна, асабліва па-за кантэкстам: *«Гаршчок таксама ладны».— «Прыгожы, зграбны!»* (В. Вольскі); *«Жанчына ў бальніцы. Пасля цяжкай аперацыі...» — «На сэрцы»,— падказаў Шыковіч* (І. Шамякін).

Структура сказаў дыялагічнай мовы, асабліва ў форме рэплік-адказаў, не зусім тоесная ў адносінах яе фармальна-граматычнага саставу, г. зн. наяўнасці і характару галоўных членаў, структуры сказаў маналагічнай апавядальнай мовы, хоць паміж імі нельга правесці абсалютнай мяжы, паколькі кожная з іх можа ўключаць структурныя рысы другой. Жывыя структурныя тыпы сказаў размоўнага стылю (галоўным чынам дыялогу) трэба вывучаць не з пункту погляду іх фармальнай недастатковасці ці паўнаты, а з пункту погляду іх уласных спецыфічных асаблівасцей і функцый.

Асноўная сфера ўжывання няпоўных сказаў — вусная мова, паколькі характар сінтаксічнай будовы сказа ў вуснай мове вызначаюць абстаноўка, агульны вопыт тых, хто гаворыць, інтанацыя, міміка, якія дапаўняюць выказванне. Усё гэта дазваляе апускаць тыя члены сказа, адсут-

насць якіх не перашкаджае разуменню думкі. У кніжных стылях мовы, асабліва ў афіцыйна-дзелавым і навуковым, няпоўныя сказы ўжываюцца вельмі абмежавана. Выкарыстанне няпоўных сказаў у мастацкіх і публіцыстычных творах надае мове лаканічнасць, жывасць і дынаміку.

## ЭЛІПТЫЧНЫЯ СКАЗЫ

§ 218. Да няпоўных сказаў прымыкаюць эліптычныя сказы, якія займаюць асобае месца ў тыпалогіі простага сказа: яны з'яўляюцца пераходнымі ад няпоўных двухсастаўных да поўных сказаў.

Заўвага. У лінгвістычнай літаратуры тэрмін «эліптычныя сказы» ўжывасцца неадназначна: ён выкарыстоўваецца замест тэрміна «няпоўныя сказы», абазначае разнавіднасць няпоўных сказаў; нарэшце, служыць назвай сказаў, якія прымыкаюць да няпоўных, падобныя да іх.

Эліптычнымі называюцца такія сказы, у якіх адсутны член не ўзнаўляецца з кантэксту і не падказваецца сітуацыяй. Спецыфічная асаблівасць такіх сказаў — адсутнасць выказніка, прычым выказніка, не ўпамянутага ў кантэксце, г. зн. у сэнсавых адносінах ён не з'яўляецца неабходным для перадачы пэўнага паведамлення: *Да небакраю — налійное жыта, імклівыя каналы між балот, на кожным кроку — рук тваіх* [родны край] *здабытак, твае сады, твой хлеб, твой горкі пот* (П. Панчанка); *Нам рэкі — чыстую ваду, нам рэкі — свой разліў блакітны, мы ім — адходы і адкіды, мы ім — усякую брыду* (А. Вярцінскі); *Зімой — снягі, мяцеліцы, завеі, вясною — бурныя паводкі скрозь; улетку — сумныя напевы жнеяў, увосень — золкасці халоднай рось* (П. Глебка).

Эліптычныя сказы — не столькі вынік эканоміі моўных сродкаў, колькі вынік расшырэння камунікатыўных магчымасцей мовы, паколькі кожная мова папаўняецца ўсё новымі і новымі спосабамі выражэння, новымі прыёмамі камунікацыі.

Звычайна эліптычныя сказы адносяць да няпоўных, паколькі ў першых ёсць дадзеныя члены, звязаныя з адсутным выказнікам. Аднак эліптычныя сказы адрозніваюцца ад няпоўных тым, што адсутны член сказа не патрабуе ўзнаўлення з кантэксту ці сітуацыі, і ў гэтым сэнсе яны з'яўляюцца поўнымі.

Эліптычныя сказы суадносяцца з поўнымі, якія маюць у сваім саставе дзеясловы быцця, наяўнасці, маўлення, руху, дзеяння, пабуджэння. У поўных сказах увага фіксуецца на дзеянні, эліптычныя сказы ўказваюць на абставіны, якія суправаджаюць дзеянне, на яго аб'ект: *За Сырніцай — густы дрымотны старадаўні ельнік, зайсёды сыры і мокры з камля да верху. За Сырніцай — крумкачы, вужы і дзікі. І грыбоў да гібелі...* (І. Пташнікаў); *Пры ўваходзе ў вёску ўзбоч бальшака на ўзгорку — цёмная сцяна векавых дубоў* (Полымя, 1985); *Узбоч дарогі — лясок, па другі бок — поле, а ўгары папялістыя хмары паўзуць* (Я. Колас).

Непаўната такіх сказаў — структурная норма. Гэта тыпізаваныя канструкцыі, узнаўляць якія-небудзь члены ў іх няма патрэбы. Яны дастаткова поўныя (нават па-за кантэкстам) з пункту погляду іх камунікатыўнага задання. Што ж да граматычнай пабудовы, то спецыфіка яе заключаецца ў наяўнасці падпарадкаваных словаформ, якія ўказваюць на залежнасць іх ад дзеяслова: *З краю лес высокі; тут жа, каля хаты, дзве старыя вербы, дуб каржакаваты* (Я. Колас); *Навокал бязмежныя нашы прасторы, абапал — прысады, палеткі, азёры* (У. Дубоўка); *Над*

*полем цішыня і золак* (М. Танк); *Родны край мой! Ты заўсёды ў маім сэрцы!* (Т. Хадкевіч); *На Пулкаўскіх вышынях — цішыня* (П. Панчанка); *Поспеху табе, родная Беларусь, наша песня, наша слава! Добрай дарогі табе ў вялікую светлую будучыню!* (Р. Сабаленка).

Аднак гэта залежнасць відавочная толькі ў гістарычным плане. Такая залежнасць яшчэ яўна адчуваецца ў канструкцыях тыпу *Налева — лес; За хатай — сад* і не ўсведамляецца ў сказах тыпу *След на зямлі; Сустрэчы на вакзале,* дзе субстантыўны ўплыў настолькі моцны, што выцясняе дзеяслоўны, які некалі быў, і функцыянальна пераўтварае залежныя словаформы, прычым эліпсіс у гэтых выпадках ужо не ўспрымаецца: такія сказы нагадваюць сабой намінатыўныя сказы з недапасаваным азначэннем, і іх эліптычнасць у мінулым — адна са ступеней развіцця гэтага тыпу сказаў.

Заўвага. Паводле граматычнай структуры, суадноснасці словаформ да эліптычных сказаў блізкія фразеалагізаваныя сказы тыпу *Як справы? Добрай ночы! З Новым годам!* і пад.; па функцыі ж, па адсутнасці сінтаксічных адносін паміж словамі (г. зн. па нечлянімасці) яны збліжаюцца са словамі-сказамі *Так; Не; Вядома* і пад.

Фразеалагізаваныя сказы нагадваюць сабой не столькі граматычныя структуры, колькі гатовыя моўныя адзінкі. Значыць, яны знаходзяцца за межамі асноўных граматычных тыпаў простага сказа — двухсастаўных і аднасастаўных. Фразеалагізаваныя сказы (ці сказы-штампы) — спецыфічныя канструкцыі размоўнага стылю.

Эліптычныя сказы звычайна складаюцца з дзейніка і даданага члена, часцей за ўсё — акалічнасці месца, здольнай, як правіла, спалучацца з дзеясловамі руху, прабывання: *На плошчы шум, нібы ў час парада, і сэрца зачараваны стук* (А. Вялюгін); *На дварэ — сінь. Паветра, снег, неба — усё заліта сінню. А на ўсходзе — чырвань* (А. Чарнышэвіч); *У цёмным небе хараводы сіняватых зорак* (М. Багдановіч); *Пад вярбой зялёнай — луг мурожны* (А. Вялюгін); *На вуліцах — гоман* (П. Глебка); *Над полем цішыня і золак* (М. Танк); *Хлопцы з коней. Залп за залпам. Завязаўся жорсткі бой* (П. Пестрак).

Залежныя апорныя члены эліптычных сказаў толькі часткова выконваюць функцыю выказніка (маюць агульнае ўказанне на факт дзеяння), захоўваючы поўнасцю сваё аб'ектнае ці (часцей) акалічнаснае значэнне. Акрамя таго, яны не выражаюць граматычных значэнняў ладу, часу. Сінтаксічнае значэнне часу не мае ў эліптычных сказах пэўных паказчыкаў. Часавае значэнне эліптычных сказаў выражаецца адносна. Яно поўнасцю вызначаецца сітуацыяй, агульным часавым планам паведамлення і г. д. Гэта якасць эліптычных сказаў не з'яўляецца паказчыкам іх непаўнацэннасці.

Нягледзячы на адсутнасць выказніка, у структуры эліптычных сказаў выразна праяўляецца двухчленнасць, паколькі яны базіруюцца пераважна на канструкцыях двухсастаўных дзеяслоўных сказаў, аднак двухсастаўнымі ў прынятым значэнні гэтага тэрміна эліптычныя сказы не з'яўляюцца.

Эліптычныя сказы маюць рад пераваг перад дзеяслоўнымі. Па-першае, яны адначасова і абстрагуюцца ад канкрэтных дзеясловаў, і захоўваюць з імі сувязь. Тым самым яны, як у фокусе, збіраюць, канцэнтруюць семантычныя рысы значнай групы дзеясловаў. Па-другое, яны вельмі канкрэтныя, так як сумяшчаюць у сабе агульнае ўказанне на працэс руху, маўлення і г. д. з дакладным абазначэннем напрамку, адрасата, аб'екта і г. д. Гэтым ствараецца іх экспрэсіўнасць, вобразнасць. Па-трэцяе, эліптычным сказам у значнай ступені ўласціва дынамічнасць. У іх як бы заключана скрытая энергія. Гэта таксама выцякае з эліпсісу: дзеяслоў канкрэтна лексічна не названы, але яго семантыка

лёгка вызначаецца са сказа. Акрамя таго, эліптычныя сказы лаканічныя, што дасягаецца не толькі скарачэннем дзеяслова, але і адсутнасцю многіх слоў, якія маглі б быць пры дзеяслове.

Адзначаныя ўласцівасці эліптычных сказаў робяць іх адным з выразных элементаў паэтычнага (шырэй — мастацкага) сінтаксісу. Сфера прымянення эліптычных сказаў — перш за ўсё размоўны стыль і мастацкая літаратура.

Як факт жывой мовы, эліптычныя сказы ў апошнія гады шырока прымяняюцца ў мове газет, асабліва ў загалоўках. Шматлікія эліпсісы тут — ужо свайго роду стандарт. Мова газет, як вядома, імкнецца да дынамічнасці, чаму садзейнічаюць, у прыватнасці, мінімальна кароткія сказы з пропускам лішніх у інфарматыўных адносінах слоў: *Пяцігодку — датэрмінова; Палітычныя і навуковыя веды — у масы; Ураджаю-85 — зялёная вуліца; Рашэнні з'езда — у жыццё.*

У эліптычных сказах-загалоўках адсутнасць аднаго ці некалькіх членаў у большасці выпадкаў з'яўляецца сінтаксічнай нормай. Сказы-загалоўкі ў такіх выпадках набываюць стылістычную і экспрэсіўную афарбоўку. Такія загалоўкі выражаюць думку ў максімальна сціслай форме.

Нягледзячы на прадуктыўнасць, эліптычныя сказы маюць стылістычна абумоўленыя абмежаванні ў выкарыстанні. Яны не ўласцівы навуковаму і дзелавому стылям мовы.

## ПАРАДАК СЛОЎ У СКАЗЕ

### АКТУАЛЬНАЕ І СІНТАКСІЧНАЕ ЧЛЯНЕННЕ

§ 219. Парадкам слоў называецца размяшчэнне кампанентаў лексіка-граматычнага саставу сказа ў пэўнай лінейнай паслядоўнасці: *Глядзіць у вокны зімні вечар* (Я. Колас); *Нашай дужай хады не стрымалі разбоі ліхія* (М. Лужанін); *Дымы над куранёўскімі хатамі стаялі ў ружовым небе, як лес* (І. Мележ); *Цудоўна пахнуць мокрай травой прасторы рачных берагоў* (К. Чорны); *У ціхі лясны шорах урываліся рэзкія парывы ветру* (М. Лынькоў); *Белае пер'е губляе белая птушка завей* (А. Звонак); *Круглы месячык запаліў ліхтарык і свеціць над цёмнаю зямлёй* (Я. Колас); *Промні сонца коса ўрываліся праз акно вузкага пакоя* (С. Баранавых); *Паўдзённая гарачыня завалакла смугою далеч* (В. Вітка); *Са смалістае плашкі яловай майстар скрыпку-пяюху зрабіў, перадаў ёй сардэчныя словы, шматгалоссем яе надзяліў* (А. Бялевіч).

Заўвага. У падручніках, як правіла, парадкам слоў называюць размяшчэнне членаў сказа. Такое азначэнне нельга лічыць правамерным, паколькі службовыя словы не з'яўляюцца членамі сказа, але іх месца асабліва цвёрда замацавалася ў працэсе гістарычнага развіцця мовы, і адступленне ад традыцыі выклікае памылкі. Значыць, гаворачы аб парадку слоў, трэба мець на ўвазе размяшчэнне ўсіх элементаў сказа, а не толькі яго членаў.

Побач з такімі сродкамі, як сінтаксічная сувязь слоў і інтанацыя, парадак слоў з'яўляецца істотным фактарам структурнай арганізацыі сказа. Ён выконвае ў асноўным функцыю размеркавання сэнсавай нагрузкі сказа паміж яго кампанентамі. Іменна дзякуючы парадку слоў сказ не проста выражае думку, а паведамляе канкрэтную думку ў адпаведнасці са зместам камунікацыі.

Нормы размяшчэння слоў ці груп слоў у сказе вызначаюцца сінтаксічнай будовай сказа і яго актуальным чляненнем.

С і н т а к с і ч н ы м называецца чляненне сказа на члены сказа.

Паняцце сінтаксічнай будовы звязана з граматычнай структурай: выдзяляецца структурнае ядро сказа — дзейнік і выказнік і члены, якія іх развіваюць. Сінтаксічнае чляненне характарызуе сказ толькі з аднаго боку — канструктыўна-сінтаксічнага, безадносна да камунікатыўнай нагрузкі, якую выконвае сказ.

Гаворачы пра сінтаксічную будову сказа, маюць на ўвазе нейтральнае размяшчэнне слоў адносна адно другога, якое адпавядае нормам мовы і пазбаўлена экспрэсіі. Так, дзейнік у двухсастаўным сказе папярэднічае выказніку: *Сын вучыцца.* У словазлучэннях з галоўным словам — назоўнікам азначэнне размяшчаецца перад ім, калі яно мае азначальны характар: *мой сын.* У дзеяслоўных словазлучэннях залежныя кампаненты, выражаныя формамі ўскосных склонаў з прыназоўнікамі ці без іх, размяшчаюцца пасля апорнага слова: *вучыцца ў школе.* Залежныя кампаненты дзеяслоўных словазлучэнняў, выражаныя якаснымі прыслоўямі з акалічнасным значэннем, папярэднічаюць апорнаму слову: *добра вучыцца.*

Такім чынам, словазлучэнні, з якіх складаецца сказ, арганізаваны паводле пэўных тыпаў сувязей слоў і адрозніваюцца больш-менш устойлівым размяшчэннем сваіх кампанентаў. У сучаснай беларускай мове ўстойлівы парадак слоў у словазлучэннях з'яўляецца нормай.

Аднак у адным і тым жа сказе ў залежнасці ад кантэксту і камунікатыўных заданняў, разнастайных сэнсавых і экспрэсіўных функцый словаразмяшчэнне можа мяняцца: *Сын мой* (а не чый-небудзь) *добра вучыцца ў школе — Мой сын вучыцца ў школе добра* (а не дрэнна) — *Мой сын у школе* (а не дзе-небудзь) *вучыцца добра* і інш.

Сэнсавыя і экспрэсіўныя функцыі сказа выяўляюцца з дапамогай актуальнага члянення сказа.

А к т у а л ь н а е чляненне сказа — гэта чляненне сказа на тое, што ў ім пры пэўным камунікатыўным заданні з'яўляецца зыходным пунктам выказвання, лічыцца вядомым,— тэму (аснову) і на тое, што пра гэту тэму паведамляецца,— рэму (ядро). Рэма з'яўляецца камунікатыўным цэнтрам сказа і выдзяляецца лагічным націскам. Так, у сказе *Мой сын добра вучыцца ў школе* выдзяляецца тэма *Мой сын* і рэма *добра вучыцца ў школе.*

З а ў в а г а. Ва ўжыванні тэрмінаў для абазначэння кампанентаў актуальнага члянення няма адзінства, што сведчыць аб складанасці гэтай праблемы і аб тым, што яна яшчэ канчаткова не вырашана. Побач з тэрмінамі «тэма» і «рэма» бытуюць тэрміны «аснова выказвання» і «ядро выказвання», «дадзенае» і «новае», «аснова выказвання» і «прэдыцыруемая частка», «лагічны суб'ект» і «лагічны прэдыкат». Нягледзячы на разнабой тэрмінаў, сутнасць з'явы адна і тая ж: у сказе звычайна спалучаюцца вядомае і новае. Такое адзінства вядомага і новага выцякае з самой прыроды камунікацыі: абапіраючыся на ўжо вядомае, той, хто гаворыць (ці піша), паведамляе нешта новае таму, хто слухае (ці чытае).

Сказы, у якіх ёсць тэма і рэма, называюцца р а с ч л я н ё н ы м і. Сказы, у якіх проціпастаўлення рэмы і тэмы няма,— н е р а с ч л я н ё н ы я. Гэта сказы тыпу *Надыходзіць зіма*, тут няма лагічнага націску, і ўвесь сказ абазначае «новае». У такіх сказах уся інфармацыя істотная, таму ўвесь састаў сказа роўны рэме. Аднак гэта не азначае, што такія сказы не дапускаюць актуальнага члянення. Сказаў па-за актуальным чляненнем быць не можа, паколькі не можа быць выказванняў без мэтавай устаноўкі таго, хто гаворыць. Але можна сказаць, што ў такіх сказах нулявая тэма, а ўвесь лексічны састаў выконвае функцыю рэмы.

Роля парадку слоў на ўзроўні сінтаксічнай структуры і на ўзроўні актуальнага члянення сказа неаднолькавая.

На ўзроўні сінтаксічнай структуры парадак слоў устанаўліваецца паслядоўным чляненнем кампанентаў, якія ўтвараюць сказ. Так, пры сінтаксічным аналізе двухсастаўнага сказа спачатку выдзяляюць групу дзейніка і групу выказніка. Затым у групе дзейніка выдзяляюць дзейнік і вызначаюць характар сінтаксічнай сувязі з ім дадзеных членаў сказа (ці сувязі іх паміж сабой). Гэтак жа аналізуецца і група выказніка.

На ўзроўні сінтаксічнай будовы сказа парадак слоў выконвае пэўныя граматычныя функцыі, якіх ён не мае пры актуальным чляненні сказа. Актуальнае ж чляненне сказа выконвае пэўную сэнсаваадрознівальную функцыю ў сказе. Тэма як зыходны пункт выказвання павінна быць у пачатку сказа, а рэма — камунікатыўнае ядро — пасля тэмы.

Паміж актуальным і сінтаксічным чляненнем сказа існуе залежнасць дваякага характару.

З аднаго боку, актуальнае і сінтаксічнае чляненне сказа могуць супадаць. З другога — актуальнае чляненне сказа можа быць супрацьпастаўлена яго сінтаксічнаму чляненню, паколькі сказы з аднолькавым саставам у залежнасці ад розных мэт камунікацыі маюць рознае актуальнае чляненне.

Выражэнне актуальнага члянення сказа парадкам слоў характэрна галоўным чынам для пісьмовай мовы, дзе адсутнічае інтанацыя і дакладны сэнс сказа ўлаўліваецца толькі дзякуючы парадку слоў (што датычыць інтанацыі пісьмовага тэксту, то яна вызначаецца парадкам слоў і кантэкстам). У вуснай мове, наадварот, актуальнае чляненне выражаецца перш за ўсё інтанацыяй («новае» ў сказе акцэнтуецца лагічным націскам), і строгі словапарадак у ёй не абавязковы. Таму пры аднолькавым актуальным чляненні сказа ў вуснай і пісьмовай мове можа быць розны парадак слоў.

## ФУНКЦЫІ ПАРАДКУ СЛОЎ У СКАЗЕ

§ 220. Парадак слоў у сказе выконвае тры асноўныя функцыі: граматычную, камунікатыўную і стылістычную. Граматычная функцыя парадку слоў заключаецца ў замацаванасці пэўнай пазіцыі за тым ці іншым кампанентам. Перш за ўсё гэта датычыць размяшчэння службовых слоў. Напрыклад, прыназоўнікі заўсёды размяшчаюцца перад словам, да якога яны адносяцца: *на Радзіме, за Радзіму, аб Радзіме;* часціцы могуць быць размешчаны перад словам *(не прыйшоў)* ці пасля яго *(гаварыў жа);* спалучальныя злучнікі размяшчаюцца паміж аднароднымі членамі ці сказамі *(кніга і сшытак)*; падпарадкавальныя злучнікі ці злучальныя словы — у пачатку дадзенай часткі складанага сказа, пасля таго слова, да якога яны адносяцца *(Я знаю, што цяжка і горка свой дом пакідаць і сяло* (А. Астрэйка)*)*.

Парушэнне паслядоўнасці элементаў у адзначаных выпадках прыводзіць да няправільнай пабудовы сказа ці да двухсэнсавасці. Так, зусім недапушчальныя спалучэнні *Радзіме на, стале на кніга* і пад. Сказы *Ён не прыйшоў* і *Прыйшоў не ён* аказваюцца рознымі сінтаксічнымі адзінкамі.

Граматычная функцыя парадку слоў найбольш выразна праяўляецца ў наступных выпадках.

1. Парадак слоў у сказе з'яўляецца важнейшым сродкам, які дапамагае адрозніць сінтаксічную функцыю дзейніка і дапаўнення пры супадзенні іх граматычных форм. Парадак слоў вызначае граматычную

значымасць аманімічных форм назоўнікаў. Амаформы назоўны — вінавальны (тыпу *Дзень змяняе ноч)* адрозніваюцца парадкам іх размяшчэння: назоўны — дзейнік — стаіць на першым месцы.

2. Парадак слоў вызначае сінтаксічную функцыю галоўных членаў у сказах з дзейнікам і іменным выказнікам — у так званых сказах тоеснасці, г. зн. у такіх сказах, у якіх устанаўліваецца тоеснасць двух прадметаў ці асоб.

У сказе *Мой брат — інжынер,* у якім абодва галоўныя члены выражаны назоўным склонам назоўнікаў, першы назоўнік — дзейнік, другі — выказнік. Пры перастаноўцы галоўных членаў сінтаксічная роля іх зменіцца: *«інжынер»* стане дзейнікам, *«брат»* — выказнікам.

3. З дапамогай парадку слоў устанаўліваецца сінтаксічная функцыя прыметнікаў і тым самым вызначаецца тып сказа. Так, прыметнікі ў постпазіцыі да назоўніка-дзейніка з'яўляюцца выказнікам двухсастаўнага сказа *(Дзень марозны),* а ў прэпазіцыі да дзейніка — азначэннем аднасастаўнага намінатыўнага сказа *(Марозны дзень).*

4. Парадак слоў дапамагае высветліць сінтаксічную функцыю інфінітыва і вызначыць структуру сказа, якая залежыць ад гэтай функцыі. Напрыклад, прэпазіцыйны інфінітыў *гуляць* у сказе *Гуляць з агнём небяспечна* выступае ў ролі дзейніка двухсастаўнага сказа. Пры перастаноўцы постпазіцыйны інфінітыў уваходзіць у склад выказніка аднасастаўнага безасабовага сказа: *Небяспечна гуляць з агнём.*

5. Граматычная функцыя парадку слоў праяўляецца і тады, калі недапасаванае азначэнне і дапаўненне ці акалічнасць месца, часу выражаны назоўнікамі ва ўскосным склоне (побач з назоўнікам — азначэнне, пасля дзеяслова-выказніка — дапаўненне ці акалічнасць): *Дарога ў лес ідзе прама — Дарога ідзе прама ў лес; Лаўка пад ліпай была любімым месцам адпачынку — Лаўка стаяла пад ліпай.*

6. З дапамогай парадку слоў адрозніваюць дзве акалічнасці, адна з якіх адносіцца да дзеяслова-выказніка, другая — да другой акалічнасці: *Сёння я зайду вечарам* (зайду вечарам) — *Я зайду сёння вечарам* (зайду сёння, сёння вечарам).

7. Граматычная функцыя парадку слоў дапамагае адрозніць два ўскосныя дапаўненні, аднолькавыя па форме (у давальным склоне), але розныя паводле сінтаксічнага значэння (першае дапаўненне ўказвае на суб'ект дзеяння, другое — на адрасат): *Брату хацелася зрабіць сястры нешта прыемнае* (параўн.: *Брат хацеў зрабіць сястры нешта прыемнае) — Сястры хацелася зрабіць брату нешта прыемнае* (параўн.: *Сястра хацела зрабіць брату нешта прыемнае).*

Граматычная функцыя парадку слоў праяўляецца не толькі ў адрозненні членаў сказа, але і ў арганізацыі кампанентаў словазлучэнняў. Кожны тып словазлучэнняў мае свае нормы парадку слоў (прэпазіцыя залежнага члена пры яго дапасаванні і постпазіцыя пры кіраванні). Змена парадку слоў прыводзіць да разбурэння словазлучэння — змяняецца сінтаксічная роля залежнага члена (атрыбутыўныя адносіны пераходзяць у прэдыкатыўныя, паўпрэдыкатыўныя).

Парадак слоў мае граматычнае значэнне ў спалучэннях колькаснага лічэбніка з назоўнікам. Калі лічэбнік знаходзіцца ў прэпазіцыі да назоўніка *(дваццаць чалавек),* то ў такіх выпадках абазначаецца дакладная колькасць. Пры постпазіцыі лічэбніка *(чалавек дваццаць)* выражаецца прыблізная колькасць.

Уласна граматычная функцыя парадку слоў, яго ўдзел у фарміраванні граматычнай структуры сказа для беларускай мовы не з'яўляецца асноўнай.

Парадак слоў выконвае перш за ўсё сэнсавую функцыю, г. зн.

удзельнічае ў фарміраванні сэнсавай, камунікатыўнай структуры сказа, з'яўляецца адным з галоўных сродкаў выражэння актуальнага члянення сказа. Мэтанакіраванасць выказвання, яго камунікатыўнае заданне — асноўны фактар, які вызначае парадак слоў у беларускай мове. У стылістычна нейтральнай мове першае месца ў выказванні займае тэма (тое, пра што гаворыцца ў выказванні, прадмет паведамлення), другое — рэма (тое, што гаворыцца аб прадмеце паведамлення).

Заўвага. Выказваннем прынята называць сказ, які разглядаецца ў дынамічным аспекце, з боку яго камунікатыўнай функцыі. На аснове аднаго сказа можа быць рэалізавана некалькі камунікатыўных заданняў. Пры гэтым змяняецца значэнне сказа. Змена сэнсу сказа суправаджаецца зменай яго словапарадку.

Аднак гэта толькі самая агульная фармуліроўка асноўнага закону словаразмяшчэння. Пры выражэнні аднаго і таго ж камунікатыўнага задання гэты закон можа рэалізавацца ў розных варыянтах словаразмяшчэння, паколькі парадак слоў у выказванні мадыфіцыруецца фармальным саставам сказа, які ляжыць у яго аснове, і аднаму камунікатыўнаму заданню можа адпавядаць больш чым адзін варыянт словапарадку. Пры гэтым пэўную ролю адыгрываюць такія фактары, як лексічны састаў сказа, граматычная форма асобных яго кампанентаў, ступень развітасці сказа ў цэлым і асобных яго частак. Камунікатыўная функцыя парадку слоў заключаецца не толькі ў выражэнні актуальнага члянення, але і ў выражэнні ступені камунікатыўнай значымасці слоў.

Стылістычная функцыя парадку слоў, якая абумоўліваецца яго пэўным узаемадзеяннем з інтанацыяй, выражаецца не толькі ў інверсіі кампанентаў актуальнага члянення, але і ў тым, што пэўныя варыянты словапарадку характэрны для таго ці іншага стылю мовы.

Асабліва адрозніваюцца размяшчэннем слоў пісьмовая і вусная мова. У вуснай мове значную ролю адыгрывае інтанацыя, пропуск пэўнага члена сказа, свабоднае перамяшчэнне слоў, а ў пісьмовай мове — захаванне традыцый літаратурнай мовы. Парадак слоў набывае стылістычнае значэнне ў тых выпадках, калі той, хто піша, перастаўляе які-небудзь член сказа і тым самым стварае дадатковыя адценні думкі, узмацняе ці паслабляе сэнсавую нагрузку слова, надае сказу размоўную афарбоўку, эмацыянальнасць, змяняе месца лагічнага націску і г. д. У выніку атрымліваецца так званы адваротны парадак слоў, што ўспрымаецца як адступленне ад звычайнага (прамога) парадку слоў. Такім чынам, парадак слоў удзельнічае ў стварэнні экспрэсіўнасці сказаў, што і вызначае яго ўласна стылістычную функцыю. У мастацкім і публіцыстычным стылях гэта функцыя парадку слоў праяўляецца як сродак стылізацыі мовы, эмацыянальнасці паведамлення і як індывідуальная аўтарская асаблівасць.

Разглядаць парадак слоў з пункту погляду толькі адной з яго функцый — граматычнай, камунікатыўнай ці стылістычнай — няправільна і неправамерна. Сказ — гэта граматычная і камунікатыўная адзінка мовы. Разрываць граматычны і камунікатыўны план даследавання парадку слоў можна толькі штучна, у метадычных мэтах. У мове ж граматычнае і камунікатыўнае заўсёды пераплецена, узаемазвязана і ўзаемаабумоўлена. Так, граматычная з'ява разбурэння словазлучэння адначасова з'яўляецца камунікатыўнай, паколькі пры гэтым змяняецца ступень камунікатыўнай значымасці слова, адначасова гэта і стылістычны факт (лепшы, больш дакладны варыянт перадачы думкі). Таму стылістычная функцыя парадку слоў не толькі не асноўная, але і ўвогуле не самастойная, заўсёды падпарадкавана камунікатыўнай функцыі, з'яўляецца як бы яе вынікам.

Граматычная, камунікатыўная і стылістычная функцыі парадку слоў уласцівы і мовам з так званым цвёрдым парадкам слоў, напрыклад англійскай, але ва ўсходнеславянскіх мовах, у тым ліку і ў беларускай, з іх развітай сістэмай флексій, камунікатыўная і стылістычная функцыі парадку слоў праяўляюць сябе больш выразна. Наяўнасць развітай сістэмы флексій, не зніжаючы граматычнай функцыі парадку слоў, садзейнічае ажыццяўленню камунікатыўнай і стылістычнай функцый, пастаяннаму ўзаемадзеянню і ўзаемапранікненню ўсіх трох функцый парадку слоў.

## ПРАМЫ І АДВАРОТНЫ ПАРАДАК СЛОЎ

§ 221. Парадак размяшчэння слоў ад тэмы да рэмы называецца прамым. Прамы парадак слоў з'яўляецца стылістычна нейтральным.

Прамы парадак слоў бывае:

1. У расчлянёных двухсастаўных сказах дзейнік стаіць перад выказнікам: *Белазорае бабіна лета ў гародчыку расцвіло* (А. Вялюгін); *Сад расцвіў прыгожы ранняю вясною* (А. Русак); *Стары пануры ельнік стаяў навокал нерухомы і загадкавы* (А. Чарнышэвіч); *Дзве бярозы шумяць пад акном* (А. Астрэйка).

2. У нерасчлянёных двухсастаўных сказах выказнік мае значэнне наяўнасці, працякання і знаходзіцца перад дзейнікам (*Праляцелі гады; Надышлі марозы*).

3. Парадак размяшчэння членаў у расчлянёных двухсастаўных сказах такі: на першым месцы — дэтэрмінант, на другім — дзейнік, на трэцім — выказнік: *Майскім вечарам Веніямін сядзеў за сталом і чытаў пры лямпе* (І. Навуменка); *На пашы рыжыя чмялі гаспадарылі між кветак* (П. Панчанка); *Там высокая пшаніца пачала ўжо каласіцца* (А. Русак); *Навокал густою смугой далягляд суровая восень заткала...* (А. Бачыла); *З-пад алешын, вербаў, з-пад карэння Нёман п'е крынічную ваду* (А. Бялевіч).

4. У нерасчлянёных двухсастаўных сказах дэтэрмінанты таксама размяшчаюцца ў пачатку сказа, аднак тут на першым месцы — выказнік, на другім — дзейнік. Папярэднічаць выказніку ў нерасчлянёных сказах могуць толькі акалічнасці спосабу дзеяння. Іншыя дадзеныя члены сказа, пастаўленыя перад выказнікам, пачынаюць выконваць ролю тэмы, значыць, сказ перастае быць нерасчлянёным выказваннем. Дзеясловы-выказнікі ў нерасчлянёных выказваннях — двухсастаўных сказах — заўсёды непераходныя: *Смутна шумеў стары лес* (Я. Колас); *Спакойна дрэмле Нарач* (М. Танк); *Лагодна і роўна падае сняжок* (З. Бядуля).

5. У аднасастаўных сказах дэтэрмініруючы член папярэднічае прэдыкатыўнаму члену: *Ганна заўважыла, што старая не крыўдуе, і ёй палягчэла* (І. Мележ); *Толькі аднаму музыку ноччу месячнай не спіцца* (М. Танк); *А Шарэйку ніяк не маўчыцца* (Я. Брыль); *Ну, але мне жыць хочацца!* (Я. Купала); *З рэчкі пацягнула халадком* (А. Стаховіч).

6. Устойлівы парадак слоў наглядаецца ў аднасастаўных сказах без дэтэрмінантаў: *Позняя раніца. Раса хаваецца толькі ў засені густога лісця* (Я. Брыль); *Глухая ноч. На небе гаснуць зоры* (П. Глебка); *Снежная пустыня. Цішыня* (І. Шамякін); *Люблю цябе, мой Нёман родны, мая любімая рака* (А. Русак); *Не злічыш дароў тваіх, верасень* (А. Вялюгін); *Вось і маё месца. Кладу свае прылады, здымаю торбу, саджуся, выціраю з твару пот і пазіраю на пясчаную паласу пад берагам і на віры* (М. Лупсякоў); *Трэба падкормліваць рыбу, трэба ачы-*

*сціць сажалкі ад лішняй травы і іншага зелля, умацаваць некаторыя дамбы, падрамантаваць шлюзы і застаўкі* (А. Чарнышэвіч).

У такіх выпадках актуальнае чляненне супадае з сінтаксічнай будовай сказа, таму парадак слоў у іх строга падпарадкаваны правілам, звязаным з сінтаксічнай будовай сказа.

Парадак слоў у гэтых групах вызначаецца асобымі правіламі, якія існуюць для кожнага тыпу словазлучэнняў. У атрыбутыўных словазлучэннях прыметнік стаіць перад назоўнікам (*ружовы колер, дубовая бочка, музычны інструмент*). У дзеяслоўных словазлучэннях кіруемыя і прымыкаючыя словаформы размяшчаюцца пасля дзеясловаў (*любіць Радзіму, захаваць мір, змагацца дружна*). У субстантыўных словазлучэннях кіруемыя і прымыкаючыя словаформы размяшчаюцца пасля назоўніка — апорнага слова (*кніга для навучання, жаданне працаваць, назва вёскі*).

Якасныя прыслоўі ў дзеяслоўных словазлучэннях папярэднічаюць дзеяслову (*моцна гаварыць, горача любіць, легкадумна жыць, верна служыць*). Прыслоўі іншага значэння могуць стаяць пасля дзеясловаў (*чакаць нядоўга, прыехаць заўтра*).

У састаўных іменных выказніках звязачны дзеяслоў папярэднічае іменнай частцы (*аказаўся няшчырым, стаў дарослым, быў добрым*). У састаўных дзеяслоўных выказніках звязачны дзеяслоў папярэднічае інфінітыву (*можа здарыцца, сталі меркаваць*).

Парадак размяшчэння слоў ад рэмы да тэмы называецца а д в а р о т н ы м. Для абазначэння адваротнага парадку слоў выкарыстоўваецца тэрмін і н в е р с і я.

Інверсійны парадак слоў з'яўляецца семантычна і стылістычна значымым; ён экспрэсіўна афарбаваны. Пры інверсіі[1] наглядаецца змяшчэнне тэмы і рэмы, сінтаксічнае чляненне супярэчыць актуальнаму чляненню. Сказы з інверсіяй характарызуюцца асобай экспрэсіўнай інтанацыяй. Паколькі пры інверсіі наглядаецца змяшчэнне тэмы і рэмы ці яе частак, то функцыянальная значымасць рэмы ці яе частак выдзяляецца інтанацыйна, пры дапамозе лагічнага націску: *Чарнеецца сажаю вечар* (М. Багдановіч); *Цягнуцца к лесу чароўныя далі* (Ц. Гартны); *Нашай дужай хады не стрымалі разбоі ліхія* (М. Лужанін); *Для нас цвітуць сады і агароды і жытнія звісаюць каласы* (Я. Купала); *З палян непакосных дыхнулі мядовай расой верасы* (М. Калачынскі); *Тры разы выходзіла з берагоў рэчка наша ціхая між лугоў* (А. Бялевіч); *На гай, на поле і на хаты спаўзае ночы лёгкі цень* (М. Чарот).

Асноўныя выпадкі інверсійнага парадку слоў у беларускай мове наступныя:

1) атрыбутыўныя словазлучэнні з прэпазіцыяй назоўніка (*зубы крывыя, рукі моцныя, вочы шэрыя*);

2) дзеяслоўныя словазлучэнні з прэпазіцыяй прыназоўнікава-скланавай формы (*на двор выскачыў, на вуліцу выйшаў, па горадзе ездзіць*);

3) словазлучэнні з прыслоўямі, у якіх у прэпазіцыі знаходзіцца дзеяслоў, прыметнік ці іншае прыслоўе, што паводле нормы павінны займаць постпазіцыйнае становішча (*дыхае цяжка, добры вельмі, весела надзвычай*);

4) складаныя ці састаўныя выказнікі з прэпазіцыяй іменнай часткі, інфінітыва, дзеепрыметніка ці прыслоўя (*вымавіць не можа, вучыцца хачу*);

5) нерасчлянёныя сказы з прэпазіцыяй рэмы (*Радуецца маці*).

---

[1] Любая інверсія павінна быць апраўдана, у адваротным выпадку яна вядзе да стылістычных памылак.

Пэўны парадак слоў з'яўляецца адным з важнейшых паказчыкаў стылістычнай характарыстыкі тэксту.

Стылістычныя якасці парадку слоў (прамы парадак слоў пазбаўлены экспрэсіі, інверсійны — экспрэсіўна афарбаваны) вызначаюць іх неаднолькавае выкарыстанне ў тэкстах рознай функцыянальна-стылістычнай прыналежнасці. Так, навуковы, афіцыйна-дзелавы стылі перавагу аддаюць прамому парадку слоў; інверсія ж характэрна для размоўнага стылю і для стылю мастацкай літаратуры.

## ПАРАДАК РАЗМЯШЧЭННЯ ЧЛЕНАЎ СКАЗА

### *Месца дзейніка і выказніка ў сказе*

§ 222. Для парадку слоў у любым двухсастаўным сказе важна ўзаемаразмяшчэнне яго галоўных членаў. Іменна іх месцам у адносінах адзін да аднаго вызначаецца прамы і адваротны парадак слоў у сказе: прэпазіцыя дзейніка разглядаецца як прамы (дзейнік называе прадмет, а выказнік што-небудзь паведамляе аб гэтым прадмеце), а прэпазіцыя выказніка — як адваротны парадак слоў: *Тут раслі яліны і трапляліся бярозы. І ядловец гусціўся пад арэшнікам* (К. Чорны); *Адшумелі свой час неспакойныя восеньскія вятры. Нізкія, разарваныя ветрам мітуслівыя хмары выплакалі халодныя слёзы* (Я. Колас); *Нерухома стаяў густы амярцвелы лес, шчыльна прытуліўшы верхавіны да верхавін, пераплёўшы галіны, акрыўшыся белымі шапкамі крохкай, шапаткой шэрані. Ні звер, ні чалавек, ні птушка не парушалі яго ранішняга спакою. Толькі дзесь у гушчары галін суха палускваў мароз, пераскокваючы з дрэва на дрэва* (Я. Колас); *Хмара праляцела за некалькі хвілін, шугануўшы касым ліўнем. Дождж перастаў. Прыпякала сонца* (І. Шамякін); *Лес гарэў, палаў дзівосным пажарам лістапада* (І. Мележ); *Срэбранаю стужкаю вывіваўся Нёман, то падыходзячы пад самы лес, падразаючы карэнне дрэвам, то сярэдзінаю лугу, то падступаючы да поля і апярэзваючы бліскучым жывым паскам яго пясчаныя схілы* (Я. Колас).

У пісьмовай мове размяшчэнне галоўных членаў залежыць ад камунікатыўнага саставу сказа. Як правіла, дзейнік і выказнік знаходзяцца ў розных камунікатыўных групах. У тых выпадках, калі дзейнік з'яўляецца «дадзеным» ці «зыходным» (а такіх выпадкаў большасць), ён прэпазіцыйны выказніку і часцей за ўсё абсалютна прэпазіцыйны: *Аўдоцця мацней сціснула тонкую руку дзяўчынкі і маўкліва ступіла следам за ўсімі* (І. Мележ); *Азёры, азёры, азёры ўдалі забялелі* (М. Танк); *Свой сваяка бачыць здаляка* (Прыказка); *Кожны з нас адчувае Леніна заўсёды поруч з сабою, у сабе* (А. Бялевіч); *Жыта звесіла шыю, каласы зашапталі. Каласы медзяныя шмат цяжэйшыя сталі* (П. Броўка); *Ранак маіх спадзяванняў быў ружовы і надта кароткі* (П. Макаль); *Спевы бацькавы і матчыны нам засталіся ў спадчыну* (Я. Пушча); *Чырвоныя ствалы соснаў высока-высока ўзнесліся ў глыбокую і нерухомую сіняву неба* (М. Лынькоў); *Сонца яшчэ не паказалася з-за высокага бору ў канцы вёскі, і ён, спакойна-задумёны і вастраверхі, быў як бы намаляваны на чырвані неба. Стрэхі зацягнены шэранню вераснёвага прымаразку, нібы павуціннем засланы* (К. Крапіва).

Абсалютная прэпазіцыя дзейніка тлумачыцца не толькі актуальным чляненнем сказа, але і тым, што дзейнік з'яўляецца граматычна незалежным членам сказа. Яго граматычнае становішча — першае месца ў сказе (не лічачы азначэння, выражанага прыметнікам).

З а ў в а г а. Сутнасць граматычнага прынцыпу размяшчэння слоў заключаецца ў тым, што месца слоў у сказе звязана з іх граматычнай роляю і іх граматычнай формай. Згодна з гэтым прынцыпам, члены сказа, за выключэннем азначэння, выражанага прыметнікам, і акалічнасці, выражанай прыслоўем на *-а*, а таксама прыслоўямі меры і ступені (месца гэтых членаў вызначаецца правіламі ўтварэння словазлучэнняў, а не ўсяго сказа), размяшчаюцца такім чынам, што залежныя члены ставяцца за галоўнымі, і чым больш цесная сінтаксічная сувязь залежнага слова з галоўным, тым бліжэй яны ў сказе адно да другога.

Прэпазіцыйнае размяшчэнне дзейніка больш выразна падкрэслівае граматычную залежнасць выказніка ад дзейніка і абсалютную незалежнасць апошняга.

Дзейнік прэпазіцыйны выказніку і ў тых выпадках, калі «дадзеным» ці «зыходным» з'яўляецца які-небудзь дадзены член, звязаны з выказнікам, а дзейнік уваходзіць у групу «дадзенага» (не з'яўляецца «новым»): *Бой заціх ля чыгункі, і салдатам камбат раздаваў падарункі ад палескіх дзяўчат* (М. Смагаровіч); *Колькі моманту Раман ляжаў нерухліва, заплюшчыўшы вочы* (Я. Колас); *Пяць дзён на захад мы ішлі румынскім бур'яном* (А. Астрэйка); *На бомбу я накладаю сваё законнае вета* (А. Куляшоў).

Як вядома, у ролі дзейніка могуць выступаць назоўнікі, займеннікі, лічэбнікі, інфінітывы. Марфалагічнае выражэнне дзейніка аказвае ўплыў на парадак размяшчэння яго ў сказе.

Так, калі ў ролі дзейніка выступае займеннік, то парадак слоў амаль заўсёды прамы — «дзейнік — выказнік». Толькі ў прэпазіцыі стаіць дзейнік, выражаны адноснымі словамі *які, хто, што*. Прычыны толькі прамога парадку размяшчэння слоў пры такім выражэнні дзейніка ў тым, што адноснае слова заўсёды ўказвае на якое-небудзь іншае слова папярэдняга сказа, а таму яго і ставяць як можна бліжэй да гэтага слова. Акрамя таго, з'яўляючыся сродкам сувязі двух сказаў, адноснае слова, натуральна, размяшчаецца недзе ў сярэдзіне паміж часткамі, і паколькі яно ўваходзіць у састаў адной з такіх частак, то аказваецца ў ёй на першым месцы: *Па сцежачцы, што вілася напрасткі ад лесу і бегла праз поле, павольна пасоўваліся дзве чалавечыя фігуры* (Я. Колас); *Хто ўмее любіць Радзіму, той умее ненавідзець ворага* (Прыказка); *Кожны, хто глядзеў з кабіны самалёта на родную зямлю, адчуваў біццё свайго сэрца* (Э. Самуйлёнак); *Хто не надзеецца на сябе, той заўсёды слабы* (Я. Колас); *Тое лічыцца надзейным, што здабыта цяжкім працаднём* (А. Куляшоў); *Вялікі горад, які раскінуўся на прыгожых берагах паўнаводнай ракі, дрыжэў ад танкавага грукату* (А. Стаховіч).

Заўсёды стаяць перад выказнікам пытальныя займеннікі *хто, што* ў ролі дзейніка: *Што хаваецца за заслонаю сінечы-смугі?* (Я. Колас); *Што тут робіцца такое?* (К. Крапіва); *А хто там ідзе, а хто там ідзе ў агромністай такой грамадзе?* (Я. Купала).

Першае месца пытальных займеннікаў тлумачыцца наступным: у пытальных сказах на першым месцы заўсёды стаяць тыя словы, на якія падае лагічны націск. Яны як бы папярэджваюць слухача пра неабходнасць падрыхтавацца да адказу.

Для займеннікаў іншага значэння таксама звычайны парадак «дзейнік — выказнік», хоць і далёка не заўсёды: *Ён зіхацеў над зямлёй, гэты сонечны дзень* (К. Чорны); *Калі ж налева глянуў коса — святла там яркая палоса. Ён — гоп у левы бок* (К. Крапіва); *У апошнім пісьме ён ужо гаварыў больш выразна* (К. Чорны); *У ціхіх скаргах непрыбранага жыта чуў я вялікія буры* (К. Чорны).

Вялікае значэнне для размяшчэння дзейніка і выказніка мае месца, дзе знаходзяцца словы, звязаныя з выказнікам.

Калі словы, звязаныя з выказнікам, размешчаны за канструкцыяй «дзейнік — выказнік», парадак, як правіла, прамы: *Жыццё павольна пакідала маленькае кволае цельца, зламанае цяжкай формай дыфтэрыі* (І. Шамякін); *Трактар паволі ішоў полем. Бліскучыя лемяхі плугоў лёгка пераварочвалі пласты зямлі. Шызаваты дымок весела скакаў над радыятарам. Трактар зрабіў круг за кругам, баразна лажылася за баразною, роўненька, як пад шнурок* (Маладосць, 1985).

Варта ж толькі словам, цесна звязаным з выказнікам (прамому дапаўненню ці акалічнасці месца), апынуцца на першым месцы, як выказнік таксама пачынае займаць прэпазіцыйнае становішча ў адносінах да дзейніка: *За далёкай даллю бачылася Ганне вольная, гарэзная маладосць* (І. Мележ); *Між зубчатых лісточкаў ірдзела некалькі налітых сокам буйных сунічын* (В. Быкаў); *Завулкам праходзілі людзі, часам праязджала машына* (К. Чорны); *Аднатонную песню вялі колы вагонаў. Бясконцы рой залатых іскраў выпускаў паравоз, агністаю паласою вызначаючы сабе дарогу. Ціха гулі і судрыгаліся балоты побач чыгункі, дзе бегла машына. Раскаціста і гучна грымелі салаўі: звонку іх песень не маглі заглушыць грук і шум вагонных колаў. Месцамі ўзнімаўся белаваты туман і нерухома звісаў над маладымі асокамі і цёмнымі абрысамі разложыстых купчастых аблокаў* (Я. Колас); *Пры пыльнай дарозе шумяць палыны, і вясёлыя плачуць паводдаль каліны* (К. Чорны); *Бліскучаю сталёваю стужкаю ззяе Прыпяць, і толькі ў глыбокіх чорных бухтах яе плёскаюцца самы, узнімаючы срэбныя кругі-абручы* (Я. Колас); *На сінія травы, на сосны густыя павольна спускаўся жнівеньскі вечар* (П. Панчанка); *На пустой вуліцы, з торбай цераз плячо, ніжучы босымі нагамі цёмны след на падбеленай расой траве, ішоў, размахваў доўгай вераўчанай пугай яшчэ санлівы хлопец-пастух* (І. Мележ).

Месца лагічнага націску і інтанацыя таксама ўплываюць на парадак слоў: *Прастрэленая гітлераўцамі ў грудзі, умірала маці* (К. Чорны); *Абудзіў яе трэск агню ў печы, рып дзвярэй* (І. Мележ).

Інтанацыйны момант, у прыватнасці інтанацыя, характэрная для пералічэння, абумоўлівае размяшчэнне дзейніка і выказніка. Калі пры адным дзейніку пералічваецца некалькі выказнікаў, то парадак заўсёды прамы — «дзейнік — выказнік»: *Мяцеліца плыла, там, уверсе, ныла, скуголіла, сціхала, тады зноў шалела* (І. Пташнікаў); *Сцюдзёны северны вецер самаўладна гаспадарыў у непрыбраным кукурузным прасцягу, гойдаў, ірваў і матляў змёрзлыя паламаныя сцяблы, поўніў прастор беспрытульным шорхатам першай завеі* (В. Быкаў); *Майскае сонца высока стаяла ў майскім небе, кідала на зямлю снапы гарачых праменняў і залівала асляпляючым бляскам увесь свет* (Я. Колас).

Калі пералічваюцца не выказнікі пры адным дзейніку, а некалькі дзейнікаў пры адным выказніку, магчымы абодва парадкі — прамы і адваротны: *Панурыя сцены нізкіх будынкаў, белая зямля, нахмуранае цёмнае неба і халодны змрок між імі таілі ў сабе няветлівую цішыню і маўклівасць* (Я. Колас); *Беднасць і благароднасць заўсёды ішлі поруч* (Э. Самуйлёнак); *Армяне, грузіны, башкіры, татары, казахі, кіргізы, як грозныя хмары, на ворагаў лютых абрушылі сілу і злых акупантаў дашчэнту скрушылі* (Я. Колас); *Лётны пляц, дамы, панелі моцна раптам падрабнелі, паплылі на поўнач дзесьці, а Хвядос, як бык, на месцы* (К. Крапіва); *Аднекуль здалёк даляталі дзіцячыя галасы, кукарэканне пеўня і прыглушаны гул малатарні* (І. Шамякін); *Кожны дзень прыходзілі сюды бацька або маці* (К. Чорны); *На думкі прыйдуць лес і звеоы, грыбы і рыба на вячэру, прастор і скарб калгаснае зямлі* (Я. Колас).

Сказы з прамым парадкам слоў маюць апісальны характар, з адваротным — апавядальны.

У сказах перад простай ці ўскоснай мовай парадак размяшчэння галоўных членаў заўсёды прамы, у сказах жа, якія ўводзяць простую мову,— адваротны: *Калі Сузан запрасіў яе прайсціся які круг у танцы, яна спачатку запярэчыла, але тут жа згадзілася: «Ну, добра... Раз ты хочаш, я згодна»* (М. Лынькоў); *Ляціць стругавінне, злятае далоў і шастае, шэпча ціхутка: «А гэта ўсё, што для новых дамоў, ці хутка ты зробіш, ці хутка?»* (У. Дубоўка); *«Дазвольце пазнаёміць,— сказаў Саханюк, падводзячы калегу да пісара,— цельшынскі настаўнік».— «А!» — прамовіў пісар,— акінуўшы Лабановіча прыжмуранымі вачамі, і падаў яму руку.— «Прасвяшчаць, значыць, прыехалі?» — спытаў пісар, каб хоць што-небудзь сказаць, і яшчэ раз азірнуў Лабановіча.— «Ну, ну, справа патрэбная»,— важна заўважыў ён...* (Я. Колас).

Стылістычная роля парадку слоў асабліва выразная ў сказах з парадкам слоў «выказнік—дзейнік». Адваротны парадак слоў шырока выкарыстоўваецца пры апісаннях: *На бляклым небасхіле ўдалечыні ўжо запалілася і ціха гарэла адзінокая, самотная зорка* (В. Быкаў); *Над затуманенай навалаю гор у супакоеным вячэрнім небе ціха дагараў шырокі Мядзведжы хрыбет. На крутых яго схілах усё вышэй узнімалася шэрае сутонне ночы і ўсё менела ружовага бляску на піках-вяршынях* (В. Быкаў); *Там і сям на ўскраінах лясоў распускаліся маладыя лісточкі бярэзінак* (Я. Колас); *У густых галінах клёна цінькала сініца, стракатыя дразды мітусіліся сярод піхтаў і соснаў. Залатымі водбліскамі сонца пераліваўся, мігцеў унізе старажытны горад. У нябеснай сіні плылі рэдкія белыя воблакі* (Полымя, 1984); *Канчалася лета. На лугах ужо рассцілалася зялёнымі аксамітамі пяшчотна-кволая атава. Парыжэлі стагі, збіраліся ў вырай буслы. Агорнутыя сіняватаю смугою, журботна пазіралі далечы і ніклі ў святле жнівеньскага сонца* (Я. Колас); *Спеў на полі поўны колас і пахла яго салома, і кара дрэў, і вецер* (К. Чорны); *Займаўся пагодлівы вераснёўскі ранак. За Нёманам, пад касымі промнямі сонца серабрыўся стары бор* (Звязда, 1985); *У ціхія бязветраныя дні і ночы ціснулі марозы. Трашчалі сцены ў хатах, страляў, як з гармат, лёд на рэках, лопалася кара на дрэвах, вымярзалі сады* (Полымя, 1983).

Часцей за ўсё ў гэтых выпадках выказнік з'яўляецца «новым» і лагічна выдзяляецца. Відавочна, такім выдзяленнем і абумоўлена яго прэпазіцыя.

Роля парадку слоў як стылістычнага сродку выразна выступае ў складаназлучаных і бяззлучнікавых сказах, дзе дзейнік і выказнік папарна звязаны ў адно інтанацыйна-сэнсавае цэлае. Прычым у адной састаўной частцы прамы парадак слоў, у другой — адваротны. Такое размяшчэнне слоў робіць фразу рытмічнай: *Сям-там раскіданыя над гарамі, плылі белыя, як авечы статак, аблокі; вышэй ад іх суцэльная навісь хмар закрывала снегавыя вяршыні* (В. Быкаў); *Паабапал жвірыстай дарогі калышацца леташні пырнік, і веснавая шырыня вее над неабдымным полем* (К. Чорны); *Пакосім мы густыя асокі, мурагі, усе валкі сухія мы зложым у стагі* (А. Русак); *Пазнікалі ночы суму, зноў жаданні расцвілі* (П. Броўка); *Дождж прашумеў на пачатак, узыходзіла сонца ў сотні вясёлак* (А. Куляшоў).

Інверсія дзейніка і выказніка шырока выкарыстоўваецца ў стылістычных мэтах. Так, выказнік, выражаны дзеясловам, ставіцца перад дзейнікам, калі трэба падкрэсліць дзеянне, стан ці ўзмацніць іх выразнасць: *Памаладзелі людзі* (Я. Брыль); *Жыццё!.. Пракліналі яго мы!* (А. Александровіч); *Радзее гвардзейскі строй старых байцоў* (М. Лу-

жанін); *Ды бягуць дзянькі і вясна мая, не вярну я іх, не стрымаю я* (Я. Колас).

Часцей за ўсё дзейнік і выказнік у беларускай мове размешчаны побач ці блізка адзін каля аднаго, і гэта робіць выклад найбольш ясным і зразумелым: *Толькі ў прыгодніцкіх раманах праз дзесяць год ростані маці не пазнае роднага сына, брат — брата* (І. Шамякін); *Ад белізны ствалоў і золата крон на ўсё поле лілося сапраўды казачнае святло* (І. Шамякін); *Братняй дапамогай роўная між роўных БССР красуе, нібы жыта летам* (Я. Купала); *Здаецца, нішто засмуціць не магло, нішто шчасцю не пагражала, ды лета мінула і гора прыйшло з асенняю хмарай-навалай* (М. Танк).

Пэўны ўплыў на месца выказніка ў сказе, як і дзейніка, аказвае яго марфалагічнае выражэнне. Так, выказнікі, выражаныя інфінітывам, дзеясловамі, утворанымі ад выклічнікаў, а таксама дзеясловамі загаднага ладу ў значэнні прошлага часу, як правіла, постпазіцыйныя: *А ці ведаеш ты, што ваяваць за рэвалюцыю гэта значыць праходзіць самую вышэйшую навуку ў свеце?* (К. Чорны); *А ў немца ды была харошая дачка, звалася Эльза,— хлапец вазьмі дый закахайся* (П. Галавач); *Засунеш руку ў нару, а рак цап за пальцы кляшнёй* (М. Лынькоў).

Састаўныя выказнікі размяшчаюцца ў сказе гэтак жа, як і простыя. Дзеяслоўны састаўны выказнік пры прамым парадку слоў знаходзіцца пасля дзейніка: *Яраш скончыў распытваць пра здароўе і змоўк* (І. Шамякін); *Задушэўная песня Рэчыцы можа кожнага заваражыць* (П. Панчанка); *Андрэй не ўмеў суцяшаць словамі* (А. Чарнышэвіч); *Як ён марыў прывезці ў палі Беларусі хоць бы частку таго, чым квітнеў Ленінград* (П. Броўка).

Для сказаў з састаўным іменным выказнікам, выраженым назоўнікам у назоўным склоне са звязкай і без яе, а таксама прыметнікам і дзеепрыметнікам, нормай з'яўляецца прэпазіцыя дзейніка: *Лес быў памочнік полю, скупой ненадзейнай зямлі* (І. Мележ); *Зіма сорак трэцяга года была зімой магутнага росту партызанскіх сіл, іх пераможнага наступу* (І. Шамякін); *Мікуцічане — народ грамадскі, любяць пагутарыць аб розных рознасцях: аб замежнай палітыцы, аб вайне, аб заработках, аб цяжкасцях жыцця...* (Я. Колас).

Часта выказнік, выражаны назоўнікам, які мае пры сабе дапасаванае азначэнне, прэпазіцыйны; у такім сказе лагічны націск падае на іменную частку прэпазіцыйнага выказніка разам з азначэннем: *Немалады ўжо чалавек Тамаш Чучка, не яму б ездзіць на начлег* (Я. Колас); *Добрыя людзі яны! Апошні кавалак хлеба аддаюць жабраку* (З. Бядуля).

У самім састаўным выказніку даволі ярка праяўляецца граматычная абумоўленасць парадку слоў. Слова-звязка ў сілу сваёй граматычнай ролі (сродак сувязі асноўнай часткі выказніка з дзейнікам) размяшчаецца, як правіла, прэпазіцыйна: *Рабочы агульны сход як ніколі быў мнагалюдным і тлумным* (М. Лынькоў); *Зала клуба была паўнютка народу* (М. Лынькоў); *Дні стаялі халодныя, снежныя* (М. Лынькоў); *Такія ціхія, разважлівыя і па-свойму рамантычныя натуры часта бываюць страшныя ў крытычныя для іх хвіліны жыцця* (І. Шамякін); *Верына весялосць, трохі нервовая ў першы дзень — як бы напаказ, рабілася ўсё больш натуральнай на другі, трэці дзень, нейкай па-жаночы, не па-дзявочы стрыманай, роўнай* (Полымя, 1984); *Лес стаяў маўклівы, панура-задумлівы* (І. Шамякін).

Адваротны парадак размяшчэння кампанентаў дзеяслоўнага састаўнога выказніка сустракаецца ў тых выпадках, калі ён камунікатыўна расчлянёны («дадзеным» з'яўляецца толькі інфінітыў). Інверсія дзея-

слоўнага састаўнога выказніка вядзе да падкрэслівання, лагічнага вылучэння інфінітыва: *Гм... — Чмаруцька яўна зацікавіўся прапановай.— П а й с ц і з табой я, канешне, м а г у, але ж патрэбен тут загад больш вышэйшага начальства* (М. Лынькоў); *Ведай, што я доўга ў п р о ш- с а ц ь цябе не м а г у!* (А. Рылько).

### Месца азначэння

§ 223. Дапасаванае азначэнне пры прамым парадку слоў, выражанае прыметнікам, дзеепрыметнікам, займеннікам ці лічэбнікам, ставіцца перад азначаемым словам. Яно трывала захоўваецца ў гэтай пазіцыі незалежна ад таго, у якую частку актуальнага чляпення ўваходзіць: *Першага студзеня пачынаецца новы каляндарны год — Новы каляндарны год пачынаецца першага студзеня.* Незалежна ад камунікатыўнага саставу сказа прэпазіцыя дапасаванага азначэння характэрна і для пісьмовай, і для вуснай мовы: *Жоўтыя пухаўныя каткі звісалі на вербалозінах, купаючыся на сонцы і склікаючы пчолак і чмелікаў. Зялёныя кветачкі павыбіваліся ўжо на свет скрозь сухія выцвіўшыя лісці, і прынадныя пахі разлівала ў паветры маладая чаромха. Адны толькі паважныя дубы, узбагачаныя вопытам жыцця за свой доўгі век, не вельмі спяшаліся расчыняць свае пакаўкі і выпускаць адтуль свежую зелень маладых лісточкаў, бо дуб — мудрае дрэва, і не паддаецца ён на зман няпэўнай упачатку вясны* (Я. Колас); *Чарнамазая ночка-цыганка над далінаю жмурыла бровы* (П. Трус); *На паляне ў светлым пералеску расцвілі налітыя расой сінія падснежныя пралескі пад аховай урачыстых хвой* (П. Панчанка); *На высокі белы лоб навісалі чорныя-чорныя валасы і дадавалі яе твару яшчэ больш хараства. Тонкія замкнёныя вусны рабілі твар дзяўчыны разам з тым і крыху строгім і сур'ёзным* (Я. Колас); *На цёмнавалосай галаве мадонны красаваўся шэры ад пылу васковы вянок, а каля ног яе, на мураваным карнізе, заўсёды ляжалі свежыя, апырсканыя вадой жывыя кветкі: белыя і пунсовыя гладыёлусы, светла-блакітныя флёксы, некалькі зялёных галінак папараці* (Полымя, 1985); *За акном гусцеў змрок цёплага летняга вечара* (І. Мележ); *Пасля поўначы неба выяснілася, засеялася рознакаляровымі агеньчыкамі-зорамі, дрыжачы і лагодна пераліваючыся мяккім вясёлкавым бляскам* (Я. Колас); *Над касматымі ад інею стрэхамі праз голае голле вербаў паблісквала далёкая паска зары* (В. Быкаў); *Майскае сонца высока стаяла ў небе, кідала на зямлю снапы гарачых праменняў і залівала асляпляючым бляскам увесь свет* (Я. Колас).

Пры наяўнасці некалькіх азначэнняў, выражаных якаснымі і адноснымі прыметнікамі, бліжэй да азначаемага слова ставіцца адносны прыметнік, паколькі ён выражае больш істотную ці пастаянную прымету: *Усім нам давялося да самага донца выпіць горкую паходную біклагу* (А. Вялюгін); *Песціцца на сонцы залацістае жытнёвае поле* (Т. Хадкевіч); *Лес пачынаўся цудоўным сасновым борам* (І. Шамякін); *У шэрай начной цемені, мільгаючы, сыпаў рэдкі дробненькі сняжок* (В. Быкаў); *Вецер хутка гнаў цёмна-сінія дымныя хмары, засцілаючы імі ватныя клубістыя воблакі, што яшчэ нядаўна былі на небе* (І. Мележ).

Прамы парадак слоў звычайна захоўваецца ва ўстойлівых фразеалагічных спалучэннях: *На ўсім ляжала пячаць нядбайнасці і нейкай недаробленасці, як бы тутэйшыя гаспадары будавалі яе на скорую руку* (Я. Колас); *Да вайны сям'я яго была ў калгасе, а сам ён больш раз'язджаў — шукаў лёгкага хлеба* (І. Шамякін).

Прэпазіцыя дапасаванага азначэння з'яўляецца нормай незалежна ад яго выдзялення ці невыдзялення. Перашкодай для перадачы камунікатыўнай ролі азначэння парадкам слоў з'яўляецца цесная граматычная і семантычная спаянасць азначэння з азначаемым. Яны складаюць звычайна адно паняцце і выступаюць адзіным камунікатыўным членам сказа: *А сонца неслі ў зорках на пілотцы разанскія і гомельскія хлопцы* (М. Лужанін); *Ліпнёвая раніца. Ціхі ветрык цалуецца з жытам* (П. Трус); *Савецкія патрыёты пакрылі сябе нямеркнучай славай* (Я. Колас); *Але сінеючы прастор бязмежны нам і цяпер, як і калісьці, люб* (П. Глебка).

Іменна гэта спаянасць азначэння з азначаемым, як семантычная, так і граматычная, прыводзіць да таго, што парадак слоў становіцца граматычна абумоўленым. Прэпазіцыя азначэння як норма замацавана не толькі статыстычна (абсалютная перавага прэпазіцыі пры любой камунікатыўнай ролі азначэння і ва ўсіх стылях мовы), але і структурна. Усе складаныя тэрміны, якія выражаюць адно паняцце і маюць форму ад'ектыўных словазлучэнняў, утвараюцца і ўжываюцца толькі з прэпазіцыйным азначэннем: *саляная кіслата, вышэйшая матэматыка, квадратны корань, касмічны карабель, пытальныя займеннікі, атамная энергія* і пад.[1]

Граматычная абумоўленасць пазіцыі азначэння відаць і ў выпадках яго постпазіцыі. Постпазіцыя азначэння заўсёды парушае адзінства словазлучэння, адзінства паняцця. Адсюль — ператварэнне постпазіцыйнага прыметніка ў выказнік *(цёмная ноч — ноч цёмная)* і адасабленне постпазіцыйных азначэнняў (*Над хатамі стаяла ноч, пустая, глухая* (М. Лынькоў); *Больш паўсотні кабет, маладых і старых, жнуць панскае поле* (З. Бядуля); *Амывае вёска вочы, закарэлыя ад сну* (П. Трус)).

Інверсійнае дапасаванае азначэнне ўспрымаецца як рэзка падкрэсленае, сэнсавая нагрузка яго ўзмацняецца. Постпазіцыйнае азначэнне граматычна больш самастойнае, паколькі яно менш цесна звязана з назоўнікам. Відавочна, гэта і паслужыла прычынай таго, што постпазіцыйнае азначэнне аказваецца лагічна падкрэсленым. Пастаноўка дапасаванага азначэння пасля азначаемага назоўніка служыць стылістычным мэтам: надае мове адценне ўрачыстасці, архаічнасці і г. д.: *Ішла ноч, цёмная, парная* (Я. Маўр); *Сонца ўзышло над лесам, вогненнае, трапяткое... Лес ціхі, бадзёры* (П. Пестрак); *Мелодыя ж спеваў ляснога жаўранка надзвычайна багатая, разнастайная, дзівосна прыгожая і такая чоткая, такая выразная, што яе можна палажыць на ноты, а мастак-музыка, напэўна, змог бы выканаць на скрыпцы, але афарбоўкі яе тонаў не патрапіць перадаць ніякі музычны інструмент* (Я. Колас); *Вочы Хадоські таксама гарэлі, дзікія, поўныя адчаю* (І. Мележ); *Блішчынскі ўціснуўся спіной у салому, закапаў у яе ногі, сашчапіў у рукавах рукі і курчыўся так — заклапочаны, панылы і маўклівы* (В. Быкаў); *Людзі жылі тут павольным жыццём, спрадвечным, ціхім* (К. Чорны); *Розныя пахі адчуваліся ў ім* [паветры] *— і кветкавыя, і пладовыя, і разам з тым гнілыя, душныя, шкодныя* (Я. Маўр); *Зямля сушэла, пакрывалася цвёрдаю скарынкаю. А пад поўнач пасыпаў сняжок, заложны, спорны, густы і сухі* (Я. Колас); *І розныя думкі, лёгкія, як цені хваёвых галінак, журботныя, як курлыканне жураvоў у небе, снаваліся ў яго сэрцы* (Я. Колас); *Вёска стаяла паміж балота, паросшага густою лазою і алешнікам* (М. Чарот);

---

[1] Іншы парадак слоў у такіх словазлучэннях магчымы толькі ў алфавітных указальніках і пры пералічэнні відаў, напрыклад: *кіслоты: серная, саляная, воцатная* і г. д.

*Забалочаная паляна, акружаная з усіх бакоў цёмнай сцяною лесу, млела ад гарачыні* (З. Бядуля).

Азначэнне, выражанае дзеепрыметнікам з паяснялынымі словамі, якое мае адценне акалічнасці ўступкі ці прычыннасці, абавязкова адасабляецца і ў прэпазіцыі (г. зн. у становішчы перад азначаемым словам): *Узрушаны і выведзены з раўнавагі, старшыня грозна ўсчуньвае крыкуноў* (Я. Колас); *Цёпла апранутыя, яны весела шумелі і зусім холаду не баяліся* (З. Бядуля).

Азначэнні да асабовага займенніка, выражаныя прыметнікам і дзеепрыметнікам, адасабляюцца і ў прэпазіцыі, і ў постпазіцыі: *Рухавыя, вёрткія, яны* [малпы] *бегаюць па дахах, з акрабатычным спрытам пераскокваюць з даху на дах праз нешырокую вуліцу, перабіраюцца па вадасточных трубах з паверха на паверх, забіраюцца на балконы, на веранду* (М. Лынькоў); *Сп'янелай, ёй так цяжка, проста немагчыма было адагнаць раптоўную спакусу* (І. Мележ); *Глыбокі, шырокі, ён* [Ганг] *імкліва імчыць свае воды міма гарадскіх берагоў, сям-там ускіпае пеністымі вірамі, злёгку пагойдвае човен на сваіх хвалях* (М. Лынькоў); *Ён вышаў з-за стала насустрач, высокі, стройны, у гарнітуры вайсковага пакрою, але без усякіх знакаў адрознення, з пышнай сівой шавялюрай* (Т. Хадкевіч); *Задаволеныя, усе весела заўсміхаліся* (І. Гурскі).

Месца недапасаванага азначэння абумоўлена граматычнай функцыяй парадку слоў у яшчэ большай ступені, чым дапасаванага. І ў пісьмовай, і ў вуснай мове яно постпазіцыйнае незалежна ад яго камунікатыўнай ролі: *У ранні вечар на ціхай вуліцы невысокі ростам хлопец, у добрым фрэнчы, галіфэ і элеганцкіх калісьці ботах, падышоў да драўлянага зграбнага дамка і доўга прыглядаўся на нумар яго* (К. Чорны); *Слёзы радасці стаялі ў дзедавых вачах* (К. Чорны); *Адзін са старых, з вострымі хітраватымі вачыма і бародкай клінком, смачна пыхнуў дымам* (У. Краўчанка); *Лабановіч захапляецца мыслямі аб вясне і аб вандроўніцтве* (Я. Колас); *Праз дзень з'явіўся новы начальнік і з ім атрад у дваццаць чалавек* (Я. Маўр); *А вольхі над рэчкаю лісточкамі шалясцяць* (Я. Купала); *Жыццё на фронце раскрыла мне вочы* (Я. Колас); *Пад гоманы бору, кукаванне зязюлі зламсыў Багдановіч тут яркі вянок* (П. Броўка).

Заўвага. Характэрна, што чым слабейшая граматычная сувязь у словазлучэнні, тым большую ролю ў яго арганізацыі адыгрывае парадак слоў, тым мацнейшая яго граматычная абумоўленасць і тым больш цвёрды парадак слоў. Дапасаванне — сувязь больш цесная, чым кіраванне. І месца дапасаванага азначэння абумоўлена значна менш, чым недапасаванага. Прымыканне — сувязь менш цесная, чым кіраванне. Парадак слоў у азначэннях, якія прымыкаюць, строга замацаваны (*яйцо ўсмятку, суп па-магілёўску*).

Інфінітыў ці прыслоўе ў ролі недапасаванага азначэння размяшчаецца таксама пасля азначаемага слова: *З непрывычкі кіраваць гэтакім вялікім сходам чалавек спачатку сумеўся* (К. Чорны); *Сур'ёзны, сталы не па летах, гадуе ён у сэрцы план — зажыць па-людску, а не гэтак, як у пячурцы таракан* (Я. Колас); *Зноў з'явілася жаданне нешта рабіць, неадкладна, зараз жа* (П. Галавач); *Усё не кідалі надзеі выратаваць хлопцаў* (Ц. Гартны).

Калі пры адным азначаемым слове ёсць і дапасаваныя, і недапасаваныя азначэнні, то звычайна дапасаванае азначэнне прэпазіцыйнае, а недапасаванае — постпазіцыйнае: *Наперадзе цэлае жыццё, жыццё з малымі дзяцьмі, жыццё па чужых кутках, сярод чужых людзей* (Я. Колас); *Гэта быў невялічкі танклявы хлапчына з кірпатым носам* (П. Пестрак).

Дапасаванае і недапасаванае азначэнні могуць размяшчацца і побач,

характарызуючы азначаемае слова з розных бакоў: *Мяне вабілі неакрэсленыя далечы, маўклівыя і мудрыя ў сваёй задуменнасці, з іх узгоркамі, далінамі і крыніцамі, з тонкімі палоскамі лясоў на небасхіле, дзе зямля нібы сходзіцца з небам* (Я. Колас); *Усё лета перад хатай Чарнушкаў ціха грэлася на сонцы маладзенькая, з тонкім, як дубец, камлём рабіна* (І. Мележ).

Прэпазіцыйнае недапасаванае азначэнне надае ўсяму сказу ці словазлучэнню нейкі своеасаблівы характар старадаўняга звароту: *Беларускі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна* і пад.

Прыдаткі як асобы від азначэння могуць быць у сказе ў прэпазіцыі і постпазіцыі ў адносінах да таго слова, якое яны азначаюць. Развітыя прыдаткі адасабляюцца, знаходзячыся на любым месцы ў сказе, калі адносяцца да агульнага назоўніка ці займенніка: *Па-ранейшаму пела песні Ірына, і яшчэ дружней гарэла праца ў яе руках, руках калгаснай ільнаводкі* (М. Лынькоў); *У іх таксама ж нешта таілася, у цудоўных вішнёва-чорных вачах* (І. Мележ); *Ён быў сівы, высокі, моцны з твару і з постаці, гэты сённяшні чарговы кіраўнік паседжання з'езда* (К. Чорны).

Калі ж развіты прыдатак адносіцца да ўласнага імя, то ён адасабляецца толькі ў постпазіцыі: *А жыў у ёй* [хібарцы] *Сымон Латушка, яе законны гаспадар, натура вольная, як птушка, рыбак заядлы і дудар* (Я. Колас); *Ганна, маці Лабановіча, была жанчына добрая, працавітая, руплівая, усё старалася рабіць сама, за ўсіх заступалася* (Я. Колас); *Ярка, заклапочана, плённа працуе ён, Анатоль Вялюгін, лаўрэат Літаратурнай прэміі БССР імя Янкі Купалы, заслужаны дзеяч культуры БССР* (Полымя, 1985).

Адзіночныя прыдаткі, выражаныя назоўнікам, адасабляюцца ў прэпазіцыі і ў постпазіцыі, калі адносяцца да асабовага займенніка, ці толькі ў постпазіцыі, калі адносяцца да ўласнага назоўніка: *Ён, Максім, усё жыццё з кім-небудзь канфліктаваў* (Полымя, 1985); *Назаўтра мы, настаўнікі, хадзілі ў суседнюю вёску, цэнтр сельсавета, на камсамольскі сход* (Маладосць, 1984); *Прыход Зарубы, фельчара, памог падняцца Януку* (М. Танк); *Салдат пяра, ён быў напагатове са словам, як з адвостраным штыком* (А. Звонак).

### *Месца дапаўнення*

§ 224. Пры прамым парадку слоў дапаўненні — прамое і ўскоснае — стаяць за кіруючымі словамі: *Ды ўспомню пажары і варожыя хмары, і завеі халодных вятроў, і слату, і нягоды, і начныя паходы, і агні партызанскіх кастроў* (А. Русак); *Мы ўспаміналі сяброў, уяўлялі іх заклапочанасць, сумныя твары* (І. Шамякін); *Жыццё не любіць тлену* (М. Лынькоў); *Я ззамаладу прывык да работы* (К. Чорны); *Усе думалі аб адным* (Э. Самуйлёнак); *І шуміць, і гамоніць пра мірнае суіснаванне асамблея зялёная дубоў і бяроз* (П. Макаль); *І колькі год званіцы сосен званілі роднай старане!* (А. Вярцінскі); *Хочацца навеяць казкі-таямніцы гукамі мелодый, радасцю без слоў* (П. Трус); *Бразгатаў у акно сваім голлейкам дуб, маладыя прабуючы сілы* (П. Глебка).

Постпазіцыя прамога дапаўнення — граматычная норма парадку слоў, і абумоўлена яна тым, што пераходны дзеяслоў без прамога дапаўнення аказваецца семантычна непаўнацэнным. Прамое дапаўненне цесна звязана з дзеясловам не толькі семантычна, але і граматычна (моцнае кіраванне, наяўнасць прамога дапаўнення — паказчык пераходнасці дзеяслова).

У адных выпадках дапаўненне становіцца камунікатыўным цэнтрам

спалучэння —«уласна новым». У такіх выпадках дапаўненне заўсёды постпазіцыйнае. Яго постпазіцыя абумоўлена як граматычнай, так і камунікатыўнай функцыяй парадку слоў (размяшчэнне «новага» ў канцы сказа): *Верасень на плечы ўскінуў плашч барвовы і пад сонцам крочыць праз гаі, дубровы* (Я. Пушча); *Назарэўскі папрасіў вады* (К. Чорны); *Усе любілі яе, бо гэта была зямля бацькоў* (І. Шамякін); *Жонка не магла стрымаць свайго плачу* (З. Бядуля); *Яна ў працы людзям заменіць сотні рук* (А. Русак); *Нам партыя дала для будучыні крылы* (А. Звонак); *Мы працай узнімем за горадам горад* (П. Броўка). Постпазіцыйныя дапаўненні і ў тых выпадках, калі разам з дзеясловам з'яўляюцца «дадзеным», г. зн. спалучэнне дзеяслова з дапаўненнем уваходзіць у групу «дадзенага» як адно цэлае: *Сухая прыгожая восень не хацела аддаваць сваё хараство жудасным сілам вайны* (І. Шамякін); *Скажу вам дзякую яшчэ раз* (Я. Колас); *Настаўнік пасадзіў мяне ў трэцяе (апошняе) аддзяленне* (Я. Маўр); *Гэты чалавек са сваім тварам нагадваў птушку (арла ці іншую), якая сядзіць на дрэве або на скале* (П. Пестрак).

Ва ўсіх гэтых выпадках дапаўненне — граматычны і семантычны элемент словазлучэння, з большай ці меншай камунікатыўнай значымасцю. Таму галоўнай ва ўсіх гэтых выпадках з'яўляецца граматычная функцыя парадку слоў.

Ускоснае дапаўненне таксама размяшчаецца пасля выказніка, паколькі ад яго залежыць, а пры наяўнасці ў сказе прамога дапаўнення ставіцца пасля выказніка і прамога дапаўнення. Ускосныя дапаўненні часцей прадстаўлены слабакіруемымі формамі, таму яны і аддзяляюцца ад выказніка прамым дапаўненнем: *Невысокі плот адгароджваў двор школы ад двара падлоўчага* (Я. Колас); *Ніколі не схіляў галавы беларускі народ перад захопнікамі* (Я. Колас); *Гасяць, чуў я, пажары лясныя сустрэчным агнём* (А. Куляшоў); *Людзі ахвотна падстаўляюць сябе вясеннім праменням сонца, каб адчуць іх лагодную цеплыню* (П. Пестрак).

Некалькі ўскосных дапаўненняў размяшчаюцца адно за другім, відавочна, па ступені сэнсавай і граматычнай блізкасці да выказніка: чым больш цесна па сэнсу і граматычна дапаўненне звязана з выказнікам, тым бліжэй яно ставіцца: *Ураднік выбіў яму нагайкай правае вока* (З. Бядуля); *Гэта была самая крайняя процілегласць мельніку і постаццю і голасам* (К. Чорны); *Акрамя гэтых пакутлівых пытанняў, была яшчэ злосць на самога сябе за сваю нястрыманасць, за тое, што раскрычаўся* (І. Шамякін).

Інверсійныя дапаўненні, выражаныя назоўнікамі ці субстантываванымі часцінамі мовы, звычайна выкарыстоўваюцца ў стылістычных мэтах. Яны рэзка выдзяляюцца сярод іншых даданых членаў сказа: *На быльняговы ўзмежак, няроўны бруствер акопа і адзінокую гармату з затуманенай вечарам высі сыпаў снег* (В. Быкаў); *За шчасце, за волю, за край родны гэты — ну, хто не паўстане, спытай* (Я. Колас); *Пра брыгаду напісалі ў заводскай шматтыражцы* (У. Шахавец); *Аб корань дуба конь б'е капытом* (А. Куляшоў); *Аб гэтым усё сяло загаворыць* (Я. Колас); *Галену навіна гэтая ўзварушыла вельмі: тут была замешана Зося* (К. Чорны); *Сяброўак прывітаў старых, мяне сяброўкі прывіталі* (У. Дубоўка).

Займаючы першае месца ў сказе, дапаўненні, як прамыя, так і ўскосныя, звычайна абазначаюць тое, пра што ідзе размова ў сказе, як бы прадмет ці зыходны пункт думкі (лагічны суб'ект): *Эх, каб у яго былі грошы: кніжак, кніжак накупляў бы ён сабе!* (Я. Колас); *Цярэшку ніхто не заўважыў* (З. Бядуля); *Народу не старэць, ён твой, гісторыя, тва-*

*рэц, ідзе камуністычны век сустрэць* (Я. Пушча); *Ніякім словам не заменіш шчырасць непадкупную вачэй* (Я. Непачаловіч); *Чужое зямлі нам не трэба... Мы хочам, каб мірнае неба не знала пажару вайны* (А. Бачыла).

Прэпазіцыя дапаўнення мае месца тады, калі яно асобна ці ўвесь састаў выказніка ўтвараюць «дадзенае», а дзейнік уваходзіць у састаў «новага». Як правіла, у гэтым выпадку сказ мае адваротны парадак слоў: *«Гэта быў правакатар,— адказаў Сцяпанавіч.— Ён прадаў дружыну. Яго праз некалькі месяцаў потым забілі рабочыя дэпо»* (Э. Самуйлёнак); *Для Алесі збірала маці і хавала гэта дабро* (Я. Колас); *Але нічога гэтага не заўважыла Таццяна ў першыя дні свайго жыцця дома* (І. Шамякін).

Прэпазіцыя ўскосных дапаўненняў можа быць абумоўлена і граматычна: як правіла, прэпазіцыйныя ўскосныя дапаўненні абазначаюць суб'екты безасабовых сказаў: *Піліпу на ложку не ляжалася ўночы* (А. Зарыцкі); *Гаспадарнаму саўгасу ёсць чым пахваліцца* (Я. Купала); *Вёсцы не дрэмлецца* (Р. Барадулін); *Андрэю часова прыйшлося замяніць брыгадзіра шостай брыгады, які паехаў адпачываць на поўдзень* (А. Чарнышэвіч).

Пэўную ролю ў месцаразмяшчэнні дапаўнення ў сказе адыгрывае і яго марфалагічнае выражэнне. Так, звычайна ў прэпазіцыі знаходзіцца дапаўненне ў давальным склоне, выражанае асабовым займеннікам: *Я табе зайграю панічову музыку* (Я. Купала); *Яму самому не прыходзіла такая думка — ускочыць у студню* (Я. Колас); *Нам партыя дала для будучыні крылы* (А. Звонак).

### *Месца акалічнасці*

§ 225. Большасць акалічнасцей адносіцца не да аднаго якога-небудзь члена сказа, а да ўсяго сказа ў цэлым і стаіць звычайна ў абсалютным пачатку сказа (у гэтай пазіцыі яны з'яўляюцца «дадзеным») (*У полі звінела ранняя дружная вясна. Улева, над абшарамі балота, плыў лёгкі туман. Справа ляжала ўзараная нядаўна чорная ралля. З бліжэйшага бярозавага гаю чуўся рознагалосы птушыны шчэбет* (В. Каваль)) ці ў абсалютным канцы (у гэтай пазіцыі яны з'яўляюцца «новым») (*Мужчыны прыселі на лавачцы недалёка ад вакзала* (А. Пальчэўскі); *Загарэлася сяло ў часе бою* (К. Чорны)).

Акалічнасці, якія адносяцца не да ўсяго сказа, а толькі да якога-небудзь аднаго члена, звычайна выказніка, у залежнасці ад спосабу марфалагічнага выражэння размяшчаюцца ў адносінах да апорнага слова ў кантактнай прэпазіцыі ці ў кантактнай постпазіцыі. Прычым яны цвёрда захоўваюць гэту пазіцыю незалежна ад таго, з'яўляюцца «новым» у сказе ці не.

Звычайным, найбольш пашыраным размяшчэннем акалічнасці спосабу дзеяння, выражанай якасным прыслоўем, з'яўляецца прэпазіцыя: *Амаль увесь час нядобра, трывожна шумеў дуб* (І. Мележ); *Без сонечнага святла дужа сціпла, амаль непрытульна выглядаў такі ўрачыстазіхоткі ўдзень луг* (В. Быкаў); *Смела і ўпэўнена, як нейкі асілак-забіяка, ходзіць па полі вецер* (Я. Колас); *Нечакана і незаўважна прайшла пара высокага светлага неба, яркага сонца, празрыстых белых воблакаў* (Маладосць, 1983); *Ленін гнеўна асуджаў дзікія формы эксплуатацыі беларускага селяніна* (Полымя, 1984).

Прэпазіцыя прыслоўя ў адносінах да дзеяслова тлумачыцца тым, што ў беларускай мове ёсць сэнсавыя і граматычныя адзінствы тыпу азначаемае-азначаючае, якія характарызуюцца пастаянным суседствам

іх кампанентаў з прэпазіцыяй слова, што абазначае прымету. Месца акалічнасцей спосабу дзеяння абумоўлена не столькі нормамі размяшчэння слоў у сказе, колькі нормамі ўтварэння словазлучэнняў. Перавага прэпазіцыі акалічнасці спосабу дзеяння звязана і з яго камунікатыўнай значымасцю. Камунікатыўная значымасць акалічнасці перашкаджае яе кантактнай постпазіцыі, а дыстантнасць вельмі паслабляе і без таго не моцныя граматычныя сувязі (прымыканне). Кантактная прэпазіцыя дазваляе захаваць такую граматычную сувязь з дзеясловам, не пазбаўляючы акалічнасць самастойнасці.

Акалічнасць спосабу дзеяння, выражаная якасным прыслоўем, постпазіцыйна ўжываецца тады, калі яе неабходна выдзеліць, падкрэсліць: *Прайшоў тыдзень марна* (К. Чорны); *Янка Маўр — пісьменнік і настаўнік — вучыў весела, лёгка, займальна* (Маладосць, 1985); *...Але Хадоська, як і раней, маўчала, няёмка, насцярожана* (І. Мележ); *Сярод гэтага лесу на поўдзень цячэ рэчка — павольна, ціха* (Я. Маўр); *Цяпер адзінай мэтай яго жыцця было помсціць ворагу, і ён помсціў бязлітасна, жорстка* (І. Шамякін); *Зямля тут радзіла добра* (К. Чорны); *Іван і Джулія пачалі поўзаць і есці суніцы, есці іх прагна, прыгаршчамі, забыўшыся на час і асцярогу* (В. Быкаў); *Хлапчук выконваў свае абавязкі неяк асабліва лёгка і нават віртуозна* (М. Лынькоў); *Ён і палаяць мог неяк асабліва, моцна, прачула, але без абразы, і пахваліць — умела, проста і шчыра* (І. Шамякін).

Постпазіцыя акалічнасці спосабу дзеяння, выражаная якасным прыслоўем, у адносінах да дзеяслова наглядаецца і тады, калі дзеяслоў мае форму загаднага ладу: *Сейце хутка, сейце добра* (Звязда, 1985); *Ідзе кантроль — дык ты схавайся, сядзі цішком, не адзывайся, не кашляй моцна і не грукай* (Я. Колас).

Незалежна ад марфалагічнага выражэння постпазіцыйныя акалічнасці абазначаюць «новае»: *Дом збудаваны на славу* (П. Глебка); *Ён уважліва прагледзеў усе нарады і размеціў па шыфрах* (Я. Скрыган); *Я ступаю смелым крокам без тугі, трывогі* (Я. Колас); *Хаця ён і быў пахаваны пад музыку, песні, вершы, але назваць яго можна хутчэй жывым, чым памёршым* (А. Куляшоў); Іншы раз акалічнасць — «новае» пачынае сабою сказ: *Молада, хораша, звонка спяваў гарманіст* (Я. Брыль); *Талакою вазілі лапкі, жэрдзі, бярвенне, пясок, каменне* (З. Бядуля); *Па-святочнаму ўрачыста люд наш вольны пахаджае* (Я. Купала); *Ва ўсёй зялёнай красе стаялі дубы, раскінуўшы шырока голле* (Я. Колас).

Такі парадак заўсёды эмфатычны, стылістычна абумоўлены.

Калі ж акалічнасць спосабу дзеяння не з'яўляецца «ўласна новым», яна размяшчаецца ў адпаведнасці з граматычнай нормай прэпазіцыйна: *У ясную раніцу Кандрат Назарэўскі паволі ішоў праз лес каляністай дарогай* (К. Чорны); *З яснага без адзінай хмурынкі глыбокага неба россыпам зорак і туманнай паласой Млечнага шляху свяціў поўны месячык* (І. Шамякін); *Магутныя сосны, звесіўшы аголенае карэнне, задуменна глядзелі ў хрустальнае люстра вады, як быццам любаваліся сваёй прыгажосцю* (А. Шашкоў).

Акалічнасці спосабу дзеяння, выражаныя прыслоўямі аддзеяслоўнага паходжання тыпу *моўчкі, седзячы* і пад., сустракаюцца як у прэпазіцыі, так і ў постпазіцыі да дзеяслова: *Яны ўтраіх моўчкі сядзелі ў хаце* (К. Чорны); *За касцамі наступаюць урассыпную дзяўчаты і маладзіцы, разбіваючы пракосы* (Я. Брыль); *Гушка ўсё стаяў сумеўшыся* (К. Чорны); *Чыясьці жонка-парабчанка, чужое поле аручы, спявае сыну калыханку і горка плача пеючы* (П. Глебка).

Як прэпазіцыйнае, так і постпазіцыйнае (пры гэтым часта без бач-

нага адцення інверсіі) становішча ў адносінах да дзеяслова могуць займаць акалічнасці спосабу дзеяння, выражаныя прыслоўямі тыпу *парускy, па-мойму, па-нашаму: Мінуліся ліхія зімы, другія зоры прад вачыма, і па-другому б'ецца сэрца* (Я. Купала); *Добра, хай будзе па-твойму* (А. Куляшоў); *Гаворыць па-нашаму, а не па-польску* (К. Чорны).

Акалічнасці спосабу дзеяння, выражаныя склонавымі формамі назоўнікаў з прыназоўнікамі ці без іх, пераважна прэпазіцыйныя: *Страх як хацелася яму мець такую кніжку!* (Я. Колас); *Ён да болю моцна ўхапіўся пальцамі за ручку крэсла* (Б. Мікуліч); *Як птушка ў гібкіх трасніках, стралою думка мільганула* (М. Багдановіч).

Для акалічнасцей месца ў саставе словазлучэнняў характэрна кантактная постпазіцыя: *Машына імчала па дарозе, мінаючы вёскі і палі* (І. Мележ); *Я заходжу ў купэ і гляджу праз акно на перон, бурапенны, як лава* (П. Глебка); *Я паеду тым жа шляхам, па якім ішлі лісты* (А. Куляшоў); *Лагодна і роўна падае зверху сняжок* (З. Бядуля); *Срэбнымі кроплямі падае ў возера сонечны бляск; сокам бярозавым і краскавым водарам пахне зямля* (М. Васілёк); *З маленькаю латкаю і локцем працёртым вісіць у кутку на цвіку гімнасцёрка — мая франтавая рэліквія* (П. Панчанка).

Акалічнасці месца ў гэтых сказах не з'яўляюцца ні «ўласна дадзеным», ні «ўласна новым», лагічна яны не выдзяляюцца.

Часта акалічнасць у саставе словазлучэння з'яўляецца «ўласна новым», але гэта не абавязкова: *Стаіўшыся ў дзікім, густым лазняку, ён вуды свае закідае ў раку* (П. Глебка); *Вецер урываўся з поля на шырокія вуліцы* (Б. Мікуліч); *Кабан рые павольна і заложна, усё болей і болей углыбляючыся ў зямлю* (Я. Колас).

Вялікая колькасць постпазіцыйных акалічнасцей месца тлумачыцца іх інтанацыйным зліццём з дзеясловам.

Для акалічнасцей месца, якія адносяцца да ўсяго сказа, найбольш характэрна прэпазіцыя. Прэпазіцыя акалічнасці месца амаль заўсёды камунікатыўна абумоўленая, таму прэпазіцыя, як правіла, абсалютная: *У розных краінах бытуе звычай пасадзіць на памяць дрэўца* (К. Кірэенка); *У лазовых кустах усё яшчэ цёхкалі салаўі, на ўсе галасы спявалі сініцы і лясныя шпакі* (А. Асіпенка); *З двара ў акно пазірала чорная ноч і завешанае густымі хмарамі-валокнамі цёмнае неба* (Я. Колас); *На дарозе ў лесе было чорна і ціха* (К. Чорны); *І ў небе развешвае восень бяліць незвычайны ручнік* (А. Астрэйка); *На бляклым небасхіле ўдалечыні ўжо запалілася і ціха гарэла адзінокая самотная зорка* (В. Быкаў); *То там, то сям паміж зялёных сакавітых галін доўгімі кудламі звісалі пасмы сівога моху* (Я. Колас); *Глыбока ўнізе, пад зрывістым пясчаным берагам, струменіўся быстры Нёман, праносячы па чыстым жолабе веснавыя воды і падразаючы высокі свой бераг* (Я. Колас).

Пазіцыя акалічнасці месца ў пачатку сказа звычайна выклікае інверсію галоўных членаў: *Навокал сінелі лясы і горбіліся жоўтыя ад іржышча ўзгоркі* (К. Чорны); *Злева, пры канцы вёскі, стаяў дом валаснога ўпраўлення з двума высокімі чорнымі комінамі над пачарнелым дахам. Насупраць, на другі бок вуліцы, выглядала школа з белымі аканіцамі і двума ці трыма развіслымі вязамі каля яе. Пры дарозе ў вёску, крыху наводшыбе, маркотна тулілася старэнькая драўляная цэркаўка* (Я. Колас); *На ясным небе загараліся зоркі, дрыгацелі, свяціліся featured рознакаляровымі агеньчыкамі, пераліваліся, як там трапяталі крыльцамі дыяментныя матылі* (Я. Колас); *На маладых аксамітных усходах палёў, на прыдарожнай траве, сакавіта жыццёвай, на лісці кустоў, нібы брыльянты, буйніліся багатыя росы. Выступалі цёмна-сінія сцены высокіх ля-*

*соў, прыгожа раскіданых па бясконцых прасторах зямлі* (Я. Колас).

Акалічнасці часу звычайна прэпазіцыйныя, прычым часцей за ўсё абсалютна прэпазіцыйныя: *Спачатку было трохі няёмка* (З. Бядуля); *З даўніх пор тым і міл, тым і люб гэты кут, што няпрошаны госць не трымаецца тут* (А. Куляшоў); *У апошнія часы Грамабоі сталі ласкавейшыя* (К. Крапіва); *Толькі пад раніцу заснула Наталля* (Я. Скрыган); *Раніцамі плавалі над свежай зямлёй туманы, рассыпаючы на траве брыльянтавыя пацеркі расы* (М. Хведаровіч). «Уласна дадзеным» акалічнасць часу ў такіх выпадках звычайна не з'яўляецца, яна выносіцца ў абсалютны пачатак як найменш залежны член сказа, звязаны не толькі з выказнікам, але і з усім сказам у цэлым. З камунікатыўнага пункту погляду акалічнасць часу ўключана ў групу «дадзенага» («зыходнага»), але часта не па сваёй камунікатыўнай ролі, а толькі па свайму «вымушанаму» (каб не парушаць граматычную і камунікатыўную структуру сказа) размяшчэнню.

Абсалютная прэпазіцыя акалічнасцей часу — граматычна абумоўленая норма іх размяшчэння. Акалічнасць часу, размешчаная ў пачатку сказа, адносячыся да ўсяго наступнага выказвання, інтанацыйна заўсёды аддзяляецца ад яго паўзай: *Дваццаць шостага чэрвеня тысяча дзевяцьсот сорак першага года па ўсёй прасторы заходніх абласцей Савецкага Саюза стаяла яснае і гарачае надвор'е. Пад чацвёртую гадзіну таго дня артылерыйская часць, як толькі магла развіць свой рух, была на маршы* (К. Чорны); *Пасля грозных баёў, пасля цяжкіх паходаў як жа радасна чуць голас роднай зямлі* (К. Кірэенка); *У красавіку 1943 года партызаны брыгады імя Чкалава ўзарвалі чыгуначны мост цераз Арэсу ля станцыі Вярхуціна* (Полымя, 1985); *Яшчэ дагэтуль высіцца над Волгай дом, дзе ўбачыў Ленін белы свет упершыню* (А. Зарыцкі).

Прэпазіцыйныя (але ўжо не абсалютна) і акалічнасці часу, якія ўваходзяць у групу «новага», хоць і не з'яўляюцца «ўласна новым»: *Майчком Антось часінай шэрай у ельнячок шмыгнуў з сякерай* (Я. Колас); *На гумне з рання да вечара чуваць быў гул малатарні* (У. Краўчанка); *Мне ў маленстве спявала матуля незабыўныя песні Купалы* (П. Броўка); *Увесь луг цяпер гамоніць сотнямі самых разнастайных птушыных галасоў* (М. Лупсякоў); *Міхал у часе вандравання на адзіноце сам з сабою, з гарачым сэрцам і душою развязваў важнае пытанне* (Я. Колас); *І май чароўны і прыгожы жыццёвым шляхам зноў прайшоў* (М. Машара); *Мы глыбокаю ноччу зімовай і засушлівым ліпеньскім днём ратаваць чалавека гатовы, рызыкуючы ўласным жыццём* (Э. Агняцвет); *Адчаго не была ты ў юнацтве імклівай ракой?* (А. Куляшоў).

Акалічнасці часу — «уласна новае» — заўсёды постпазіцыйныя: *Чырыкаюць дружна, з заўзяццем па самы кастрычнік ад мая* (Я. Купала); *Дзесьці ў шале коні скачуць перад боем* (П. Трус); *Прыгожа там летам вячэрняй парой, прыгожа вясною ўранку* (П. Глебка); *Прыехалі туды а дзесятай гадзіне раніцы* (З. Бядуля); *Пакой павінен быць закончаны да Першага мая* (У. Шахавец); *Добра ў лузе ў час палудны* (Я. Колас); *Цёмна-карычневыя, нібы абпаленыя агнём, лісты сіратліва трапечуцца да самай вясны* (І. Шамякін).

Ні прэпазіцыя, ні постпазіцыя акалічнасцей часу не з'яўляецца для іх інверсіяй. Аднак постпазіцыйная акалічнасць часу больш выдзелена, чым прэпазіцыйная, тым больш што постпазіцыя акалічнасці часу можа разам з тым з'яўляцца і становішчам у канцы сказа, яна (акалічнасць) можа далучацца да папярэдняга сказа: *Бенарэскі універсітэт заснаваны парайнальна нядаўна, у 1916 годзе* (М. Лынькоў); *Па рэйках тых*

*бягуць цягнікі. Бягуць днём і ноччу. І шэраю раніцай... Зімой і летам, увосень і ўвесну* (М. Лынькоў).

Часта ў адным сказе ёсць акалічнасці месца і часу. У такім выпадку гэтыя акалічнасці ставяцца побач, прычым на першым месцы — акалічнасць часу, ці сказ у цэлым пачынаецца акалічнасцю часу: *Штодзень па гэтай магістралі мы праязджалі ў мірны час* (П. Глебка); *І хоць з тых дзён над краем горным прайшлі суровыя гады, там захаваліся, гавораць, дагэтуль Леніна сляды* (М. Танк); *На трэці дзень у яго галаве зложыўся пэўны план* (Я. Колас); *Праз нейкі момант у хаце было ціха* (Я. Брыль).

На месца ў сказе акалічнасцей прычыны і мэты аказваюць уплыў тыя ж умовы, што і на акалічнасці часу. Акалічнасці прычыны і мэты звычайна прэпазіцыйныя, аднак нярэдкія выпадкі і постпазіцыйнага ўжывання іх. Пры гэтым яны могуць знаходзіцца як у непасрэднай прэпазіцыі, так і аддзяляцца ад дзеяслова іншымі словамі: *Самому Міколу з непрывычкі нязручна было хадзіць* (К. Крапіва); *Ён сумысля маўчаў* (К. Чорны); *Паняволі мусім сабе даваць якую раду* (Я. Купала); *Ведаў крыху, хаця і недакладна, што засталіся ў горадзе некаторыя людзі назнарок* (М. Лынькоў).

Як правіла, постпазіцыйныя ў адносінах да дзеяслова-выказніка акалічнасці мэты, выражаныя інфінітывам: *Выйшлі людзі светлай раніцай на Дрысвяцкае на возера будаваць электрастанцыю* (А. Русак); *Сябры зараз жа адзеліся і пайшлі мыцца ў Нёман* (Я. Колас); *Вясной з'явілася іх сем свет новы будаваць* (Я. Купала).

Акалічнасці ступені, якія характарызуюць дзеяслоў, пераважна прэпазіцыйныя: *Чуць-чуць дрогне, праліецца чырвань на усходзе — гэта неба ўсміхнецца людзям і прыродзе* (Я. Колас); *Ён бачыў, што стаў даволі важнай пружынай у гэтай справе* (К. Чорны).

Постпазіцыйнае размяшчэнне акалічнасці ступені звычайна ўспрымаецца як інверсійнае. Акалічнасць у гэтым выпадку падкрэслена, выдзелена: *Тое, што яго Ганна будзе настаўніца, цешыла яго вельмі* (К. Чорны); *Яны зблізіліся вельмі* (К. Чорны); *Сонца толькі ўзышло над ляском, ранавата крыху* (А. Куляшоў).

Такім чынам, размяшчэнне акалічнасцей у пісьмовай мове, як і ўскосных дапаўненняў, залежыць перш за ўсё ад магчымасці ці немагчымасці ўтвараць з імі словазлучэнні, г. зн. ад ступені іх сувязі з дзеясловам-выказнікам. Акалічнасці спосабу дзеяння і месца, якія ўтвараюць з дзеясловам адзінае словазлучэнне, паводле граматычнай нормы размяшчаюцца ў адносінах дзеяслова кантактна. Акалічнасці спосабу дзеяння — прэпазіцыйна, акалічнасці месца — постпазіцыйна. Адступленні ад гэтай нормы тлумачацца іх камунікатыўнай роляю («дадзенае», «новае») і граматычнай структурай сказа (наяўнасць у сказе ўскосных дапаўненняў прыводзіць да дыстантнасці ці постпазіцыі акалічнасцей: *Кланялася ніва ім нізка да зямлі* (А. Русак)).

Акалічнасці, якія не ўтвараюць з дзеясловам словазлучэнняў, размяшчаюцца ў залежнасці ад камунікатыўнай і граматычнай структуры сказа і сваёй камунікатыўнай ролі (шырока распаўсюджана іх прэпазіцыя ці дыстантная постпазіцыя). Акалічнасці часу, як правіла, бываюць звязаны з усім сказам у цэлым і, як усе канструкцыі, што свабодна далучаюцца, паводле граматычнай нормы абсалютна прэпазіцыйныя.

# СКЛАДАНЫ СКАЗ

## СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ

### АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА

§ 226. Складаназлучанымі называюцца сказы, састаўныя часткі якіх аб'яднаны пры дапамозе злучальных злучнікаў. Злучальныя злучнікі з'яўляюцца асноўным граматычным паказчыкам складаназлучаных сказаў. Сэнсавае адзінства складаназлучаных сказаў ствараецца таксама з дапамогай інтанацыі, парадку размяшчэння частак, суадносін трывальна-часавых форм дзеясловаў-выказнікаў: *Размяклы, працяты вадою снег гурбінамі папоўз з саламяных стрэх, трывожным шэптам парушаючы цішыню, а на вуліцах і дарогах пачалі выступаць жаўтавата-мутныя лужыны, і рушылі ў свае дарогі першыя веснавыя ручайкі-равальчыкі* (Я. Колас); *Раз-пораз урываліся ў голаў пякельныя здані, і адчуванне рэчаіснасці чаргавалася з кашмарамі* (В. Быкаў); *Пажары бушавалі яшчэ на вакзальных пуцях, і вялікае зарыва надавала ўсяму гораду фантастычны, казачны від* (М. Лынькоў); *Дубы, нібы магнаты, над рэкамі разгортваюць шатры, а лазнякі спраўляюць сваё свята, і штосьці сніць іх лісце ў гушчары* (Я. Колас); *А песня птушак галасіста вяселіць луг, зялёны лес, ды сонца яснае, агністае шле ласку дзіўную з нябес* (А. Гурло); *А сняжынкі сеюць кволую імглістасць, падаюць бялюткі за маім акном, і цвіце на вішнях снежная ўрачыстасць, сцелецца на скронях перад ранім сном* (П. Трус); *Панура гудзела асенняя ноч, і вецер халодны ляцеў над Бярозай* (А. Звонак); *Завіруха бушавала, і на славу вырастала беласнежная гара* (А. Александровіч).

Злучальная сувязь частак складаназлучаных сказаў прадвызначае іх раўнапраўнасць, якая выяўляецца толькі на сінтаксічным узроўні. Што ж датычыць сэнсавых узаемаадносін частак, то тут можа быць і адносная самастойнасць асобных частак, і ўзаемаабумоўленасць іх.

Адносна самастойнымі з'яўляюцца часткі складаназлучаных сказаў пры іх аўтасемантычнасці — у такім выпадку кожная з іх можа функцыяніраваць у якасці простага сказа: *Ні колас на ніве не ўскалыхнецца, ні ліст на дрэве не ўзварухнецца* (М. Багдановіч); *У лясах, гаях дразды спявалі, у балотах кнігаўкі крычалі; а ў небе ўдзень і вечарамі высока роўнымі шнурамі злятаўся вырай жураўліны* (Я. Колас); *Свежая рунь дрыжэла над ветрам, і ў нізіне стаяла чыстая, як сляза, вада* (К. Чорны); *А ноч зачароўвала хараством, струменілі раслінныя пахі, цёплай дрымотаю павяваў ласкавы ветрык, і ў недасяжнай вышыні незразумелай мігатлівай музыкай трапяталіся зоркі* (В. Быкаў).

Састаўныя часткі такіх сказаў слаба залежаць адна ад другой, таму дапусціма перастаноўка гэтых частак. Аднак як бы слаба ні былі звязаны прэдыкатыўныя часткі ў складзе складанага цэлага, яны ні пры якіх умовах самастойнымі, незалежнымі быць не могуць. У складзе цэлага яны не маюць сэнсавай і інтанацыйнай закончанасці, якая характэрна для катэгорыі сказа і, значыцца, не ўтвараюць асобных сказаў. Каб стаць самастойнымі, незалежнымі, сказы павінны выйсці з саставу адзінага цэлага.

Сэнсавыя адносіны паміж элементамі складаназлучаных сказаў, у якіх магчыма перастаноўка састаўных частак, у пэўнай ступені падобныя да адносін паміж аднароднымі членамі сказа, злучанымі злучнікам *і*: *Ляжыць зямля ў адзенні белым, і дрэвы ў шэрані стаяць* (Я. Колас); *Зялёныя кветачкі павыбіваліся ўжо на свет скрозь сухія выцвіўшыя*

*лісці, і прынадныя пахі разлівала ў паветры маладая чаромха* (Я. Колас); *Каля ракі, як і ўвечары, заліваліся ў нястрымным запале салаўі, ды над жытнёвым палеткам дрыготкімі крапінкамі віселі жаўранкі, славячы надыход новага дня* (Т. Хадкевіч).

Пры сінсемантычнасці частак (такой аказваецца звычайна другая частка) сэнсавая самастойнасць іх парушаецца, перастаноўка немагчымая: *Яна ўпала на павялую, халодную траву, і плечы яе затрымцелі ад горнага, роспачнага рыдання* (І. Мележ); *Галава шумела, кружылася, нешта быццам малаточкам стукала ў скроні, і гэты стук болем аддаваўся ва ўсім целе* (Р. Сабаленка).

Немагчымасць перамены месц састаўных частак складаназлучаных сказаў абумоўліваецца не толькі іх сэнсавым зместам, але і тым, што наступная частка сказа будуецца ў залежнасці ад папярэдняй.

Канструктыўная і граматычная залежнасць другой часткі ад першай праяўляецца ў парадку слоў другой састаўной часткі адносна першай, у наяўнасці ў другой частцы займеннікаў і прыслоўяў, якія замяняюць асобныя члены першай часткі, а таксама ў пропуску некаторых членаў, якія ёсць у папярэдняй частцы: *Пятра ашаламіла такое яе здзіўленне, і ён стаяў разгублены, бездапаможны, варты жалю* (І. Шамякін); *Неба не было цяпер такое яркае, як раней, часта атульвала яго белаватая, нібы малочная, смуга, і яно здавалася бляклым, быццам выгаралым за ліпеньскую і жнівеньскую спёку* (І. Мележ); *Хлеў быў адчынен, і там было пуста* (К. Чорны); *Лейтэнанта адпіхнулі ад акна, пацяснілі, балюча прыціснулі руку, і ён апынуўся ў першай шарэнзе* (В. Быкаў); *Гукам аргана нібы цесна было ў іх урачыстым і велічным узлёце, і яны вырываліся, вылятаді на плошчу, будзячы ў сэрцах рэдкіх прахожых розныя пачуцці* (М. Лынькоў); *Часцей за ўсё на гэтую спіну навальваўся цяжар жыцця, і яна аж гнулася* (Р. Сабаленка); *Некалі дуб апаліла маланка, і яго вяршаліна высахла, голле з бакоў пачало цягнуцца ўверх* (Полымя, 1984); *На гары стаіць хваіна, а ў даліне вербалоз* (П. Трус); *Калісьці бура ў Карпатах застала Леніна ўначы, і ён да прыдарожнай хаты зайшоў пагрэцца, адпачыць* (М. Танк).

Першая частка складаназлучаных сказаў са злучнікам *і* больш самастойная ў граматычных адносінах, але і яна не можа лічыцца абсалютна незалежнай і закончанай. Змест складаназлучанага сказа становіцца больш пэўным дзякуючы цеснай узаемнай залежнасці яго састаўных элементаў. Нярэдка ў наступных сказах заключана тое асноўнае, што вызначае сэнс усяго складаназлучанага сказа: *Будзе час, і снег растане, прыйдзе зноў да нас вясна, ветла з неба сонца гляне, ачуняе старана* (Я. Колас); *Бацька выпростаецца — і ў постаці павага да сябе* (К. Крапіва); *Ганна засмяялася, і смех гэты распаліў упартасць у ім* (І. Мележ); *Яна, не разумеючы, мімаволі павяла няцямным позіркам,— і гарачая чырвань у момант заліла яе твар* (І. Мележ).

Часткі складаназлучаных сказаў могуць мець агульныя члены, якія аб'ядноўваюць іх у адзінае цэлае: *У зацішнай цемнаце стрымана шумелі садкі, гучала з вокан радыё і ўсё лятаді скрозь беспрытульныя пушынкі таполяў* (В. Быкаў); *У гэты час бразнула клямка дзвярэй, і па падлозе застукаў дзеравяшкаю дзядзька Пракоп* (Р. Сабаленка); *Над ім* [горадам] *сцелецца тонкая, празрыстая сінь, і абрысы дамоў зліваюцца з гарызонтам* (Я. Скрыган); *Ад нечаканасці ў Астапа замлелі ногі і не то спуджана, не то радасна страпянулася сэрца* (М. Лынькоў); *Пад вечар неба завалакло хмарамі і ўзняўся вецер* (І. Шамякін); *На цэнтральнай вуліцы віднеліся толькі адзінокія пешаходы ды зрэдку праязджала грузавая машына або тарахцела па бруку фурманка* (Т. Хадкевіч).

Паняцце «агульны член» у шырокім сэнсе ўключае розныя граматычныя адзінкі — ад часціц, мадальных і пабочных слоў да цэлых сказаў: *Быццам бы і скрыпату не чутно і ўсё ўсюды заціхла, затаілася* (А. Кулакоўскі); *Вось-вось, здаецца, шыбане пад адхон паравоз, пашчапаюцца колы на крыжавінах ці ў пух разляцяцца стрэлкі* (М. Лынькоў); *Відаць, тут быў нядаўна рамонт і яшчэ не паспелі зрабіць парадку* (Я. Колас); *Напрадвесні і ў пушчы не многа красы: толькі вецер шуміць на ўсе галасы ды сухая трава шалясціць каля ног...* (У. Дубоўка); *Са праўды: і козы сыты і сена цэла!* (А. Якімовіч).

З членаў сказа ў ролі агульных членаў частак складаназлучаных сказаў здольны выступаць толькі дэтэрмінанты: *Зноў зацвітуць лугі, даліны, і атрасуць свой сон лясы і ў гоман радасны птушыны свае далучаць галасы* (Я. Колас); *Ад лютай летняй спёкі гарыць сухі пясок, і пачарнеў далёкі нахмураны лясок* (П. Глебка); *Над шырокай зямлёй пахне восенню, і яснымі днямі дзьме густы вецер* (К. Чорны); *Па свежай раллі скакалі кучамі вераб'і, бегалі жаўранкі і тупалі вароны* (Ц. Гартны).

Адным з важнейшых сродкаў узаемасувязі састаўных частак складаназлучаных сказаў з'яўляецца структурны паралелізм: *То сонца выблісне, то дожджык заімжыць* (С. Грахоўскі); *Ні адной хмурынкі на блакіце, ні павеву ветру на зямлі* (А. Астрэйка); *Галя вярнулася ў горад, а Жэня засталася ў партызанскім атрадзе* (А. Кулакоўскі); *Праходзіць ноч, і меркнуць зоры* (Я. Колас); *Узыходзіць сонца над прасторамі, і красуе ніва за далінаю* (А. Русак).

Узаемазалежнасць паміж часткамі складаназлучаных сказаў праяўляецца таксама і ў суадноснасці трывальна-часавых форм дзеясловаў-выказнікаў састаўных частак: *Дыхнула вясна, і зямля стала вясёлая* (К. Чорны); *Неба на ўсходзе паволі святлела, і навокал бялела ў доле, ноч растваралася ў паўзмроку нясмелага позняга світання* (В. Быкаў); *З бяздоннай сіні начнога марознага неба сплыла туманная смуга, увабраўся ў сілу мароз, і ў твар падарожнікам павеяў пранізлівы калючы вецер* (В. Быкаў); *Да шыбы цягнулася тонен ькая галінка акацый, і адзін малады лісток намагаўся дакрануцца да шкла* (Я. Скрыган); *Снег пачаў асядаць, і на світанні дзён ружовы водбліск неба ляжаў у снегавой вадзе* (К. Чорны); *Сляпучы пук святла выбіваўся праз акно на падворак, і ад яго росная трава выдавала вельмі зялёнай* (А. Асіпенка).

Пэўную ролю ў пабудове складаназлучаных сказаў розных тыпаў і ў дыферэнцыяцыі іх значэнняў адыгрывае і тыпізаванае лексічнае напаўненне прэдыкатыўных частак. Так, для складаназлучаных сказаў з супраціўнымі злучнікамі характэрна наяўнасць у прэдыкатыўных частках розных лексічных супрацьпастаўленняў.

Такім чынам, складаназлучаны сказ па структуры нагадвае складанае дыялектычнае адзінства, і граматычная закончанасць яго частак вельмі адносная. Як правіла, пры любым тыпе злучальнай сувязі толькі першая частка складанага сказа будуецца больш-менш свабодна, структура другой часткі абумоўлена характарам адносін, якія выражаюцца складаназлучаным сказам. Абедзве ж (і больш) састаўныя часткі складаназлучанага сказа вызначаюцца сэнсавай узаемазалежнасцю. Будучы звязанымі па сэнсу і інтанацыйна, часткі ў той ці іншай ступені ўзаемаабумоўлены і граматычна.

Складаназлучаныя сказы могуць быць мнагачленнымі і двухчленнымі. Мнагачленныя сказы складаюцца з некалькіх (больш дзвюх) частак. Колькасць частак у мнагачленных сказах абумоўлена пазамоўнымі фактарамі — аб'ёмам той інфармацыі, якую прадвызначае камунікатыўнае заданне сказа: *Вясна была яшчэ ўпачатку, але снягі*

*ўжо раставалі, і дружна ў полі балбаталі раўкі, рачулкі і ў грамадку яны ваду сваю злівалі* (Я. Колас); *То віўся ўгору густым вянком спелы пажоўклы хмель, то абвісалі цяжкімі гронкамі спелыя чырвоныя вішні, а то раптам шырока раскідваў сваё вецце пышны ружовы куст* (П. Галавач).

Двухчленныя сказы складаюцца з дзвюх частак: *Зноў з вятрамі і сонцам прыйшоў красавік, і павеяла водарам з мінскіх узлескаў* (К. Кірэенка); *Выглянула сонца, радасна пырснула праменнямі, але дождж яшчэ ішоў, сляпы, дробны* (І. Шамякін); *Каля ракі, як і ўвечары, заліваліся ў нястрымным запале салаўі, ды над жытнёвым палеткам дрыготкімі крапінкамі віселі жаўранкі, славячы надыход новага дня* (Т. Хадкевіч).

Прэдыкатыўныя часткі складаназлучаных сказаў нагадваюць сабой разнастайныя структурныя тыпы сказаў — двухсастаўныя і аднасастаўныя, простыя і складаныя; яны могуць быць аднатыпнымі, гэта значыць толькі двухсастаўнымі ці толькі аднасастаўнымі, або разнатыпнымі, гэта значыць адна частка — двухсастаўны сказ, другая — аднасастаўны: *На захадзе праяснілася, і халоднае неба запалала агнём ад апошніх праменняў сонца* (А. Чарнышэвіч); *За вокнамі шумяць у садзе слівы, і месяц стаў над стрэхамі сяла* (С. Грахоўскі); *Павеяла сырасцю, стала халаднавата* (І. Мележ); *Над шумным лесам, над балотам узняўся новы дзень, і з неба сонца пазалотай зямлі схавала цень* (М. Чарот); *Мне вечна бачыць сонца маладое, а нада мной заўжды шумець барам* (П. Прыходзька); *Сава ўцячы тут хоча, ды толькі вось ляцець не можа, а поблізу няма дупла нідзе* (К. Крапіва).

Паводле характару злучнікаў, якія звязваюць прэдыкатыўныя часткі ў адзінае цэлае, складаназлучаныя сказы дзеляцца на чатыры асноўныя групы:

1) сказы са спалучальнымі злучнікамі *(і, ды)* і злучальнымі словамі *(потым, затым, пасля)*;

2) сказы з супастаўляльнымі злучнікамі *(але, а, затое, ж (жа), аднак)*;

3) сказы з пералічальна-размеркавальнымі злучнікамі *(ці, або, то-то, ні-ні)*;

4) сказы з далучальнымі злучнікамі ці са злучнікамі, якія ўжываюцца ў далучальным значэнні *(ды і, а то* і інш.).

У залежнасці ад структурных уласцівасцей, характару злучнікаў і лексічнага напаўнення складаназлучаныя сказы выражаюць разнастайныя сэнсавыя адносіны, якія вызначаюцца на аснове рэальнага зместу іх састаўных частак. Змест састаўных частак знаходзіць сваё адлюстраванне ў пэўных лексіка-граматычных формах і сродках. Паводле характару сэнсавых адносін сярод складаназлучаных сказаў выдзяляюцца сказы са спалучальна-пералічальнымі, з прычынна-выніковымі адносінамі, сказы з адносінамі супастаўлення і супрацьпастаўлення, з далучальнымі адносінамі і інш.

Гэтыя разнавіднасці складаназлучаных сказаў могуць аб'ядноўвацца ў больш шырокія разрады на падставе такой сінтаксічнай прыметы, як структурная адкрытасць і закрытасць. Да сказаў адкрытай структуры адносяцца сказы з адносінамі спалучальна-пералічальнымі, да сказаў закрытай структуры — сказы з адносінамі супрацьпастаўлення і далучальнымі.

Часткі складаназлучаных сказаў адкрытай структуры нагадваюць сабой незамкнуты рад, яны аднатыпна пабудаваныя, маюць значэнне адначасовасці, што выражаецца адпаведнасцю трывальна-часавых форм дзеясловаў-выказнікаў. Такія сказы вызначаюцца тым, што могуць мець

неабмежаваную колькасць частак (практычна ўзнікаюць абмежаванні толькі лексічнага плана): *На платах тчэцца шоўк залацісты, і кудзеліць над хатай дымок* (З. Бядуля); *Гарэлі ўначы за Бярозай кастры, і плавалі белыя хмарынкі дыму, і кволыя цені да самай зары скакалі на ўзлессі нагамі худымі* (А. Звонак); *Над вадой ля берага ціха спіць асока, ды лаза зялёная жаліцца-шуміць* (М. Багдановіч); *Край неба наліўся зарою, і сонца устала, агнём прамяністым палі і лясы прывітала* (П. Панчанка).

У сказах закрытай структуры часткі нагадваюць сабой замкнуты рад, гэта заўсёды дзве часткі, структурна і семантычна ўзаемаабумоўленыя, звязаныя. Другая частка ў іх замыкае рад і не дапускае наяўнасці трэцяй: *Ляжаць ранеты жоўтыя, шафран і размарыны, ды нестае антонаўкі з маёй, сябры, краіны* (Э. Агняцвет); *Ідзе* [Міхал], *а ветрык з каласкамі вядзе прыемную размову і цешыць душу леснікову* (Я. Колас); *Сляды гарачыні яшчэ на тварах носім, ды паплылі ўжо дні у залатую восень* (П. Панчанка).

Закрытасць структуры можа наглядацца і ў сказах са спалучальнымі злучнікамі, у тых выпадках, калі аб'ядноўваюцца часткі з выніковым значэннем: *Я расказала сыну казку, і ён адразу заснуў.*

Гэта сведчыць аб тым, што паняцце закрытасці і адкрытасці структуры звязана не столькі з характарам самога злучніка (хоць гэта асноўная ўмова, напрыклад, пры супастаўляльных адносінах), колькі з семантыка-структурнай узаемазвязанасцю частак.

### *Складаназлучаныя сказы са спалучальнымі злучнікамі*

§ 227. Сярод такіх сказаў найбольш распаўсюджаны стылістычна нейтральныя сказы са злучнікам *і*. У сказах са злучнікам *і* могуць выражацца часавыя адносіны: з'явы, пра якія гаворыцца ў састаўных частках, працякаюць адначасова ці ў розны час. Сказы з часавай семантыкай складаюцца з дзвюх і болей частак; яны характарызуюцца пералічальнай інтанацыяй: *Вясенняя ночка, як стой, праляцела, і раніца з неба сплывае нясмела* (Я. Купала); *У зачарованым адзенні спіць трава і спяць кусточкі* (Ц. Гартны); *Ветры спяваюць над барамі вясёла, і ад ранку гамоняць працавітыя пчолы* (П. Броўка); *Мерна рыпяць і скрыпяць палазы, і бягуць, бягуць насустрач аснежаныя прасцягі палёў* (М. Машара); *Ціха шэпчуцца чароты, і калышацца аер* (А. Астрэйка).

Фармальна-граматычным паказчыкам характару працякання дзеяння ў часе служаць трывальна-часавыя формы дзеясловаў-выказнікаў у частках сказа. Так, выказнікі абедзвюх частак складаназлучаных сказаў з адносінамі аднычасовасці найчасцей выражаюцца дзеясловамі незакончанага трывання прошлага часу: *Ні з таго ні з сяго сярод белага дня галасіста спявалі пеўні, і на пачарнелых сметніках жвава капашыліся вераб'і* (Б. Сачанка); *Падыхаў лёгкі восеньскі вецер, і сонца нехаця варочалася ў густых, цяжкаватых воблаках* (Я. Скрыган); *І азіміна, і яравое раслі на вачах, і разам з азімінай, з яравым раслі ў асцярожных, звыклых да ўсяго сэрцах куранёўцаў надзеі на лета: малілі бога, каб толькі і далей памог пагодаю* (І. Мележ).

Выказнікі састаўных частак складаназлучаных сказаў могуць мець форму закончанага трывання прошлага часу: *Здрыгануліся нетры ад гулу, і хіснулася лісце ўгары* (Я. Колас); *Воблачка гэтае наплыло на сонца, і ў тую ж хвіліну, узняўшы на дарозе фантанчыкі пылу, пасыпаўся буйны рэдкі дождж* (В. Хомчанка); *У гэты час скрыпнулі дзверы і ўвайшоў чалавек* (К. Чорны).

У функцыі выказнікаў прэдыкатыўных частак складаназлучаных сказаў з адносінамі адначасовасці здольны выступаць дзеясловы незакончанага трывання цяперашняга часу: *Ляжыць зямля ў адзенні белым, і дрэвы ў шэрані стаяць* (Я. Колас); *На платах тчэцца шоўк павуціны, і кудзеліць над хатай дымок* (З. Бядуля); *Ціха шэпчуцца чароты, і калышацца аер* (А. Астрэйка).

Такія сказы, як правіла, выкарыстоўваюцца тады, калі пісьменнік імкнецца ажывіць расказ і надаць яму найбольшую нагляднасць, выпукласць: *На сцяне ходзікі няўтомна клююць цішыню, і паўзуць, адна адну абганяючы, стрэлкі* (Я. Скрыган); *Цёхкае салавей, прысвіствае дрозд, і, як заўсёды, укладае некага спаць перапёлка* (Б. Сачанка); *Пахне свежай, вымытай зямлёй, і ў лужынах бліскае сонца* (Я. Скрыган); *Па гранітным узбярэжжы рушаць машыны, і натоўп моладзі па каменных ступеньках спускаецца на водную станцыю* (Я. Скрыган).

Калі выказнікі выражаны дзеясловамі аднаго трывання, то супадзенне ў часе дзеянняў ці станаў поўнае: *Панура гудзела асенняя ноч, і вецер халодны ляцеў над Бярозай, бяліла зіма на палетках радно, і снежань суровы стаяў на парозе* (А. Звонак); *Паабапал жвірыстай дарогі калышацца леташні быльнік, і веснавая шырыня вее над неабдымным полем* (К. Чорны); *Ледзь варушыцца лісце ракіт, і суцішана Нёман плюскоча* (А. Астрэйка).

Калі ж выказнікі састаўных частак выражаны дзеясловамі розных трыванняў, то супадзенне дзеянняў або станаў частковае: у адзін з момантаў працяглага дзеяння або стану ўзнікла ці ўзнікне новае, непрацяглае дзеянне або непрацяглы стан: *Ён глядзеў на калгаснае поле, і ў ім набракла спрадвечная патрэба дзейнае рупнасці і гаспадарскіх клопатаў* (Я. Скрыган); *Стомлена глядзелі заняпалыя вочы, і ўвесь яго твар неяк змяніўся, зрабіўся больш халодны, суровы* (М. Лынькоў).

Важную ролю ў дыферэнцыяцыі граматычных значэнняў складаназлучаных сказаў з часавымі адносінамі адыгрывае і парадак размяшчэння частак; у сказах са значэннем адначасовасці з'яў парадак размяшчэння частак свабодны: *Ветры спяваюць над барамі вясёла, і ад ранку гамоняць працавітыя пчолы* (П. Броўка); *На акне мароз узор пляце, і палае печка ў будане* (А. Астрэйка); *Наліліся сокам спелыя брусніцы, і каля дарогі выраслі грыбы* (С. Грахоўскі); *І рэк журчанне помню я, і хат станічных белы дым знаёмы мне* (А. Бачыла).

Злучнік *і* пры выражэнні адносін адначасовасці можа ўжывацца і як адзіночны, і як паўторны. Паўторны злучнік надае ўсяму выказванню асобы рытм, характэрную пералічальную інтанацыю. Акрамя таго, такі злучнік падкрэслівае аднатыпнасць, аднароднасць частак. Складаназлучаныя сказы з паўторным злучнікам *і* характэрны для паэтычнай мовы: *І спынілі гамонку лясы пад празрыстым святлом месяцовым, і аселі крупінкі расы на кустах і травах мядовых* (А. Астрэйка); *І шуміць наша глеба самай буйнай збажыной, і красуе наша неба самай сіняй глыбінёй* (М. Лужанін); *Звіняць іржавым звонам путы, і стогн дзядоў, і плач дзяцей* (К. Крапіва); *Вісіць пад небам бляхі ліст, руіны, прорвы, катакомбы, і скрозь агонь, і бомбы, бомбы, і страшны гул, і страшны свіст* (П. Глебка).

Набываючы ўласцівасці экспрэсіўных часціц, паўторны злучнік *і* падкрэслівае, узмацняе значэнне прэдыкатыўных частак складаназлучаных сказаў.

У складаназлучаных сказах са значэннем часавай паслядоўнасці дзеянні, пра якія гаворыцца ў другой састаўной частцы, пачынаюцца пасля завяршэння дзеяння першай часткі. Гэтыя дзеянні больш дына-

мічныя, чым тыя, якія знаходзяць адлюстраванне ў сказах з адносінамі адначасовасці. Парадак размяшчэння частак звычайна адпавядае парадку змены рэальных дзеянняў. Значэнне часавай паслядоўнасці можа ўскладняцца прычынна-выніковымі і іншымі адценнямі.

На паслядоўнасць дзеянняў, якія могуць быць працяглымі, непрацяглымі ці імгненнымі, указваюць трывальна-часавыя суадносіны выказнікаў прэдыкатыўных частак. Найбольш выразна адносіны паслядоўнасці выступаюць тады, калі выказнікі абедзвюх частак складаназлучаных сказаў са злучнікам *і* выражаны дзеясловамі закончанага трывання прошлага часу: *Недзе галасісты пявун, не шкадуючы сілы, пракрычаў «ура» наступаючаму дню, і яму азвалася з паўдзесятка яго калег* (М. Лынькоў); *Мімаволі ўваччу паўсталі бачаныя нядаўна фанабэрлівыя твары захопнікаў, і нянавісць зноў хлынула ў аслабелае сэрца* (В. Быкаў); *Ужо для газет была падрыхтавана добрая інфармацыя, і праз які дзень яны павінны былі затрубіць ва ўсе трубы баявыя подзвігі паліцыі* (М. Лынькоў); *Нарэшце, жанчына перахрысцілася на абразы, і тады стражнік адышоў ад дзвярэй і даў ёй дарогу* (Р. Сабаленка); *Шыбы акон раптам жаласна забразгалі, і гулкія ўдары далёкіх узрываў пракаціліся адзін за адным, злёгку страсянуўшы сцены хаты* (М. Лынькоў).

Для выражэння паслядоўнасці падзей, з'яў выкарыстоўваюцца сказы са злучнікам *і*, выказнік першай часткі якіх — дзеяслоў закончанага трывання прошлага часу, а выказнік другой часткі — дзеяслоў незакончанага трывання таго ж часу. Закончанае трыванне дзеяслова ў першай частцы сказа ўказвае на тое, што дзеянне закончылася, незакончанае трыванне ў другой частцы — на дзеянне, якое працягваецца пасля заканчэння першага: *Успыхнула запалка ў руках Петручка бледна-чырвоным выбухам полымя, і скора сінія клубочкі махорачнага дыму павольна сталі падымацца ўгору, пад галіны старой вярбы* (Я. Колас); *Сцяпан адчыніў вароты, і грузны воз пачаў асцярожна ўціскваццa ў зяпу гумна* (І. Мележ); *Тут толькі што расстралялі больш сотні чалавек, і эсэсаўцы ўтрамбоўвалі трупы ў шырокім і доўгім рове* (М. Лынькоў).

Асабліва выразна паслядоўнасць падзей праяўляецца ў такіх складаназлучаных сказах, выказнікі састаўных частак якіх маюць розныя часавыя значэнні: *І ўсе балотныя палянкі цвітуць агнямі журавін, і неўзабаве ўспыхнуць гранкі чырвоных, яркіх арабін* (П. Глебка); *Адчыняюцца дзверы, і на парозе з'явіцца Навум з яго ўважлівым позіркам чорных вачэй* (Б. Мікуліч); *Дзеда ўсюды носяць ногі, і к нам прыйдзе на хвілінку адпачыць крыху з дарогі, важна сеўшы на ялінку* (Я. Колас).

Аднак трывальна-часавыя суадносіны паміж выказнікамі састаўных частак складаназлучаных сказаў са злучнікам *і* не могуць лічыцца адзіным паказчыкам значэння адначасовасці ці паслядоўнасці. Пры вызначэнні характару адносін, што выражаюцца складаназлучанымі сказамі, неабходна ўлічваць канкрэтныя значэнні прэдыкатыўных частак. Так, іншы раз выказнікі абедзвюх частак складаназлучаных сказаў выражаны дзеясловамі незакончанага трывання цяперашняга часу, што типова для выражэння адносін адначасовасці. Рэальныя ж значэнні састаўных частак указваюць на паслядоўнасць дзеянняў: *Паўлік доўга прыглядаецца да ягад, і яго востранькі, пасыпаны ля кірпатага носіка рабаціннем тварык прыкметна ажывае* (Б. Сачанка); *Пасля ўзрушанасць праходзіць, і мы ўжо спакойна гаворым* (Я. Скрыган).

Складаназлучаныя сказы са злучнікам *і* — адзін са сродкаў выражэння прычынна-выніковых адносін. Да агульнага прычынна-выніковa-

га значэння дадаецца значэнне часавай паслядоўнасці, што і натуральна, паколькі рэальны вынік выцякае з прычыны. Сувязь паміж часткамі такіх складаназлучаных сказаў звычайна бывае вельмі моцная. Гэта сказы закрытай структуры, г. зн. у іх дзве часткі, размешчаныя ў строга пэўным парадку: *Сталі ўсталёўвацца на зямлі спакой і парадак, і людзі пачалі весялей глядзець на свет божы* (К. Крапіва); *Ад бегу і шпаркай хады шчокі яго разгарэліся, і сэрца стукала моцна і часта* (Я. Колас). *На нейкую хвіліну хмары на небасхіле разарваліся, і з іх цікаўна глянула сонца* (І. Мележ); *У Куранях ракі, прастору і глыбіні воднай не было, і снасць тут у людзей трымалася свая, балотная: лазовыя баўтухі, лазовыя таптухі, венцяры, сплецены з канапляных нітак кломлі* (І. Мележ); *Жвавыя снегавыя языкі хутка спавілі сваёй беллю нерухомыя целы людзей, мяккі дол прыветна тулій да сябе зняможаных падарожнікаў, і не было сілы расплюшчыць вочы, варухнуцца, устаць* (В. Быкаў).

Прычынна-выніковая залежнасць паміж часткамі складаназлучаных сказаў са злучнікам *і* вызначаецца, галоўным чынам, суадносінамі рэальных значэнняў састаўных частак. Сінтаксічным сродкам выражэння гэтага значэння можна лічыць толькі парадак іх размяшчэння: прычына ці адценне прычыннасці заключаецца ў першай частцы, вынік — у другой: *Прадстаўнік пушной фірмы яўна нудзіўся гутаркай на пушныя тэмы, і Заслонаў пакінуў яго пакуль што ў спакоі* (М. Лынькоў); *Нават у лесе душна было ў буданах, і хлопцы спалі проста пад адкрытым небам* (М. Лынькоў); *Дажджоў яшчэ не было, і цераз падсохлую за лета дарогу за няскончанай грэбляй прабраліся без асаблівага страху* (І. Мележ).

Прычынна-выніковыя адносіны, што выражаюцца пры дапамозе злучніка *і*, вельмі блізкія да тых адносін, якія ўласцівы далучальным канструкцыям са словам *таму*, параўн.: *Нейкі пякучы боль скалануў сэрца, і яна не магла зрушыцца з месца* (Р. Сабаленка) — *Нейкі пякучы боль скалануў сэрца, таму яна не магла зрушыцца з месца.*

У сказах са злучнікам *і* могуць выражацца адносіны выніку, блізкія да адносін часавай паслядоўнасці. Прыметай такіх сказаў, якія складаюцца толькі з дзвюх частак, з'яўляецца напружаная інтанацыя ў першай частцы і паўза перад другой часткай. Такой інтанацыяй нярэдка падкрэсліваецца хуткая змена падзей, што на пісьме перадаецца пры дапамозе працяжніка: *Момант—і афіцэр выхватвае шаблю* (Я. Колас); *Хвіліна—і надзета на твар маска* (М. Гамолка); *Узмах—і плёснулася недзе на сярэдзіне блясна; парушыўшы спакойную гладзь вады, разышліся зыбкія кругі* (І. Шамякін).

Першая частка такіх сказаў, як правіла, нагадвае сабой намінатыўны сказ.

Складаназлучаныя сказы са злучнікам *і* здольны выражаць умоўна-выніковыя адносіны. Структурнай прыметай такіх двухчленных сказаў з'яўляецца напружаная інтанацыя ў першай частцы і паўза перад другой часткай, а таксама наяўнасць форм загаднага ладу дзеяслова-выказніка ў першай частцы: *Гляньце на расквечаны вясною луг — і вы не зможаце забыць яго прыгажосць* (С. Баранавых); *Давайце прагуляемся па нашых мясцінах — і ў вас адразу зменіцца ўяўленне аб іх* (Я. Колас); *Ён ведаў — прыйдзі ён ноччу — і гэтыя позіркі могуць ператварыцца ў свінцовую кулю* (М. Лынькоў); *Знайдзі пачатак — і ты зразумееш шмат што* (А. Мікуліч); *Здаецца, кінь у раллю зярняты, і яны тут жа, на вачах, выкінуць з сябе імклівыя стрэлы ліісткоў* (У. Шахавец); *Скажы яна адно слова Сцяпану — і ён, здаецца, пойдзе за яе ў агонь і ў ваду* (І. Мележ).

Да такіх сказаў сінанімічныя складаназалежныя сказы са злучнікам *калі: Калі вы глянеце на расквечаны вясною луг, вы не зможаце забыць яго прыгажосць; Калі вы прагуляецеся па нашых мясцінах, у вас адразу зменіцца ўяўленне аб іх.* Пры параўнанні складаназалежных і складаназлучаных сказаў відаць, што апошнія дзякуючы формам загаднага ладу больш непасрэдна накіраваны да чытача, а ў сувязі з гэтым і больш экспрэсіўныя

Умоўна-часавыя адносіны выражаюць складаназлучаныя сказы са словам *варта* ў першай частцы, якое страціла лексічнае значэнне: *Варта толькі накруціць там пружыну, і ў хвіліну, як страла, яна ляціць* (А. Шуцько); *Варта было прыслухацца да наваколля, і адразу вуха ўлоўлівала мноства гукаў* (М. Ваданосаў); *Варта стукнуць па ім, і ён расколваецца на драбнюткія кавалачкі* (А. Чаркасаў).

Такія сказы сінанімічныя складаназалежным сказам са злучнікам *як* у другой частцы: *Варта табе толькі спыніцца, расслабіць волю, як ты перастаеш быць важаком* (А. Асіпенка). Складаназалежныя сказы ў большай ступені перадаюць часавае значэнне, чаму садзейнічае злучнік *як* (ён указвае на хуткую змену падзей).

У сказах са злучнікам *і* пры адпаведным лексічным напаўненні могуць выражацца адносіны супастаўлення (супрацьпастаўлення): *А яму хацелася заплакаць, і не мог дзед заплакаць* (М. Лынькоў); *Нікчэмны, зацяганы паравозік свіснуў, і голасу яго ніхто не ўчуў за шумам вады* (Э. Самуйлёнак); *Сярэдзіна кастрычніка — і такі мароз* (І. Шамякін); *Васемнаццаць гадоў — і паспеў закахацца!* (М. Лужанін).

Такія сказы сінанімічныя складаназлучаным сказам са злучнікам *але,* супрацьпастаўленне ў якіх выражаецца больш пэўна.

Да злучніка *і* паводле сінтаксічнага значэння блізкі злучнік *ды*, якому ўласцівы дадатковыя адценні катэгарычнасці і далучэння: *Якая цішыня! Адно спеў мірнай працы плыве з васкросшых сёлаў і палёў, ды чуюцца гудкі апошніх станцый, шум Белавежы і хада зуброў* (М. Танк); *Ціхі пошум дрэў стаяў над наваколлем, ды рэчка шапатліва плюскалася ў бераг* (Р. Сабаленка); *Плачу не было, шыркалі адно косы наводдаль ды звінела, стрыкала балотная драбната* (І. Мележ); *Шуміць вада на грэблі пад мастом, ды сонцу шэпча ссохлая трава* (М. Танк); *Хутка поўнач надыдзе сыпаць зор залаты авёс ды папасвіцца месяц выйдзе на ліловую пашу нябёс...* (У. Дубоўка); *Гусцей разрасліся бэзам маленькія гародчыкі, ды патаўсцелі куртатыя вербы па абодвух баках дарогі* (М. Машара); *Пра гэта нам гаворыць Прыпяць ды ціха шэпча вецер у чаротах* (У. Дубоўка).

Сказы са злучнікам *ды* сінанімічныя сказам са злучнікам *і*. Аднак у адрозненне ад мнагазначнага злучніка *і* злучнік *ды* перадае толькі адно са значэнняў, якія выражаюцца злучнікам *і*,— значэнне адначасовасці падзей (радзей — паслядоўнасці). Злучнік *ды* ўносіць у сказ размоўнае адценне: *Толькі ліха сну не мае і не спіць, ды прадзе бяда ліхая сваю ніць* (Я. Колас); *Хіба што зрэдку рыпне студня, кіўнецца стромкі жураўель ды скрозь прастор адзін бязлюдны, ды снегу томячая бель* (Я. Колас); *Мылі рабіну, песцілі толькі цёплыя дажджы, ды любілі шумець маладым лісцем вятры* (І. Мележ).

Злучальныя словы адпрыслоўнага паходжання *потым, затым, пасля* ўжываюцца ў асноўным для спалучэння састаўных частак тых складаназлучаных сказаў, у якіх выражаюцца адносіны паслядоўнасці. Пры дапамозе гэтых слоў паслядоўнасць выражаецца ў плане аднаго і таго ж часу: *Шукала яго найперад Аўгіня, потым шукаў Аўгіню Мартын, потым шукалі яны адзін аднаго* (Я. Колас); *Вузенькая сцежачка змейкай вілася паміж густа разросшагася маладога ельніку, затым яна*

*вынырала на шырокую паляну, засеяную аўсом і грэчкай* (Я. Колас); *Узгоркі зменьваліся лагчынамі, жоўтыя чубы маладога бярэзніку саступалі месца зялёным хвойнікам, пасля зноў ішло поле і, нарэшце, магутная сцяна старога лесу ў момант вока вырасла як з-пад зямлі* (К. Чорны).

### Складаназлучаныя сказы з супастаўляльнымі злучнікамі

§ 228. Паміж прэдыкатыўнымі часткамі такіх складаназлучаных сказаў выражаюцца с у п а с т а ў л я л ь н ы я адносіны, пры якіх адна састаўная частка або асобныя яе члены супастаўляюцца з другой састаўной часткай або асобнымі членамі: *Усе ўміг разбегліся, а Алёша... застаўся адзін пасярод класа* (І. Шамякін); *І от ідуць сабе: сакратар— топ-топ па гразі, а крамнік — дыб-дыб, як певень* (Р. Мурашка); *Я, канечне, злякаюся, а яна — адскочыць і смяецца* (Я. Скрыган); *Міхал занадта ўжо служака, а медалёў не начапілі* (Я. Колас); *Не блага б спачыць, ды важны наказ пад ватоўкай ляжыць* (П. Глебка); *І сур'ёзны ты чалавек, здаецца, а паводзіны твае камарыныя* (М. Лынькоў).

У складаназлучаных сказах з супастаўляльнымі адносінамі могуць супастаўляцца з'явы, што адбываюцца адначасова ці паслядоўна. Граматычнай прыметай адначасовасці з'яў, якія супастаўляюцца, выступае форма незакончанага трывання дзеясловаў-выказнікаў; граматычнай прыметай паслядоўнасці падзей — форма закончанага трывання дзеясловаў-выказнікаў. Структура такіх сказаў заўсёды двухчленная: *Бушавала бура з сілай нечуванай, а вы ішлі напорна крокам нястрыманым* (Я. Колас); *Галіны алешынак і бярозак seклі яе твар, але яна бегла і бегла* (І. Мележ); *Яшчэ не ўзыходзіла сонца, а ўжо аднекуль з вышыні лілася птушыная песня* (А. Чарнышэвіч); *На вуліцы скрыпка грае, мяне ж маці не пускае* (Народнае); *Іскрыцца пад молатам сталь, а молат не біў так калісь...* (Я. Купала); *Кароткая вясновая ноч канчалася, але неба на ўсходнім баку, зацягнутае хмарамі, было цёмнае, панурае* (І. Мележ); *Агоньчык толечы развесці, а там закусім, адыхнём* (Я. Купала).

У залежнасці ад характару супастаўлення вызначаецца некалькі разнавіднасцей супастаўляльных адносін: уласна супастаўляльныя, супрацьпастаўляльныя і адносіны неадпаведнасці.

У аснове ў л а с н а г а с у п а с т а ў л е н н я ляжыць адрозненне паміж прадметамі і з'явамі. Для састаўных частак складаназлучаных сказаў з уласна супастаўляльнымі адносінамі характэрны структурны паралелізм. Асноўны сродак выражэння ўласнага супастаўлення — стылістычна нейтральны злучнік *а*: *На лясных дарогах, проста над самымі каляінамі, відны сыравежкі, а ўбок, у лес, дзе мох, пажаўцелая трава і прэлае лісце,— красуюцца баравікі* (К. Чорны); *Зямля яшчэ песцілася ў сонным змроку вясенняй ночы, а неба ледзь-ледзь пачынала святлець на ўсходзе зорамі...* (Я. Колас); *Вышэй цягнуўся жоўта-зялёны пас арэшніку і маладога дубняку, а на самым грэбені берага стаялі каржакаватыя старыя дубы. Па гэты бок Случы было поле, а за рэчкаю рассціламіся лугі, шырокія, не акінуць вокам* (Я. Колас); *На лугавых нізінах сям-там яшчэ стаяла вада, а над ёю лапушнымі кусцікамі жаўцела лотаць, рассцілаючы буйныя лісты* (Я. Колас).

Злучнік *а* ў такіх сказах сінанімічны злучніку *і* і можа быць заменены ім. Параўн.: *Над зямлёй стаяў яркі двурогі месяц, а сотні зорак былі рассыпаны ў сінім бяздонні неба, як залатыя гарох* (З. Бядуля)— *Над зямлёй стаяў яркі двурогі месяц, і сотні зорак былі рассыпаны ў сінім бяздонні неба, як залатыя гарох; Міхал ідзе ў свае абходы, а*

*холад зімняе пагоды яго рухавіць і малодзіць* (Я. Колас) — *Міхал ідзе ў свае абходы, і холад зімняе пагоды яго рухавіць і малодзіць.* Аднак у сказах са злучнікам *і* на першы план выступаюць спалучальныя адносіны.

Адносіны ўласнага супастаўлення могуць выражацца і складаназалежнымі сказамі са злучнікамі *у той час як, тады як* і інш.: *Халявы боты былі шэрымі ад пылу, у той час як знізу боты намоклі ад расы* (П. Пестрак); *Я пажыў ужо крыху на свеце, тады як ты, можна сказаць, яшчэ і не спрабаваў жыцця* (Ц. Гартны). Такія сказы больш уласцівы кніжнаму стылю мовы.

У аснове сказаў са значэннем с у п р а ц ь п а с т а ў л е н н я ляжыць не адрозненне, а супрацьлегласць прэдыкатаў, пра што сведчыць лексічны састаў сказаў, наяўнасць антонімаў і г. д.

Адносіны супрацьпастаўлення выражаюцца пры дапамозе злучнікаў *а, але, ды* (у значэнні *але*), *аднак, тым не менш*: *Не раз і не два гразіліся яму бандыты, білі з абрэзаў, прастрэлілі каля локця левую руку, а Шабета бясстрашна, нястомна гайсаў на цярплівым коніку з сяла ў сяло, высвятляў, супакойваў, наводзіў парадак* (І. Мележ); *Колькі паводак прайшло лугавінай, колькі летаў і зімаў адышлі, прамільгнулі, а яны стаяць, дубы, зелянеюць пад сонцам то ў лагоднай задуме ціхім летнім світаннем, то ў срэбным шэпце-шэлесце пад вячэрнім ветрам, то ў пагрозным гомане-шуме ў часе восеньскай завірухі* (М. Лынькоў).

Супрацьпастаўленне з'яў, падзей у складаназлучаных сказах са злучнікам *а* вельмі выразна праяўляецца тады, калі ў першай прэдыкатыўнай частцы ёсць адмоўе *не*: *Не кватэр аганькі мірна ў вокнах гарэць, як калісьці, а агню языкі ліжуць ліпы салодкае лісце* (А. Куляшоў).

Найбольш семантычна насычаным злучнікам для выражэння адносін супрацьпастаўлення з'яўляецца злучнік *але*: *Зранку неба было і чыстае, і яснае, і яснасць стаяла доўга ўдзень, але за полуднем проста ўвачавідкі пачыналі пухнуць белыя, потым сіняватыя хмары* (І. Мележ); *У іх на хутары таксама было не густа, але травы не елі — даіліся дзве каровы, і ў свірне ў засеках тое-сёе яшчэ мелася* (В. Быкаў); *Навокал было ціха, але цішыня гэта не толькі не супакойвала, а нават як бы насцярожвала* (І. Мележ).

Замена злучнікам *а* злучніка *але* ў такіх выпадках прывядзе да змянення адцення значэння — да выражэння неадпаведнасці, уласнага супастаўлення.

Пры дапамозе злучніка *але* могуць выражацца с у п р а ц ь п а с т а ў л я л ь н а-ў с т у п а л ь н ы я адносіны. Другая частка такіх сказаў зместам супрацьлеглая таму, што трэба было чакаць на аснове выказвання першай часткі: *Яна адвыкла ўжо ад бацькі, але недзе ў глыбіні душы варушылася, пякло пачуццё жалю* (Р. Сабаленка); *Выглянула сонца, радасна пырснула праменнямі, але дождж яшчэ ішоў, сляпы, дробны* (І. Шамякін); *Ужо даўно развіднела, сонца з-за гор яшчэ не паказалася, але бясхмарнае неба ўгары, здавалася, аж звінела яркасцю ранішняга блакіту* (В. Быкаў); *Нічога асаблівага не было ў гэты вечар, але памяць пра яго грэла і трывожыла іх потым многія гады* (І. Мележ); *Ганна прамаўчала, але ў яе маўчанні ён пачуў згоду* (І. Мележ).

Часта ўступальныя адносіны настолькі выразныя, што маглі б быць аформлены даданымі ўступальнымі сказамі, але гэта не толькі прывяло б да больш катэгарычнага і аднабаковага выражэння адносін, але і парушыла б паралелізм, раўнавагу ўсёй структуры ў цэлым, пры якой

выказванню першай часткі супрацьпастаўляецца выказванне другой: *Вясна была яшчэ ўпачатку, але снягі ўжо раставалі і дружна ў полі балбаталі раўкі, рачулкі і ў грамадку яны ваду сваю злівалі* (Я. Колас); *Яна* [восень] *яшчэ нясмела ступала на спалавелыя летнія сцежкі, але жнівеньскія росы былі густыя, цяжкія і золкія, у паветры пахла спелымі каноплямі з агародаў* (І. Пташнікаў).

У складаназлучаных сказах са злучнікам *але* могуць выражацца с у п р а ц ь п а с т а ў л я л ь н а-а б м е ж а в а л ь н ы я адносіны, сутнасць якіх у тым, што дзеянне, якое павінна пачацца, па нейкай прычыне перарываецца ці не адбываецца: *Васіль хацеў прытуліць яе, прыкрыць світаю, але яна ўперлася рукамі, адхінулася і доўга стаяла асобна* (І. Мележ); *Нешта хацеў сказаць Сілівон, але паліцай груба адштурхнуў яго вінтоўкай* (М. Лынькоў); *Платон Астапавіч паімкнуўся злавіць унука, але той, звонка зарагатаўшы, уцёк да маці на кухню* (І. Шамякін); *Ён паспрабаваў усміхнуцца, але ўсмешка выйшла невясёлая, крывая* (І. Мележ); *Хацелася зноў заспяваць сваю кароткую, сумную песню, але цяпер яна не ішла* (Я. Брыль).

Асаблівасць ужывання злучніка *ж (жа)* заключаецца ў тым, што ён звычайна ставіцца не паміж часткамі складаназлучаных сказаў з супрацьпастаўляльнымі адносінамі, а ў другой састаўной частцы пасля таго члена, які супастаўляецца з адпаведным яму членам у першай частцы і на які заўсёды падае лагічны націск: *Я хлеба ў багатых прасіў і маліў, яны ж мне каменні давалі* (М. Багдановіч); *Ты імкнулася ў далеч прастораў бясконцых марскіх, я ж — да сэрца твайго, дзесь схаванага ў нетрах лясных* (А. Куляшоў); *Хутка ляціць над зямлёй самалёт, думы ж яго абганяюць* (П. Броўка); *Прэтэнзій у яго — хапіла б на слана, заслуг жа — як у зайца* (К. Крапіва). Злучнік *ж (жа)* характарызуецца ўласцівасцямі часціцы — надае сказу выдзяляльнае адценне.

У злучніку *затое*, які таксама звычайна знаходзіцца ў другой састаўной частцы складаназлучанага сказа, заўсёды ёсць указанне на замяшчэнне, кампенсацыю чаго-небудзь у адносінах да першай састаўной часткі: *Там, у цёмнай далёкай дарозе, хоць рызыка, затое недзе за ёй і надзея, палёгка Верачцы, ратунак* (І. Мележ); *Хлеба, грошай ты слугою мала будзеш мець, аплявухаў жа затое не будуць жалець* (Я. Купала); *На двары было цёмна, затое яснымі былі думкі ў чалавека* (М. Зарэцкі).

Злучнік *аднак* ужываецца для сувязі састаўных частак складаназлучаных сказаў у тым выпадку, калі супрацьпастаўленне з'яў і падзей, аб якіх паведамляецца ў гэтых частках, мае ўступальны характар. У с у п р а ц ь п а с т а ў л я л ь н а-ў с т у п а л ь н ы х сказах дзеянне другой прэдыкатыўнай часткі адбываецца наперакор той умове, якая выражаецца ў першай частцы. Складаназлучаныя сказы са злучнікам *аднак* сустракаюцца пераважна ў навукова-кніжным стылі і ў мове мастацкай літаратуры: *Самалёты праз хвіліну зніклі ў далечы, аднак неўзабаве яны зноў вярнуліся* (І. Мележ); *Сустрэча была запланавана на ранні вечар, аднак надвор'е, на жаль, унесла сваю папраўку ў план* (Я. Брыль); *Раскарчаваць усё гэта не проста, аднак іншага выйсця не было* (М. Лынькоў); *Аж твар пачырванеў ад болю, аднак нічога падазронага млынар не заўважыў* (К. Чорны); *На заводзе даўно ўжо гудкі прагудзелі, аднак бацькі няма* (А. Александровіч); *Такі стаpанны гэты Кох, аднак і ён нечага не дагледзеў* (М. Лынькоў).

У складаназлучаных сказах са злучнікамі *толькі, адно* выражаюцца с у п р а ц ь п а с т а ў л я л ь н а-а б м е ж а в а л ь н ы я адносіны. Другая прэдыкатыўная частка такіх сказаў абмяжоўвае, удакладняе значэнне, выражанае першай прэдыкатыўнай часткай. Выказнікі могуць быць і з аднолькавай, і з рознай суадноснасцю мадальна-часавых форм.

Злучальнае слова *толькі* ўжываецца пераважна для сувязі састаўных частак складаназлучаных сказаў у мастацкай літаратуры, а злучальнае слова *адно* — у гутарковай мове: *У доме панавала цішыня, толькі на двары ды на вуліцы чуліся асцярожныя крыкі вартавых* (М. Лынькоў); *Як заўсёды, яна цярпела гэтае біццё моўчкі — толькі вішнёвыя вочы гарэлі ўпартым, нядобрым агнём* (І. Мележ); *Усім было весела, толькі Міхед сядзеў, як на памінках* (Р. Сабаленка); *Гром аддаліўся, толькі часамі далятае яго прыглушаны грукат з далёкага цёмнага краю неба* (Я. Скрыган); *Партызаны ўзрадаваліся нечаканай знаходцы і гатовы былі прыняць яе на ўзбраенне, толькі ў гармаце не аказалася замка* (У. Шахавец); *Спіць мой край, адно не дрэмле варта яго надзейна ўзброеных сыноў* (П. Броўка); *У хаце ўсе яшчэ спалі, адно Валодзька штосьці гаманіў у сне* (І. Мележ); *Белая зіма здае свае пазіцыі на ўсім фронце, толькі дзе-нідзе, у самых глухіх закутках, замацаваліся яе белыя атрады, але і тыя, бачачы немінучую сваю пагібель, праліваюць раўчукі слёз* (К. Крапіва); *А ў полі і ў лесе было ціха, толькі ўгары жаласна пасвістваў каршун* (Я. Колас); *А мора ўжо ўгаманілася, толькі на прыбярэжнай кручы ды на мокрым жвіры пляжа ляталі белыя карункі пены* (Р. Сабаленка).

Злучальнае слова *наадварот*, якое ўжываецца для сувязі састаўных частак складаназлучаных сказаў у навукова-кніжным стылі і ў мове мастацкай літаратуры, мае значэнне рэзкага супрацьпастаўлення: *Гэтай сувязі ён стараўся не губляць, наадварот, ён яшчэ болей замацоўваў яе* (Я. Колас); *Непрыемнага адчування не было наадварот, цела поўнілася бадзёрасцю* (І. Шамякін); *Не свядомасць людзей вызначае іх быццё, а, наадварот, іх грамадскае быццё вызначае іх свядомасць* (К. Маркс); *Хуткае ахаладжэнне сталі спрыяе павелічэнню колькасці аўстэніту, наадварот, павольнае ахаладжэнне спрыяе яго разлажэнню ў мартэнсіт* (Весці АН БССР, 1984).

Злучальнае слова *тым не менш* ужываецца для сувязі састаўных частак складаназлучаных сказаў, калі адносіны супрацьпастаўлення паміж гэтымі часткамі суправаджаюцца ўступальным адценнем. Такія сказы ўжываюцца ў асноўным у навукова-кніжным стылі мовы: *Глеба на ўчастку апрацавана добра, тым не менш пачало паяўляцца пустазелле* (Звязда, 1984); *Ва ўсякім разе справу гэтую яна развязала, і тым не менш на сэрцы ў яе чамусь не было спакою* (Я. Колас).

У разрадзе супрацьпастаўляльных асобую групу складаюць складаназлучаныя сказы з альтэрнатыўнымі злучнікамі *а то, не то (а не то)*. Такія сказы выражаюць значэнне с у п р а ц ь п а с т а ў л е н н я з а д ц е н н е м у м о в ы; другая частка такіх сказаў указвае на магчымы вынік невыканання таго, пра што гаворыцца ў першай частцы: *Раней бы так заявіў, а то я павінен траціць час на ўсе гэтыя размовы* (М. Лынькоў); *Хоць бы вадою скрапілі, а то душыцца трэба з пылу* (К. Чорны); *Трэба ісці, не то позна будзе* (М. Зарэцкі).

Альтэрнатыўныя злучнікі ўласцівы размоўнаму стылю, яны перадаюць значэнні, блізкія да значэнняў слоў *інакш, у адваротным выпадку.*

Уласна супастаўляльныя і супрацьпастаўляльныя адносіны грунтуюцца на аснове розных лексічных значэнняў супастаўляемых членаў састаўных частак. Адносіны ж н е а д п а в е д н а с ц і вызначаюцца на аснове зместу састаўных частак і агульнага зместу складаназлучаных сказаў: *Хістаўся стары лад у саміх асновах сваіх, у муках болю нараджаўся другі, новы парадак, а Яхім Суднік жыў сваім жыццём* (Я. Колас); *Праўда, ходзіць ён і есць і наогул жыве не лепш ад мужыка, а ў хату яго хоць і носа не паказвай — бруд, гразь, чарната, але*

*знадворку хата мае зусім шляхецкі выгляд* (Я. Колас); *Стылі ногі і рукі, а са стрэх капала, і снег пад палазамі рыпеў мокра, паныла* (І. Мележ); *Соладка спявае, ды горка слухаць* (К. Чорны).

У сказах са значэннем неадпаведнасці злучнік *а* сінанімічны злучніку *але*, параўн.: *Ужо позні час, глыбока ночка, а хлапчукі сядзяць маўкліва і навакол глядзяць пужліва* (Я. Колас) — *Ужо позні час, глыбока ночка, але хлапчукі сядзяць маўкліва і навакол глядзяць пужліва.*

Пры выражэнні неадпаведнасці фактаў, пра якія гаворыцца ў састаўных частках сказа, могуць быць ужыты злучнікі *а* і *але*, аднак злучнік *а* надае сказу размоўны характар, у той час як злучнік *але* толькі канстатуе гэту неадпаведнасць.

Трывальна-часавыя суадносіны выказнікаў састаўных частак не выконваюць адпаведнай канструктыўнай функцыі ў вызначэнні характару супастаўляльных адносін: *Ноччу бый дождж, доўгі, здавалася, бясконцы, а ранак — аж зіхціць* (І. Мележ); *Лейтэнант меў ад сілы гады дваццаць чатыры, а нашай спадарожніцы можна было даць, здавалася, і ўсіх сорак пяць, калі не больш* (І. Мележ).

Аднак у большасці выпадкаў выказнікі састаўных частак маюць аднолькавыя часавыя значэнні, таму што супастаўленне з'яў і падзей звычайна праводзіцца ў адным і тым жа часавым плане: *Макару Наваку мінула ўсяго толькі дванаццаць год, але шмат змен адбылося за гэты час* (Я. Колас); *Мароз хадзіў па Яхімавай спіне, а перад вачыма нейкая бездань адчынялася* (Я. Колас); *Лісце на іх* [бярозах] *лілела толькі дзе-нідзе, а несціханы вецер усё тузаў гнуткае голле, збіваў лісты і, круцячы, гнаў некуды за агародчык, у апусцелае поле* (І. Мележ); *Аня ўстала, увайшла ў хату, а ўслед падалася і Арына* (І. Мележ); *Ён намерыўся ісці, але Ганна, зразумеўшы гэта, ускінула на яго вочы, ціха, спалохана прызналася...* (І. Мележ); *Старшына нахмурыўся, але тут яго самога ўзяла цікавасць, і ён не закрычаў, а нецярпліва ступіў па гразі і строга спытаў* (В. Быкаў).

### *Складаназлучаныя сказы з пералічальна-размеркавальнымі злучнікамі*

§ 229. У такіх сказах выражаецца несумяшчальнасць ці чаргаванне пэўных з'яў.

Раздзяляльныя адносіны не выражаюцца складаназалежнымі і бяззлучнікавымі сказамі, таму для складаназлучаных раздзяляльных сказаў няма сінтаксічных сінонімаў сярод складаных сказаў.

Сказы з раздзяляльнымі адносінамі могуць складацца больш чым з дзвюх частак, інтанацыя іх пералічальная. Часткі такіх сказаў нярэдка будуюцца па законах структурнага паралелізму: *То марозна, то пахне жарам, то змрочная ноч стаіць на дварэ* (М. Лынькоў); *То дажджоў мала, і збажына блекне на перасохшай глебе, то іх залішне, і яны не даюць адкрасавацца жыту, а то наплыве хмара і разам з дажджом сыпне камякамі граду* (Т. Хадкевіч).

Трывальна-часавыя суадносіны выказнікаў складаназлучаных сказаў з пералічальна-размеркавальнымі злучнікамі не выконваюць пэўнай канструктыўнай функцыі ў вызначэнні характару сінтаксічных адносін. Аднак у большасці выпадкаў трывальна-часавыя значэнні выказнікаў супадаюць: *То сонца смаліць, то дзьме снегавей* (М. Хведаровіч); *То шышка зваліцца з хваіны, то сук збуцвелы ападзе* (А. Астрэйка); *Ці жаўрук звінеў у небе, ці свістаў на ліпе шпак* (Ц. Гартны).

Паралічальна-размеркавальныя злучнікі могуць быць адзіночныя і паўторныя.

Стылістычна нейтральныя злучнікі *ці, або* (адзіночныя і паўторныя) часцей за ўсё выражаюць адносіны ўзаемавыключэння: змест першай прэдыкатыўнай часткі гэтых сказаў выключае магчымасць зместу другой і наступных частак і наадварот: *Ноч плыве ці белы дзень пагас?* (А. Пысін); *Час ад часу прагудзе машына, або, высякаючы дугой сінія іскры, прагрукаціць амаль пусты трамвай* (Я. Брыль); *Або гэта зломлена супрацiўленне, або нападаючыя пасляабілі націск* (Т. Хадкевіч); *Або іх тут не было, або яны проста не адважваліся падаваць голасу* (Я. Колас).

Злучнік *то — то,* які паўтараецца, указвае на паслядоўную змену падзей: *То сціхне вятрыска, то мацнее набег* (П. Прыходзька); *То нямеюць нівы ў полі, то дрыжыць пяшчотна гай* (У. Хадыка); *То мароз марозіць, то золіць слата* (Я. Купала); *То ён, знясілены, сухотны, пад градам куль імчыць, то ён за лентай кулямётнай з багунцамі ляжыць* (П. Броўка); *То ён згледзіць на дарозе цікавага жучка, то з травы ўздымецца птушка, то праляціць прыгожы матылёк* (Я. Колас).

Такія сказы ўжываюцца ва ўсіх стылях літаратурнай мовы.

Злучнікі *ці то — ці то, не то — не то* (паўторныя) указваюць на з'явы няпэўныя, невыразныя; у іх перадаецца сумненне, меркаванне аб падзеях, з'явах: *Ці то нябёсы адамкнуліся і ціха-ціха адгукнуліся зямлі, усяму стварэнню, ці то вясна йдзе ў аддаленні* (Я. Колас); *А што было далей? Ці то яму снілася, ці гаварыў хто з начлежнікаў?* (Я. Колас); *Ці то дзед і цяпер крыкнуў, ці то Віхор трывожна заіржаў* (З. Бядуля); *Ці то птушка божжа кінула зярно, ці то занясло бураю яно, ці з дзіравай торбы конік чый згубіў, на чужую скібу зерне пасадзіў* (Я. Колас); *Над полем не то пыл курэў, не то трапяткая імгла ўзнялася аж да самага лесу* (М. Лынькоў); *Не то сякера мерна чэша, не то хтось кашляе ці брэша* (Я. Колас);*Не то самалёт у вышыні гудзіць, не то машына нейкая грукоча* (З. Бядуля); *У карых вачах чалавека свяцілася не то хітрынка, не то прарывалася лёгкая ўсмешка* (М. Лынькоў); *Не то загукала сава, не то прапішчаў заяц* (Я. Маўр).

Злучнік *ці — ці* ўжываецца ў складаназлучаных раздзяляльных сказах, якія выражаюць паралічэнне падзей, з'яў, што ўзаемавыключаюць адны другіх: *Ці ён грозіць каму, ці спужаў яго страх?* (Я. Колас); *Ці ён забыўся на яе словы, ці нейкія думкі адцягвалі ад песні* (М. Лынькоў); *Ці гэта казку лес складае, ці даль ачнулася нямая і немасць песняй парушыла* (Я. Колас).

Складаназлучаныя сказы з паўторным злучнікам *ні—ні,* які ўжываецца толькі ў адмоўных сказах, складаюцца з дзвюх і больш частак. Для такіх сказаў характэрна паралічальная інтанацыя: *Ціха. Ні лісце не зашалясціць, ні птушка не праляціць. Ні пастух сюды з авечкамі не заходзяць, ні ветру няма паміж хвойнікаў* (К. Крапіва); *Ні заяц не набягаў, ні дробная птушка не пралятала* (М. Лынькоў); *Ні адзін твар не перасмыкнуўся рысай хцівасці, ні ў каго вочы не кінулі позірку сквапнасці* (К. Чорны).

Сказы са злучнікам *ні—ні* сінанімічныя сказам з паўторным злучнікам *і—і,* параўн.: *Ні махі табе не паламае, ні парусу не парве* (М. Лынькоў) — *І махі табе не паламае, і парусу не парве.* Абодва тыпы сказаў указваюць на паралічэнне з'яў, што суіснуюць у часе, аднак злучнік *ні—ні,* які паходзіць ад узмацняльнай часціцы, захоўвае гэта ўзмацняльнае значэнне, у выніку чаго ў сказах са злучнікам *ні—ні* адмоўнае значэнне больш выразнае.

Раздзяляльныя складаназлучаныя сказы сучаснай беларускай мовы адносяцца да ліку сказаў з агульнай супастаўляльна-супрацьпастаўляльнай семантыкай.

### *Складаназлучаныя сказы з далучальнымі злучнікамі*

§ 230. Далучальныя злучнікі служаць для сувязі састаўных частак такіх складаназлучаных сказаў, у другой частцы якіх ёсць дадатковыя звесткі ці заўвагі да зместу першай часткі: *Тады ўдвух падымалі сетку, прычым падымаць трэба было хутка* (Я. Колас); *На чорта служба гэтая, ды і каму служыць?..* (І. Навуменка); *Ен быў у атрадзе ўвесь час, дый так яна знала яго, да прыходу ў атрад* (Я. Брыль).

У якасці першай — асноўнай — часткі такіх сказаў выступае просты сказ, які можа абсалютна свабодна функцыяніраваць асобна. У якасці другой часткі ўжываюцца сказы, што з'яўляюцца пэўным дапаўненнем да першай, далучанай часткаю сказа, якая або абумоўлена канкрэтным значэннем першага члена, або ўзнікла ў сувязі з ім.

Думка, выказаная ў першай частцы, у дадатковай частцы складаназлучанага цэлага знаходзіць сваё ўдакладненне, паясненне і далейшае развіццё або ўскладняецца іншымі думкамі, што ўзнікаюць адначасова з ёй ці некалькі пазней.

Як правіла, далучальныя адносіны выражаюцца злучнікамі, асноўная функцыя якіх заключаецца ў выражэнні спалучальных і супастаўляльна-супрацьпастаўляльных значэнняў: *За квасам елі верашчаку, а потым блінчыкі на маку, а там ламанцы, праснакі з пшанічнай добрае мукі; а макаў сок такі салодкі!* (Я. Колас); *Гады бягуць, гады каменне крышаць, а мора б'е, цалуюць хвалі дно* (П. Трус); *Памалу гутарку мы распачалі, а шмат аб чым пагутарыць было* (Я. Купала); *Васька не пісаў нікому, толькі ўсміхаўся шчаслівай усмешкай сваім таварышам, ды збялелыя вусны шапталі апошнія, не зразумелыя для некаторых словы* (М. Лынькоў).

Пры далучальнай сувязі сказаў: 1) другая прэдыкатыўная частка ўзнікае як бы ў час самога працэсу маўлення, як нешта дадатковае да першай; 2) дадатковы характар другой часткі абумоўлівае інтанацыйную своеасаблівасць далучальнай канструкцыі: перад злучнікам голас паніжаецца і ўтвараецца паўза, на пісьме гэта інтанацыйная асаблівасць можа абазначацца кропкай з коскай ці працяжнікам; 3) іншы раз пры злучніках з далучальным адценнем ужываюцца часціцы, прыслоўі, займеннікі (*і вось, і прытым, а таму, і ўслед за тым* і пад.).

У сучаснай беларускай мове далучальная сувязь мае шматлікія разнавіднасці, кожная з якіх выкарыстоўваецца для афармлення адпаведных сінтаксічных адносін паміж састаўнымі часткамі складаназлучаных сказаў: далучальна-пералічальных, далучальна-азначальных, далучальна-паясняльных, далучальна-абмежавальных, далучальна-вылучальных, далучальна-прычынных, далучальна-заключальных.

Граматычным сродкам сувязі састаўных частак складаназлучаных сказаў з далучальна-пералічальнымі адносінамі з'яўляюцца злучнікі *ды, ды і, а* і інш.: *Шрыфт у нас ёсць, ды і ў атрадзе Кандыбы маюцца шрыфты дзвюх раённых друкарань* (І. Шамякін); *Міхал замёр, стаіць маўкліва, а з ім і Сціда нерухліва* (Я. Колас); *Трэба прасіць машыны, ды і крэдыт некаторы спатрэбіцца* (П. Броўка); *А цяпер хаця малачка пакаштуй, ды хлеб вось тут у мяне прызапашаны* (М. Лынькоў).

Заўвага. Злучнік *ды і* з'яўляецца адзіным спецыфічна далучальным злучнікам, які выражае толькі далучальныя адносіны. У складаназлучаных сказах з гэтым злучнікам далучальная сувязь паміж першай і наступнай часткай выражана асабліва выразна дзякуючы спецыфічнаму моўнаму афармленню. Наступнае за злучнікам *ды і* слова заўсёды лагічна выдзяляецца з усіх астатніх слоў далучанай часткі. Злучнік *ды і* надае складаназлучаным сказам узмацняльна-градацыйнае адценне.

У састаўных частках такіх сказаў пералічваюцца паведамленні аб з'явах і падзеях, прычым змест другой часткі не выцякае са зместу першай, а нанізваецца на яго, дзякуючы чаму дасягаецца больш поўнае апісанне агульнай складанай карціны.

Асабліва выразна праяўляецца характар далучальна-пералічальных адносін у тых складаназлучаных сказах, у якіх пералічэнне суправаджаецца ўжываннем пабочных слоў *па-першае, па-другое* і пад.: *Па-першае, трэба праверыць словы маладзіцы і па-сапраўднаму разведаць, якое становішча ў мястэчку, і, па-другое, трэба параіцца з Букрэем* (Я. Колас); *Дык ці не сказаць яе* [прамову] *цяпер? Па-першае, будзе практыка яму, а па-другое, праверыць моц свае прамовы* (Я. Колас); *Значыцца, гэта было не так, бо, па-першае, святло магло ўвагу людскую ў тое месца накіраваць, а па-другое, ён не ўзяў гэтага на ўвагу і ўпарта некалькі разоў як бы падаваў некаму сігнал* (К. Чорны).

Граматычным сродкам сувязі састаўных частак складаназлучаных сказаў з далучальна-азначальнымі адносінамі з'яўляюцца злучнікі *і, ды, а.*

Далучальна-азначальныя адносіны — гэта такія сінтаксічныя адносіны паміж састаўнымі часткамі складаназлучаных сказаў, пры якіх далучаемая частка характарызуе папярэднюю састаўную частку, раскрываючы яе змест з боку якасці, прызначэння і г. д.

Дадатковая характарыстыка першай састаўной часткі складаназлучаных сказаў з далучальна-азначальнымі адносінамі знаходзіць сваё найбольш яркае граматычнае выражэнне ва ўказальным займенніку *гэта (гэты, гэтая, гэтае, гэтыя)* і інш., якія знаходзяцца ў другой часткі: *Ён будзе змагацца, і змаганне гэта будзе цяжкім* (М. Лынькоў); *З палеткаў павеяла свежым ветрам, і гэты вецер прынёс духмяны водар канюшыны і палявых кветак* (А. Чарнышэвіч); *Стаяў калісь тут бор стары, і жыў лясун у тым бары* (М. Багдановіч); *Падступіцца да гарэўшых цыстэрн не было ніякай магчымасці, ды гэта было і небяспечна* (М. Лынькоў); *Іх на гэты час не было тут, ды на гэта ніхто і ўвагі не звярнуў...* (Я. Колас); *Вольцы патрэбна была моцная апора, а гэтай апоры яна не мела нават у сям'і* (К. Крапіва); *Галодны тут жа госць ляжаў, а гэта значыла нямала* (Я. Купала).

Своеасаблівую групу ўтвараюць складаназлучаныя сказы, у якіх другая частка звязана з першай пры дапамозе далучальных злучнікаў *а іменна, гэта значыць, напрыклад: Прыватная ўласнасць на зямлю наогул павінна быць знішчана, г. зн. права ўласнасці на ўсю зямлю павінна належаць толькі ўсяму народу* (У. І. Ленін); *Да самага апошняга часу засталіся такія віды раслін, якія ў працэсе сваёй жыццядзейнасці ўтвараюць рэчывы з высокай ступенню вуглефіксацыі; напрыклад, некаторыя складанакветкавыя расліны адкладаюць у каляплодніках так званы фітамелон да сямі працэнтаў* (Весці АН БССР, 1983); *Высокі госць знаёміўся з жыццём працоўных нашай краіны, а іменна: ён пабываў у рэспубліках Сярэдняй Азіі і Закаўказзя* (Звязда, 1984).

У такіх складаных сказах той, хто гаворыць, пры дапамозе другой часткі ўдакладняе, раскрывае змест першай часткі. Таму ў гэтых частках ёсць своеасаблівы сэнсавы паралелізм, што абумоўлівае ўключэнне гэтых сказаў у групу складаназлучаных, хоць паясняльныя злуч-

нікі і ўказваюць на залежны характар другой часткі. Першая частка заканчваецца значным паніжэннем голасу і паўзай. Такія сказы па значэнню зближаюцца са складаназалежнымі.

Складаныя сказы з далучальнымі злучнікамі ўжываюцца ў мове параўнальна рэдка. Для выражэння паясняльна-далучальных адносін часцей выкарыстоўваюцца бяззлучнікавыя сказы: *Яго жонка рабіла работу болей лёгкую і болей далікатную: яна падбірала пер'е* (Я. Колас); *Вясна прыходзіла звычайна: на берагі глухіх нізін сачыліся з узгоркаў тайна крывыя вены ручаін* (П. Глебка).

Граматычным сродкам сувязі састаўных частак складаназлучаных сказаў з далучальна-абмежавальнымі адносінамі ў сучаснай беларускай мове з'яўляюцца злучнікі *ды і то, і то* і інш.: *Не дужа вялікая сходка, і то больш дзяды* (Я. Колас); *Ну, можа самы найменшы элемент трывогі ў яго быў апошнімі часамі, і то з'яўляўся ён не часта* (К. Чорны); *Мы вырашылі ўзяць рэчы, ды і то іх набралася столькі, колькі нам пад сілу было панесці* (І. Гурскі).

У сказах такога тыпу дадатковае паведамленне, выражанае другой часткай, удакладняе і разам з тым абмяжоўвае рамкі праяўлення таго, аб чым паведамляецца ў першай састаўной частцы.

Для выражэння далучальна-вылучальных адносін выкарыстоўваюцца такія складаназлучаныя сказы, другая частка якіх вылучае і падкрэслівае штосьці вельмі важнае са зместу (або адносна зместу) папярэдняй састаўной часткі.

Далучальна-вылучальныя адносіны паміж часткамі складаназлучаных сказаў вызначаюцца на аснове зместу гэтых састаўных частак і іх інтанацыйнага афармлення.

Граматычным сродкам сувязі састаўных частак складаназлучаных сказаў з далучальна-вылучальнымі адносінамі з'яўляюцца злучнікі *і, але, тым больш: Гэта часта было, і заўсёды тады, калі Бушмар пакідаў за сабою ўсё і быў адзін* (К. Чорны); *Яна думае нейкія свае думкі, але якія, сказаць трудна* (Я. Колас); *Трэба было кудысьці схавацца, але куды — ён і сам добра не ведаў* (М. Лынькоў); *Яе лічылі разумнай, разважлівай маладзіцай, і нават самыя старыя пачалі звяртацца да яе, як да роўнай ім* (І. Шамякін).

Далучальна-вылучальныя адносіны, якія выражаюцца і афармляюцца пры дапамозе злучніка *тым больш што (тым болей што)*, звычайна ўскладняюцца прычынным або прычынна-выніковым адценнямі: *Дзед не хацеў трывожыць сына дзеля эфектнасці моманту, тым болей што Мартын Рыль мог і не быць* (Я. Колас); *Было яшчэ ўсё ж такі душнавата, тым больш што і вецер сюды амаль не пранікаў* (А. Кулакоўскі); *Ніхто не бачыў у гэтым незвычайнага, тым больш што такія здарэнні заўважаліся часта адначасова і ў многіх месцах* (Т. Хадкевіч).

У другой частцы складаназлучаных сказаў з далучальнай сувяззю можа змяшчацца дадатковае ўказанне на прычыннае значэнне папярэдняй часткі. Такія складаназлучаныя сказы выражаюць далучальна-прычынныя адносіны.

Састаўныя часткі складаназлучаных сказаў з далучальна-прычыннымі адносінамі аб'ядноўваюцца пры дапамозе злучнікаў *і, а* ў спалучэнні са словам *таму (загэтым): Наша справа калектыўнай гаспадаркі ёсць справа жыццёвая, правільная, а таму ёй належыць будучыня* (Я. Колас); *У хаце было душна, а таму мне вельмі не хацелася сядзець дома* (З. Бядуля); *Аб'езд быў далёка, і таму рашылі паспрабаваць прайсці праз мост* (І. Мележ); *У друкарні не хапае рабочай сілы, і таму іх выпусцілі са школы датэрмінова* (Я. Брыль); *Горасць абхват-*

*вае ўсё жыццё, жыццё ўсіх, а загэтым трэба ўсім разам і выходзіць на светлую дарогу...* (К. Чорны).

Складаназлучаныя сказы, другая састаўная частка якіх змяшчае дадатковыя звесткі абагульняючага (заключальнага) характару адносна зместу папярэдняй састаўной часткі, выражаюць д а л у ч а л ь н а-з а к л ю ч а л ь н ы я адносіны. Граматычнымі сродкамі сувязі састаўных частак такіх сказаў служаць *і, ды, ды і,* а таксама пабочныя словы *значыць (значыцца), адным словам (словам).*

Найбольш выразна характар далучальна-заключальных адносін праяўляецца ў тых выпадках, калі састаўныя часткі аб'яднаны пры дапамозе пабочных слоў *адным словам* і асабліва *значыць,* паколькі гэтыя словы адназначныя: *Птушка цягне здабытак птушаняці малому — значыць, дбаць пра жывое трэба заўжды жывому* (П. Броўка); *Рунь кусцістая на гонях — значыць, будзе ураджай* (П. Глебка); *Паліцца печ, значыць, маці дома* (А. Васілевіч); *Размова павялася між паненкамі і Саханюком аб справах другога зместу, аб іх знаёмых, адным словам, пачалося пераліванне з пустога ў парожняе* (Я. Колас); *Усё неяк не ладзіцца, не шанцуе, адным словам, няма чалавеку сапраўднага разгарнення* (М. Лынькоў).

Менш выразна характар далучальна-заключальных адносін праяўляецца ў складаназлучаных сказах са злучнікамі *і, ды, ды і.* У такіх сказах далучальна-заключальныя адносіны ўскладняюцца тымі дадатковымі адценнямі, якія залежаць ад характару злучнікаў *і, ды, ды і.*

У адных з такіх сказаў другая састаўная частка можа з'яўляцца пэўным падагульненнем таго, пра што гаварылася ў першай частцы: *Пачатак быў зроблены, і, трэба сказаць, пачатак нядрэнны...* (Я. Брыль); *Наяўнасць лішніх людзей ля пакгауза паказалася яму падазронай, ды і хто, наогул, мае права блізка хадзіць ля такога месца* (М. Лынькоў).

Другая частка складаназлучаных сказаў з далучальна-заключальнымі адносінамі можа выражаць мімаходную заўвагу абагульняючага характару адносна таго, што паведамляецца ў папярэдняй састаўной частцы: *Тры зімы толькі хадзіла ў школу, дый калі ўжо тое было!* (Я. Колас); *Маладосць яго згубіла, ды каго яна не згубіла!* (Я. Купала); *Людзі казалі, ды ці мала чаго людзі гавораць!* (М. Лынькоў).

# СКЛАДАНАЗАЛЕЖНЫЯ СКАЗЫ

## АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА

§ 231. С к л а д а н а з а л е ж н ы м і называюцца складаныя сказы, у якіх часткі — галоўная і даданая — звязаны падпарадкавальнай сувяззю. Галоўная частка складаназалежнага сказа сінтаксічна незалежная, а даданая знаходзіцца ў сінтаксічнай залежнасці ад галоўнай і далучаецца да яе пры дапамозе злучнікаў і злучальных слоў: *Мы пад'язджаем да цэнтра былога Тураўскага княства, якое ў свой час супернічала з княствамі Кіеўскім і Полацкім* (Б. Сачанка); *Так павялося, што ў наш агародчык прылятаюць частавацца шпакі* (М. Лужанін); *Людзі, лёс якіх залежаў у нейкай ступені ад Лынькова, успамінаюць Міхася Ціханавіча добрым словам* (Я. Брыль).

Даданая частка складаназалежнага сказа можа адносіцца да слова — назоўніка (або іншай часціны мовы са значэннем назоўніка), дзеяслова — і выступае як разгорнуты даданы член сказа: *З хаты па-*

*чынаецца кут, што людзям люб* (А. Куляшоў); *Цяпер людзі асцярожныя і не чакаюць, пакуль іх схопяць ці ўдараць* (І. Шамякін); *Юрка хоча тады крыкнуць самому Завішнюку, запытацца, дзе яны абыходзілі тое месца* (І. Пташнікаў). У такім выпадку падпарадкавальная сувязь паміж галоўнай і даданай часткамі мае падабенства да сувязі паміж галоўным і даданым членамі сказа, даданая частка можа быць заменена даданым членам сказа. Так, у сказе *Мартын чакае, покі дзед выкажацца да канца* (Я. Колас) даданая частка можа трансфармавацца ў даданы член сказа (*Мартын чакае канца дзедавай гаворкі*).

Даволі часта даданая частка складаназалежнага сказа залежыць ад пэўнага слова галоўнай часткі не непасрэдна, а праз указальнае (адноснае) слова, якое ў галоўнай частцы выконвае тую самую сінтаксічную функцыю, што мае даданая частка. У гэтым выпадку даданая частка раскрывае змест у значнай ступені асемантызаванага ўказальнага слова, а ўказальнае слова служыць для сувязі галоўнай і даданай частак і абумоўлівае характар адносін паміж імі: *Не было таго дня, каб у маладога паэта не нарадзілася новай задумы, не з'явілася новага верша* (С. Александровіч); *Вось зноў тая канава, дзе мы пакінулі сваіх параненых* (А. Адамовіч); *Але вандроўнае шчасце тым і цікавае, што яно поўнае самых розных здарэнняў і нечаканасцей* (К. Кірэенка).

Даданая частка можа таксама адносіцца да прэдыкатыўнага словазлучэння ў галоўнай частцы або да ўсёй галоўнай часткі: *А колькі па землях тваіх прайшло вялікіх і малых войнаў, нават на людской памяці, калі крамсалі і рвалі цела тваё на кавалкі* (Я. Скрыган); *Каб гаварыць з зямлёй, я вучыўся ў касы і плуга...* (М. Танк); *Як пайшоў пасля Юр'я спорны веснавы дождж, дык пасля амаль усё лета не ўпала з неба ні кропелькі* (С. Александровіч).

Даданая частка складаназалежнага сказа можа падпарадкоўвацца не толькі галоўнай, але і другой даданай частцы гэтага сказа: *У сэрцы кожнага беларуса ніколі не згасне памяць сэрца пра горкі і вялікі вопыт мінулай, самай небяспечнай і самай цяжкай вайны, якая яшчэ раз дала нам урок таго, што братэрства народаў, саюз народаў не толькі высакародна прывабныя, але жыццёва неабходныя* (І. Мележ); *Я прыглядаўся да горада і з нейкай радасцю адзначаў сабе, што ён не такі, які здаваўся мне, калі я ўбачыў яго ўпершыню* (М. Стральцоў); *Творы Янкі Купалы абуджаюць светлае жаданне ўбачыць увачавідкі тыя мясціны, што ўзгадавалі яго, тыя сцежкі, па якіх хадзіў вялікі пясняр, выкрасаючы з сэрца асветленыя магутным розумам радкі, што ўвабралі ў сябе гэтак шмат народных дум, людской журбы, радасных спадзяванняў і здзяйсненняў* (У. Юрэвіч).

Слова (у тым ліку ўказальнае), прэдыкатыўнае словазлучэнне ў галоўнай частцы (ці ў даданай, ад якой залежыць другая даданая частка) з'яўляюцца апорным элементам, які абумоўлівае адносіны паміж галоўнай і даданай часткамі. У залежнасці ад апорнага элемента галоўнай часткі складаназалежныя сказы можна падзяліць на тры тыпы.

1. Сказы з апорным элементам галоўнай часткі — указальным займеннікам ці займеннікавым прыслоўем: *А чалавек той, хто змагаецца за роўнае права на шчасце для ўсіх людзей* (У. Караткевіч); *Па тым, як, хліпнуўшы, знік цьмяны водсвет на чорнай бэльцы істопкі, яна* [Сцепаніда] *зразумела, што ўрэшце там выключылі святло* (В. Быкаў); *Пясок за дзень так награваўся, што, здавалася, ступаеш у прысак* (С. Александровіч). Да гэтага тыпу адносяцца і сказы з апорным элементам — прыслоўем, якое мае поўнае лексічнае значэнне: *Захіляла яе* [крыніцу] *алешнікам, травою густа, што нават і ў самую гарачыню цяжка было дастаць яе сонцу* (А. Жук); *На захадзе, куды бяс-*

*концым патокам рухаліся вайсковыя часці, чулася артылерыйская кананада* (І. Мележ); *У хаце было ціха: дзеці са школы яшчэ не вярнуліся, Ганна з Бярозава прыйдзе толькі вечарам, калі добра сцямнее* (В. Гігевіч).

2. Сказы з апорным элементам галоўнай часткі — назоўнікам (ці часцінай мовы, што ўжываецца са значэннем назоўніка), дзеясловам: *Не было ў жыцці выпадку, каб Сяргей Аляксандравіч куды-небудзь спазніўся...* (М. Лобан); *Чаму захацелася завярнуць на млын, Ігнат і сам не ведаў, але завярнуў недарма* (А. Жук); *Фурман адчуў, які настрой у Багушэвіча, і пачаў падганяць каня хутчэй* (В. Хомчанка).

3. Сказы з апорным элементам галоўнай часткі — прэдыкатыўным словазлучэннем, ядром якога з'яўляецца выказнік, развіты акалічнасцю: *Усёй станцыі толькі і было, што драўляны дом на высокім, у пояс чалавека, каменным падмурку па адзін бок пуцей, і вадакачка з чырвонай цэглы — па другі* (А. Кудравец); *Цяпер ужо за грэх не лічылася, калі хто заступаўся ў сварцы за сваю жонку* (В. Гігевіч); *Дзіка назіраць, як карнікі стараюцца ўратавацца ад балота, як кідаюцца, цягнуцца да чэзлых дрэўцаў і купін, хаваюцца адзін за аднаго, за партызанаў, нават за Пераходаў, нібы не разумеючы, што ўжо мерцвякі* (А. Адамовіч). У некаторых сказах гэтага тыпу даданая частка можа адносіцца не да прэдыкатыўнага словазлучэння, а да дзеяслова-выказніка: *Вясенні́м днём брыгада працавала, пакуль вячэрняю імглой на нівы ноч не спала* (М. Танк); *Алеся наліла два куфлі, паставіла, каб піва адстаялася* (П. Пестрак).

Сказы з апорным элементам — словам (указальным словам, прыслоўем, назоўнікам, дзеясловам) называюцца сказамі нерасчлянёнай структуры; сказы, у якіх функцыю апорнага элемента выконвае прэдыкатыўнае словазлучэнне,— сказамі з расчлянёнай структурай.

Даданая частка як моўная адзінка існуе толькі ў структуры складаназалежнага сказа і мае пэўнае граматычнае значэнне, якое абумоўліваецца наяўнасцю пэўных злучнікаў (злучальных слоў). У залежнасці ад граматычнага значэння вылучаюцца наступныя даданыя часткі складаназалежнага сказа:

1) даданыя часткі з агульным значэннем прадметнасці. Яны далучаюцца да галоўнай часткі пры дапамозе злучнікаў (злучальных слоў) *хто, што* ў назоўным і ва ўскосных склонах: *Праўду сказаць, я і сам бачыў, што вершы ў мяне выходзяць нейкія не свае, нават мне самому чужыя* (Я. Скрыган); *... тады Наронскі пакрысе супакойваўся, доўга, забыўшыся пра тое, што ім трэба чытаць нарад, расказваў, як варацьшкло і як з яго дзьмуць посуд* (А. Жук); *Сапраўднаму рыбаку не трэба тое, што даецца ў рукі само* (К. Кірэенка);

2) даданыя часткі са значэннем азначальнасці. Да галоўных яны далучаюцца пры дапамозе злучальных слоў *які, каторы, чый* у назоўным і ўскосных склонах: *За сталом былі мужчыны і стары між імі, у каторага маршчыны леглі пад вачыма* (Я. Колас); *Не абняць і не змераць пачуццяў савецкіх людзей, чыя непарушная вера да мэты нязменна вядзе* (П. Глебка); *Віця прынёс з сабой двух ляшчоў такіх, якіх Сцяпан памятаў толькі з дзяцінства, як малы яшчэ быў* (А. Жук); *Потым да таго двара, з якога чуўся крык, па адным сходзіліся ціхія жыцейцы* (В. Гігевіч);

3) даданыя часткі са значэннем часу. Далучаюцца пры дапамозе злучнікаў і злучальных слоў *калі, як, пакуль, аж (ажно) пакуль, ледзь, ледзь толькі* і інш.: *З таго часу, як прыехаў новы жыхар у сёмы пакой, Зіне стала жыць цікавей* (А. Карпюк); *Даседзімся, пакуль усю* [зямлю] *параздаюць, а мы, каторыя за яе кроў пралівалі, астанемся з дуляй пад*

*носам* (К. Губарэвіч); *І цяпер ён у такім настроі прайшоў вялікую адлегласць, пакуль не пачало шарэць неба* (К. Чорны); *Так ён болей і не заснуў, аж пакуль не прыехалі ў Ратміравічы* (С. Грахоўскі); *Якой першай рабоце вучылі, бывала, вясковую дзяўчыну, ледзь паспее яна вылезці з плёнак? Прасці кудзелю, сукаць цэўкі* (В. Палтаран);

4) даданыя часткі са значэннем месца. Яны далучаюцца пры дапамозе злучнікаў і злучальных слоў *дзе, куды, адкуль: Там, дзе дрыжала празрыстае неба, чарнелі хмары, гусцелі і сунуліся на вёску* (І. Пташнікаў); *Туды, адкуль толькі што вярнуліся разведчыкі, Лагуновіч накіраваў групу танкаў* (І. Мележ); *Там, дзе былі каліські топкія месцы, трава была добрая, а на мурожных грудах чарнеў пасохлы дзяцельнік і малачайнік* (С. Александровіч);

5) даданыя часткі са значэннем умовы. Да галоўнай часткі яны далучаюцца пры дапамозе злучнікаў *калі, каб, як: Калі б добра ўсім падумаць, то не варта было б перацягваць млын у Клубчу* (А. Жук); *Звычайна калі да нас хто прыходзіў, то гэта была навіна, і я скарэй бег у хату* (Я. Скрыган); *Каб знайшліся смелыя хлопцы, то маіх гасцей можна жывымі і цёпленькімі затурыць у лес* (І. Новікаў). Даданыя часткі ўмовы могуць далучацца і пры дапамозе злучніка *раз: Раз на тое пайшло, то я магу пра ўсё расказаць* (І. Пташнікаў);

6) даданыя часткі са значэннем прычыны і падставы. Яны далучаюцца пры дапамозе злучнікаў *бо, таму што, ад таго што, з-за таго што, дзеля (для) таго што: Далей нейкі час ішлі моўчкі, бо Кобцаў, зразумеўшы, што закрануў у гаворцы для Багушэвіча балючае, таксама замаўчаў* (В. Хомчанка); *Гэта нядоўгія, хуткія хвіліны.., таму што надыдзе міг, калі скончыцца і гэтая пагоня па спружыністай тарфяной зямлі, і гэтае пачуццё* (В. Быкаў); *Дзеля таго, што на дварэ холадна, дзеці гуляюць у хаце* (Б. Мікуліч);

7) даданыя часткі са значэннем мэты. Да галоўных далучаюцца пры дапамозе злучніка *каб: Тут у бой ішоў з пагардай да смерці, каб ратаваць мой край* (П. Панчанка); *Каб трошкі свабадней было, райкомаўскі дом метраў за дваццаць ад вуліцы адступіўся* (М. Лобан); *Толькі Пятрок павярнуўся, каб адысціся ад калодзежа, як згледзеў карову...* (В. Быкаў);

8) даданыя часткі са значэннем спосабу дзеяння. Далучаюцца пры дапамозе злучнікаў *як, што, каб: Зруб зледзянеў так, што засталася толькі маленькая, як прайсці вядру, проламка* (А. Кудравец); *Лепш рабіць усё так, каб ніхто не бачыў* (К. Чорны); *Яна старалася трымацца так, як бы нічога не было* (П. Броўка);

9) даданыя часткі са значэннем меры і ступені. Яны далучаюцца пры дапамозе злучальных слоў *колькі, наколькі, што*, злучальнай канструкцыі *па меры таго як: Мартын удзеліць ёй столькі ўвагі, колькі патрабуюць дачыненні чалавека да чалавека* (Я. Колас); *Яна столькі разоў, мусіць, бегала сюды плакаць, што лічыла палянку сваёй таямніцай* (А. Адамовіч). Ролю злучнікаў у сказах з даданай часткай меры і ступені можа выконваць часціца *ажно (аж): Мароз так цісне, ажно дух займае* (З. Бядуля);

10) даданыя часткі са значэннем параўнання. Да галоўных яны далучаюцца пры дапамозе злучнікаў *як, быццам, як быццам, нібы: Але яны нават не зірнулі на яго, быццам ён быў нейкае дрэва, а не гаспадар хутара* (В. Быкаў); *Вузкае і доўгае, як амаль усе азёры поўначы, яно цягнулася на паўночны захад так далёка, што супрацьлеглы бераг яго вырысоўваўся толькі ў ясныя раніцы* (І. Шамякін); *Глядзелі з вокнаў аганькі мне ўслед з трывогай шчыра, нібы ў далёкі і цяжкі я падымаўся вырай* (А. Куляшоў);

11) даданыя часткі са значэннем выніку. Да галоўных частак яны далучаюцца пры дапамозе злучнікаў *дык, тады, так што*, часціц *то, аж, ажно*: *Учора прайшоў добры дождж, дык за ноч, відаць, грыбоў нарасло* (З. Бядуля); *Мы ехалі паўз Дзве Хаты, то там іх ужо не дзве, а чатыры* (К. Чорны); *Глядзіць, аж Богут у бравэрцы выходзіць з дому ў свой абход* (Я. Колас);

12) даданыя часткі са значэннем дапушчальнасці (уступальныя). Яны далучаюцца пры дапамозе злучнікаў *хоць, хай*, злучальнымі канструкцыямі *што ні, як ні, куды ні* і пад.: *Хоць малы яшчэ гадамі, а працуе ён адменна* (П. Броўка); *Ароўская многае што з вясковага жыцця не любіла, хоць і вырасла сама ў вёсцы* (В. Гігевіч); *Праўда, як яна ні ўдумвалася, усё не магла ўразумець нялюдскі сэнс іх учынкаў ды іхніх намераў, хоць увогуле намеры гэтыя былі спрэс ёй варожыя...* (В. Быкаў); *Аб чым бы яны ні гаварылі, гэтае нямое пытанне не згасала ў яе вачах* (І. Новікаў).

### *Віды адносін паміж галоўнай і даданай часткамі складаназалежнага сказа*

§ 232. Адносіны паміж галоўнай і даданай часткамі складаназалежнага сказа абумоўліваюцца зместам галоўнай часткі, перш за ўсё тым, які член галоўнай часткі паясняецца і якімі моўнымі сродкамі ажыццяўляецца гэта паясненне. У залежнасці ад гэтага паміж галоўнай і даданай часткамі існуюць наступныя віды адносін: суб'ектныя, прэдыкатыўныя, аб'ектныя, атрыбутыўныя, акалічнасныя (часавыя, прасторавыя, прычынныя, мэтавыя, умоўныя і інш.). Так, у сказах з суб'ектнымі адносінамі даданая частка раскрывае змест дзейніка галоўнай часткі, выражанага часцей за ўсё ўказальным займеннікам, з прэдыкатыўнымі — змест выказніка, у сказах з аб'ектнымі адносінамі даданая частка з'яўляецца разгорнутым дапаўненнем пры дзеяслове — выказніку галоўнай часткі і г. д. У залежнасці ад адносін паміж галоўнай і даданай часткамі даданыя часткі з розным граматычным значэннем выконваюць пэўныя функцыі. Функцыя даданай часткі не заўсёды супадае з яе граматычным значэннем. Так, у сказе *Сцяпан сам не заўважыў, як неўпрыкмет выйшаў на вуліцу і паволі пайшоў да старое ліпы...* (А. Жук) даданая частка з граматычным значэннем спосабу дзеяння адносіцца да дзеяслова-выказніка галоўнай часткі і выконвае аб'ектную функцыю. У тых выпадках, калі граматычнае значэнне даданай часткі не супадае з яе функцыяй, на адносіны, якія ўстанаўліваюцца паміж галоўнай і даданай часткамі, накладваецца дадатковае адценне (напрыклад, на аб'ектныя адносіны можа накладвацца дадаткова адценне значэння месца, часу, прычыны і г. д.).

### *Класіфікацыя складаназалежных сказаў у залежнасці ад адносін паміж галоўнай і даданай часткамі*

### Сказы нерасчлянёнай структуры

#### Сказы з апорным элементам — указальным (адносным) словам

§ 233. Асемантызаванае ўказальнае (адноснае) слова ў сказах гэтага тыпу выконвае сінтаксічную функцыю — служыць для сувязі галоўнай і даданай частак, абумоўлівае характар адносін паміж імі, дае магчымасць даданым часткам з розным граматычным значэннем выкон-

ваць аднолькавую сінтаксічную функцыю. Сувязь паміж указальным словам і дададзенай часткай кваліфікуецца як анафарычная і часта нагадвае сувязь паміж прыслоўямі, адно з якіх з'яўляецца ўдакладняючым. Указальнае слова дае магчымасць пазбегнуць сінтаксічнай мнагазначнасці, якая ўзнікае ў сказах расчлянёнай структуры. Толькі наяўнасць указальнага слова дае магчымасць устанавіць у складаназалежным сказе суб'ектныя і прэдыкатыўныя адносіны.

У складаназалежных сказах з с у б' е к т н ы м і адносінамі дададзеная частка лексічна раскрывае граматычны суб'ект — дзейнік у галоўнай частцы, выражаны ўказальнымі словамі — займеннікамі *той, кожны, усе (усё)*. Дададзеная частка ў такіх сказах далучаецца пры дапамозе злучальных слоў *хто, што: І тое, што падумаюць пра яе жыццўцы, цяпер не хвалявала яе* (В. Гігевіч); *Той, хто дружбы шукае, — у нас знойдзе яе* (М. Танк); *Усе, хто быў на лузе, хаваліся ад дажджу* (Я. Колас); *Той, хто хоць адзін разочак пазнаўся сам-насам з жыццём летніх баравых закуткаў, згодзіцца з думкай аб іх зусім адметным, непаўторным характве* (К. Кірэенка).

У сказах з п р э д ы к а т ы ў н ы м і адносінамі ў галоўных частках ужываюцца ўказальныя словы *той, тая, такі, такая, такое, гэтакі, усё*, яны выконваюць функцыю выказніка, да якога адносіцца дададзеная частка: *Увесь выгляд быў такі, быццам ён прыбег аднекуль* (К. Чорны); *Мароз такі, што скоўвае дыханне* (А. Звонак); *А чалавек той, хто змагаецца за роўнае права на шчасце ўсіх людзей* (У. Караткевіч).

У некаторых сказах з прэдыкатыўнымі адносінамі, калі функцыю галоўнай часткі выконвае прыметнік у форме найвышэйшай ступені параўнання, указальнае слова не ўжываецца: *Самае горшае, калі яны дзе пралезлі за ноч праз абарону і зайшлі ў спіну...* (І. Пташнікаў); *Самае непрыемнае ў гэтым — што трэба было рана ўставаць, а на досвітку так хацелася спаць...* (Я. Скрыган).

У складаназалежных сказах з а б ' е к т н ы м і адносінамі ролю ўказальнага слова выконвае займеннік *той* у назоўным і ва ўскосных склонах: *І яшчэ падумаў Ігнат пра тое, як усё не па парадку ідзе ў гэтым жыцці* (А. Кудравец); *І можа, зараз* [немцы] *думаюць пра тое, каб ад нас адарвацца, пайсці, пра тое, як ім сарвацца з гэтага заклятага круга...* (А. Адамовіч); *Папросіш, і яна пачне спяваць. З усёй дзіцячай шчырасцю, і голасна, як птушка, якой гэта трэба, як быццам і не звяртаючы ўвагі на тое, слухаюць яе ці не* (Я. Брыль).

Аб'ектныя адносіны ўстанаўліваюцца ў сказах з дададзенымі часткамі, якія маюць граматычнае значэнне прадметнасці, азначальнасці, часу, месца, умовы, прычыны і інш., таму для сувязі галоўнай і дададзенай частак ужываюцца злучнікі і злучальныя словы, уласцівыя сказам з такімі граматычнымі значэннямі (*што, які, калі, дзе, куды, як, каб, быццам* і інш.).

У складаназалежных сказах з а т р ы б у т ы ў н ы м і адносінамі ў галоўнай частцы ўжываюцца ўказальныя словы *той, такі* ў назоўным і ва ўскосных склонах. Звязваючы дададзеныя часткі з назоўнікам, ад якога фактычна залежаць дададзеныя азначальныя часткі і часткі з іншым граматычным значэннем, яны (указальныя словы) могуць стаяць як перад, так і пасля назоўніка, да якога адносяцца: *Але не маюць шляхі і рэкі зайздроснай памяці той, што можа аднойчы пройдзенае навекі вярнуць з далёкага падарожжа* (А. Куляшоў); *У тыя дні, калі я сам даўно ўжо не дзіця, аднак мне яшчэ вельмі далёка было да шчасця бацькоўства, любіў я сябраваць з суседскімі малымі* (Я. Брыль); *Дзербаі стаяць за хутарам, якраз у тым кірунку, куды думаў весці свой атрад Лемжа і дзе былі ў яго знаёмыя людзі* (В. Хомчанка); *Тады Ляксей па-*

*глядзеў на Жыціва, на тое Жыціва, дзе нарадзіўся і вырас і адкуль пайшоў на фронт* (В. Гігевіч).

Атрыбутыўную функцыю могуць выконваць даданыя часткі з разнастайным граматычным значэннем, таму яны далучаюцца да галоўнай злучнікамі і злучальнымі словамі *які, што, калі, дзе, куды, як* і інш.

У галоўнай частцы складаназалежных сказаў з часавымі адносінамі ролю ўказальнага (адноснага) слова выконваюць прыслоўі *цяпер, тады: ... цяпер ёй чамусьці захацелася схадзіць на могілкі іменна тады, як там будзе многа людзей* (В. Гігевіч); *Тады я быў дзецюком, калі да старэйшага брата зноў прычапілася рожа...* (Я. Брыль).

Фактычна ўказальную ролю выконваюць словы *перш, перад тым, пасля таго, да таго, у той час* у наступных сказах з часавымі адносінамі: *Перш чым даручыць Іванову што-небудзь сур'ёзнае, трэба было яшчэ раз праверыць, пагаварыць з ім асабіста* (І. Новікаў); *Перад тым, як ісці на камбінат, я пагутарыў з начальнікам цэха* (Маладосць, 1984); *Яшчэ да таго як бразнула клямка ў хату, ведаў: Міканор ідзе* (І. Мележ); *Яшчэ ў той час, калі Струмічка быў маладым інжынерам, трапіў ён на першую сусветную вайну* (М. Лынькоў); *Пасля таго як навёў парадак дома, Сцяпан пайшоў на возера — кожнага дня сядзеў там з вудамі* (А. Жук).

У складаназалежных сказах з прасторавымі адносінамі ўжываюцца ўказальныя словы *там, туды: Там, дзе паблізу чутны ў людской гаворцы гарады Нясвіж і Слуцк, незадоўга да першай імперыялістычнай вайны пачаў біднець у сваім маёнтку пан Гальвас* (К. Чорны); *Некалькі коннікаў галопам прымчалі туды, адкуль нядаўна чуліся стрэлы* (М. Лынькоў); *На трапяткіх бялюткіх крылах ляцяць удаль мае гады туды, дзе край маленства мілы, дзе красавік мой малады* (В. Вярба); *Дзе прайшло маленства, там пачынаецца радзіма* (К. Чорны).

У некаторых складаназалежных сказах з прасторавымі адносінамі даданая частка можа адносіцца не толькі да ўказальнага слова, але і да акалічнасці ў галоўнай частцы, выражанай часцей за ўсё назоўнікам. У такіх сказах акалічнасць і даданая частка ўтвараюць рад удакладняючых акалічнасцей: *Там, за сцяною істопкі, дзе быў невялічкі садок, трэслі яблыню...* (В. Быкаў); *Тут, перад плацінаю, дзе ўваходзіла ў канаву старыца, утварыўся глыбокі і ладны плёс* (А. Жук).

У складаназалежных сказах з прычыннымі адносінамі ўжываюцца ўказальныя словы *таму, для (дзеля) таго, з-за таго, ад таго: Ён аб'явіўся тут не таму, што надта хацеў сюды, а таму, што прыслалі* (А. Жук); *Сучасныя пісакі таму і пішуць абы-як, без стылю, што перад імі каравая папера і чорт ведае якія пер'і...* (У. Караткевіч); *Надзеі на папраўку не было: ён гэта ведаў добра. І ўсё ж паехаў. Можа нават і таму, каб хоць трохі супакоіць сяброў* (М. Стральцоў).

У некаторых складаназалежных сказах з прычыннымі адносінамі спалучэнне *таму што* ўжываецца як непадзельная злучальная канструкцыя: *Таварыш Шэмет не пабаяўся ўзяць на сябе адказнасць парушыць інструкцыю, таму што ён душою хварэе за нашу агульную справу* (М. Лобан).

Складаназалежныя сказы з умоўнымі адносінамі маюць у сваім складзе адносныя словы *то, дык, тады, тым, аж: Калі ўжо так трэба, дык я пайду* (А. Макаёнак); *Калі ўжо трапіў сюды, то ўжо стой, маўчы, тады не атрымаеш больш запланаванага* (А. Жук); *Раз на тое пайшло, то я магу ўсё расказаць* (І. Пташнікаў); *Чым больш жанчына мае дзяцей, тым гэтае пачуццё мацнейшае* (К. Чорны); *Як глянула на яго, аж страшна зрабілася* (Я. Колас). Даданыя часткі ў сказах з умоўнымі адносінамі далучаюцца пры дапамозе злучнікаў *калі, каб, чым, раз, як.*

У складаназалежных сказах з адносінамі с п о с а б у д з е я н н я, м е р ы і с т у п е н і ў галоўнай частцы ўжываецца ўказальнае слова *так*, а дададзеная далучаецца пры дапамозе злучнікаў *што, як бы, ажно: Парыла так, што ў Куранях і навокал усё млела ў духаце...* (І. Мележ); *Жыў ён некалі так, што ледзь ставала ў гаспадарцы зводзіць канцы з канцамі* (Я. Скрыган); *Цесць умеў неяк непрыкметна паставіць усё так, што Мішка, хацеў ці не хацеў, рабіў па цесцевай указцы* (А. Жук); *Мароз так ціснe, ажно дух займае* (З. Бядуля).

Апрача гэтага, у сказах з адносінамі меры і ступені ўжываецца ўказальнае слова *столькі*, а ў дададзенай частцы — злучнікі *што, колькі, як*, а таксама злучальная канструкцыя *па меры таго як: Наваліла столькі снегу, што канём загрузнуць можна* (М. Лынькоў); *Ужо сабралася столькі людзей, як ніколі не было каля млына* (П. Броўка); *Знарок не хутка, без жаднай ахвоты яна рабіла ўсё гэта, і спакваля, па меры таго, як спакайнела пасля ранішняга сполаху, у ёй рос неспакой* (В. Быкаў).

Да складаназалежных сказаў з апорным элементам — указальным (адносным) словам цесна прымыкаюць сказы, у якіх ролю апорнага элемента выконвае слова з поўным лексічным значэннем. Звычайна яно выконвае сінтаксічную функцыю акалічнасці ў галоўнай частцы. Структурна такія сказы нічым не адрозніваюцца ад сказаў з апорным элементам — указальным (адносным) словам. І ў тых, і ў другіх характар адносін абумоўліваецца апорным элементам, а дададзеная частка ўдакладняе, развівае значэнне апорнага слова. Складаназалежныя сказы з апорным элементам — словам з поўным лексічным значэннем (акалічнасцю) выражаюць часавыя, прасторавыя адносіны і адносіны спосабу дзеяння.

У складаназалежных сказах з ч а с а в ы м і адносінамі ролю апорнага элемента выконваюць прыслоўі *потым, спачатку, вечарам, уранку, вясной* і некаторыя іншыя: *Потым, калі ён адвярнуў дзёран, капаць стала лягчэй...* (В. Гігевіч); *Уранку, толькі бойка адгула, баец ішоў па вуліцы сяла* (П. Броўка); *Вечарам, калі запальваліся першыя зоры, падарожнікі спыніліся на начлег* (К. Чорны); *Вясной, як толькі сыходзілі крыгі, амаль што кожны дзень можна было бачыць, як ён ідзе на раку ці вяртаецца з ракі дахаты* (Я. Брыль); *Першыя гады, як пачалі прадаваць брыкет, не хацелі купляць людзі, казалі, што ў печы саляркай смярдзіць* (А. Жук).

У сказах з п р а с т о р а в ы м і адносінамі ў ролі апорнага элемента ўжываюцца прыслоўі і назоўнікі з паясняльнымі словамі ў функцыі акалічнасці: *Вочы нібы паднachвалі яго, падахвочвалі, клікалі некуды, дзе ён яшчэ не быў* (А. Кудравец); *Наперадзе, дзе было балота, там, дзе некалі цякла і рэчка, у лагчыне, лёгка і сінявата слаўся туман* (А. Жук); *Каля сіняга мора, у далёкай тайзе, дзе Амур свае воды ў далёкае мора нясе,— асяліўся нанайскі народ-працаўнік* (У. Дубоўка).

У сказах з адносінамі с п о с а б у д з е я н н я ролю апорнага элемента выконваюць прыслоўі з розным лексічным значэннем: *І ён ціхенька, каб не грукнуць чым у паўзмроку, надзеў свае апоркі, тужэй захінуўся ў кажушок і стаў ля акенца* (В. Быкаў); *Сцяпан асцярожна, каб не пабудзіць яе, падняў руку, паглядзеў на гадзіннік* (А. Жук).

### Сказы з апорным словам — назоўнікам ці дзеясловам

§ 234. Сказы з апорным элементам — дзеясловам ці назоўнікам складаюць у сучаснай беларускай мове даволі шматлікую групу, але адносіны, якія яны выражаюць, абмежаваны: складаназалежныя сказы, у

галоўнай частцы якіх апорным элементам з'яўляецца назоўнік, выражаюць атрыбутыўныя адносіны, а сказы з апорным элементам у галоўнай частцы — дзеясловам — суб'ектныя і аб'ектныя адносіны.

У складаназалежных сказах з апорным элементам — назоўнікам, які выконвае сінтаксічную функцыю дзейніка ці дапаўнення, даданыя часткі маюць сінтаксічнае значэнне азначальнасці і далучаюцца пры дапамозе злучальных слоў *які, каторы, чый*: *Я спытаў чалавека, які прайшоў праз агонь, і воды, і медныя трубы: — Што самае цяжкае на гэтым свеце?* (М. Танк); *Цякла тут з лесу невялічка травой заросшая крынічка, абодва берагі каторай лазняк, ракітнік абступалі* (Я. Колас); *Чалавек, чыё імя трапляла ў новую плётку, даведваўся пра гэта апошні...* (В. Гігевіч).

Апрача гэтага, даданыя часткі ў складаназалежных сказах з адносінамі атрыбутыўнасці могуць далучацца пры дапамозе злучнікаў (злучальных слоў) *што, калі, куды, адкуль, як, каб*. Азначальныя адносіны ў такіх сказах ускладняюцца прадметнымі, часавымі, прасторавымі і іншымі адценнямі: *Хварэем мы, хварэюць нашы рэкі, хварэе час, што чыніць гвалт і здзекі...* (А. Куляшоў); *З братам дзяліліся хлебам, што вырас у стэпах данецкіх пад зорным апаленым небам, святым нашым хлебам савецкім* (М. Танк); *Гэта была пара, калі лісце крапівы бярэцца белымі плямамі і пачынае пакрысе чарнець* (А. Кудравец); *Цяжка, немагчыма жыць з пастаянна раскрытай памяццю, дзе ўсё гэта схавана* (А. Адамовіч).

У сказах з апорным элементам — дзеясловам, у якіх выражаюцца суб'ектныя адносіны, даданая частка з'яўляецца разгорнутым дзейнікам пры выказніку галоўнай часткі, далучаецца пры дапамозе злучальных слоў *хто, што* і стаіць у прэпазіцыі: *Хто не спытаў хоць раз трывогі, жыццю не ведае цаны* (А. Звонак); *Хто астаўся жывы, сядзеў у жыце або выбіраўся з яго паўзком далей ад страшнага месца на дарозе* (К. Чорны); *Што бацька нейкім чынам уплываў на абуджэнне ў сына цікавасці да радзімы і роднага слова — гэта справядліва і гэтага нельга адмаўляць* (М. Стральцоў).

У складаназалежных сказах з аб'ектнымі адносінамі даданы сказ з'яўляецца разгорнутым дапаўненнем пры дзеяслове-выказніку галоўнай часткі. У якасці апорнага элемента служаць дзеясловы са значэннем маўленчай, пазнавальнай, эмацыянальнай, валявой дзейнасці (*сказаць, гаварыць, расказваць, падказаць, ведаць, адчуваць, баяцца, цешыцца, думаць, хацець, разумець, загадаць, помніць, успамінаць, пытаць, даведацца, рабіць, уяўляць, гадаць, падказваць, заўважаць, вагацца, паказаць* і інш.), дзеепрыслоўі, утвораныя ад падобных дзеясловаў. Аб'ектныя адносіны ў такіх сказах выражаюцца даданымі часткамі з аб'ектным, часавым, прасторавым, прычынным і іншымі граматычнымі значэннямі і далучаюцца пры дапамозе злучнікаў *хто, што, які, калі, пакуль, дзе, куды, адкуль, як, каб, колькі, быццам, ці*: *Што ён хацеў гэтым сказаць, Ігнат не ведаў і не ўведае ніколі...* (А. Кудравец); *Цяпер няхай у баі пакажуць, якія яны ваякі за Савецкую ўладу* (І. Новікаў); *Я не заўважыў, калі мая сталасць настала* (А. Куляшоў); *І раптам Вялічка ўспомніў, дзе ён і чаму ляжыць* (І. Пташнікаў); *Бываючы ў тых мясцінах, я на працягу доўгіх год з хваляваннем назіраў, як імкліва адраджаецца жыццё ў Іканах і ва ўсіх вёсачках навокал* (К. Кірэенка); *Куды нас гоняць, мы не ведалі і не маглі зразумець* (М. Гарэцкі).

Форму складаназалежнага сказа з аб'ектнымі адносінамі маюць канструкцыі, у якіх перадаецца чужая мова: *Васіль не раз гаварыў, што лепей хацеў бы ён сустрэцца з гадам або воўкам, як папасці на вочы*

*ляснічаму* (Я. Колас); *Выцершы слёзы, маці запыталася, ці ўсе яго родныя засталіся жывыя пасля акупацыі* (І. Мележ).

Асобную групу складаназалежных сказаў з аб'ектнымі адносінамі складаюць канструкцыі, у якіх галоўная частка мае форму безасабовага сказа або складаецца са слова катэгорыі стану (зрэдку з паясняльнымі словамі). Сказы гэтага тыпу таксама адносяцца да нерасчлянёных, бо дадаптая частка адносіцца да выказніка галоўнай часткі, якая самастойна не выражае закончанай думкі: *Было чуваць, як на дварэ ў Акцызніка яго жонка Юзэфа доіць карову* (І. Пташнікаў); *І пасля яму толькі хацелася, каб хутчэй кончылася дарога...* (А. Жук); *Нават дзіўна, што немцы і гэтыя пад доўгімі брылямі ўсё такія ж упэўненыя, злыя, крыклівыя...* (А. Адамовіч); *Здаецца, што прастаяла гэта будыніна тут увесь свой век...* (А. Жук).

## Сказы расчлянёнай структуры

§ 235. У складаназалежных сказах расчлянёнай структуры галоўная частка мае ў сваім складзе прэдыкатыўнае словазлучэнне (зрэдку — выказнік), да якога адносіцца даданая частка. Паміж галоўнай і даданай часткамі ўстанаўліваюцца акалічнасныя адносіны (часавыя, прасторавыя, прычынныя, умоўныя і інш.). Асаблівасцю сказаў гэтага тыпу з'яўляецца тое, што граматычнае значэнне даданай часткі адпавядае адносінам, якія існуюць у сказе. Так, часавыя адносіны выражаюцца даданымі часткамі з граматычным значэннем часу, прасторавыя адносіны — даданымі часткамі з граматычным прасторавым значэннем і г. д.

У складаназалежных сказах з часавымі адносінамі даданая частка далучаецца пры дапамозе злучнікаў (злучальных слоў) *калі, пакуль, толькі, як толькі, ледзь толькі, як: Яны з Веркай часта ўставалі зімой з першымі пеўнямі, калі яшчэ да вайны Верка рабіла на ферме* (І. Пташнікаў); *А калі над нівою пачало світаць, не магла маўклівая маці больш маўчаць* (А. Куляшоў); *І ён з пакораю моўчкі стаяў у кустоўі, пакуль яна не выдаіла карову* (В. Быкаў); *Як толькі канчалася паседжанне, каля яго збіралася асабліва цесная купка людзей* (Я. Скрыган); *Не паспела ўзысці сонца, як пайшла ціхом гаворка, што падпольшчыкаў бачылі...* (К. Чорны).

У сказах з прасторавымі адносінамі даданыя часткі далучаюцца пры дапамозе злучнікаў *дзе, куды, адкуль: Пасля пачынае шумець высока пад столлю ў парозе, дзе на шастку Верка кожны раз на зіму вешае вянкі цыбулі* (І. Пташнікаў); *Шалашы стаялі між стромкіх дрэў глухой дзікай пушчы, куды рэдка заглядала людское вока* (Я. Колас).

У складаназалежных сказах з прычыннымі адносінамі даданыя часткі далучаюцца пры дапамозе злучнікаў *каб, бо, што: Тваю фатаграфію я не браў і ў паход, каб часам яе не кранула варожая куля* (М. Танк); *Цяпер ён баяўся выходзіць на падворак, каб лішне неназаляць ім...* (В. Быкаў); *Але падпольшчык, мусіць, паспеў перабрацца праз рэчку, бо сляды яго зніклі...* (К. Чорны); *Я сам быў здзіўлены не менш за яго, бо на Любаншчыну ніколі не ездзіў* (Я. Скрыган); *Раніца пасля цяжкай ночы падкрэслівае ў любым чалавеку стомленасць, але таксама і палёгку, што гэта скончылася, прамінула* (А. Адамовіч); *Ці ж у іх няма чаго іншага жэрці, што яны так прычапіліся да малака?* (В. Быкаў).

Даданыя часткі ў складаназалежных сказах з мэтавымі адносінамі далучаюцца пры дапамозе злучнікаў *каб, для (дзеля) таго каб, абы, абы толькі: Адчуваючы гідлівасць, яна павярнулася, каб выйсці ў*

*сенцы...* (В. Быкаў); *Першы раз ён прыедзе ў Жыціва, каб пабачыць жоўта-васковы мужчынскі твар* (В. Гігевіч); *Верка стаяла ля яго і не краталася, каб пайсці ў сенчкі* (І. Пташнікаў); *Ён рабіў гэта для яе, ён і не такое гатоў быў зрабіць для яе, абы толькі было трэба...* (І. Мележ); *Яны ўдвух усю ноч блыталіся па цёмных закутках, абы не натрапіць на чужыя вочы* (К. Чорны).

У сучаснай лінгвістычнай літаратуры спалучэнне *для (дзеля) таго каб* кваліфікуецца як адзін злучнік. Паводле паходжання гэты злучнік — спалучэнне ўказальнага слова *той* у форме роднага склону з прыназоўнікам *для (дзеля)* і злучніка *каб*. Звычайна на пісьме ўказальнае слова не аддзяляецца ад злучніка: *Блецька прыкладаў усе сілы, дзеля таго каб хутчэй збыліся яго жаданні* (К. Чорны); *Для таго каб праца давала плённыя вынікі, трэба прывучаць да сталых і сур'ёзных адносін да яе з маладых гадоў* (Я. Колас).

Аднак ёсць выпадкі, калі ўказальнае слова стаіць асобна ад злучніка: *Не для таго мы гадавалі дзяцей, каб яны пад старасць нам не памагалі* (І. Грамовіч). Гэта дае падставы аднесці сказы такога тыпу да канструкцый з нерасчлянёнай структурай, у складзе якіх ёсць указальнае слова.

Даданыя часткі ўмовы ў складаназалежных сказах з у м о ў н ы м і адносінамі далучаюцца пры дапамозе злучнікаў *калі, каб, як, як толькі, абы толькі, дык, раз: Калі яны доўга глядзелі ад моста на гару, пачынаў дрыжаць у вачах малінавы захад і стукала ў галаве* (І. Пташнікаў); *Калі б я сабраў усе тваё «не», вырас бы такі вялікі частакол, з-за якога і на дыбачках нельга было б ні дацягнуцца да цябе, ні абняць, ні пацалаваць* (М. Танк); *Што ён цяпер рабіў бы адзін, каб не школа?* (С. Александровіч); *Раз мы ліквідуем кулацтва як клас, значыць, мы не можам аднačасова праяўляць да яго нейкую евангельскую чалавечнасць* (М. Лобан); *От быў бы ты гарадскі, дык у такія мясціны прыехаў бы адпачыць* (Я. Скрыган).

У складаназалежных сказах з даданымі ўмовы выкарыстоўваюцца злучнікі, уласцівыя даданым часткам з граматычным значэннем часу, выніку. Таму ўмоўныя адносіны ўскладняюцца часавымі і выніковым адценнем: *Гэта адбудзецца, як толькі немцы даведаюцца, што Флёра тут, што яго можна забіць* (А. Адамовіч); *Хлопец Данікаў толькі дурны, дык ты яго заганяў* (І. Пташнікаў); *Выскачыш на вуліцу, аж галава кружыцца ад новых колераў і гукаў* (П. Пестрак).

Даданыя ў с т у п а л ь н ы я часткі далучаюцца пры дапамозе злучніка *хоць: У цёмных вачах афіцэра бліснула гняўлівая строгасць, хоць цвёрды твар застаўся ранейшым* (В. Быкаў); *Я любіў іх пляскатыя, губастыя тварыкі, хоць часта і сварыўся на іх...* (А. Адамовіч); *Заглядаліся і на Андрэя, хоць той быў зусім іншы* (У. Караткевіч).

Радзей для сувязі даданых уступальных частак ужываецца злучнік *нягледзячы на тое што* і часціца *няхай: Нягледзячы на тое што ідзе дождж, Крушынскі збіраецца ў горад* (З. Бядуля); *Няхай сабе работа была нялёгкая, бадзёрасць не пакідала моладзь* (П. Броўка).

Даданыя ўступальныя часткі звязваюцца з галоўнай пры дапамозе злучальных слоў *хто, што, як, куды* і інш. і часціцы *ні: І як ні кляў ён тую п'яўку, ды мусіў даць рубля за спраўку* (Я. Колас); *...як ні шкада ёй было Бабоўку, яна адчувала, што рушылася штосьці непамерна большае...* (В. Быкаў).

У складаназалежных сказах з выніковымі адносінамі даданыя часткі далучаюцца пры дапамозе часціц *дык, то, аж* у ролі злучнікаў: *Пара б і вучыцца, дык школы няма, і панскія школы не вучаць дарма* (Я. Колас); *Ты па свеце ходзіш, то табе лепш павінна быць усё знаёма*

(К. Чорны); У сказах з часціцай *аж* выніковыя адносіны ўскладняюцца адценнем спосабу дзеяння: *Ты быў зусім хворы, аж рукі ў цябе трасліся* (К. Чорны); *Свішчуць птушкі над балотам, аж гамоніць лес і гай* (Я. Колас).

Даданыя часткі з параўнальнымі адносінамі далучаюцца пры дапамозе злучнікаў *як, быццам, што: У такім баявым выглядзе, як і належыць воіну, выйшаў Мечык з варотцаў свайго двара...* (М. Пасляловіч); *Ён прахапіўся, быццам было ў яго многа важных спраў* (К. Чорны); *Андрэй пачуў, як на пасецы нешта ляскае, што лучына аб лучыну на печы* (І. Пташнікаў).

Супастаўляльныя адносіны выражаюцца ў сказах, часткі якіх звязаны злучнікамі *у той час як, чым — тым, калі — то: На полі бушавала завіруха, у той час як у лесе было шмат зацішней* (К. Чорны); *Чым ніжэй апускалася асенняе сонца, тым гусцей спавіваў туман лесавыя сенажаці* (З. Бядуля); *Калі кравец Самабыль увасабляе сялянскасць, то швачка Самабыліха з'яўляецца чалавекам пераважна універсальным* (Я. Колас).

### *Парадак размяшчэння частак складаназалежнага сказа*

§ 236. Парадак размяшчэння частак у складаназалежным сказе не свабодны, ён залежыць ад тыпу галоўнай часткі, ад граматычнага значэння даданай, ад віду сінтаксічных адносін паміж галоўнай і даданай часткамі, ад мэты выказвання. Даданая частка можа стаяць у прэпазіцыі, інтэрпазіцыі і постпазіцыі ў адносінах да галоўнай часткі. Месца даданай часткі перш за ўсё абумоўліваецца тым, да якога апорнага элемента яна адносіцца — да ўказальнага (адноснага) слова, да назоўніка, дзеяслова, да прэдыкатыўнага словазлучэння.

### Месца даданай часткі ў сказах з апорным элементам — указальным (адносным) словам

§ 237. У сказах з прэдыкатыўнымі адносінамі даданая частка можа стаяць толькі ў постпазіцыі. Такое становішча абумоўліваецца тым, што даданая частка лексічна развівае ўказальнае слова галоўнай, якое выконвае ролю іменнай часткі складанага выказніка: *Самае непрыемнае было тое, што ён не быў упэўнены, ці трэба папраўляць* (Б. Стральцоў).

У сказах з суб'ектнымі адносінамі даданая частка можа стаяць у інтэрпазіцыі і постпазіцыі. Як і ў сказах з прэдыкатыўнымі адносінамі, месца даданай часткі ў сказах гэтага тыпу абумоўліваецца адносінамі паміж галоўнай і даданай часткамі: даданая частка з'яўляецца другім у адносінах да ўказальнага слова дзейнікам і не можа стаяць перад ім: *Тое, што пад нагамі валяецца, парадак таксама любіць* (В. Каваль); *Некаторыя* [параненыя] *беспрытомныя, трызняць, ускрыкваюць, а тыя, у каго вочы расплюшчаны, глядзяць у нізкае неба, дзе назольна шукае, гудзе рама* (А. Адамовіч); *Усё, чаго Касач, магчыма, і не заўважаў, удвая гняло яе, як толькі наставала раніца, дзень* (Там жа).

У складаназалежных сказах з азначальнымі адносінамі даданая частка звычайна стаіць пасля назоўніка, да якога адносіцца, а назоўніку папярэднічае ўказальнае слова: *Сцяпан успомніў таго пасляваеннага Жоглу, калі яшчэ ў лесе і ў балоце хаваліся паліцэйскія недабіткі* (А. Жук); *Шукайла быў не такі чалавек, каб бядзе не даць рады* (Я. Скрыган). Указальнае слова можа стаяць і пасля назоўніка, да якога яно адносіцца, і знаходзіцца непасрэдна перад даданай част-

кай: *Я дайно слоў шукаю такіх, што змаглі б не даць сонцу пагаснуць у атамным смерчы* (М. Танк).

Месца апорнага слова ў галоўнай частцы абумоўлівае месца дададнай часткі. Калі гэта слова — дзейнік ці дапаўненне — стаіць пасля дзеяслова-выказніка, то дададзеная частка знаходзіцца ў постпазіцыі: *Касач бачыць, помніць цябе толькі ў той момант, калі ты ў яго перад вачамі* (А. Адамовіч). Калі ж апорнае слова знаходзіцца перад дзеясловам-выказнікам, тады дададзеная частка знаходзіцца ў інтэрпазіцыі: *Той дзень, у які Вялічка ўпершыню як мае быць дайшоў да памяці, пачаўся для яго гаспадара вельмі рана* (К. Чорны); *Я выйшаў у прыхожую, а з другога пакоя ў той, дзе заставалася жанчына, быў запрошаны наступны* (Я. Скрыган).

У некаторых сказах дададзеная частка можа стаяць не непасрэдна пасля апорнага элемента, а пасля ўсёй галоўнай часткі: *Такой блакады ў нашых мясцінах яшчэ не было, каб столькі самалётаў* (А. Адамовіч). Такія канструкцыі маюць гутарковае адценне.

У рэдкіх выпадках дададзеная частка ў сказах з азначальнымі адносінамі можа стаяць у прэпазіцыі: *Дзе я сам сеяў — пазнаю палетак той ажно здалёк* (А. Астрэйка). Такія канструкцыі трэба разглядаць як інверсійныя.

Аналагічны парадак слоў у канструкцыях з аб'ектнымі адносінамі. Дададзеная частка звычайна стаіць пасля ўказальнага слова, якое мае граматычнае значэнне дапаўнення і знаходзіцца пасля дзеяслова-выказніка: *І Ігнат пазайздросціў усім, хто быў у гэтым эшалоне: яны ведаюць, куды едуць* (А. Кудравец); *Казачнік чуў гучанне кожнага слова, думаў аб тым, каб зрабіць як мага большае ўражанне на слухачоў* (Р. Шкраба). Калі ж увага канцэнтруецца на змесце дададзенай часткі, то яна стаіць у інтэрпазіцыі, аддзяляючы ўказальнае слова ад дзеяслова-выказніка: *Па тым, як рашуча сказаў гэта Багушэвіч, Масальскі зразумеў, што трэба лепш памаўчаць...* (В. Хомчанка); *Усё тое, што здабыта ў барацьбе, мы як зяніцу вока беражом* (М. Чарот).

У складаназалежных сказах з часавымі адносінамі дададзеная частка можа стаяць у прэпазіцыі, інтэрпазіцыі і постпазіцыі: *Калі міна бабахнула, дык у Жыціве ў некаторых вокнах шкло павылятала* (В. Гігевіч); *Рушылі ў дарогу ўжо тады, калі сонца схавалася за лесам...* (П. Пестрак); *Нават і тады, як Ароўская перастала настаўнічаць — пайшла на пенсію, яшчэ гадоў пяць дзеці, прабягаючы ранкам і поўднем вузкай вулкай, пазіралі скоса на яе хату* (В. Гігевіч).

Звычайна ў прэпазіцыі стаяць дададзеныя часткі з часавым значэннем, калі яны далучаюцца злучнікамі *перш чым, перад тым як, пасля таго як* і пад.: *І перад тым як прапасці з воч, бабёр яшчэ прыпыніўся, азірнуўся на Сцяпана, і таму здалося, што звярок кіўнуў галавой — падзякаваў* (А. Кудравец).

У сказах з прасторавымі адносінамі дададзеная частка можа быць у інтэрпазіцыі і постпазіцыі: *Неба яшчэ чырванела там, дзе зайшло сонца* (З. Бядуля); *Там, дзе еднасці і згоды няма ў людзей, праца іхняя заўсёды марна прападзе* (Я. Купала).

Дададзеныя часткі ў складаназалежных сказах з прычыннымі адносінамі, адносінамі меры і ступені, спосабу дзеяння звычайна знаходзяцца ў постпазіцыі: *Ён сказаў гэта праз сціснутыя зубы, і Прыбыткоўскі адчуў сябе так, што гэта яны як бы ўдвух змовіліся аб усім* (К. Чорны); *І так усё выразна ажывала ў памяці, што часамі здавалася, ці не ўчора гэта было* (С. Грахоўскі).

Дададзеныя часткі ў сказах з адносінамі меры і ступені, якія далучаюцца злучнікамі *па меры таго як,* могуць быць у прэпазіцыі: *Па меры*

*таго як развівалася апавяданне, цікавасць мае аўдыторыі стала ўзрастаць* (Я. Колас); *Знарок не хутка, без жаднай ахвоты яна рабіла ўсё, спакваля, па меры таго, як спакайнела пасля ранішняга сполаху, у ёй рос неспакой за парсючка — як ён там?* (В. Быкаў).

У сказах з умоўнымі адносінамі даданая частка знаходзіцца ў прэпазіцыі: *І калі ён стаў нямецкім паэтам, дык тут сапраўды, мусіць, толькі воля лёсу* (Б. Стральцоў); *Што ж, калі вы лічыце, што мы з вамі не спрацуемся, то калі ласка, пярэчыць не буду* (М. Лобан); *А ты ж сам ведаеш, калі першы да каго, дык і іншыя таксама* (А. Макаёнак).

### Месца даданай часткі ў сказах з апорным элементам — дзеясловам ці назоўнікам

§ 238. У складаназалежных сказах з апорным элементам — дзеясловам, у якіх часткі звязаны аб'ектнымі адносінамі, даданая частка часцей за ўсё знаходзіцца ў постпазіцыі: *Ён прыдумваў і не ведаў, чым заняцца* (М. Гарэцкі); *Гледзячы на Жыціва, Аройская ўспамінала, каго і з якой хаты яна вучыла* (В. Гігевіч); *Заняты сваім клопатам, ён не заўважыў, як ужо бадай на самым версе гары нагнаў яго чалавек і таксама пачаў папіхаць воз* (М. Паслядовіч). Калі ў сказе ўвага канцэнтруецца на змесце даданай часткі, яна можа стаяць у прэпазіцыі: *Хто яна і адкуль, Таня сама не ведала* (І. Новікаў); *Што будзе далей, потым, я неяк не падумаў* (А. Адамовіч); *Што куля трапіла ў нагу, ён адразу не падумаў* (В. Хомчанка).

Калі падкрэсліваецца, развіваецца апорнае слова, якое выносіцца наперад, даданая частка стаіць пасля яго і знаходзіцца ў інтэрпазіцыі: *Адчуваючы, што ёй суджана стаць панскім пакідзішчам, яна зжаўцела, ззелянела і пачала сохнуць* (К. Чорны).

Звычайна ў інтэрпазіцыі знаходзіцца даданая частка і тады, калі ў галоўнай частцы ёсць аднародныя выказнікі, а даданая частка залежыць ад аднаго з іх: *Ён пастаяў на плошчы, прымяркоўваўся, як лепей прабавіць час, і загадзя прыкідваў, куды лепш пайсці* (А. Жук). У інтэрпазіцыі можа стаяць даданая частка, калі яна залежыць ад дзеепрыслоўя: *Мы пастаялі з Глашай, як бы чакаючы, калі ў людзей прападзе да нас цікавасць, а потым паціху пайшлі* (А. Адамовіч).

У складаназалежных сказах з апорным элементам — назоўнікам і атрыбутыўнымі адносінамі даданая частка знаходзіцца ў інтэрпазіцыі або ў постпазіцыі: *І разам з тым кожны раз Ігната Сцяпанавіча не пакідала адчуванне, быццам у гэтых успамінах не хапае нейкага маленькага, але важнага звяна* (А. Кудравец); *Быў ранні пагодлівы адвячорак, нядзеля, прыемная пара, пярэдых паміж сенаваннем, якое закончылася, і жнівом, якое вось-вось пачнецца* (Я. Брыль); *І яшчэ, як ні стараліся, сярод страшных цёмных віроў, якія засмоктвалі ўсё, што трапляе, шчупака не ўбачылі* (В. Гігевіч); *Акно, што выходзіла ў малады сад, было завешана ад мух марляй* (І. Шамякін).

Прэпазіцыя ў сказах з азначальнымі адносінамі і апорным элементам—назоўнікам рэдкая: *Другія з дальніх падарожжаў дамоў, да любых у двары, што найдзіўней, што найдаражай, вязуць заморскія дары* (Г. Бураўкін).

### Месца даданай часткі ў сказах з апорным элементам — прэдыкатыўным словазлучэннем

§ 239. У складаназалежных сказах з аб'ектнымі адносінамі, калі ў галоўнай частцы апорны элемент — безасабовае прэдыкатыўнае словазлучэнне, безасабовы дзеяслоў, словы катэгорыі стану, даданая частка знаходзіцца ў постпазіцыі: *Праз краты на вокнах нашага лагера*

*было чуваць, як безупынна сакаталі конікі і над мокрымі бабкамі жыта каля брукаванай дарогі сумна шумелі бярозы* (Я. Брыль); *Стала нянісаным законам, што са школы Валера ішоў не пасёлкам, разам з усімі школьнікамі, а зварочваў сюды* (А. Кудравец); *І ўсё ж нельга, каб адна з яскравых старонак нашай гісторыі была забыта* (С. Грахоўскі).

У складаназалежных сказах з часавымі адносінамі даданая частка стаіць у прэпазіцыі і постпазіцыі: *Калі сцямнее, калі будзеце ўключаць святло, апусціце раней вось гэтую чорную паперу* (Я. Брыль); *А як развіднела, Яўхім Іванавіч правёў Пятра* (І. Новікаў); *Яго* [пінжак] *пакінулі летась увосень партызаны, як спалі ў хаце на падлозе ля куфра, калі ён, Андрэй, быў яшчэ дома, не ў атрадзе* (І. Пташнікаў); *Яны шукалі партызан два дні, ездзячы па лесе, ажно пакуль не спалілі ўвесь бензін і партызаны самі не знайшлі іх* (І. Шамякін).

Сказы, у якіх даданыя часткі са значэннем часу стаяць у інтэрпазіцыі, ужываюцца рэдка: *У Сцепаніды, як яна згледзела тое, ажно схаладзела ў душы...* (В. Быкаў).

Як і ў сказах з адносінамі часу, даданыя часткі ў сказах з адносінамі ўмовы могуць стаяць у прэпазіцыі, постпазіцыі і зрэдку — у інтэрпазіцыі: *Калі б у лётчыка быў час і ахвота адарваць вочы ад забітых прыборамі панеляў і зірнуць уніз, ён убачыў бы, што снежна-зімняя зямля ляжала перад ім, як разгорнутая кніга* (А. Жук); *Каб не я, што б ты рабіў з гаспадаркай?* (В. Быкаў); *Здаецца, вытрымаў бы што хочаш, каб не ногі* (І. Пташнікаў); *Якое можа быць вяселле, калі вайна пачалася?* (І. Новікаў); *Пасля, ухадзіўшыся па гаспадарцы, калі было неблагое надвор'е, Ароўская ішла гуляць па дарозе* (В. Гігевіч).

У прэпазіцыі і постпазіцыі стаяць даданыя часткі ў сказах з прасторавымі адносінамі: *Дзе чыгунка ішла чыстым полем, цягнік браў самы разгон* (К. Чорны); *Чырвонаармейцы спалі, дзе хто прымасціўся* (С. Грахоўскі).

У складаназалежных сказах з прычыннымі адносінамі даданая частка, калі яна далучаецца да галоўнай злучнікамі *бо, што*, знаходзіцца ў постпазіцыі: *Ён ведаў: яму самому той чалавек не сказаў праўды, бо не хацеў даваць яму горачы ў душу* (К. Чорны); *А што ж, няхай і карчуе, бо хто ж будзе разрабляць зямлю, калі не мужык* (Я. Скрыган); *Злаваць чыноўнік пачынае, што дзядзька вытрыманасць мае* (Я. Колас).

Калі даданая частка злучаецца з галоўнай пры дапамозе злучніка *каб*, яна можа стаяць у прэпазіцыі, інтэрпазіцыі і постпазіцыі: *Каб не стаяла перад вачыма, Сцепаніда зняла цяжкую суляю з паліцы і засунула ў кут пад жорны* (В. Быкаў); *Вось чаму дзядзька сачыў, каб ніводнага палена не знайшлося такога, што б не падышло пад меру або перабрала гэту меру* (Я. Колас); *Сцяпан скора, як баяўся спазніцца, пайшоў у сенцы, скінуў куфайку, надзеў кажушок, спяшаючыся, каб не выйшла з хаты жонка, у старой фанернай шафе ўзяў стрэльбу* (А. Жук).

У сказах з уступальнымі адносінамі даданыя часткі са злучнікам *хоць* могуць стаяць у прэпазіцыі і постпазіцыі: *Хоць у кішэні пуста, затое ногі сыплюць густа* (Я. Купала); *Хоць складанае пастаўлена заданне, але просты на яго адказ* (П. Глебка); *Яна маўчала, хоць ад тых слоў ёй стала і зусім млосна* (В. Быкаў); *Яна не села, хоць Поля і запрасіла яе* (І. Шамякін).

Даданыя часткі, якія злучаюцца з галоўнымі пры дапамозе канструкцый *хто б ні, куды б ні, што б ні, дзе б ні* і інш., часціцы *няхай* звычайна знаходзяцца ў прэпазіцыі: *Чым бы ён ні займаўся, дзе б ён ні быў, ён думаў пра яе, жыў яе прысутнасцю* (В. Хомчанка); *Хто б ні ехаў ці ішоў па шырокім гасцінцы — усе ведалі сядзібу Астаповіча* (К. Чорны).

Даданыя часткі ў складаназалежных сказах са значэннем мэты могуць знаходзіцца ў прэпазіцыі і постпазіцыі: *І каб не пагасілі злыдні сонца, не знішчылі свет вогненныя лійні, ізноў з паходнай песняй, дабравольцам іду я сёння на пункт прызыўны* (М. Танк); *Яму хутчэй хацелася заснуць, каб больш ужо нічога не думаць* (І. Пташнікаў); *Кідаецца ва ўсе бакі, слухае кожны вецер, абы толькі сабе не пашкодзіць* (У. Караткевіч).

Даданыя параўнальныя сказы стаяць звычайна ў постпазіцыі і, зрэдку, у прэпазіцыі: *Адышліся* [ваўкі] *ўбок, да старой падлы, пад кузню, як бы чулі што* (І. Пташнікаў); *Як нешта чуючы, Бабоўка зусім заўпарцілася...* (В. Быкаў).

## БЯЗЗЛУЧНІКАВЫЯ СКЛАДАНЫЯ СКАЗЫ

### АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА

§ 240. Бяззлучнікавымі называюцца такія складаныя сказы, састаўныя часткі якіх аб'ядноўваюцца без злучнікаў, пры дапамозе іншых граматычных сродкаў. Сюды адносяцца формы трывання, часу і ладу дзеясловаў-выказнікаў, займеннікі ў адной з частак сказа, парадак размяшчэння частак, інтанацыя. Інтанацыя ў пэўнай ступені кампенсуе адсутнасць такога важнага фармальнага паказчыка сувязі частак, як злучнікі. Інтанацыйная сувязь частак складанага сказа можа мець розны характар. Гэта можа быць інтанацыя пералічэння (*Сінеўся бор, цякла вада, скрозь пахла мёдам і травою* (М. Багдановіч)); інтанацыя супрацьпастаўлення (*Ты мяне больш не стрэла, я цябе больш не стрэў* (Я. Купала)); інтанацыя паяснення (*Цудоўны наш край: і лес там, і моры, і горы, і гай* (А. Астрэйка)); інтанацыя папярэджання (*Ён ведаў: дарога будзе не лёгкай* (І. Мележ)); інтанацыя абумоўленасці (*Сокалу крыллі абрэзаць—сокал не будзе лятаць* (А. Александровіч)).

У адрозненне ад злучнікавых сказаў, у якіх злучнікі і злучальныя словы дыферэнцыруюць тып граматычнай сувязі — злучальная ці падпарадкавальная,— у бяззлучнікавых складаных сказах адсутнасць службовых адзінак нейтралізуе супрацьпастаўленне злучэння і падпарадкавання, таму бяззлучнікавыя сказы не падзяляюцца на складаназлучаныя і складаназалежныя.

Экспрэсіўнасць у выражэнні думкі, характэрная для бяззлучнікавых сказаў, робіць іх не варыянтамі злучнікавых утварэнняў, а стылістычнымі сінонімамі, выкарыстанне якіх дыктуецца стылістычнымі патрэбамі тэксту, сітуацыяй маўлення.

Адсутнасць злучальнага элемента, своеасаблівае ў параўнанні са злучнікавымі значэнне, стылістычныя адценні дазваляюць лічыць бяззлучнікавыя сказы асобным структурна-семантычным тыпам складаных сказаў.

Выдзяленне бяззлучнікавых складаных сказаў у самастойны тып патрабуе іх класіфікацыі незалежна ад злучнікавых.

Бяззлучнікавыя сказы можна класіфікаваць з розных пунктаў погляду: а) семантыкі, г. зн. агульнага граматычнага значэння, якое перадаецца тым ці іншым складаным сказам; б) структуры (наяўнасці-адсутнасці ў адной з частак сказа такога элемента, які патрабуе свайго ўдакладнення другой часткай); в) інтанацыйных адрозненняў. Найбольш мэтазгодны структурна-семантычны прынцып класіфікацыі з улікам інтанацыйных асаблівасцей кожнага тыпу.

З а ў в а г а. Адзінай, агульнапрынятай класіфікацыі бяззлучнікавых складаных сказаў пакуль яшчэ няма. Відавочна, іменна таму ў школьных падручніках іх характарыстыка абмяжоўваецца высвятленнем і апісаннем семантыка-сінтаксічных адносін паміж састаўнымі часткамі такіх сказаў з практычнай устаноўкай на засваенне адпаведных пунктуацыйных правіл.

Агульнае значэнне бяззлучнікавых сказаў узнікае на аснове семантыка-граматычных узаемаадносін прэдыкатыўных кампанентаў — функцыянальна раўназначных або розных адносна іх семантыка-сінтаксічнай ролі. У залежнасці ад ролі, якую выконвае кожная прэдыкатыўная частка ў адносінах да другой, бяззлучнікавыя складаныя сказы падраздзяляюцца на два класы: сказы з аднафункцыянальнымі і сказы з рознафункцыянальнымі прэдыкатыўнымі часткамі.

Да сказаў з а д н а ф у н к ц ы я н а л ь н ы м і часткамі адносяцца канструкцыі з пералічальным значэннем. Прэдыкатыўныя кампаненты такіх сказаў семантычна раўназначныя. З пункту погляду структуры сказы з пералічальным значэннем нагадваюць сабой адкрыты рад: у іх саставе могуць быць як дзве, так і больш частак.

У сказах з р о з н а ф у н к ц ы я н а л ь н ы м і часткамі прэдыкатыўныя адзінкі семантычна нераўназначныя. У іх адна з частак або служыць фонам для супастаўлення ці супрацьпастаўлення, або паясняе адзін з лексічных элементаў ці ўсю папярэднюю частку, або выконвае ролю дэтэрмінанта ў адносінах да другой часткі. У адпаведнасці з гэтым бяззлучнікавыя сказы з рознафункцыянальнымі часткамі падраздзяляюцца на сказы з супастаўляльна-супрацьпастаўляльным значэннем, сказы са значэннем паяснення і сказы з адносінамі дэтэрмінацыі. Сказы з рознафункцыянальнымі часткамі нагадваюць сабой бінарныя ўтварэнні, закрытыя структуры.

### *Бяззлучнікавыя сказы са значэннем пералічэння*

§ 241. У такіх сказах пералічваюцца з'явы, падзеі, звязаныя паміж сабой у часавых адносінах. Бяззлучнікавым сказам са значэннем пералічэння ўласціва пералічальная інтанацыя, якая характарызуецца нямоцным і раўнамерным павышэннем (ці паніжэннем) тону ў канцы кожнай часткі. Паміж часткамі — невялікія і ненапружаныя паўзы, якія сведчаць аб плаўным пераходзе да наступнага выказвання. Толькі апошняя, заключная частка мае інтанацыю закончанага паведамлення: *Пераліваласся пад подыхам ветру хвалямі густая азіміна, шаўковай рунню вабілі позірк бяскрайнія ўсходы ранніх культур* (І. Шамякін); *У вокны глядзела душная ноч, на захадзе бліскалі маланкі* (І. Шамякін); *Шчабяталі пад страхой ластаўкі, гулі пчолы за сцяной* (М. Лынькоў); *Усю ноч у цёмным небе трывожна гулі самалёты, успыхвалі — цяпер ужо на ўсходзе — водбліскі нейкіх агнёў* (М. Лынькоў); *З ракі пацягнула вільгаццю, дзе-нідзе над кручай узняліся над вадою першыя пасмачкі туману* (М. Лынькоў); *Званілі ўсе званы, іграў арган, палалі свечкі, пахла воскам і ладанам* (Маладосць, 1984); *Людзі хавалі мёртвых, біліся ў горы над імі, бедавалі пра любых сваіх, жаніліся з імі, людзі жалі і малацілі, снедалі і вячэралі* (І. Мележ); *Застракаталі партызанскія кулямёты, забухалі вінтоўкі і нават абрэзы, паляўнічыя бярданкі і дубальтоўкі* (Р. Сабаленка); *Неба праяснялася, падыхаў усходні вецер, лёгкі марозік зацягаў лужынкі тонкай плёнкай лёду* (Я. Колас); *Звініць лістапад залатымі дажджамі, лятуць журавы над палямі, лугамі, над Прыпяццю сіняй* (П. Панчанка); *Веснавое сонца свяціла ярка, першыя жаваранкі ўжо заліваліся недзе ў вышыні, палі стракаціліся белымі і чорнымі плямамі* (Я. Маўр); *Над рэчкай высокай з лах-*

*матымі, белымі ад інею вярхамі стаяць стромкія хвоі, шырока развесілі сваё голле волаты-дубы, блішчаць ледзянымі пацеркамі ўбраныя бярэзіны* (П. Галавач).

Паводле значэння бяззлучнікавыя сказы са значэннем пералічэння дзеляцца на дзве групы: 1) сказы са значэннем адначасовасці; 2) сказы са значэннем паслядоўнасці з'яў, падзей.

## Сказы са значэннем адначасовасці

§ 242. Граматычнай прыметай сказаў, у якіх указваецца на адначасовасць дзеянняў, з'яў, выступае свабодны парадак размяшчэння частак. Як правіла, у большасці выпадкаў часткі можна мяняць месцамі, параўн.: *Пад цёплым ветрам шумелі таполі, на шэрым небе цьмяна святлелі затуманеныя буйныя зоры* (Я. Маўр) — *На шэрым небе цьмяна святлелі затуманеныя буйныя зоры, пад цёмным ветрам шумелі таполі; Жыта горда красуецца, вее пах медзяны, ад вятроў аж хвалюецца акіян аржаны* (А. Астрэйка) — *Вее пах медзяны, ад вятроў аж хвалюецца акіян аржаны, жыта горда красуецца.*

Тут сувязь частак бяззлучнікавага цэлага не цесная, яны незалежныя, раўнапраўныя паміж сабой, паміж імі няма ніякіх аднабаковых ці ўзаемных сувязей. Часткі цэлага пастаўлены ў рад, у суседства адна з другой, хоць у гэтым радзе парадак іх размяшчэння нічым граматычна, як і сэнсам, не абмежаваны і не абумоўлены.

Часткі такіх сказаў можа аб'ядноўваць адзін агульны даданы член: *На двары шуміць вецер, імжыць халодны восеньскі дождж* (З. Бядуля); *За полем зеляненюць кусты, звілістай люстранай дарожкай цячэ рэчка* (А. Якімовіч); *У садзе за хатай каваля спяваюць берасцянкі, свішчуць шпакі* (В. Вольскі); *На двары бушавала навальніца, ліў дождж* (А. Чарнышэвіч).

Структурнай, граматычнай прыметай, якая ўказвае на суіснаванне з'яў, падзей у часе, з'яўляецца ўжыванне ў састаўных частках бяззлучнікавых сказаў пэўных форм выказнікаў. Яны могуць быць выражаны:

а) дзеясловамі незакончанага трывання цяперашняга або прошлага часу: *За цугам жураўліным бягуць вятры наўсцяж, на струнах павуцінне асенні грае марш* (М. Калачынскі); *Патрэскваў касцёр, ляцелі ўгару іскры, гаслі ў паветры і чорнымі кропкамі падалі на траву* (І. Гурскі); *Кожную ноч салавейка спяваў, зоры глядзелі у вочы* (В. Таўлай); *Свецяць нам сонца і зоры, шчасце ў наш дом прыходзіць* (А. Русак); *Заміpae лета, заціхаюць далі, сірацее рэчка, халадзеюць хвалі* (Я. Колас); *Ідуць знаёмыя малюнкі: дыміцца цёмнай хмаркай пыл; уздоўж абсаджанай чыгункі бягуць дарожныя слупы; раз'езды, станцыі, паўстанкі, заводы, вёскі навакол; з пявучай моваю сялянкі падносяць хлеб і малако...* (П. Глебка);

б) дзеясловамі закончанага трывання прошлага часу: *Пачула ўся краіна мірны гром работ, сасной спілованай прапахла ўсё кругом* (А. Вялюгін); *На стрэхах дыні познія даспелі, фасоля парыжэла ля акна* (М. Калачынскі); *Месяц рассыпаў па снезе алмазы, ціха зайрдзелася ноч маразяная* (М. Машара); *Адшумелі разлівы залацістае нівы, адспявалі ў палях каласы* (А. Русак);

в) дзеепрыметнікамі залежнага стану прошлага часу: *Навокал пляцоўкі пастаўлены плот, закладзен падмурак вялікага дома* (А. Астрэйка); *Туманамі апавіта даль разложная палёў, туга нейкая разліта ў дробных кропельках дажджоў* (Я. Колас); *Колькі вытаптана сцежак, колькі выбіта дарог!* (П. Глебка).

Выказнікі састаўных частак бяззлучнікавых складаных сказаў са

значэннем адначасовасці могуць быць выражаны спалучэннем вышэй адзначаных форм: *Ля хат насыпаны сумёты, пад снежнай коўдрай спяць палі* (М. Хведаровіч); *Твар яго выцягнуўся, вочы былі апушчаны ўніз* (Я. Колас); *Пахне маладою травіцай, духмяны цёплы водар паляны напоўнены сонечным дыханнем* (І. Мележ).

Часткі бяззлучнікавых складаных сказаў, у якіх апісваюцца падзеі, з'явы, што адбываюцца адначасова, нярэдка будуюцца паводле закону структурнага паралелізму: *Трапечуць чырванаватым лісцем маладыя асінкі, хваляцца сваімі ярка-чырвонымі гронкамі стройныя рабіны* (К. Чорны); *Замяла мяцель дарогі, занялі снягі прастор* (М. Машара); *Цягнуцца стройна палі каласістыя, пахне павабна трава над ракой* (Я. Купала); *Нахмурылася неба, веюць халодныя вятры, сыплецца дробны дождж* (Я. Колас).

### Сказы са значэннем паслядоўнасці з'яў, падзей

§ 243. Структурнай, граматычнай прыметай, якая ўказвае на паслядоўнасць з'яў, падзей, з'яўляецца ўжыванне дзеясловаў-выказнікаў састаўных частак бяззлучнікавых складаных сказаў часцей за ўсё ў форме закончанага трывання: *Угары ў разрывах туману нястрымана ярка бліснула паніжэлае ўжо сонца, клочча аблокаў асляпляльнай белізною заззяла на схілах гор; па скалах і безданях хутка памчаліся чорныя шкуматы ценяў і побач суладна з імі — яркія плямы святла* (В. Быкаў); *Дагарэла зара ў небакраі, на зямлю спакойна ноч лягла* (А. Звонак); *Вецер суняўся, завея скончылася* (В. Вольскі).

Паслядоўнасць дзеянняў асабліва выразна праяўляецца тады, калі выказнік першай састаўной часткі бяззлучнікавага складанага сказа выражаны дзеясловам закончанага трывання, а выказнік другой часткі — дзеясловам незакончанага трывання: *Мінулі завеі, панурыя дні; гараць на усходзе зарніцаў агні* (М. Танк); *Свет яснасці ўзмахам пачаў дзянёк новы; хаваюцца з страхам начніцы і совы* (Я. Купала); *Снег рыхлы з'елі туманы, бярозавік цячэ ў збаны* (А. Бялевіч); *З палёў ужо даўно сышоў снег, у сасновым барку ля завода пачынае зеляненць трава* (А. Кулакоўскі).

Выказнікі састаўных частак бяззлучнікавых сказаў са значэннем паслядоўнасці з'яў, падзей могуць быць выражаны дзеясловамі незакончанага трывання: *Адлятаюць сум і гора, пачынае кроў бруіць* (М. Машара); *Праходзіць ноч, пачынае цадзіцца золкае світанне* (К. Чорны); *Адчыняюцца дзверы, уваходзіць Харкевіч з сякерай* (Э. Самуйлёнак).

Паслядоўнасць дзеянняў здольны выражаць і такія бяззлучнікавыя сказы, выказнік першай састаўной часткі якіх — дзеяслоў закончанага трывання, другой — прыметнік або дзеепрыметнік з дзеяслоўнай звязкай: *Над горадам пацягнуліся густыя хмары, неба стала шэрым, задумлівым* (М. Лынькоў); *Цягнік даўно адышоў, вакзал стаў шэрым, будзённым* (М. Лынькоў).

Значная роля ў выражэнні адносін часавай паслядоўнасці належыць лексічным значэнням слоў, што ўжываюцца ў якасці выказнікаў састаўных частак: *Кончылася лета, усталёўвалася зіма* (К. Чорны); *Мінулася поле, пачаўся рэдкі лясок* (І. Мележ); *Пакосім мы густыя асокі, мурагі, усе валкі сухія мы зложым у стагі* (А. Русак); *Сапёры канчаюць мост, праз некалькі хвілін пачнецца пераправа на другі бераг* (І. Мележ); *Кацеры набліжаюцца да берага, хутка матросы ступяць на сушу* (А. Кулакоўскі).

Бяззлучнікавыя сказы са значэннем пералічэння стылістычна ней-

тральныя. Яны ўжываюцца ў мастацкай літаратуры пры апісанні прыроды, знешняга выгляду чалавека, рыс яго характару. Нярэдкія такія сказы і ў публіцыстыцы: *Буяла яшчэ на лугавінах зялёная атава, у палісадніках ля вясковых хат наперагонкі хваліліся сваёй някідкай прыгажосцю жоўтыя вяргіні і астры* (І. Навуменка); *Веснавое сонца свяціла ярка, першыя жаваранкі ўжо заліваліся недзе ў вышыні, палі стракаціліся белымі і чорнымі плямамі* (Я. Маўр); *Нізка звіслі над зямлёю хмары снегавыя, свішча вецер за сцяною, у коміне вые* (Я. Колас); *Прачнецца ў звонкім лесе кветка-сон, расплюшчыць вочы сіняя пралеска* (ЛіМ, 1985).

### *Бяззлучнікавыя сказы з супастаўляльна-супрацьпастаўляльным значэннем*

§ 244. Сказы з такім значэннем звычайна маюць аднолькавыя трывальна-часавыя формы дзеясловаў-выказнікаў і нагадваюць сабой двухчленную замкнутую структуру: *Мы ўжо не просім міласці ў прыроды — прырода моліць літасці ў нас* (С. Грахоўскі); *Гарэў агонь — пагас агонь* (Я. Колас); *Ён гаворыць — я слухаю* (А. Савіцкі); *Гаварыла яна гладка і звонка — бацька толькі паглядаў ды задаволена ўсміхаўся* (А. Кулакоўскі); *Рая іграла — яны танцавалі* (І. Шамякін); *Хацеў сказаць слова — язык не варушыўся; хацеў бегчы за Максімам — ногі не слухалі* (Я. Колас); *Яго крытыкавалі — ён маўчаў* (І. Шамякін).

Бяззлучнікавым сказам з супастаўляльна-супрацьпастаўляльным значэннем уласціва інтанацыя супастаўлення: павышэнне тону ў канцы першай часткі, больш значная, чым пры пералічальнай інтанацыі, паўза паміж часткамі, лагічны націск на тых словах, якія супастаўляюцца ці супрацьпастаўляюцца. Большая паўза на пісьме перадаецца працяжнікам, меншая — коскай: *У сенцах пахла мукою і сырою бульбаю, у хаце было трохі душна і цемнавата* (К. Чорны); *Мова павінна быць варта дзеі, дзея павінна быць варта мовы* (К. Чорны); *Беларусь не загіне, будзе жыць Беларусь!* (П. Панчанка); *У Янкі на багне пшаніца расла, у Карлы ад прагнасці слінка цякла* (К. Крапіва); *З аднаго боку быў малады лес, з другога боку было поле* (З. Бядуля); *То не першая пароша прыпарошыла загон — гэта поле прыхарошыў кучаравы сіні лён* (А. Бялевіч); *Не вятрыска з поўначы павявае — ціха сон у камору ўступае* (М. Багдановіч).

Сярод сказаў гэтага тыпу выдзяляюцца сказы з супастаўляльным і сказы з супрацьпастаўляльным значэннем. У аснову падзелу бяззлучнікавых сказаў на супастаўляльныя і супрацьпастаўляльныя не можа быць пакладзена іх аналогія з суадноснымі разнавіднасцямі складаназлучаных сказаў. У іх ёсць падабенства, але няма тоеснасці. Тое, што дастаткова акрэслена выражаецца пэўнымі разрадамі злучнікаў, ідэнтычна не перадаецца бяззлучнікавымі сказамі. Вельмі часта з пропускам злучніка знікаюць адносіны супастаўлення ці супрацьпастаўлення: злучнікавыя сказы трансфарміруюцца ў бяззлучнікавыя складаныя з іншымі сінтаксічнымі адносінамі, у прыватнасці — у сказы са значэннем пералічэння. Крытэрыем размежавання супастаўляльных і супрацьпастаўляльных бяззлучнікавых сказаў не можа быць і інтанацыя: выражэнне адносін у сказах абедзвюх разнавіднасцей суправаджаецца аднатыпным рытмамеладычным малюнкам.

У іх размежаванні трэба зыходзіць з семантыкі прэдыкатыўных частак і ўсяго сказа, улічваючы пры гэтым таксама спецыфіку іх будовы і лексічнай напаўняльнасці.

У бяззлучнікавых сказах са значэннем супастаўлення паве-

дамляецца аб дзвюх падобных ці непадобных з'явах, двух дзеяннях, якія існуюць паралельна і не працідзейнічаюць. Дзякуючы супастаўленню выразна выяўляюцца асаблівасці пэўных асоб, прадметаў, станаў.

Супастаўляюцца, як правіла, часткі блізкай сінтаксічнай будовы і аднатыпнага марфалагічнага выражэння галоўных членаў, што стварае паралелізм структурных схем прэдыкатыўных частак: *Коні адпачылі, людзі сагрэліся, завіруха сціхла* (М. Лынькоў); *На вакзале стаяць цягнікі, на прыстанку стаяць параходы* (П. Глебка); *Бацька лапці папраўляе, маці ніткі села віць* (Я. Колас); *Вочы хацелі б глянуць на поле, рукі хацелі б узяцца за плуг* (П. Пестрак); *У Мікіты свой характар, у Макара свой звычай* (А. Русак).

Бяззлучнікавыя сказы з супастаўляльнымі адносінамі сінанімічныя складаназлучаным сказам з супастаўляльнымі злучнікамі, параўн.: *Жоўтымі хвалямі ходзяць пад лёгкім ветрам жыта і авёс, зялёна-блакітнымі — лён* (В. Вольскі) — *Жоўтымі хвалямі ходзяць пад лёгкім ветрам жыта і авёс, а зялёна-блакітнымі — лён; Спёкай напоўнены конаўкі, мёдам дрымотным — збаны* (А. Вялюгін) — *Спёкай напоўнены конаўкі, а збаны — дрымотным мёдам.*

У адрозненне ад злучнікавых сказаў бяззлучнікавыя больш інтаніраваныя, што надае ім выразную дынамічнасць і экспрэсіўнасць.

Другая частка супастаўляльных сказаў можа быць няпоўнай, калі ў ёй гаворыцца пра дзеянні, з'явы, вядомыя з першай часткі: *У Базыля ў люльцы быў цыбук просты, у Каруся — крывы* (Я. Колас); *Аляксей нарадзіўся ў вёсцы, Мікола — у горадзе* (Т. Хадкевіч); *Марыць Дарота пабольшыць удой, Каця — аб новай пшаніцы сваёй* (П. Броўка); *Спераду былі пасажырскія вагоны, у канцы — таварныя* (М. Лынькоў); *Мужчына танцуе з мужчынам, жанчына — з жанчынай* (Э. Самуйлёнак).

Непаўната другой часткі — сведчанне цеснай узаемасувязі частак супастаўляльных сказаў. Часткі могуць быць аб'яднаны агульным для іх даданым членам, што ўказвае на асабліва моцную сэнсавую і структурную сувязь іх: *У гэтай мясцовасці нават гор ніякіх няма, шмат толькі лесу* (К. Чорны); *У яго прамове мала было агітацыі — больш сталых цвярозых разважанняў* (М. Зарэцкі); *Цяпер Аляксей не ўзлаваўся, ён засмяяўся і моцна пацалаваў жонку* (І. Шамякін).

Супастаўляльныя сказы вельмі часта ўжываюцца ў прымаўках, афарызмах. Сказы з няпоўнай другой часткай нярэдка сустракаюцца ў размоўным стылі.

С у п р а ц ь п а с т а ў л е н н е грунтуецца на неадпаведнасці, несумяшчальнасці дзеянняў, з'яў, на адмаўленні аднаго і сцвярджэнні другога.

Семантычныя адрозненні супастаўляльнай і супрацьпастаўляльнай разнавіднасцей аднаго супастаўляльна-супрацьпастаўляльнага тыпу бяззлучнікавых сказаў суправаджаюцца не толькі адрозненнямі ў канструктыўным афармленні прэдыкатыўных частак, але і магчымасцю іх перастановак. Паралелізм структурных схем частак супастаўляльнай разнавіднасці ў большасці выпадкаў дапускае перастаноўку прэдыкатыўных частак без змены семантыкі сказа. У адносінах супрацьпастаўлення галоўную ролю адыгрывае адмаўленне ці абмежаванне дзеяння прэпазіцыйнай часткі. Гэта і вызначае цвёрда ўстаноўлены парадак размяшчэння прэдыкатыўных частак: адмаўленне ці абмежаванне магчымага дзеяння заключаецца ў другой частцы.

У першай частцы такіх сказаў, як правіла, ёсць адмоўе: *То не траўка-павіліха расплятаецца,— наша верная каханніца канчаецца* (М. Баг-

дановіч); *То не гул завірухі мяцежнай і не рокаты ўпартага мора,— гэта Нёман разліўся бязмежны на грудзях Беларусі прасторнай* (П. Трус); *Не крылаты ўзмах птушыны, гэта парус у небе сінім!* (М. Танк); *То не струны звіняць галасістыя — зашумела жытцо каласістае* (М. Машара); *Не каліна над вадою пахіліла голле,— плача маці сярод поля, праклінае долю* (П. Трус).

### *Бяззлучнікавыя сказы са значэннем паяснення*

§ 245. З улікам семантыка-сінтаксічных і структурных уласцівасцей сказы гэтага тыпу раздзяляюцца на 4 разнавіднасці: 1) сказы са значэннем семантычнага разгортвання; 2) сказы са значэннем удакладнення; 3) сказы з каменціруючай часткай; 4) сказы з дапаўняючым кампанентам.

### Сказы са значэннем семантычнага разгортвання

§ 246. Спецыфіка такіх сказаў — у своеасаблівай узаемасувязі лексічнага элемента першай часткі з усёй другой часткай. Паяснільная функцыя другой часткі заключаецца ў разгортванні зместу выказніка першай часткі, які выражаецца такім словам, лексічная прырода якога нацэльвае на раскрыццё думкі, пачуцця, на называнне таго, што ўспрымаецца.

Такія сказы заўсёды двухчленныя. У залежнасці ад будовы першай часткі і інтанацыі складанага сказа сказы са значэннем семантычнага разгортвання дзеляцца на тры групы.

1. У першай частцы бяззлучнікавых сказаў гэтай групы ёсць слова, лексічнае значэнне якога патрабуе пасля сябе аб'екта; другая частка выражае гэты аб'ект і такім чынам як бы замяшчае незамешчаную пазіцыю пры пэўным слове першай часткі: *Я па ўсіх прыкметах бачу — будзе сёлета багаты ўраджай* (П. Панчанка); *Мы ведалі — упэўненасць і ўпартасць для барацьбы патрэбны на зямлі* (П. Прыходзька); *Вер, брат, жыццё залатое будзе ў нашай старане* (Я. Колас); *Мы знаем: у нашай краіне няма непрыгожай зямлі* (П. Панчанка); *Кажуць жа: і лапця не спляцеш не ўмеючы* (Я. Скрыган); *Добра кажуць мудрыя старыя: закаханы і вар'ят — адно і тое ж* (С. Дзяргай); *Той як бы падкрэсліваў: камандзір поезда — я* (М. Ракітны); *Давай умовімся, Максім: будзем гаварыць адно аднаму толькі праўду* (М. Лужанін).

Такія сказы вымаўляюцца з паніжэннем голасу і значнай паўзай у канцы першай часткі: *Крамарэвіч бачыў: гэты хлапчук быў ужо яму блізкі і родны* (К. Чорны); *Хочаш крыўдуй, хочаш не, шчыра табе скажу: нават пасля гэтай нашай гаворкі я зрабіў бы так, як тады* (А. Макаёнак); *Тут жа, праўда, Глушак адзначыў сабе: у тым, як казаў Зайчык, чулася не так жаданне памагчы яму, як боль за сваю няўдачу* (І. Мележ).

Першая частка такіх сказаў граматычна і лексічна не завершана, без другой часткі яна не можа з'яўляцца сродкам зносін; састаўныя часткі такіх сказаў цесна звязаны паміж сабой, і толькі іх адзінства стварае камунікатыўную адзінку.

Бяззлучнікавыя складаныя сказы гэтай групы сінанімічныя складаназалежным сказам з даданымі дапаўняльнымі; параўн.: *Я веру: шляхам маіх перамог са мною ідзе дарагі чалавек* (П. Глебка) — *Я веру, што шляхам маіх перамог са мною ідзе дарагі чалавек.*

2. У другую групу ўваходзяць сказы, у першай частцы якіх няма слова, што непасрэдна выражае працэсы ўспрыняцця, але ёсць слова, якое

ўказвае, што гэтыя працэсы адбываюцца (*прыслухайся, глянуў, прыблізіўся, падышоў, прыгледзеўся, агляну́ўся* і пад.). Такія дзеясловы са значэннем дзеяння, што суправаджае працэс успрыняцця, як бы бяруць на сябе ролю дзеясловаў са значэннем гэтага працэсу, так што можна гаварыць аб эліпсісе дзеясловаў успрыняцця: *Ярашэвіч глянуў: у хлопца з вачэй капалі слёзы* (І. Гурскі); *Паглядзі — усюды патушылі агні* (Ц. Гартны); *Ты паслухай, Кацярына, весці добрыя нясуцца* (П. Броўка); *Прыгледзьцеся: новыя дні на вас пазіраюць у іскрах світання* (Я. Колас); *Зірні тады на гэту шыр: трасецца-ходзіць луг, як вір, бы той кацёл у час кіпення,— усё поўна руху і імкнення* (Я. Колас); *Зірнеш з акна: нібыта кветкі на сініх вербах снегіры* (А. Вялюгін).

У другой частцы такіх сказаў заключана асноўная інфармацыя, якую выражае бяззлучнікавы складаны сказ: у ёй указваецца на тое, што ўспрымаецца ў выніку дзеяння, пра якое паведамляецца ў першай частцы.

Першая частка, як ужо адзначалася, уключае ў свой састаў толькі такія лексічныя элементы (у функцыі выказніка), якія абазначаюць спосаб успрыняцця ці дзеянне, што яго суправаджае. Такім чынам, ланцуг канструктыўных сувязей састаўных частак такіх бяззлучнікавых сказаў аказваецца як бы перарваным — у ім не хапае аднаго звяна (яно магло б быць узноўлена, напрыклад, у наступным выглядзе: *увайшоў і ўбачыў, прыслухайся і пачуў*), аднак гэта адсутнасць кампенсуецца за кошт адпаведнай папераджальна-паясняльнай інтанацыі. Слова, што выражае як бы вынік папярэдняга дзеяння, падказваецца сітуацыяй.

Паколькі першая частка закончана граматычна і лексічна, сувязь паміж часткамі менш цесная, чым у папярэднім тыпе сказаў, адносіны набываюць характар далучальных. Перастаноўка кампанентаў у такіх сказах, як і ў сказах першай групы, або зусім немагчымая або звязана са зменаю семантычных адносін паміж часткамі.

Бяззлучнікавыя сказы такога тыпу могуць замяняцца складаназалежнымі сказамі з даданымі дапаўняльнымі, аднак для гэтага патрабуецца не толькі ўвядзенне ў іх другую частку злучніка *што*, але і ўвядзенне ў іх першую частку пры дапамозе злучніка *і* пэўнага дзеяслова ўспрыняцця. Напрыклад, сказ *Праз туман разгледзеўся цяпер я: над палянай жоўкне поўны месяц* (М. Лужанін) можна замяніць сказам *Праз туман разгледзеўся я і ўбачыў, што над палянай жоўкне поўны месяц*; сказ *Азірнуўся дзядзька Марцін: нікога не відаць* (Я. Колас) можна замяніць сказам *Азірнуўся дзядзька Марцін і ўбачыў, што нікога не відаць*.

3. Да сказаў са значэннем семантычнага разгортвання адносяцца і такія, у якіх другая частка мае значэнне суб'екта ў адносінах да першай. Структурнай асаблівасцю гэтых сказаў з'яўляецца тое, што іх першая частка — заўсёды безасабовы сказ: *Думалася: вясна зараз прыйдзе* (Я. Скрыган); *Стала вядома: Ігната сапраўды прывезлі ў штаб* (М. Лынькоў); *Недзе далей чутно — сігнальная труба кліча паспешна і ўзбуджана-трывожна* (К. Крапіва); *А-а, ясна: гэта рашэнне прыйшло да яе толькі сёння і прытым зусім нечакана, як і звычайна* (А. Васілёнак).

Суб'ектныя адносіны характарызуюцца тым, што другая частка бяззлучнікавага складанага сказа ўжываецца ў функцыі дзейніка пры выказніку першай часткі.

Сказы з незалежнай сінтаксічнай пазіцыяй у саставе адной часткі па характару адносін паміж часткамі і будове частак блізкія да складаназалежных сказаў з даданымі дапаўняльнымі і даданымі дзейнікавымі. Іх збліжае тое, што структурныя схемы і тых і другіх прадугледжва-

юць: а) наяўнасць у адной з частак (галоўнай у складаназалежным і семантычна аналагічнай ёй у бяззлучнікавым сказе) апорнага слова пэўнай семантыкі, з якім суадносіцца другая частка сказа; б) адсутнасць пры апорным слове пэўнай формы слова, г. зн. наяўнасць незамешчанай сінтаксічнай пазіцыі, параўн.: *Было вядома: ён не прыйдзе* — *Было вядома, што ён не прыйдзе; Я сказаў: «Не шуміце»* — *Я сказаў, каб не шумелі.*

Супастаўленне функцый складаназлучаных і бяззлучнікавых сказаў дазваляе лічыць, што пры лексемах, якія абазначаюць маўленне, пачуццё, думку, успрынянне і інш., у сістэме складаных сказаў рэалізуюцца два тыпы адносін: у злучнікавых — тлумачальныя, у бяззлучнікавых — адносіны семантычнага разгортвання.

Колькасць лексем, здольных выступаць у ролі апорных слоў у тлумачальных сказах, і колькасць лексем, што могуць быць апорнымі словамі ў суадносных з імі бяззлучнікавых сказах, супадае не поўнасцю. Адрозненне паміж імі заключаецца ў наступным. Некаторыя словы, што функцыяніруюць як апорныя ў тлумачальных сказах, не могуць выступаць у саставе суадносных з імі бяззлучнікавых. Гэта — усе словы з ацэначным значэннем (*важна, неабходна, добра* і пад.); словы, якія выражаюць эмацыянальныя адносіны да чаго-небудзь (*хвалявацца, шкадаваць, рады* і пад.); словы, што абазначаюць жаданне як унутраны стан ці актыўную дзейнасць (*хацець, любіць, марыць, імкнуцца);* словы са значэннем сумнення ў верагоднасці (*сумнявацца, неверагодна*).

## Сказы са значэннем удакладнення

§ 247. Першая частка такіх сказаў мае ў сваім саставе словы ці словазлучэнні, якія патрабуюць удакладнення, другая — фармулюе гэта ўдакладненне. Удакладняецца тое, што ў агульнай форме было названа ў першай частцы. Паводле наяўнасці ў першай частцы слоў, якія неабходна ўдакладніць, сказы гэтай разнавіднасці падзяляюцца на дзве групы.

1. Сказы са словамі ўказальнага значэння (указальныя займеннікі, прыслоўе *так*, лічэбнік *адзін* у значэнні займенніка): *Дамовіліся так: тры дні вы можаце быць дома, падумайце* (У. Дубоўка); *Такая ўжо традыцыя ўсталявалася сярод пісьменнікаў: пісаць калі-нікалі пра самога сябе* (К. Крапіва); *Было абмеркавана адно пытанне: задачы камсамольцаў у барацьбе супроць фашысцкіх акупантаў* (І. Шамякін); *Браце! Адна ёсць дарога табе: шлях твой у працы і ў барацьбе заўжды з народам у згодзе* (Я. Колас); *З ісцін вялікіх і ісцін жыццёвых выснаваў, вынасіў толькі адну: той, хто за веру памерці гатовы, той не прыгрэе змяёю ману* (А. Бачыла); *Ён запомніў гэты момант: вецер трапаў распушчаныя матчыны валасы* (К. Чорны); *Натура ўжо ў Сёмкі такая: на месцы не ўседзіць хвіліны* (Я. Колас); *Строй таполяў разложных выглядаў так панадна: кожны лісцік на кожнай галінцы быў апісан дакладна* (М. Лужанін); *Адно бухгалтарскія сведчаць нам праводкі — на вецер кінуты, і немалыя, сродкі* (Э. Валасевіч); *Здарылася яшчэ адна бяда: тройку лепшых коней укралі ў адну ноч* (З. Бядуля); *Адно для Сцёпкі было ясна: цяпер ён за парогам бацькавай хаты* (Я. Колас).

2. Сказы са словамі шырокага, неканкрэтнага значэння ў першай частцы, якія патрабуюць свайго раскрыцця, напаўнення канкрэтным зместам у другой: *Усё навокал было знаёмае і звычайнае: даверліва шапацелі грушы, дрымотна чарнелі на могілках купы вербаў і акацый, шарэў ледзь відна ў цемры туман на балоце* (І. Мележ); *Часамі на яго находзіла своеасаблівая бесклапотнасць: пра яе не трэба клапаціцца, яна*

*вырасце сама сабой, так ідзе ўсё на свеце* (К. Чорны); *І азіміна, і яравое раслі на вачах, і разам з азімінай, з яравымі раслі ў асцярожных, звыклых да ўсяго сэрцах куранёўцаў надзеі на лета: малілі бога, каб толькі і далей памог пагодаю* (І. Мележ); *Хай толькі на стале б было, што змалку люба: быў мёд, ды жытні хлеб, ды з малаком быў кубак* (А. Зарыцкі); *Глыбокі сэнс старых і новых слоў: «Ты ёсць зямля, у зямлю ты пойдзеш зноў»* (У. Дубоўка); *Жыццё закон нязломны мае: ніколі праўда не ўмірае* (У. Дубоўка); *Чутка ёсць — зямлі дадуць* (Я. Колас); *Між тым у народзе здаўна жыло паданне — палеская зямля хавае пад сваімі пяскамі, балотамі і сенажацямі незлічоныя цудоўныя скарбы* (В. Вольскі).

Адносіны паміж словам, якое ўдакладняецца, і другой часткай характарызуюцца як адносіны агульнага і прыватнага.

Наяўнасць удакладняючай сувязі лёгка праверыць падстаноўкай злучніка *а іменна: Радасна віталі новы дзень птушкі: звінелі ў вышыні жаваранкі, мітусіліся каля шпакоўніц у садах і над стрэхамі шпакі і няспынна лёталі то высока ў небе, то над самай зямлёй імклівыя ластаўкі* (І. Шамякін); *Навокал рассцілалася поле, яшчэ даволі стракатае: за жаўтлявым спелым жытам зелянела бульба, з другога боку сінеў лубін* (І. Шамякін); *Вас Ленін вялікі да працы заклікаў і даў запавет: змагацца за волю, за новую долю, за новы наш свет* (Я. Колас); *Два разы ў месяц ёсць у яго праца: атрымаць што трэба, потым распісацца* (К. Крапіва); *Збылася мара паэта: беларусы сталі людзьмі звацца* (К. Чорны); *Загад: выступаць зараз жа* (М. Лынькоў).

Сказы такога тыпу звычайна не дапускаюць пазіцыйных змен іх частак. Змена ж парадку размяшчэння структурных частак, магчымая для некаторых сказаў гэтага тыпу, змяняе і сінтаксічныя адносіны паміж імі, тым самым утвараючы іншы тып сказа, напрыклад: *Толькі і знаку ад начнога дажджу: вясёлыя канаўкі пад стрэхамі ды лужыны сярод вуліцы* (І. Мележ). Змяніўшы парадак размяшчэння частак, атрымаем другі тып сказа. Так, у першым (аўтарскім) варыянце выражаны адносіны ўдакладнення, а пры перастаноўцы частак сказ будзе выражаць далучальныя адносіны: *Вясёлыя канаўкі пад стрэхамі ды лужыны сярод вуліцы — толькі і знаку ад начнога дажджу.*

Калі другая частка семантычна ўдакладняе якое-небудзь слова ці словазлучэнне першай часткі, то яна аказваецца структурна неабходнай; сувязь паміж часткамі ў такіх выпадках вельмі цесная.

Сказы паясняльнага тыпу, паміж якімі сувязь удакладняльная, характарызуюцца папераджальнай інтанацыяй: паміж першай і другой часткамі працяглая паўза, на лагічны цэнтр другой часткі падае моцны націск, яна вымаўляецца запаволеным тэмпам, афармляецца паведамляльнай ці пытальнай інтанацыйнай крывой: *Парэчча — слаўная мясціна, куток прыгожы і вясёлы: як мора, лес, як неба, долы, зіхціць у кветках лугавіна...* (Я. Колас); *Быў цікавы дзень без меры: сонца, яснасць, цеплыня* (Я. Колас); *Вясна праходзіла звычайна: на берагі глухіх нізін сачыліся з узгоркаў тайна крывыя вены ручаін* (П. Глебка); *А завіруха ўсё мацнела: страшэнна выў у коміне вецер, званчэй дрыжала шыба і больш настойліва шкрабла галінка вярбы* (І. Шамякін).

### Сказы з каменціруючай часткай

§ 248. У складзе першага кампанента такіх сказаў няма лексічных элементаў агульнай ці ўказальнай семантыкі, якія ўводзілі б наступную частку. Мэта другога кампанента — зрабіць паведамленне больш зразумелым. Постпазіцыйная частка ўключае ў свой састаў указальны зай-

меннік *гэта (то)* ці прыслоўе *так*, якія не столькі суадносяць другую частку з першай, колькі ўказваюць на тое, што яе неабходна каменціраваць: *Агнявыя валаконцы ткуцца ў шоўк чырвоны — гэта хмаркі ладзяць сонцу і дзяньку кароны* (Я. Колас); *Чуўся вясёлы гоман — гэта разыходзіліся з клуба студэнты* (І. Гурскі); *Чутна рэха ў бары — то іграе баян* (А. Куляшоў); *Зрэдку ў небе дзесь далёка над лесам тым у момант вока мігнецца стужка агнявая — то знічка згасне залатая* (Я. Колас); *Пахаваліся ўсе госці у куточкі: так спынілася вяселле сярод ночкі* (М. Багдановіч); *К партызанам пацягнуліся жанчыны і падросткі: гэта насельніцтва папярэджвала атрад аб небяспецы* (К. Чорны); *Вецер носіць лёгкія сняжынкі, гэта восень ходзіць белай павай...* (А. Звонак); *Загараюцца зоры-агні новых фабрык, заводаў, палацаў,— гэта крочыць па нашай зямлі пяцігодкаю новая праца* (М. Машара).

Важны структурны паказчык сказаў з паясняльнымі адносінамі — парадак размяшчэння частак: у прэпазіцыі стаіць той кампанент, які паясняецца, у постпазіцыі — той, які паясняе. Значную ролю ў арганізацыі структурнай схемы большасці сказаў адыгрываюць лексічныя элементы: у сказах са значэннем семантычнага разгортвання — дзеясловы адпаведнай семантыкі (у першай частцы); у сказах з удакладняючай часткай — займеннікі, займеннікі-прыслоўі, назоўнікі, прыметнікі (у першай частцы); у сказах з каменціруючай часткай — указальныя і асабовыя займеннікі і займеннікавыя прыслоўі (у другой частцы).

### Бяззлучнікавыя сказы з дапаўняючым кампанентам

§ 249. У аснове сэнсавых адносін паміж часткамі сказаў з дапаўняючым кампанентам ляжыць выражэнне дадатковай заўвагі да таго, пра што было сказана раней. Постпазіцыйны, г. зн. дапаўняючы, кампанент не ўдакладняе слова першай часткі, не каменціруе яго, а расшырае думку сказа дадатковымі звесткамі пра асоб, прадметы, дзеянні або акалічнасці. Другая частка такіх бяззлучнікавых сказаў можа развіваць адзін з членаў першай часткі ці ўсю першую частку ў цэлым: *Вялічка ўбачыў першага немца: гэта быў зусім малады салдат, ён здаваўся крыху разгубленым* (К. Чорны); *На ўскрайку поля стаяў лес, пачынаючыся чародкаю высокіх і роўных дубоў; крыху воддаль ад чыгункі яны злучаліся з таўшчэзнымі старасвецкімі хвоямі* (К. Колас); *Зарывы пажараў асталіся ззаду, іх водбліскі на хмарах паступова трацілі сваю трапяткую чырвань* (М. Лынькоў).

Характэрным для такіх сказаў з'яўляецца ўжыванне ў другой частцы займеннікаў і прыслоўяў. Бяззлучнікавыя складаныя сказы з дапаўняючым кампанентам могуць быць толькі двухчленнымі: *Якавенка любіў павучаць—аб гэтай яго схільнасці ведалі ўсе ў батальёне* (І. Мележ); *Дзед Талаш адчуваў цяпер за сабою сілу і ўпэўненасць; гэту сілу і смеласць прыдавала яму ў значнай меры і «настаяшчая» стрэльба* (Я. Колас); *След кулі быў відаць, ён на кары альховай чырванеў* (М. Танк); *На Палессі былі розныя праявы, быў і з гэтым папом выпадак цікавы* (Я. Колас).

Парадак размяшчэння частак такіх бяззлучнікавых сказаў пастаянны, нязменны: *Травяное багацце лугу ўначы запахла на ўсю сваю духмяную сілу, ад яго водару лёгкая п'янасць пацякла ў крыві* (В. Быкаў); *Неба на ўсходзе гарэла, яснота ішла ад ружовай разлегласці на ім* (К. Чорны); *Ой, у полі паляначка, там гуляла дзяўчыначка ды сеяла мяту* (П. Трус); *Крывасмок павінен загінуць, так было заўсёды* (М. Лынькоў).

Бяззлучнікавыя складаныя сказы са значэннем далучэння могуць

быць сінанімічныя складаназлучаным сказам са злучнікам *і,* параўн.: *Мы ў смаляныя лодкі сядалі, нас клікалі далі* (А. Куляшоў) — *Мы ў смаляныя лодкі сядалі, і нас клікалі ясныя далі; Плыве ад жыта жоўты дым, яго хвалюе вецер* (А. Астрэйка) — *Плыве ад жыта жоўты дым, і яго хвалюе вецер.*

Акрамя таго, сказы, другая састаўная частка якіх развівае адзін з членаў першай часткі, могуць быць сінанімічныя складаназалежным сказам з даданымі азначальнымі; параўн.: *На ўсёй вуліцы было на рэдкасць людна, яна ўся жыла добрай чалавечай заклапочанасцю* (І. Мележ) — *На ўсёй вуліцы, якая ўся жыла добрай чалавечай заклапочанасцю, было на рэдкасць людна; Дзівамі і казкамі быў ахутан лес, залатымі краскамі ён парос увесь* (П. Глебка) — *Дзівамі і казкамі быў ахутан лес, які ўвесь парос залатымі краскамі.*

Бяззлучнікавыя сказы, другая частка якіх развівае ўсю першую частку ў цэлым, могуць быць сінанімічныя складаназалежным сказам з даданымі далучальнымі: *Студэнты паедуць на бульбу, гэта вядома дакладна* (І. Навуменка) — *Студэнты паедуць на бульбу, што дакладна вядома.*

Ад усіх сінонімаў бяззлучнікавыя сказы адрозніваюцца стылістычна (больш размоўным характарам) і семантычна (меншай пэўнасцю значэнняў).

### *Бяззлучнікавыя сказы з адносінамі дэтэрмінацыі*

§ 250. Сярод бяззлучнікавых складаных сказаў з рознафункцыянальнымі прэдыкатыўнымі часткамі, якія выражаюць адносіны дэтэрмінацыі, выдзяляецца 6 разнавіднасцей.

### Сказы з прэдыкатыўнай часткай, якая мае часавае значэнне

§ 251. У сказах з прэдыкатыўнай часткай, што мае часавае значэнне, адзін з кампанентаў называе час дзеяння, на працягу ці пасля якога ажыццявілася, ажыццяўляецца ці будзе ажыццяўляцца другое дзеянне. У структурнай схеме кампанент з часавым значэннем займае прэпазіцыйнае месца, утвараючы тэмпаральны фон, на якім развіваецца наступнае дзеянне: *Жонка толькі паспела ахнуць — Максім перавярнуў кошык уверх дном* (П. Пестрак); *Не паспеў стары выбраца з снегу — ранішнюю сціхоту прарваў стрэл* (Б. Мікуліч).

Бяззлучнікавыя складаныя сказа з кампанентам, што выражае час, сумяшчаюць у сабе два часавыя значэнні: адначасовасць і храналагічную паслядоўнасць. Гэтыя значэнні перадаюцца як суадноснасцю аднатыпных часавых дзеяслоўных форм, так і суадноснасцю розных форм часу і ладу. У бяззлучнікавых складаных сказах з часавымі адносінамі вялікую ролю адыгрывае і семантыка лексем прэпазіцыйнай часткі, якія выражаюць часавае значэнне. Гэта ў асноўным дзеясловы са значэннем прыбыцця, пачатку і канца дзеяння; спалучэнні гэтых дзеясловаў з назоўнікамі *час, дзень, пара* і пад.

Для абедзвюх частак такіх сказаў характэрны аднолькава моцны лагічны націск, аддзяляюцца яны адна ад другой непрацяглай паўзай.

### Сказы з умоўна-выніковымі адносінамі

§ 252. У такіх складаных сказах адна частка ўказвае на ўмову, неабходную для існавання з'явы ці ажыццяўлення дзеяння, названых у другой частцы.

Найбольш пашыраны сказы, якія маюць чыста ўмоўнае ці ўмоўна-часавае значэнне: *Лёгка знойдзецца — лёгка згубіцца* (А. Александровіч); *Шмат будзе снегу — шмат улетку нарасце збожжа і фруктаў* (М. Паслядовіч); *Над кожнай кніжкай плакаць — слёз не хопіць* (І. Шамякін); *Меў бы ён больш вытрымкі — усё скончылася б добра* (П. Пестрак); *Глянеш навокал — дух займае* (І. Шамякін).

Сказы са значэннем абумоўленасці складаюцца з дзвюх разнатыпных частак, прычым адна частка залежыць ад другой: *Засмяецца вясенняе сонца, выходзь адразу ў поле* (А. Кулакоўскі); *Кранеш адно, усплыве другое* (Я. Колас).

Інтанацыя ў сказах з умоўна-выніковымі адносінамі характарызуецца моцным пад'ёмам на тым слове першай часткі, якое лагічна выдзяляецца, значнай паўзай паміж часткамі і спакойным, роўным вымаўленнем другой часткі: *Снегу навее — хлеба прыбудзе, вада разальецца — снегу набярэцца* (Прыказка); *Хлеб у возе — няма бяды ў дарозе* (Прыказка); *Зарадзіў драсён — не будзе красён* (Прыказка); *А здарыцца трывога ля нашага парога — ракетчыкі гатовы даць адпор* (М. Хведаровіч).

Побач з інтанацыяй важным структурным элементам з'яўляюцца формы дзеясловаў-выказнікаў. Дзеясловы-выказнікі могуць быць у форме ўмоўнага ці загаднага ладу, а таксама ў форме інфінітыва са значэннем пажадання: *Дачакацца б вясны ды вярнуцца б з вайны — быў бы я шчаслівы* (Я. Колас); *Скранісся яна з месца — пайшла б на марнасць уся справа* (К. Чорны); *Не было б яго — усё магло б наладзіцца* (П. Броўка); *Рана ў поле выязджай — лепшы будзе ураджай* (Прыказка).

Функцыю прэдыкатыўных частак бяззлучнікавых складаных сказаў з умоўна-выніковым значэннем могуць выконваць аднасастаўныя (поўныя і няпоўныя) сказы: *Умей памыліцца — умей і паправіцца* (Прыказка); *Вышаў бы ў поле — стала б весялей* (Я. Купала); *Не будзем працаваць — не будзе чаго есці* (М. Лынькоў); *Прыдзе пара — скажуць* (І. Мележ).

Непаўната частак указвае на размоўны характар такіх бяззлучнікавых сказаў. Аднасастаўныя часткі-сказы надаюць бяззлучнікавым сказам абагульнены характар.

Бяззлучнікавыя сказы, што выражаюць умоўна-выніковыя адносіны, сінанімічныя складаназалежным сказам з даданымі, якія маюць умоўна-часавае значэнне, параўн: *Дружна за мір стаяць — вайне не бываць* (Прыказка) — *Калі дружна за мір стаяць, вайне не бываць; Вецер загуляе — хвойнік, лозы гнуцца* (Я. Колас) — *Калі (як) вецер загуляе, хвойнік, лозы гнуцца.*

Бяззлучнікавыя сказы ў параўнанні са складаназалежнымі больш экспрэсіўныя і таму ўласцівы размоўнаму стылю.

### Сказы са значэннем прычыны і выніку

§ 253. Бяззлучнікавыя складаныя сказы са значэннем прычыны і выніку падзяляюцца на дзве групы. Адну групу ўтвараюць складаныя сказы, у якіх першая састаўная частка змяшчае ў сабе ўказанне на прычыну, а другая — на вынік з гэтай прычыны: *У хаце было холадна, над шклянкай узнімалася пара* (І. Шамякін); *Дзьмуў парывісты вецер, узрыгвалі вершаліны куччастых елак і гонкіх соснаў* (І. Гурскі); *Падымалася сонца, пачыналася гарачыня* (А. Чарнышэвіч); *Засушлівая вясна пашкодзіла маладому саду: некаторыя дрэўцы зусім засохлі*

(І. Гурскі); *Восень ранняя настала, я, прызнацца, затужыў* (А. Зарыцкі); *Быў сіні прыцемак: цёпла жаўцелі за сполахам ціхага бэзу нечыя вокны* (В. Адамчык).

Бяззлучнікавыя складаныя сказы, у якіх другая частка выражае вынік таго, пра што гаворыцца ў першай, маюць наступныя асаблівасці ў вымаўленні: першая частка вымаўляецца са звычайнай інтанацыяй паведамлення, пасля яе — працяглая паўза: *У багуне і верасе тырчалі пні і старое карэнне — трэба было высока падымаць ногі* (І. Пташнікаў); *У дружбакоў маіх згарэла хата, ім новую будуе талака* (А. Куляшоў); *Было цёмна, нічога нельга было разгледзець* (М. Лынькоў).

Да другой групы адносяцца складаныя сказы, дзе першая частка змяшчае ў сабе ўказанне на вынік той прычыны, аб якой гаворыцца ў наступнай састаўной частцы: *Вучні вярталіся дадому задаволеныя: яны зрабілі сваю справу* (І. Гурскі); *Сэрца ў Юркі радасна ўздрыганулася: хлопцы засталіся на яго баку* (М. Паслядовіч); *Сейбіт меў асалоду: жыта слаўна ўрадзіла* (П. Броўка); *Рыпяць, скрыгочуць палазы — марозны снег ім цяжка грызці* (Я. Колас); *Ракі не было відаць: затуманеная далеч хавала яе* (І. Мележ).

Семантычна такія сказы суадносяцца са складаназалежнымі сказамі са злучнікамі *таму што, бо, так як, паколькі*: *Горда стаялі плячыстыя гумны: усё лета забралі яны* (П. Броўка) — *Горда стаялі плячыстыя гумны, бо (таму што) усё лета забралі яны.*

Агульная для гэтых сказаў семантыка матывацыі прадстаўлена ў іх па-рознаму: у злучнікавых сказах — з дапамогай спецыяльнага граматычнага сродку, у бяззлучнікавых канструкцыях — на аснове суадноснасці інфарматыўнага зместу іх кампанентаў.

Для першай часткі такіх бяззлучнікавых сказаў характэрна інфарматыўная недастатковасць, незавершанасць: яна заключае ў сабе пэўны сэнсавы элемент, які выклікае ў чытача (слухача) пытанне: чаму?

Асаблівасць інтанацыі сказаў з выніковa-прычынным значэннем заключаецца ў тым, што першая частка вымаўляецца з папераджальным паніжэннем голасу, пасля яе — паўза. Выказнікі ў гэтых бяззлучнікавых сказах выражаюцца рознымі дзеяслоўнымі формамі, з чым звязаны розныя адценні значэнняў, аднак звычайнай з'яўляецца такая суадносасць форм, пры якой часавы план другой часткі (прычына) папярэднічае часаваму плану першай часткі (вынік): *Асабліва хвалявaў яго прыём у Крамлі: яму ніколі не даводзілася рабіць справаздачу перад Саюзным урадам, перад Вярхоўным камандаваннем* (М. Лынькоў); *Ганна неспадзеўкі здрыганулася: паўз плот хтосьці ішоў* (І. Мележ).

## Сказы са значэннем мэты

§ 254. Невялікую групу сярод бяззлучнікавых складаных сказаў з рознафункцыянальнымі прэдыкатыўнымі часткамі складаюць сказы, постпазіцыйны кампанент якіх указвае на мэту дзеяння. Асноўная роля ў выражэнні гэтых адносін належыць выказніку першай часткі, які разам з залежнымі ад яго словамі паясняецца зместам другой часткі бяззлучнікавага сказа. Выказнік першай прэдыкатыўнай часткі заўсёды выражаны дзеяслоўнымі формамі: *На свет і куры нашы хочуць — чарвей і крошак пашукаць* (Я. Колас); *Ноччу прывялі нас у акопы — трэба было спешна змяніць разбітую часць* (П. Галавач); *Яна кінулася ў хату — трэба ратаваць дзяцей* (М. Лынькоў); *Адусюль паналяцелі на здабычу груганы,— вольнай волі захацелі вочы выклеваць яны* (К. Крапіва).

Значэнне мэты ў пэўнай ступені зблiжаецца са значэннем абгрунта-

вання прычыны. Аднак абгрунтаванне дзеяння першай часткі ў сказах са значэннем мэты суправаджаецца прамым азначэннем мэты ў другой прэдыкатыўнай частцы.

Акрамя семантычных адрозненняў, бяззлучнікавыя сказы са значэннем мэты і са значэннем абгрунтавання прычыны адрозніваюцца трывальна-часавым выражэннем адносін выказнікаў прэдыкатыўных частак. Бяззлучнікавыя сказы са значэннем мэты перадаюць значэнне часавай паслядоўнасці толькі ў «прамым» размяшчэнні папярэдняга — наступнага дзеяння. У бяззлучнікавых жа сказах са значэннем абгрунтавання прычыны можа быць «прамы» і «адваротны» парадак размяшчэння гэтых дзеянняў.

Бяззлучнікавыя сказы са значэннем мэты ў выражэнні граматычнага значэння суадносныя са складаназалежнымі сказамі са значэннем мэты. Аднак спецыфічныя сродкі выражэння выказнікаў у суадносных сказах перашкаджаюць свабоднай трансфармацыі аднаго тыпу ў другі шляхам далучэння злучнікаў ці іх апушчэння.

### Сказы са значэннем уступальнасці

§ 255. Другая частка такіх сказаў сваім зместам пярэчыць паведамленню, якое павінна вынікаць са зместу першай часткі. У састаў бяззлучнікавых складаных сказаў са значэннем уступальнасці ўваходзяць дзве часткі, якія маюць форму простых аднасастаўных або двухсастаўных сказаў. Уступальныя адносіны вызначаюцца на аснове лексіка-граматычнага значэння ўсіх слоў, якія ўваходзяць у склад кожнай састаўной часткі: *Можаце рыці, віцца, кусацца,— мне ўжо не страшны рык ваш звярыны* (Я. Купала); *Колькі ні старайся — усяго не пераробіш* (Ц. Гартны); *Хочаш не хочаш — сказаць пару слоў трэба* (Я. Колас).

Для сказаў такога тыпу характэрны своеасаблівы рытмамеладычны малюнак: часткі раздзяляе невялікая паўза, пры вымаўленні першай часткі назіраецца павышэнне тону, а пры вымаўленні другой — паніжэнне.

Значэнне ўступальнасці ў бяззлучнікавых сказах сумяшчаецца са значэннем супрацьпастаўлення, што адпавядае характару бяззлучнікавых сказаў, якім уласціва полісемія.

### Сказы са значэннем меры і ступені

§ 256. Другая прэдыкатыўная частка такіх бяззлучнікавых складаных сказаў вызначае меру або ступень праяўлення таго, аб чым паведамляецца ў першай частцы.

Сказы са значэннем меры і ступені складаюцца з дзвюх састаўных частак, якія часцей за ўсё маюць форму простых аднасастаўных (звычайна разнатыпных) сказаў: *Працы мне тут — не абярыся!* (М. Лынькоў); *Сабралі людзей — не прадыхаць* (М. Лынькоў); *Працуеш ты — дай бог кожнаму* (І. Шамякін); *І такі прастор для работы, такія далягляды адкрываюцца — позіркам не ахопіш* (Т. Хадкевіч); *А важнасці — і не кажыце, пацеха!* (Я. Брыль).

Бяззлучнікавыя складаныя сказы са значэннем меры і ступені, абедзве састаўныя часткі якіх маюць форму простых двухсастаўных сказаў, сустракаюцца рэдка: *І так нясецца ён, васпане,— тычына шапкі не дастане!* (Я. Колас).

Калі пры выказніку першай састаўной часткі бяззлучнікавых складаных сказаў ёсць узмацняльная часціца *так*, адносіны меры і ступені праяўляюцца асабліва выразна: *А на небе так хмарна — за год не*

*праб'ешся да зор* (П. Панчанка); *Алена так любіць сваіх кароў — яна іх адчувае нават на аддаленні* (П. Пестрак).

Бяззлучнікавыя складаныя сказы з іх выразнасцю, кампактнасцю і дынамічнасцю характэрны для размоўнага стылю, інтанацыйныя, паралінгвістычныя сродкі якога дазваляюць удакладніць адносіны паміж часткамі, а таксама для мовы мастацкай літаратуры.

## СПОСАБЫ ПЕРАДАЧЫ ЧУЖАСЛОЎЯ

### АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА

§ 257. У літаратурнай мове, пераважна ў мастацкім і публіцыстычным стылях, з большай або меншай дакладнасцю перадаецца чужая мова. Дакладнасць перадачы выбіраецца аўтарам у залежнасці ад сэнсавых і стылістычных мэт. Чужое выказванне можа перадавацца ў выглядзе прамой, ускоснай і няўласна-прамой мовы. Пры перадачы чужаслоўя ў выглядзе прамой мовы найбольш дакладна захоўваюцца сэнсавыя і граматычныя яго прыметы. У сказах з ускоснай мовай чужое выказванне перадаецца прыблізна, яго граматычныя прыметы мяняюцца. У няўласна-прамой мове змест чужога выказвання перадаецца дакладна, але змяняюцца яго граматычныя прыметы.

### *Прамая мова*

§ 258. П р а м а я  м о в а можа мець дыялагічную і маналагічную форму. Пры дыялагічнай форме перадаецца гутарка дзвюх або некалькіх асоб. Дыялогу звычайна папярэднічае аўтарская мова, якая паказвае на абставіны, пры якіх адбываецца дыялог, называе і характарызуе асоб, што ўдзельнічаюць у дыялогу. У аўтарскай мове могуць быць словы, якія ўводзяць дыялог:

*Чубару не хацелася далей гаварыць пра каня, таму ён спытаў пра другое:*

*— Немцаў у вёсцы няма?*

*— Учора былі на матацыклах, а сёння, здаецца, яшчэ не наведваліся.*

*— Ну і што? Як яны?*

*— Рагоў пад каскамі не відаць было, а там хто іх разбярэ,— паціснуў плячамі чалавек.— Пакаталіся на матацыклах па вёсцы, пахапалі на вуліцы гусей, а благога не нарабілі.*

*— А гусі — гэта не благое?..* (І. Чыгрынаў);

*Анюта шамацела сенам, паварочвала сушэйшым наверх...*

*— Давайце на воз паціху... Я памагу... Во тут прыступачка...*

*— Ты не мітусіся... Ён у цябе як стаіць, воз? Заварочваць не трэба?*

*— Трэба... Але не завернеш — кусты... Каб назад здаць...*

*— Ідзі пад цуглі вазьмі... Ён у цябе закілзаны?..* (П. Місько).

Даволі часта прамая мова ў дыялогу перамяжоўваецца з аўтарскай, якая паказвае, каму належыць канкрэтная рэпліка, дае дадатковую характарыстыку маўленню:

*— А што будзем сёння рабіць? — запытаўся на другі дзень Віктар.*

*— Я прапаную пайсці далей у лес на разведку,— адказаў Мірон.— Мы ж зусім не былі яшчэ ў глыбіні.*

*— Трэ' было б якую-небудзь зброю мець,— заўважыў Віктар.*

*— Толькі не твой лук,— усміхнуўся Мірон.— Лепш зробім сабе добрыя дубіны* (Я. Маўр).

Пры такой перадачы чужога маўлення аўтарская і прамая мова кожнай асобы складаюць сінтаксічную канструкцыю, у якой паміж часткамі (аўтарскай і прамой мовай) устанаўліваюцца адносіны, як паміж часткамі складанага бяззлучнікавага сказа.

У складзе такіх жа канструкцый перадаецца мова адной асобы (маналагічная): *Не прывітаўшыся, ён адчыніў свой кабінет і, кіўнуўшы галавою ў бок дзвярэй, спакойна сказаў: — Ступайце за мною* (Я. Колас); *— Нешта ты адзін ды адзін,— кажа Бараўлёва, пачакаўшы* (Я. Скрыган).

Аўтарская мова ў складзе канструкцый з прамой мовай уводзіць чужое выказванне, дзеля чаго выкарыстоўваюцца дзеясловы, да якіх адносіцца прамая мова. Часцей за ўсё ў аўтарскай мове ўжываюцца дзеясловы маўлення і думкі (*казаць, гаварыць, апавядаць, расказваць, думаць, разважаць* і пад.), дзеясловы, якія паказваюць на асаблівасці маўлення або характарызуюць яго агульны змест (*адказваць, загаварыць, дадаць, пачаць, працягваць, паўтарыць, закончыць, папракнуць, растлумачыць, папытацца* і інш.). У функцыі дзеясловаў маўлення і думкі, ад якіх залежыць прамая мова, могуць ужывацца словы, што абазначаюць эмоцыі, пачуцці, унутраны стан таго, каму належыць прамая мова (*абрадавацца, засаромецца, здзівіцца, пакрыўдзіцца, раззлавацца* і пад.), а таксама словы, што абазначаюць міміку, жэсты, рухі, паказваюць на дзеянні таго, каму належыць прамая мова (*усміхнуцца, засмяяцца, уздыхнуць, заплакаць, скрывіцца* і пад.)*:— Пачакай,— сказаў Чаркашын.— От уходзімся ў полі, з агародамі, а тады пагаворым...* (Я. Брыль); *— Што ж, гэта можна,— усміхнуўся гаспадар, устаючы.— Прашу,— адчыніў ён белыя дзверы* (Я. Брыль); *— А вы лічыце, што біць фашыстаў можна толькі ў апалчэнні? — зноў парушыў ён цішыню* (І. Чыгрынаў).

У аўтарскай мове словы, што ўводзяць прамую мову, могуць адсутнічаць. На прыналежнасць яе пэўнай асобе можа паказваць змест усёй аўтарскай мовы або чужога выказвання: *Знайшлі Сідара, а ён спіць на печы. «Дзе ты быў і што бачыў? Во табе тэлефон — дакладвай старшыні, як усё сталася»* (А. Кудравец); *Доўгі і звонкі, ён* [крык] *ляцеў над нечакана ацiхлым разгубленым Жыцівам: «А мой жа ты саколік, а на каго ж ты нас пакінуў?..»* (В. Гігевіч); *Спакойны, велічны бландзін узяў з пісьмовага прыбора аловак, папрасіў у Алеся анкету, якую той трымаў яшчэ ўсё аберуч: — Як, вы сказалі, яго сапраўдныя дадзеныя?* (Я. Брыль).

Аўтарская мова можа ўводзіць прамую мову не адной, і некалькіх асоб: *Яшчэ да таго, як прыйшоў у атрад, наслухаўся: «Касачоўцы, ого, не кожнага возьмуць да сябе». «Узброеныя, як дэсантнікі». «У Касача — адны кадравікі, ваяваць умеюць». «Касачоўцы бой вядуць». «Касачоўцы, касачоўцы»* (А. Адамовіч).

У пісьмовай мове канструкцыі з прамой мовай маюць пэўнае пунктуацыйнае афармленне, якое залежыць ад месца прамой мовы. Звычайна прамая мова выдзяляецца двукоссямі і працяжнікам, якія аддзяляюць яе ад аўтарскай мовы. У мове мастацкай літаратуры даволі часта ўжываюцца канструкцыі з прамой мовай, якія не маюць такога пунктуацыйнага афармлення: *Настаўнікам на ўроках ля дошкі Ірачка ветліва ўсміхалася, калі чаго не ведала, то як бы тлумачыла ўсмешкай: вось бачыце, якая я паслухмяная, добрая і прыгожая, але гэтыя доўгія блытаныя формулы, гэтыя сінусы, якія не запамінаюцца... Ці ж я вінаватая?..* (В. Гігевіч); *Скараход у адным чаравіку бег першы, а потым стаў і здзекліва глядзеў, нас чакаючы: ну што, і цяпер вам весела?* (В. Быкаў); *Старшыня сурова глянуў на Сцяпана — не мялі лішне, гавары*

*пра тое, што ў цябе пытаюць* (А. Жук). Звычайна такім спосабам выражаецца ўнутранае маўленне, якое за героя, але з яго пазіцый выказвае аўтар.

Прамая мова можа ўваходзіць у структуру чужога выказвання як даданы член сказа: *За тваім «з кім ты там здружыўся?» адчуваю намёк і крыху рэўнасці* (А. Жук); *Звычайнай радасці паляўнічага — што ні кажы, улажыў такога воўка,— ён сёння не адчуў* (А. Кудравец); *І гэтае простае «не спіцца» ўсё растлумачыць: і боль яе, і роспач, і адчай, і даўно пражытую радасць* (В. Гігевіч).

Сэнсавыя і граматычныя асаблівасці чужога выказвання, як і ў прамой мове, захоўваюцца тады, калі яно ўводзіцца пабочным словам *маўляў*, дзеясловамі *казаць, гаварыць*, якія выконваюць функцыю выказніка аднасастаўнага або двухсастаўнага сказа: *Неўзабаве старшыня камісіі вярнуўся на сваё месца. Зірнуў на мяне неяк звысоку — маўляў, бачыш, з кім я маю справу, і адначасова насцярожана — а раптам і гэты выкіне нейкага коніка* (А. Шахавец); *Пэўна, стрэне там мяне строга гоман Юлі, упікнуць не праміне: што, маўляў, за гульні? Што ж ты, брат? Забыў сціло, карандаш, паперы, сам, як тое памяло, падмятаеш скверы?..* (А. Куляшоў); *А ўсё ж, кажа ён, не лішне было б павесці размову і аб самім нашым інтарэсе: аб рэках і рыбах, аб вудах і прынадах, аб рыбаках і рыбацкіх здарэннях — хіба гэта не цікава?* (К. Кірэенка).

Прамая мова ў структуры канструкцый з чужым выказваннем можа знаходзіцца ў прэпазіцыі і постпазіцыі да аўтарскай мовы: *— Мы прыкладна так і меркавлі,— паглядзеў палкавы камісар на задумлівага і стараннага капітана* (І. Чыгрынаў); *І тады Лянівы ціха скажа:— Маніш ты, што бачыў сіўку-варонку. Яна людзям на вочы не паказваецца* (В. Гігевіч). Аўтарская мова можа знаходзіцца таксама ў інтэрпазіцыі да прамой мовы: *— Добры дзень,— сказаў Сілаеў, падыходзячы бліжэй.— Зараз нас дождж застане* (В. Хомчанка). Яна можа таксама перамяжоўвацца з прамой мовай: *Палкавы камісар ажно сказаў у захапленні: — Сапраўдны салдат.— І дадаў: — Таксама час. Калі не дагаварылі што, то заўтра дагаворым, перад расстаннем* (І. Чыгрынаў).

## *Ускосная мова*

§ 259. Чужое выказванне перадаецца пры дапамозе сказаў з ускоснай мовай. Звычайна такія канструкцыі афармляюцца як складаназалежныя сказы, у якіх паміж галоўнай і даданай часткамі ўстанаўліваюцца аб'ектныя адносіны. Галоўная частка такіх сказаў адпавядае аўтарскай мове, а даданая — чужому выказванню. У адрозненне ад сказаў з прамой мовай чужое выказванне можа перадавацца прыблізна, яно трансфармуецца з пункту погляду таго, хто перадае чужое выказванне, у чужым выказванні змяняюцца асабовыя займеннікі і формы дзеясловаў. Даданая частка — чужое выказванне — залежыць ад дзеясловаў галоўнай часткі, якія маюць часцей за ўсё значэнне маўлення і думкі *(гаварыць, сказаць, спытаць, адказаць, крычаць* і інш.): *Ён тады запытаўся, чаму яна не спіць,— яна нічога не сказала, уздыхнула толькі і ўсё глядзела ў гарод* (І. Пташнікаў); *Сястра-гаспадыня спыталася ў яго, ці не стаміўся дарогай, якое першае ўражанне зрабіла дача* (А. Карпюк); *Аднойчы злоўлены паліцай пачаў расказваць, як ён хаваўся ў склепе і адтуль чуў нашу атаку: што крычалі, якія словы* (А. Адамовіч).

У некаторых выпадках даданая частка, у якой перадаецца чужое выказванне, можа адносіцца да назоўніка галоўнай часткі. Тады ў складаназалежным сказе паміж часткамі ўстанаўліваюцца атрыбутыўныя адносіны: *Давалася яшчэ парада, каб бацька не прадаваў цяляці ад чорнай каровы, а каб гадаваў* (К. Чорны).

## *Няўласна-прамая мова*

§ 260. Няўласна-прамая мова — такі спосаб перадачы чужаслоўя, пры якім асноўныя лексічныя, фразеалагічныя, сінтаксічныя сродкі чужога выказвання захоўваюцца, а граматычныя паказчыкі (асабовыя займеннікі і дзеясловы) змяняюцца. Паказчыкам чужаслоўя пры няўласна-прамой мове з'яўляецца змест і ўнутраная структура самога чужога выказвання, што абумоўлівае разнастайнасць сувязей аўтарскай мовы і чужаслоўя, выражанага няўласна-прамой мовай, а таксама прамой і няўласна-прамой мовай, што ўжываецца ў адным кантэксце. Так, аўтарская мова можа ўводзіць няўласна-прамую пры дапамозе дзеясловаў маўлення і думкі, і паміж аўтарскай і няўласна-прамой мовай устанаўліваюцца такія адносіны, як і ў канструкцыях з прамой мовай: *Вержбаловіч рэдка ўлазіў у такія гутаркі, а калі і ўлазіў, то больш для таго, каб сказаць сваё: вайна вайной, а вунь яшчэ бульба не ўся пасеяна, ды і сады трэба было б падмаладзіць, гэтыя фінскія маразы палову дрэў прарэдзілі* (А. Кудравец). Як і ў сказах з прамой мовай, дзеясловы маўлення і думкі могуць адсутнічаць, і няўласна-прамую мову могуць уводзіць дзеясловы, якія паказваюць на характар маўлення або сітуацыю, пры якой адбываецца маўленне: *Прымачак усміхнуўся: вось будзе гэты рэдактар яшчэ чакаць у чарзе кватэру, а ён перабярэцца ў свой дом, будзе ездзіць, як і рэдактар, на службовай машыне і прысутнічаць на гэтакіх жа самых бюро* (А. Жук).

Няўласна-прамая мова можа выступаць як самастойная канструкцыя, якая не мае з папярэднім кантэкстам спецыяльных граматычных сродкаў сувязі: *Ён адчуваў, ён быў упэўнены, што ў штылі за ім сачылі, ён быў на мушцы. Так можна было яго прыхлопнуць, можна было. А што далей? Чалавек не вярнуўся з палявання, яго пойдуць шукаць, абавязкова пойдуць. І знойдуць усё. Не, лепей ціха. А можа ён нічога і не ўбачыў? А калі ўбачыў ды калі мае розум, будзе трымаць язык за зубамі...* (А. Кудравец).

Няўласна-прамой мове можа папярэднічаць прамая, у такім выпадку ў няўласна-прамой мове выражаецца ацэнка маўлення ці думкі героя: *«Хоць бы ў хату хіба хто завітаў, расказаў, дзе што на свеце робіцца. А то... які тыдзень ужо... Бы ўсё адно ў яме, у труне...»*

*Ды каму было хадзіць у хату да Мікалая Дарожкі. Пілiп быў далёка, а дачка, Параска, хоць і ў вёсцы, зусім побач жыла, не рупілася надта наведаць бацьку: дома, з дзецьмі маўкоты хапала...* (Б. Сачанка);— *Вапшчэткі, а ты бачыў, каб работнікі былі не людзі? — глуха спытаў Ігнат. Ён ужо закіпаў: хопіць гэтых дурных жарцікаў* (А. Кудравец).

У сваю чаргу няўласна-прамая мова можа пераходзіць у прамую мову: *Я не памыліўся — яна тут новая, не толькі ў гэтым корпусе, а наогул у санаторыі. Дагэтуль працавала ў анкалагічнай бальніцы, за дваццаць год наглядзелася ўсяго. Муж на адказнай рабоце; сын ужо кандыдат. А пра сябе: «Ну, як сказаць? Проста сваю работу люблю»* (Я. Брыль).

Няўласна-прамая мова з'яўляецца важным стылістычным сродкам: яна дае магчымасць перадаваць чужое маўленне і думкі з пункту погляду аўтара або апавядальніка, ацэньваць іх, спалучаючы чужое выказванне, выражанае няўласна-прамой мовай з аўтарскай і прамой мовай: *І Ляксандра можа ўпершыню па-сапраўднаму адчуў нявыгаднасць сітуацыі, у якую яго ставіла параненая нага. Была б яна здаровая, ён бы па-іншаму пагаварыў з гэтым Стасем. І Маня... Якая твая сабачая справа, да каго я хаджу. Бачыш, ён дазволіў: «Падабаецца, дык і хадзі на здароўе...»* (А. Кудравец).

# ЗМЕСТ

СКАЗ (§ 131—256)

## СКЛАДАНЫ СКАЗ (§ 226—256)

# БЕЛОРУССКАЯ ГРАММАТИКА

в 2-х частях. Ч. 2.

СИНТАКСИС

На белорусском языке

Минск. Издательство «Наука и техника»

Загадчык рэдакцыі *Г. Ф. Юрчанка.* Рэдактар *А. М. Садоўская.* Мастацкі рэдактар *Л. І. Усачоў.* Тэхнічны рэдактар *Л. А. Карнеева.* Карэктар *В. В. Кляновік.*

ІБ № 2201

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР. Здадзена ў набор 04.02.86. Падпісана ў друк 16.07.86. АТ 17353. Фармат 70×100[1]/16. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 26,5. Ум. фарб.-адб. 26,5. Ул.-выд. арк. 28,57. Тыраж 1030 экз. Зак. № 213. Цана 3 р. 10 к. Выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук БССР і Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68. Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка». 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68.